Пераклад Васіля Раманава 2015 год.

Марозаў Мікалай Аляксандравіч

# Хрыстос

(Гісторыя чалавечай культуры ў прыродазнаўча-навуковым асьвятленні.)

# Кніга II

## Магутнасьці неба і зямлі




Змест

# Прадмова да другой кнігі.

Калі мінулай восенню выходзіла мая кніга пра Хрыста, я сказаў сваім сябрам; вось кніга, якую ўсе будуць лаяць дзесяць гадоў, а на адзінаццаты пагадзяцца, што я маю рацыю. Аднак, рэчаіснасць не цалкам апраўдала мае чаканні.

Адразу пасьля выдання першай кнігі, я атрымаў шэраг вітальных лістоў ад зусім незнаёмых мне асоб з вышэйшай гістарычнай адукацыяй, якія, перачытаўшы мой твор два ці тры разы і вызваліўшыся ад першага пачуцця нечаканасьці, былі вымушаны прызнаць слушнасць маіх высноваў.

Дакладна так жа і пры публічных абмеркаваннях, як, напрыклад у Ленінградзкім Гістарычным таварыстве, да маёй кнігі паставіліся цалкам сур'ёзна, без абсалютнага адмаўлення.

Із друкаваных водгукаў пра яе звяртае на сябе асабліvую ўвагу артыкул праф. гісторыі М. Н. Мікольскага ў №1 Новага Свету за 1925 год, пад назвай “Астранамічны пераварот у гістарычнай навуцы”, вызначаючыся рэзка адмоўным характарам, але заснаваны ў рэчаіснасьці на шэрагу непаразуменняў, на якія я ўжо адказаў у №4 таго ж часопіса.

Аднак, я хачу і тут нагадаць галоўны з іх, уяўляючы як бы аспрэчванне паказанага мной паралелізму часоў валадарання багаборніцкіх (ізраільскіх па-жыдоўству) цароў, пачынаючы ад Саула і рымскіх, пачынаючы ад Аўрэліяна (табліца XVIII на стр. 411 у першай кнізе), чым (між іншым) спрабую давесьці, што біблейская кніга «Цары», з’яўляецца не паведамленнем з нейкай самастойнай культурнай дзяржавы якая існавала за 1000 гадоў да пачатку н. э. у Палестыне, а толькі мясцовы варыянт агульнай Лаціна-Эліна-Сірыйска-Егіпецкай імперыі Аўрэліяна і яго наступнікаў да «падзення Заходняй Рымскай імперыі».

Толькі яно адно для мяне з’яўляецца істотным, таму што здаецца пераканаўчым для незнаёмага з прадметам чытача. Але справа ў тым, што М. Н. Мікольскі паказвае неазнаёмленаму чытачу, гады валадарання «цароў ізраільскіх» грунтуючыся на нейкай блытанай кнізе, таму што нават у простым біблейскім тэксце і (як я нядаўна, выпадкова пераканаўся) у кожным энцыклапедычным слоўніку ён знойдзе мае а не свае лічбы (для Манаіма Факха (Паках) і інш.). Але я сам хачу папярэдзіць тут чытача, што некаторыя біблейскія даты былі сапраўды тэндэнцыйна перароблены наступнымі рэдактарамі, і маглі ўвесці ў зман аўтара.

Калі я першы раз узяўся за свае супастаўленні і яшчэ не ведаў літаратуры гэтага пытання, некаторыя біблейскія лічбы збянтэжылі і мяне самога, але потым менавіта яны, пасьля свайго тлумачэння, і паслужылі найлепшым доказам таго, што я меў рацыю ў сваіх высновах пра паралельнасць дынастычных падзей у абедзвюх «гісторыях».

Справа ў тым, што атрымаўшы ў некаторых датах парушэнні гэтага прадказанага мне астраноміяй паралелізму, я пачаў правяраць адступленні ўскоснымі шляхамі, якія давала мне сама ж Біблія.

Справа ў тым, што ў ёй існуюць тры злічэнні, адно простае ў выразах накшталт «і час валадарання яго быў столькі-та гадоў», і ўскосныя, таму што ў наступных жа выказваннях паведамляецца, на якім годзе валадарання дадзенага ізраільскага цара запанаваў дадзены юдэйскі, і на якім годзе таго ж ізраільскага (ці яго наступніка) памёр дадзены юдэйскі, накшталт, прыкладам, хоць бы: «Іаахаза ізраільскага». Вось напрыклад хаця такі выпадак.

«На 23 годзе Iааса Юдэйскага, – паведамляе II Кнiга Царстваў – запанаваў Iааха над Iзраiлем i валадарыў 17 гадоў (ц.13.1)» ....» I памёр ён. I запанаваў сын яго Iаас Iзраiльскi» (ц. 13.9).

А потым знаходзiм:

«Iаас Iзраiльскi, сын Iоахаза запанаваў у 37 годзе Iааса Юдэйскага (ц.13.10).»

Гэта азначае Iаахаз памёр таксама на 37 годзе Iааса Юдэйскага. Але падумайце самi, што ж тут атрымлiваецца?!

Выходзiць Iаахаз Iзраiльскi запанаваў на 23 годзе Iааса Юдэйскага, i памёр на 37 годзе таго ж Iааса Юдэйскага, саступiўшы пасад свайму сыну – Iаасу Iзраiльскаму. Гэта азначае, Iаахаз валадарыў 37-23=14 гадоў, а не 17 гадоў, як паказана ў першай iз гэтых двух выпiсак непасрэдна.

Якi ж рахунак тут праўдзiвы – запытаў я сябе. Просты цi ўскосны. А такiх месцаў я знайшоў i яшчэ некалькi.

Жадаючы даведацца, цi былi адзначаны тэолагамi i гебраiстамi падобныя непагадненнi i цi будуць канчатковыя высновы iхных прац у пагадненнi з маiмi тэарэтычнымi высновамi, я звярнуўся да лiтаратуры гэтага прадмета i пабачыў, што яму была прысвечана асаблiвая ўвага ў Ангельшчыне. Там над гэтым пытаннем працавалi бiскуп Мант, д-ры тэалогii Д'Ойлi i Клерк i гебраiсты Эшэр, Грэсвел, Хельнс i iншыя. Канчатковыя вынiкi iхнай працы я i паказваю ў фатаграфiчным здымку рэзалютыўнай таблiцы (табл. А), змешчанай на 194 старонцы адмысловых дадаткаў да стэрэатыпнага выдання. «The EnglIsh VersIon of the polyglot BIblIe wIth a copIous and orIgInal selectIon of references to parallel and IllustratIVe passages». London. S. Bagster and son. 15, Paternoster Row.

Таблiца А

COMPARATIVE CHRONOLOGICAL TABLE
of
**THE KINGS AND PROPHETS OF JUDAH AND ISRAEL.**

THE KINGS OF ISRAEL BEFORE THE REVOLT OF THE TEN TRIBES.
SAUL . . . . . . . REIGNED 40 YEARS . . . . . . . B.C. 1095.
DAVID . . . . . . REIGNED 40 YEARS . . . . . . . B.C. 1055.
SOLOMON . . . REIGNED 40 YEARS . . . . . . . B.C. 1015.

| | | | Years before ChrIst. | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Prophets of judan | Regnal years. | KIngs of judan | Judan | Israel | Judan | Israel | Judan | Israel | Judan | Israel | KINGS of ISRAEL | ReIgnal Years. | PROPHETS OF ISRAEL |
| SbemaIab | 17 | Rehoboam | 975 | 975 | 974 | 974 | 971 | 971 | 990 | 990 | Jeroboam | 22 | Man of God from Judat. Ahtjah. |
| | 3 | AbIjah, or AbIjam | 958 | | 957 | | 954 | | 973 | | | | |
| Oded . . . . | 41 | Asa . . . . . | 955 | | 955 | | 951 | | 970 | | | | |
| AzazIab . . | | | | 954 | | 953 | | 950 | | 968 | Nadab . . . | 2 | |
| HananI . . | | | | 953 | | 952 | | 946 | | 966 | Baasha . . . | 24 | |
| Jehu, son of HananI | | | | 930 | | 929 | | 926 | | 943 | Elalh . . . . | 2 | |
| | | | | 929 | | 928 | | 925 | | 942 | ZImrI . . . | 7 days | |
| | | | | 929 | | 928 | | 925 | | 942 | OmrI . . . . . . . | 12 | ElIjab. |
| | | | | 918 | | 917 | | 914 | | 931 | Ahab . . . . . | 22 | MIcaIah. |
| | 25 | Jehoshaphat . . . . . | 914 | | 914 | | 910 | | 929 | | | | |
| | | | | 898 | | 896 | | 897 | | 909 | AbazIah . | 2 | ElIsha. |
| ElIezer . . . | | | | 896 | | 893 | | 896 | | 907 | Joram, or Jehoram | 17 | |
| JahazIel . . . | 8 | Jehoram, or Joram | 892 | | 890 | | 883 | | 804 | | | | |
| | 1 | AhazIah, | 885 | | 880 | | 881 | 1 | Ahaz | | | | |

| | | | | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | or AzarIah | | | | | | | Iah, or Azar Iah | | | | |
| | 6 | Athahab . . | 881 | 884 | 882 | 882 | 879 | 880 | 895 | 895 | Jehu . . . . . . | 28 | |
| | 10 | Jenoash, or Joash | 878 | | 876 | | 878 | | 889 | | | | |
| | | | | 856 | | 854 | | 852 | | 867 | Jehoahaz . . . . . | 17 | Jonah. |
| | | | | 841 | | 838 | | 835 | | 850 | Jeosh, or Jehoash | 16 | |
| | 29 | AmazIah . . . . . . . | 839 | | 836 | | 835 | | | | | | |
| | | | | 825 | | 822 | | 820 | | 834 | Jeroboam II . . . . . | 41 | Hosea. Amos. |
| | | *Interregnum, 11 years, accordIng to Hales . .* | | | | | | | 820 | | | | |
| ZecharIah, | 52 | UzzIah + AzarIah | 810 | | 807 | | 810 | | 809 | | | | |
| (who had understandIng In the VIsIous of God. 2 Ch. XXVI.*.) | | | | 784 | | 781 | | 779 | | 797 | *Interrregnum, 22 years, accordIng to Hales . . .* | 11 | |
| | | | | 773 | | 770 | | 768 | | 771 | ZscharIah . | 0 mos. | |
| | | | | 772 | | 769 | | 767 | | 771 | Shallum . . . | 1 mo. | |
| | | | | 772 | | 768 | | 767 | | 770 | Menahem . | 10 | |
| | | | | 761 | | 758 | | 757 | | 760 | PekahIah . . | 2 | |
| | | | | 759 | | 756 | | 755 | | 758 | Pekah . . . . . | 20 | |
| IsaIah . . . . | 16 | Jotham . . | 758 | | 756 | | 754 | | 757 | | | | |
| MIcah . . . . | 16 | Ahaz . . . . . | 742 | | 739 | | 736 | | 741 | | | | |
| | | | | 739 | | 736 | | 736 | | 738 | *Anarchy* . . | 9 | Oded. |
| | | | | 730 | | 727 | | 730 | | 728 | Hoshea . . . | 9 | |
| Nahum . . . . | 29 | HezekIah . . . . . . . | 728 | | 724 | | 722 | | 725 | | | | |
| | | | | 721 | | 718 | | 721 | | 719 | The KIngdom of Is-rael oVerthrown by the AssyrIans | | |
| Joel . . . . . . | 55 | Manasseh . . . . . . | 698 | | 695 | | 694 | | 698 | | | | |
| | 3 | Amon . . . . . . . . . | 643 | | 641 | | 639 | | 641 | | | | |
| JeremIsh . . | 31 | JosIah . . . . . . . . | 641 | | 640 | | 637 | | 639 | | | | |
| Habakkuk . | 3 mos. | Jehoahaz . . . . . . | 610 | | 609 | | 606 | | | | Shalmaeser, kIng of AssyrIa, came up agaInst SamarIa In the sIXth year of the reIgn of Hoshea (B.C. 724), and after a sIege of three years, took the cIty, carrIed Israel away Into AssyrIa, and haVIng remoVed them to the cItIes of Hajah and Habor, by the rIVer Gozan, and Into the cItIes of the Medes, he placed AssyrIans In the cItIes of SamarIa In theIr room. | | |
| Zephamah . | 11 | JeuoIakIm . . . . . | 610 | | 609 | | 606 | | 608 | | | | |
| EzekIel . . . | 1m.10d. | JehoIachIn, or JeconIah . . . . . . . . | | | | | | | | | | | |
| DanIel . . . . | | | 599 | | 598 | | 595 | | | | | | |
| ObadIah . . . | 11 | ZedekIah . . . . . . . . | 599 | | 598 | | 595 | | 597 | | | | |
| | | Jerusalem destroyed, end Judah carrIed | | | | | | | | | | | |
| | | | 588 | | 588 | | 588 | | 586 | | | | |

| | | | | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | captIVe . . . | | | | | | | | | | | |
| | | CoVernors of jerusalem after the captIVIty. | | | | | | | | | | | |
| HaggaI . . . . . | | Zerobbabel . . . . . . . | 536 | | | | | | | | | | |
| Zeehamah . . | | Ezra . . . . . | 457 | | | | | | | | | | |
| MalachI . . . . | | NehemIah | 445 | | | | | | | | | | |
| USHER'S Chronology dIffers from the BIble ChronolIgy, and from BIshop MANT and Dr. D'OYLT. only In makIng the reIgn of HezekIah commence B.C. 727, Instead of 720; and from Dr. ADAM CLARKE'S Table only In makIng the reIgn of ZedekIab commence In B.C. 599, Instead of 598. | | | | | | | | | | | | | |

Што ж выявілася.

Папраўкі, зробленыя ў гэтай табліцы да біблейскай храналогіі, якраз і паказалі тое, чаго мне не хапала для поўнаты маёй паралелі багазмагальніцкіх і рымскіх цароў. Гэта было для мяне лепшым падцверджаннем маёй тэорыі.

Нічога іншага істотнага, апроч падобных дробных непаразуменняў, маючымі нагодай недастатковае знаёмства з гэтым (моцна заблытаным) прадметам, я пакуль не знайшоў у маіх апанентаў. Спрачацца з імі пра тое, як лепш вымавіць ці перакласьці тое ці іншае жыдоўскае слова, я проста не жадаю. Гэта азначала б спрачацца пра капейкі, калі гаворка ідзе пра мільёны, і было б толькі адступленнем ад істотнай часткі гэтага майго даследавання, пустой спрэчкай, якая ніякім чынам не перамяняе мае агульныя высновы. Прытым жа, пытанням параўнальнай лінгвістыкі, што адразу адказвае на ўсе пярэчанні, у мяне прысвечаны ўвесь пралог да ўжо гатовай для друку трэццяй кнігі «Хрыста», дзе я як прыродазнавец выкладаю справу ў сувязі з нядаўна нарадзіўшайся (з часоў Гельмгольца) новай прыродазнаўчай навукай *антрапафонікай*.

Там я сапраўды буду даводзіць, што лацінская мова з'яўляецца толькі элінізаванай старажытна-італійскай і што на ёй ніхто не размаўляў і не пісаў да сярэдніх стагоддзяў, апроч грэцкіх асаднікаў паўднёвай Італіі; што біблейская мова, якая мае назву старажытна-жыдоўская, таксама ніколі не была агульнаўжываемай у Палестыне ці ў нейкай іншай краіне зямнога шара, а ўяўляе сабой толькі варыянт арабскай мовы, на якой размаўляла і пісала арабска-грэцкая інтэлігенцыя Ягіпта, занёсшая яе пазней і ў Яўропу з асаднікамі, і што нават у дачыненні да санскрыцкай мовы ўзнікае поўнае падцверджанне навейшай думкі, што не яна прыйшла ў Яўропу і стала родапачынальніцай яе моваў, а, наадварот, сама занесена туды із Яўропы падчас «перасялення народаў», моцна змяніўшыся на шляху, а потым і на месцы, пад уплывам атачаючага насельніцтва на прыбыўшую туды (згодна з маёй думкай) македонскую інтэлігенцыю, якая прынесла туды і вучэнне пра Крышну-Хрыста і пра Трымурці-Тройцу, і даўшую пачатак касьце брамінаў.

Але я не буду тут забягаць наперад і пад выглядам прадмовы пісаць цэлы лінгвістычны трактат, і таму толькі прашу чытача пачакаць трэццяй кнігі, перш чым папракаць мяне за адмысловае вымаўленне некаторых біблейскіх імёнаў, тым больш, што ад гэтага нічога не змяняецца ў дзьвюх першых кнігах маёй працы. Мае агульныя высновы застаюцца тымі ж, як бы вы ні прамаўлялі спрэчныя словы: ці згодна з традыцыях польскіх жыдоў ці згодна з традыцыяй гішпанскіх маўраў, ці,

нарэшце, згодна з сучасным чытаннем караімаў, да якога я больш схільны з нагоды таго, што яны менш зведалі іншамоўных уплываў.

Агульныя ж высновы гэтай другой кнігі, амаль незалежнай, згодна са сваім зместам, ад першай, з'яўляюцца ў тым, што ідэя адзінабожжа ўпершыню ўзнікшая не сярод непісьменных пастухоў старажытных аравійскіх ці месапатамскіх стэпаў, а сярод самай культурнай часткі чалавецтва на ўзбярэжнай паласе Неапалітанскага заліва, і была наступствам жахлівых вывяржэнняў Вязувія, якія знішчылі статуі ўсіх паганскіх богаў.

Як у першай кнізе падмуркам служыла астраномія, так у гэтай другой служыць геафізіка (а ў трэцяй падмуркам будуць служыць параўнальная лінгвістыка, антрапафоніка і міфалогія).

Із чарнавіка…

*Я паўтару толькі сваё агульнае пярэчанне, ужо дадзенае ў першай кнізе гэтага даследавання.*

*Падцверджаннем таго, што жыдоўскія галосныя першапачаткова чыталіся так як чытаю іх я, а не як сучасныя польскія ці гішпанскія равіны ці караімы (яны усё вытвараюць розна) з'яўляецца мае асноўнае неаспрэчанае цьверджанне, што ва ўсякім альфабэце ў момант яго ўзнікнення кожны знак адпавядаў асобнаму гуку. Пагэтаму немагчыма назваць жыдоўскія галосныя алеф(а), эй(е), йёд(і), і ойн(о) як у сучасных падручніках, проста галоснымі гукамі, якія можна чытаць парознаму, яшчэ больш разнастайна чым сучасныя ангельцы вымаўляюць сваё "а" ў розных словах. Таму што ангельскі альфабэт у момант свайго ўзнікнення толькі замацаваў тагачаснае вымаўленне слоў, якое з таго часу змянілася, асабліва ў дачыненні да гука "а". А яшчэ ў большай ступені гэта адбылося са старажытна-ягіпецкай гаворкай арабскай мовы, правандраваўшай у свой час з каланістамі і заваёўнікамі і ў Гішпанію, і ў Сіцылію, і ў Паўднёвую Італію і служыўшага там пад час сярэдніх стагоддзяў у якасьці мовы валадарачага і літаратурнага стану грамадства, нападобе лацінскай пад час эпохі Адраджэння.*

*Падцверджаннем гэтага з'яўляюцца ўсе альфабэты відавочна паходзячыя ад жыдоўскага. Вось, напрыклад, параўнанне чатырох альфабэтаў у табл. II. Зірніце на чацьвёрты стаўбец, дзе дадзены старадаўні рускі альфабэт. Пры яго ўзнікненні яшчэ не было фанетычнага метаду выкладання, а цалкам арыгінальны.*

*Паказваючы на паслядоўны шэраг напісаных літар, прамаўлялі фразу*

| | | |
|---|---|---|
| *А* | *Б* | *В* |
| *Аз* | *Буку* | *Ведай* |
| *Г* | *Д* | *Е* |
| *Глагол* | *Дабро* | *Есть* |

*і г.д.*

*і вучань паўтараў гэтыя фразы, водзячы пальцам па літарах пакуль не запамінаў іхны пароль. А потым яго вучылі чытаць па складах, ад'ядноўваючы першыя гукі гэтых слоў.*

*Але зірніце на маю табліцу. Там у другім стаўбцы дадзены жыдоўскі альфабэт, із якога бачна, што замест славянскіх выразаў там прамаўлялі водзячы пальцам па літарах: вол, хата, вярблюд, дзьверы. Вось цвік, кінжал, агароджа, мех і г.д., але ўжывалі бяспрэчна іхныя жыдоўскія назвы: Алеф, Біт, Гімель, Далет, Эй, і г.д.*

*Спачатку ўсе альфабэтныя значкі, напэўна, і ўяўлялі дадзеныя рэчы і таму вучні хутка пераходзілі да складання іхных першых гукаў, а пазней гэтыя складаныя абрысы спрасціліся да непазнавальнасьці, але найменні засталіся помнікамі ранейшага паходжання. Але вось прыгледзьцеся да грэцкага алфабэту ў 3-м стаўбцы нашай табліцы. Тут усе гэтыя назвы захаваліся хоць яны і ўяўляюцца для грэка, як і для рускага, простым наборам дзіўных гукаў. Адносна магчымасьці выпадковага супадзення тут не*

*можа быць і гаворкі. Алефу адпавядае Альфа, Біту – Бэта, Гімелю – Гама, Далету – Дэльта і г.д.*

*Усё гэта азначае, што грэцкі альфабэт спачатку быў, проста жыдоўскім і прытым без найменшай асіміляцыі слоў.*

*А гэта ў сваю чаргу азначае, што грэкаў ёй спачатку навучылі жыдоўскія настаўнікі, а вучні безсэнсоўна паўтаралі іхныя назвы, не разумеючы іхнага сэнсу. У рускім жа альфабэце назвы літарам давалі ўжо славянскія настаўнікі, якія папярэдне вывучылі замежную літаратурную мову і таму спрасьцілі спосаб запамінання літар пераклаўшы іхныя найменні на сваю гаворку і, як бачна, даволі дасьціпна.*

*Такім чынам просты кампаратыўны пагляд на сучасныя альфабэты паведамляе нам пра іхную гісторыю лепш, чым гістарычныя паданні і ў той жа час высвятляе і паходжанне. Як Альфа па-грэцку заўсёды прамаўлялася А, так і Алеф па па-жыдоўску заўсёды быў А. Як Е-голас (е-псілон) у грэкаў быў па самой сваёй сутнасьці Е чыстым ад якіх бы то ні было прыгукаў так жыдоўскае Ёй павінна было прамаўляцца чыста, у адрозненні ад прыдыхальнага гартаннага Е, г.зн. Хэта, адпавядаўшага грэцкай Хэце / /, і служыўшай таксама і для пазначэння зычнага гуку.*

*Пра адзінства Ёда жыдоў з Йётай грэкаў не варта і выказвацца: абедзве гэтыя літары былі адным і тым жа і чыталіся як І, апошняя із жыдоўскіх галосных Айн (вока), хаця гэтае найменне вока і прамаўляецца сучаснымі гебраістамі як Айн, без сумневаў вымаўлялася як О нават і ў гэтай назве вока.*

*Застаецца толькі пытанне пра тое, як чыталася жыдоўскае Уай – цвік. У грэцкай і ў славянскіх мовах гэтае напісанне цалкам знікла, а ў лацінскай замянілася на V.*

*Але калі мы згадаем, што ў лацінскай мове праз V пісалі і У і В і толькі пазней пасьля эпохі Адраджэння, у выпадку вымаўлення як У пачалі закругляць лязо V ператварыўшы яго ў U то пераканаемся, што і жыдоўскае Уау можа чытацца перад галоснай як У, а перад зычнай, як В. На адсутнасць знака для гука Ы ў жыдоўскім альфабэце, хаця гэты гук несумнеўна існаваў у старажытнажыдоўскай мове, як адной із усходніх, я ўжо выказваўся і зараз паўтару, што яго трэба мець на ўвазе ў тых выпадках, дзе корань слова даецца нам у выглядзе дзвюх ці трох зычных накшталт, напрыклад, слова БН, якое азначае сын і магчыма вымаўлялася БЫН, але я, вядома, не аспрэчваю і скарачэння галосных у жыдоўскай пісьмовасьці, накшталт таго, як славяне пісалі БГ (замест бог) ці ЧЛК (замест чалавек).*

*Як пабачыць сам чытач мая другая кніга пра Хрыста мае амаль незалежнай характар ад першай. Як у першай падмуркам служыла астраномія, так у другой падмуркам служыць геафізіка.*

Я, перадусім, цытую тут усе месцы Бібліі, дзе гаворыцца пра геафізічнае становішча, пры якім былі атрыманы знакамітыя дзесяць запаведзяў Майсея-Збаўцы, ці адбыліся незвычайныя катастрофы з гарадамі і людзьмі, і паказваю, што гэта выразнае адлюстраванне вывяржэнняў Вязувія, апісаныя ва ўсіх дэталях з дзіўнай дакладнасьцю і не могучыя быць дапасаванымі ні да якой іншай гары, а асабліва да Сіная, якая належыць да звычайных складкаватых гор і ніколі не была вулканам з часоў іхтыязаўраў. Вось чаму я і пачаў з геафізікі.

Усё гэта адразу прымусіла мяне не стаяць на паўдарозе, а рашуча перанесьці месца падзей у Італію, і як толькі я гэта зрабіў, дык зараз жа атрымалася тлумачэнне і ўсіх найбольш значных уласных імёнаў Бібліі. Аўраам (г. азн. Аб-Рам згодна з біблія́й), у перакладзе выявіўся Бацька-Рым, так як “аб” па-біблейску азначае бацька, а Рым на-лаціне – Roma. Імя яго пляменіка – Лот – выявілася біблейскім вымаўленнем слова латынянін (lat-inus). Назва горы Сінай паходзіць ад Mons Sinus, г. азн. гара зямных нетраў Вязувій. Ліван выявіўся перакладам на жыдоўскую мову наймення Манблан, так як абодва словы азначаюць Белая гара. Імя Харыў (ці Хорыб), якім часта звецца ў Бібліі псеўда-Сінай з’яўляецца простым

лацінскім словам horribilis – жудасны. Ісус Рыба (па-жыдоўску Навін) выявіўся тоесным з Езусам Хрыстом, спісаным із заснавальніка хрысьціянскай літургіі «Вялікага цара (Васіля Вялікага)». Аарон выявіўся Арыем, а Майсей-Збаўца «богапрызваным Дыяклетыянам», і ўсе падзеі перанесьліся на заканчэнне III і пачатак IV стагоддзяў н. э. У адпаведнасьці з гэтым Галілея выявілася Галіяй, Самарыя – Рымскай вобласьцю, Паран – Пармай, Рава – Равенай, струмень Арнон – ракой Арно, заможным Васанам – урадлівай акругай Bassano у Ламбардыі, а разбураны рымлянамі горад Сьвятога Замірэння (Ерусалім па-біблейску) выявіўся Геркуланумам ці Пампеяй, загінуўшымі зусім не ад рымлян, а толькі пры рымлянах, і не ў сямідзясятых гадах пасля нараджэння легендарнага Хрыста, а ў сямідзясятых пасьля нараджэння яго першаўзору Васіля-Вялікага. Дванаццаць богазмагальніцкіх дзяцей выявіліся не малюсенькімі закінутымі качэўнікамі Палестыны, а дванаццаццю і дагэтуль існуючымі монатэістычнымі народамі сярэднявечча: Аф-Рым (Яфрэм па-руску) – сярэдневечным Рымам, Левій – лівійцам, Дан – дунайскім славянінам, Юда – сірыйцам і г.д., як гэта патлумачана ў главах пра лакалізацыю біблейскіх мясцовасцей і народаў.

Нават найменні шматлікіх аддаленых гарадоў выявіліся тымі ж самымі, што і зараз. Так біблейскі горад Парыдзі (פרזי) выявіўся Парыжам, які і дагэтуль па-італійску мае назву Парыджы (Parigi). Патрыярх Мосх (משך) увасабляе старажытную Маскву, якая і дагэтуль мае назву (Μόσχα)

У сувязі з гэтым кніга «Быццё» апынулася найстаражытнейшай гісторыяй усяго вядомага пад час сярэдневечча чалавецтсва.

Із чарнавіка…

*Біблейскі Васан ці Басан, дагэтуль існуе ў выглядзе горада Bassano у Ламбардыі, біблейскі Паран – існуе ў выглядзе Парлее, Рава – у выглядзе Равены, Рама – у выглядзе Рыма, гара Харыў – лацінскае слова harribibis – жудасны, горы Сінай па-жыдоўску СІНН – паходзяць ад лацінскага слова sinus – бездань, гэта гара бездані зямных нетраў.*

*Але гэтае перанясенне месца падзей выклікала нават і акрамя астранамічных вылічэнняў перастаноўку часу падзей: наклала Арона на Арыя, Ісуса-(Навіна) на Ісуса Хрыста (Васіля Вялікага) і Майсея на Дыяклетыяна і ўсё перанесла на заканчэнне III і пачатак IV стагоддзя н. э.*

*А гэта немінуча пацягнула за сабой і далейшыя перанясенні: горад Самарыя выявіўся Рымам, старажытны Ерусалім – дашчэнту разбураны і засыпаны зямлёй — Пампеяй, 12 плямён богазмагальнікаў выявіліся 12 шматлікімі народамі пачатку сярэдніх стагоддзяў.*

*Аф-Рым (Яфрэм) выявіўся сярэднявечным Рымам, Лявіты – лівійцамі, Дан – дунайцамі, Юда – сірыйцам і інш.*

*Лот выявіўся латынянінам, Абрам – Бацькам Рымам (Roma).*

*Умовы нашага часу прымусілі мяне трохі змяніць першапачатковую паслядоўнасць гэтай серыі маіх кніг аб'яднаных агульнай назвай Хрыстос г. азн. Магістр(?)*

*Гэтая геаграфічная кніга мяркавалася 5-й, але я перанёс яе на месца 2, перамяніўшы некалькі і яе змест.*

Спачатку ўсё гэта я меркаваў змясціць толькі ў шостай кнізе майго даследавання, пасля астранамічнай апрацоўкі як грэцкай так і рымскай гісторыі і доказаў іхнай апакрыфічнасьці аж да III стагоддзя нашый эры, але некаторыя акалічнасьці, якія выявіліся пасьля выдання першай кнігі «Хрыста», (накшталт здзіўленых пытанняў з нагоды паходжання еўрапейскіх жыдоў, у якіх ніхто яшчэ не падазраваў нашчадкаў рымскіх грамадзян, разышоўшыхся па Яўропе пасьля знікнення Заходняй Рымскай Імперыі) прымусілі мяне трохі змяніць мяркаваўшыся парадак і перадусім надрукаваць цалкам біблейскую частку.

Дзякуючы гэтаму тут мне давялося менш выказвацца пра «евангельскага Хрыста», чым у першай кнізе, але так было патрэбна. Не высьветліўшы месца, дзе адбывалася на самай справе дзейнасць чалавека, фантастычныя апавяданні пра якога маюць назву евангелляў, і не ахарактэрызаваўшы яго непасрэдных настаўнікаў і іхны светапогляд, мне немагчыма было прыступіць да далейшай рацыянальнай распрацоўкі гэтага ў найвышэйшай ступені цікавага моманту ў развіцці чалавечага інтэлекту.

Мікалай Марозаў.
Навуковы Інстытут Імя Лесгафта
Астранамічнае аддзяленне
Кастрычнік 1925 г.

# ПРАЛОГ

## Сусьвет, зямля і чалавек.

*Найменне маг – жыдоўскае МГ, лацінскае magus, санскрыцкае magara, славянскае – мог, адкуль прыметнік магутны. Навука магія азначае: магутная навука. Магістр (magister) нейкай навукі азначае – магутны ў гэтай навуцы.*

Мал.1.
Земля – месца жыцця людзей, ляцячая із глыбіні стагоддзяў.

# I.

## Пачаткі культуры

У папярэдняй кнізе я паказваў вам, да якой ступені веды астраноміі неабходны для вывучэння помнікаў старажытнасьці і ўсяго ранейшага ўладкавання жыцця, а зараз я хачу паказаць, наколькі пры гэтым патрэбны і веды геалогіі і геафізікі. Паверхня зямнога шара служыць не толькі арэнай дзейнасьці чалавека, але і яе накіравальніцай, а падземныя магутнасьці, як пабачым далей, выказалі пераважную ролю ў развіцці псіхікі першабытнага чалавека.

Я ўжо згадваў вышэй[1] што пачаткам культурнага жыцця першабытных людзей былі архіпелагі паблізу шырокіх, і ўрадлівых раўнін. Чаму так? Першапачатковы вандруючы чалавек не меў ніякай патрэбы заставацца на адным месцы. Яму і ў галаву не прыходзіла пабудаваць сабе хату на нейкім прыгожым лапіку зямлі, заснаваць пры ім агарод і распрацаваць зямлю. Як гэта магло існаваць нават у яго мроях, калі ён нідзе не бачыў нічога падобнага? Яго ўласная фантазія мудрагеліста камбінавала яму, як і нам самім, толькі ўжо вядомыя ўражанні. Каб перайсьці да аседлага жыцця, яму патрэба было патрапіць у складзе нязначнага гуртка сабе падобных на нейкую невялікую выспачку, дзе само мора абмяжоўвала волю яго перамяшчэння і ў той жа час забяспечвала бяспеку ад звяроў і ад чужых захопнікаў, якія на шырокіх раўнінах лёгка праганялі папярэдніх качэўнікаў у іншую вобласць. На выспу ж ворагі маглі дабрацца толькі на бярвёнах ці чаўнах, ды і то пад час ціхага надвор'я і пры дастатковым асьвятленні мора, так што збегшыяся на бераг насельнікі заўсёды маглі не пусціць іх да сябе.

Так у першабытнага чалавека ўпершыню з’явіліся разуменні ўласнасці на дадзены лапік зямлі.

Фізічная неабходнасць знаходзіцца на ім да самога заканчэння свайго жыцця і перадаць яго дзецям прымушала першабытнага чалавека будаваць тут сабе зручнае жыллё, куды можна было б прыносіць для захоўвання прадукты рыбнай лоўлі, прылады для яе, дый самаму з сям'ёй зручна размясьціцца. Жыццё марака, хоць і берагавога, выпрацоўвала адвагу і прадпрымальнасць, і насельніцтва такіх архіпелагаў, як Грэцкі ў Міжземным моры, Малайскі і Японскі паблізу берагоў Азіі, і Антыльскі ў Караібскім моры ў Амерыцы, дастаткова памножыўшыся пры сваёй параўнальнай бяспецы, павінна было перасяліцца, нарэшце, як із перапоўненай чаркі, на самыя блізкія (са зручных для аседлага жыцця) мясцовасьці суседняга кантынента, дзе яшчэ блукалі качэўнікі. А яны, насельнікі выспы, ужо адвыклі ад качавога жыцця, і таму і тут будавалі сабе трывалае жыллё замест перавозімых намётаў і агароджвалі для бяспекі ад качэўнікаў свае мястэчкі частаколам, пакідаючы толькі прызначаныя месцы для ўваходу, а потым ладзілі і больш трывалыя сьцены. Гэта ім давала перавагу над качэўнікамі, і яны паступова асімілявалі іх ці праганялі ў аддаленыя вобласьці.

Так архіпелагі паслужылі першымі базісамі для крышталізацыі вандруючага чалавецтва і для развіцця ў ім першапачатковых уласніцкіх інстынктаў, якія перадаваліся перасяленцамі з выспаў на блізкія ўрадлівыя раўніны, дзе дзякуючы гэтаму і ўзніклі першыя параўнальна моцныя дзяржавы і пачалася першапачатковая культура, якая паступова вырасла ў сучасную.

Якія ж яе асноўныя законы?

# II.
# Вобласьці адміністрацыйнага, эканамічнага і культурнага прыцягнення.

Із фізікі мы ведаем, што магутнасць уздзеяння гравітацыйных ці электрамагнітных палёў на нязменную па велічыні масу, якая падпадае пад іхнае ўздзеянне ў бязмежнай і ізатропнай трохмернай прасторы слабее адпаведна

[1] Хрыстос Кніга I Частка IV, гл. VII.

квадрату адлегласьці ад іхнага цэнтра, так што ізапатэнцыйныя ўроўні размяшчаюцца каля яе ў гэтым выпадку канцэнтрычнымі сферамі. І мы можам вывесьці матэматычна, што калі замест бязмежнай і ізатропнай па ўсіх трох вымярэннях прасторы мы мелі б пласт, бязмежны і ізатропны толькі па двух вымярэннях і элементарна малы па трэціцяму, то магутнасць уплыву слабела б у такім пласьце толькі прапарчыйна адлегласьці, так як пашыралася б замест сферы па акружнасьці.

Падобны выпадак мы і мелі б для палёў эканамічнага і адміністрацыйнага прыцягнення дзяржаўных цэнтраў, дзейнічаючых толькі ў двухмернай прасторы на зямной паверхні. Але адрозненне гэтых палёў у параўнанні са стыхійнымі фізічнымі заключаецца ў тым, што ў апошніх магутнасць ўздзеяння перадаецца ў навакольным асяроддзі без значнага шаравання, а ў чалавечым грамадстве толькі дзяючы перамяшчэнню вялікіх фізічных цяжкасьцей із цэнтра ў месцы ўплыву і назад. Ці будуць гэтыя цяжкасьці воскам ці таварам, але выдаткаванне энергіі на іхнае безперапыннае аднаўленне ўзрастае тут адпаведна плошчы паверхні, а таму і магутнасць ўплыву эканамічнага ці адміністрацыйнага цэнтра на навакольнае насельніцтва ў выпадку яго ізатропнасьці і (фактычнай) бязмежнасьці будзе слабець адпаведна $(r_0+ar_1)^2$, дзе ***a*** з'яўляецца каэфіцыентам спажывання, $\boldsymbol{r_0}$ – доля радыяльнай адлегласьці, знаходзячайся пасярэдзіне дзейнічаючага цела, якое нямагчыма засяродзіць у адной кропцы, і $\boldsymbol{r_1}$ – доля, ідучая па-за гэтым целам у дадзеным накірунку[2].

Пры гэтым эканамічны цэнтр можа і не супадаць з адміністрацыйным, бо становішча другога абумаўліваецца на практыцы галоўным чынам стратэгічнымі ўмовамі, а першага – галоўным чынам выгадай вектарыйна-ізатропнага перамяшчэння тавараў у розныя бакі.

Што ж да культурных цэнтраў, то іхная лакалізацыя на зямной паверхні заўсёды была цесна злучана з эканамічнымі ці адміністрацыйнымі цэнтрамі, заўсёды збіраючымі вялізныя дадатковыя каштоўнасці, але ўздзеянне іхнай магутнасьці паслабляецца ўжо адпаведна простай адлегласьці, калі гаворка ідзе толькі пра распаўсюджванне не маючых вагі ідэй, якія пашыраюцца без суправаджэння мас (г. азн. дзе каэфіцыент шаравання ***a*** вельмі малы).

Усё, што я сказаў да гэтага, мае месца, вядома, толькі ў ізатропных вобласьцях уздзеяння адзінага цэнтра. Калі поле не ізатропнае і не адзінае, то яго

---

[2] Выказваючыся матэматычна: $F = M(V2L)/(r_0+ahr_1)^2$ . Г. азн. сіла F сацыялагічнага прыцягнення дадзенага цэнтра ўзрастае адпаведна масе M, на якую ўздзейнічае яго поле $V^2L$, і адваротна прапарцыйна квадрату адлегласьці $(r_0+r_1)$, калі канстанта поля $V^2L$ застаецца без змянення і калі каэфіцыент шаравання і каэфіцыент неізатропнасьці асяроддзя h па розных накірунках мы можам прыраўняць да адзінкі, а інакш гэтыя множнікі трэба паставіць як паказана ў формуле. Адсюль атрымліваецца, што вектарыяльна-радыяльная адлегласць нейкага дадзенага ізапатэнцыйнага ўзроўню ад цэнтра дадзенага поля ў дадзеным накірунку есць: $(r_0+ahr_1)^2 = M(V^2L) / F(r_0+ahr_1)^2 = M(V^2L) / E$. Г. азн. радыус $r_0+ahr_1$ тым меншы, чым большае выдаткаванне энергіі E для дасягнення ад цэнтра ўздзеяння да ізапатэнцыйнай кропкі на гэтым накірунку. А фактар $V^2L$ з'яўляецца канстантай фізічнага поля: здабытак квадрата рухомасьці дзейнічаючых адзінак цэнтра на даўжыню.

Цікава, што калі мы дапусьцім існаванне супраціву асяроддзя прамяню пры распаўсюджванні энергіі прыцягнення ці электрамагнітнай хвалі, то ў формулу Ньютана давядзецца ўвесьці дадатковую функцыю ад адлегласьці і пісаць яе ў выпадку неізатрапічнасьці поля: $F = KM_1M_2 / (r_0+ahr_1)^2$ дзе ***a*** ёсць каэфіцыент супраціву асяроддзя праменю (шараванне асяроддзя), маючае пры звычайных касмічных умовах надзвычай малую велічыню. А ньютаніянскі радыус ***r*** я падзяліў на два складнікі $\boldsymbol{r_0}$ і $\boldsymbol{r_1}$, пры чым $\boldsymbol{r_0}$ з'яўляецца той яго часткай, якая знаходзіцца ў сярэдзіне цела (па дадзенаму накірунку) і $\boldsymbol{ar_1}$ – тая частка, якая знаходзіцца па-за паверхняй цела і да якой я дадаў каэфіцыент адноснасьці ***h***, які залежыць ад неізатрапічнасьці асяроддзя па розных накірунках і прыраўноўваецца да 1 у выпадку яго ізатрапічнасьці.

ізапатэнцыйныя ўзроўні могуць пераіначвацца самым мудрагелістым чынам. Вось, напрыклад, разрэз поля ўздзеяння двух раўназначных магнітаў (мал. 2). Аналагічны яму разрэз і гравітацыйнага поля Зямлі і Месяца, як дзвюх планет, пры чым у іх меншае поле Месяца здаецца нават уключаным у зместенае большае поле Землі, пераіначанае яго ўздзеяннем, хаця атачаючае асяроддзе тут і засталося ізатропным.




Мал. 2

Вобласць прыцягнення дзвюх роўных сукупнасьцей фізічнай энергіі A і B ў ізатропным асяроддзі ў цэнтральным восевым разрэзе. За межамі ∞-падобнай лініі іхныя ізапатэнцыйныя паверхні зрабіліся агульнымі і абедзьве вобласьці злучыліся ў адну пераіначаную, якая прываблівае чужыя сукупнасьці энергіі заўсёды па перпендыкулярнаму напрамку да ізапатэнцыйных паверхняў і таму крывалінейна. Усярэдзіне ∞-падобнай мяжы ў кожнай сукупнасьці захоўваецца свая ўласная вобласць, хаця і зрабіўшаяся не канцэнтрычнымі (іхныя ізапатэнцыйныя ўроўні не паказаны праз недахоп месца)

Яшчэ больш гэта бывае на вельмі не ізатрапічнай зямной паверхні. Вось, напрыклад, як пераіначваючча над ёю ізабарычныя ўзроўні атмасферычных цыклонаў, якія пры вольным распаўсюджванні таксама павінны былі мець выгляд колаў (мал. 3).




Мал. 3
Узор пераіначванняў і зменлівасьці абласьцей атмасфернага цыклону з нагоды неізатрапічнасьці зямной паверхні. Стан надвор'я ў Еўропе 8/18 снежня 1892 года ў 9 г. вечара, 7/19 снежня ў 9 г. раніцы, 8/20 снежня ў 7 г. раніцы і 8/20 снежня ў 9 гадзіну. вечара.

А этнічныя вобласьці прыцягнення пераіначваюцца яшчэ больш таму што ляжаць на самай паверхні зямлі, дзе ў перыяд развіцця толькі рачнога і берагавога мараплаўства рэкі і берагавыя палосы здаюцца як бы драцянымі злучэннямі злектра-магнітных мас. Па іх, як па лініях найменшага супраціўлення, і накіроўвалася ўсё уздзеянне эканамічных і адміністрацыйна-стратэгічных намаганняў, а культурныя ўздзеянні, як не патрабуючыя перамяшчэння адпаведных цяжкасьцей, лёгка збочвалі ад такога эканамічнага ці адміністрацыйнага рэчышча.

Калі наступіў час акіянічнага мараплаўства, утварыліся новыя праваднікі, якія шмат у чым змянілі ранейшую ізатрапічнасць зямной паверхні для гэтых трох магутнасных накірункаў; а калі наступіла эпоха чыгунак, амаль усё ў гэтым дачыненні зноў змянілася, і яшчэ больш зменіцца, калі дастатакова разаўецца паветранае паведамленне.

Усе гэтыя ўмовы мы і павінны прыняць да ўвагі пры вывучэнні гістарычных лёсаў чалавецтва на зямлі, а без іх мы заблудзімся ў безлічы апісальных дэталяў, не быўшы ў стане адрозніць значнага ад трэццяраднага ў вобласьці новай гісторыі, а ў ранняй сярэднявечнай і ў старажытнай гісторыі мы не зможам адмежаваць праўдзівае ад прыдумак.

Каб паказаць рэальнасць існавання сацыялагічных абласьцей уплыву, прагледзім ва ўяўленні хоць бы сучасную этнаграфічную мапу.

Вось на захадзе Еўропы вобласць французскай нацыянальнасьці. Дзе паўстаў і трымаецца зараз яе культурны, эканамічны і адміністрацыйны цэнтры? У Парыжы, які ва ўсе бакі працягнуў свае рукі ў выглядзе павуціння чыгунак. Яна трохі ссунута да паўднёвы захад таму што суднаходная рака Сена пацягнула эканамічны цэнтр гэтай вобласці бліжэй да свайго рэчышча і да вусьця.

Вось вялікая раўніна ўсходняй Еўропы. Дзе ўтварыўся яе эканамічны і адміністрацыйны цэнтр? У сярэдзіне, у Маскве, а не на Волзе, шырыня якой не дапускала лёгкай берагавой абароны ад нападаў рабаўнічых флатылій з поўдня. І нават у пасля-пятроўскі час, калі адміністрацыйны цэнтр грунтуючыся на стратэгічных меркаваннях быў перанесены на берагі Нявы, эканамічны застаўся ў Маскве, як гэта бачна пры першым поглядзе на мапу чыгунак. Няцяжка бачыць, што і на берагах Нявы ўтварыўся моцны эканамічны і культурны цэнтр, калі туды быў перанесены адміністрацыйны Пецярбург, да яго перайменавання ў Ленінград. Але гэта быў перш за ўсё ударны цэнтр рускага імперыялізму, і як толькі Пецярбург быў пабудаваны і ўмацаваны, так адразу ж ён пачаў далучаць да сябе і асіміляваць рускай мове і культуры бліжэйшыя краіны. Ён хутка далучыў Фінляндыю і Прыбалтыйскі край і калі ўслед за гэтым не зрабіў гэтага ж са Швецыяй і Нарвегіяй, то толькі дзякуючы іхнаму даўняму прыцягненню да англа-саксонскага і потым да германскага, не менш моцных цэнтраў, якія не выпусьцілі гэтыя краіны са сферы свайго ўплыву.

Як толькі імперыялістычныя і асіміляцыйныя намаганні рускай дзяржавы пасьля цяжкай вайны і рэвалюцыі спыніліся, так і адміністрацыйны цэнтр створанага ва ўсходняй Яўропе Звязу Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік перанёсся ў той жа самы горад Масква, які быў і раней натуральным адміністрацыйным цэнтрам Усходняй Еўропы. Інакш і не магло быць, пакуль астатняя Еўропа не далучыцца да таго ж грамадзкага ўладкавання, як, і З.С.С.Р., а калі ж далучыцца, то натуральным адміністрацыйным інтэрнацыянальным цэнтрам такога агульнаеўрапейскага Федэратыўнага звязу стане Берлін ці Вена.

Але так адразу здарылася толькі з адміністрацыйным цэнтрам З.С.С.Р., а культурны цэнтр не спяшаўся пайсьці пасьля рэвалюцыі зараз жа ў Маскву, таму што гэтага роду цэнтры перамяшчаюцца цяжэй, з нагоды інтэрнацыянальнасьці сучаснай навукі.

Такімі з’яўляюцца дзве вобласьці сацыяльных прыцягненняў, якія ў межах іхнага ўплывы можна лічыць прыблізна ізатропнымі, дзякуючы іхнаму раўніннаму месцазнаходжанню.

Але вось, напрыклад, Ягіпет. Ён увесь у даліне Нілу, і ў яго дэльце. Да ўзнікнення мараплаўства ў адкрытым моры ён мог пашыраць свой уплыў толькі на поўдзень, да вытокаў Нілу, ды па ўзбярэжжу. Але па Нілу ён сустрэўся ў яго вярхоўях з адміністрацыйным цэнтрам горнай Абісінскай вобласьці, куды не маглі прайсьці яго рачныя караблі, ды і абісінскім горцам было чужым рачное перамяшчэнне. Абодва адміністрацыйныя цэнтра не толькі не прыцягваліся, але адштурхоўваліся адзін ад аднаго, як чужыя, грунтуючыся на ўладкаванні жыцця. І вось у вярхоўях Ніла ўтварылася натуральная нейтральная зона, зона інтэрферэнцыі абаіх палёў. Пашырацца на захад па берагу Афрыкі не дазваляла пустэльнасць ўзбярэжжа, ісьці на поўнач праз Сінай і Палестыну перашкаджалі месапатамскія і грэцкія вобласьці сацыяльнага прыцягнення, і натуральным

цэнтрам гэтага адмысловага этналагічнага поля стаў Мемфіс, каля таго месца, дзе Ніл падзяляўся на цэлы шэраг суднаходных згодна з тачаснымі патрабаваннямі прытокаў.

Пазней пачалося мараплаванне ў адкрытым моры, і цэнтр ягіпецкай культуры натуральна перанёсся ў Александрыю, бліжэй да мора.

Такім чынам фізічная геаграфія і прагрэс матэрыяльнай культуры заўсёды дэтэрмінавалі і будуць дэтэрмінаваць палітычную геаграфію на зямлі, і нават, як пабачым далей, пры разгляданні дзейнасьці Вязувія, геафізічныя ўплывы часта абумоўлівалі і псіхічныя асаблівасьці чалавецтва не толькі праз матэрыяльную культуру, але і дзякуючы прамому ўздзеянню на псіхіку атачаючага насельніцтва, што перадаецца на велізарныя адлегласьці.

Дзякуючы разнастайнасьці ўладкавання зямной паверхні, этналагічныя цэнтры натуральна ўзнікалі на ёй у розных месцах, і паміж імі ўтварыліся палосы інтэрферэнцыі, якія можна прасачыць па межах чалавечых гаворак, і гэтыя палосы заўсёды былі глуханямі як эканамічных, так і палітычных і культурных басейнаў, што ўзнікалі вакол моцных цэнтраў.

Такімі з’яўляюцца асноўныя этналагічныя законы, такія ж неадменныя ніякімі намаганнямі прыватных асоб, як і законы прыцягнення ці адштурхоўвання сукупнасьцей фізічнай энергіі. І калі б яны былі засвоены найноўшымі гісторыкамі старажытнага сьвету, то гэтыя гісторыкі ужо даўно б прызналі за непаразуменне апавяданні сваіх сярэднявечных папярэднікаў хоць бы, напрыклад, пра тое, быццам бы на сірыйскім беразе каля пустэльнага Мёртвага возера некалі існаваў моцны самастойна-культурны цэнтр у псеўда-Ерусаліме і першарадныя эканамічныя цэнтры ў псеўда-Ціры і псеўда-Сідоне. Іх не магло там быць ужо толькі з той нагоды, што менавіта тут і размешчана вобласць інтэрферэнцыі трох вялікіх культурных цэнтраў: ягіпецкага, месапатамскага і элінскага. Калі б нават і былі тут годныя гавані і добрыя сухапутныя шляхі, то і тады нічога б сур'ёзнага і самабытнага не атрымалася б у гэтай нейтральнай вобласьці ўздзеяння трох вялікіх і самабытных культурных цэнтраў.

Бяспрэчна, забабонны чалавек, якіх і зараз не мала, мне зараз жа запярэчыць: «усё, што вы кажаце, служыць толькі найлепшым доказам таго, што бог непасрэдна бярэ удзел у чалавечых справах. Для звычайных людзей, сапраўды, было б немагчыма стварыць што-небудзь самастойнае ў Палестыне, але для бога (які якраз тут і браў удзел) усё магчыма. Ён можа наладзіць цэнтр сусветнай культуры і ў гнязьдзе вароны на бярозе, для яго не складае вялікай цяжкасьці стварыць першакласную гавань і ў рукамыйніцы вашай жонкі, хоць бы яна і не паверыла сваім вачам, калі, падыдучы мыцца, раптам пабачыла б, што ў яе жбанку схаваўся ад буры ўвесь брытанскі флот».

Але я тут звяртаюся толькі да тых, хто ўжо пакіну ў сябе ззаду гэты нізкі ўзровень ведаў і псіхічнай эвалюцыі.

Я пакажу далей на параўнанні саміх нашых першакрыніц пра гісторыю гэтай мясцовасьці з першакрыніцамі Лаціна-Эліна-Сірыйска-Ягіпецкай імперыі IV і V стагоддзяў, што (як ужо эскізна паказана ў першай маёй кнізе) так званыя палестынскія першакрыніцы з’яўляюцца толькі варыянтамі грэцкіх і не ўяўляюць із сябе амаль нічога самастойнага, ды і тое, што ў іх самастойнае, не мае сур'ёзнага значэння і адносіцца да таго ж IV і V стагоддзяў нашай эры. А зараз я перайду да геафізічнай характарыстыкі тых падмосткаў, на якіх дзейнічае чалавецтва – Зямлі, што ляціць із глыбіні стагоддзяў.

# III.
## Уплыў зямных глыбінь.

Мы толькі што бачылі ўплыў тапаграфічных умоваў зямной паверхні на эвалюцыю чалавечага жыцця. Разгледзім жа і іншыя фізічныя фактары.

Пра ўплыў клімату, вядома, не варта і згадваць. Хаця архіпелаг Пары ў Паўночным Ледавітым акіяне тапаграфічна і мае такія ж выгоды, як і ўсе астатнія для ўзнікнення культурнага цэнтра, але жорсткасць клімату не дала магчымасьці выпрацавацца ў яго наваколлі самастойнаму басейну культуры, а культура Малайскага архіпелага і прылеглых да яго раўнін не змагла дасягнуць вялікай вышыні, з нагоды, наадварот, трапічнай прыроды, не выхоўвайшай працавітасьці ў насельніцтве.

Тое ж самае і ў іншых выпадках.

Толькі пры поўным незнаёмстве з уплывам геаграфічных умоваў, назіраемых ў розных мясцовасьцях зямной паверхні, на утварэнне і развіццё ў іх культурных цэнтраў і могуць, напрыклад, існаваць у некаторых (нават і сучасных нам) галовах уяўленні, пра быццам бы загінуўшую Атлантыду, з яе быццам бы высокай культурай за шмат тысячагоддзяў да нашага часу. Нічога падобнага не было на зямным шары ў далёкія геалагічныя эпохі, бо чалавечая культура – дзіцё сучаснай геалагічнай эпохі, калі сучасныя абрысы зямной паверхні ўжо амаль сфармаваліся.

Самастойных зародкавых цэнтраў культуры на зямлі магло быць, як мы бачылі пры першым паглядзе на геаграфічную і кліматычную мапу, толькі чатыры, і наперадзе ўсіх павінен быў ісьці як і пайшоў, Міжземнаморскі басейн, культура якога паступова пераліліся цераз натуральныя, але не непяраадольныя межы паміж рознымі мясцовасьцямі зямной паверхні, і пачала з часу Калумба і Васка-дэ-Гамы асіміляваць у сябе тры астатнія цэнтры.

Першы падмурак такой натуральнай тэорыі цывілізацыі заснаваны яшчэ Боклем, але, акрамя пазначаных у яго, існуюць і іншыя ўплывы. Асабліва вяліую ролю паміж імі маюць ўплывы падземных магутнасьцей зямнога шара на псіхіку ўсяго чалавецтва. І яны не былі да гэтага часу сур'ёзна распрацаванымі навукоўцамі толькі таму, што геалогія і касмалогія (разам з апісальнай астраноміяй) не прызнаваліся неабходнымі агульнаадукацыйныя навукамі складальнікамі праграм сярэдніх навучальных устаноў не толькі ў нас, але, наколькі мне вядома, і за мяжой. Дзякуючы гэтаму, усе закончыўшыя курс навучання ў сучасных вышэйшых навучальных установах не на фізіка-матэматычным факультэце застаюцца ў веданні астраноміі і геафізікі настолькі ж нявіннымі, як і грудныя немаўляты, калі яны адмыслова не цікавіліся імі па-за праграмай прадметаў, якія лічацца афіцыйна патрэбнымі для іх. Вось чаму і тут, таксама як у першай кнізе гэтай маёй працы (дзе я спачатку даў агульны нарыс сучасных поглядаў на сусьвет), я папярэдне зраблю кароткае выкладанне сучасных агульнапрынятых і сваіх уласных паглядаў на ўнутранае уладкаванне зямнога шара.

З якіх рэчываў складаецца глыбіня зямлі?

Некаторыя лічаць, што із жалеза, але так мог сказаць толькі той, хто разважаючы пра зямлю, цалкам забываецца ў такі момант пра астатнія планеты сонечнай сістэмы, дый пра зоркі. Зямля складаецца із жалеза,– кажуць нам,– таму

што сярэдняя шчыльнасць яе ўнутранага ядра блізкая да яго шчыльнасьці... Але ж із якога металу ў такім разе складаецца нутро Месяца, маючага такое ж паходжанне, як і Зямля, але нашмат меншую «шчыльнасць»? Із якога металу складаецца нутро Сатурна, Юпітара, Венеры, Марса, Меркурыя, не кажучы ўжо пра Сонца і пра зоркі? У кожнага ж з іх свая адменная «шчыльнасць»! Зразумела, што пры такіх элементарных уяўленнях мы вяртаемся да паглядаў старажытных алхімікаў, лічыўшых, што Сонца складаецца із золата, Меркурый із ртуці і г.д.

Сучасныя навуковыя ўяўленні паведамляюць нам цалкам іншае.

У цяперашні час ужо ніхто із нас не верыць, што зямныя вулканы з’яўляюцца па-сутнасьці ўваходамі ў падземнае царства – у месца знаходжання памёршых, кіруемае, згодна з думкай адных із нашых продкаў, Плутонам, а на думку іншых – Сатурнам, скінутым за нейкую правіну із нябёсаў і збегшым у Італію, дзе ён і зрабіў сабе і сваім памагатым праходы пад зямлю ў джарэлах Вязувія, Этны, Стромбалі і фумаролах Флегрэйскіх раўнін.

Праўда, у вулканічных і сейсмічных з'явах і зараз яшчэ не ўсё дэталёва высветлена. Мы не маем пакуль такой аптычнай прылады, якая б дазволіла нам дастаткова выразна зазірнуць у нутро зямлі. Ніводны із праменяў, якія ўздзейнічаюць на наша вока ці на фатаграфічную пласьцінку нашых сучасных фатаграфічных прылад, не можа зазірнуць нават і на сантыметр у глыбіню сілікатавых геатэктанічных парод, складаючых галоўную частку паверхневых пластоў зямлі. Праўда, што гэтыя пласты даволі празрыстыя для электрамагнітных хваль, і таму, калі б мы маглі ўладкаваць камер-абскуру, сцёны якой былі б для іх непразрыстымі, і такую фатаграфічную пласьцінку, на якую яны маглі б уздзейнічаць, то мы атрымалі б магчымасць проста сфатаграфаваць нутро зямлі і зручна глядзець у яе праз стэрэаскоп.



Мал. 4.
*Падземнае памяшканне, асьветленае дзвюма лямпамі, і ў ім вертыкальны сейсмаграфічны маятнік Вінчэлці, замацаваны да масіўнага слупа, на якім адбіваюцца зямныя сутрасанні. Ён вагаецца ў розных азімутах, але гэтыя ваганні раскладаюцца асобным прыстасаваннем на мерыдыянальныя складнікі і складнікі па першаму вертыкалу.*

Але такой камер-абскуры мы яшчэ не маем, а таму можам мяркаваць пра ўладкаванне падземнага сьвету толькі так, як мяркуем пра наваколле, заплюшчыўшы вочы, грунтуючыся на адных гукавых уздзеяннях даносячыхся адтуль.

Чытач, незнаёмы з сучаснай геафізікай, магчыма запытае мяне са здзіўленнем: няўжо мы можам штодня «чуць», што адбываецца пад зямлёй, ці нават прыблізна сказаць, дзе і калі? Так, адкажу я, і такі апарат, вынайдзены толькі ў наш час, мае назву сейсмограф, толькі не мы чуем з яго дапамогай, а сам ён з'яўляецца так бы мовіць вухам геафізікі і запісвае нам тое, што ён штодня чуе.

Гэта глыбокі склеп (мал. 4), дзе падвешаны на розных накірункам тры рычагі, надзвычай адчувальныя да самых малых устрасанняў зямлі і малюючыя сваімі канцамі на раўнамерна рухаючыхся стужках самыя неадчувальныя яе ваганні ці адзін прыстасаваны да двух накірункаў (мал. 5).



Мал.5

*Узор мікрасейсмічных ваганняў (І-га роду) зямнога шара, асабліва моцных ад верасня па сакавік, калі Зямлі знаходзіцца бліжэй да перыгелія. Яны не залежаць ад ветру і надвор'я і амаль аднолькавыя для розных месцаў. (Частка запісу Пулкаўскага вертыкальнага сейсмографа 18 верасня 1910 года).*

Гэтая прылада паказвае, што нутро зямлі ніколі не знаходзіцца ў маўклівым стане, і яна часта чуе гукі, падобныя на гукі ў канцэртнай зале ад розных прылад аркестра, ці падобна змешанаму гулу галасоў на людным гарадскім пляцы. Па ўсёй глыбіні зямлі, то тут, то там, і ва ўсіх накірунках праносяцца так званыя мікрасейсмічныя ваганні, гэтыя незлічоныя паведамленні пра тое, што адбываецца ва ўсёй таўшчы зямнога шара, і ў якіх аднак цяжка што-небудзь разабраць з нагоды іхнай перамяшансьці (мал. 5). Але вось, час ад часу, прыносіцца ў наш «чуючы» склеп гучны крык пра нейкі падземны выбух, суправаджаючы землятрус і засланяе сабой ўсю мікрасейсмічную штодзённую балбатню падземнага стыхійнага жыцця. Не адусюль раздаюцца гэтыя вылучныя крыкі зямлі, а часьцей і гучней усяго із-пад складак зямной паверхні, якія з'яўляецца дном Ціхага акіяна. На яго краях ідуць магутныя гораўтвараючыя працэсы як з боку Амерыкі, так і з боку Японіі, Малайскага архіпелага і Новай Зеландыі. Другая палоса такіх жа падземных крыкаў ідзе ўздоўж паўночных берагоў Міжземнага мора, пераходзіць на паўднёвыя берагі Чорнага, ідзе паміж Каспійскім і Аравійскім морамі і адыходзіць ад марскіх берагоў пад Паўднёвую частку Азіі, дзе і зноў набліжаецца да Ціхага акіяна (мал. 6 і 7).

Сірыус, Капэла, Альдэбаран, Гіяды, Пляяды і паўночная частка Арыёна, валодае вялікай здольнасцю нейкага выпраменьвання, здольнага трансфармавацца ў цеплыню ў зямной атмасферы. Зараз яна ўся, ад нябеснага экватара да экліптыкі, ніколі не бачна на паўднёвым полюсе зямлі і таму не дадае да яго сваіх калорый, а 12 тысяч гадоў таму назад яна ніколі не была бачнай на паўночным паўшар'і зямлі і была вечна бачнай на паўднёвым, так што яе ўплыў тады быў адваротны.

Такімі з'яўляюцца асноўныя астранамічныя фактары, якія ўплываюць на перыядычныя змены клімату тых падмосткаў, на якіх разам з усім жывым сьветам існуе і чалавецтва. Да іх, вядома, дадаюцца і перыядычныя (адзінаццацігадовыя) змены колькасці святла і цеплыні, якія выпраменьвае Сонцам на Зямлю, і колькасьці астатніх відаў яго прамяністай энергіі і зусім не закрануты навукай уплыў вярчэння і нябачнага выпраменьвання тых цэнтральных целаў нашай зорнай сістэмы, каля якіх круцяцца і якімі ўтрымліваюцца на колавых арбітах мільёны зорак Млечнага Шляху. Зразумела, што ўплыў гэтых вялізных мас і асабліва іхнага вярчэння павінен быць вялікім хоць яны і не могуць выклікаць прыліўных з'яваў на нашых планетах дзякуючы таму, што яны праз сваю надзвычайную аддаленасць аднолькава уздзейнічаюць як на бліжэйшы да іх бок планеты, так і на аддалены.

Я не магу тут падрабязна абмяркоўваць пытанні касмічнага жыцця ўсёй нашай зорнай сістэмы і толькі хачу паказаць, што гісторыя жыцця чалавецтва ні ў мінулым, ні ў будучыні, не можа быць навукова доследавана інакш, як на гэтым фоне. І тым больш немагчыма навукова даследаваць гэту гісторыю, не звяртаючы сур'ёзнай увагі на фізічнае жыццё самай Зямлі.

Само сабой зразумела, што ўнутраныя метамарфозы геатэктанічных парод, пра які я казаў вышэй, як пра нагоду сейсмічных і вулканічных з'яваў, адбываліся шмат у чым незалежна ад агульных касмічных уплываў і ад пераліванняў гідрасферы Зямлі з поўначы на поўдзень і назад.

Яны ішлі папярок да тых складак зямной паверхні, якія схематычна паказаны на маёй мапе мал.14 у выглядзе белых ліній (горныя хрыбты) і большасць якіх ужо спыніла сваю актыўнасць з нагоды памяншэння падземнага матэрыялу для метамарфозы вадой іператварыліся толькі ў суб'екты для агульнага размывання, якое бесперапынна вырабляецца атмасферычнымі ападкамі, і для разнясення прадуктаў выветрывання ў нізкія месцы дзейнасьцю наземных струменяў, якія пераносяць іх да берагоў мора, і дзеяннямі марскіх плыняў, размяркоўваючым іх па больш аддаленых месцах марскога дна.

Тут мы ўжо падыходзім да эпох у дзясяткі і сотні разоў перавышаючых працягласць ледавіковых перыядаў, таксама браўшых удзел у гэтых размяркаваннях – да эпох, пад час якіх самыя глыбінныя месцы акіянаў сапраўды маглі быць кантынентамі, а самыя высокія месцы нашых кантынентаў сапраўды маглі быць морам, асабліва калі зямная вось паступова перайшла ў сваё сучаснае становішча з паўночнага берага Паўночнай Амерыкі (гл. белую кропку на мапе І), як думаюць некаторыя, хоць і далёка не цалкам абгрунтавана.




Мал. 14

*Галоўныя складкі апошняй абалонкі Зямлі (з BulletIn de la Soc. AstronomIque de France, 1910 г.)*

Яшчэ ніхто не змог даследаваць глыбінныя напластаванні дна мораў і таму ўсе тыя дэталёвыя абрысы кантынентаў пад час аддаленых эпох, якія мы знаходзім у падручніках на мапах старажытных перыядаў, нападобе юрскага, з'яўляюцца толькі простымі і недастаткова абгрунтаванымі мяркаваннямі іхных аўтараў.

Нават і на сучасных кантынентах, старажытныя напластаванні якіх зараз нядрэнна даследаваны, мы не ў стане паказаць дакладных межаў сушы пад час аддаленых эпох, бо амаль усе яны ўжо даўно змыты пазнейшымі дажджамі ці ледавікамі, і мы можам паказаць на мапах толькі межы іхных сучасных рэштkaў, і ў рэдкіх выпадках даказаць, што некаторыя із гэтых рэштkaў былі злучаны ў свой час у адно цэлае.

Падмуркам усіх водных адкладанняў з'яўляецца глыбіннае і, можна думаць, суцэльнае гнейсавае покрыва зямлі, толькі ў розных месцах пашкоджанае прадуктамі плаўлення таго ж гнейсу, якія маюць назву выкінутых парод, якімі з’яўляюцца граніты, парфіры базальты і г. д.




Мал. 15

*Развіццё вуглевадароднага арганічнага жыцця пад час воднай эпохі эвалюцыі. Стрэлападобныя вертыкальныя лініі паказваюць сваім ніжнім канцом пад час якой геалагічнай эпохі дадзеныя аддзелы жывёл і расьлін атрымалі свой пачатак, а сваёй тоўстай часткай паказваюць, пад час якіх эпохі яны дасягнулі найвялікшага росквіту (малюнак аўтара).*

Усе сістэмы водных наносаў зямлі з'яўляюцца прадуктамі раскладання гэтыя жа першапачатковых гнейсавых напластаванняў, адбываўшыхся, можна думаць, яшчэ ў тыя часы, калі сучасны акіян занімала (дзякуючы высокай тэмпературы зямной паверхні) нейкае вадкае хімічнае злучэнне крэмнію, метамарфізаванае пазней нованароджанай вадой па ўсёй яго тоўшчы.

І чым больш старажытным было напластаванне, тым менш ад яго засталося выйсцяў на паверхню сушы ці ў рачныя прамывіны нашых кантынентаў.

У дададзеных таблічках (мал. 15) я даю іх пасьлядоўнасьці і разам з тым паказваю вертыкальнымі лініямі характар іхнага жывёльнага і расьліннага сьвету[8]. Марская фаўна пададзена ў іх багата, таму што яе памёршыя жывёлы лёгка заносіліся глеем, а сухапутная вельмі бедна, бо на сушы не ўтваралася адкладанняў інакш, як ветрам у пустэльных пясчаных краінах, ды падчас раптоўных паводак. Патаўшчэнні гэтых ліній паказваюць, што ў адпаведны перыяд дадзены клас жывёл быў асабліва пашыраны. На левым боку табліцы чытач бачыць, што чалавек

[8] Із маёй кнігі «Сусьвет» складаючай II том «Вынікаў навукі ў тэорыі і практыцы». Выд. т-ва «Мір».

з'явіўся на зямлі самым апошнім сярод жывёл, і хутка пашырыўся па зямной паверхні пад час той эпохі, якую геолагі называюць сучаснай.

Ніжняя частка гэтай лініі адпавядае яго палеанталагічнаму стану, адносна якога мы маем толькі ўрыўкавыя звесткі ў выглядзе шэрага выкапнёвых рэшткаў, якія паказваюць што яго мозг тады няшмат чым адрозніваўся ад мозгу сучасных чалавекападобных малпаў, а падмосткі яго жыцця, г. азн. кантыненты і выспы, мелі прыблізна выгляд паказаны на нашай мапе (мал. 16.). Потым ідзе археалагічная эпоха, даючая нам ужо і некаторыя дэталі яго звычайнага атачэння і побыту, і, нарэшцэ, разам з узнікненнем пісьмовасьці, настае такая эпоха, якую адну мы і маем права называць гістарычнай. Час яе пачатку розны ў розных краінах, але самы пачатак заўсёды мяжуе з міфам.



Мал. 16.
*Моры існавалыя на нашых сучасных кантынентах пад час Кайназойскага перыяду.*
*(згодна з Мушкетавым, выд. 1891 г.).*

Прыродна-навуковай і этналагічнай распрацоўцы гэтых міфаў і прысвечана далейшая частка маёй працы. Але каб яна не здалася будынкам без падмурку, я паведамлю вам тут караценька рэзюмэ нашых ведаў пра дагістарычнага чалавека.

# VII.
## Дагістарычныя продкі евангельскага Хрыста.

Евангеліст Лука ўключае у сваё жыццяапісанне «Езуса» яго радавод, пачынаючы ад першых людзей – Адама і Евы і ад «іншых нашчадкаў – дапатопных патрыярхаў». Пачнём і мы адтуль жа.

Але папярэдне я прывяду ўрывак із выдатнай кнігі Осбарна «Чалавек старажытнага каменнага веку»[9], каб паказаць відавочна, як могуць захапляцца пры чытанні так званых «класічных аўтараў» нават і безстаронніня, палеантолагі.

«Разуменне Лукрэцыем прыроды ў яго філасофскай паэме «Пра прыроду рэчаў», – кажа ён, – шмат у чым дзіўна пагадняецца з сучаснымі навуковымі ўяўленнямі пра дагістарычнае жыццё чалавека. Вось як ён піша:

«Усе істоты нараджаюцца ў вызначаным парадку
І захоўваюць адрозненне грунтуючыся на цьвёрдых законах прыроды.
Людзі, тады на палях жыўшыя, былі грубейшымі,
Як і павінна быць, таму што ўзгадавала іх грубая глеба.
Касткі ўсярэдзіне іх былі значна буйнейшымі і цьвёрдымі;
Улонне іх з жыламі злучана было нашмат шчыльней:
Холад і жар таму не даймалі іх так хутка,
І замена напояў і ежы на іх не ўплывала.
Так на працягу шматлікіх сонечных колазваротаў
Людзі вялі сваё жыццё ў стане вандруючым, як зьвяры.
Не існавала дужага аратага для кіравання плугам,
Так што ніхто не ўмеў ні апрацоўваць ніву жалезам,
Ні вырабляць на зямлі насаджэнні хмызнякоў новых,
Ні ў высокіх дрэў абразаць старыя галіны».
.......................................
«Людзі тады не ўмелі яшчэ і агнём карыстацца,
Ні пакрываць сваё цела зьвярынаю скурай мехам;
Але жылі ў лясах яны, у горных пячорах і ў гаях
І закрывалі галінкамі кустоў свае брудныя члены,
Каб забяспечыць сябе ад udараў дажджу ці ветру».
.......................................
Са спрытам рук надзвычайным, з вялікай спрытнасьцю бегу
Людзі на дзікіх жывёл палявалі ў нетрах лясістых
З дапамогай кінутых камянёў і цяжкай велізай дубіны.
Шмат каго ўраждвалі яны, ад іншых жа хаваліся ў пячорах.
Людзі начной парой, нападобе шчаціністых вепрукоў,
Чальцам сваім дастаўлялі супакой, на зямлі распрасьцёршыся,
У лісьце сухое і ў галінкі дрэваў закапаўшыся глыбока.
Не з ускліканнем гучным чакалі тыя нясмелыя людзі.
Яскравага сонца і дня на палях, у змроку ночы блукаючы,–
Дрымотай агорнутыя, у поўным маўчанні яны назіралі,
Як у нябёсах уздымае свае аблічча прамяністае сонца.
.........................................
Шмат турбот прыносіла няшчасным у тыя дні нападзенне
Драпежнай пароды звяроў, парушаўшых пакой увесь час.
Пры наступленні магутнага ільва і кудлатага вепрука,
Кінуўшы жыллё, беглі яны пад скалістыя скляпенні;
І сярод ночы непагодлівай ад жаху яны саступалі
Госьцю лютаму ложкі свае пад лістотаю дрэў.
.........................................

[9] Генры Фэрвільд Осбарн: «Чалавек старажытнага каменнага веку. Асяроддзе, жыццё, мастацтва». Пераклад Б. Н. Вішнеўскага. 1924 г.

«Людзі потым вырабілі скуры, жыллё, выведалі
Магутнасць полымя і зліліся тады чалавек і жонка разам.
Сталі вядомы ім у адружанні ўцехі кахання бязгрэшнага,
І яны бачыць маглі, як ад іх узнікаюць нашчадкі.
Толькі тады чалавецтва пачало крыху лагоднець.
.............................................
Цела ад уздзеяння полымя ўспрымальней да холаду стала,
І недастатковым пачаў здавацца нябесны дах.
У людзях Венера паслабіла моц. Ад бацькоўскай ласкі
Дзеці лёгка страцілі суровыя схільнасьці духу.

(Перад. І. Рачынскага).

«Такой з’яўляецца выява розных ступеняў жыцця першабытнага чалавека – заканчвае гэтую цытату Осбарн – Тут перад намі яго магутная фізічная арганізацыя, яго незнаёмства з прыёмамі земляробства, залежнасць ад прадуктаў расьліннага і жывёльнага жыцця, адкрыццё агню і з'яўленне адзення, яго паляванне на дзікіх звяроў з дубцамі і кідальнымі камянямі, жыццё ў пячорах, змаганне з ільвом і кабаном, вынаходніцтва грубых халуп і жылля, памякчаючы ўплыў на прыроду чалавека радасьцей сямейнага жыцця, – усё гэта чалавек сапраўды перажыў за час яго дагістарычнага развіцця (гл. I)».

Так! – Дадам і я ад сябе. – Гэта апісанне «Лукрэцыя» так надзіва пагадняецца з сучаснымі уяўленнямі пра старажытнасць, што нават дзіўна падумаць, якім чынам такі палеанталагічна адукаваны чалавек, як Осбарн, мог хоць на хвіліну паверыць існаванню такіх уяўленняў у італьянцаў, якія жылі за 2000 гадоў да нашага часу, у людзей, самыя інтэлігентныя прадстаўнікі якіх яшчэ верылі, што ў аддаленых краінах зямлі жывуць цыклопы, цэнтаўры, ундзіны і німфы, і ўяўляўшыя і пісаўшыя, што багі з Алімпа спускаліся да дочак старажытнага чалавека і заводзілі з імі амурныя сувязі. Нават жа і беглага азнаямлення з гэтым вершам цалкам дастаткова для таго, каб сказаць: тут апокрыф вальнадумца эпохі Адраджэння, калі найвышэйшыя прадстаўнікі чалавечага інтэлекту ўжо перасталі верыць у цуды. Ён першы прыйшоў да такіх слушных высноваў не раней як у XIV стагоддзі, але, не адважваючыся напісаць такія ерэтычныя думкі ад свайго імя, ён выдаў іх за твор паганскага пісьменніка, які быццам бы жыў яшчэ гадоў за 50 да «з’яўлення Хрыста» і таму меў права выказваць такія, згодна з тымі часамі, ерэтычныя рэчы.

«Чалавек з'яўляецца, – працягвае Осбарн, пераходзячы ўжо на рэальную навуковую глебу, – на гарызонце доўгай геалагічнай гісторыі зямлі пад час плейстацэнавага ці ледавіковага перыяду, і ў пасьля-ледавіковы – «дылювіяльны» папярэдніх геолагаў. Людзі старажытнага каменнага веку вядомыя ў Заходняй Еўропе з другой паловы ледавіковага перыяду і да канца пасьля-ледавіковага, калі старажытны каменны век (палеаліт) з яго дзіўнымі млекакормячымі і чалавечымі расамі паступова прыходзіць да канца і наступае новы каменны век (неаліт) з іншым кліматам, з лясамі, сенажацямі, і першымі выдатнымі альпійскімі ландшафтамі (табл. I).

Табліца V

**Эвалюцыя людей із млекакормячых жывёл.**

| Галоўныя аддзелы | Перыяды і эпохі. | | Расьліны і жывёлы. |
|---|---|---|---|
| Чацвярцічны | Сучасны. | Сучасны алювія. | Узвышэнне сусьветных культур. |
| | | | Прылады із жалеза, бронзы і |

| | | | |
|---|---|---|---|
| | | | паліраванага каменя. |
| | | Пасьляледавіковы. | Выміранне вялікіх млекакормячых. |
| | Плейстацэн. | Ледніковы. | |
| Трэцічны. | Плеацэн. | Позні трэцічны | Переход от человека-малпы да чалавека. |
| | Міацэн. | | Вышэйшае развіццё млекакормячых. |
| | Алігацэн. | Ранні трэцічны | З’яўленне челавекападобных малпаў |
| | Эацэн. | | З’яўленне вышэйшых тыпаў млекакормячых і выміранне прымітыўных формаў. |
| | Палеацэн. | | З’яўленне прымітыўных формаў млекакормячых. |

На працягу гэтай працяглай эпохі патрэбна разглядаць Заходнюю Яўропу як паўвыспу, амаль аточаную морам і распасьціраўшуюся на захад ад мацярыка ўсходняй Яўропы і Азіі; ён-та і паслужыў галоўнай арэнай эвалюцыі як жывёльнага сьвету, так і чалавека. Гэта быў як «далёкі захад» для ўсіх перамяшчэнняў жывёл і чалавека (мал.16).

Ужо ў 1854 г. Марло знайшоў каля Дзюрнтэна на беразе Цюрыхскага возера пласты з выкапнёвымі расьлінамі, якія паказвалі на існаванне перыяду паўднёва-ўмеранага клімату і знаходзіліся яны паміж магутнымі адкладаннямі ледавіковага паходжання. Гэта прывяло да высновы пра існаванне шэрагу халодных ледавіковых перыядаў і цёплых паміжледавіковых, якія змянялі адзін аднаго ў гэтых месцах.

Даследаванні Гейкі, Чэмберлена, Солсберы, Пенка, Брукнера і Лівярэта прывялі да падзелу на восем перыядаў ці эпох плейстацэнавага часу, а менавіта: чатыры ледавіковыя, тры міжледавіковыя і адзін наш пасьляледавіковы, і гэта выявілася праўдзівым не толькі для Еўропы, але і для Паўночнай Амерыкі, дзе яны былі адначасна з еўрапейскімі (мал. 17). А калі з'явілася магчымасць вызначэння, да якога ледавіковага, ці міжледавіковага перыяду адносяцца знаходзімыя выкапнёвыя рэшткі чалавека і яго культуры, то асаблівую цікавасць набыло цяжкае пытанне пра агульную працягласць усіх ледавіковых перыядаў і розных ледавіковых і міжледавіковых эпох.



Мал. 17.

*Размеркаванне ледавікоў на паўночным паўшар'і Зямлі ў эпоху найвялікшага аледзянення чацьвярцічнага перыяду.*

Вось як ацэньвалі іхную суму розныя аўтары, не браўшыя да ўвагі ўжо апісаных намі ваганняў зямной восі і экліптыкі.

1863 г. Чарльз Ляйэль: «Падмуркі геалогіі» 800.000 гадоў
1874 г. Джэмс Д. Дэйя: «Кіраўніцтва па геалогіі» 720.000 гадоў
1893 г. Чарльз Д, Уолкат: «Геалагічны час» 400.000 гадоў
1893 г. У. Эпгем: «Вызначэнне геалагіч. часу» 100.000 гадоў
1894 г. А. Гейм: «Пра абсалютную працягласць ледавіковага перыяду» 100.000 гадоў
1900 г. У. Соллас: «Эвалюцыйная геалогія» 400.000 гадоў
1909 г. А. Ненк: «Альпы і ледавіковы перыяд» 520.000-840.000 гадоў
1914 г. Джэймс Гайкі: «Старажытнасць чалавека ў Еўропе» 620.000 гадоў

Але ўжо сам факт вялізных адрозненняў прыведзеных лічбаў дастаткова сведчыць, што ўсё яны ні на што не прыдатны, і нам нічога не застаецца зрабіць як сказаць, што мы не можам даць апроч астраноміі аб'ектыўнай ацэнкі гэтым часам, а таму і павінны браць не самыя доўгія із усіх магчымых тэрмінаў (таму што для іх не існуе верхняй мяжы), а самыя кароткія якія пагадняюцца з геафізічнымі і іншымі рэальнымі умовамі жыцця на зямлі.

Гэта збольшага і зроблена ў нядаўні час (1921 г.) вядомым французскім палеантолагам Марсэлем Булем у яго вялікай працы пра выкапнёвага чалавека, пры

чым на пасьляледавіковы перыяд ён адпускае толькі ад 8 да 15 тысяч гадоў, назад ад нашага ўласнага часу, а згодна з нашымі папярэднімі разважаннямі апошні ледавіковы перыяд быў у поўным разгары 12.000 гадоў назад.

Якімі ж былі нашы продкі ў гэты час?

«У жніўні 1856 года, – кажа В. В. Перадольскі ў сваёй маленькай, але захапляюча напісанай кніжцы: «Навука пра чалавека», – на палове шляху паміж Дзюсельдорфам і Эльберфельдам, у глеі пячоры на беразе Рэйна, на 18 метраў вышэй роўня вады, у мясцовасьці Неандарталь была знойдзена крышка нізкага чалавечага чэрапа (мал. 18), а побач у тым жа пласьце глею выявіліся косткі насарога, пячорнага мядзведзя і іншых жывёл, якіх даводзілася аднесьці да першай паловы Чацьвярцічнай эпохі. Увагу навукоўцаў апроч старажытнасьці чэрапа прыцягнула і яго адмысловая форма: ён амаль не меў ілба і валодаў вельмі моцна развітымі брывянымі дугамі, г. азн. згодна з выглядам вельмі набліжаўся да чэрапа чалавекападобнай малпы. Потым у 1872 годзе быў апісаны Фютцам чарапны звод з прыкметамі неандэртальскага, знойдзены ў чацьвярцічных пластах Багеміі каля Прагі. У 1883 годзе каля Прагі на глыбіні сажня быў знойдзены такі ж чалавечы звод чэрапа каля яго костак, бівень мамана, два чэрапы насарога і іншых жывёл таго часу. Гэта азначае, зноў была першая палова чацьвярцічнай эпохі, і зноў чалавек маларазумны.




Мал.18

*Неандэртальскі і Энгізскі чарапы.*
*1. –Неандэртальскі і 3.–Энгізскі збоку.*
*2.–Неандэртальскі і 4.– Энгізскі зпераду.*
*5.–Неандэртадьскі і 6.– Энгізскі зверху.*

Даводзілася прызнаць, што малы лоб, г. азн. малая ступень развіцця пярэдніх доляў вялікага мозгу з'яўляецца характэрнай прыкметай не нейкіх выродкаў, а здаровых людзей першай паловы чацьвярцічнай эпохі.

І сапраўды, усе далейшыя знаходкі падцвердзілі гэта.



Мал.19.
*Поўны неандэрталскі чэрап з пячоры Буфія, знойдзены каля Ла-Шатель о Сан у 1908 годзе.*

У 1883 годзе ў чыгуначнай выемцы ў Марсэлі ў чацьвярцічных пластах зноў быў знойдзены такі ж неандэрталоідны звод, потым у 1894 годзе Р. Оўан апісаў падобны ж чэрап з левага берага Тэмзы із Цыльбюры, і тое ж паўтарылася ў 1885-1886 гадах пры раскопах дэ-Пюі, Лааэст'а і Фрэпожа ў Бельгіі ў правінцыі Намюр, у пячоры Спі. А ў 1908 годзе абаты Баусанье і Бардзін знайшлі ў пячоры Буфія, належаўшай суполцы Лашапель о-Сан поўны чэрап з тваравымі косткамі, звод якога быў тыпова неандэрталоідны (мал. 19). Усё гэта былі чарапы людзей, якія жылі ў першай палове чацьвярцічнай эпохі.

У 1891 годзе ў цэнтральнай частцы Явы каля Тынэль быў знойдзены галандзкім лекарам Дзюбуа чарапны звод і асобна ад яго некаторыя косткі адметнай істоты, пра якую паўсюль загаварылі.

– Хто гэта быў: звер ці чалавек?

«Пабудова чарапнога зводу нагадвала чалавека, таксама як і косткі нагі, але чэрап уражваў поўнай адсутнасьцю ілба і вельмі вялікай ступенню развіцця брывяных дуг. Характар пабудовы костак нагі вымушаў выказаць здагадку, што гэтая істота супрацьпастаўляла вялікі палец на ёй астатнім, гэтак жа як гэта робяць і малпы. Першай думка была тая, што знайшлі косткі трацічнага чалавека; далейшае ж стараннае вывучэнне і костак, і пласта глебы, дзе яны былі знойдзены, пераканала, што гэта была істота прамежкавая паміж чалавекам і малпай, якога і назвалі таму антрапапітэкам (Anthropopithecus erectus) ці пітэкантрапам (Pithecanthropus erectus) (Мал. 20 і 21).



Мал. 20.
*Верхняя, частка чэрапа пітэкантрапа збоку і зверху (з выспы Ява)*



Мал. 21.
*Поўны чэрап пітэкантрапа (Pithecanthropus erectus) рэстаўраваны Мак-Грэгарам.*

«Знаходка яго костак дала патрэбнае звяно паміж чалавекам і андрапоіднымі малпамі, і такім чынам сабрала ў адзінае цэлае ланцуг чалавечага існавання і існавання астатніх жывёл. У наш час чалавецтва ведае сваіх найстаражытнейшых продкаў, людзей, якія жылі напачатку чацьвярцічнай эпохі і вызначаліся вельмі слабымі праблiскамі разумовай дзейнасьці, пра што сведчыла слабае развіццё лобных долей мозга. Найбольш развітыя із іх жылі ў сярэдняй вобласці паўднёва-заходняга кута еўрапейскага мацерыка, а найменш разьвітыя ў паўднёва-усходняй вобласці азіяцкіх выспаў і былі яшчэ напалову звярамі. Вось факты, якімі валодае сучасная навука па пытанні пра самае аддаленае мінулае чалавецтва.

Якой жа была нагода ачалавечвання трацічнага звера ў Яўропе напачатку чацьвярцічнай эпохі? Адказ на гэтае пытанне дае нам, – кажа Ў. У. Перадольскі,– жыццёвыя абставіны, якія з'яўляюцца галоўным рухавіком эвалюцыі жывёльнага сьвету.

«У эпоху, якая папярэднічала нашаму паўночнаму ледавіковаму перыяду, у лясах мяккага клімату, сярод трацічных млекакормячых жыў звер-чалавек, лазіў па дрэвах (нага ў знаходцы Дзюбуа), сілкаваўся іх пладамі, быў сыты і задаволены, не клапаціўся пра заўтрашні дзень і быў зверам. Але з поўначы пацягнула холадам, клімат стаў рэзка і хутка змяняцца, і на зелянеючую лістоту дрэваў пачаў падаць снег.



*Сучасны француз*



*Шымпанзэ*



*Неандэрталец із Ла-Шапель о Сан*

Мал 22, 23 і 24
*Paраўнанне чарапаў*

«Заварушыўся ўвесь жывёльны сьвет, умовы жыцця змяніліся, знікла магчымасць жыць па ранейшаму, а па новаму досьвед продкаў не вучыў, бо яго ў дадзеным выпадку і не было. Усё пабегла, ратуючыся ад холаду, хто куды мог, у чужыя краіны. А холад гоніцца ззаду, насоўваецца і не дае надоўга спыніцца. Новыя краіны, новыя мясцовыя зьвяры, і змаганне з імі незнаёмых з новым становішчам напалову звяроў прыхадняў. Кожны крок наперад быў крокам вымушаным пагражаючай ззаду бядой, і перасяленцы павольна пасоўваліся да поўдня, па меры наступлення ледавіка на поўдзень. Вялізная колькасць іх згінула на шляху, а надыходны лёд перацёр у пыл іхныя косткі. Але сёй-той ацалеў і, калі спыніўся ледавік, спыніліся ў найбліжэйшым суседстве з ім і прыгнаныя ім на поўдзень звяры. Холад быў моцны, трэба было шукаць абарону ад яго, і ў пошуках цяпла ацалеўшыя ад холаду напалову людзі забіваліся ў кожны абаронены куток, якімі з'яўляліся пераважна пячоры, змагаючыся за іх паміж сабой і з ацалелымі мясцовымі насельнікамі. У пячорах ішло зацятае змаганне за ўладанне імі, г. азн. за цяпло, а, азначае, і за існаванне. Пераможаны гінуў, пакідаючы сведкам свайго існавання толькі абгрызеныя пераможцам косткі, пераможац жа ацаляваў, пакідаючы след свайго існавання ў нашчадках».

Найменні большасьці прадстаўнікоў жывёльнага сьвету таго часу, вядомых навуцы, маюць дадатак пячорны: пячорны леў, пячорная гіена, пячорны мядзведзь, і гэты дадатак да іхнага наймення нададзены таму, што іхныя косткі сустракаюцца выключна ў пячорах, і каля іх у тых жа пячорах знайшлі і чарапныя зводы неандэртальскага чалавека.

Чаму толькі зводы?

«Таму, што гэта ацалеўшыя аб'едкі ад цела пераможанага ворага, выкінутыя праз непрыдатнасць для ўжывання. Гэты вораг – у дадзеным выпадку нараджаючыся із напалову звера чалавек – быў узброены вельмі слаба, амаль бяззбройны: слабыя пазногці, зубы і кулакі, а яго супернікі, моцныя драпежнікі жывёльнага сьвету, былі выдатна ўзброеныя. Але зьвера-чалавек змагаўся з імі, удасканальваўся ў гэтай барацьбе, прыдумляючы ўсё новыя сродкі абароны і

нападу, і гэтым развіваў свой розум, ператварыўшыся ў чалавека. У яго пачалі працаваць і развівацца лобныя долі мозгу, утварацца лоб, і звера-чалавек ператварыўся, нарэшце, у неандэрталоіднага чалавека».

«Пад час эпохі, старажытнасць якой знаходзіцца па за ўсімі нашымі храналогіямі, – гаварыў Брака ў 1878 годзе, – сярод гіганцкіх пачвар, якія змагаліся за валоданне нашай Зямлёй, з'явілася слабая і вартая жалю істота, голая і бяззбройная, якая ледзь вяла дзень пры дні галоднае існаванне і не меўшая іншага сховішча апроча пячор і расколін скал супраць паграджаўшых з усіх бакоў небяспек. Відавочна, што гэтая істота была пазбаўлена ўсяго, што можа даць перамогу ў змаганні за жыццё. Але яна валодала дзвюма прыладамі ў больш дасканалай ступені, чым кожная із іншых істот: мозгам, які загадвае, і рукой, якая выконвае.

Пра развіццё яго мозгу мы мяркуем па развіцці яго чэрапа (мал. 22, 23 і 24), а пра дзейнасць яго рукі сведчаць яго каменныя вырабы (мал. 25). Згодна з І. Мюлерам, «зіма і голад ператварылі сілкаваўшыхся раслінннай ежай прыматаў у жывёлаў двухногіх, разумных і ўсёядных, г. азн. – у людзей».

Да гэтага часу самымі старажытнымі вырабамі чалавека з'яўляюцца рэчы, знойдзеныя д'Асіі дэ-Шукэ ў даліне ракі Марны ў мясцовасьці Шэлль. Тыповымі прыладамі гэтага часу – **шэльскай** эпохі – з'яўляюцца кулачныя сякеры (coups de poing) крамяні міндалепадобнай формы, каля чвэрці аршына даўжынёй, абчасаныя буйнымі адколамі і прыстасаваныя да захопу рукой (мал. 25). Тупы край міндаліны пры ўжыванні прылады ўпіраўся ў далонь, а востры – служыў ударным бокам.

Разгадаць прызначэнне гэтай прылады дапамаглі тоесныя вырабы, якія яшчэ вельмі нядаўна былі ва ўжыванні ў тасманійцаў і некаторых іншых малакультурных народаў. Гэта кулачная прылада без пристаўной ручкі служыла першабытнаму чалавеку і прыладай абароны, і прыладай нападу, і, нарэшце, прыладай хатняга ўжытку, калі ён з яе дапамогай рассякаў шкуру на забітым зверы ці разбіраў тушу на часткі. «Кулачная сякера» была першай і адзінай па тым часе прыладай першабытнага чалавека.




Мал. 25.

*Тры стадыі эвалюцыі каменнай сякеры.*
*A – Эалітычная крамянёвая сякера-кірка – просты адбітак.*
*B – Палеалітычная сякера шэльскай эпохі. Груба аббіты камень.*
*C – Неалітычная сякера, ужо адшліфаваная. (Згодна з Макдзі).*

Груба абабітыя наканечнікі дзідаў таксама знойдзены сярод найстаражытнейшых вырабаў чалавека, а разгадаць іхнае прызначэнне і спосабы

замацавання да дрэўка таксама дапамагае нам вывучэнне адпаведных прылад сучаснага дзікуна, якія цалкам падобныя на найстаражытнейшыя, знойдзеныя ў ледавіковых адкладаннях. Але выкапнёвыя прылады ў большасьці выпадкаў уяўляюць толькі рэшткі ранейшых прылад, тую іхную частку, якая не зведала разбураючга ўздзеяння часу. Вось чаму прылады сучаснага дзікуна ўяўляюць для нас вялізнае значэнне, даючы магчымасць грунтуючыся на іхным узоры аднаўляць у нашым уяўленні патрэбныя часткі.

Наступная за шэльскай эпоха – **ашэльская** – распазнаецца на падставе знаходак у даліне ракі Сомы, у прадмесьці Сэнт-Ашэль горада Ам'ена. Тут пры здабыванні пяску з гаспадарчымі мэтамі штогод дастаецца із пясочных ям па некалькі соцень «кулачных сякер».

Далейшы крокам у папаўненні запасу прылад старажытнага чалавека ўяўляе апісаная Габрыэлем-дэ-Мартылье, **мусцьерская** эпоха. У Францыі, у дэпартаменце Дардані, па даліне ракі Везеры, у пячоры Мусцье, былі знойдзены ў 1867 годзе пабытавыя рэшткі чалавека ледавіковага перыяду, наступнага за ашэльскім – у жыццёвым ужытку якога з’явілася новая прылада: скрабкі, прызначаныя для апрацоўкі скур. Знятая чалавекам з забітага звера і надзетая ім на сябе скура высыхала, цвярдзела і ламалася. Яна набывала дастатковую ступень мяккасьці і прыставанасьці для апранання на цела толькі тады, калі ў яе здзіраўся ўнутраны засыхаючы слой. Падобная прылада захавалася да нашага часу ў асяроддзі шматлікіх палюючых дзікуноў.

Агульная пасьлядоўнасць гэтых эпох дадзена згодна з Осбарнам і Рысам у табліцы II.

Табліца II.
Эвалюцыя чалавецтва на Зямлі.

| **Ледніковыя і міжледавіковыя эпохі.** | **Культура.** | | | **Першабытныя чалавечыя расы.** | **Жывёлы і расьліны.** |
|---|---|---|---|---|---|
| Сучасная. | Гістарычная, археалагічная і неалітычная. | | | Сучасныя расы. | Сучасныя флора і фаўна. |
| Пасьляледавіковая эпоха. Новы лёс. | Азіль-Тардэнуазская. Мадленская. Салютрэйская. Арыньякская | } | Верхне-палеалітычныя. | Грэнельская. Краманьёнская. Грымальдыйская. | Перыяд паўночнага аленя. Фаўна халоднага часу; арктычныя, стэпавыя, альпійскія, лугавыя і лясныя віды расьлін. |
| Чацьвёртая ледавіковя (вюрмская, віскансінская). Верхнія наносы. Ніжнія тэрасы. | 4. Мусцьерская. 3. Ашэльская. 2. Шэльская. | } | Ніжне-палеалітычная. | Неандэртальская. Неандертальская. Неандэртальска-крапінская. | Фармаванне стэпавай і тундравай фаўны. |
| Трэццяя міжледавіковая (Рыс-вюрмская, Сан-гамонская). Сярэдні лёс. | 1. Да-шэльская. | } | Эалітычная. | Пілцьдаўнская. | Фауна цёплага часу афрыка-азіяцскага тыпу: старажытны слон, першабытны мамант, насарог Мерка, бегемот, а таксама лясная і луговая евразійск. фаўна. |
| Трэццяя ледавіковая, (Рыская). Сярэдн. наносы. | | | | | Тундравая фаўна холоднага часу. Мамонт і шарсьцісты насарог. Першае з’яўленне стэпаў і паўн. аленя. |
| Другая міжледавіковая (міндэль-рыская, гельвецкая). Працяглы цеплы перыяд. | | | | Гейдэльбергская челюсть. | Фаўна цёплага часу афрыка-азіяцкага тыпу: старажытны слон, першабытны мамант, |

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| Старажытны лёс. | | | | | носарог Мерка, бегемот. |
| Другая ледавіковая (міндэльская, саксонская, канзанская). | | | | | Першае з'яўленне фаўны халоднага часу. |
| Первая міжледавіковая (гюнцміндэльская, норфалькская). | | | | | Фауна цёплага часу афрыка-азіяцкага тыпу: паўднёвы слон, этрускі насарог, бегемот, махайрод. |
| Першая ледавіковая. Старажытныя терасы. | | | | Пітэкантрапы. | Фаўна халоднага часу (Forest Bed) паўднёвай Ангельшчыны. |
| Пліяцэн. | | | | | Пліяцэнавыя лясы цёплага часу. |
| **(Згодна з Осбарнам і Рыдлеем).** | | | | | |

Ці быў у гэты час ужо вядомы спосаб здабывання агню? Па беразе ракі Дон, у Варонежскай губерніі, каля вёскі Касьцянок, Я. С. Палякоў знайшоў у 1879 годзе стаянку людзей палеалітычнай эпохі часоў ледавіковага перыяду. Тут, сярод знойдзеных палеалітычных прылад і костак мамантa, адна із апошніх (костка таза) захавала ў вяртлужнай выемцы рэшткі вугалю і костак, рассечаных рукой чалавека.

Гэта азначае, чалавек палеалітычнай эпохі ўжо ведаў агонь і ўмеў ім карыстацца, але яшчэ не ўмеў атрымліваць яго штучна і задавальняўся тым, што, набыўшы полымя ад ляснога пажару, ён старанна падтрымваў яго ў сваім жыллі. Чалавек разглядаемай эпохі, як мы ўжо ведаем, жыў спачатку ў пячорах, потым пад выспупамі скалаў і, нарэшце, на берагах рэк, напэўна, у лясных зарасніках. Два першыя месцы жыхарства ўяўляюцца прыдатнымі для працяглага захавання полымя; у дачыненні апошняга мы нічога не можам сказаць, бо не ведаем, якім было жытло ў чалавека ў гэтых мясьцінах, не абароненых натуральнымі ўтварэннямі. Мы можам толькі дапусьціць, што ў лясных зарасніках чалавек будаваў над сабой дах. Напэўна, гэта было нешта падобнае на будан ці зямлянку.

«Больш блізкае знаёмства чалавека з полымем, што выяўляецца ў штучным яго атрыманні з дапамогай шаравання, абагаціла старажытнае жыццё новымі тэхнічнымі дасягненнямі. Здабыванне полымя свідраваннем, г. азн. колападобнымі рухамі, прывяло чалавека да вынаходніцтва мастацтва свідравання і да магчымасьці вырабляць адтуліны, спачатку ў адносна мякім матэрыяле – дрэве, а потым і ў больш цьвёрдых рэчывах: рог, костка і, нарэшце, камень».

Я знарок выкарыстаў тут найбольш выразныя ўрыўкі іншых аўтараў для таго, каб зрабіць фактычную частку свайго апісання больш выразнай і аб'ектыўнай. Грунтуючыся на гэтым жа самым меркаванні і зараз, пераходзячы да выкладання ўмоваў, пры якіх былі знойдзены ў зямлі розныя чалавечыя рэшткі, я прывяду ўрыўкі із адмысловых крыніц, бо самаму мне не давялося практычна займацца такімі даследаваннямі.

«Пілтдаўнскі чалавек»[10] (мал. 26), – кажа Осбарн, – з'яўляецца найбольш старажытным тыпам чалавека, у якога вядомы форма галавы і велічыня мозгу.

[10] У 50-я гады «пілтдаўнскі чалавек» быў прызнаны падробкай, скампанаванай із чэрапа чалавека і сківіцы малпы. Косткі былі хімічна афарбаваны падпілаваны і «падламаны» адна да другой. Хто гэта зрабіў, да гэтага часу не вядома. У 80-х гадах у «Савецкай Расіі» праслізгвала інфармацыя, што да гэтага меў дачыненне Артур Конан Дойль – сусед Чарлза Доўсана (які знайшоў касткі). Нібы, Доўсан крытыкаваў персанаж Дойла – Шэрлака Холмса і метад дэдукцыі, і Конан Дойль злосна пажартаваў над ім. Дойль згодна з адукацыяй – лекар, ён меў веды для падобнай падробкі. Але ўсё гэта толькі чуткі.

Таму асаблівасьці яго анатамічнай пабудовы і геалагічная старажытнасць гэтай знаходкі ўяўляюць вялікую цікавасць і заслугоўваюць самай сур'ёзнай увагі».



Мал. 26.
*Пілтдаўнскі чэрап, рэстаўраваны грунтуючыся на адломках, Мак-Грэгарам. Выгляды збоку, спераду і зверху.*




Мал. 27.
*Геалагічны разрэз пілтдаўнскіх адкладанняў згодна з Доўсанам. У падмурку трэцяга пласта паказана месца, дзе былі знойдзены адломкі чэрапа і ніжняя сківіца.*

Пілтдаўн знаходзіцца ў графстве Сусекс і размешчаны паміж двума прытокамі ракі Аўзы, каля 56 кіламетраў на поўдзень і часткова на ўсход ад Грэйс Церака. Разрэз адкладанняў жвіру (мал. 27) паказвае, што рэшткі пілтдаўнскага чалавека былі змыты ўніз разам з іншымі выкапнёвымі рэшткамі неглыбокім струменем і перамяшаны з цёмна-карычневым жвірам і неапрацаванымі крамянямі; некаторыя із гэтых рэштак адносяцца да пліяцэнавага часу і паходзяць з тых пластоў, якія знаходзіліся ў верхняй плыні струменя. У гэтым ранейшым рэчышчы былі знойдзены рэшткі шмат якіх жывёл таго ж часу, што і пілтдаўнскі чалавек, некалькі крамянёў, якія нагадваюць эаліты, і адзін вельмі прымітыўна апрацаваны крэмень да-шэльскага тыпу, які таксама мог быць змыты і прынесены ўніз із адкладанняў пазнейшага часу. Гэтыя каштоўныя геалагічныя і археалагічныя дакументы даюць адзіны сродак для вызначэння ўзросту «даўнскага чалавека», – эаантропа (Eoanthropus), – адной із найбольш істотных і важных знаходак на працягу ўсёй гісторыі антрапалогіі. Для выразнасьці ўяўленняў я даю тут малюнкі 26 і 27, якія паказваюць, якім малым быў мозг ранейшых людзей параўнальна з нашым, і апроч таго хачу перасьцярэгчы чытача ад перабольшанага ўяўлення пра старажытнасць гэтых знаходак, датаванне якіх грунтуецца па першым уражанні ад глыбіні іхнага знаходжання.

Звярніце ўвагу на тое, што ва ўсіх пластах зямлі, якія накрываюць рэшткі хоць бы гэтага эаантропа, знаходзіліся крамяні і буйны жвір (мал. 27). Такія наносы маглі вырабляцца толькі моцнымі фізічнымі фактарамі, а таму і іхныя штогадовыя прырашчэнні былі значнымі.




Мал. 28 і 29.

*Эвалюцыя чалавечага вялікага мозгу. Чорная лінія ўгары – бакавы абрыс мозгу сучаснага еўрапейца. Пад ім – неандэртальца (наступная суцэльная лінія); пад ім – пільтдаунца (рысачкі і кропкі); пад ім – пітэкантрапа (кропкі); пад ім – шымпанзэ самы маленькі мозг, пры гэтым і гэтая малпачка невялікая).*

Будзем лічыць, што кожны год глеба тут дадавалася толькі на адзін сантыметр (менш за таўшчыню пальца), і пры такіх умовах вышыня ўсіх наносаў у 1½ метры ўтварылася б толькі за паўтараста гадоў, а ўвесь астатні час давялося б аднесьці выключна на прамежкі спакою глебы, якія могуць і не пераўзыходзіць тысячагоддзе.

Гэтыя ж разважанні можна дапасаваць і да ўсіх астатніх антрапалагічных знаходак, асабліва да перад-сучасных, да якіх, напрыклад, адносіцца грымальдыйская раса (мал. 30), ці знойдзеныя ў нас.

Вось, напрыклад, на беразе возера Ільмень, пры вытоку ракі Волхава, было знойдзена ў 1888 годзе В. С. Перадольскім вялізнае паселішча неалітычнай эпохі, даўшае звыш 60 тысяч прадметаў побыту чалавека да-азёрнага перыяду. На грунт сіняй гліны ледавіковага паходжання, змяшчаючай характэрны ледавіковы друз, налягае шчыльны пласт чорнай наноснай гліны да двух аршынаў таўшчынёй. Гэта чорная гліна і змяшчала ў сабе ўсе прадметы, знойдзеныя ў Каломцах, а яе колер абумоўлены самім існаваннем тут шматлікіх людзей: харчовыя парэштки і ўсе занесеныя сюды чалавекам арганічныя рэчывы з цягам часу перагнілі і афарбавалі пахаваўшую іх гліну ў інтэнсіўны чорны колер. За такімі пластамі глебы, утрымліваючымі парэштки побыту чалавека, у навуцы замацавалася назва культурных пластоў. Культурны пласт Каломцаў, таўшчынёю да двух аршынаў, непасрэдна ляжыць на ледавіковай гліне.



Мал. 30

*Шкілеты перад-сучаснай грымальдыйскай расы, знойдзеныя ў ніжнім Арыньякскім напластаванні ў «Гроце дзяцей». Справа – шкілет юнака, злева – кабеты (згодна з Верно). Магчыма схаваліся ад небяспекі ў пячоры і, заваліўшы вогнішча зямлёй, учадзелі.*

Зверху ён накрыты магутным наносам (звыш сажані таўшчынёй) чырвонай гліны, абавязанай сваім паходжаннем азёрнаму перыяду, а гэтая гліна, у сваю чаргу, накрыта глеістым старым наносам і потым пяскамі, складаючымі ў агульным пласт больш сажані таўшчынёй. Вырабы чалавека і парэшткі яго самога знойдзены толькі ў культурным пласьце, які аддзелены ад сучаснай дзённай паверхні пластом глебы звыш двух сажаняў таўшчыні. Геалагічная вызначанасць часу яго паходжання надае выключнае значэнне каломенкай знаходцы. Вось як апісвае яе В. В. Падольскі.

«Сіняя ледавіковая гліна, якая служыць непасрэднай глебай культурнаму пласту Каломцаў, паказвае нам, што існаваўшае тут чалавечае селішча ўзнікла ўжо пасьля адкладання гэтай гліны. Яе напластаванне з’яўляецца вынікам раставання адыходзіўшага да поўнач вялікага ледавіка: вада раставаўшых ледзяных палёў выносіла з сабой раскрышаныя парэшткі разбураных лёдам горных парод і потым адкладала іх на дне залітай вадой мясцовасьці. Налягаючы на гэтую сінюю гліну

культурны пласт сведчыць нам, што заліты вадой падчас раставання ледавіка пляц Каломцаў выступіў тады із-пад пакрываўшай яе вады, і на ім пасяліўся чалавек, пражыўшы тут даволі працяглы прамежак часу, дастатковы каб на яго працяжэнні над сіняй глінай паспеў нарасьці (бясспрэчна дзукуючы вясновым разводдзям) культурны пласт звыш двух аршынаў таўшчынёй, пры гэтым існаваўшы тут чалавек мог знаходзіць сабе сховішча ад паводак на суседніх узвышшах і зноў выртаўся на Каломцы зараз жа пасьля сыходу вады.

«Наступіўшы пазней азёрны перыяд гэтай мясцовасьці, калі тут утварылася вялікае працёкавае возера, накрыў пакінуты чалавекам культурны пласт Каломцаў сажаневым наносам чырвонай гліны. А глеісты і пясчаны нанос, накрыўшы чырвоную гліну і стварыўшы сучасную паверхню Каломцаў, утварыўся ў прамежак часу ад заканчэння азёрнага перыяду і да нашых дзён.

«Каломецкое паселішча дае нам магчымасць вывучыць побыт чалавека, які жыў да тутэйшага азёрнага перыяду. Гэты побыт адносіцца да той эпохі культуры, якая мае назву неалітычная, а ўважлівае вывучэнне вырабаў разглядаемага часу і месца прыводзіць да высновы, што гэта была першая палова неалітычнай эпохі. Із вырабаў тут ёсць такія, якія не сустракаліся пад час палеалітычнай эпохі: стрэлы, жолабападобныя долаты, сякеры з прыстаўнымі ручкамі; вырабы, маючыя сьляды мастацкай творчасьці (мал. 31).



Мал. 31.

*Першабытныя прылады і начыненне, знойдзеныя ў Каломцах, пры вытоку Волхава із возера Ільмень. Направа – прасвідраваныя неалітычныя каменныя сякеры. Знізу – аленевы рог з выявай коней, над ім – спроба стварыць чалавечы твар із косткі. Налева – рог бізона як прылада, пазванок рыбы і гліняная пасудзіна – угары.*

«Шматлікія рыбныя косткі, із якіх некаторыя ўражваюць сваімі памерамі, сведчыць нам пра тое, што чалавек, жыўшы на Каломцах, спажываў рыбу не выпадкова, а ўмеў здабываць яе; існаванне рыбалоўчых прылад – гаплікаў, гарпуноў – падцверджвае нам, што ён здолеў ужо дайсьці і да адмысловых прылад гэтага майстэрства і, дададзім, майстэрства не вылучнага, а толькі дадатковага, таму што багацце звярыных і птушыных костак каля рыбных паказвае, што былыя насельнікі Каломцаў былі не толькі рыбакамі але і паляўнічымі. Апошняя

акалічнасць вымушае нас прызнаць за чалавекам разглядаемай эпохі ўжо значную ступень развіцця.

«Большасць рэшткаў ганчарнай вытворчасьці, знойдзеных у Каломцах, упрыгожана рознымі арнаментамі. Усе яны зроблены нанясеннем на гліну вырабляемай пасудзіны малюнка, складзенага із раўнамерна размешчаных простых і крывых паглыбленняў. Апроч малюнкаў на абпаленай гліне знойдзены малюнкі арнаментнага ж характару на костках, потым вырабы, перадаючыя абрысы жывёл у выглядзе сілуэтаў і, нарэшце, скульптурныя выявы самога чалавека, таксама із косткі.

Гэтыя вырабы паказваюць нам на існаванне ў чалавека інтарэсаў, ужо выходзячых за межы турбот пра падтрыманне свайго існавання. Былыя насельнікі Каломцаў ведалі арнамент, ведалі сілуэт і скульптуру, але яшчэ не ведалі featured рознабаковай выявы прадмета.




Мал. 32.

*Касьцяныя гарпуны мадленскай эпохі.*

*1-9 – гарпуны з адным шэрагам зубоў, характэрныя для ранне- і сярэдне-мадленскай эпохі. 1, 4, 8 – із Брунікеля; 2, 5 – із Ніжняга Лажэры; 6 – із Мас д' Азіль; 7 – із грота Меры; 3, 9 – із Вале і з Кастыльё; каля* $^1/_4$ *натуральнай велічыні. 10-15 – гарпуны з двума шэрагамі зубоў, адносімыя да пазьне мадленскай эпохі; 10, 12 – із Брунікеля: 11 – із Маса; 13 – із Муцье; 14 – із Ля Мадлен; 15 – із Кеслерлох у Швайцарыі; каля* $^1/_3$ *натуральнай велічыні.*

Кіруючыся тымі ж думкамі, якія мы выкарысталі пры вызначэнні часу напластаванняў над пілтдаўнскім чэрапам, мы і тут можам сказаць, што мінімальная працягласць стварэння наносаў, якія накрываюць культурны пласт Каламецкага неалітычнага мястэчка, лёгка можа не перавышаць паўтары тысячы гадоў. Нават выказаўшы здагадку, што пласты ледавіковага і азёрнага наносаў не дадавалі яму ў сярэднім за ўвесь гэты час больш чым 2 міліметры таўшчыні ў год, г. азн. на вышыню літар гэтага радка, мы атрымаем 1500 гадоў, а калі возьмем хоць трохі буйнейшы шрыфт, то ўвесь час памесьціцца і ў тысячу гадоў.



Мал. 33.
*«Венера із Вілейдорфа». Статуэтка із вапняка, знойдзеная ў Вілендорфскім гроце ў Ніжняй Аўстрыі і дапасуемая да пасьля арыньякскай эпохі.*

Другая палова неалітычнай эпохі характарызуецца, з аднаго боку, далейшым удасканаленнем ужо вядомых раней прыёмаў апрацоўкі каменя і косткі (мал. 32) і апрацоўкі гліны, а з другога – новым адкрыццём развіваючагася чалавецтва: спробай апрацоўкі кудзелістых рэчываў і вырабу з іх тканіны. Скульптура была першым із чалавечых мастацтваў, але перш чым яна дайшла да Медыцэйскай Венеры, яна павінна была прайсьці праз стадыю Вілейдорфскай Венеры (мал. 33).

Існаваўшая ўсюды рэдкасць чалавечага насельніцства падчас неалітычнага перыяду не давала яму ніякай магчымасьці для ўтварэння тых цэнтраў культурнага, эканамічнага і адміністрацыйнага прыцягненняў, пра якія я згадваў на пачатку гэтай кнігі. Стан чалавецтва ў гэты перыяд параўнальны з газападобным станам фізічнага рэчыва, калі яго малекулы адштурхоўваюцца адна ад адной і імкнуцца расбегчыся па ўсіх накірунках. Ніякага яго згушчэння ў нейкім месцы не магло існаваць у гэты час. Але падобна таму, як газападобныя рэчывы пры дастатковым згушчэнні пачынаюць збірацца ў кропелькі ці вылучаць крышталі на прыдатных месцах сваёй пасудзіны, так і чалавецтва, дасягнуўшы некаторай шчыльнасьці, пры якой атачаючая прырода ўжо не давала яму сама сабой дастатковай колькасьці ежы, пачало асядаць у найбольш прыдатных пунктах дзеля іх культуры, і яны рабіліся цэнтрамі культурных, адміністрацыйных і эканамічных палёў прыцягнення.

Пад час перыяду адасобленага, блукаючага, газападобнага стану адзінкавых насельнікаў ці дробных чалавечых статкаў на Зямлі, не магло, вядома, узнікнуць у людзей ніякай абстрактнай думкі. Чалавечая мова не магла выйсьці за межы простага паведамлення адзін аднаму пра атачаючыя з'явы навакольнага сьвету з дапамогай невялікай колькасьці адрозных гукавых знакаў. Яе інтанацыі не маглі выйсьці за межы элементарнага выяўлення сваіх унутраных адчуванняў шляхам адпаведных змен вышыні голасу, што паслужыла зародкам пазнейшай чалавечай песьні. Выказванні без дадатковых сказаў складаліся із адных дзейнікаў ці адных выказнікаў, як і зараз часта сустракаецца ў літаратуры мадэрністаў, зноў выцягнуўшых на сьвет, самі таго не разумеючы, гаворку сваіх продкаў неалітычнага перыяду.

Толькі пасьля стварэння дастаткова значных гарадоў, і менавіта ў іх, а не ў стэпах і не ў пустынях, і прытым у найболей зручных у геафізічным дачыненні мясцовасьцях і маглі ўпершыню ўзнікнуць дастатакова распрацаваныя гаворкі і здольнасць тэарэтычнага мышлення, а разам з імі і зародкі пераемна перадаючыхся ведаў і, нарэшце, пісьмовасць.

Хай чацьвёртая эпоха, пад час якой упершыню з'явіўся чалавек, працягвалася б нават і мільёны гадоў, – гэта не мае значэння. Разрознены чалавек жыў на яе працягу і працягваў бы жыць і зараз у такім жа дзікім стане, як і малпы, у поўным разумовым застоі, і не змог бы ніколі ператварыцца ў культурную і грамадзкую істоту, як і разрэжаны газ не можа ўтварыць із сябе кроплі вадкасьці, пакуль яго не ўшчыльнілі б да патрэбнага ўзроўню вонкавыя ўздзеянні.

У тых геалагічных і археалагічных эпохах і ў мясцовасьцях, дзе мы не бачым слядоў густога насельніцтва і рэшткаў значных гарадоў, мы не маем ніякага навуковага права меркаваць існаванне чаго-небудзь іншага, акрамя тых напалову людзей і напалову малпаў, якіх і дае нам палеанталогія.

Гэтым я і закончу мае ўступныя меркаванні пра ўплыў ледавіковых перыядаў на эвалюцыю чалавечага роду, і пра яго доўгі некультурны стан, а зараз мне трэба разгледзець яшчэ і ўплыў вулканічных магутнасьцей і з'яваў на развіццё яго ўяўлення, перш чым прыступіць да тлумачэння біблейскіх міфаў, складаючых галоўны прадмет гэтай другой кнігі.

# ЧАСТКА ПЕРШАЯ.

## Падземныя магутнасьці.



Мал. 34.
*Вязувій з боку Неапаля, малюнак пачатку XX стагоддзя.*

# ГЛАВА I.
## Старонка із геалогіі.

Прывяду перадусім некалькі ўрыўкаў із першага выдання выдатнай кнігі Я. В. Мушкетова «Фізічная геалогія», перамяшаўшы іх і са сваімі мяркаваннямі.

«Навуковае вывучэнне вулканізму, – кажа ён, – пачалося толькі ў XIX стагоддзі. Старажытныя тлумачылі дзейнасць вулканаў сваімі міфічнымі паданнямі і месцы вывяржэння лічылі брамамі ў падземны сьвет, а само вывяржэнне прыпісвалі намаганням Гефеста, гатаваўшага маланкі для Юпітэра. Нептуністы мінулага стагоддзя» лічылі іх за наступствы падземных пажараў каменнага вугалю ці нейкіх іншых гаручых рэчываў і не надавалі ім колькі-небудзь важнага значэння ў гісторыі развіцця зямлі, тады як плутаністы з пачатку цяперашняга стагоддзя пачалі надаваць ім амаль універсальнае значэнне. Кіруючыся формулай Гумбальта, што вулканічныя з'явы ўяўляюць сабой рэакцыю ўнутранага вогненна-вадкага ўтрымання на цьвёрдую кару зямнога шара, шмат хто із іх бачылі ў іх асноўную нагоду не толькі вывяржэнняў, але і землятрусаў, і павольных ваганняў сушы, і ўтварэння гор. Аднак больш дакладныя і шырокія даследаванні найноўшага часу даказалі, што вывяржэнні з'яўляюцца не нагодай, а хутчэй вынікам больш агульных тэктанічных працэсаў».

Вулканічныя вывяржэнні выяўляюцца ці на паверхні зямлі ці на некаторай глыбіні ў зямной кары, не дасягаючы перыферычнай часткі.

У першым выпадку вывергнутыя рэчывы, назапашваючыся каля цэнтра вывяржэння, утвараюць конусападобную гару з паглыбленнем на вяршыні, маючым назву кратар, які працягваецца ў канал, служачы для выйсьця расплаўленых і газападобных рэчываў із нутра зямлі. Падобны працэс і мае назву вулканічнага. У другім выпадку, г. азн. калі вывяржэнне не дасягае паверхні,

вулкан не ўтвараецца, і рэчывы маюць назву плутанічныя. Пры дапамозе дэнудацыі яны выступаюць на дзённую паверхню і робяцца даступнымі нашаму назіранню».

Із падручнікаў геалогіі мы ведаем, што вулканы падзяляюцца на дзейнічаючыя, г. азн. выробляючыя сталыя ці перыядычна паўтараючыяся вывяржэнні, і на патухлыя вулканы, пра вывяржэнне якіх не захавалася гістарычных сведчанняў.

Але ні за адзін вулкан, які лічыцца патухлым, нямагчыма паручыцца, што ён не адновіць сваю дзейнасць, калі знаходзіцца паблізу мора.

Так адзін із самых вялікіх еўрапейскіх вулканаў – Вязувій – у старажытнасьці нават не лічыўся вулканам; не захавалася ніводнага падання пра яго дзейнасць. Шыкаўная расьліннасць, якая пакрывала яго схілы, хавала яго вулканічную прыроду. У яго кратары, – кажуць нам гісторыкі, – хаваўся правадыр рабоў Спартак, і раптам праз 16 гадоў, якія прайшлі мірна пасьля моцнага землятрусу, Вязувій вырабіў жудаснае вывяржэнне якое разбурыла і засынала шмат вёсак і, – цяжка сказаць адначасна ці паасобку, – тры гарады: Геркуланум, Пампею і Стабію, толькі ў найноўшыя часы выкопваемыя із-пад попелу. З таго часу Вязувій знаходзіцца амаль у пастаяннай дзейнасьці і ўжо здзейсніў 32 моцных вывяржэнні, із якіх 10 прыпадаюць на сучаснае стагоддзе.

Дакладна так жа вулкан Тэмбара на выспе Сумбава лічыўся патухлым да 1815 г., калі ён здзейсніў вялізнае вывяржэнне, доўжыўшаяся чатыры гады і меўшае ўплыў на ўсе Малукскія выспы: Яву, Суматру, Барнэа і іншыя. Вулкан Гулунг-Гелунгун на Яве выявіў сваю дзейнасць толькі ў 1822 г., пасьля доўгага перыяду заспакаення, які дазволіў лічыць яго патухлым[11].

Я прапускаю тут далейшыя прыклады, прыводзімыя Мушкетавым, і перахожу наўпрост да характарыстыкі вулканічных мясцовасьцей.

Зірнуўшы на прыкладзеную мапу (мал. 35 і 36), мы бачым, што геаграфічнае размеркаванне сучасных дзейнічаючых вулканаў і вулканічных абласьцей, як мы ўжо адзначылі ў папярэдняй частцы, абумоўліваецца размеркаваннем мораў і вялікіх ліній дыслакацый зямной кары. Такім чынам, пры змяненні таго ці другога фактару, размеркаванне вулканаў таксама павінна змяніцца. Шмат якія вулканічныя вобласьці, якія былі дзейнічаючымі пад час трацічнай ці мелавой эпохі, у наш час, пры змяніўшыхся ўзаемаадносінах вады і сушы, ператварыліся ў патухлыя, і кожны вулкан у іх можа лічыцца цалкам заспакайнелым пры сучасным геафізічным стане яго мясцовасьці.

---

[11] Я. В. Мушкетаў, «Фізічная геалогія», ч. І., 1891 г.



Мал. 35 і 36.

*Вобласьці землятрусаў Заходняга і Ўсходняга паўшар'яў Зямлі. Чорныя палосы каля берагоў пазначаюць найвялікшыя прыліўныя хвалі, выробленыя землятрусамі. Гарызантальна заштрыхаваныя вобласьці – месцы, дзе не назіралася мясцовых землятрусаў. Пункцір – дзе назіраліся. Абведзены адметнымі контурамі найбольш моцныя землятрусы XIX стагоддзя (згодна з Мушкетавым). А із ранейшых пазначана толькі жудаснае Лісабонскае 1 лістапада 1755 г., прыліўныя хвалі якога абведзены контурам ад Сахары да Вест-Індыі і адтуль да Лабрадора, Ісландыі і Скандынавіі. Другі меншы контур даюць моратрусы 1811-1813 гадоў.*

Удалечыні ад сучсных акіянаў, нярэдка знаходзяцца шырокія пляцоўкі, занятыя вулканічнымі пародамі, напрыклад вобласць купалападобных вулканаў Аверіі, Эйфеля і велізнае базальтавае пласкагор'е Дэкана ў Індыі, маючае каля 12.000 футаў вышыні і да 40.000 квадратных вёрстаў плошчы. Не менш магутныя выліванні вулканічных парод знаходзяцца і па прытоках ракі Калумбія ў Паўночнай Амерыцы, распасьціраючыся на 3° па шыраце і на 5° па даўгаце. Усе такія старажытныя вулканічныя вобласьці ўжо даўно супакоіліся і спынілі сваю дзейнасць. Апроч факта ўльтра-дагістарычнага патухання, вывучэнне іх яшчэ паказвае, што ў ранейшыя старажытнейшыя часы выліванні былі значна больш масіўнымі і адбываліся больш спакойна, г. азн. не суправаджаліся такой напружанасьцю, як у сучасных вулканах. Іншымі словамі: вулканічныя працэсы адбываліся бліжэй да паверхні зямлі. Расплаўленыя масы, ціха выліваючыся дзякуючы гэтаму на паверхню, застыгалі ў выглядзе купалаў у Аверні, у выглядзе струменяў і шырокіх пакрываў у Індыі і ў Паўночнай Амерыцы, гледзячы на сваю большую або меншую глейкасць.

Лававыя і іншыя вывяржэнні бываюць не толькі із наземных, ужо ўтвораных вулканаў, але часам і із расколін як на сушы, так і на дне мора. Такія расколіны могуць утварыцца на цалкам роўнай мясцовасьці нават сярод культурных палёткаў, але калі вывяржэнні працягваюцца доўгі час, то ў выніку тут заўсёды ўтвараецца конусападобная гара з кратарам на вяршыні. Газы і выпарэнні, вылятаючы з

вялікай паступальнай энергіяй, захопліваюць з сабой вялізную колькасць цьвёрдых часцінак із лавы і з глыбінных рэчываў, праз якія адбываецца вывяржэнне, і ўтвараюць над вулканам цёмны дымавы слуп стаўрас (ςτάυρος) як называецца ў грэцкім арыгінале евангелляў і прылада пакарання сьмерцю евангельскага Хрыста. На некаторай вышыні яго верхавіна павольна распаўзаецца ў выглядзе шырокага чорнага воблака, якое часта ператварае дзень у цёмную ноч і надае вяршыні слупа крыжападобны выгляд (мал. 37).



Рыс 37

*Стаўрас (кол, крыж) – па-грэцку і сіён (слуп, пуцяводны знак) – па біблейску – над Вязувіем пры вывяржэнні 1822 гада, хмарападобны днём і вогненны ноччу.*

Гэты слуп нагадвае па форме італьянскую пінію, праз што яго і называюць пініепадобны слуп. Днём ён здаецца чорным ад дамешку дробных кавалачкаў лавы, а ноччу – палымяным слупом, велічны пакой якога ўяўляе выдатны кантраст з гудзеннем, шыпеннем, ударамі і канвульсіўнымі ўздрыганнямі наваколля вулкана (цалкам падобна таму, як апісаны ў Бібліі слуп, кіраваўшы уцёкамі богазмагальнікаў із міц-рымскага рабства). Нават вельмі моцныя бураны не ў стане адхіліць ці нахіліць гэты слуп; толькі яскравыя маланкі трохі парушаюць яго аднастайнасць. Вышыня яго розная і залежыць ад магутнасьці вывяржэння. На Вязувіі дымавы слуп нярэдка дасягаў да 1.000, а часам і да 5.000 метраў вышыні, напрыклад у 1872 годзе; на Этне 8 снежня 1868 года ён даходзіў да 2.000 метраў; на Кракатао 20 траўня 1883 года – да 11.000 метраў, а 26 жніўня – нават да 30000 метраў, сапраўды небывалая вышыня, куды заляталі толькі метэаралагічныя аэрастатыкі-занды. У той жа час вакол цэнтра вывяржэння пачынае падаць каменны дождж із попелу, вулканічных градзін (лапіллі) і вулканічных бомбаў; у паветры шырыцца задушлівы пах выпарэнняў серы і сярністай кіслаты, якія

вылучаюцца ў вялізнай колькасьці і атручваюць расьліны і жывёл; птушкі і казуркі валяцца мёртвымі (як біблейскія перапёлкі падчас вандравання богазмагальнікаў па сінайскаму стэпу) і нават рыбы гінуць і ўсплываюць на паверхню вады.

Дробны попел падае густымі шматкамі і напаўняе атмасферу да такой ступені, што абцяжарвае дыханне. Ён пакрывае тоўстым пластом наваколле вулкана, запаўняе ўсе пустэчы, не выключаючы драбнюткіх расколін. Дзякуючы сваёй незвычайнай лёгкасьці гэты попел выносіцца ў велічэзных колькасьцях на адлегласьці некалькіх тысяч кіламетраў ад цэнтра вывяржэння; блізка, ж каля вулкана ім засыпаліся цэлыя гарады.

Па меры нарастання дымавога слупа ўсё больш і больш узмацняюцца грымоты падземнага грому, шыпенне вылучаючыхся газаў і шум ад падання рыхлых рэчываў. У цёмнай масе стаўраса-слупа з'яўляюцца шматлікія сьветлыя палосы, якія праразаюць яго падобна маланкам. Гэта – сляды распаленых да-бяла і таму свяцячыхся кавалкаў лавы, якія выкідваюцца з надзвычайнаю хуткасьцю і, апісаўшы парабалічную дугу, з трэскам падаюць падобна ракетам на схілы гары.

Дасягнуўшы верхніх, халодных пластоў атмасферы, маса выпарэнняў дымавога слупа згушчаецца і ўтварае густыя хмары, выліваючыяся жахлівым ліўнем, які суправаджаецца моцнай навальніцай. Гэтыя навальніцы ўяўляюць неад’емнае наступства вывяржэння. Апроч таго, што электрычнасць развіваецца каля цэнтра падзеі, пары пініепадобнага слупа набываюць дадатную, а попел – адмоўную электрычнасць, і таму ўзнікаюць усе ўмовы для ўтварэння навальніц. Маланкі зіхацяць ва ўсіх накірунках, і неба бывае асьветлена не толькі імі, а і адлюстраваннем распаленых лаваў і палымянымі парабалічнымі лініямі даведзеных да белага сьвячэння адломкаў, рассякаючых аблокі.

Грымоты яшчэ больш узмацняюць і без таго велічэзны шум і надаюць вывяржэнню хаатычны выгляд, асабліва калі густыя хмары апускаюцца ўніз і акутваюць верхавіну вулкана. Жахлівы лівень, перамешваючыся з вулканічным попелам, утварае велічэзныя струмені бруду, якія, сцякаючы з незвычайнай хуткасьцю па схілах вулкана, запаўняюць яго наваколлі і знішчаюць усё, што ім трапляецца на шляху. Дзякуючы сваёй лёгкай рухомасьці, гэтыя струмені значна больш небяспечныя павольна поўзучай лавы і, высыхаючы, утвараюць вулканічны туф.

Усе гэтыя з'явы, паступова ўзмацняючыся, заканваюцца жахлівым выбухам, за якім ідзе выліванне палымяных струменяў лавы, завяршаючых велічнае дзейства вывяржэння. Лава ці спакойна выліваецца праз краі кратара (мал. 38), ці выходзіць са шматлікіх расколін на схілах вулкана, ці ж, нарэшце, выкідваецца ў выглядзе велічэзнага палымянага фантана, як, напрыклад, пры вывяржэнні Мауна-Лаа на Гавайскіх выспах у 1880 г. На ўсходнім яго схіле, амаль на палове вышыні вулкана, утварыўся лававы фантан у 140 сажняў вышынёй і 14 сажаняў у дыяметры, водбліск ад якога быў бачны за 200 міль.



Мал. 38

*Палымяны струмень лавы із Этны ў 1669 г (са старажытнай гравюры)*



Мал.39.

*«Пакінутая ззаду жонка Лота». Шлакавае ўтварэнне на лававым струмені Вязувія, калі ён праходзіць над нечым здольным раскладацца ад жару на газы, якім з'яўляюцца, напрыклад, целы жывёл. Тут пачынаецца маленькае вывяржэнне, ўздымаючае невялікі шлакавы слуп.*



Мал. 40.

«*Жонка Лота (латыняніна)». Дымячы невысокі шлакавы слуп над месцам, дзе лава накрыла нейкае значнае арганічнае цела, здольнае ад жару пературыцца на газы (фумарола над лавай Вязувія пры вывяржэнні 1852 года).*

Лава заўсёды бывае напоўнена вялікай колькасцю газаў, асабліва вадзяных і таму, як толькі яна паднімецца із нетраў Зямлі, яе паверхня адразу пакрываецца густым воблакам выходзячага із яе пару. Пакуль струмень яшчэ вадкі, газы выходзяць па ўсёй яго паверхні, але як толькі ўтвараецца цвёрдая кара, яны выходзяць толькі ў некаторых месцах, прабіваючы кару і, калі іх шмат, то на паверхні струменя ў малым выглядзе паўтараецца вывяржэнне. Прабіваючы кару, газы адрываюць яе кавалкі і падкідваюць іх угару, а яны, падаючы ўніз, нагрувашчваюцца вакол месца выйсьця невялікім конусам, маючым назву фумарола ці гарнігоса (мал. 39 і 40). Калі на шляху лавы трапляецца паваленая жывёла ці чалавек, і яна паспела накрыць цела раней, чым яно згарыць, то іхнае распадзенне пад лавай ад высокай тэмпературы на газы таксама няўхільна павінна мець наступствам выбухі і ўтварэнне слупа-падобных фумаролаў, што і магло даць нагоду да ўзнікнення думкі, што кожны, хто азірнецца назад пры ўцёках ад вулканічнага вывяржэння, ператвараецца ў шлакавы слуп ці нават у саляны, як у біблейскай легендзе пра азірнуўшуюся жонку Лота, таму што лава пасьля вывяржэнняў часам пакрываецца саляным покрывам, як пабачым далей.

Незлічоная колькасьць такіх гарнігосаў ці маленькіх вулканаў-паразітаў пакрываюць паверхню лавы яшчэ доўгі час пасьля яе астывання і, калі пад лавай захоўваецца крыніца, то ён доўга не супакойваецца. Так фумаролы Харульо яшчэ дыміліся праз 40 гадоў пасьля вывяржэння.

Часам замест лавы вулканы вывяргаюць струмені бруду, якія не варта змешваць з вышэйзгаданымі струменямі, маючымі нагодай вулканічныя ліўні, бо яны вывяргаюцца не зверху, а із нетраў самога вулкана. Часам адны і тыя ж вулканы вывяргаюць і бруд і лаву; але часьцей брудавыя вулканы не выдзяляюць лаву і наогул распаленых рэчываў. Яны і называюцца сальзамі ці брудавымі вулканамі.

Пасьля дастатковага вывяржэння лавы магутнасць вулкана спадае. Падземны гул і ўстрасанні паступова слабеюць, колькасьць рыхлых рэчываў памяншаецца, папяловы дождж сціхае, дымавы слуп паніжаецца, навальніца заціхае. Толькі лава працягвае яшчэ выцякаць, перамяшчаючы масы ранейшай, ужо астыўшай лавы, ляжачыя на шляху, ці пераліваючыся праз яе лавападамі. Паступова слабеюць і ўсе іншыя з'явы, і вулкан пераходзіць у стан спакойнай дзейнасьці, які можа ці зноў змяніцца катастрафічным вывяржэннем, ці працягвацца вельмі доўгі час.

Пры адзінкавым кароткачасовым, хоць б і вельмі моцным вывяржэнні ўтвараюцца толькі самыя простыя канічныя вулканы, рэдка дасягаючыя значнай вышыні. Але калі вывяржэнні паўтараюцца, то іхныя прадукты, размешчаныя чаргуючыміся пластамі, паступова ператвараюць першапатковы невысокі конус у больш-менш вялікую гару, складаючуяся із перамяжаючыхся пластоў туфу, рыхлых рэчываў і лавы.

Самы просты кратар, г. азн. «чарка» вулкана (мал. 41), уяўляе сабой правільнае лейкападобнае паглыбленне, на ніжнім канцы якога адкрываецца вытока канала ў выглядзе дадатковага ўнутранага конуса, маючага назву бока. Толькі ў невялікіх кратэрах схілы непасрэдна дакранаюцца да бокі; у вялікіх жа бока займае толькі невялікаю частка дна, пакрытую лавай, і размяшчаецца ў цэнтры ці эксцэнтрычна. Бока звычайна аточана валам са шлакаў і лавы, і пасутнасьці ўяўляе сабой кратар у малым выглядзе; вышыня яе пры працяглым вывяржэнні дасягае ад некалькіх футаў да некалькіх сот футаў, так што пасярод старога кратара ўтвараецца новы, аддзелены ад яго колападобнай далінай. Такія

канцэнтрычныя падвойныя конусы, змешчаныя адзін у другім, сустракаюцца ў большай частві дзейнічаючых вулканаў, напрыклад, у Вязувія, Тэнэрыфа, Этны і іншых.



Рыс, 41.

*Кратар Этны ў 1874 годзе. Верагодны «палаючы і не згараючы куст Майсея»*

Часам пры вывяржэнні бока перамяняе сваё становішча, часам жа замест адной з'яўляюцца дзве ці нават некалькі. Так, Гофман на Стромбалі налічыў тры бокі: сярэдняя, дыяметрам 30 сажаняў, вывяргала выпарэнні; левая, дыяметрам 3 сажані, выкідвала шлакі, а правая, размешчаная на 15 сажаняў ніжэй першай, вылучала струмені лавы.



Мал. 42.

*Вулкан Стромбалі, адна із Лінарскіх выспаў да паўночны ўсход ад Сіцыліі. Выгляд днём.*

Усе, нават самыя вялікія вулканы, калі усе іхныя вывяржэнні адбываюцца ў адным і тым жа цэнтры і выкідваюць пераважна рыхлыя рэчывы, – набываюць вельмі правільную канічнаю форму, мал. 42 і 43, і іхны кратар, грунтуючыся на правільнасьці сваіх абрысаў цалкам заслугоўвае дадзеную яму грэцкую назву – чарка. Правільнасць формы іхнага конуса ў такіх, далёка не рудыментарных вулканаў, захоўваецца настолькі адметнай, што ўжо з далёку магчыма пазнаць іхнае вулканічнае паходжанне Так, напрыклад, вулкан Семеру на Яве, прысьвечаны Шыве – богу разбурэння, таксама вулкан Сумбінг, які лічыцца «цвіком, якім Ява замацавана да зямлі», і шматлікія іншыя маюць такую правільную форму, што абуджаюць здзіўленне. Тубыльцы на Яве, у Мексіцы, іншых месцах атачылі вулканы легендамі і лічаць іх за жыллё богоў, патрабуючае не толькі простых, але нават чалавечых ахвяр. Так, напрыклад, вулкан Тангарыра прызнаецца адзіным месцам, годным прынімаць целы выбітных вайсковых правадыроў, якіх кідалі пасьля сьмерці ў кратар, дзе яны «знаходзяць заспакаенне ва ўлонні богаў».



Мал. 43
*Выгляд вулкана ноччу.*

У асяроддзі газаў і рэчываў узгонкі найбольш вылучаюцца вадзяныя пары, хлорысты вадарод і розныя хлорыстыя злучэнні калію, натрыю, амонія, жалеза, крэмнію, медзі, марганцу, свінцу (катуніт), цынку і нават нікелю (пераважна на Вулкана і Стромбалі). Хлорысты магній і кальцый сустракаюцца, як дамешкі да хлорыстага натрыя, у налётах фумарол. Ёд, бром і фтор знойдзены пры некаторых вывяржэннях у Ланцэроце, Стромбалі, Вязувія і іншых. Вадарод, якому прыпісваюць утварэнне полымя часам назіраемага ў дымавым слупе, упершыню канстатаваны Бунзенам у 1846 годзе на прыкладзе вулканаў Ісландыі, але потым Фуку знайшоў яго пры вывяржэнні Сантарына ў 1866 годзе, на Этне ў 1878-1879 гадах і інш.

Разам з вадародам вызначана наяўнасць і вуглевадародаў і вуглекіслаты. На Вязувіі ў 1861 годзе Сэн-Клер-Дэвіль і Фукэ адзначылі, што пры аддаленні ад цэнтра вывяржэння колькасьць вадароду змяншаецца, а колькасьць этылену ($C_2H_4$) павялічваецца. Серавадарод, сярністая кіслата і сярністыя злучэнні амонія і натрыя таксама з’яўляюцца частымі рэчывамі вывяржэння. Радзей сустракаюцца селен, мыш'як (рэальгар, аўрыпігмент, фосфар і вуглякіслыя злучэнні калія і амонія, а таксама розныя вуглевадароды і борная кіслата.

Вуглякіслы натрый і борная кіслата вылучаюцца на Стромбалі і Этне ў такой значнай колькасьці, што служаць прадметам выкарыстання. Хлорысты натрый з'яўляецца пасьля некаторых вывяржэнняў у такой колькасьці, што пакрывае белым покрывам шырокія прасторы; згодна са сведчаннем Раклю, ісландцы пасьля кожнага вывяржэння Геклы ходзяць збіраць соль на яе схілах. Лава, выліўшаяся із Монтэ-Фрумента ў 1867 годзе, утрымлівала, згодна з даследаваннямі Фукэ, каля 0,0013 солі. Але із усіх газападобных рэчываў самую значную частку складаюць вадзяныя пары. Яны займаюць, згодна з Сэн-Клер-Дэвілю, каля 0,7 так званага дыму вулканаў.

Цьвёрдыя, але раздробленыя рэчывы, выкідваемыя ў вялікай колькасьці пры моцных вулканічных вывяржэннях, з'яўляюцца ўслед за газападобнымі і абавязаны сваім утварэннем вылучна газам.

Калі сьціснутыя выпарэнні і газы вырываюцца із кратара, яны цягнуць за сабой кавалкі лавы і асноўных парод рознай велічыні, якія, апісаўшы ў паветры парабалу, падаюць на схілы вулкана на больш ці менш значнай адлегласьці ад жэрла, адпаведна велічыні магутнасьці вывяржэння. Кавалкі лавы вялікіх памераў вылятаюць у выглядзе вялізных палаючых снапоў, што асабліва выразна заўважаецца ноччу, і маюць назву вулканічныя бомбы, а ў Неапалі – «слёзы Вязувія». Зваліўшыся на зямлю, гэтыя бомбы, ўжо астыўшыя падчас палёту, хутка застываюць звонку, застаючыся ўсярэдзіне яшчэ ў вадкім ці пластычным стане. З нагоды вярчэння падчас лёту яны звычайна набываюць круглую ці авальную форму, складаючыся з шэрагу канцэнтрычных абалонак, якія, верагодна, размяшчаюцца адпаведна ўдзельнай вазе падчас руху бомбы ў паветры. Разам з лававымі бомбамі часам вылятаюць адломкі парод, служачых падмуркам вулкана, якія былі прабіты пры яго ўтварэнні, такімі, напрыклад, з’яўляюцца адломкі гнейсу, граніту і глінiстага сланцу, што сустракаюцца ў туфах эйфельскіх вулканаў, адломкі граніту сярод вулканічных прадуктаў Аверні, кавалкі дыябазу на Канарскіх выспах і інш. На некаторых із гэтых адломкаў заўважаюцца сляды ўздзеяння высокай тэмпературы ў выглядзе іхнага аплаўлення з вонкавага боку, а часам нават змены ў іхным хімічным і мінералагічным складзе. Што да памераў вулканічных бомбаў, то яны вельмі розныя. Часта сустракаюцца бомбы вагой каля пуда і дыяметрам ад 1 да 3 метраў, адкінутыя на 1000 і 1500 метраў ад цэнтра вывяржэння. Пры выключных умовах утвараюцца бомбы велічынёй з чыгуначны вагон і адкідаюцца на некалькі сот метраў.



Мал. 44.
*Падводнае вывяржэнне на выспе Санарын ноччу.*

Значна больш атрымваецца дробных часьцінак, із якіх адны, велічынёй не больш за звычайны арэх, маюць назву лапілі ці рапілі. Яны, як і бомбы, уяўляюць сабой адарваныя і застыўшыя кавалачкі лавы. Гэта – яе градзіны.

Іншыя, самыя дробныя, маюць назву вулканічны пясок і попел: гэта – дробны лававы снег. Пясок уяўляе драбнюткія крышталі розных мінералаў, пераважна магнітнага жалезняку з дамешкай дробных кавалачкаў лавы і шкла. Ён звычайна чорнага колеру, падобны на дробны порах. Вулканічны попел (мал. 45) уяўляе сабой белы ці шэры пыл, які складаецца із мінералаў, складаючых лаву.



Мал. 45.
*Воблака дыму і попелу, накрыўшае непранікальным змрокам наваколлі «Лысай гары» пры вывяржэнні 1 ліпеня 1902 года.*

Усе гэтыя рыхлыя рэчывы ўздымаюцца на значную вышыню ў дымавым слупе (стаўрасе) і адтуль зноў падаюць на схілы вулкана, дзе адкладваюцца

папластова, ці ж захопліваюцца паветранымі плынямі і пераносяцца, як я ўжо згадваў, на велізныя адлегласьці ад цэнтра вывяржэння. Нават пры невялікім вывяржэнні Вязувія ў 1872 годзе вуліцы Неапалю цягам некалькіх дзён былі пакрыты пластом вулканічнага попелу, – пры вялікіх жа вывяржэннях попел Вязувія дасягаў з аднаго боку Канстантынопаля, а з другога – Сіцыліі; колькасьць яго нярэдка даходзіла да 200.000 кубічных метраў. Попел Этны дасягаў паўночнага берага Афрыкі. Попел Ісландзкіх вулканаў, напрыклад Геклы, у 1875 годзе валіўся ў Стакгольме, які знаходзіцца на адлегласьці 1900 кіламетраў. У Гватэмале нават і за 350 кіламетраў ад кратара попел яшчэ утвараў такое густое воблака, што зацямніў сонца, а ў больш рэдкім выглядзе перанёсся на 2.000 кіламетраў. Асабліва вялікая маса рыхлых прадуктаў атрымалася пры выбітным вывяржэнні невысокага вулкана (каля 5.000 футаў вышыні) Козегвіна, каля заліва Фансэка ў Цэнтральнай Амерыцы, у 1834 годзе. Ляцеўшыя ўгару адломкі тады разасляліся па небу ў выглядзе скляпення ў некалькі сот вёрстаў у шырыню і пакрылі наваколле вулкана на 40 вёрст пластом каля 5 метраў таўшчынёй. Мыс, на якім стаіць вулкан, пашырыўся на 230 метраў у заліў Фансэка, а ў некалькіх вярстах ад берага ўтварыліся дзве выспы із попелу і камянёў, выкінутых вулканам. Густыя хмары з попелу засланілі сонца і змрок працягваўся каля 43 гадзін, асвятляемы толькі бляскам маланак. Навальніца, змрок і жахлівы лівень напужалі не толькі жыхароў, але і дзікіх жывёл. Попел гэтага вывяржэння пашырыўся на вялізныя адлегласьці, больш чым на 20 градусаў даўгаты да захад і ўсход. На палях Санта-Ганна, на выспе Ямайка, на адлегласьці 1.300 вёрст, ён яшчэ падаў у значнай колькасьці. На паверхні мора ён месцамі ўтварыў такі пласт, што караблі ледзь маглі прабірацца. На поўначы ён дасягаў да Гандураса і Чіаласа ў Мексіцы; на поўдні – да Мапагены і Санта-Марты. Агульная плошча выпадзення попелу прыблізна складала каля 4.000.000 квадратных вёрст, а колькасьць выкінутых рэчываў лічаць роўнай 1.800 мільярдаў кубічных футаў.

Больш дакладныя дадзеныя пра пашырэнне і хуткасць перанясення попелу былі атрыманы пры апошнім вялікім вывяржэнні Кракатаў у 1883 г. Шчоры дождж попелу, вадкага бруду, з кавалкамі попелу, падаючы на карабель «Laudun», накрылі ўсе прадметы на ім тоўстым пластом. У той жа час атмасфера была напоўнена пахам сярністага газу, абцяжваўшага дыханне; няправільнае і моцнае хваляванне кідала карабель ва ўсе бакі, а маланкі, хутка бліскаючыя адна за другой, прарэзвалі акутаўшую карабель цемру. Вывяржэнне Кракатаў 26-27 жніўня суправаджалася такімі моцнымі выбухамі і ўдарамі накшталт стрэлаў, што сведкі не знаходзяць для іх параўнання.

Гэтыя выбухі былі чуваць на Цэйлоне, у Ост-Індыі, на Маніле, у Новай Гвінеі, у Петры (Аўстралія) і інш. Калі выспу Кракатаў прыняць за цэнтр і апісаць із яго кола дыяметрам у 30°, то яго акружнасць пазначыць межы пашырэння гуку. Паверхня, абмежаваная гэтым колам, складае больш чым пятнаццатую частку паверхні зямлі. Калі для зразумеласьці правядзём такое ж кола ў нашым паўшар'і, прыняўшы за цэнтр Амстэрдам, то яго акружнасць, даходзячы на поўначы амаль да полюса, на поўдні перасячэ тропік Рака ў Сахары, на ўсходзе парырыцца да Урала, а на захадзе, захапіўшы Канарскія і Азорскія выспы захопіць вялікую частку Грэнландыі.

Акрамя гукавых хваль, пры вывяржэнні Кракатаў утварыліся яшчэ і вялікія паветраныя хвалі, якія распаўсюдзіліся канцэнтрычнымі коламі вакол усяго зямнога шара і абыйшлі яго ва ўсякім разе тры разы. Гэтыя паветраныя хвалі ў

найбліжэйшых месцах, як, напрыклад, Буйценцоргу, у Батавіі, адстаячым на 140 вёрст ад Кракатаў, і нават у горадзе Пасэране (790 вёрст ад Кракатаў) выклікалі моцнае калыханне будынкаў. Вокны і дзверы дрыжалі, прадметы вісеўшыя на сьценах, валіліся і разбіваліся, хаця ўласна землятрусу пры гэтым вывяржэнні нідзе не назіралася. У аддаленых жа месцах гэтыя паветраныя хвалі выклікалі моцныя і ненармальныя ваганні барометра, заўважаныя з адметнай выразнасьцю на тых станцыях, якія мелі самапісныя барографы. Згодна з даследаваннем Рыкачава, падрабязна вывучаўшага гэтыя хвалі, хуткасць пашырэння іх была роўная 327,8 метраў у 1 секунду, што адпавядае хуткасьці гуку ў атмасферы пры -10° Ц.

Не менш выдатным было і з'яўленне вялізных хваляў на моры, выробленае вывяржэннем Кракатаў. Гэтыя хвалі, затапіўшы нізінныя берагі Зондскага праліва, у шмат якіх месцах выклікалі спусташаючыя паводкі і, пашыраючыся папярок акіянаў, дасягнулі вельмі аддаленых месцаў, дзе і выказаліся няправільнымі ваганнямі ўзроўню акіяна. Вербек лічыць, што ўтварэнне першай, найвялікшай хвалі была выклікана ў 10 гадзін раніцы 27 жніўня вялізным правалам паўночнай часткі выспы Кракатаў. Вышыня гэтай хвалі была да 72 футаў каля Тэлік-Бетэнга і да 79 футаў каля горада Каліанда на Суматры, а ў самай вузкай частцы Зондскага праліва яна дасягнула 114 футаў вышыні каля горада Мерак і 118 футаў каля Анжэра. Месцамі яна далёка заходзіла ўнутр краіны і вырабіла вялікія спусташэнні. На выспе Себезі ёю было змыта 4 вёскі, і ўсіх яе ахвяр налічвалася каля 35.000 чалавек. Апроч берагоў Зондскага праліва, гэтая хваля пашырылася да берагоў Індыі, Цэйлона, выспы Маўрыкія, Сейшэльскіх выспаў, мыса Добрай Надзеі і мыса Горн. У Атлантычным акіяне яе ўплыў адчуваўся да Панамскага пярасмыка, а ў Ціхім акіяне – да Сан-Францыска і Аляскі.

Пры гэтым выбітным вывяржэнні, якое вызначалася такімі разнастайнымі з'явамі, не толькі дробны попел, але нават кавалкі, велічынёю з галаву, адкідваліся за 20 кіламетраў, а велічынёй з кулак падалі нават далей чым 40 кіламетраў ад вулкана, пры чым іхная пачатковая хуткасць павінна была дасягаць 2.000 метраў у секунду, г. азн. больш чым хуткасць гарматнага ядра. На адлегласьці 1.000 і нават 3.000 кіламетраў ад цэнтра вывяржэння яшчэ заўважалася выпаданне попелу, так што ўся плошча выпадання была большай чым плошча Яўропы. Яго аблокі пашыраліся з хуткасьцю кур'ерскага цягніка – ад 80 да 130 кіламетраў у гадзіну. Нават у Ёкахаме, якая адстаіць на 3.150 кіламетраў, попел 27, 30 і 31 жніўня зацямняў сонца. Сіняватая афарбоўка сонца і месяца, прыпісваемая таму ж пылу, назіралася ў Афрыцы, Цэнтральнай Амерыцы і ў Ціхім акіяне. Таму ж пылу прыпісваюць з'яўленне незвычайных світанкаў чырвонага колеру, якія назіраліся паўсюдна на прыканцы 1883 і напачатку 1884 года. У наваколлі Кракатаў пласт попелу меў таўшчыню ад 1 да 60 метраў; нават на берагах Суматры ён дасягаў ад 0,1 да 1 метра таўшчыні. Вербек вылічвае, што на плошчы, роўнай сярэдняй Яўропе, адклалася тады каля 18 кубічных кіламетраў попелу, г. азн. па аб'ёме больш чым Манблан.

Паверхня лававых струменяў бывае вельмі разнастайная на знешні выгляд, але, тым не менш, адрозніваюць толькі два галоўных тыпы лаваў: грудкавую лаву (мал. 46) і хвалістую (мал. 47) лаву. Грудкавая паверхня ўтвараецца пры хуткім зацвярдзенні кары, што суправаджаецца вялізным вылучэннем газападобных рэчываў.

Хутка ўтвараючаяся цьвёрдая кара лавы з нагоды руху струменя разрываецца на асобныя камлыгі, якія насоўваюцца адна на адну накшталт крыг

падчас крыгаходу на хуткай рацэ. Яны перакульваюцца адна праз другую, яшчэ больш раздрабняюцца ці ж, злучаючыся, утвараюць няправільныя выступы разнастайнай формы, як узаранае поле ў «плачы Ераміі». Чым большыя камлыгі, чым мацней яны злучаюцца пры далейшым астыванні, тым мацней выбухі вылучаючыхся із лавы газаў і пару, што яшчэ больш павялічвае няроўнасьці струменя, надаючы яму хаатычны, дзікі выгляд.

Хвалістая лава, наадварот, рухаецца і дубянее павольна, без значнага вылучэння пару. Кара яе не разбіваецца на камлыгі, і паверхня не ўяўляе такой хаатычнай бязладзіцы, як у выпадку грудкавых лаваў; наадварот, асобныя бруі, набягаючы адна на адну ці вылучаючыся із расколін, спакойна перасоўваюцца ў выглядзе плоскіх хваль ці валікаў, якія, застыгаючы, надаюць усёй паверхні спакойна хвалісты выгляд, без выступаў асобных камлыг ці іх сукупнасьцей.



Мал. 46.

*«Урадлівая зямля, стаўшая як узаранае поле» (Іер. 26-18), пасьля таго як па ёй працякла разліўшаяся лава Вязувія, пакінуўшы на паверхні глебы свае шлакі (узор грудкавай лавы).*

Так як адрозненне паміж тым і другім тыпам струменяў абумаўліваецца галоўным чынам ступенню насычанасьці лавы парам, то, відавочна, грудкавая лава ў вельмі магутных струменях можа пад канец сваёй плыні, калі із яе вылучыцца вялікая частка пару, ператварыцца ў хвалістую лаву, што сапраўды і назіраецца на вялікіх струменях, якія праходзяць доўгі шлях ад кратара да падэшвы вулкана.

Мал. 47.

*«Урадлівая зямля, стаўшая пустыняй ад полымя яго гневу» (Іер.25, 38), пасьля таго як на ёй застыла лава, не паспеўшая ўтварыць шлакаў (узор хвалістай лавы).*

У Яўропе вялікія дзейнічаючыя вулканы знаходзяцца толькі ў Італіі і складаюць 4 згуртаванні, відаць, не маючыя паміж сабой ніякай сувязі: 1-е згуртаванне Неапалю (мал. 48), 2-е згуртаванне Ліпарскае (мал. 49), 3-е згуртаванне Этны (мал. 49) і 4-е згуртаванне Сіцылійска-афрыканскае (Пантэлярыя)

Мал. 48.

*Неапалітанскі заліў з Вязувіем пасярэдзіне.*

Неапалітанскае згуртаванне складаецца із Вязувія і вулканаў Флегрэйскіх палёў, да якіх прылічаюцца і выспы Ісхія, Прочыда і Вівера. Вязувій належыць да самых цікавых вулканаў Зямлі як дзякуючы свайму тыповаму характару, так і разнастайнасьці вывяржэнняў і прадуктаў. Ён узвышаецца да 1.200 м над раўнінай, складаючайся із трахітавых туфаў. Яго амаль круглая падэшва мае 12.900 метраў у дыяметры, а схіл 25°.

Із Неапалю ён выглядае двухгаловым (мал. 34), з нагоды захаваўшагася краю старога паўночнага кратара, які мае назву Сома, вышыня якой сталая, тады як сучасны конус вывяржэння змяняе сваю вышыню. Паміж імі знаходзіцца даліна Атрыо-дэль-Кавала, нярэдка прынімаючая струмені лавы. На схілах Вязувія знаходзіцца шмат другарадных конусаў вывяржэння. Круты схіл Сомы, павёрнуты да даліны Атрыо, выяўляе ўсе характэрныя рысы тэктонікі пластовага вулкана, г. азн. перыклінальныя пласты туфу і лавы, прарэзаныя радыяльнымі жыламі лавы, на якіх і размяшчаюцца конусы вывяржэння.

Старажытны туф, служачы падмуркам Вязувія, жоўтага колеру (tuffo alto). Ён утрымлівае рэшткі марскіх ракавін, што паказвае на падводнае становішча Вязувія пры пачатку яго фармавання; навейшы туф шэрага колеру (tuffo bizio), так жа як і туф сучаснага конуса вывяржэння, не ўтрымліваюць ніякіх арганічных рэшткаў і таму ён, відавочна, утварыўся ўжо пры мацерыковым становішчы вулкана. Гэта азначае, што некалі Вязувій падняўся із мора, паступова нагрувашчваючы прадукты вывяржэння.

Са спрадвечных часоў ён лічыўся патухшым, пакуль моцнае вывяржэнне 24 жніўня 79 года пасьля нараджэння «Вялікага цара», не выявіла яго дзейнасць. Лічачы гэтага «вялікага цара» – евангельскага Хрыста – за Васіля Вялікага, мы пабачым, што гэта было на прыканцы IV стагоддзя.



Рыс, 49.

*Этна, Ліпарскія выспы і наваколле Рэджыо і Катанцаро. Цёмная крыжаваная штрыхоўка – вулканічныя прадукты; сьветлая – гранітныя гнейсавыя і сланцавыя горы.*

З нагоды важнасьці для нас вывяржэнняў Вязувія, я пакуль перапыню сваё выкладанне вулканічных з'яваў (якое тут у шмат якіх месцах амаль літаральна запазычана ў Я. В. Мушкетава) і прысвячу Вязувію некалькі старонак, грунтуючыся на дайшоўшых да нас сярэднявечных першакрыніцах.

# ГЛАВА II.

## Вывяржэнні Вязувія, згадваемыя ў старажытных аўтараў.

### I. Вывяржэнне, «загубіўшае Геркуланум і Пампею».

Самае старажытнае, годнае ўвагі, указанне на гэта вывяржэнне мы маем толькі ў кнізе Варнефрыда, які падпісваўся дыяканам Паўлам[12] і жыў паміж 720 і 800 гадамі нашай эры:

«Пасьля таго, – сведчыць ён, – як адарвалася верхавіна Вязувія ў Кампаны, былі разбураны палаючымі струмянямі ўсе навакольныя вобласьці з гарадамі і людзьмі. Попел і лава былі выкінуты ў вялізнай колькасьці. Пад імі былі пахаваны Пампея і Геркуланум».

Сапраўды, лапіллі, г. азн. маленькія кавалачкі застыўшай лавы, і пласты наносаў ляжалі на Пампеі да яе раскопаў таўшчынёй да 10-12 футаў. Сустракаліся тут і асобныя кавалкі падаўшай зверху і застыўшай у паветры лавы да 8 фунтаў вагой. Пампея была, – кажуць нам, – гаванню, а зараз той горад, які мы лічым за яе (хаця на яго браме і няма такога надпісу), аддалены ад мора амаль на 2 кіламетры і на 5 міль ад сучаснага кратара.

«Мяркуючы па характары наносаў, – кажа геолаг Давыд Форбс, даследаваўшы гэтую мясцовасць, – даводзіцца вельмі сумнявацца, што гэтым жа землятрусам была разбурана і Стабія. Тое ж самае можна сказаць і пра горад, які мы лічым за Геркуланум і які засыпаны вельмі глыбока. Пласт попелу над яго тэатрам выявіўся таўшчынёй да 12 сажаняў».

Такімі з'яўляюцца нашы адзіныя першакрыніцы «пра першае гістарычнае вывяржэнне Вязувія». У Плінія Малодшага гаворыцца толькі пра Стабію, і, апроч таго, я далей пакажу фальшывасць яго паведамлення. Датаванне гэтай падзеі 79-м годам «пасьля нараджэння Хрыста», (дзякуючы нашым папярэднім атаясамленням «Хрыста» з Васілём Вялікім), адносіць катастрофу прыблізна на 393 год, г. азн. да пярэдадня з'яўлення Апакаліпсіса, дзе таксама гаворыцца пра жахлівы землятрус і вывяржэнне вулкана, ды і грэцкія гісторыкі згадваюць пра моцны землятрус пры жыцці Васіля Вялікага каля 385 года.

### II. Вывяржэнне каля 472 года.

У канстантынопальскага патрыярха XI стагоддзя, напісаўшага пад імем Ксіфілінуса каментары да рымскай гісторыі Дыёна Касія, згадваецца пры разборы 70-й кнігі гэтага аўтара вывяржэнне за 8 гадоў да сьмерці Сэптымія Севера, г. азн. – згодна з нашым атаясамленнем – Адаакра (426-493 г.г.).

---

[12] Усеагульная гісторыя Паўла Дыякана. Выданне Муратора I. кн. IX, стар. 59.

«На гары Вязувіі, – сведчыць ён, – пачало блішчэць полымя, і былі такія гудзенні, якія чуліся аж да Капуі».

Гэтае паведамленне, грунтуючыся на новай храналогіі, адпавядае 485 году нашай эры.

Пра яго ж, відаць, згадвае і кніга, якая прыпісваецца заснавальніку навуковай медыцыны Галену (кн. V, гл. VIII), якую таксама дарэмна адносяць да глыбокай старажытнасьці. Мяркуючы па яе паведамленнях, гэта – кніга эпохі Адраджэння. Пра такое ж выяржэнне, але адносячы яго ўжо не за 8 гадоў да сьмерці Сэптымія Севера (Адаакра), а за 4 гады да яго ўступлення на пасад (г. азн. каля 472 года), згадвае і больш праўдзівы гісторык граф Марсэльскі (Мардэлінус) у сваёй хроніцы, і аўтар VIII стагоддзя Пракоп Цэзарэйскі ў сваёй Гоцкай вайне[13]. Гэтае вывяржэнне, згодна са сведчаннем Пракопа, было знакаміта з нагоды вялікай колькасьці попелу, які вецер даносіў нават да Канстантынопаля. А граф Марсэльскі, напісаўшы хроніку ад 534 года, выказваецца пра яго так:

«Пад час консульства Марцыяна і Феста (472 г.) гара Кампаны Вязувій, устрасаемая гарачымі падземнымі агнямі, вывергнула свае спаленыя вантробы і, засьцяліўшы дзень начным змрокам, пакрыла попелам амаль увесь прастор Яўропы. Памяць пазбаўлення ад гэтага жахлівага попелу візантыйцы штогод святкуюць 6 лістапада».

Пракоп, які, – кажуць нам, – памёр каля 565 года, паведамляе нават пра два вывяржэнні каля гэтага часу, не пазначаючы год. Пры першым попел, згодна з яго вышэйпрыведзенымі славамі, падаў аж да Канстантынопаля, а пры другім – аж да Трыпалі ў Афрыцы.

Грэцкі гісторык Дыён Касій у 66-й кнізе сваёй Рымскай гісторыі (выданне Реймаруса) дае нам апісанне кратара Вязувія для часоў Каракалы (Тэадорыха Гоцкага), ужо цалкам адпавядаючае яго сучаснаму стану.

«Гара Вязувій, – кажа ён, – мае вельмі шчодрую крыніцу полымя. Раней верхавіна гэтай гары была аднолькавай вышыні ва ўсіх сваіх частках. Полымя ніколі не абпальвала яе вонкавых схілаў, а тыя часткі гары, якія знаходзіліся ў сярэдзіне, так пажыраліся ім і ператвараліся ў попел, што ўся ўнутраная частка яе з цягам часу была вынішчана, асела, зрабілася ўвагнутай і набыла выгляд амфітэатра. На вяршыні Вязувія спачатку было шмат дрэваў і вінаграднікаў, а потым уся яго ўнутраная акружнасць амаль штогадова час ад часу выпускала полымя, так што ўначы із яе выходзіла сьвятло».

## III. Вывяржэнне 512 года.

Першыя паведамленні пра яго знаходзяцца ў Магнуса Аўрэлія Касіядора, які ў 514 годзе быў консулам у Варыары (кн. IV, ліст 50). Тэадорых Гоцкі, згодна з яго паведамленнем, даручыў Фаўстусу вызначыць памеры шкоды, нанесенай гэтым вывяржэннем для наланцаў і неапалітанцаў, і адпаведна паменшыць ім падаткі. Касіядор відаць мае на ўвазе лаву, калі выказваецца: «Ты бачыш там як быццам цякуць нейкія пыльныя рэкі і бягуць з кіпячым напорам уніз на няплодны пясок расплаўленыя хвалі. Раптам слупянееш, бачачы паверхні палёў якія падняліся да верхавін дрэваў і спустошаныя раптоўным жарам, тады як перад тым яны былі пакрыты самай вясёлай зелянінай».

А Пракоп апісвае лаву так праўдзіва, што несумнеўна бачыў яе на ўласныя вочы. Ён паведамляе: «З вяршыні гары цёк да яе падэшвы доўгія агнявы струмень,

[13] Кн. II, гл. IV; ёсць рускі пераклад.

як пры вывяржэннях Этны. З абодвух бакоў ён утварыў сабе высокія цьвёрдыя берагі. Гэта было падобна на выцяканне падпаленай вады. Палаючае рэчыва адразу спыняла сваю плынь і не шырылася далей, як толькі патухала. А тое, што асядае із полымя, падобна гарачаму попелу».

Непатрэбна здзіўляцца, калі старажытныя пісьменнікі параўноўваюць лаву са струменямі распаленага пяску. Пры астужэнні яна заўсёды распадаецца на паверхні на аскепкі шлаку, бачачы якія, наўрад ці можна падумаць, што яны ўяўлялі раней вадкае рэчыва. Дзякуючы гэтаму і магла ўзнікнуць выснова, што лава ўяўляе сабой распалены пясок, які цячэ як рака.

## IV. Сумнеўнае вывяржэнне 683 года.

Згодна з паведамленнем Пракопа, Вязувій у часы Юстыніяна (518-578 г.г.) пачаў выдаваць гудзенне, такое моцнае, што асьцерагаліся вывяржэння. Але толькі ў 685 годзе моцнае вывяржэнне згадваецца пісьменнікамі XV і XVI стагоддзяў Плацінай, Сабелікам і Сігоніусам, і пра яго не згадвае ніводны із больш старажытных аўтар. Плаціна ж у жыццяапісанні Бенядыкта II піша:

«Із Вязувія – гары ў Кампаны – вырвалася такое полымя, што навакольныя месцы exusta sint minus mirum videtur».

## V. Апакрыфічнае вывяржэнне 982 ці 993 года.

Пра яго ў «Аналах» Баронія змяшчаюцца толькі кароткія заўвагі, цытуючыя сучаснага яму пісьменніка – Глабра Рудольфа. Яно яшчэ больш сумнеўнае, чым папярэдняе, бо грунтуецца толькі на лісьце Пятра Дамініцыянуса, які Джуліяні ў сваёй кнізе «Трактат пра гару Вязувій»[14] адносіць да вывяржэння 1063 года.

## VI. Вывяржэнне 1036 ці 1049 года.

У хроніцы Ананіма Касінензіса («Апісанне італьянскіх падзей») у выданні Муратара (том IV) мы знаходзім пад 1036 годам: «6 дня лютаўскіх календ (27 студзеня) гара Вязувій вывергнула такое полымя, што яно дабегла да мора». А Дэла Торэ ў сваёй «Гісторыі Вязувія», выдадзенай у Неапалі ў 1755 годзе (стар. 60), паведамляе пра вывяржэнне Вязувія ў 1049 годзе, як пра згадваемае ў хроніцы Асційскага біскупа Лявона Марсікана.

«Пры сьмерці капуанскага князя Пандольфа, – паведамляе ён згодна са сведчаннем гэтай хронікі, – гара Вязувій выкінула полымя, і із яе выцякла такая колькасьць смалы, што яе кіпячы струмень спусьціўся ў мора з імклівым напорам».

Але датаванне падзей нават і ў XIV стагоддзі было такім дрэнным, што тое ж самае вывяржэнне адносілі і да 1306 года, засноўваючыся на аўтарытэт Леандра Альберці, памёршага ў 1556 годзе, які ў сваім апісанні Італіі (стар. 158) паведамляе: «Падобнае ж вывяржэнне названай гары, суправаджаемае дымам і полымем, адбылося ў 1306 годзе нашага выратавання» (г. азн. хрысціянства), пры чым дым і полымя накіраваліся да марскога заліва, як гэта апісана ў Балонскай хроніцы, паведамляючай: «Полымя выходзіла із гэтай гары таксама ў 1306 годзе, калі Бенядыкт IX быў папай і Конрад імператарам. Яно было вельмі падобным на раку, якая цячэ да мора».

Тут відавочная памылка ў годзе. У рэчаіснасьці гэта было ў 1036 годзе замест 1306 г., бо Венедыкт быў папай толькі ў 1046 годзе, а Конрад каранаваўся ў 1027 г. годзе і памёр у 1039 г. Цытаваная тут Балонская хроніка таксама дапускае такую ж памылку, таму што Андрэа Скота, які вандраваў па Італіі на прыканцы XVI стагоддзя, у 3-й кнізе (згодна з цытаваннем Стэфана Пігіа) выказваецца пра

[14] Giuliani, Trattato del Monte Vesuvio, Napel 1632.

Вязувій: «Без сумневу, падземны жар знаходзіў тут сабе выйсьце не толькі праз адзін кратар, але то тут, то там, як перадаюць «Аналы Італаў» за 276-ы год да Бенедыкта IX (г. азн. каля 750 года), калі із бока гары вырваўся вялізны струмень і пацёк у мора расплаленым полымем».

## VII. Вывяржэнне 1139 года.

У хроніцы Фалькона Беневентана паведамляецца: «Сёлета 4 дня ліпеньскіх календаў (28 чэрвеня) тая гара, якая паблізу Неапальскай дзяржавы, на працягу 8 дзён выкідвала моцны агонь і яркае полымя, так што сумежныя з ёй мясцовасьці і паселішчы асьцерагаліся руйнавання. Із гэтага пажару пашырыўся чорны і жахлівы пыл і ляцеў па ветру да Салерна і Бенвенута, да Капуі і Неапаля. Гэты пыл збіралі шмат хто із грамадзян бенвентанцаў, у тым ліку і я, стваральнік гэтага твора. Нават праз 30 дзён ён быў бачным на паверхні зямлі».

Пра гэтае ж вывяржэнне, на думку Рэкупіта (стар. 67), паведамляе і адно месца ў хроніцы Ананіма Касіненца, дзе яно датуецца 1138 годам: «Гара Вязувій вывяргала пажар на працягу 40 дзён».

## VIII. Якое не існавала вывяржэнне 1300 года.

Яго апісаў Амброзіа Леонэ, лекар у Ноле, але яно аспрэчвалася іншымі.

## IX. Вывяржэнне 1631 года.

Ад 1139 да 1631 гадоў відаць не было вывяржэнняў із жэрала Вязувія, бо яно ў 1631 годзе было пакрыта старымі дрэвамі. Так паведамляе Піга, які бачыў іх верагодна ў 1582 годзе[15], а таксама Брачыні[16], які даследаваў кратар Вязувія ў 1612 годзе, і некаторыя іншыя пісьменнікі. Гэта азначае, усё XVI стагоддзе відавочна было спакойным. Вывяржэнне 1631 года, згодна з Маскола і Трэгліота (Mascolo e Tregliotta), пачалося тым, што вялізны кавалак гары ўзляцеў на паветра.

«Дым і попел утварылі спачатку вялізную лінію, а потым вялікае воблака, якое пашырылася так, што азмрочыла ў Неапалі яркі сонечны дзень. З неверагоднай хуткасьцю дасягнула яно каля 11 гадзін раніцы Базілікаты, праз 3 гадзіны пасьля гэтага Трэнта і іншых паўднёвых гарадоў і прывяло ў жах іхных жыхароў дажджом попелу і пяску. Папяловы дождж каля 3 гадзін раніцы дабраўся да Катара на Балканскай паўвыспе. Перад ім ішоў пылаючы шар, які, выйшаўшы ад поўдня, два разы апускаўся ў мора і знік каля Піаца Соранца. Попел падаў каля 10 гадзін вечара на караблі, якія стаялі ў заліве Вала ў Фесаліі. У наваколлі Вязувія пласт наваленага попелу дасягаў 6 метраў вышыні і разбурыў сваім цяжарам шмат будынкаў. Разам з попелам ішоў задушлівы газ (мал. 50), які адны лічылі за сярністы, а іншыя за хлорысты. Распаленыя камяні разбурылі і запалілі ўсё ў Нолі, Пальме, Лауро, Атгайана і ў іншых гарадах паблізу ад Вязувія. Адзін із гэтых камянёў, – згодна з паведамленнем Рэкупіта, – не змаглі зрушыць з месца дванаццаць быкоў. Другі, – згодна з паведамленнем Брачыні – паляцеў за 12 міль і разбурыў склеп маркіза дзі Лауро. Пайшоў каменны град, які разбурыў у Арыяна і Авеліна шмат сядзіб».

---

[15] Pighio: Itinerario a'italia, III. p. 24. Венецыянскае выданне 1610 года.
16 Braccini. Dell'incendIo, fattosi nel Vesuvio. Napoli 1632.



Мал. 50

*Вывяржэнне дыму, пару і атрутных нябачных газаў із Вязувія ў 1881 годзе.*

Сучаснікі таксама паведамляюць пра жудасны землятрус, адчуваемы ў гэты час не толькі ў Неапалі, але і на вялікай адлегласьці ад Вязувія. Усё гэта працягвалася з малымі варыяцыямі да 10 гадзін раніцы 18 снежня, а пра тое, што адбывалася ў гэты час у кратары, не паведамляе ніхто.

17 снежня ў 2 гадзіны ночы Вязувій выкінуў вялізны лававы струмень, дасягаўшы да паўтары кіламетры ў шырыню і выліўшыся ў мора паблізу Торэ-дэль-Анунцыята. Ён затапляў і запальваў сабой сядзібы і дрэвы і загубіў каля 3 тысяч чалавек. Ён ішоў з такой хуткасьцю, што менш чым за гадзіну прайшоў каля 6 кіламетраў. Мора ўздоўж усяго берага паміж Неапалем і Кастелямарэ спачатку адступіла назад, а потым зноў вярнулася, як апісана ў бібліі пры ўцёках богазмагальнікаў із Міц-Рыма пад правадырствам Майсея.

Адно із адгалінаванняў лававага струменя разбурыла Боска і Торы-дэль-Анунцыята і зайшло ў мора на 200 метраў. Другое разбурыла большую частку Торэ-дэль-Грэка і таксама пайшло ў мора на ўдвая большую адлегласць. Трэццяе адгалінаванне лавы разбурыла Рэзіну і Парцічы і пайшло яшчэ далей, чым абодва папярэднія.

Пасьля таго былі вывяржэнні 20 траўня 1737 года, 15 чэрвеня 1794 года, у кастрычніку 1822 года. Невялікія вывяржэнні 1823-30 гадоў узмацніліся ў 1834 годзе і асабліва на прыканцы 1838 і напачатку 1839 года. З гэтага часу дзейнасць вулкана амаль не перапынялася да 1850 года. Яна зноў аднавілася ў 1858 і ў 1861 гадах, але асабліва ў 1865, 1867, 1868 і ў 1871 гадах (мал. 51). Пры моцным вывяржэнні 26 красавіка 1878 года дымавы слуп Вязувія меў да 5.000 метраў вышыні. Гэта было самае моцнае вывяржэнне Вязувія ў XIX стагоддзі.




Мал. 51

*План Вязувія і Сомы ўсярэдзіне амфітэатра зстаўшагася ад яго кратара. Пункцірам пазначаны лавы XIX стагоддзя, а штрыхоўкай лавы XVII і XVIII стагоддзяў.*

# ГЛАВА III.

## Вулканы і землятрусы.

Разгледзім зараз і іншыя вулканы Еўропы.

Флегрэйскія палі ў Італіі (мал. 52) уяўляюць сабой цэлую сістэму невялікіх туфавых конусаў, якія ўтварыліся ў розны час. Іхныя пароды і туфы рэзка адрозніваюцца ад вязувійскіх і складаюцца пераважна із сандынавага трахіту. Усю сістэму флегрэйскіх конусаў можна разглядаць як бы сістэму вялікіх бокаў, з'явіўшыхся ў розны час на дне старажытнага кратара, частка якога апусьцілася ніжэй узроўню мора.




Мал. 52.

*Флегрэйскія ці «выпаленыя» палі на паўночным узбярэжжы неапалітанскага заліва. 1 На правым баку малюнка: заходнія кварталы Неапаля. 4. Паблізу сярэдзіны: выспа Тэрэза. 5. На левым боку: Байская бухта. 6. Мыс Мізэна (налева ўнізе). 13. Старажытны кратар Кампільонэ. 10. Старажытны кратар Монтэ Астроні (пасярэдзіне малюнка). 12. Сольфатара (паміж ім і берагам). Адзіны не цалкам патухшы кратар. «Месца ўваходу ў пекла».*

Некаторыя із гэтых конусаў узніклі ўжо ў гістарычныя часы, напрыклад Монтэ-Нуова ўтварыўся ў 1538 годзе, а Соль-Фатара Пуцуолі меў апошняе вывяржэнне ў 1198 годзе. Кратар Аспроні мае 2 кіламетры ў дыяметры; ён, як і кратар Нізіма, складаецца із пластавых туфаў, якія ўтвараюць увесь бераг да мыса Мізэно, так жа як і прылягаючыя выспы Прочыда і Вівара.



Рыс 53.
*Вулкан Стромболі ў згуртаванні Ліпарскіх выспаў паблізу Сіцыліі ў 1874 г. Выгляд з паўночнага захаду.*



Мал. 54.
*Вогнедыхаючая расколіна на схіле Этны 29 жніўня 1874 года із якой вырываецца полымя.*

На Ісхіі вулкан Эпамеа (800 метраў вышыні), апошні раз дзейнічаў у 1302 годзе; на яго схілах зараз да 12 другарадных конусаў. Характар яго туфаў сведчыць, што Эпамеа, так жа як і Вязувій, спачатку быў падводным вулканам. У яго наваколлі, як і ў Флегрэйскіх палях, шмат гарачых крыніц і месцаў вылучэння газаў, напрыклад, вядомы Сабачы грот, у якім гіне, удушаны нябачным і неадчуваевым вугальным ангідрыдам, кожны, хто там ляжа спаць, але дарослы

чалавек можа праходзіць бяспечна, таму што пласт газу не дасягае чалавечага росту.

Вулканічнае згуртаванне Ліпарскіх выспаў, якое размешчана паміж Неапалем і Сіцыліяй, на адлегласьці 25 кіламетрах на поўнач ад Сіцыліі, складаецца із Стромбалі, Панарыі, Саліна, Алікудзі, Фелікудзі, Ліпары і Вулкано. Выспа Саліна, самая высокая із усіх, уяўляе іх натуральны цэнтр. На самай вялікай з іх выспе Ліпары, знаходзяцца галоўныя, але даўно патухлыя вулканы Монтэ-Анжэло і Кампа-Біанка. Яны вызначаюцца выбітнымі адкладаннямі абсідыяну і кудзеліста-шаўкавістай пемзы, разыходзячыміся па ўсіх базарах Яўропы. На выспе Вулкано (400 метраў вышыні) у шырокім кратары вылучаецца селен, сера, нашатыр і борная кіслата; яго апошняе вывяржэнне ў 1775 і 1786 гадах выкінула шмат абсідыяну; маленькі Вулканэло злучаны з Вулкано вузкім пярэсмыкам.

Самы выбітны із гэтага згуртавання вулкан Стромбалі (900 метраў вышыні са схілам у 25-35°, мал. 53) знаходзіцца ў стане пастаяннай дзейнасьці, якая то ўзмацняецца то зніжаецца ў залежнасьці ад ціску атмасферы, так што Стромбалі служыць не толькі натуральным маяком, але і вялізным барометрам.

Этна ў Сіцыліі – самы магутны вулкан із усіх еўрапейскіх і дасьледаваны не менш за Вязувій (мал. 54). Пры яго значнай вышыні (3.317 метраў), ён амаль увесь час пакрыты снегам. Яго плоскі конус, у падмурку мае каля 40 кіламетраў у дыяметры і 1.287 квадратных кіламетраў плошчы. Ён абмываецца дзвюма рэкамі: Алькантарай на паўночнай мяжы і Сіметай на заходняй; да ўсходняга боку прылягае мора, а да паўднёвага – раўніна Тэра-фортэ, складаючаяся із алювіяльных наносаў; яго пастаментам служаць пліяцэнавыя адкладанні Крэты, прарэзаныя жыламі базальту. Бухта, якая прылягае да Этны з усходу, уяўляе апусьціўшуюся вобласць, што бачна ужо із формы вулкана. На яе дне таксама адбываліся вывяржэнні. Туф Этны, роўна як і Валь-дэ-Нота, утварыўся пад роўнем мора, таму што ўтрымвае рэшткі марскіх арганізмаў. Такім чынам, Этна, так жа як і Вязувій, спачатку была падводным вулканам. Са спрадвечных часоў яна дзейнічае так жа, як і ў наш час.




Мал. 55

*Пасьлядоўныя выліванні агню і лаваў із расколін, узнікаўшых на схіле Этны.*

Першае вывяржэнне, пра якое захаваліся дакладныя гістарычныя паведамленні, адносіцца да 693 года нашай эры, хоць каля 12 вывяржэнняў налічваецца і раней згунтуючыся на даследаванні выкідаў (мал. 55). Самае вялікае вывяржэнне было ў 1669 годзе, калі была разбурана Катанія, утварылася Монтэ-Росі і выліўся струмень лавы роўны 1 кубічнаму кіламетру. Потым моцныя вывяржэнні былі ў 1755, 1763, 1766, 1787, 1792, 1811, 1832, 1842, 1843, 1852 і асабліва ў 1865 годзе з кратара Монтэ-Фрумента, на вышыні 2.000 метраў, якое працягвалася 5 месяцаў; лава Этны пераважна базальтавая. Шмат вылучалася хлорыстых саляў калію, натрыю і медзі. Амаль усе яе вывяржэнні суправаджаліся моцнымі землятрусамі і мелі цесную сувязь з ціскам атмасферы, даказанаю назіраннямі ў Катаніі.

Яны заўсёды выкідвалі, галоўным чынам, базальтавую лаву, непараўнальна менш багатую мінераламі, чым лава Вязувія.

Што да вулканаў Грэцкага архіпелага, то амаль усе яны цалкам патухлі ў дагістарычныя часы. Толькі Сантарына варухнуўся, ды і то галоўным чынам пад морам (мал. 56).



Мал. 56.

*Падводны кратар вулкана Сантарын у Грэцкім архіпелагу. Над вадой бачны: усходні высокі край «чаркі», маючай форму паўмесяца – выспа Тэра, і рэшткі заходняга краю «чаркі» ў выглядзе выспаў Геразія і (маленькай выспачкі) Аспранізі. Пасярэдзіне кратара налева знаходзяцца, як выступы ранейшага жарала: Палеа Камені, ўтварыўшыяся згодна з Плініем гадоў за 200 да яго часу; Малы Камені, які ўтварыўся ў 1573 годзе на поўначы жарала, і Неа-Камені, самы вялікі, які ўзнік у 1707-1709 гадах. Іх вывяржэнні ўздымалі слупы вадзянога пару, але з дагістарычных часоў не выклікалі значных ваганняў сушы ці мора.*

Пагаворым зараз і пра землятрусы. Каб не абцяжарваць сябе без патрэбы ў чыста апісальнай частцы, дзе нам патрэбныя толькі факты для хуткіх параўнанняў са старажытнымі дакументамі, я буду і тут кіравацца той жа «Фізічнай геалогіяй» Мушкетава.

Само сабой зразумела, што мае атаясамленні біблейскіх вогнедыхаючых гор з італьянскімі вулканамі, пра што я буду казаць далей, былі зроблены шмат раней гэтых некалькіх выпісак, але фізічная геалогія Мушкетава мае для мяне вялікае значэнне таму, што я некалі вывучаў гэтую галіну навукі менавіта па ёй (і па геалогіі Іністранцава), і яна дала мне вялікі матэрыял для пазнейшых разважанняў.

«Ужо ў бібліі, – кажа Мушкетаў у VI главе, – знаходзяцца даволі вызначаныя ўказанні пра ваганні глебы: «Горы скакалі, як авечкі, і ўзгоркі, як ягняты». «Што з табой, мора, што ты пабегла, і што з табой, Ярдан, што ты павярнуўся назад?» (Псалом 113.) «Божа, ты адкінуў нас, ты знішчыў нас, ты ўгнявіўся! Павярніся да

нас! Ты устрос зямлю, разбіў яе. Загаі ж пашкоджанні яе, бо яна вагаецца». (Псалом 59.)

Параўнальна рэдка бываюць землятрусы, складаючыяся із аднаго ці нешматлікіх парываў, як, напрыклад, на Ісіі 28 чэрвеня 1883 года, калі ўсё скончылася за 15-20 секунд, але і ў самым простым выпадку кожны парыў уяўляе вельмі складаную сістэму ваганняў (мал. 57).




Мал. 57.

*Пасьлядоўнасць разнастайных рухаў, якія зрабіла кожная кропка Зямлі паблізу яе паверхні на працягу 20 секунд падчас галоўнай фазы аднаго землятрусу (адноўлена грунтуючыся на запісах сейсмаграфічныхківачоў).*

Часам вельмі моцны ўдар узнікае пасярэдзіне, але часьцей ён адбываецца ў самым пачатку, папярэджваемы толькі нешматлікімі слабымі, часам ледзь заўважальнымі, як гэта было ў горадзе Верным.

Землятрусы часта ахопліваюць вялізныя вобласьці. Так, Лісабонскае 1 лістапада 1755 года адчувалася на прасторы 700.000 квадратных геаграфічных міль, г. азн. у чатыры разы большай за Яўропу, ахапіўшы дванаццатую частку ўсёй паверхні Зямлі. Калі нават паменшыць гэтую вобласць напалову (якая лічыцца перабольшанай) то і тады радыус яе будзе ад 400 да 500 геаграфічных міль. Плейстасейставая вобласць гэтага землятрусу таксама вельмі шырокая. Яна пашыралася на поўдні да Магадора па беразе Марока і абдымала большую частку Пірынейскай паўвыспы. Амаль уся Партугалія была разбурана, гэтак жа як і Сявілля, Кадыс, Мадрыд у Гішпаніі і інш. На ўсходзе гэтая вобласць распасьціралася далей Кастыліі, а на поўначы – да Ангулема і Кальяна, і адчувалася нават у Ангельшчыне, Шатландыі, Швецыі, Галандыі, Францыі і Нямеччыне. У Баварыі крыніцы Цепліцы паміж 11-12 гадзінамі 1 лістапада зрабіліся каламутнымі і затапілі ўсе ванны. Такі ж уплыў адчуваўся і на шматлікіх іншых крыніцах і азёрах. Сучаснікі Лісабонскага землятрусу, здзіўленыя сьмерцю на працягу некалькі хвілін дзясяткаў тысяч людзей, былі схільныя бачыць у ім не маючую прыкладу з'яву, падмосткамі якой быў калі не ўвесь сьвет, то, прынамсі, вялікая частка зямной паверхні, і таму не толькі ваганні ў Турыне, але нават у Нью-Ёрку і на возеры Антарыа прыпісваліся яму.

Землятрус у Калабрыі ў 1783 годзе меў вобласць пашырэння толькі 18 міль, пры гэтым самае разбуральнае кола было ўсяго $5^{1}/_{2}$ міль. Але пры ім загінула 40

000 чалавек, не кажучы ўжо пра пабудовы. Пры землятрусе ў Рыабомба 4 лютага 1797 года загінула 20 000 чалавек і г. д.

Такім чынам, землятрусы не толькі разбураюць асобныя селішчы і гарады, але часам ператвараюць у пустыні квітнеючыя і густа-заселеныя вобласьці, не пакідаючы ў іх, як гаворыцца, «каменя на камені», пры чым жывёлы і людзі гінуць у адно імгненне дзясяткамі тысяч. У самой зямной кары (г. азн. яе верхнім напластаванні) яны выраблююць шматлікія змены, складаючыяся ва ўтварэнні шырокіх і шматлікіх расколін, невялікіх азёр, вялізных абвалаў, магутных брудавых струменяў, выліваннях вады і бруду, якія нагадваюць брудавыя вулканы, у з'яўленні асобнага роду хваль на моры, якія выраблююць хуткі, часта суправаджаемы разбуральнымі катастрофамі, прыліў і адліў мора на мацярык.

Само сабой зразумела, што памеры разбуральных наступстваў на паверхні зямлі абумаўліваюцца характарам і магутнасьцю ўстрасанняў.

Вертыкальныя ўдары ці, прасьцей кажучы, устрэсваючыя ваганні выраблюючыя падкіданне прадметаў уверх, пры чым вялікія будынкі, і асабліва слупы, помнікі і інш., разбіваюцца гарызантальнымі расколінамі на некалькі частак. У залежнасьці ад магутнасьці ўдару і спосабу замацавання да падмурку, яны пры гэтым паварочваюцца вакол вертыкальнай восі на большы ці меншы вугал ці ж цалкам адкідваюцца ў бок. У такіх выпадках нярэдка назіраецца, што дахі хат, падкінутыя ўгару, зноў падаюць на свае ранейшыя месцы, пры чым сьцены пад імі разбіваюцца шматлікімі і няправільнымі расколінамі. Але таму што амплітуда вертыкальных удараў наогул невялікая, то разбурэнні, якія выраблююцца імі ў будынках нікчэмныя параўнальна з касымі ўдарамі, узнікаючых пры хвалепадобных ваганнях. На крутых схілах гор, якія складаюца із рыхлых парод ці маючых навісаючыя скалы, уздзеянне ўскосных удараў мае наступствам вельмі вялікія ўзрушэнні. Самую вялікую разбуральную магутнасць яны выяўляюць, згодна з Мілнам, пры вуглавой велічыні ўдару ад 45° да 55°.



Мал. 58.

*«Зямля, раскрыўшая свае вусны (Кн. Лічбы, 16, 32)». Землятрус 1783 года ў Калабрыі каля Джэракорна. Гіганцкія расколіны, застаўшыяся адчыненымі, пакуль іх не запоўнілі пазней абвалы і саслізганні бакоў.*

Расколіны ў зямлі здараюцца амаль пры кожным колькі-небудзь значным землятрусе, і найвялікшая іхная колькасьць назіраецца ў вобласьці эпіцэнтра. Іхнае размеркаванне вельмі разнастайнае: пры прама-цэнтральным землятрусе яны разыходзяцца часам радыяльна-прамяніста ад аднаго цэнтра, падобна расколінам у пабітым шкле (мал. 58). Так, пры землятрусе ў Сан-Францыска 21 кастрычніка 1868 года расколіны ад 40 да 50 футаў шырынёй утварыліся нават на вуліцах горада, паглынаючы людзей, жывёл і нават будынкі. І ў Андалузіі, пры землятрусе 22 снежня 1884 гады, на зямлі таксама ўтварыліся шматлікія расколіны, асабліва каля Перыяны. Самая вялікая із іх, каля вёскі Гюзвіяр, мела да 3 кіламетраў даўжыні і была такая шырокая, што ў яе правалілася шмат сядзіб і нават царква, ад якой на паверхні засталася толькі верхавіна званніцы. Шмат якія расколіны мелі да 4 метраў шырыні і больш 10 метраў глыбіні і зрабілі незаселенай значную плошчу зямлі. Тое ж самае было і ў Японіі пры землятрусе 1660 года (мал. 59).



Мал. 59.

*Вывяржэнне Фузіямы і землятрус у Іеда ў 1650 годзе. Згодна з гравюрай А. Монтакуса ў кнізе «Векапомныя» амбасады Ост-Індыйскай Кампаніі. Амстэрдам, 1660 год.*

Расколіны, утварыўшыяся пры першым удары, часам зачыняюцца пры наступных і, такім чынам, хаваюць назаўседы і верагодна расціскаюць усё, што ў іх патрапіла, цалкам так, як гэта апісана ў бібліі ў апавяданні пра сыноў Карэя (Лічбы 26,9) і патлумачана тым, што яны быццам бы не паслухаліся Майсея. Часам знікненне расколін адбываецца павольна, часам жа, наадварот, асабліва ў цвёрдых пародах, як у Андалузіі, яны застаюцца адкрытымі і пасьля землятрусу.

Вы, магчыма, запытаеце: чаму ж у расколіны патрапляе столькі людзей і прадметаў, калі яны не такія ужо шырокія? Тут справа ў тым, што рассунуўшаяся ў адно імгненне і амаль бяздонна-глыбокая расколіна ўтварае сама із сябе

беспаветраную прастору, у якую з абодвух бакоў ураганам імкнецца паветра, зацягваючы з сабой у яе ўсё, што знаходзіцца на адлегласьці нават і дзясяткаў метраў ад яе. Старонняму назіральніку павінна здавацца, што ўсе прадметы і жывыя істоты, якія знаходзяцца паблізу, самі скачуць у яе ці завабліваюцца туды нейкай таемнай, нябачнай магутнасьцю.

Нешта падобнае мы пабачым і ў бібліі пры апісанні сьмерці супернікаў Майсея Выратавальніка.

Вывяржэнні вады і бруду із расколін, а часам і газаў з полымем, адбываюцца ў тым выпадку, калі пад верхнімі напластаваннямі парод, у якіх уласна ўтвараюцца расколіны, залягае ваданосны пласт ці калі землятрус адбываецца ў асяроддзі алювіяльных наносаў. Тады, пад дзеяннем ціску, вадкія масы выходзяць праз утварыўшуюся расколіны наверх і часам з такой магутнасьцю, што адбываюцца вывяржэнні накшталт брудавых вулканаў. Пры землятрусе 13 жніўня 1878 года ў Арэквіна із расколін выйшла вялізная маса вады і бруду. На выспе Гаваі 4 красавіка 1878 года із расколіны ж з’явіўся такі струмень бруду, што разбурыў блізка размешчаную вёску.

Пры прыбярэжных землятрусах утвараецца нават і пры спакойным моры магутная хваля, якая ці спачатку адыходзіць ад берагоў, асушваючы дно мора на значнай адлегласьці, а потым неўзабаве, звычайна праз некалькі хвілін, наступае, затапляючы часам шырокую палосу берага, ці наадварот. Адыход і наступанне мора амаль заўсёды суправаджае моцны штуршок ці ж узнікае праз невялікі прамежак часу пасьля яго. Гэтая з'ява адбываецца так хутка, што вырабляе катастрофы не менш жудасныя, чым сам землятрус; звычайна адыход працягваецца ад 5 да 35 хвілін і толькі ў рэдкіх выпадках некалькі гадзін. Так пры землятрусе Піско ў Перу ў 1690 годзе адступіўшае мора вярнулася толькі праз тры гадзіны, а каля Санта ў Перу 18 чэрвеня 1678 г. праз 24 гадзіны.

Падчас Лісабонскага землятрусу 1 лістапада 1755 года мора спачатку значна адступіла ад горада, а потым наступіла магутнай хваляй на 26 метраў вышэй звычайнага роўня, а каля Кадыкса – на 20 метраў. Хваля, разбурыўшы ўсё, што ацалела ад землятрусу, паглыбілася амаль на 15 кіламетраў ад берага і загубіла да 60.000 чалавек. Тая ж хваля разбуральна адбілася на ўсім узбярэжжы Гішпаніі, Ангельшчыны, Нарвегіі. Нават на берагах Танжэра ў Марока яна мела яшчэ вышыню каля 6 метраў, а ў Фунчэне на Мадэры – каля 5 метраў. Яна прайшла папярок Атлантычнага акіяна і адбілася на Вест-Індскіх выспах Антыгуа, Барбадосе і Марцініцы. Вельмі вялікая хваля, выраблена землятрусам, назіралася ў Каллао падчас землятрусу ў Ліме ў Паўднёвай Амерыцы ў 1586 годзе, дзе яна дасягнула вышыні 27 метраў.

Да падобнай марской з'явы можна аднесьці і біблейскую легенду пра «загубленне фараона». «Богазмагальнікі» зышлі із мясцовасьці, «уражанай сям’ю заразамі», берагам падчас адступлення мора, а рухаўшаяся за імі войска фараона было праглынута вярнуўшымся морам. Яны, вядома, ішлі за імі не з мэтай вярнуць іх назад, а каб выратавацца і самім. Але легенда патлумачыла прапусканне адных і загубу другіх згодна са сваім вельмі заахвочаным разуменнем.

Пяройдзм жа зараз і да бібліі.

# ГЛАВА IV.
## Сіён і Вязувій.

Каму із асоб, выхаваных у хрысьціянстве, не даводзілася чуць велікоднага гімну:

Сьвяціся, сьвяціся, Новы Ерусаліме,
Слава бо госпoдня на табе вассія!
Радуйся цяпер і весяліся Сіёне,
Ты ж чыстая красуйся, багародзіца,
Пра наступленне нараджэння твайго...

г. азн. пра ажыванне народжанага табой?

Тут лёгка здагадацца, што пад «Новым Ерусалімам» разумеецца зорнае неба, верагодна адноўленае Пталямеевай тэорыяй, як паказваюць шарападобныя галовы над купаламі хрысьціянскіх цэркваў, адлюстроўваючыя старажытнае зорнае неба; але што ж тут азначае Сіён, і чаму ён павінен радавацца ў гэты дзень?

Па-жыдоўску гэтае слова (עיון-ЦІУН) тлумачыцца тэолагамі як надмагільны слуп, і такія слупы із пастаўленага каменя да гэтага часу стаяць замест хрысьціянскіх крыжоў на жыдоўскіх магілах. Але ж і крыж спачатку называўся слупам (па-грэцку стаўрас)[17], і калі ён зараз набыў на хрысціянскіх магілах сучасную арыгінальную форму драўлянага ствала, перасечанага трыма папярэчынамі, із якіх ніжняя нахілена каля 23° да гарызонту, то гэта ўжо пазнейшае нованаданне, азначаючае, відаць, зімовы сонцастаяцельны калюр (г. азн. мерыдыян зімовага сонцастаяння), павінны прыйсьці пад нагу Змеятрымальніка, які топча смерць у выглядзе сузор'я Скарпіёна. Тады Змеятрымальнік, адзнака «Вялікага цара» евангелляў, быццам бы ажыўшага і ўзнесенага на неба з утаймаваным «Змеем граху» ў руках, будзе ўкрыжаваны (г. азн. расьцягнуты) на гэтым кардынатным слупе старажытнага нябёс, як на крыжы. Яго ніжняе нахіленае падножжа, на якім і зараз стаіць Змеятрымальнік, будзе экліптыкай; сярэдняя вялікая папярэчына, да якой будуць як бы прыбіты яго рукі, сімвалізуе нябесны экватар, а верхняя дошчачка з надпісам І. Н. Ц. І. (Ісус назарэй, цар юдэйскі) будзе азначаць тропік Рака, на якім Сонца ў паўночным паўшар'і Зямлі дасягае сваёй найбольшай вышыні.

Такім чынам, васьміканцовы крыж на хрысціянскіх магілах (хаця гэта зусім і не крыж) з’яўляецца сімвалам не гістарычным, а прароцкім. Гэта – сімвал першага каардынатнага слупа (калюра), які падтрымлівае згодна з уяўленнямі нашых продкаў сферычныя крышталічныя нябёсы і падыходзячага пад нагу сузор'я Змеятрымальніка. У гэты менавіта момант і павінна было, згодна з іхнымі астралагічнымі уяўленнямі, адбыцца ўсеагульнае ажыванне памёршых і пачацца вечнае царства «сына боскага».

Грунтуючыся на нашых сучасных разліках прэцэсіі (1°3954 за стагоддзе) гэтая падзея павінна будзе адбыцца толькі праз 800 гадоў пасьля нас, г. азн. каля 2700 года. Але ў тым годзе, калі быў узаконены знак васьміканцовага слупа (а іншага і не было ў грэкаў), хуткасць адваротнага перасоўвання раўнадзенстваў, напэўна, лічылася нашмат большай, чым зараз, і пагэтаму прадказваемая гэтай падзеяй радасць павінна была ўжо здарыцца на памяці нашых продкаў.

Не паглыбляючыся ў дэталёвыя разлікі таго, калі быў узаконены гэты надмагільны і надцаркоўны сімвал у хрысьціян, я абмяжуюся тут толькі адной заўвагай: крыжы на магілах і на дахах хрысціянскія цэркваў з'яўляюцца ўстановай вельмі познага часу, не ранейшай часу з'яўлення евангелляў у лацінскім

[17] Σταύρος (стаўрас) – кол, шост, слуп.

перакладзе, у якім, як я ўжо паказваў у першым томе (ч. I, гл. III), слова крыж упершыню замяніла слова слуп (стаўрас) грэцкага арыгінала евангелля і, зваротным рыкашэтам, надало і самаму слову стаўрас у духоўнай грэцкай літаратуры значэнне васьміканцовага крыжа, нягледзячы на тое, што ў класічнай літаратуры яно мае толькі адзін сэнс: шост, слуп, кол.

Чытач ужо бачыць, напэўна, і сам, да чаго вядуць гэтыя мае разважанні. Першапачатковы хрысціянскі стаўрас, г. азн. слуп, ці кол, да якога быў прыстаўлены евангельскі «вялікі настаўнік» і потым працяты дзідай нейкага рымскага ваяра, напалоханага месяцовым зацьменнем, быццам бы вырабленым гэтым чараўніком, быў той жа самы слуп, які ў юдэйскай бібліі мае назву сіён (дакладней ціун), і які, дзякуючы таму, што яго пачалі ставіць на жыдоўскіх магілах сімвалізуючы нагадванне пра слупаванага Месію, таксама набыў, акрамя свайго першапачатковага значэння, таксама і сэнс надмагільнага слупа, тады як раней ён быў проста «ганебным слупам», да якога прывязвалі на смех натоўпу парушальнікаў старажытнай маралі.

Сіён і крыж такім чынам выяўляюцца толькі адлюстраваннямі аднаго і таго ж прадмета ў двух розных этнічных люстэрках, із якіх кожнае пераіначыла яго ў сваім накірунку, і таму яны пачалі здавацца ў іх рознымі прадметамі.

Ці можна хоць на хвіліну падумаць, што назву “сіён” мае той маленькі і пакаты ўзгорачак пасярэдзіне сьцен Эль-Кудса, які лічыцца зараз хрысціянамі за Ерусалім? Нічога падобнага на слуп у гэтым узгорку няма, і вы лёгка перайшлі б праз яго, як і праз кожны із невялікіх узгоркаў, за чвэрць гадзіны, нават і не заўважыўшы нічога. Але, можа, ён мае назву слупа з нейкай іншай нагоды?

З гэтага боку цікава перагледзець усе месцы бібліі, у якіх ужываецца слова «сіён», каб вызначыць месца, дзе да яго прыставілі евангельскага «вялікага магістра акультных ведаў».

Перадусім, мы бачым, што слова «сіён» ніводнага разу не сустракаецца ў кнігах: Быццё, Сыход, Лявіт, Лічбы і так званае Другазаконне, хаця на самай справе яно з’уляецца толькі Першазаконнем. У першых чатырох кнігах усюды стаіць толькі Сінай, а ў Першазаконні яго замяняе Харыб (лацінскае horribilis – жудасны). У гістарычных і прароцкіх кнігах слова «сіён» сустракаецца толькі дзе-нідзе, але ім лiральна перапоўнены псалмы і прароцтвы Ісаі і Ераміі, з якіх мы таму і пачнём яго разбор, адзначыўшы, што ў першых 47 псалмах (апроч другога пра гэты «слуп» нічога не гаворыцца.

Перш за ўсё, відавочна, што гара Сіён замяняе ў прарокаў Сінай, бо ў іх ніводнага разу не сустракаецца гэтага апошняга імя, хаця яно павінна было б быць там увесь час, ужо праз адно тое, што на ім былі дадзены дзесяць біблейскіх запаветаў пры надзвычай выключных геафізічных абставінах, ды і характарыстыка абедзвюх гор тая ж самая; гэта – яркая характарыстыка Вязувія ў момант яго вывяржэння, ды і само найменне гары – Сіён, г. азн. слупная гара, – паказвае на характарыстычны слуп дыму над Вязувіем (мал. 37).

Вось два месцы пра яго ў прароцтве «Ерамія»:

«Слупная гара будзе ўскапана (вядома, лавай), як ралля (мал. 46), і «Горад міру» каля яе падножжа ператварыцца ў развaліны» (26. 18).

Адзначым, што «Горад міру» па-жыдоўску завецца Еру-Салім; так ён і пакінуты ў царкоўных перакладах, і тут мы прыходзім да першага ўказання, што гэтае найменне ў бібліі меў Геркуланум (горад Геркулеса) ці Пампея (горад

Пампея). І як Пампея носіць імя вялікага Пампея, так і Ерусалім носіць імя вялікага Саламона.

А вось і яшчэ месца: «Прыйдзе дзень, калі вартавыя на «Гары Попелу» (па-жыдоўску афрым – попел) абвесцяць: «паднімайцеся, пайшлі на Слупавую гару, да Грамабоя, нашага бога!» І ўсё прыйдуць і будуць радавацца на вышыні Слупавой гары» (31. 6-12).

Ужо гэтых адных радкоў у Ераміі было б дастаткова, каб навесьці на думку, што гаворка тут ідзе пра вялікае вывяржэнне Вязувія, пры якім былі пахаваны Геркуланум ці Пампея. Але перш чым канчаткова высвятліць гэтае пытанне, зазірнём у біблейскую кнігу «Ай-Як!», пераназваную тэолагамі ў «Плач Ераміі»[18]. Там мы знойдзем такое дзіўнае апісанне знішчэння вялікага сталічнага горада ад землятрусу і вывяржэння вулкана, і са слупом дыму, і з аблокамі попелу, і з палаючымі струменямі, і з градам вулканічных камянёў (lappili), што сумнявацца пра месца дзеяння ўжо не будзе ніякай магчымасьці.

Вось гэты «Плач»:

**Із Главы 1.**

«Ай, як спакойна існавала сталіца, некалі шматлюдная, а зараз удовая!» (1.1)

«Шляхі да Слупа наракаюць, таму што няма на іх ідучых на свята! Усе вароты да яго аспусьцелі. Уся пышнасць адышла ад яго дачкі» (1.4).

**Із Главы 2.**

«Як накрыў раптам змрокам Грамабой дачку «Слупа» (сталіцу) у сваім гневе! Ударамі з неба зваліў ён на зямлю красу сядзібы богазмагальніка і не згадаў пра падножжа сваіх ног у дзень свайго гневу! Загубіў Грамабой усе сядзібы богазмагальнікаў, разбурыў у сваёй лютасьці ўмацаванні дачкі богаслаўя, зрынуў на зямлю царства яго князёў. Ён нацягнуў свой лук і пусьціў свае стрэлы (маланкі), як непрыяцель, і забіў імі ўсё пажаданае для вачэй. Ён выліў, як полымя, сваю лютасць на шатры дачкі Слупа. Ён прымусіў забыцца на Слупнай гары яго сьвяты і суботы. Ён адкінуў яе цара і яе сьвятара ў абурэнні свайго гневу, адкінуў свой ахвярнік, адхіліў сваё сэрца ад свайго ж свяцілішча!

«Грамабой вызначыў: «Разбуру сьцены дачкі Слупнай гары!» – і не адхіліў рукі сваёй ад яе спусташэння. Ён знішчыў яе вонкавыя ўмацаванні, разбурыў унутраныя сьцены яе сядзіб. Вароты яе ўдаліся ў зямлю, яе засоўкі знішчыліся. Яе цар і князі схаваліся сярод чужых народаў. Не стала яе законаў і прадракальнікаў; яны не ганаруюцца больш наданнямі ад Грамабоя (мал. 61).

---

[18] אי־בה (AI-KE) – ай як! У лацінскім перакладзе Liber threnorum, па-руску, з грэцкага: плач Ераміі.



Мал. 61.
*Curia Isiaca (царква Ізіды) у Пампеі згодна з малюнкам 1851 года.*

«Нямымі сядзяць на зямлі старцы разбуранай сталіцы. Дочкі Слупнага гарада аперазаліся вяроўкамі і пасыпалі попелам свае верхавіны[19]. Панны Горада святога замірэння апусьцілі свае галовы да зямлі. Мае вочы знясілелі ад слёз, усё нутро хвалюецца ў ва мне. Маё сэрца жадае выліцца на зямлю ад гібелі дачкі майго народа, бачачы, як яе дзеці і грудныя немаўляты паміраюць сярод гарадзкіх вуліц ад голаду.

– Дай хлеба і віна! – просяць яны, паміраючы, і не атрымліваюць.

«Праходзячыя толькі ўсплёскваюць рукамі, свішчуць і ківаюць галовамі. Яны кажуць пра дачку Слупяной гары:

– Ці гэта горад, які называлі дасканаласьцю хараства?

«Здзейсніў Грамабой тое, што вызначыў, выканаў сваё слова, вымаўленае ў старажытныя (!) дні, спустошыў горад без літасьці. Лі ж ручаём слёзы дзень і ноч, дачка Слупяной гары, і не давай сабе заспакаення, не заплюшчвай тваіх вачэй! Галасі ноччу кожную гадзіну, спавядай сваё сэрца перад тварам Грамабоя. Працягвай да яго свае рукі і прамаўляй:

– «Паглядзі на нас, Грамабой! Каму ты рабіў так, каб маткі елі свой уласны плод, елі ўзгадаваных імі немаўлят? Якому народу ты рабіў так, каб загінулі яго сьвятары і прадракальнікі ў самым тваім сьвяцілішчы?

«Дзеці і старыя ляжаць на зямлі па вуліцах. Мае дзяўчынкі і хлопчыкі загінулі. Ты забіваў іх у дзень твайго гневу без літасьці. Усе жахі сабраліся як на сьвята ў дзень твайго гневу, Грамабой, і ніхто не выратаваўся, ніхто не ацалеў»!

**Із Главы 3.**

«Я, чалавек, выпрабаваўшы гора ад гневу Грамабоя. Ён павёў мяне (у дзень вывяржэння) не да сьвятла, а ў цемру; ён кінуў мяне ў цемры ў яму, як даўно памершых адгарадзіў падаючымі камянямі (вулканічнага вывяржэння) дарогі да выйсьця; ён пераблытаў мае шляхі, нацягнуў свой лук (у аблоках) і паставіў мяне як бы мішэнню для сваіх маланак.

[19] Адзначу, што пасыпанне галавы попелам у адзнаку смутку таксама павінна весьці свой пачатак ад вывяржэнняў Вязувія, з іхай вялізнай колькасьцю попелу на выратаваўхся, а збіццё камянямі грэшнікаў павінна паходзіць ад іхнага ўяўляемага збіцця вулканічнымі камянямі, як бы ляцеўшымі з неба.

«Ён выбіў камянямі (так званымі lapili Вязувія) мае зубы і пакрыў мяне попелам... «Ён засланіў сябе воблакам, каб не даходзіла да яго наша маленне» (44). Лінуўшаяся вада паднялася да самай маёй галавы, і я думаў, што ўжо загінуў (54). Але я паклікаў із глыбіні тваё імя і ты пачуў мой голас» (56).

**Із Главы 4.**

«Ах, як камяні нашага сьвяцілішча раскіданы па ўсіх скрыжаваннях! Як сілкаваўшыяся ласункамі знемагаюць зараз на вуліцах, а выхаваныя ў парфірах ляжаць прыціснутыя да гною! Пакаранне бязбожнасьці дачкі майго народа перавышае пакаранне за грахі Садома (Стабіі), той жа зрынуты імгненна і чалавечыя рукі не дакраналіся да яго!

«Шляхетныя кабеты і панны Слупнага горада былі чысьцейшымі за снег, бялейшымі за малако: іхныя вусны былі прыгажэй за карал, вочы як (сінія) сапфіры, а зараз іхныя твары цямней усяго чорнага, іх не пазнаць памёршых на вуліцах: скура прыліпла да іхных костак і стала сухая, як у дрэва.

«Грамабой выліў на іх лютасць свайго гневу, ён запаліў на Слупнай гары полымя (мал. 62), якое пажрала яе дашчэнту, і ўсё гэта за грахі яе ілжэ-прадракальнікаў, за беззаконні яе (арыянскіх) святароў! Яны блукалі зараз па вуліцах, як сляпыя, апаганеныя сваёю крывёй, так што немагчыма было дакрануцца да іхных адзенняў.



Мал. 62.
*Вывяржэнне Вязувія ў 1858 годзе, «начны выгляд».*

– «Стараніцеся, паганыя! – крычалі ім усе. – Стараніцеся, стараніцеся! Не дакрнайцеся да нас!».

«І яны сыходзілі збянтэжанымі, а ў народзе казалі:

«Хаця гэтыя і паспелі збегчы, але і іх знішчыць Грамабой. Не памілуе!.. Іх не будзе больш!»...

А далей, у Главе 5 і апошняй, ужо распавядаецца пра далейшае жыццё збегшых із разбуранай землятрусам «сталіцы».

**Із Главы 5.**

«Мы сталі сіротамі, без бацькі; маці нашыя як удовы. Мы плацім за ваду, якую п'ём, за дровы для варэння нашай ежы. Нас гоняць у шыю, і мы працуем без адпачынку. Мы працягваем рукі да міц-рімцаў (МЦ-РЫМ) і сыноў Правадыра (АШУР), каб далі нам ежу. Зараз ужо няма нашых бацькаў, якія зграшылі, а мы ўсё яшчэ нясём за іх кару. Рабы іншых пануюць над намі, і некаму пазбавіць нас ад іхных рук. Скура наша счарнела ад пякучага голаду як (абкураная) у печы. Нашы князі павешаны, нашы старцы не ўважаны, хлопчыкаў бяруць круціць жарнавы, а падлеткі падаюць пад вязкамі дроў. Спынілася радасць нашага сэрца, карагоды нашы ператварыліся ў жалобу.

«Гара нам за тое, што мы зграшылі!»

* * *

Такім з’яўляецца знакаміты «Плач Ераміі».

* * *

Нас пераконваюць, што тут апісана не разбурэнне вялікага горада пры вывяржэнні вулкана, а напад месапатамцаў на Палестыну і адвядзенне ў палон яе жыхароў... Але дзе ж тут нешта падобнае на гэта? Ні пра які напад зямнога ворага, ні пра якую аблогу са сьценабітнымі прыладамі і іншымі рэчаіснымі падрабязнасьцямі старажытных войн тут нават няма і намёку... Усё зрабіў адзін Грамабой!

Трэба ж нам, нарэшце, пры чытанні біблейскіх апісанняў пазбавіцца ад звычаю разумець не тое, што чытаем, а тое што нам надалі нашы папярэднікі. Гэта цалкам падобна на тое, як загіпнатызаваны глядзіць перад сабой і бачыць, напрыклад, на шыі сваёй жонкі не чалавечую галаву, а конскую. Трэба, нарэшце, прызвычаіцца чытаць біблейскія кнігі так жа, як мы чытаем усе астатнія, і гэта будзе лепш і для тэалогіі.

Возьмем хоць гэты «Плач», калі вы яго чытаеце з майго боку гледжання. На вас нападае жах ад рэчаіснасьці апісання вынікаў жахлівага землятрусу, а працягвайце разумець гэтае апавяданне як мінулыя тэолагі, дапасуйце яго да маленькага нявіннага ўзгорачка пасярэдзіне сьцен сучаснага Эль-Кудса, які вы лёгка пяройдзеце ў задумлівым стане, нават і не звярнуўшы на яго ўвагу, і ўсё тут для вас будзе нават і не «плачам», а толькі недарэчнымі стылістычнымі практыкаваннямі, нечувана экстравагантнымі прыёмамі хадульнага пісацельства, прыдуманага невядома для чаго і чаму.

Уявіце, напрыклад, што вы жыхар Якуцкай вобласьці і што да вас, пры імператары Мікалаю, прывезлі палітычнага высланніка.

– Раскажыце, – кажаце вы яму, – як вас арыштавалі, як везлі сюды?

А ён адказвае:

– Ай, як гэта было! Ілля прарок наляцеў на мяне ў хмары, ён выбраў мяне мэтай для сваіх маланак, спаліў цэлы ўзгорак полымем свайго гневу; ён абсыпаў мне галаву попелам, выбіў зубы каменнем. Я кінуўся на ўцёкі, а ён накрыў змрокам мой шлях, каб я не змог знайсьці дарогу; засланіўся аблокамі, каб не чуць майго ляманту. Я зваліўся ў яму, і наплыўшая вада дайшла да маёй шыі, але я паклікаў яго із ямы і вось – апынуўся тут, у Якуцку, і ўсе праходзячыя свішчуць і смяюцца, слухаючы мае апавяданне!

Што б вы адказалі высланніку на гэта? Вы, вядома, пайшлі б шукаць лекара, думаючы, што прыехаўшы страціў розум.

І вось я тут кажу вам толькі адно:

– Гэта пісаў не не страціўшы розум!

А калі так, то гаворка тут можаісьці толькі пра жахлівае гістарычнае вывяржэнне Вязувія, загубіўшае Пампею. Ніякага іншага вывяржэння, нават аддалена падобнага на апісанае, не было ў этнічным басейне Міжземнага мора з часоў ледніковага перыяду, а тады яшчэ не існавала ніякіх гарадоў. Стаўшы на такі рэалістычны бок гледжання, мы адразу заўважым тут не толькі мастацкае апісанне гібелі Пампеі, але і вельмі цікавы этна-псіхалагічны помнік старажытнасьці.

Звернем увагу на становішча сьвятароў бога Грамабоя, які і тут завецца проста Іовісам (ІЕВЕ), г. азн. біблейскім богам-бацькам, аднайменным з італійскім Іовісам Патарам, г. азн. Юпітэрам (мал. 63). Сярэдневечныя ж вернікі сапраўды верылі таму, што нічога не адбываецца без божай волі і што гэтая воля паведамляецца богам яго прысьвечаным (сьвятарам) для таго, каб яны загадзя перасьцерагалі сваю паству і гэтым ратавалі яе ад бедаў. Праз гэтага і даваліся ім тытулы «збаўцаў», якія захавалася да гэтага часу за евангельскімі прысьвечанымі.



Мал. 63.
*Узор пампейскага насьценнага жывапісу. Грамабой, пасад і падножная падстаўка пакрыта залатой фарбай. Мантыя фіялетавая з блакітным адлівам.*

І вось зусім нечакана, калі ўсе «прысьвечаныя» сядзелі сабе спакойна на парогах сваіх свяцілішчаў, бог-бацька раптам да таго на штосьці раззлаваўся, што ператварыў у разваліны ўвесь горад, не пашкадаваўшы не толькі свой храм і сваіх прысьвечаных, але і нікога з іхнай паствы, нават грудных дзяцей!

Якім стала ў гэтае імгненне становішча ацалелых сьвятароў, якія сцвярджалі раней, што бог Грамабой знаходзіцца з імі ў непасрэдных стасунках праз свае знакі на нябёсах?

Чым глыбей была вера ў іх у атачаючых людзей, тым глыбейшым стала разчараванне. Із пракакаў і прысьвечаных яны адразу ператварыліся ў ашуканцаў і шарлатанаў, якія толькі падманвалі насельніцтва, і, верагодна, замест святарствання рабілі нейкія гнюсныя, таемныя грахі, за якія папакутавала ўсё насельніцтва. Павага да іх адразу ператварылася ў нянавісць. Больш палкія пачалі проста забіваць усіх ацалелых із іх, сустрэчны натоўп збіваў іх да крыві, да іх баяліся дакрануцца, казалі: «І іх не шкадуе Грамабой!»

А ім што заставалася рабіць, як не адыходзіць у засмучэнні?

Які б старажытны аўтар прыдумаў такое апісанне? Тут бачны сведка рэальнага жахлівага землятрусу, які загубіў вялікі абласны горад, а не першабытны белетрыст, якому былі цалкам чужымі этнапсіхалагічныя пранікненні да такой рэальнай глыбіні чалавечай душы.

Нам застаецца тут толькі вырашыць пытанне: да якога часу дапасуе гэтае апісанне? Разбурэнне сталіцы тут адбываецца пасьля разбурэння Гаморы і Садома, г. азн. пры другім жахлівым вывяржэнні Вязувія, пасьля чаго ў Заходне-Рымскай (арыянскай тады) імперыі пачалася анархія.

Кожная ідэя пра нейкі іншы вулкан – апроч Вязувія – тут цалкам выключаецца. Ва ўсім Старым Свеце, апроч Японіі, ёсць толькі два вулканы, каля падножжа якіх размешчаны квітнеючыя мясцовасьці: гэта – Вязувій з пахаванай каля яго падножжа Пампеяй і Этна з існуючай да гэтага часу Месінай і шматлікімі іншымі мястэчкамі, якія таксама не раз зведвалі моцным землятрусы.

Але сіцылійская Этна мала дапасуе да «плачу Ераміі»: яна ўзвышаецца тэрасамі із мноства асобна стаячых гор, утвараючых яе падмурак да 3304 метраў, і пры некаторай гульні ўяўлення сапраўды мае выгляд пуцяводнага слупа на адзіным старажытным марскім шляху із Грэцыі і Ягіпта ў Неапаль, Рым і Заходнюю Яўропу. Яе ніжні пояс да 700 метраў вышыні вельмі ўрадлівы і зараз увесь апрацаваны. Другі пояс да 2000 метраў вышыні пакрыты раскошнай расліннасьцю, а вяршыня вечна дыміцца, як алтар багам. Аднак, вывяржэнні Этны, адбываючыяся ў сярэднім праз кожныя 10-12 гадоў, за ўвесь гістарычны перыяд часу да нядаўняга месінскага землятрусу ніколі не суправаджаліся катастрофамі, якія б адпавядалі апісанай вышэй. Хутчэй за ўсё, Этна з найстаражытных часоў лічылася не пасадам бога Грамабоя, а толькі ахвярнікам, на якім вечна курыўся фіміям усім нябесным багам. Само найменне Этна (Etna, Aetna) тоесна з грэцкім этнэ (έθνη) і азначае: паганка, усенародная.

Найбольш моцнае вывяржэнне Этны із усіх захаваўшыхся ў летапісах і працягваўшаяся 54 дні было толькі ў 1669 г. Яно знішчыла 12 невялікіх паселішчаў, але «Плач Ераміі» ў гэты час быў ужо надрукаваны ў лацінскім выданні бібліі, ды і вынікі вывяржэння не адпавядаюць апісаным тут наступствам.

Самае старажытнае вывяржэнне Этны сярэднявечныя гісторыкі адносяць да 599 года да пачатку нашай эры, г. азн. якраз да тых жа часоў, калі згодна з іхнымі уяўленнямі плакаў Ерамія (каля 600 г. да пачатку нашай эры). Аднак жа гэта дзіўнае супадзенне ніяк не служыць падцверджаннем старажытнай храналогіі, якая памылкова пераносіць месца падзей у Палестыну, дзе няма вулканаў, а з'яўляецца толькі ўказаннем на тое, што разам з прароцтвам «Ераміі» была перанесена ў глыбіню стагоддзяў і перасунута геаграфічна падзея, якая выклікала яго плач. На справе ж, як мы бачылі ўжо ў першай кнізе гэтага даследавання, аўтар прароцтва «Ераміі» назіраў сваю камету ў 451 годзе нашай эры, а не да яе, і, прытым, калі ўжо бег, разам з астатнімі навукоўцамі, з заходняй імперыі ва ўсходнюю, у якую і перайшла часова культура захаду. Гэта азначае, з ношага боку гледжання, тут апісана другое жахлівае вывяржэнне Вязувія каля 420 года, пасьля якога, сапраўды, і была анархія ў заходняй імперыі.

А калі мы станем на гэты падмурак, то для нас зробіцца відавочным і шэраг іншых больш драбных гістарычных пытанняў. Сапраўды, мы ўжо і раней атаясамлялі біблейскага Давыда з «Вялікім Пампеем», імя якога азначае «вялікі пасланец». І з гэтага боку глджання выходзіць, што Пампея – той жа самы горад,

што і біблейскі «ЭЙР-ДУД» (Горад Давыда) ці «Горад Замірэння» (з Грамабоем). Гэта азначае Ерусалім і быў Пампеяй, апостальным горадам грэцкіх і арабскіх асаднікаў каля падножжа Вязувія. Там каранаваліся, г. азн. набывалі «воляю бога-Грамабоя» сваё аўгусьцейства цары лаціна-эліна-сірыйска-ягіпецкай імперыі з часоў Дыяклетыяна (ён жа Пампей-Давыд), упершыню пачаўшага дараваць «боскай воляй», а не адной толькі магутнасьцю зброі свайго войска, якое самавольна прызначала і скідвала яго папярэднікаў паміж Аляксандрам Северам (222-235) і Аўрэліянам.

З гэтага часу і пачалася тэакратычная манархія, і замест ранейшага дэвіза: «хто мацней ўзяў палку, той і капрал» усталяваўся заканамерны парадак атрымання пасада ў спадчыну, на які мелі права толькі дзеці каранаваўшыяся каля «Слупа Грамабоя», пра які грукатала слава на ўсіх узбярэжжах Міжземнага мора. Гэты іхны «слуп» да таго гіпнатызаваў усіх забабонных насельнікаў падзеленай на некалькі асобных частак вялізнай тэрыторыі, што рэдка хто нават із самых папулярных правінцыйных вайсковых правадыроў адважваўся падняць зброю на «каранаванага грамабоем», ды калі і паднімаў, то не доўга трымаўся за ўладу, калі вярхоўны служка Грамабоя каля падножжа таго ж Вязувія ў горадзе яго слупа не ўскладаў на яго руку і не мазаў яго галаву маслам, асьвечаным на нерукатворным ахвярніку. Дзякуючы гэтаму стала магчымым кіраванне нават кабет, якой і была ўпершыню Клеапатра ў Ягіпце, якая згодна з нашай храналогіяй адносіцца якраз да часоў нашчадкаў Дыяклетыяна.

Тады быў яшчэ арыянскі перыяд тэакратыі, якая ўтварылася пры першым жахлівым вывяржэнні Вязувія, меўшага назву да таго часу Сінай, верагодна ад старажытна-італійскага слова sino (лацінскае sinus), г. азн. Гара Нетраў. З часоў жа гэтага вывяржэння і гібелі Геркуланума і Стабіі (Садома і Гаморы), адбыўшагася, напэўна, каля 284 года, Вязувій атрымаў назву Харыва (лацінскае horribilis – жудасны), пад якой і захаваўся ў біблейскай кнізе псеўда-Другазаконне.

Такім Вязувій заставаўся звыш 100 гадоў, як непарушны падмурак улады адзінага бога-Грамабоя, бога-бацькі, які скінуў усіх астатніх багаў. Гэта быў перыяд перавагі закона Арона, г. азн. Арыя, закона ў дзесяці запаветах, напісанага ім быццам бы згодна з загадам Грамабоя на Грукацячай гары, на дзвюх знакамітых «скрыжалях запавету».

Дзе зараз гэтыя скрыжалі? Як магла загінуць такая каштоўнасць, не пакінуўшы нават ніводнага радка ўспамінаў пра тое, дзе адбылася падобная небывалая ў тэалогіі трагічная падзея?

З нашага боку гледжання ўсё гэта цалкам зразумела: абедзве скрыжалі былі пахаваны пад попелам, які засынаў Пампею каля 420 года, і могуць быць калі-небудзь адкапаны.

У той час арыянскі закон глыбокага ўшанавання адзінага бога-айца быў ужо трохі падарваны, відаць, новым, хаця б і меншым землятрусам, які адбыўся ў вобласьці Флегрэйскіх палёў, нягледзячы на ўсеагульнае глыбокае ўшанаванне там адзінага Грамабоя.

– Навошта ён разбурае свой уласны ахвярнік каля падножжа сваёй гары? – пыталі прыхільнікі грознага бога.

– Магчыма, – адказвалі яны сабе, – за нейкія таемныя грахі яго святароў.

Святары, апраўдваючыся, казалі:

– Гэта няпраўда. Народ караецца за грахі яго цароў, а не за нашы.

Але гэта не выпраўляла справу, бо і тыя і другія былі «памазанцамі», а апроч таго, чаму ж пасьвечаныя загадзя не папярэдзілі пра гэта народ?

У палове IV стагоддзя з'явіўся, – як мы ўжо ведаем, – новы настаўнік «із царскага роду», якога жыціі святых называюць «Вялікім царом», а евангеллі – «Ратавальнікам» і «Чалавечым сынам», пачаў сцярджаць, што арыянства не вытрымлівае крытыкі і што «горад святога Замірэння», г. азн. Пампея, будзе разбураны новым землятрусам, нягледзячы на яго ахвярнікі. Ён відаць прызначыў гэтую падзею на 21 сакавіка 368 года, калі згодна з яго разлікамі павінна было наступіць поўнае месяцовае зацьменне, у самы дзень раўнадзенства. Яго за гэта пацягнулі на гару да слупа дыму над Вязувіем, і, магчыма, проста прывязалі да гары, каб ён загінуў першым ў прадказаную ноч, але зацьменне адбылося без вывяржэння.

– Полымя, – тлумачылі ўсе яго прыхільнікі, – не асмелілася яго пажэрці, і Грамабой скасаваў дзякуючы яму свой прысуд. Настаўнік быў зняты з гары ў непрытомным стане, палічаны за памёршага, і Ёсіф Арымафейскі, што азначае Кратар Грамабоя, Леў Магілы Госпада, прыняў яго да сябе. Але там ён апрытомеў (пабываўшы ў падземным царстве!) «выйшаў на трэцці дзень», і выдаліўся із горада цэзараў (г. азн. са сталіцы) таксама ў «горад цэзараў», у Кесарыю, на грэцкі ўсход. Так у Малой Азіі ўзнікла апакаліптычнае хрысціянства, з ушанаваннем яго, як бога-сына, замест бога-бацькі, які губіць свае гарады. І гэтае ўяўленне пра адсутнасць карысьці маліцца Грамабою так пашырылася, што і дагэтуль на ўсім праваслаўным усходзе не існуе ніводнага храма, прысвечанага богу-бацьку, а толькі богу-сыну («ратавальніку»), яго маці і розным яго святым.

Я адчуваю, што гэтае маё ўяўленне пра «ўкрыжаванне Езуса» можа быць палічана з першага, павярхоўнага пагляду за простую фантазію. Але ці так гэта ў рэчаіснасьці? Калі мы сур'ёзна падумаем над усім папярэднім, то атрымаецца цалкам наадварот.

Як геаметр, засвоіўшы нейкую тэарэму і бачачы яе даказанай, кладзе яе ў падмурак сваіх далейшых меркаванняў адносна прасторавых суадносін, так зрабіў і я. Выказаўшы здагадку, што гара Сіён зяўляецца Вязувіем, я даказаў гэта простым параўнаннем яго апісання ў бібліі з апісаннем Вязувія ў сучасных геолагаў (і яшчэ раз дакажу іншым спосабам у апошняй частцы). Потым я даказаў гэта і адмоўным шляхам, паказаўшы на немагчымасць існавання калі б там ні было такой гары ні ў Палестыне, ні ў нейкай іншай частцы Старога свету, апроч Японіі з яе Фузі-Ямай, якая таксама лічыцца (і з той жа нагоды) сьвятой гарой у японцаў, з храмамі каля яе падножжа. Я прыйшоў такім чынам да сваёй асноўнай высновы: Сіёнам біблейскіх пракорокаў мог бытъ толькі Вязувій.

Тут я на цвёрдай глебе. А калі так, то я раблю і далейшыя высновы:

Біблейскім Горадам Заспакаення[20] мог быць толькі «апостольны», прэцэсійны па-грэцку і «трубны» на-лаціне горад, паблізу Вязувія, бо такім з'яўляецца значэнне слова Пампея на дзвюх апошніх мовах. Найменне «тут пабачу заспакаенне» Пампея магла атрымаць дзякуючы таму, што ў гэтым месцы спадзяваліся знайсьці сабе заспакаенне ўцекачы із разбураных першым землятрусам паселішчаў каля свяцілішча да-Дыяклетыянавага галоўнага бога флегрэйскіх фумарол – Хронаса ці Сатурна, ператварыўшагася ў зрынутага сатану, верагодна менавіта з нагоды разбурэння яго ўладанняў пры Дыяклетыяне больш

---

[20] Слова Ерусалім на біблейскай мове азначае «тут пабачу мір» ці «тут знайду заспакаенне», а па грэка-жыдоўску азначае: «сьвятое заспакаенне».

магутным Іовісам-Грамабоем, на якога ён быццам бы паўстаў і да культу якога адразу перайшло выжыўшае насельніцтва.

Гэты Сатурн (ШТН ці СТН – сатана) упершыню згадваецца ў бібліі толькі ў кнізе «Параліпаменон» у такім выглядзе:

«Паўстаў Сатурн (сатана) на богазмагальнікаў і заахвоціў Давыда (г. азн. Дыяклетыяна-богапрызванага) зрабіць перапіс народу... І было ўсіх богазмагальнікаў, (г. азн. іавіянцаў) мільён, із якіх 100 тысяч прыдатныя для вайны, а із богаслаўцаў (г. азн. элінаў, якія не былі пералічаны ўсе праз аддаленасць) было 470 тысяч, прыдатных для вайны. Толькі царкоўны прычт (лявіты) і сыны бога Она[21] не былі пералічаны Боскім Бацькам[22], якому даручыў пералік Давыд, хаця гэта было таму агідна.

Але «такая справа была непрыемнай і для вачэй Грамабоя (21,7)... Давыд (Дыяклетыян) падняў свае вочы і пабачыў вястуна Грамабоя (у выглядзе новага дымавога слупа над Вязувіем), стаяўшага паміж небам і зямлёй з мячом у руцэ, г. азн. з каметай Галея, якая праходзіла ў 296 годзе вясной праз Андрамеду, Рыб, Ільва і Панну да ног Вялікай Мядзведзіцы). Вястун Грамабоя стаў над горадам каля малацільнага (булькатаўшага) тады гумна Валадара Каўчэга (АРНН), прыхільніка Іовіса (21,15).

– «Прадай мне месца пад тваім гумном, – вымавіў яму прыйшоўшы Давыд-Дыяклетыян. – Я пабудую на ім ахвярнік Грамабою».

«Ён ахвяраваў на яго 600 сікляў золата і, пабудаваўшы ахвярнік, здзейсніў на ім ахвяры ўсеспалення і ахвяры заспакаення. Ён паклікаў Грамабоя, і той адказаў яму палымем з нябёсаў на ахвярнік і загадаў свайму вестуну ўкласьці меч у ножны.

«Намёт Грамабоя, – працягвае біблія, – які наладзіў Майсей у пустыні Слупнай гары, і ахвярнік усеспалення знаходзіліся тады ў кратары (crater = ГБЭУН = чарка) каля Ўзгорка (21.29)», г. азн. у тым дагістарычным вялізным кратары Вязувія (мал. 37), пасярэдзіне якога вырас новы кратар, загубіўшы пазней Пампею.

Дзе тут фантазія? – запытаю я. – Тут першае рэалістычнае тлумачэнне цалкам незразумелых раней месцаў у біблейскіх кнігах. Не адной толькі фантазіяй з'яўляецца таксама і мая гіпотэза, што легенда пра «ўкрыжаванне вялікага магістра», як вучні завуць свайго «Збаўцу» ў лацінскай версіі евангелляў, утварылася з сапраўднага прыкавання нейкага рэальнага і вялікага па тым часе навукоўца да лававага падножжа агнёва-дымавога слупа Вязувія, г. азн. да яго Сомы.

Гэты ж слуп у асяроддзі грэцкіх асаднікаў Неапалітанскага заліва і не мог звацца інакш, як стаўрас, г. азн. шост, кол. А ў грэцкім арыгінале евангелляў усюды і гаворыцца, што «настаўнік» быў прыстаўлены да стаўраса (σταυρός)

Калі б падзея адбывалася на аддаленых берагах Мёртвага мора ў Азіі, то такое выказванне, як я ўжо дастаткова паказаў у першай кнізе гэтага даследавання, давялося б разумець у літаральным сэнсе, што ён быў пасаджаны (як гэта і рабілі не раз усходнія самаўладцы са сваімі ворагамі) на завостраны кол, убіты ў зямлю, пры чым вастрыё кала, зайшоўшы праз прамую кішку і прадраўшы вантробы да лёгкіх, павольна забівала чалавека ў жахлівых, пакутах. Аднак усеагульнае

[21] Слова Бэн Оні (БН-АУНІ) – азначае сын бога Она, а другім найменнем гэтага стану было БН-ІМІН, г. азн. сыны праўды (правай рукі).

[22] ІУ-АБ = АБ-ІЕ, па-грэцку Авія, які быў бацькам Асы, г. азн. Езуса, адружыўшыся з Марыяй, відаць дачкой Ліцынія-Антонія ад знакамітай Клеапатры, як яшчэ будзем мець выпадак разважаць далей.

пашырэнне хрысціянства было б цалкам незразумелым ў гэтым выпадку, без дапушчэння таго, што тут бралі ўдзел акультныя магутнасьці.

Зараз жа, калі мы бачым, што месца дзеяння было на Вязувіі, і ведаем яго характарыстычны стаўрас нам няма патрэбы шукаць іншага стаўраса для грэцкага тэксту евангелляў. Вось чаму і ў вядомым хрысціянскім гімне, які пры слушным перакладзе з грэцкай даводзіцца чытаць:

Слупу твайму пакланяемся, Хрысце.
І сьвяты набытак твой апяваем і славім, –

слова *слуп* патрэбна разумець не вульгарна, у сэнсе завостранага кала, на які ўчалавечыўшыся бог дазволіў людзям пасадзіць сябе, каб яны адкупілі гэтай новай брыдотай усе свае ранейшыя грахі, а ў сэнсе слупа дыму, з'явіўшагася над Вязувіем і палічанага прадвеснікам яго новага жахлівага вывяржэння, але не зрабіўшага краіне шкоды, калі прывязалі ці прыкавалі каля яго падножжа вывучаўшага яго знакамітага чараўніка і лекара. Адсюль жа і звычай стоўпніцтва, г. азн. сяддзення на высокім слупе, узнікшы ў V стагоддзі.

Тут застаецца толькі патлумачыць, чаму гэты слуп, хмарнавыглядаючы днём і палымяна ноччу, ператварыўся ў лацінскай традыцыі ў крыж (crux). На такое пытанне я адкажу другім пытаннем:

– Чаму лацінская надрадковая літара T, якраз уяўляючая профіль стаўраса над Вязувіем (мал. 37), ператварылася ў лацінскім хуткапісанні ў t, г. азн. у крыж?

Відавочна, тое ж было і ў дадзеным выпадку. Першапаткові знак хрысціянства – слуп (сіён, стаўрас) – і быў на сваёй радзіме пазначаемы ў форме літары Т, каля падножжа якога быў прывязаны ці прыкуты да гары, падобна Праметэю, «старажытны вялікі настаўнік». А потым, калі сведкі памёрлі і нашчадкі перасталі выразна ўяўляць знікшы стаўрас над Вязувіем, яго рэальны выгляд пачаў пастулова метамарфізавацца ў чалавечых уяўленнях пры шматлікіх моўных пераходах із адных галоў у другія.

«Слуп» пачалі ўяўляць у вульгарным сэнсе «бярвяна», і пачалі прыкоўваць «настаўніка» да яго верхняй папярэчыны замест падножжа, а потым перамясьцілі ўніз і папярэчыну, і вось атрымалася найвялікшая этна-псіхалагічная непраўдападобнасць: ідэя пра тое, што першыя пасьлядоўнікі Ісуса не знайшлі нічога лепшага для свайго глыбокага ўшанавання і свайго пазначэння яго, як драўляны слуп, на якім ворагі павесілі іхнага бога, ці, яшчэ лепш, завостраны кол, на які яны яго пасадзілі!

Вось дзе выяўляецца пры безстароннім даследаванні чыстая фантазія, і пры тым самая дзікая!

З новага ж боку гледжання хрысціянства ўзнікла ў сярэдзіне IV стагоддзя, у цэнтры тагачаснай цывілізацыі, у апостальным і трубным горадзе – Пампеі, у той жа мясцовасьці каля вялікага вулкана, дзе ўзнікла перад ім на прыканцы III стагоддзя нашай эры і арыянскае адзінабожжа (юдэйства). І калі мы паглядзім на рэлігійныя цэнтры ацтэкаў і японцаў, то пераканаемся, што і ў гэтых басейнах незалежнай культуры гіганцкія вулканы і землятрусы мелі рашаючае значэнне ў развіцці рэлігійных уяўленняў.

Вулканізм – гэта агульная падстава ўзнікнення ўсіх шырока пашырыўшыхся рэлігій, выходзячых за межы шаманства.

Але нягледзячы на «цудоўнае выратаванне Вялікага настаўніка», прыкутага да жарала дзейнічаючага вулкана, арыянства на сваёй радзіме ўсё ж заставалася непахісным на працягу ўсяго IV стагоддзя. Грамабой толькі пагражаў клубамі

дыму свайму народу, але не караў яго моцна аж да 420 года, калі раптам за нешта так раззлаваўся, што адным ударам дашчэнту пабіў і засынаў попелам і свой «Апостальскі горад», і яго наваколле, і ўвесь «свой народ» вымусіў разбегчыся па чужых краінах. Зразумела, што пасьля гэтага арыянскі культ не мог ужо трымацца ў Італіі і разам з ламентацыямі ўцекачоў, нападобе прыведзенага намі біблейскага «Ай, як!» прывёў да замены чыстага арыянства месіянствам – з аднаго боку, а з другога – апакаліптычным хрысціянствам на астралагічным падмурку.

Усё гэта так лагічна выцякае адно з другога, што мімаволі узнікае жаданне зараз жа перайсьці да іншых пытанняў майго даследавання. Даводзіць яшчэ новымі спосабамі, што біблейскі Сіён быў Сомай Вязувія, а біблейскі Ерусалім – Пампеяй, у выпадку безстаронняга стаўлення чытача да вышэйвыказанага – няма ніякай патрэбы. Але я добра ведаю, што большасць маіх чытачоў яшчэ не вызвалілі сваіх галоў ад гіпнозу школьных наданняў, і ім амаль немагчыма адразу перайсьці на новы бок гледжання. Вось чаму я пераглежу тут і іншыя месцы біблії і евангелляў, дзе згадваецца пра Ерусалім і Сіён, і патлумачу, як іх трэба разумець.

Атаясамленне Давыда з Вялікім пасланнікам (вялікім Пампеем), а Пампея з Дыяклетыянам Боскім, было зроблена мной грунтуючыся выключна на астранамічных меркаваннях, якія храналагічна наклалі ўсіх нашчадкаў Давыда на нашчадкаў Пампея, а нашчадкаў Пампея на нашчадкаў Дыяклетыяна[23]. Засвоіўшы гэты пункт погляду, перакладзем на нашу мову толькі з падрадковымі ўстаўкамі наступныя месцы:

**У II кнізе Самуіла (11.5,7):**

«Давыд (Дыяклетыян, ён жа Пампей) узяў умацаванне Слупнай гары (ЦІУН). Гэта горад Давыда» (г. азн. гэта горад Пампея).

**У I кнізе Параліпаменон:**

«Пайшоў Давыд (*г. азн. Дыяклетыян-Пампей*) і ўсе богазмагальнікі да горада Івіса (*ІВУС*), дзе жылі іевусіянцы (*г. азн. прыхільнікі Івіса-Юпітэра*), карэнныя жыхары той краіны. Іевусіянцы сказалі ім:

– «Не пусьцім!»

«Але Давыд (*Дыяклетыян-Пампей*) узяў іхнае ўмацаванне Слупяную гару (ЦІУН) і сказаў:

– «Хто першым за усіх пераможа іевусіянца, той будзе вайсковым кіраўніком».

«Першым падняўся на сьцяну ўмацавання Боскі Бацька (*Іу-Аб*) і стаў кіраўніком.

«Давыд (*Пампей*) пачаў жыць у Слупяным умацаванні (*Сіёне*), чаму і назвалі яго горадам Давыда (*Пампея*). Ён атачыў яе сьцяной, пачынаючы ад Млуо (*Млуа*), а Боскі Бацька аднавіў астатнія часткі горада. Давыд (*Пампей*) узвышаўся ўсё больш і больш, таму што з ім быў «бог нябесных ваяроў» (І, Ц. 11,9).

**У 1 кнізе «Цары»:**

«Сабраў Саламон (*г. азн. Канстанцый Хлор, ён жа Юлій Цэзар*) старэйшын Богазмагальніка ў горад Святога Замірэння (Ерусалім), каб перанесьці туды каўчэг запавету Грамабоя са Слупяной гары. У каўчэгу нічога не было, апроч дзвюх каменных скрыжаляў, якія паклаў туды Майсей на вяршыні гары Харыў (*horribilis* І Ц. 8,9). Яго прынеслі ў храм у святое святых, пад крылы херувімаў, і калі вынеслі са свяцілішча, воблака (*вулкана*) напоўніла ўсю сядзібу Грамабоя» (8.10).

---

[23] Гл. Хрыстос. Першая кніга – Нябесныя вехі зямной гісторыі чалавецтва. Частка III, гл. II і III.

І яшчэ ў 2-й кнізе Параліпаменон літаральна тое ж самае, што і ў кнізе Цары (5. 10-13).

Вось і ўсё, што маецца пра Слупяное ўмацаванне (Сіён) у біблейскіх гістарычных кнігах.

Усяго чатыры фразы, тым часам як яго імем поўняцца прароцтвы і псалмы.

Ці ёсць у іх указанні на тое, што гара Сіён была вулканам г. азн. Вязувіем? Ёсць, і не мала.

Вось, напрыклад, у прароцтве Іса-ія, якое, грунтуючыся на яго астранамічных месцах (*гл. кн. I*), я дапасую да 442 года нашай эры. «Гора грэшнаму народу, гора племені, абцяжаранаму беззаконнямі, сынам здраднікаў! (1.4).

«У што яшчэ біць вас, працягваючых сваё абурэнне? Ваша зямля пустая; вашы гарады пажрала полымя, і дачка Слупа (*г. азн. месіянская царква*) засталася як будан у вінаградніку, як абложаны горад. Калі б Грамабой, бог ваярстваў, не пакінуў ад яе рэшткаў, то яна зрабілася б тым жа, чым Садом (*СДМ*) і была б падобна Гаморы (*ЭМРІ*) (1.8). Як верная сталіца стала прастытуткай! У ёй жыла праўда, а зараз забойцы! Срэбра тваё стала ізгарынай; віно разведзена вадой» (1.22).

А пад канец гэтага прароцтва (62.11) мы бачым і суцяшэнне: «Скажыце дачцы Слупяной горы: «вось ідзе твой Ратаваннік! З ім яго ўзнагарода і перад ім яго адплата».

Усё гэта паказвае, што насельніцтва Слупяной горы было толькі раскідана землятрусам і выпяржэннем Вязувія, але не знішчана, як мы назіраем і пры раскопах Пампеі, дзе засталося вельмі няшмат шкілетаў і прыкмет трупаў.

«Вось раздаецца голас грому із пасаднага горада, – працягвае аўтар, – голас із храма, голас Грамабоя, аддаючага адплату сваім ворагам! Яна (*гара*) нарадзіла, не пакутуючы родамі, і раней наступлення боляў раптам разрадзілася. Хто чуў гэта? Хто бачыў падобнае гэтаму? Ці нараджае зямля ў адзін дзень? Ці нараджае ўвесь народ адразу, як нараджае маці Слупа тысячы (*камянёў*), ледзь адчуўшы наступленне болі?» (Іс. 66,8).

«О, краіна, выпраўляючая пасланнікаў на караблях па моры і ў трысняговых караблях па рэках! Назірайце ўсе насяляючыя сусьвет, калі сцяг паднімецца на гэтай гары, і слухайце, калі прагучыць на ёй гук трубы! Як толькі кветка вінаградных лоз зробіцца ягадай, бог абрэжа лозы нажамі, і ўсё будзе пакінута драпежным горным птушкам і зямным звярам. Тады на месцы Грамабоя, бога нябесных ваярстваў, на Слупяной гары будзе прынесены яму дарунак ад (*гоцкага*) народа, маючага высокі рост і гладкую скуру, народа велікарослага і заваёўніцкага, жахліва ад пачатку і дагэтуль, краіну якога перасякаюць рэкі (18.7).

«Вось расчыніліся нябесныя апоры, і вагаюцца падмуркі зямлі. Уся зямля абрынулася, пабіта дашчэнту, моцна ўзрушана. Яна хістаецца, як п'яны, валіцца і не паднімаецца больш. Яе прыгнятаюць беззаконні, здзяйсняемыя на ёй. Пакарае Грамабой нябесныя магутнасьці на небе і зямных цароў на зямлі. Яны будуць сабраны разам, звязаны і заняволены ў вязніцы і пакараны праз шмат дзён. Засаромеюцца (*пачыранеюць*) месяц і сонца, калі Грамабой будзе валадарыць на Слупяной гары ў горадзе Ўмілаванага (*Пампеі*) перад яго прасьвітарамі (24.28). Грамабой, бог нябесных ваярстваў, сыйдзе ўніз ваяваць за Слупяную гару і за яе ўзгоркі. Правадыр (*ашур*) упадзе ад нечалавечага мяча, яго юнакі стануць падаткам і яго князі будуць дрыжаць перад сьцягам Грамабоя, маючага полымя на Слупяной гары і месца полымя ў горадзе Ўмілаванага (*Пампеі*) (31.4).

«Ахвярнік бога, ахвярнік бога[24]! Гора гораду – сядзібе Ўмілаванага, хоць і здзяйсняюць у ім свае круці сьвяты із года ў год. «Я выстыплю супраць цябе, – кажа Грамабой. – Ты будзеш выказвацца глухім голасам із-пад зямлі (мал. 65), твая гаворка, ідучая із-пад пылу, будзе як у чэрававяшчальніка, яна будзе падобнай на шаптанне. І гэта адбудзецца раптам у адно імгненне. Грамабой, бог ваярстваў, пакарае цябе ў громе, буры, віхуры, землятрусе, вялікім шуме (*лавы*) і пажыраючым полымі. І шмат народаў, варагуючых супраць тваіх умацаванняў і ўціскаючых цябе, таксама стануць тады як сон, як начная здань. Так будзе з усімі, паўстаўшымі супраць майго Слупа» 29.8).

Калі ўсіх гэтых цытат, паказваючых, што біблейская Слупяная гара (Сіён) з'яўляецца Вязувіем, а такім чынам і Ерусалім, размешчаны згодна з бібліяй каля яе падножжа, з'яўляецца Пампеяй, яшчэ недастаткова для поўнага пераканання ў гэтым, то я не ведаю, чаго ж яшчэ патрэбна!

Вось тут план Пампеі, узяты мной са старой (1856 г.), але надзвычай цікавай кніжкі Класоўскага, а вось, каля яго, і план біблейскага Ерусаліма са старажытнай мазаікі на выспе Мадэра. Хіба гэта не адно і тое ж, калі вы прымеце да ўвагі, што мадэрскі план зроблены грунтуючыся не на малюнку, а грунтуючыся на ранейшых успамінах (мал. 65 і 66)?




Мал. 65.
*План Пампеі.*

[24] ארי־אל (АРІ-ДЛ) – ахвярнік бога, сузор'е ахвярніка (АРА), сугучна з аріанінскім ахвярнікам.



Мал. 66.

*Частка старажытнай мазаікі на выспе Мадэра, пазначаючая сьцены, брамы і галоўныя вуліцы «Горада Святога Замірэння». Малюнак больш падобны на план Пампеі, чым на тыя рэшткі, якія знаходзяць недзе пад Эль-Кудсам і лічацца за «Ерусалімскія старыя сьцены».*

Але будзем працягваць далей.

Пра гэтую ж Слупяную гару згадваецца і ў прароцтве «Бог Грамабой (Іаіл)», таксама відаць ужо пасьля катастрофы.

«Трубіце трубою на Слупяной гары, уздымайце трывогу на святой гары! Ды страпянуцца жыхары зямлі! Блізкі дзень Грамабоя, дзень цемры і змроку, воблака і туману! Як ранішняе святло шырыцца ў вышыні шматлікае і моцнае войска, якога не было ад веку і не будзе пазней у роды родаў (мал. 50). Перад ім усё пажырае агонь, а за ім абпальвае полымя. Перад ім краіна як райскі сад, а пасьля яго пустыня, і ніхто не збяжыць ад яго! Трасецца зямля, вагаецца неба, азмрочваецца сонца і месяц, і зоркі губляюць сваё сьвятло. Грамабой загрымеў перад сваім шматлікім войскам, магутным у выкананні яго слова. Вялікі дзень Грамабоя, ён вельмі жахлівы, і хто вытрымае яго? Трубіце ж трубою на Слупяной гары, прызначце пост і абвясьціце ўрачысты сход. А вы, дзеці Слупа (*гульня слоў: дзеці крыжа, бо грэцкі стаўрас ужо трансфармаваўся ў крыж*), цешцеся і весяліцеся за Грамабоя, вашага бога, ён дась вам настаўніка праўды» (2.1-15).

Аналагічнае знаходзім і ў Міхея.

«Вось Грамабой сыходзіць са свайго месца і топча зямныя вышыні. Пад ім растаюць горы і даліны распадаюцца, як воск ад агню, як струмені вады, падаючыя са стромкасьці (1.3).

«Выслухайце мяне, правадыры роду Богазмагальніка, ствараючыя сабе Слуп (*крыж*) з дапамогай кровапраліцця і горада Давыда няпраўдаю. Праз вас Слупяная гара будзе ўзарана як ніва (мал. 46) і горад Давыда ператворыцца ў разваліны» (3.9).

Само сабой зразумела, што тут пад выглядам прароцтва маецца на ўвазе ўжо нейкі здзейсніўшыся факт. А далей ідзе і сапраўднае «прароцтва», якое, зразумела, не спраўдзілася:

«Але потым боская гара будзе пастаўлена на чале гор. Са Слупа прыйдзе закон, і із горада Ўмілаванага боскага слова (4.1-4). І будзе Грамабой валадарыць на Слупяной гары з гэтага часу і навекі».

«О, вежа маёй пашы, узгорак Слупяной горы! Да цябе вернецца ранейшае валадаранне, і да горада Ўмілаванага – царства. Пакутуй зараз, дачка Слупа, ты будзеш жыць у полі, дойдзеш да Брамы Госпада (*Рыма*) і там будзеш выратавана, а потым падніміся і малаці! Твой рог я зраблю жалезным, твае капыты медзянымі, і ты сатрэш шматлікія народы і прысвеціш іхныя багацці ўладару ўсёй зямлі. А зараз абкладуць вас аблогаю і будуць біць Суддзю богазмагальнікаў кіем па шчацэ» (4.14).

Тут я знарок разгледзеў пазнейшыя гістарычныя ўспаміны пра Слупяную гару, напісаныя ужо пасьля катастрофы, каб вызначыць з іх дапамогай, што гаворка ідзе менавіта пра Вязувій.

Але раз мы ўжо ведаем, з чым мы маем справу, нам цікава перагледзець і тыя ўспаміны пра Вязувій, якія маглі быць і ў IV стагоддзі, пасьля таго як першая катастрофа пры Арыі паслужыла да ўсталявання арыянскага адзінабожжа, а другой катастрофы, паслужыўшай нагодай да ўсталявання апакаліптычнага хрысціянства, яшчэ не адбылося.

Мне здаецца, што такое месца, перш за ўсё, маецца ў прароцтве Сафонія:

«Радуйся, горад Слупяной горы! Сьвяткуй, богазмагальнік, весяліся і цешся ад усяго сэрца, горад Давыда! Скасаваў Грамабой свой прысуд над табой, прагнаў твайго ворага (*верагодна прайшло невялікае вывяржэнне Вязувія без разбурэнняў*). Грамабой, твой бог, магутны каб выратаваць цябе! Ён будзе цешыцца тваёй радасьці, клапаціцца пра цябе праз свае шагнаванне» (9.17).

Потым мне здаецца, што і ў прароцтве «Выратаванне Грамабоем (Ісая)» існуюць устаўкі радкоў, якія напісаны іншымі аўтарамі, жыўшымі да катастрофы, ці, наадварот, патрапілі сюды, калі ўжо памёрлі ўсе перажыўшыя катастрофу, і пісьменнікі пачалі ставіцца да справы алегарычна. Такімі радкамі з’яўляюцца, напрыклад, наступныя:

«Весяліся, жывучая каля Слупа! Пасярод цябе вялікі сьвяты богазмагальнік (12.6).

«Грамабой зацвердзіў свой Слуп, ім будуць абаронены прыгнечаныя із яго прыхільнікаў (14.32).

«Узыдзі на высокую гару, дабравястун Слупа, скажы богаслоўным гарадам: вось ваш бог (40.90).

«Абудзіся, абудзіся, Слуп! Развяжы повязі на тваёй шыі, заняволеная дачка Слупа! Якія прыгожыя на горах нагі вестуна, прамаўляючага Слупу: «твой бог запанаваў!» (52.4-8).

«Падніміся і сьвяціся, Слуп! (мал. 37.) Змрок пакрые зямлю, а над табой заззяе сьвятло. Пакорліва прыйдуць да цябе сыны тваіх прыгнятальнікаў, упадуць да тваіх ступняў пагарджаўшыя табой і назавуць цябе ўмацаваннем Грамабоя, Слупом богазмагальніцкага сьвятога» (60.14).

Мне застаецца толькі перадаць самыя значныя месцы пра «Слупяную гару» ў псалмах. Даю іх згодна з юдэйскай нумарацыяй (грэцкая будзе на адзінку больш).

Магчыма, што Слуп Вязувія і тут ужо змешваецца з тым стаўрасам, які па-грэцку азначае слуп, а перакладаецца ў нас як крыж. Таму што калі Ерусалім быў Пампеяй, тое і Вязувій быў Галгофай.

«Навошта абураюцца народы і цары зямлі; і вяльможы раяцца супраць Грамабоя і яго Хрыста? Ён паставіў свайго цара на Слупе, сваёй святой вышыні, і сказаў яму: ты сын мой, я аддам народы табе ў спадчыну да межаў зямлі. Ты ўразіш сваіх ворагаў жалезным кіем, і паб'юцца яны, як гліняныя жбаны (2.6, непасрэдна із Апакаліпсіса!).

«Запанаваў Грамабой! Вакол яго воблака і змрок, перад ім ідзе полымя і спальвае яго ворагаў. Яго маланкі асвятляюць сусьвет. Зямля трапеча, бачачы яго. Растаюць, як воск, горы перад асобай уладара ўсёй зямлі. Абвяшчаюць яго праўдзівасць нябесныя сферы, і ўсе народы бачаць яго славу. Пакланіцеся яму, усе багі! Пачуў яго і ўсьцешыўся Слуп, і ўзрадаваліся багаслоўныя дзявухі пра яго правы суд (97.8).

«Як добра жыць братам разам! Гэта як раса гары Мон (mons), сыходзячая на гару Слупа, таму што там зацвердзіў Грамабой сваё дабраславенне, вечнае жыццё (132.2).

«На рэках Брамы Госпада мы сядзелі і плакалі, згадваючы пра Слупяную гару. Мы павесілі на вербах нашы арфы. Нашы паланіцелі прамаўлялі нам, насьміхаючыся:

«Праспявайце-ка нам зараз із песень Слупнага горада» (137.1-3).

А вось і два іншыя месцы із псалмоў, дзе гэты «Слуп» здаецца ўжо астралагізаваным і патрапіў із вяршыні Вязувія на крышталічнае неба старажытных.

«Спадзяваючыяся на Грамабоя падобны Слупяной гары, якая не вагаецца, а існуе вечна (125.1).

«Асалода ўсёй зямлі гара Слупа (*адгалінаванне Млечнага Шляху каля калюлюра, зімовага сонцастаяння?*). На паўночным боку яе – горад Вялікага цара (*паўночны полюс неба?).* Вось сабраліся да яго цары (*планеты?*) і пусьціліся наўцёкі (*пачалі адваротны рух, як бывае з Марсам, Юпітэрам і Сатурнам у чэрвені, калі яны збіраюцца каля Млечнага шляху паблізу Змеятрымальніка*). Іх напаткала трапятанне. Бог знішчыў усходнім ветрам караблі Тартэса (*сузор'е Карабля знікае ў праменях раніцы*). Так, – працягвае аўтар, – мы пабачылі ў горадзе бога нябесных ваяроў (*небе*) усё тое, што нам паведамілі (*продкі*). Абыйдзіце ж вакол гэтага Слупа (*Колюра зімовага сонцастаяння*) і палічыце яго ўмацаванні, каб пераказаць будучым пакаленням» (48. 2-11).

Такі стан неба, згодна з маімі вылічэннямі, быў толькі ў чэрвені 453 і 691 гадоў нашай эры.

Зараз я адабаў із біблії ўсё істотнае, што ў ёй змяшчаецца пра Сіён, і няўжо сам чытач не пазнаў да гэтага часу ва ўсіх яго згадках Вязувія? Няўжо ён усё яшчэ сцвярджае, што гэта – мірны, спакойны ўзгорачак у сучасным Эль-Кудсе?

«Се леў, а не сабака» – сказаў бы тут нават і сам знакаміты Кузьма Пруткоў, сцвярджаўшы, што калі на клетцы, у якой сядзіць леў, напісана собака, то не трэба верыць сваім вачам, а толькі надпісу. А калі гэта Вязувій, то, як я ўжо даводзіў, і Ерусалімам, які ляжаў каля яго падножжа, была Пампея. Слова Ерусалім азначае Святое Заспакаенне, і гэтае найменне было ў такім разе дадзена Пампеі таму, што яе заснавальнік Давыд-Пампей думаў, што Грамабой супакоіўся і не будзе больш падкідаць дагары гару, на якой яму ўзведзены ахвярнік. Лацінскае найменне Пампея азначае не толькі пасланніцкі горад, але і трубны горад, таму што над ім

званіў час ад часу Вязувій, патрабуючы новых ахвяраванняў Грамабою[25]. Толькі з гэтага боку гледжання робяцца зразумелымі некаторыя дзіўныя побытавыя рысы яго насельнікаў.

Чаму, напрыклад, жыхары «Ерусаліма» закідвалі камянямі сваіх бязбожнікаў? Я ўжо даводзіў, што гэта для таго, каб пазбегчы збіцця іх Грамабоем з дапамогай вязувіянскіх лапілей, г. азн. камянёў, якія падаюць у незлічонай колькасьці і на правых, і на вінаватых пры вывяржэннях Вязувія.

Чаму яны пасыпалі попелам свае галовы ў выпадках смутку? – Я ўжо даводзіў, што гэта было ўспамінам пра тое, як Грамабой пасыпаў попелам галовы ўсіх выратаваўшыхся ад сьмерці пры разбурэнні. У іхным разуменні гэта быў як бы засцерагальны сродак ад жахлівага пакарання камянямі. У наваколлях Мёртвага мора і на прасторы ўсёй Сірыі абодва гэтыя звычаі цалкам нетлумачальныя.

Адначасна робіцца зразумелым таксама і ўсталяванае законам Арона-Арыя прынашэння авечак і цялят у ахвяру ўсеспалення, што было вельмі нявыгадна для святароў, якія ў адваротным выпадку з'ядалі б іх самі, а тут толькі гублялі сваё патэнцыйнае дабро. З нашага натуралістычнага боку гледжання гэта адбылося таму, што пры гібелі Стабіі ці Геркуланума пры Дыяклетыяне і Канстанцыі Хлоры, пры першым жудасным вывяржэнні Вязувія, калі большасць жыхароў паспела збегчы, было спалена лавай і распаленымі газамі вулкана ўсё быдла, як пасвіўшаяся на схілах, так і застаzdruž ўшаяся ў горадзе, таму што ўцекачы не паспелі яго, вядома, захапіць з сабой. Мы ж ведаем, што пры пажарах авечкі і каровы цалкам дранцвеюць ад жаху і застаюцца на месцы, так што іх часта бывае немагчыма выцягнуць са двароў, нягледзячы на тое, што ў іхныя адчынены вароты яшчэ могуць заходзіць і выходзіць людзі. Магчыма, тое ж самае, але ў небывала вялізных памерах, адбылося і тады. І вось саграшыўшых пачалі прымушаць спальваць у ахвяру за грахі «перад тварам Грамабоя» спачатку магчыма і ўсё сваё быдла, пазней першынцаў ад яго, пазней толькі кавалкі іхнага тлушчу, із якога пачалі вырабляць лоевыя свечкі, пераўтвораныя ў нас, пасьля забыцця іхнаг старажытнага паходжання, у васкавыя. А таплёны тлушч авечак і цялят, згараўшы з той жа нагоды ў арыян у кубачку з кнотам, прытуленым да яе берага ці пасаджаным на каменным ці металічным паплаўку,ператварыўся ў лампады хрысьціян. Мімаволі прыходзіць у галаву, што і легенды пра прынясенне людзей у ахвяру вогненнаму богу Молаху, імя якога па-жыдоўску азначае проста «цар», і пра спальванне ерэтыкоў на вогнішчах у сярэднявечнай Заходняй Еўропе бяруць пачатак з той жа самай першакрыніцы: наўмыснага кідання людзей у жарало пачынаўшага булькатаць і дыміцца вулкана, як сродка яго заспакаення. Магчыма, што і старажытны звычай скакаць праз вогнішча бярэ пачатак адсюль жа.

Сам містычны звычай прычашчэння ва ўсходняй хрысціянскай царкве з чаркі з вымаўленнем:

Цела Хрыстова прыміце,
Крыніцу неўміручасьці спазнайце!

відаць бярэ пачатак з той жа самай крыніцы. Якую назву ў грэка-латынянаў мае царкоўная чарка? – Кратар (crater)! А легенда, што евангельскі «настаўнік» адразу пасьля свайго слупавання сходзіў у пекла, дае месца і здагадцы, што пасьля стаўбавання ён быў туды кінуты. З гэтага боку гледжання і Ёсіф Арымафей, у магільню якога паклалі стаўбаванга, – не рэальная асоба, а толькі назва кратара

[25] Па-грэцку помпэ (πομπή). Гэта азначае пасланне, апостальства, а на-лаціне pompa азначае труба, а ўскосна – трубная ўрачыстая працэсія.

Вязувія, як паказвае і сэнс яго імя, азначаючага па-жыдоўску: Кратар Грамабоя (ІУ-СФЕ) і Лёв Труны Ўладара (АРІЕ-МАТ-ІЕ), як магло звацца жарало. Легенда пра першае ўсшэсьце на неба, пасьля якога «настаўнік» зноў спусціўся да «вучняў» на зямлю, магла паўстаць дзякуючы узняццю вялізнага слупа дыму і выпарэнняў да неба, пасьля таго як ён ужо выпаўз із кратара і недзе хаваўся. Зразумелай была б пасьля гэтага і яго не маючая тлумачэння папулярнасць пасьля такіх прыгод, і ўзвелічэнне яго да ступені самога бога-Грамабоя. Зразумелым бы стала і хуткае шыранне хрысціянства па Яўропе. А наступнае знішчэнне прычашчальнай чаркі ў каталікоў тлумачылась бы не адпавядаючымі свайму званню паводзінамі кратара Вязувія ў наступныя гады, што, вядома, не мела б уплыву на аддаленыя мясцовасьці.

Сам звычай хрышчэння можна было б лёгка патлумачыць вялікімі струменямі вады з нябёсаў ад згушчэння вадзяных выпарэнняў пасьля моцных вывяржэнняў Вязувія, якая лілася на ўсіх выратаваўшыхся ад сьмерці.

Усё гэта былі б водгаласы ўплыву падземных магутнасьцей на развіццё сярэднявечнай чалавечай псіхікі ў паўднёвай Яўропе.

Але тыя ж самыя магутнасьці флегрэйскіх палёў Кампаны, якія пры Дыяклетыяне скасавалі шматбожжа і культ Хронаса-Сатурна, ператварыўшы яго ў Сатану, і ўсталявалі культ адзінага Івіса-Грамабоя, пад імем арыянства ці богазмагальніцства, зрынулі праз сто гадоў і самога Івіса і выклікалі да жыцця на развалінах культурнага цэнтра Заходне-Рымскай імперыі новы культ, ужо на чыста нябеснай астралагічнай падкладцы Апакаліпсіса, як быццам бы загадзя прадказаўшага ўсе гэтыя бедствы. Але гэты культ сфармаваўся ўжо ў Візантыі, злучанай культурна з Ягіптам і Сірыяй, куды пабеглі навукоўцы разбуранай дашчэнту сталіцы і рэшткі інтэлігенцыі яе краіны. Яны страцілі пры гэтым які б то ні было прэстыж у вачах простага мясцовага насельніцтва і рабоў, зараз жа паўстаўшых супраць не апраўдаўшых свайго звання аўгусьцейшых асоб і сцёрлі іх з твару Зямлі разам з усімі іхнымі набліжанымі, як і заўсёды бывае пры агульнанародных бедствах, у якіх можна абвінаваціць кіраўнікоў дзяржавы. А там, у Візантыі, на новай глебе, арыянства збольшага перарадзілася ў месіянства, у якім біблейскі Іовіс ператварыўся ў Ягову і перастаў ужо атаясамляцца з Італійскім Іовісам-Патарам, скараціўшымся ў Юпітэра, хаця за абодвума і застаўся іх галоўны атрыбут – громавывяржэнне.

Але і гэтая метамарфоза не супакоіла ўзнікшых у інтэлігентнай частцы насельніцтва непаразуменняў з нагоды падставаў катастрофы. І вось наўзамен грознага бога-бацькі ўзнік культ літасьцівага бога-сына.

Царствам богазмагальніцкім (па-жыдоўску ізраільскім) была, з гэтага боку гледжання, арыянскай рэлігіяй, якая прызнавала на зямлі толькі адзін храм – Ерусалімскі (г. азн. у Пампеі) і адзіны нерукатворны ахвярнік – на гары Сіён, г. азн. на Соме Вязувія, куды і сцякаліся адусюль шматлікія пілігрымы.

А другі вялізны, але больш мірны вулкан таго часу і нават адзіны ў Старым свеце, да выбуху Вязувія[26], захаваў і дагэтуль сваю назва Этна, г. азн. паганская гара, ад грэцкага кораня этнэ (ἔθνη) – паганка), напэўна, таму, што дзейнічаў з незапятных часоў і да Арыя і быў месцам культу ранейшых прыхільнікаў усіх багаў (мал. 41).

[26] Стромбалі на Ліпарскіх выспах, дзякуючы нязначнасьці сваёй дзейнасьці і аддаленасьці ад культурных цэнтраў, не можа брацца ў разлік.

Такім чынам арыянская міжземная тэакратычная імперыя, пачынаючы з Канстанцыя Хлора, меўшага па-арабску найменне Ўмілаваны (Давыд), а па-грэцку Вялікі Пасланннік (Пампей Вялікі), да выввяржэння 420 гада загубіўшага Пампею, – дала нагоду для ўзнікнення легендаў пра біблейскае богазмагальніцкае царства (Ізраіль). Пад гэтым найменнем імперыя наступнікаў Дыяклетыяна і апісана ў кнізе «Цары» ад пачатку да канца.

Зразумела таксама і тое, што з гэтай гісторыяй цесна перапляліся і гісторыя месіянскай тэакратыі Ўсходу, г. азн. праваслаўя, ці багаслаўя, рэальна пачаўшаяся з канстантынопальскага патрыярха Яна Залатавуста, да якой былі ўжо каптаваны a posteriori Вялікі Цар (Васіль Вялікі – па-грэцку) і Аса, (Ісус – па арабска-жыдоўску), а таксама яго маці і дзед, атаясамляемы ў нас з Ліцыніем. Гэтая тэакратычная гісторыя Візантыі была працягнута рознымі асобамі да заваёвы арабамі Ягіпта і нават трохі далей, і яна ахапіла ўсіх цароў, прыняўшых апакаліптычнае вучэнне, а астатнія ці адкінуты знарок, як прыхільнікі арыянства, ці ж проста забытыя аўтарам: іхная гісторыя, складаючая ўсю 2-ю кнігу «Параліпаменон», ні ў якім выпадку не вызначаецца паўнатой.

Так узніклі два знакамітыя ў хрысціянскай тэалогіі царствы ізраільскае і юдэйскае і можна толькі дзівіцца, што да гэтага часу ніхто не заўважыў паралелізм іхных дынастычных падзей з дынастычнымі падзеямі імперыі спадчыннікаў Аўрэліяна, што робіць гэтыя біблейскія кнігі толькі арабска-юдэйскім апісаннем жыцця Дыяклетыянавай імперыі, разглядаемай з мясцовых, перспектыўных бакоў гледжання.

Я не магу скончыць гэтую частку, не вярнуўшыся зноў да яе пачатку, дзе я паведамляў, што каменны слуп на жыдоўскіх магілах уяўляе сабой «Слупавую гару» – па-жыдоўску Сіён, г. азн. Вязувій, і што васьміканцовы хрысціянскі крыж з'яўляецца ўжо не гістарычнай, а прароцкай адзнакай ажывання памёршых у той дзень, калі колюр ніжняга сонцастаяння, а разам з тым і дзень «нараджэння Хрыстова», падыдзе пад нагу Змеятрымальніка, сімвалізуючага ажыванне «Хрыста». Із гэтага мы бачым, што сапраўдным гістарычным успамінам пра ўкрыжаванне «Вялікага Цара» будзе толькі грэцкае слупаванне-стаўрозіс, г. азн. прікоўванне ці прывязванне да слупа. Зараз нам зразумела, што падобнае слупаванне магло быць толькі на Вязувіі, бо ўсе характарыстычныя рысы Сіёна ў біблейскім творы: «Ай, як!» і ва ўсіх прароцтвах дапасуюць толькі да адной гэтай гары.

Калі ён сапраўды быў прывязаны ці прыкуты да яе жарала, як старажытны Праметэй, які прынёс чалавецтву боскі агонь, то магчыма, што і легенда пра Праметэя з'яўляецца толькі адным із атажылкаў сярод шматлікіх паданняў і паэм пра аднаго і тагож ж незвычайна папулярнага ў старажытнасьці чалавека. Толькі замест крумкача, які дзяўбе печань прарока (якім з'яўляецца значэнне слова праметэй па-грэцку), мы маем у евангеллях рымскага ваяра, які працяў яму бок дзідай, а замест Казбека справа адбывалася на Вязувіі.

Некаторыя навукоўцы кажуць нам, што першапачатковым знакам хрысціянаў была свастыка, г. азн. два перакрыжаваныя кійкі, служыўшыя для здабывання полымя, і даўшыя пачатак чатырохканцоваму крыжу рымскіх хрысьціянаў і такім жа крыжам на розных еўрапейскіх ордэнах. Калі гэта так, то выява свастыкі тут была проста знакам нябеснага полымя, якім хацелі спаліць шануемага чалавека, прывязаўшы ці прыкуўшы яго да жарала Вязувія, але полымя адмовілася спаліць яго і гэтым апраўдала яго новае, згодна з тым часам, вучэнне

пра нябесныя з'явы. Гэта і было б у такім разе хрышчэнне полымем, пра якое згадваў, згодна з евангеллем, Ян Хрысьціцель.

Зараз, я думаю, чытачу зразумела, што і Цэзарэя, – сталіца тагачасных навук, у якой набыў сваю адукацыю і быў вярхоўным біскупам Вялікі Цар IV стагоддзя, пакінуты ў Жыціях сьвятых пад напалову неперакладзеным найменнем Васіля Вялікага і атаясамляемы ў нас з евангельскім настаўнікам, – магла быць толькі адметным найменнем Пампеі, дзе каранаваліся цэзары, а не найменнем глухога мястэчка на палестынскім беразе, якое зараз мае назву Кайсарыя. Само найменне Цэзарэя азначае горад цэзараў, цар-горад, горад над гарадамі, а не простае ўмацаванне на аддаленым беразе, дзе не магло нават існаваць сур'ёзнай бібліятэкі.

Але чаму ж у такім разе на Сірыйскім беразе зараз існуе значная колькасць гарадоў, маючых біблейскія ці евангельскія найменні? Частка іх магла быць перанесена туды ўцекачамі пасьля зьнішчэння Заходняй імперыі. Перанеслі ж ангельскія і ірландзкія перасяленцы ў Амерыку, Афрыку і Аўстралію масу родных найменняў. Існуе і Лондан у Канадзе, і Ёрк у Пенсільваніі, і Ёрк у Аўстраліі, і Новы Ёрк (Нью-Ёрк) на рацэ Гудзон і г. д. Чаму ж не маглі зрабіць падобнага і пампейскія ўцекачы? Чаму такімі найменнямі не маглі быць названы і фарпосты імперскай улады на Сірыйскім беразе, ды чаму і сама Асірыя не магла быць толькі рудыментарнай назвай Германіі ці нейкай міжземнаморскай вялікай вобласьці? Мы ж маем у Атлантычным акіяне аднайменныя з ёю Азорскія (г. азн. асірскія) выспы.

А ў дачыненні да галоўнага горада, да палестынскага Ерусаліма хрысьціянаў, не можа быць выкарыстана нават і гэтая тэорыя. Сярод тубыльцаў ён і да гэтага часу мае назву Эль-Кудс, а ў рымлян IV стагоддзя меў назву Aelia Capitolina. Але тут тлумачэннем з'яўляецца другі этна-псіхалагічны фактар: нашчадкам, верыўшым, што Пампея з’яўляецца сьвятым і недатыкальным горадам Давыда, якую ахоўвае сам Бог-Грамабой, нічога не заставалася, як ці абвясьціць пасьля яе зьнішчэння сваю веру памылковай, ці зацята сцвярджаць, што біблейскі Ерусалім зусім не гэты грэшны горад, а нейкі іншы, знаходзячыся за межамі дасягальнасьці, на далёкіх берагах Мёртвага мора ў Азіі, куды і выдаліўся адкінуты сын божы, пасьля таго як яго абразілі ў Італіі. Вялікая частка вернікаў прыняла апошняе тлумачэнне, таму што без веры тагачаснае напаловудзіцячае грамадства яшчэ не магло існаваць. У яго яшчэ не было ведаў.

# ГЛАВА V.

## Дзесяць запаветаў Вязувія.

Ці існаваў Майсей?

З новага боку гледжання гэтае пытанне зводзіцца да іншага: ці існаваў некалі калектар маральных патрабаванняў старажытнага грамадства, які пісьмова аформіў іх у дакуменце пад назвай «Дзесяць запаветаў»?

Вядома, існаваў, бо гэтыя запаветы – факт, і апроч таго, усе дзесяць злучаны паміж сабой ў маналітны твор. Гэта – першы збор законаў зямнога чалавецтва, напісаны несумнеўна адной асобай.

Але ці быў іх аўтарам менавіта Майсей, імя якога яны носяць? У гэтым можна моцна сумнявацца менавіта таму, што яны – кодэкс абавязковых законаў. Ніводзін із такіх кодэксаў не носіць імя свайго аўтара. Французскі збор законаў атрымаў назву «Кодэкса Напалеона I», хаця і быў выпрацаваны ў 1800-1804 гадах

не ім, а камісіяй Траншэ, Біто, Парталіса і Мельвіля. Старажытна-рускі збор законаў мае найменне Ўкладаннем цара Аляксея Міхайлавіча (1649 г.), хаця гэты цар наўрад ці быў здольным пісьмова злучыць паміж сабой нават некалькі фраз на паперы. Збор законаў Юстыніяна (Codex Iustiniani, 528-533 г.) таксама быў выпрацаваны без найменшага ўдзелу гэтага лаціна-эліна-сірыйска-ягіпецкага імператара і г. д.

Чаму ж усе зборы законаў носяць імёны не іх сапраўдных аўтараў, а валадарыўшых пры іх імператараў? Таму што мала было скласьці збор законаў, патрэбна было мець фізічную магчымасць для таго, каб прымусіць людзей ім падпарадкоўвацца, а гэтай магутнасьцю ў старажытнасьці валодалі толькі цары.

Усё гэта мае рацыю і ў дачыненні да першага чалавечага кодэкса. Ён мае найменне дзесяці запаветаў Майсея, г. азн. Збаўцы[27], не таму, што ён быў напісаны гэтым чалавекам, а таму, што гэты чалавек быў прызнаным валадаром, які меў фізічныя сродкі, каб прымусіць насельніцтва сваёй краіны выконваць дадзеныя наказы. Самі ж запаветы былі напісаны адным із навукоўцаў яго часу, і хутчэй за ўсё Аронам, імя якога азначае – Асьветнік[28].

Так і атрымліваецца згодна з нашымі высновамі, атаясамляючымі Арона з Арыем, а Майсея з імператарам Дыяклетыянам. Гэта азначае, больш правільна было б назваць гэтыя запаветы Кодэксам Дыяклетыяна. Ён невялікі і няпоўны, але менавіта такім і павінен быў узнікнуць першы кодэкс. Дапаўняць і дапрацоўваць яго ў далейшым было ўжо значна лягчэй.

Разгледзім жа гісторыю яго паходжання.

Вось перад намі цэлых чатыры біблейскіх кнігі, маючыя ў перакладах назву: Сыход, Лявіт, Лічбы і Другазаконне (дакладней Багаслоўе), і ва ўсіх іх фігуруе адна і тая ж магутная асоба, якую рабіны клічуць Мойша, арабы Муса, немцы Мёзе, французы і ангельцы Моіз і рускія згодна з грэцкім вымаўленнем – Майсей. Гэта асоба фігуруе адразу і як паэт, і як заканадавец, і як найвялікшы із чараўнікоў-цудадзеяў, і як правадыр свайго народа на яго шляху сярод дыму, полымя і землятрусаў па непладзючаму стэпу ў запаветную зямлю, да якой ён толькі давёў яго, але не ўвёў, толькі пабачыў гэтую краіну із Гары Прарока (НЕВО), з вяршыні Перавала[29].

Ці ёсць нешта рэальнае ў гэтай асобе? Як чараўнік-цудадзей ён, вядома, цалкам міфічны, але як заканадавец і паэт ён мае ўсе ўласцівасьці сапраўды існаваўшай асобы. Калі ён жыў і дзе дзейнічаў?

Каб высветліць гэта вывучым абставіны, пры якіх былі складзены «Дзесяць запаветаў». Тут з першых жа радкоў мы зноў бачым шыкоўныя апісанні вывяржэння Вязувія.

«На трэцці дзень пасьля маладзіка, – паведамляе 19-я частка кнігі Сыход (ст. 16), – пры наступленні раніцы былі над гарой «Спусташальнікам») громы і маланкі і густое воблака і вельмі моцныя трубныя гукі, так што затрымцеў увесь народ, які быў у гэтым месцы. Збаўца павёў яго насустрач бацьку богаў (*АЛЕІМ*). Але народ спыніўся каля падэшвы гары. Гара ж уся дымілася таму, што Грамабой сышоў на яе ў полымі, і дым ад яе ўздымаўся, як дым ад печкі (мал. 41). Уся гара моцна

---

27 משה (МШЕ) – азначае збаўца, ратавальнік, але габраісты думаюць, што гэта паходзіць ад слова משוי (МШУІ), якое грунтуючыся на кнізе Сыход (2.10) тлумачыцца, як – выцягнуты (відавочна няйнакш, як із вады!).

28 אהדן (АЕРН) – асьветнік, ад אהך (АЕР) – сьвяціць.

29 גה-פם (ПС-ГЕ) – пераход мяжы, узгорак (Другазак. 34, I)

скаланалася і трубнае гудзенне на ёй павялічвалася ўсё больш і больш. Гэта бацька богаў адказваў Збаўцу грымотным голасам і паклікаў яго на вяршыню гары»

Збаўца ўзышоў на гару і Грамабой паведаміў яму там.

– «Ідзі і папярэдзь народ, каб ён не паднімаўся сюды жадаючы пабачыць тое, што тут адбываецца, інакш ён загіне. Нават і святары (*КЕН*) не павінны набліжацца, каб не ўразіў іх я. Падніміся толькі ты і Арон (а далей паведамлеяцца, што з ім хадзіў туды і Езус).

«І (*Калі Збаўца і Арон падняліся туды ўдвваіх*) бог Грамабой паведаміў (*грукатам вулканічнага вывяржэння*):

1. Я твой бог-Грамабой[30] і ды не будзе табе іншага бога перад маім тварам.
2. Не сатвары сабе куміра і ніякай выявы із таго, што ёсць на нябёсах угары, і на зямлі ўнізе, і ў вадзе пад зямлёю, каб ушаноўваць іх ці служыць ім.
3. Не прамаўляй імя Грамабоя твайго бога (*АЛЕІХ*) без патрэбы.
4. Памятай дзень суботні, каб асвятляць яго. Шэсць дзён працуй і зрабі на іх працягу ўсе твае справы, а дзень сёмы субота ды будзе твайму богу Грамабою (*ІЕУЕ АЛЕІХ*).
5. Шануй твайго бацьку і тваю маці, каб падоўжыліся твае дні на зямлі, якую даў табе Грамабой твой бог.
6. Не забівай.
7. Не распуснічай.
8. Не крадзь.
9. Не прамаўляй хлусні на твайго блізкага.
10. Не пажадай сабе ні хаты твайго блізкага, ні жонкі яго, ні раба яго, ні нявольніцы яго, ні вала яго, ні асла яго і нічога, што ёсць у блізкага твайго».

«Увесь народ бачыў грамы і полымя, і трубны гук на «Дымячайся гары». Ён адступіўся ў жаху, стаў удалечыні, і прамовіў Збаўцу:

«– Хай багі (*АЛЕІМ*) заўсёды размаўляюць з табой адным а то мы ўсе памром».

Збаўца наблізіўся да змроку (*г. азн. да воблака попелу над Вязувіем*), дзе быў бацька богаў, і бог даў яму яшчэ шмат іншых, грамадзянскіх законаў і вызначыў меры адкуплення.

Скажы ж сам, чытач: што тут апісана? Мне здаецца, нават і пытацца няма патрэбы. Тут выдатна апісана вывяржэнне агнядышачай гары, якая ў адных месцах мае лацінскую назву Жудасная (Horribilis, а згодна з біблейскай транскрыпцыяй – Horib[31]), а ў іншых месцах Сіні, таксама ад лацінскага sinus, г. азн. нетры, бездань, як у Сенекі: dehiscit terra et immenso sinu taxata patuit (расчынілася зямля і была здзіўлена вялізнай безданню). Гэтае ж напісанне СІНІ ўжываецца і для пазначэння Кітая, а ў сярэднія стагоддзі пачало ўжывацца і для паўвыспы Сінай, таму што сярэднявечныя тэолагі выправілі апісанае тут вывяржэнне на Сінай, хаця гэтая гара такога ж паходжання, як і ўсе звычайныя горы, і ніколі не выяўляла вулканічных актыўнасьці, як бачна із прыкладзенай мапы Сіная (мал. 72).

---

[30] ІЕУЕ ці ІОВЕ – лацінскае Іовіс – г. азн. Зеўс-Грамабой. Зноў звяртаю ўвагу на адзінства лацінскага Іовіса і біблейскага Іеве (перайначанага ў Іегаву). Слова Юпітар складаецца із Йевіс-патар, г. азн. Іеве-бацька. Уласна кажучы, я павінен бы тут перакласьці: «я Юпітар твой бог», але каб аб'яднаць адным найменнем гэтага бога і для лацін. і для грэкаў, і для аўтараў бібліі, я ўжываю слова Грамабой, як агульны атрыбут.

[31] У другазаконні 1,6 паўсюдна гэтая гара мае назву (ХРБ) – спусташальнік.




Мал. 72.
*Геалагічная мапа Сінайскай паўвыспы. Сэнс пазначэнняў патлумачаны нумерамі пад мапай, пры гэтым: 1) старажытныя сіянітавыя пароды, агаліўшыяся на паўднёвай частцы; 2) пласты мелавога вапняку; 3) эацэнавы вапняк; 4) эацэнавы пясчанік; 5) навейшыя адкладанні Ніла і мора і 6) мора. Нідзе няма ні найменшых слядоў вулканічнай дзейнасьці, накшталт апісаных у бібліі: мелавы вапняк не выяўляе ніякіх прарываў з часоў свайго воднага паходжання.*

А тым часам вывяржэнне тут апісана так выразна і яскрава, што мог зрабіць толькі чалавек, які непасрэдна паднімаўся на вулкан у актыўны час. А старажытны сьвет, паўтараю, не ведаў іншых вулканаў, акрамя Этны і Вязувія. Гэта без сумневаў было адно із першых вялікіх вывяржэнняў Вязувія, калі ўсё навокал збягала ў забабонным жаху, і толькі ў аднаго адважнага дапытлівасць заглушыла жах. Заваблiваемы цікавасьцю, ён пачаў часта паднімацца на гэтую гару і нават заставаўся там і начамі ў містычным экстазе назіраючы праявы магутных з’яваў прыроды. Паэт у душы, ён, як Ян на Патмасе, раптам адчуў у гэты час, быццам прырода аберагае яго, як сына, і паведамляе яму сваімі грымотамі і ўстрасаннямі зямлі:

– «Я адзіны твой бог і ды не будзе табе іншага бога, акрамя мяне».

Так паведамляла пазней і мора ў грукаце буры і прыбою Яну:

– «Я першая і апошняя літара альфабэта».

Уяўленне падказала адважнаму на Вязувіі і астатнія запаветы згодна з агульнымі законамі абудзіўшайся паэтычнай творчасьці.

Ён спусьціўся з гары і прынёс сваім суграмадзянам гэтыя дзесяць запаветаў, а яны, ужо набыўшыя звычку ставіцца да яго з забабонным жахам, як да чалавека, тварам да твару размаўляшага з самім богам Грамабоем, з глыбокай павагай прынялі яго запаветы, як наданне звыш.

Гэта азначае, месцам дзеяння «легенды пра аўтара дзесяці запаветаў» была вяршыня Вязувія, яго Сома – пераіначаная праз сугучнасць у Сінус, г. азн. нетры, бездань, а часам – першае гістарычнае вывяржэнне гэтай гары.

Легенда паведамляе, што разам са Збаўцам туды хадзілі яго брат Арон і юны Езус. Лічачы Арона за Арыя, памёршага згодна з гістарычнай традыцыяй у 336 годзе, калі евангельскі Езус мог быць толькі хлопчыкам, мы можам зрабіць выснову, што гэтае вывяржэнне Вязувія было крыху раней за першы сусьветны сабор старажытных навукоўцаў і тэолагаў (325 г.), і магчыма нават сам гэты сабор быў выкліканы грознымі сейсмічнымі з'явамі, распачаўшыміся ў Італіі і закончыўшыміся знікненнем Геркуланума і Стабіі. Калі на гэтым саборы, як нам кажуць, быў выпрацаваны першы пункт вядомага знака веры: «веру ў адзінага бога бацьку, усёмагутнага, стваральніка неба і зямлі, усяго бачнага і нябачнага», а астатнія пункты знака былі дададзены наступнымі саборамі, то гэты сабор з'яўляецца толькі афіцыйным падцверджваннем першага із дзесяці запаветаў, складзеных пад акампанемент грукату вогнедыхаючай гары і вагання яе вяршыні. Гэта азначае што разглядаемая падзея мела месца гадоў за сто да апісанага вышэй разбурэння Пампеі-Ерусаліма.

У такім разе Збаўца (Майсей) налёг бы ў нас на Мікалая-цудадзея (імя якога азначае: «пераможац народаў»), і сварка апошняга з Арыям была б аналагічна сварцы біблейскага Збаўцы з Аронам за «залатое цяля». Аднак, Мікалай-цудадзей, як паказалі пазнейшыя даследавані, легендарны і шмат у чым спісаны з Мікалая піярскага цудадзея, які жыў у V стагоддзі. Таму я і лічу Майсея за Дыяклетыяна, а прысутнасць тут Ісуса (Навіна, г. азн. Хрыста: гербам абодвух была рыба) з'яўляеца як быццам бы анахранізмам. Ён наўрад ці ўжо нарадзіўся ў гэты час інакш жа да моманту слупавання яму было не менш 60 гадоў. Што ж да месца, то, як мы ўжо бачылі, тут усё паказвае на Вязувій і на Флегрэйскія палі з іхнай знакамітай Сальфатарой, жарало якой безперапынна вылучае задушлівыя сярністыя газы, забіваючыя ўсё навокал. Гэты кратар лічыўся спускам у пекла, і не цяжка здагадацца, што ён і ёсць біблейская гара Сеір (ШЕІР), гара казланогага чорта.

Для таго, каб яшчэ лепш арыентавацца ў згаваемх тут мясцовасьцях, я вазьму біблейскую кнігу Багаслоўе[32], няправільна найменваную ў нашых перакладах Другазаконнем. Параўнальна з іншымі трыма кнігамі ў ёй мала легендарных дадаткаў. Гэта, па маю думку, і ёсць першапачаткова Сефер-Тора сучасных рабінаў. Астатнія тры кнігі далучаны да яе нашмат пазней, і таму, наадварот, самі з'яўляюцца як бы другазаконнем.

Вось як паведамляецца ў гэтай кнізе пра пашырэнне толькі што прыведзенага закона «Збаўцы» на працягу першых 40 гадоў.

**Із Главы 1.**

«Праз сарок гадоў (*з часу ўцёкаў із Міц-Рыма, г. азн. із наваколля Вязувія, 1,3*) у першы дзень адзінаццатага месяца (*студзеня*) Збаўца паведаміў народу:

---

32 אכה־ה־דברים (АЛЕ Е-ДБРІМ) – «Вось Слова», лічачы АЛЕ за вось.

– «Грамабой, наш бог, казаў нам на гары Спусташальніка (Вязувія[33]): «Досыць вам жыць на гэтай гары (1,6). Выпраўляйцеся ў шлях і ідзіце (*павучаць адзінабожжу*) у родныя горы і да ўсіх суседзяў у раўнінах, горах і далінах, і ў Паўднёвым краі, і на беразе Генуэзскага мора[34] і на Манбланскіх гарах[35] аж да вялікай ракі Прут (*Дунай*[36])».

«Але так як мне аднаму было немагчыма ўлагоджваць усе вашы звады і цяжкасьці (1,12), то я абраў із вас мудрых і вядомых мужоў і прызначыў іх над вамі тысячыначальнікамі, сотнікамі, пяцідзесятнікамі, дзесятнікамі і наглядальнікамі. Мы выправіліся ад гары Спусташальніка (*Вязувія, 1.19*) і ішлі па ўсім гэтым вялікім і жахлівым стэпе (*па Флегрэйскіх палях*) і дайшлі да Умбрыйскіх гор (*ХРЕ-АМРІ*), якія аддае вам Грамабой, ваш Бог, і дайшлі да Кадыкса на Роне[37]»).

Тут аўтар, відаць, называе Кадыксам на Роне сучасную Жэневу, таму што далей паведамляе пра вельмі жахлівыя горы.

«Мы павярнулі ў пустыню па дарозе да Краявога мора[38], – паведамляецца у другой главе, – і шмат часу круціліся каля Чортава хрыбта (Diablereux у Верхне-Ронскай даліне за Жэнеўскім возерам), але Грамабой мне сказаў:

– «Досыць вам абыходзіць гэтыя горы! Павярніце да поўначы і ідзіце побач з мяжой вашых братоў, сыноў Эсу, жывучых на Чортавым хрыбце, але не пачынайце з імі вайны, таму што я аддаў ім гэтую гару. Усю ежу купляйце ў іх на срэбра».

**Із Главы 2.**

«І мы ішлі побач з нашымі братамі на шляху, што ідзе па раўніне ад Айлта і Эцін-Гебра, потым павярнуліся і пайшлі па дарозе да раўніны. Там Грамабой мне сказаў: «Не пачынай тут варагаваць з жыхарамі, таму што я аддаў Эр (*Юру*) у валоданне лацінам. Раней жылі там аміены (*АМІМ*) – вялікі і шматлікі народ, высокі як англы (*ЭНКІ – янкі*[39]). Яны раней лічыліся рафамі (*РФА*), як і англы; тубыльцы ж завуць іх аміенамі (2.11), а на Чортавай гары раней жылі геры (*ХР*), але дзеці Эсу (*Рыма*) прагналі іх і пасяліліся замест іх. А зараз ідзіце ў даліну Зард (*ЗРД*)».

«І мы ішлі ад Кадыкса на Роне (КДШ В-РНЭ) да даліны Зард 38 гадоў, пакуль не памёрлі ўсе нашы паўналетнія мужчыны, якія сумавалі па ранейшаму жыццю».

Потым аўтар, забываецца, што ён перад тым паведамляў пра аміенцаў і энкаў, і зноў паўтарае даслоўна тое ж самае праз некалькі радкоў (2,18), і заканчвае:

«Падніміцеся ж і перайдзіце раку Арно (*АРНН*), я перадаю ў вашы рукі Сіхона (*СІХН*), цара Козняў (*ХШБУН*), і яго зямлю (відаць Генуя).

«Я выправіў да яго амбасадараў з усходняй раўніны з мірнымі словамі, але ён выйшаў ваяваць супраць нас з усім сваім народам пры Іеце. Мы захапілі ўсе яго гарады ад Эрэра на беразе Арно, да Ўзгорка Сведчання (*ГЛЭД*), толькі да зямлі

---

[33] ХРБ (חרב) – спусташальнік.

[34] כנון (КНУН) – перакладаюць Ханаан і адносяць у пустэльню да берагоў Мёртвага возера, а я лічу, што тут згодна з умовамі апавядання гаворка можа ісьці толькі пра Генуэзскую вобласць: Кенуя замест Генуя.

[35] לבנון (ЛБНУН) – азначае белы, тое самае, што і Mont Blanc – Белая Гора.

[36] Я лічу, што за Манбланам не можа быць іншай вялікай ракі, а слова ПРТ, сугучнае з сучасным найменнем вялікага паўночнага прытоку Дуная, раней магло быць найменнем усёй гэтай ракі да мора.

[37] קדש ב־רנע (К ДШ В-РНЭ) – Кадыс на Роне.

[38] ים סוף (ІМ СУФ) – Мора Краю.

[39] עוק («ЭНК») – корань слова «Англія» (ЭНГ-ЛЕНД).

Эмаў (*ЭМУН – верагодна французаў, якія называлі адзін аднаго аці)* мы не падыходзілі па ўзбярэжжу струменя Іўка (ІБК)».

**Із Главы 3.**

«Тут мы павярнулі назад і пайшлі па дарозе да Васана (*да гэтага часу горад Bassano ў Ламбардыі*). Але цар гэтай краіны Ог (*Эуг*) выйшаў супраць нас на бітву пры Адрыі (*якая да гэтага часу існуе пад гэтым найменнем, паблізу вусьця ракі По, а рака По ў старажытных лацінскіх аўтараў і мае назву Ярдан – Eridadus – адпаведна біблейскаму напісанню Ірдн і свайму найменню сярод сузор'яў*). Мы перамаглі яго і захапілі ўсе яго шматлікія гарады, умацаваныя высокімі сьценамі, брамамі і заваламі (*Верона, Падуя, Ферара, Балоння, Парма, Мадэна; нідзе не было пад час сярэдневечча столькі вялікіх гарадоў*), усю Аргоўскую вобласць (*АРГБ*), ад струменя Арно да Германскіх (*ХРМУН*) гор (*Тыроля*), якія венецыянцы завуць ШРІН, а ўмбры (*ЭМ-РЫ*) завуць ШНІР. Толькі Ог адзін застаўся із усіх рафаў. І вось труна яго жалезная, вось ён у Равене (РВЕ) у ўмбраў, яго даўжыня дзевяць мужчынскіх локцяў, а шырыня чатыры (3.11)» (*магільня Тэадорыха Гоцкага 454-526 г. у Равене*). «Жадаў бы я пабачыць і тую добрую зямлю за Эрыданам, Венчаную Гару (Monte Rosa?) і Манблан (ЛБН – белая гара), але Грамабой угневаўся на мяне за вас і паведаміў мне:

– «Досыць! Не кажы мне больш пра гэта. Падніміся на вяршыню Пасгі (*ПСГЕ*), падымі вочы твае да захаду, і да поўначы, і да поўдня, і да ўсходу, і дай навучанне Ісусу, таму што ён прывядзе народ да валодання зямлёй, якую ты бачыш (3.28)».

Потым паведамляецца, як Збаўца пачаў навучаць тут жа ў даліне каля сядзібы Пасці (ПЭУР).

**Із Главы 4.**

«Захоўваеце свае душы, каб не забыцца вам пра той дзень, калі вы стаялі перад Грамабоем, вашым богам, каля гары Спусташальніка (Харыб – horribilis), а гара гарэла полымем да самых нябёс пры змроку, воблаку і хмары, і казаў вам Грамабой із асяроддзя полымя, і вы чулі яго голас, але не бачылі яго постаці (4.11). Ён вывеў вас адтуль, із Міц-Рыма, з жалезаплавільнай печы, каб вы былі яго абраным народам (4.20)».

«Ці чуў нейкі іншы народ голас Грамабоя, прамаўляючага із асяроддзя полымя і застаўся пасьля таго жывым? Ці спрабаваў нейкі бог абраць сабе народ із асяроддзя іншага народа адзнакамі і дзівамі, і выпрабаваннямі, і вайной, і вялікімі жахамі, як зрабіў гэта Грамабой ваш бог у Міц-Рыме перад вашымі вачамі? З неба даў ён чуць вам свой голас і на зямлі паказаў вам сваё вялікае полымя, і вы чулі яго (*грымотныя*) словы пасярод полымя» (4.36).

«Так, – дадае апавядаючы, – прамаўляў Збаўца на беразе Эрыдана, калі яго прыхільнікі завалодалі зямлёй на ўсход ад Эрэра на беразе ракі Арно да гары Сіан (ШІАН), г. азн. Германскай (ХРМУН), і да мора раўніны пры падэшве Пасгі» (4.49).

Якое ж гэта Мора Раўніны пры падэшве гары Пасгі?

Пасгой у бібліі названа вяршыня нейкай гары Нево (НБУ), найменне якой пазначала таксама і планету Меркурый. Калі разумець гэта ў астральным сэнсе, то можна ўзяць сузор'е Панны ці сузор'е Двайнят, як астранамічныя сядзібы Меркурыя. Аднак, нягледзячы на ўсю маю схільнасць да тлумачэння загадкавых месцаў бібліі астральнай сімвалістыкай, я не адважваюся тут выкарыстаць гэты спосаб. Тут яшчэ усё дыхае грукатам вывяржэння Вязувія, і таму я толькі спрабую

перанесьці месца падзей із Палестыны, дзе ўсё гэта відавочна немагчыма з геаграфічнага боку гледжання, у Італію і яе наваколлі.

Я прызнаю за маім чытачом поўнае права знайсьці нешта лепшае за тое, што я гіпатэтычна прапанаваў яму ў папярэдніх радках. «Шукайце і знойдзеце» – казаў евангельскі настаўнік, але толькі шукаць трэба з разумам, а не як патрапіць, інакш вы можаце тыкнуць пальцам на мапе ў нешта не на шмат лепшае, чым Мёртвае мора. У дачыненні да вогнедыхаючай гары, на якой, згодна са славамі біблейскіх кніг, былі пачуты Збаўцам у грымотах дзесяць запаветаў, не можа быць іншага выбару, акрамя Вязувія; горад Адрыя, куды Збаўца прывёў уцекачоў са спустошанай Вязувіем квітнеючай мясцовасьці, тут названы непасрэдна; народ умбры названы умры (ці эмры); горад Бесано на паўночны захад ад Венецыі названы проста: Весан. Горад Маса (Ісх:. 17.7), дзе Майсей здабыў ваду са скалы ўдарам свайго кія, існуе і зараз на паўночны захад ад Ферары. Горад Рэхават, дзе валадарыў Саул над Эдомам (Рымам,– Быццё 36, 37) і зараз мае назву Реджыо, на ўсход ад Пары – біблейскага Парана (Друг. 33.2 і Лічбы 10.12).

Гэта азначае і струмень Арнон з’яўляецца італьянскай ракой Арно, і гара Ліван з’яўляецца Манбланам, так як абодва словы на сваіх мовах азначаюць адно і тое ж: Белая Гора. Гара Сеір азначае Чортава гара, і мы сапраўды маем у верхняй плыні Роны раней, чым яна зліваецца з Жэнеўскім возерам, Чортавы горы (Diablereux); акрамя таго і Флегрэйскія палі заслугоўваюць такога ж найменьня; і сучасная рака По сапраўды ў лацінскіх аўтараў мае назву Ярдан. Застаецца толькі атаясаміць і іншыя біблейскія назвы з найменнямі, якія знаходзяцца на сучасных мапах Італіі і блізкіх да яе месцаў.

## ГЛАВА VI.
## Другое заканадаўства і смерць чараўніка-збаўцы.

У біблейскай кнізе «Другазаконне» (у Главе 5) Збаўца паўтарае сваім спадарожнікам ужо вядомыя нам дзесяць запаветаў і дадае да іх цэлы шэраг другарадных, збольшага рытуальных, збольшага грамадзянскіх пастаноў. Гэта і ёсць першапачатковае «рымскае права» нашых юрыстаў, але ўжо перапрацаванае пад час сярэдніх стагоддзяў. Некаторыя яго дэталі належаць непараўнальна больш пазняму аўтару, бо дыхаюць такой жахлівай няцерпнасьцю, якой не можа быць пры пачатку новай ідэалогіі і якая магла выпрацавацца толькі з нагоды выпрабаваных яе прыхільнікамі пераследаў і жорсткасьцяў.

Так у сёмай главе пералічваюцца сем народаў, якія завуцца «больш магутнымі і шматлікімі», чым прыхільнікі «Збаўцы», гэта: готы (ХТІ), чаркесы (ГРГШІ = рыгораўцы), умбры (АМРІ), генуэзцы (КНЭНІ), французы (ПРЗІ), вугорцы (ХОІ) і візантыйцы (ІВЮБІ). Пра ўсіх іх аўтар выказваецца:

«Не радніцеся з імі, не аддавайце сваіх дачок за іхных сыноў, і іхных дачок не бярыце за сваіх, але спустошце іхныя ахвярнікі, разбурыце іхныя калоны, паваліце іхныя сьвятыя дрэвы, і іхных балванаў спаліце полымем (7.5)». «І калі брат твой, ці сын твой, ці дачка твая, ці жонка на тваіх каленах, ці сябар твой, які для цябе як твая душа, таемна скажа табе: «пойдзем і паслужым іншым багам!» – то ды не пашкадуе іх тваё вока! Не шкадуй і не ратуй іх, а забі. Твая рука павінна быць на іх раней за ўсіх, а потым рукі ўсяго народа; бі іх камянямі да сьмерці! І калі пачуеш пра нейкі із гарадоў сваіх, што там з'явіліся бязбожныя людзі і

спакусілі жыхароў горада служыць багам, якіх вы не ведалі, і ты адшукаў і даследаваў, і добра распытаў і пераканаўся, што гэта праўда, то забі жыхароў таго горада лязом мяча, знішчы яго і ўсё, што ў ім ёсць; збяры ўсю яго маёмасць на сярэдзіну плаца, спалі і яго полымем, і маёмасць яго, і ды будзе ён вечна рабураным і хай нішто са знішчаемага не прыліпне да тваёй рукі, каб утаймаваў Грамабой лютасць свайго гневу (43.17)».

Чытач бачыць сам, што гэта выказваецца ўжо не аўтар дзесяці запаветаў, у якіх цалкам не згадваецца пра нейкія пакаранні, а толькі абяцаюцца ўзнагароды ад самага Бацькі богаў, нападобе: «і шматгадовы будзеш на зямлі». Гэтае месца ўжо дыхае полымем інквізіцыі, а таму і падобныя дадаванні павінны быць прыпісаны той жа эпосе.

З нагоды ж сейсмічных з'яваў тут згадваецца пра двух сыноў Бога-бацькі (АЛІ-АБ), на імі Датан (ДТН) і Ойча Рым (АБІ-РМ), «якіх паглынула зямля, расчыніўшы свае вусны, з іхнымі сядзібамі і сямействамі і ўсёй маёмасьцю», пад час дзён Збаўцы (11,16). Із папярэдніх апісанняў вулканічных з'яваў мы ўжо ведаем, што гэта часта здараецца пры моцных землятрусах, калі ідучае ў пустую расколіну паветра зацягвае туды ўсё наваколле (мал. 59, у нізе).

А яшчэ далей гаворыцца (29,22) ад імя «Збаўцы», што пасьля таго як богазмагальнікі звернуць з правільнага шляху, прыйдзе пасьля іхнага пакарання чужак у іхную зямлю і пабачыць:

«Усюды сера і соль..... абгарэла гэтая зямля. Яна не засяваецца і не дае плёну і няма на ёй ніякай травы. Яна, – падабенства Садома і Гаморы, Адмы і Цвіі».

Зразумела, што гэтае месца, згодна са сваім характарам, магло быць дададзена толькі пасьля таго як пасьлядоўнікі Збаўцы ўжо пачалі адыходзіць ад яго навукі. Такіх «збыўшыхся прароцтваў» сучасны прыродазнавец не прызнае.



Мал. 74.

*«Бог-Грамабой скідае землятрусам статуі астатніх богаў і збівае каменнем іхных прыхільнікаў». (із малюнка Брулова «Апошні дзень Пампеі»)*

Гэта ж самае можна сказаць і пра суцяшэнне:

– «Я прызначу вам прарока, – паведаміў Збаўцу бог на гары Спусташальніка, – із асяроддзя вашых братоў, такога ж, як і ты, і ўкладу мае словы ў яго вусны, і спаганю з таго, хто не паслухае яго (48, 18)».

Гэта прароцтва магаметане адносяць да Магамета, хрысціяне – да евангельскага Хрыста, а юдэі яшчэ чакаюць прыходу.

У той жа кнізе паведамляецца (23,5), што паганцы і першабацькоўцы (ЭМУНІ У МУАБІ) не могуць патрапіць ў таварыства Бацькі богаў вавекі за тое, што нанялі супраць «Збаўцы» Валаама, каб праклясьці яго, але бог не пажадаў слухаць Валаама іператварыў яго праклён у добраславенне. Я ўжо разабраў гэтую астральную легенду і паказаў (Кн. І), што яна мае дачыненне да пагоні адзін за адным Юпітэра і Сатурна ў Сузор'і Рака ў 709 і 710 гадах нашай эры, чым і даказваецца, што кнігу Другазаконне яшчэ папаўнялася істотнымі ўстаўкамі нават у VIII стагоддзі.

У дачыненні да рэлігійнага рытуалу загадваецца ладзіць вялікдзень у месяцы Коласа (г. азн. у сакавіку, калі апоўначы кульмінуе Колас у сузор'і Панны), «таму што ў гэты час вывеў цябе Грамабой, твой бог, із Міц-Рыма ночу» (46Л).

Адпаведна хрысьціянскай анафеме на «сьвяце праваслаўя», падчас «вялікага паста», і ў «Другазаконні» прыводзіцца цалкам падобны рыуал:

«Слухай, народ богазмагальнік, голас Грамабоя, твайго бога! Сімяён, Левін, Юда, Ісахар, Ёсіф і Веніямін (*г. азн., як пабачым далей, лівіец, сірыец, малазіец, італьянец і сіцыліец*) павінны стаць на гары Мроі (ГРЗІМ) пры пераходзе праз Эрыдан, каб багаслаўляць народ, а Рувім, Гад, Асір, Завулон, Дан і Нафтлі (*г. азн. ягіпцянін, гішпанец, германец, грэк, славянін і француз*) павінны стаць на гары Эйбл (ЭІБЛ), каб праклінаць».

Але ніякага добраславення не паказана, а дадзена толькі адна анафема:

«Хай абвесьцяць дыяканы (ЛУІ) да Богазмагальніка гучным голасам:

– Пракляты той, хто зробіць вылеплены ці адліты кумір і таемна паставіць яго! І ўвесь народ усклікае: Амэн (АМН)!

– Пракляты не ўшаноўваючы свайго бацьку ці маці! І ўвесь народ усклікае: Амэн!

– Пракляты той, хто саб'е сляпога са шляху! І ўвесь народ усклікае: Амэн!

– Пракляты той, хто старонне асуджае прыйшоўшага, сірату і ўдаву! І ўвесь народ усклікае: Амэн!

– Пракляты той, хто забівае свайго блізкага таемна! І ўвесь народ усклікае: Амэн: Амэн!

– «Пракляты той, хто за плату забівае душу, пралівае нявінную кроў. І ўвесь народ усклікае: Амэн!» (28.25)

Як мне здаецца, трэба быць цалкам нядольным да самай элементарнай літаратурнай крытыкі, каб адразу не адчуць, што гэтая біблейская анафема належыць да той жа самай эпохі клерыкальнай творчасьці, як і хрысьціянскае выслоўе: «анафема і пракляты!» Толькі хрысціянская анафема пайшла яшчэ далей, далучыўшы сюды і палітыку.

Дарэчы вось і тут такое ж дапаўненне да папярэдняга ў больш распрацаваным выглядзе:

«Калі ты не будзеш слухаць галасу бога твайго і выконваць усе яго запаветы і статуты, якія я апавяшчаю сёння, – кажа аўтар ад імя Збаўцы, – то пракляты ты ў горадзе, і пракляты ты ў полі, пракляты твой кошык і твая дзежка, пракляты плён

улоння твайго і плён тваёй зямлі, праклята нараджаемае тваімі каровамі і авечкамі; пракляты ты пры ўваходзе і пракляты пры выхадзе, і нашле на цябе бог-бацька замяшанне і беднасць, уразіць цябе змарнеласьцю і гарачкаю, ліхаманкай і запаленнем, і сухотамі, і абпальваючым ветрам, і жаўтухай! (28,22) І ўразіць ён цябе міц-рымскай праказай, і гемароем, і каростай, і вар'яцтвам, і слепатой, і неразумнасьцю! З жонкай заручышся, а іншы будзе з ёю спаць; сядзібу пабудуеш, а іншы будзе ў ёй жыць (28,31), ён будзе галавой, а ты будушь хвастом» (28.44).

А потым гаворыцца і пра ўвесь абраны богам народ нешта такое, што магло быць прамоўлена толькі пасьля яго рассейвання і прыніжэння сярод іншых рэлігій:

«І рассее цябе бог па ўсіх народах, ад краю да краю зямлі, і будзеш там служыць іншым багам, драўляным і каменным, якіх не ведаў ні ты, ні твае бацькі, але і паміж гэтымі народамі не будзе спакойнага месца для тваёй нагі, і дасць табе там Грамабой трапяткое сэрца, і знясіленне вачэй і знямогу душы» (28.65).

Усё гэта – яскравая выява становішча месіянцаў пад час сярэдніх стагоддзяў сярод хрысціянаў і магаметан, і, вядома, ніякі Збаўца не мог прадказаць нічога падобнага за некалькі соцень гадоў. Зразумела, што кніга пісалася ў вельмі позні час.

Пасьля гэтага павучання, 31-я глава Другазаконня паведамляе: «выйшлі Збаўца (*Майсей*) і Ратавальнік (*Ісус*) і сталі каля намёта сходу. Хмарны слуп стаяў каля яго ўваходу (31.15), і запавятаў Збаўца Ратавальніку (*Майсей Езусу, якога арабскі Каран нездарма называе пляменікам Майсея па сястры Марыі, фігуруючай і тут пад імем Марыям*):

– «Будзь цьвёрды і мужны, таму што ты ўвядзеш дзяцей Богазмагальніка ў зямлю, пра якую я кляўся ім» (52.23).

Потым раптам, пакінуўшы празаічнае вымаўленне, Збаўца заспяваў (як Шаляпін) пасярод усяго шаноўнага сходу:

– «Слухай неба: я буду прамаўляць!
Ды чуе зямля вымаўленне маіх вуснаў!
Маё вучэнне пальецца як дождж,
І прамова мая закапае, як раса!
Яна ўпадзе, як лівень на зеляніну,
Як моцны дождж на траву.
Услаўце вашага бога!
Ён ваша цьвярдыня, і дасканалыя ўсе яго справы.
І справядлівыя яго шляхі.
Ён верны і няма няпраўды ў ім....
Як арол пільнуе сваё гняздо,
І носіцца над сваімі птушанятамі,
Распасьціраючы над імі крылы,
Так ён вадзіў свой народ,
І не было ў вас чужога бога.
Ён узнёс вас высока ад зямлі,
Карміў стварэннямі палёў,
Сілкаваў мёдам із каменя (!),
І маслам із крамяністай скалы (!),
Маслам каровіным і малаком авечым,
Тлушчам ягнят і Васанскіх авечак[40],

[40] Із Бесана ў Ламбардыі.

Самай гладкай пшаніцай
І крывёй вінаградных лоз.
І растаўсьцеў наш богазмагальнік,
Пачаў ён брыкацца
І занядбаў цьвярдыню свайго выратавання,
Пачаў прыносіць ахвяры нячысьцікам
І новым багам (Каталіцкім сьвятым),
Нядаўна паўстаўшым,
Пра якія не ведалі вашы бацькі.
І прамовіў Грамабой:
– «Схаваю ад іх мой твар,
І пабачу, якім будзе іхны канец (32.20).
Я вынішчыў бы нават памяць пра іх із асяроддзя людзей,
Калі б не асьцерагаўся,
Што непрыяцелі мае скажуць:
Гэта зрабіла наша рука, а не Грамабоя (32.27)».
Слаўце ж чужынцы яго народ!
Таму што Грамабой
Будзе помсьціць за кроў сваіх служак,
І ачысціць сваю зямлю і свой народ!».

Уся гэтая песьня, бясспрэчна, наіўная па свайму зместу і форме і яе сярэдзіна ззяе анахранізмам, калі прымем да ўвагі, што яна была праспявана ў той час, калі богазмагальніцкі народ не толькі не быў рассеяны із зямлі запаветнай, але нават і не прыйшоў у яе. Аднак намёк на нейкі гімн, складзены Збаўцам (Майсеем), мы маем у Апакаліпсісе, напісаным восенню 395 года нашай эры. Ніякага іншага гімна, акрамя гэтага, мы не маем у бібліі ад яго імя, і таму мы павінны думаць, што толькі яго пачатак і заканчэнне належаць Збаўцу, а ўся анахранічная частка пра «наш растаўсцеўшы богазмаглнік» дададзена пазнейшымі перапісчыкамі.

«Пасьля гэтага, – паведамляе легенда, – падняўся Збаўца з муабскіх раўнін на гару Нева, на вяршыню Пасге, што насупраць месяца (ІРХУ), і паказаў яму Грамабой на поўначы ўсю зямлю ад Галатыі (ГЛЭД) да Дуная (ДН) і ўсю зямлю Нафтлі, і АФ-Рыма, і Манашэ, і Багаслоўную (ІЕ-УДЕ) да Ахеронскага мора. Ён паказаў яму і паўдзённую краіну, вобласць Даліны Месяца (ІРКН), горад Пальм да Цэра (ЦЭР) і прамовіў:

– «Вось зямля, пра якую я клаўся Бацьку-Рыму, Пашыральніку Пісьмёнаў і Богаследчаму, кажучы, што дам яе іхным нашчадкам. Я дазволіў табе яе пабачыць, але ты туды не ўвойдзеш».

«Тут памёр Збаўца 120 гадоў ад нараджэня, «але не прытупіўся яго зрок і не высахла свежасць. Ён пахаваны ў Муабскай зямлі (згодна са сьвятцамі 4 верасня, у грудзях Панны) насупраць дом Пасьці (сузор'я Кіта?) і ніхто не ведае месца яго магілы».

Такое заканчэнне мае біблейская кніга Другазаконне. Яна паведамляе нам пра першыя гады пашырэння адзінабожжа, пачутага «Збаўцам» і Арыям (Аронам) на вяршыні Вязувія ў грукаце яго магутнага вывяржэння, перад якім здаваліся нямоглымі ўсе астатнія багі, зрынутыя землятрусам у асобе сваіх статуяў, як сігналам да пачатку богазмагальніцства.

Мы бачым, што яно нават і пасьля катастрофы пашыралася не шляхам мірнага пераканання, да якога засталіся б глухімі прафесійныя жрацы далёкіх

мясцовых культаў, бо ім скасоўвалася само іхнае існаванне, а такім жа спосабам як пашыралася і магаметанства: чыста вайсковым шляхам, з гвалтоўным скіданнем куміраў у Паўночнай Італіі аж да Альпаў, і вынішчэннем паганскіх храмаў і цароў, якія іх баранілі.

У гэтай вайсковай спробе, хутка відаць скончылаўся далучэннем самога абранага боскага народа да культаў іншых богаў, акрамя свайго Грамабоя, бралі ўдзел галоўным чынам Майсей, імя якога азначае Збаўца, Арон ці Арый, што азначае Леў і Асьветнік, і Езус, імя якога азначае – Ратавальнік. Лічачы гэтага «Езуса-ратавальніка» тоесным з евангельскім Хрыстом, мы не знаходзім для Майсея ў евангеллях іншай прыдатнай фігуры, акрамя яго старэйшага па веку спадарожніка Сымона-патара (скарочанага ў Пятра), імя якога азначае – пачуты (богам) і галоўным месцам дзейнасьці якога была якраз Італіі і Рым. А для Майсеевага спадарожніка Арона я не бачу ў евангеллях іншай асобы, акрамя спадарожніка Пятра, меўшага таксама падвойнае імя, Саўла-Паўла, які згодна з евангеллямі не быў прыхільнікам Ісуса аж да яго слупавання (г. азн. да 368 года), і згодна з хрысьціянскімі крыніцамі быў пакараны сьмерцю ў Рыме разам з Сымонам патарам (Пятром) гадоў праз 30 пасьля сьмерці Ісуса, што дапасуе справу, прыкладна, да 398 года нашай эры.

Але гэта не сходзіцца з паведамленнямі хрысціянскіх аўтараў пра тое, што Нікейскі сабор быў у 325 годзе, і я думаю, што евангельскае датаванне іхнай сьмерці апераджае сапраўдную, ва ўсякім разе для Пятра, гадоў на 20. Арый жа (г. азн. Арон), лічыўся памёрлым у 336 годзе, калі Ісус быў яшчэ дзіцём (ці ж да моманту слупавання апошняму было не менш за 60 гадоў) і гэта датаванне, наадварот, уяўляецца мне ранейшым сапраўднага гадоў на дваццаць.

Хаця Пяцікніжжа і прымушае Езуса хлопчыкам спадарожнічаць Майсею і Арону на гару і непасрэдна працягваць іхную справу ўваходу ў зямлю, « цякучую малаком і мёдам», але я лічу гэта штучным злучэнне, а Езуса (г. азн. Васіля Вялікага, хоць ён і мог сапраўды быць пляменікам згаданых дзеячаў, народжаным самай малодшай іхнай сястрой), наўрад ці нарадзіўшымся ў той час, калі яны хадзілі слухаць Грамабоя на вяршыню Вязувія.

Найвялікшымі цяжкасьцямі тут абстаўлена заданне знайсьці сярод хрысьціянскіх сьвятых першай паловы IV стагоддзі чалавека, які адпавядае Збаўцу. Адзіным прыдатным мог бы тут быць, як я ўжо казаў, Мікалай-цудадзей, але хрысьціянская біяграфія перамяшала яго з пазнейшым Мікалаем, піярскім-цудадзеем, якім ён і падменены, так што сапраўдная асоба нікейскага Мікалая застаецца невысьветленай дзякуючы гэтай магчыма тэндэнцыйнай падробцы, каб цалкам выкрасьліць нават ўспамін пра Майсея, як пра дзеяча першага сусьветнага сабору.

Некаторы час мне здаваўся, што і Збаўца і Ратавальнік быў адной і той жа асобай, так як Езус мог бы быць і на Нікейскім саборы, калі б да часу слупавання яму было каля 70 гадоў (ці сам сабор быў пазней 325 года), аднак, я адмовіўся ад гэтай думкі, таму што пра Майсея згадваецца і ў Апакаліпсісе, як пра адметную асобу. Пасьля шматлікіх ваганняў я спыніўся, нарэшце, на тым, што гэта быў богапрызваны Дыяклетыян, бо галоўнай роляй Дыяклетыяна было: заканадаўства, адміністрацыя і вайсковае правадырства, як у Майсея, ды і мянушка яго была Jovius, г. азн. Грамабой. Пра яго персанальнае падабенства з Майсеем я буду падрабязна выказвацца ў адным із далейшых тамоў гэтага майго даследавання, а

пра тое, што хрысьціянскія копты, абісінцы і армяне на ўсім усходзе вядуць сваё летазлічэнне ад яго, а не ад «Хрыста» – усім вядома.

Усё вышэйзгаданае малюе нам яго, як заснавальніка папскай улады ў Рымскай вобласьці, той магутнай тэакратычнай дзяржавы, якую мы бачым пад час сярэдніх стагоддзяў. Пачаўшыся ў арыянскай форме, напачатку IV стагоддзя яна існавала аж да новага жахлівага выняржэння Вязувія ў 472 годзе, пасьля чаго, разам са сьмерцю Рэцімера, пачалася трохгадовая анархія ў Італіі, а потым улада перайшла да Адаакра і пасьля яго да Тэадорыха Гоцкага, які перанёс сталіцу ў Равену, хаця гэты горад служыў сталіцай заходняй Імперыі яшчэ пры Ганорыю, а Рым заставаўся ў цені. Гэтае другое вывяржэнне лёгка магло быць патлумачана гневам бацькі богаў за адступніцтва ад запаветаў «Збаўцы», атрыманых падчас першага вывяржэння. Рассеяўшыяся пад напорам праваслаўных готаў арыяне пазней трансфармаваліся у сучасных юдэяў. Мастацкае апісанне гэтых уцёкаў богазмагальнікаў пры скасаванні Заходняй імперыі, мы ўжо бачылі вышэй у «Плачы Ераміі».

Якой ні нечаканай з'явіцца для сучасных прыхільнікаў «Закону Майсея» мая здагадка, што іхныя продкі былі не арабамі з берагоў Мёртвага мора, а рымскімі грамадзянамі IV стагоддзя, жыўшымі на берагах Неапалітанскага заліва і пряняўшымі адзінабожны запавет, атрыманы на Вязувіі пры яго першым жудасным вывяржэнні, і што толькі ўжо пазней яны прыйшлі ў Ягіпет, Візантыю, Сірыю і Месапатамію з аднаго боку, а з другога, на Іберыйскую (юдэйскую) паўвыспу, – але я буду падтрымваць і далей гэтую сваю гіпотэзу, заснаваную на прыродазнаўча-навуковых даследаваннях біблейскіх кніг.

# ГЛАВА VII.

## Сыход богазмагальнікаў са старога «Развеянага Рыма».

### I.

### Юнацства Збаўцы.

Вернемся зараз назад гадоў на пяцьдзясят і даследуем юнацства «Збаўцы». Спачатку высветлім пытанне з імёнамі дзеля складнага выкладання.

Што азначае слова Арон? Мы ўжо згадвалі – асьветнік. Але ў гэтага імя ёсць, згодна з тлумачэннем гебраістаў, і іншае значэнне: «носьбіт надання», таму што, згодна са славамі легенды, Збаўца загадаў яму насіць на грудзях залатую квадратнаю пласьцінку, на чатырох баках якой былі дванаццаць каштоўных камянёў: рубін, тапаз і смарагд; карбункул, сапфір і берыл; яхант, агат і аметыст; хрызаліт, анікс і яспіс, а пасярэдзіне надпіс: «Наданне і Нявіннасць»[41].

Мы знаходзім тут тыя ж каштоўныя камяні, якія бачыў і пасьлядоўнік хрысьціянскага «вялікага прысвечанага» і «ратавальніка» – Ян Хрызастом – у пералівах колераў ранішняга неба на Патмасе, ды і сам надпіс пасярэдзіне гэтага чатырохкутніка, сімвалізуючага нашу зямлю, як яе ўяўлялі ў старажытнасьці, кажа нам пра нейкае «наданне і нявіннасць».

---

[41] Я лічу імя Арон אהרן трансфармацыяй слова אריה (APIE) – Леў. Яно перайшло ў лаціна-элінскую літаратуру ці ў перакладзе (Leo, Leon, Леў), як ўласнае імя для людзей, ці ў сваім жыдоўкім вымаўленні Арый. Потым гэты Арый зноў перайшоў у жыдоўскую літаратуру, але ужо пад імем AEPH, г. азн. сьветлы.

Усё гэта характарызуе тую ж самую эпоху і ўжо загадзя наводзіць нас на ідэю пашукаць роднасных рысаў у развіцці легендаў пра Арона, як духоўнага бацьку біблейскага Езуса-Рыбы (па-сірыйску Навіна) і пра Арыя, як пра духоўнага бацьку евангельскага Езуса Хрыста, знакам якога ў катакомбах таксама з'яўляецца выява Рыбы. У абодвух выпадках імёны тыя ж самыя, і згодна з нашымі вылічэннямі слупавання евангельскага Езуса ў 368 годзе, Арый з'яўляецца яго папярэднікам. У евангеллях, варожых арыянству, Арый заменены Янам Хрысьціцелям, імя якога азначае Іяніец (а таксама «туркаўка», пяшчотны знак нявіннасьці і душэўнай чысьціні[42]).

Сястра Арона Марыям з'яўляецца тут аналагіянай евангельскай Марыям – маці Езуса.

Дадам яшчэ, што гэты радавод да мяне быў пазначыны ў магаметанскім Каране, дзе хрысціянскі Езус сапраўды называецца сынам Марыям, сястры Арона і Майсея і іхным родным і духоўным пляменікам, як асоб непасрэдна папярэднічаўшых яму. Хрысьціянскія, а з імі і еўрапейскія тэолагі лічаць гэтыя месцы Карана, пра якія я яшчэ буду падрабязна разважаць ў главе пра Магамета, за доказ невуцтва яго аўтараў, але мае астранамічныя вызначэнні храналогіі біблейскіх кніг паказваюць, што арабскія аўтары Карана былі адзінымі меўшымі тут рацыю. Цікавей жа ўсяго тое, што я вывеў гэты новы (магчыма чыста алегарычны ці духоўны) радавод астранамічным шляхам яшчэ раней, чым прачытаў Каран, і наступныя радкі пра «дзядзьку Хрыста» – Майсея – я перапісваю са сваіх старых сшыткаў, у тым выглядзе, як яны былі напісаны тады.

Вось як пачынаецца легенда пра гэтага жыдоўскага «збаўцу».

«Сыны Богазмагальніка распладзіліся і ўзмацніліся надзвычай, і напоўнілася імі міц-рымская зямля. Але там паўстаў новы цар (МЛК), які не ведаў Ёсіфа» (Быццё, I. 7-8). «Асцерагаючыся сыноў Богазмагальніка, ён з жорсткасьцю прымушаў іх да прац (I. 13)» і загадаў свайму народу (аналагічна таму, як зрабіў гэта евангельскі Ірад), «кожнага нованароджанага сына перасяленцаў (жыдоў) кінуць у раку, а дачок пакінуць жывымі (I. 22)».

І вось жонка аднаго із багазмагальніцкіх дыяканаў (луітаў) нарадзіла сына. Яна хавала яго тры месяцы, але, не маючы больш магчымасьці рабіць гэта, узяла кошык із прутоў, абсмаліла яго і паставіла плаваць з дзіцём у трыснягу, пакінуўшы яго сястру назіраць, што з ім будзе. Дачка міц-рымскага Валадара43 пайшла купацца і пабачыла кошык з плачучым дзіцём.

– Гэта, – сказала яна, – із перасяленчых дзяцей.

Сястра дзіцяці, пастаўленая маці для назірання, адразу падышла да яе і запытала:

– Ці не паклікаць табе карміцельку із перасяленак, каб выгадаваць немаўля?

– Ідзі, – загадала ёй дачка валадара.

Дзяўчынка прывяла да яе яго ўласную маці, і немаўля стала замест сына для дачкі валадара, і яна, – наіўна кажа аўтар, – назвала яго збаўленнем, таму што выратавала яго ад вады (2. 10)».

---

[42] יונה (ІУНЕ) – туркаўка.

[43] Слова Фараон (פרעה ПРЭЕ) габраісты перакладаюць a posteriori – рассейвальнік, помснік, а па-сірыйску – цар і кракадзіл. Але гэта пазнейшыя намінальныя імёны. У ягіпцян цар заўсёды меў назву сутэн (султан) ці шэйх (шэфт). Нашмат больш падобна гэтае імя на старажытна-італьянскае padre, на французскае pere, на нямецкае Vater, на грэцкае патар і хутчэй азначае бацька ў грамадзянскім і духоўным сэнсе. Я перакладаю гэта слова нейтральна – валадар.

Зразумела, што тут гістарычнага няма нічога, акрамя таго, што Майсей-Збаўца лічыўся ў сваім дзяцінстве сынам дачкі свецкага ці духоўнага валадара ў Міц-Рыме, і толькі пазней яму пажадалі даць іншае акультнае паходжанне, і прыдумалі гэтую легенду.

Потым паведамляецца, як хлопчык вырас і як, баронячы аднаго раба-перасяленца, ён забіў катаваўшага яго міц-рымца і збег у Медыну (МДІН[44], дзе адружыўся з Ранішняй Зоркай[45], дачкой Пастара Боскага (РЭЮ-АЛ) (2. 16), г. азн. пры астральным тлумачэнні, прыйшоў у выглядзе сонца ў сузор'е Панны пад Валапасам. Ад яе нарадзіўся сын на імя Выгнаннік, што зноў (у выпадку астральнага тлумачэння) прыводзіць да сузор'я Змеятрымальніка над Скарпіёнам, выціснутага гэтай жывёлай із Задыяка.

«Аднойчы, калі Збаўца пасвіў авечак у стэпы, – паведамляе легенда, – ён падышоў да боскай гары Спусташальніка46 «і там з'явіўся яму нябесны вястун у выглядзе полымя вогненнага іглятніка47, які гарэў полымем і не згараў (3. 9)».

«Калі Грамабой пабачыў, што Збаўца ідзе глядзець на гэтае дзіва (мал. 75 ці 76), ён прамовіў яму із сярэдзіны палаючых іголак:

– Не падыходзь сюды. Здымі абутак з тваіх ног, таму што месца, на якім ты стаіш – сьвятая зямля... Я бог Бацькі-Рыма, бог Пашыральніка Пісьмёнаў, бог Богасведкі48. Я пабачыў бедствы майго народа ў Міц-Рыме і іду вывесьці яго ў выдатную і шырокую зямлю (а не ў малюсенькую Палестыну!), бягучую малаком і мёдам, у зямлю гандляроў-мараплаўцаў49, готаў50, славакаў51, парсаў52, гунаў53, вусаў54. Выведзі із Міц-Рыма мой народ, дзяцей Богазмагальніка.

– Як мне назваць цябе міц-рымцам? – запытаў Збаўца.

– Я есмь першая літара альфабэта55 і быў – першай літарай альфабэта (3.14), – адказаў яму бог словамі Апакаліпсіса.

Разглядаючы розныя спосабы паходжання гэтай легенды, мы прыходзім тут да магчымасьці толькі двух шляхоў.

---

44 מדין (МДІН) азначае: бітва, сварка. Гэты горад паказваецца арабскімі географамі на ўсход ад Аравійскага заліва, але слядоў яго там ніякіх няма, а сугучна гэтае найменне з італьянскай Медынай. Тут была перамога Гедэона. (Суд., 8-12).

45 צפרה (ЦФРЕ) – світанне, раніца, а таксама – птушка.

46 חרבה (ХРВЕ) – спусташэнне, пыл, спёка, лацінскае horribilis – жудасны. Вязувій.

47 Тут ужыта слова סנה (СНЕ) – цярноўнік; літаральна – ігольнік, што таксама выдатна дапасуе і да іголкападобных прамянёў паўночнага ззяння ў паўднёвых краінах, калі яго асноўная дуга не бачна пад паўночным гарызонтам ці налягае на яго.

48 Адносна таго, што слова Абрам (אב־רם АБ-РМ) азначае Бацька Рыма, а не Бацька Народаў, бачна са шмат якіх аналогій у кнізе Быцця. Слова Ісак (יצחק = ІЦ-ХК) да гэтага часу выводзілася ад צחק (ЦХК) – сьмех і ў гэтым выпадку азначала б «Боскі смех». Але я думаю, што яно паходзіць ад יצא (ІЦА) – выгадаваць, вынесьці, пашырыць і (ХК) – закон, напісанне, пісьменнасць, ці проста – пашыральнік пісьмёнаў. А слова Якаў (יעקב = І-ЭКБ) паходзіць ці ад יה־עקב (ІЕ-ЭКБ) і азначае завяршэнне, заканчэнне, узнагарода Грамабоя, ці проста ганяючыся, хапаючы за пяту Грамабоя, боганазіральнік.

49 כנעני (КНЕНІ) – гандляры-мараходы, ад КНЭЕ – спакаваны тавар. Асабліва – «фінікійцы», верагодна венецыяцы і генуэзцы.

50 חת (ГТ) азначае жах; верагодна гаворка ідзе пра ост-готаў, жыўшымі паміж Донам і Дунаем, г. азн. у Вугоршчыне.

51 אמר (АМР) азначае – слова; напэўна, тут перакладзена на жыдоўскую мову найменне славакаў ці славянаў.

52 פרז (ПРЗ) – суд, сугучна са старажытным горадам Парысам – Парыжам. Гэта ніяк не Пярсей, знак Персаў.

53 חו (ГУ) падобна з ХУЕ ці ХУХ – сход, працьма. Апакаліптычнае Гог ці Гун.

54 יבום (ІВУС) падобнае з будучым часам ад дзеяслова בום (БУС) – таптаць нагамі.

55 א־היה אשר א־היה (АЛЕФ ЕЙЕ АШР АЛЕФ ЕЙЕ).

Перадусім, уяўленне пра палаючы куст іглятніку, які гарыць і не згарае, магло быць выклікана сьвячэннем, выходзячым із глыбіні жарала Вязувія ці Этны ад расплаўленых мас на яго дне і пашыраючымся веерам над гарой, як прамяні нашых сучасных пражэктароў (мал.41). У гэтым выпадку ўсё робіцца зразумелым, але не варта забываць і пра магчымасць іншага тлумачэння.



Мал. 75
*ігнятнік, падпалены і не згараючы*



Мал. 76
*Куставое вывяржэнне із другаснага невялікага жарала вулнана*

Такое ж уяўленне пра падпалены і незгараючы куст іглятніку магло быць выклікана і паўночным ззяннем. З гэтага боку гледжання легенда набыла б яшчэ больш высока мастацкі характар. Уявіце сабе такую з'яву нават і над звычайнай гарой у марозную лістападаўскую ці снежаньскую ноч, незадоўга да сьвітання. Млечны Шлях, г. азн. рака, цякучая малаком і мёдам, проста размешчаны ў такім выпадку на паўночным гарызонце і, калі асноўная дуга паўночнага ззяння таксама ляжыць на ім, то яе ззянне павінна значна ўзмацняцца ад гэтага, а вострыя прамяні ззяння, пашыраючыся па паўночнай частцы неба і, то ўспыхваючы, то патухаючы, павінны ўяўляюцца як іголкі іглятніку, які гарыць полымем (мал. 75).

Але якіж вястун небе мог быць пасярод гэтага ззяння, які мог бы прамовіць:

– «Я бог тваіх бацькаў Абрама, Ісака і Якава?».

Зірніце на неба ў снежні, і вы пабачыце самі. Нябесны пасад, на якім тады яшчэ не была пасаджана Касіяпея і які лічыўся сядалішчам бога, быў якраз пасярод гэтага ззяння, такога рэдкага ў паўднёвых краінах, а таму і словы «із палаючага куста», прыведзеныя складальнікам «легенды пра Майсея», цалкам зразумелы. Зразумелая стала б, акрамя Ламбардыі, куды потым павёў свой народ Майсей, і зямля запаветная, якую абяцаў бог даць народу богазмагальніку, абранаму ім, як агульналюдзкая інтэлігенцыя, із усіх народаў і моваў зямлі. Іголкападобныя прамяні ззяння паказвалі на тыя месцы паўднёвай паловы неба, дзе на захадзе знаходзіўся пад сузор'ем Рака ўжо зайшоўшы Карабель, як адзнака гандлёвых мараплаўцаў (зямля гандляроў Кнені); направа ад яго быў бы Леў над Гідрай (зямля жахаў – Гот), на самым поўдні панавала сузор'е Панны, «гамонячая вобласць (АМР)». У кірунку да ўсходу ад яе знаходзілася сузор'е Шаляў – зямля Суддзяў – Парыс. Яшчэ ўсходней сузор'е Скарпіёна – зямля Згубы, і, нарэшце, на самым усходзе ўзыходзіў Змеятрымальнік – зямля Іевіса (Jovis), топчучага нагамі Сьмерць.

З гэтага боку гледжання на ўсім шляху планет ад Карабля да Змеятрымальніка, знака месіі, узыходзячага перад снежаньскім узыходам сонца, мы пабачылі б толькі алегорыю, у якой фігуруюць не рэальныя народы, а сузор'і, што дамінавалі над зямлёй падчас таго паўночнага ззяння і толькі выпадкова

прыведзеныя ў сувязь з існаваўшымі тады народамі праз сугучнасць дадзеных ім найменняў.

Адзіным пярэчаннем супраць такога разумення з'яўляецца надзвычайная рэдкасць паўночных ззянняў у паўднёвых краінах, і не толькі ў Палестыне, куды адносіць месца ўзнікнення гэтай легенды ранейшая тапаграфія, але нават і згодна з нашай лакалізацыяй месца падзей у Італіі.

Аднак, рэдкасць такой з'явы менавіта і магла звярнуць на яго выключную ўвагу назіраўшых і заахвоціць іх прывесьці яе ў сувязь з самымі значнымі сюжэтамі тагачаснай міжнароднай творчасьці.

Ва ўсякім разе, адна тая акалічнасць, што ніякай гары, якую можна было б назваць Спусташальнікам (ці Пылам ці Спёкай, як паказаная тут) не было на ўсёй тэрыторыі старажытнага Ўсходу аж да Камчаткі і Японскіх выспаў, і што адзіныя падобныя горы былі вядомыя тады толькі ў Італіі, не дае нам магчымасьці лакалізаваць нават і гэтую легенду ў якой-небудзь іншай мясцовасьці. Вядома, легендарная творчасць не звяртае ўвагі на геаграфічныя адлегласьці ці гістарычную храналогію і вольна злучае ў адно цэлае выявы і падзеі, узятыя із усіх краін і з усіх часоў як астральныя, так і пабытавыя. Але нават і чыстая фантазія, – як я не раз даводзіў, – можа толькі мудрагеліста камбінаваць ужо маючыяся ў нас рэальныя ўспрыманні і няздольна стварыць нешта, для чаго няма яшчэ ні выяваў, ні назвы.

Таму мы і тут маем поўнае права даследаваць адкуль і калі было запазычана тое ці іншае, намаляванае тут, уяўленне, як, напрыклад, пра вогнедыхаючую гару і пра вогненны куст над ёю, які гарыць і не згарае, і калі гэта магло быць тады ўзята толькі із італьянскіх з'яваў прыроды, то і краіна Міц-Рым, найменне якой распадаецца на міц – прыгнятаючы (ці згодна з іншай традыцыяй – развеяны як мякіна), і на Рым, які уяўляецца тут не паблізу Ягіпта, а ў Рымскай зямлі, і звыш таго паблізу Вязувія.

Дакладна гэтак жа лёгка лакалізуецца і працяг гэтага аповядання.

## II.

## Міц-рымскія цуды.

«Збаўца, – кажа аўтар Бібліі, – узяў сваю жонку і сыноў, пасадзіў іх на аслоў і выправіўся із правінцыі ў Міц-Рым, але, перад часам начоўкі, Грамабой, прыйдучы да яго, пажадаў яго забіць. Тады Прамяністая Зараніца[56], узяўшы крамень, абрэзала ім край яго дзетароднага чальца[57] і, кінуўшы на зямлю, прамовіла:

– Зараз ты мне жаніх па крыві!

І Грамабой адышоў ад яго (4.25)».

Калі вы, чытач, узнамерыцеся разумець гэтае апавяданне, літаральна, то атрымаеце такую бязглуздзіцу, ад якой у вас завянуць вушы.

---

[56] צפרה (ЦФРЕ) ад צפירה (ЦФІРЕ) – прамяністая зараніца.

[57] Тут, магчыма, спачатку стаяла слова כן (КН) – ствол дзетароднага чальца, але перапісчык палічыў яго за блізкае па напісанню בן (БІ) – сын, і атрымалася бязглуздзіца.



Мал. 77.

*Сонечнае зацьменне на дзетародным органе Вадаліва. Частка старажытнай мапы неба. Папярок ідзе экліптыка із Казярога ў Рыбы.*



Мал. 78.

*Розныя формы «абразання сонца», шэраг які быў бачным на дзетародным органе «Вадаліва» 19 лютага 305 года пры ўступленні на імператарскі пасад Канстанцыя Хлора.*

Але ці сапраўды гэта проста здзекі над вамі аднаго із аўтараў біблії? Мне здаецца, што мы можам абыйсьціся і без такой высновы, калі прымем да ўвагі наіўнасць старажытных астролагаў, якім не раз прыходзілі ў галаву такія ідэі, што раскрываеш рот ад здзіўлення. І мы, відаць, тут стаім перад адной із такіх ідэй.

Гэтая гісторыя пра першы выпадак абразання хутчэй за ўсё навеяна серпападобным сонечным зацьменнем, адбыўшымся ў крыві вечаровай зарніцы ў тым месцы экліптыкі, на якім ляжыць дзетародны член Вадаліва (мал. 77 і 78). Праз гэтае месца сонца праходзіць зараз каля 20 юліянскага лютага, а ў III-VI стагоддзях праходзіла каля 10 лютага. Адзіным такім зацьменнем за ўвесь гістарычны перыяд было колападобнае 10 лютага 305 года нашай эры, бачнае як амаль замкнёнае кола ці як нож на дзетародным члене Вадаліва да моманту заходу сонца ў Александрыі і на ўсіх берагах і выспах Міжземнага мора, а Казярог у гэты час хаваўся ў крывавай паласе вечаровай зарніцы пад Вадалівам. Пасьля таго на небе з'явілася ў верасні 305 года таксама і мечападобная камета.

Такое тлумачэнне ставіць гэтую легенду ў адзін шэраг с легендай пра падстрыганне Далілай валос Самсона і з легендай пра плешы Елісея, за насмешку над якой две Мядзведзіцы пажралі хлопчыкаў (Блізнят[58]). І няхай чытач не смяецца над маім «тлумачэннем»: яно цалкам адпавядае псіхічнаму стану нашых напаловусьвядомых продкаў IV-V ст., надаваўшых стацевым органам сакраментальнае і містычнае значэнне. Згадайце толькі абавязковае маляванне солнца і боскага жука Скарабея на гэтым месцы богіні неба Нут, культ мужчнскага дзетароднага члена – фаласа – у старажытных рымлян, выкарыстоўваўшых яго вобраз у якасьці амулета. А каб не хадзіць так далёка, вось вам тут усе сем старажытных планет, запазычаныя мной із лацінскай кнігі Astrognisia (XVI ст.), захоўваючайся в бібліятэцы Пулкаўскай абсерваторыі (мал.79-86). Зразумела, что нечаканае нікім[59] ператварэнне солнца спачатку ў серпападобны нож, а потым у поўнае кола на гэтай частцы цела «хрысьціцеля зорак» павінна было выклікаць шмат тлумачэнняў, якія, нарэшце, і сышліся на тым, что тут было выбітное медыцынскае знаменне багоў людзям. Верагодна, каля 305 года храмавая прастытуцыя мела наступствам распаўсюджванне шматлікіх венерычных захворванняў у італьянцаў і «абразанне» Солнца ў такім месцы Вадаліва было палічана за падказку самога неба на тое, што патрэбна рабіць.

Старажытныя выявы планет.

[58] Із сонечных зацьменняў у Двайнятах вызначаюцца: ранішняе на ўсходзе Міжземнага мора 6 чэрвеня 306 года, затым частковае 16 ліпеня 364 года, ішоўшае ў поўным выглядзе праз Балтыйскае мора, і, нарэшце, 18 чэрвеня 410 года, ішоўшае ў поўным выглядзе па ўсяму паўночнаму ўзбярэжжу Афрікі.

[59] Легенду пра тое, что старажытныя ўмелі прадракаць сонечныя зацьменні раней IV ст. нашай эры і зразумелі іхную нагоду раней сярэдніх стагоддзяў пора, нарэшце, адкінуць.



Мал. 79.
*Сонца ў сузор'і Ільва (згодна з кнігай Astrognisia XVI стагоддзі).*



Мал. 80.
*Месяц у сузор'і Рака (адтуль жа).*



Мал. 81.
*Меркурый у суз. Двайнят і Панны (адтуль жа).*



Мал. 82.
*Венера з амурам у сузор'і Цяляці (адтуль жа).*



Мал. 83.
*Марс у Авене і над Скарпіёнам (адтуль жа).*



Мал. 85.
*Сатурн у сузор'і Казярога і Вадаліва (адтуль жа)*



Мал. 84.
*Юпітар у сузор'і Рыб і Стральца (адтуль жа)*



Мал. 86.
*Сузор'е Паўночнага Вянка (адтуль жа).*

«Пасьля гэтага, – паведамляе далей легенда, – Збаўца і Асьветнік прыйшлі ў Міц-Рым, і з нагоды таго, што тамтэйшы «валадар» не пажадаў дазволіць богазмагальнікам маліцца асобна, здзейснілі там вялікія і грозныя дзівы.

«Перадусім Арон кінуў свой кій перад Валадаром, і кій ператварыўся ў змея. Але тое ж зрабілі і міц-рымскія магі (г. азн. магутныя), толькі змей Арона праглынуў іхных змеяў (мал. 87)



Мал. 87.
*Змей збаўцы Майсея праглынае змеяў астатніх цудадзеяў*
*(Із кнігі Biblia Saera 1556 г.)*

«Аднак гэта ні трохі не страпянула сэрца Валадара.

«На другі дзень махнуў Арон сваім кіем і стукнуў па рачной вадзе. Янаператварылася ў кроў і агідна запахла. Уся яе рыба памёрла, але тое ж самае зрабілі і міц-рымскія чараўнікі.

«Не было закранута і гэтым сэрца Валадара, і ён пайшоў сабе дахаты (7.23)».

«Праз сем дзён працягнуў Арон сваю руку над водамі Міц-Рыма і выйшлі із вады жабы і напоўнілі сабой зямлю. Але зрабілі тое ж і міц-рымскія чараўнікі, хаця выдаліць сваіх жаб ужо не змаглі. Валадар паклікаў Збаўцу і Асьветніка і прамовіў.

– Памаліцеся Грамабою, каб ён выдаліў гэтых жаб, і я адпушчу ваш народ прынесьці яму ахвяру (8.4)».

«Але калі Валадар пабачыў, што зрабілася палёгка, ён зноў адмовіўся адпусьціць ад сябе народ (8.11)».

Не цяжка бачыць, што дзіва з ператварэннем кіёў у змей тут відавочна запазычана із так званай «чорнай магіі», г. азн. старажытнай навукі пра наданні. Індыйскія факіры і да гэтага часу вырабляюць гэта. Змяю можна загіпнатызаваць адпаведнымі маніпуляцыямі так, што яна здранцвее і выцягнуўшыся нават замрэ, як палка, а калі яе кінуць на зямлю, гіпноз пройдзе, і яна папаўзе, як звычайная.

Цалкам іншае ў апавяданні пра жаб і пра ваду, ператвораную ў кроў.

Чытач, знаёмы з Апакаліпсісам, вядома, ужо зразумеў, што і вада, ператвораная і кроў, і жабы, запазычаны тут адтуль, а не ўзяты туды із разглядаемай намі легенды, таму што ў Апакаліпсісе гэтымі самымі выразамі апісаны сапраўдныя водблісні ландшафту пры пунсовым асьвятленні вечаровай зарніцы і рэшткі навальнічных аблокаў, а тут ужо няма і следу рэчаіснасьці.

«Другое воблака, – выказваецца аўтар Апакаліпсіса, – выліла сваю чарку на рэкі і крыніцы вады і яны сталі (ад вечаровага водбліску зарніцы) як бы крывёй забітага, і кожная жывая душа спачыла ў мора (г. азн. усё пагрузілася ў сон, Апак. 16.3)». «І я пабачыў як выходзілі із вуснаў (сузор'і) Цмока і із пашчы Звера (Мядзьведзіцы) і із вуснаў ілжэпрарока (Цэфея) тры нячыстых выдыхі

(выродлівыя цёмныя аблокі), якія набылі форму жаб. Гэта духі паганскіх богаў, творачых цуды[60]».

Тут мы бачым паэтычнае апісанне прыроды, а ў легендзе пра Збаўцу, прырода цалкам згубілася.

Дзівы, прыпісваемыя тут Арону, вельмі развіваюць апакаліптычныя выявы, чым і паказваюць, што не аўтар Апакаліпсіса запазычыў іх адсюль, а аўтары гэтай кнігі ад яго.

«Арон, – працягвае аўтар, – стукнуў сваім жазлом у пясок, і ўся Міц-Рымская зямля пакрылася маскітамі. Яны былі і на людзях, і на быдле. Мясцовыя чараўнікі не змаглі зрабіць гэтага і сказалі Валадару.

– Гэта боская рука».

«Але ён не паслухаўся іх і не адпусьціў народ.

Мноства слепакоў наляцела тады на яго сядзібу і на ўсіх яго служак, і гінула ад іх уся яго зямля. Ён паклікаў Збаўцу і Асьветніка і сказаў:

– Добра! Прынясіце ахвяру вашаму богу, але не ў стэпе, а ў нашай зямлі».

– «Калі мы здзейснім тут такую агідную для міц-рымцаў справу, – адказаў яму Асьветнік, – то ці не паб'юць яны нас камянямі? Мы лепш пойдзем у пустыню на тры дні шляху ад іх і там прынясём сваю ахвяру нашаму богу (8.22)».

«Бог-Грамабой выдаліў тады слепакоў ад Валадара. Не засталося ніводнага і, пабачыўшы гэта, ён зноў не адпусьціў народ.

І вось памёрла ўсё быдла міц-рымцаў (мал. 88), а із быдла дзяцей богазмагальніка не памёрла нічога. Але Валадар і тут не адпусьціў народ (9.6-7)».



Мал.88.

*Бог-Грамабой уражвае згодна дзеля праслаўлення Збаўцы (атрутнымі газамі Вязувія) міц-рымскае быдла. (Із Biblia Sacra, 1556 г.)*

«Збаўца кінуў жменю сажы із горна (Вязувія) да неба і разляцелася яна пылам па ўсёй краіне і зрабіліся ад яе нарывы на магах і на ўсіх міц-рымцах (Як

[60] Гл. мой патлумачаны пераклад Апакаліпсіса ў кнізе: «Адкрыццё ў навальніцы і буры». 1907 г.

і бывае ад атручвання некаторымі атрутнымі газамі пры вулканічных вывяржэннях)». «Але Валадар і тут не паслухаўся бога і Збаўцу (9.10)».

«Збаўца працягнуў свой кій да неба, – працягвае далей легенда, зноў пачынаючы браць свае сюжэты ці із рэальнага апісання вывяржэнняў Вязувія, ці проста із апакаліптычнага апісання навальніцы 30 верасня 395 года на Патмасе, – і утварыліся град і маланкі зіхацеўшыя пасярод падаючага горада, чаго не было на ўсёй зямлі міц-рымцаў з часу яе засялення... Ён пабіў усю палявую траву і паламаў усе дрэвы ў полі (9.25)... І лён і ячмень былі пабіты, бо ячмень ужо каласіўся[61], а лён пусьціў пупырышкі; толькі пшаніца і полба захаваліся, таму што яны былі позні́я... Але калі спыніліся дождж, град і гром, Валадар зноў адмовіўся адпусьціць сыноў богазмагальніка (9.34)».

«Збаўца выцягнуў свой кій над Міц-Рымскай зямлёй, і вось «наляцеў усходні вецер, які працягваўся ўвесь дзень і ўсю ноч, і прынёс саранчу (мал. 89), і пакрыла яна ўсю прастору зямлі, так што цёмна было ад яе на зямлі, і яна з'ела ўсю зямную траву і ўсе плады дрэваў, ацалеўшыя ад граду... Але саранча была аднесена потым заходнім ветрам, кінута ў трысняговае возера і таму Валадар не адпусьціў дзяцей богазмагальніка».



Мал. 89.
*Саранча нападае на Міц-Рым. (Із Biblia Sacra, 1556 г.)*

«Збаўца падняў сваю руку да неба і наступіў густы змрок па ўсёй Міц-Рымскай зямлі. Ніхто тры дні не паднімаўся са свайго месца, але было сьветла ў сядзібах сыноў богазмагальніка (10.23)».

«Валадар сказаў Майсею:

– Сыдзі ад мяне і не з'яўляйся больш, таму што ў той дзень, калі ты пабачыш мой твар, ты памрэш (10.28)».

Чытач, прагледзўшы маю кнігу «Адкрыццё ў навальніцы і буры», зноў бачыць, што тут толькі мошкі ды сляпні, ды змрок узяты, відаць, самастойна із побытавых уражанняў аўтара, а ўсё астатняе зноў навеяна Апакаліпсісам. Уся навальніца з яе маланкамі ўзята адтуль.

[61] Гэта паказвае на пару года, пра якую тут гаворыцца.

«Першы ганец навальніцы пратрубіў, – апісвае там Ян буран 30 верасня 395 г. перад сонечным зацьменнем на поўдні, – і адбыліся град і агонь, перамяшаныя з крывавым водбліскам (маланак). Яны зваліліся на зямлю, і трэццяя частка дрэваў і ўся зялёная трава былі абпалены (Ап. 8.7)».

«Другі ганец пратрубіў, і трэццяя частка прэснай вады зрабілася горкай, як палын (ад нагнанай бурай горка-салёнай вады) (8,11), – і задымілася марская бездань як дымам ад вялізнай печкі. Дзённае святло і паветра азмрочыліся ад гэтага дыму, і выходзіла із яго на бераг незлічоная саранча (марскіх валаў) і было ёй загадана... шкодзіць толькі тым, хто не мае на сваім чале пячаткі боскасьці (9.2-5)». «Але не памёршыя ад гэтых бедстваў не пакаяліся ў справах рук сваіх (9.20)». «І град да паўтара пуда вагой пасыпаўся із падхмарнай вышыні на людзей, і лаялі людзі бога за раненні ад гэтага граду, таму што боль ад іх была вельмі цяжкай». «І з'явілася на людзях кепская злаякасная сып (16.2). (16.21)».

«Чацьвёрты ганец (бурану) пратрубіў і ўразіў ён трэццюю частку сонца і трэццюю частку месяца, і схавалася ў змроку трэццяя частка зямлі, і страціў дзень трэццюю частку свайго святла, і стаў падобен ночы (8.12)» і г. д., і г. д.

Хто ў каго запазычаў усё гэта? Таму што галоўныя сем язваў Майсея – гэта плагіят сямі апакаліптычных язваў, якімі Ян Залатавусны пагражаў візантыйскаму патрыярху і цару Хвядосу. Але Ян узяў іх проста із прыроды; гэта азначае запазычыў аўтар біблейскай кнігі пра Збаўцу (Майсея), а такім чынам, яна адрэгавана не раней V стагоддзя нашай эры.

Прасочым жа яе легенды і далей згодна з бібліяй.

«Збаўца ўгнеўленым выйшаў ад Валадара (якога ў гэтым выпадку даводзіцца лічыць за вярхоўнага патрыярха рымскай царквы IV стагоддзя[62]), і Грамабой сказаў (свайму магу):

– Гэты месяц (г. азн. сакавік) хай будзе ў вас першым паміж усімі месяцамі года... Хай кожнае сямейства захоўвае ягня да яго чатырнаццатага дня (г. азн. да поўнага месяца 6 сузор'я Панны) і хай заколюць яго да вечара і памажуць абодва вушакі і папярэчыну сваіх дзвярэй яго крывёй. З'ешце яго мяса, выпечанае на вогнішчы ў гэту самую ноч (бо сузор'е Авена ўзыходзіць у гэты час у полымі ранішняга світанку) з прэснымі хлябамі і травамі і нічога не пакідайце ад яго да раніцы (усё астатняе спаліце на вогнішчы). Хай будуць падпяразаны вашы сцёгны і абуты вашы ногі, і кіі для падарожжа хай будуць у вашых руках: гэта пераход (па-біблейску вялікдзень) бога Грамабоя (12.11)».

Ды дазволіць мне чытач зноў перарваць далейшае выкладанне легенды пра Збаўцу і звярнуць увагу на чыста астральны характар гэтага месца. Па-жыдоўску тут стаяць літары, якія вымаўляюцца ПСХ-ІЕУЕ[63], што азначае, як я і пераклаў, «пераход Грамабоя» і час яго прызначаны на вечар 14 нісана, г. азн. на поўню (поўны месяц) падчас праходжання сузор'я Авена побач з Сонцам – бацькай ўсяго існага. Авен у гэты час злучаны з Сонцам, а Месяц злучаецца з размешчаным насупраць яго сузор'ем Панны. Гэта адзіны дзень на працягу года, калі могуць адбывацца месяцовыя зацьменні пры праходжанні «ягняці, забітага за грахі сьвету», побач з яго бацькам – Сонцам (таму што ў старажытнасьці лічылася, што сузор'і ідуць насустрач сонцу, а не яно праходзіць пад ім). І тут жа згадваецца пра

---

[62] А такім чынам і яго біблейскае імя פרעה (ПРЭЕ'Х) – перароблена перакладальнікамі ў фараона, трэба лічыць за скарочанае грэцкае слова патрыярх ці за старажытна франкскае пэрэ (pere).

[63] יהוה פסח (ПСХ-ІЕУЕ), пры чым жыдоўскае פ вымаўляецца як прыдуўное п, г. азн. як злучнае ПФ, накшталт нямецкага ў слове Pferd. Гэта азначае – «пераход Грамабоя».

наступленне перад гэтым густога змроку па ўсёй Міц-Рымскай зямлі. Гэта азначае, усе ўмовы, пазначаныя тут для месіянскага вялікадня, паказваюць на сувязь яго ўзнікнення з месяцовым зацьменнем 14 Нісана, (21 сакавіка) 368 года, калі быў слупаваны евангельскі «Ратавальнік», падчас праходжання сузор'я Авена побач з сонцам. Гэтае сузор'е згарала тады падчас вечаровай зарніцы для таго, каб праз тры-чатыры дні, а то і раней паказаць сваю галаву цэлай із палаючага полямя ранішняга світанку на ўсходзе, а потым і цалкам аднавіцца. Гэтай акалічнасьцю тлумачыцца, напэўна, таксама і старажытны звычай «вогненнага хрышчэння ў хрысьціянаў», калі дзяцей праносілі праз полымя (пра што не раз згадваецца і ў бібліі, як пра ерась); тлумачыцца і назва адпаведнага свята як вялікдзень г. азн. «пераход», і звычай яго сустрэчы з кіямі ў руках, са смакаваннем маладога «беззаганнага Авена»; і прызначэнне пачатку ад гэтага часу старажытнага года.

Нічым іншым, акрамя зацьмення месяца пад час сакавіцкай поўні, немагчыма патлумачыць прызначэнне вялікадня не на самы дзень вясновага раўнадзенства (21 сакавіка), а наданне яму зменлівага характару.

Але калі гэта так, то продкі сучасных юдэяў і іяніты часоў Яна Антыяхійскага, аўтара Апакаліпсіса, які ўвесь ад пачатку да заканчэння з'яўляецца ўсхваленнем сузор'я Авена, як адзнакі будучага сына боскага, былі ў пятым стагоддзі адным і тым жа. У біяграфію заканадаўцы Майсея, атрымаўшага скрыжалі ад самога бога, тут апакрыфіраваны патмаскія назіранні Яна Антыяхійскага. Старэйшы брат збаўцы (Майсея) Асьветнік (Арон), быццам бы стварыўшы гэтыя цуды згодна з яго наданнем, не можа быць нікім іншым, як Арыем, пераўтвораным пазней у александрыйскага біскупа Каменя (Пятра), як заснавальніка папства ў Рыме.

Месца дзеяння міфа, Міц-Рым, – гэта вялікая лаціна-эліна-сірыйска-ягіпецкая імперыя з яе трыма тагачаснымі сталіцамі: Канстантынопалем, як цэнтрам вайсковай магутнасьці і адміністрацыйнай улады, Мемфісам ці Каірам, як цэнтрам навукі, і Старым Рымам (верагодна Геркуланумам), як цэнтрам рэлігійнай культуры тагачаснага сьвету, з нагоды яго блізкасьці да ўвахаў у падземнае царства праз жарэлы Вязувія, Сальфатары і Этны. Пастаянныя плутанічныя цуды паўднёвай Італіі павінны былі асабліва моцна ўздзейнічаць на ўсіх адукаваных жыхароў таго часу, уяўленне якіх было, вядома, напоўнена апавяданнямі вандроўнікаў пра тамтэйшыя горы, вечна палаючыя полымем.

Гэта азначае, што біблейскі Міц-Рым – гэта, сапраўды, не Ягіпет, а краіна «Рым», вымаўляўшаяся па-італійску як Рома, а на ўсходзе як Рэм і Рым, ці, нарэшце, як выказваюцца сучасныя рабіны, Міц-Раім.

Вядома, усё гэта моцна астралізавана, легендарызавана, дыслакалізавана, дапоўнена пазней дэталямі із геаграфіі Ягіпта, але асноўная частка легенды несумнеўна ўзята із тагачаснай італійскага рэчаіснасьці, і першапачатковыя кампанізатары біблейскіх кніг дапасавалі месца дзеяння сваіх герояў туды, а не на берагі Нілу, куды ўсё гэта было перанесена пад канец сярэдніх стагоддзяў. З такога боку гледжання, і фараоны, назва якіх, згодна з жыдоўскай транскрыпцыяй, чытаецца як парэехі, павінны намі атаясамляцца, паўтараю, з да-арыянскімі рымскімі патрыярхамі.

На непарыўную сувязь і адначаснасць паходжання перша-хрысьціянскага і юдэйскага свята «вялікоднага праходжання Авена побач з сонцам» паказваюць і іншыя яго асаблівасьці, якія цесна злучаюць паміж сабой гэтыя абодва адгалінаванні адной і той жа месіянскай рэлігіі, як дзве галінкі, выйшаўшыя із

аднаго і таго ж кораня і варожа падзяліўшыяся толькі пасьля з'яўлення евангелляў і замірэння хрысьціянскай царквы з дзяржавай напярэдадні крыжовых паходаў. Вось «майсееў» статут гэтага свята:

«Ад 14 дня першага месяца да яго 21-га дня нішто кіслае не павінна знаходзіцца ў вашых хатах. Кожны, хто будзе спажываць такое, будзе выкінуты із царквы богазмагальнікаў, будзе ён прыхаднем ці тутэйшым. У кожным сямействе закаліце маладую авечку, памачыце кавалак ісопу ў яе крыві, сабранай у пасудзіне, пабрызкайце ім папярэчыну і вушакі кожных вашых дзвярэй і не выходзьце да раніцы. Грамабой пройдзе ўразіць міц-рымцаў, але не дапусьціць анёла-знішчальніка зайсьці ў хаты з адзнакай забітага Авена, (Сыход. 18.22)».

Чытач сам разумее, што апошняе матываванне, без нейкага рэчаіснага гістарычнага прэцэндэнту, не вытрымлівае ніякай крытыкі. Але якім жа мог быць прэцэндэнт з воцатам і ісопам, для якіх нават немагчыма знайсьці астральнага тлумачэння, як для велікоднага ягняці ў Авене? Вось ён у евангеллі Яна:

«Слупаваны» Езус, ведаючы, што ўсё ўжо здзейснена, каб спраўдзілася біблейскае прадказанне, выказваецца:

«Хачу піць».

«А тут стаяла пасудзіна поўная воцату. Намачыўшы воцатам губку і наклаўшы яе на сцябло ісопу, яны паднеслі яе да яго вуснаў. Паспрабаваўшы воцату, ён прамовіў:

– «Закончана!»

«І, апусціўшы галаву, выпусьціў апошняе выдыханне (Ян,. 19. 23-30)».

А брызканне вушакоў дзьвярэй крывёй забітага ягняці магло быць прызначана толькі дзеля згадвання пра кроў, выцякаючую із бока слупаванага Езуса пры яго праколванні дзідай. І можна быць упэўненым, што гэтае праколванне было здзейснена ваяром не для таго каб пераканацца ў яго сьмерці, а дзякуючы жаданню такім спосабам спыніць пачаўшаяся месяцовае зацьменне, быццам бы выкліканае Езусам.

І ўсё гэта было, як мы ўжо вылічылі на пачатку нашай кнігі, пад час поўні 21 сакавіка 368 года, пад час хрысьціянскага гарачага чацвярга, а згодна з месяцовым календаром юдэяў у ноч 14 нісана, ужо пад час перадсуботняга дня.

Гэта азначае: апісаны тут рытуал пераходу Грамабоя дапасуе не да зямной падзеі, як можна падумаць з першага позірку, а да нябеснага пераходу сонца із паўднёвага паўшар'я неба ў паўночнае, ад зімы да лета. І мы бачым, што дэталь ахвяравання ягняці не магла быць дададзенай сюды раней месяцовага зацьмення 21 сакавіка 368 года, пад час слупавання Езуса. Сам жа пераход сонца праз экватар, г. азн. вялікдзень, хаця і без дэталяў, вядома, быў вызначаны, яшчэ да паказанага мной зацьмення, таму што ў іншым выпадку Езус не меў бы магчымасьці яго прадказаць на гэты дзень і не атрымаў бы адплату за гэта, як атрымлівалі яе і іншыя прадракальнікі, прадракаўшыя людзям нешта непрыемнае.

Ці не можам мы вызначыць астранамічным шляхам і той час, калі быў вынайдзены апісаны ў біблііі пераход Сонца? Гэта вельмі важна, таму што фактычна гэта зводзіцца да першага вызначэння даўжыні сонечнага года. Раней час лічыўся толькі грунтуючыся на месяцы: ад маладзіка да маладзіка, пры гэтым месяцам надавалася па чарзе 30 і 29 дзён. Гэтае злічэнне было самым простым, і год быў роўным 354 дням, замест $365^1/_4$, а чалавечае жыццё лічылася, сотнямі месяцаў.

Але вось было «вынайдзена», што калі за адзінку злічэння прыняць два гады па дванаццаць месяцаў, а трэцці ўзяць у трынаццаць, той час пераходу (ці

вялікадня) сонца будзе знаходзіцца заўсёды каля той жа самай зоркі альфа ў сузор'і Авена (недахоп $1^1/_4$, дня кожны год можна было заўважыць і выправіць толькі пазней). Упершыню з'явілася магчымасць лічыць час гадамі, хаця і перыядычна нераўназначнымі, і пачынаць земляробчыя працы ў прызначаныя дні, пазначаючы для кожнага месяца яго сярэднюю кліматычную асаблівасць. Гэты вялікі поспех старажытнай навукі і быў адзначаны першапачатковым святам пераходу (вялікаднем) сонца каля сярэдзіны месяца Нісана, і вось, як ён апісаны ў кнізе «Сыход».

«Грамабой уразіў, – працягвае біблейская легенда, – усіх першых у міц-рымскай зямлі ад першынца Валадара, седзячага на сваім пасадзе, да першынца вязня, зняволенага ў вязніцу, і ўсё першароднае із быдла. Устаў Валадар і ўсе яго рабы, і падняўся ў Міц-Рыме вялікі плач, таму што не было сядзібы без памёршага (водгалас новага пашырэння па горадзе атрутных газаў із жарала Вязувія).

– «Выйдзіце із асяроддзя майго народа – прамовіў Валадар богазмагальнікам – вазьміце ўсё ваша быдла, і буйное, і дробнае; здзейсніце службу Грамабою і благаславіце таксама і мяне».

«А міц-рымцы прыспешвалі богазмагальнікаў пайсьці хутчэй, кажучы адзін аднаму:

– «Мы ўсе памром праз іх».

«Сыны Богазмагальніка выпрошвалі ў іх за гэта срэбныя і залатыя рэчы і адзенне, і міц-рымцы давалі ім усё, што мелі. І вось яны выправіліся, абабраўшы іх, у шлях ад грукацячага Каня[64] да Шатра[65], да шасьцісот тысяч пешых мужчын, акрамя дзяцей, і з імі шмат рознапляменных людзей і дробнага і буйнога быдла (цалкам немагчымае ў харчовым дачыненні сборышча згодна з тым часам), і запяклі із цеста, якое вынеслі із Міц-Рыма, прэсныя аладкі, бо беглі адтуль, не прыгатаваўшы нават сабе прыпасаў (хоць і абабралі міц-рымцаў!). Час жа, які яны тут прабылі, быў 430 гадоў (згодна з нейкім кабалітычным падлікам) (Сыход. 12. 40). Усё гэта было ў месяцы Каласоў[66]. Выйдучы із шатра яны размясьціліся станам каля Сашніка на прыканцы стэпу, і Грамабой рухаўся перад іхнымі тварамі днём у хмарным (мал. 37), а ноччу ў палымяным слупе, і не хаваўся хмарны слуп днём, а палымяны ноччу ад іх. (Сыход. 11. 22.)»

## III.

## Знішчэнне Валадара (Фараона) і яго войска (352 г. нашай эры).

– «Што гэта мы нарабілі, вызваліўшы богазмагальнікаў? – сказалі Валадар і яго рабы. Яны пагналіся за богазмагальнікамі ў Пашчу Цясьніны паміж Вежай і морам перад Уладаром поўначы (14. 2) і тут дагналі іх. Моцна напалохаліся богазмагальнікі і закрычалі Збаўцу:

– Хіба няма трунаў у Міц-Рыме, што ты вывеў нас паміраць у стэп? Ці не казалі мы табе: «пакінь нас, мы будзем служыць міц-рымцам?»

– «Не бойцеся – адказаў ім Збаўца. – Сам Грамабой будзе змагацца за нас, а вы заставайцеся спакойнымі».

– «Што ты звяртаешся да мяне? – прамовіў яму Грамабой. – Падымі твой кій, працягні руку да мора і рассячы яго. Хай дзеці Богазмагальніка пройдуць

---

[64] ראמ־סם (РАМ-СС = РАМ-СУС) – Грукацячы конь.

[65] סכות (СКУТ) – шацёр, будан. Цікава, што сузор'е Пляяд כימה (КІМУ) завецца בנת סכות (СКУТ-БНУТ) – дзявочыя шатры.

[66] אביב (АБІБ), – колас, калі апоўначы кульмінуе Колас сузор'я Панны. Гэта азначае месца дзеяння мае дачыненне да краіны, у якой збожжа пачынае каласіцца пад канец сакавіка. Не трэба блытаць Абіба з Абам!

сярод мора па сушы, а я разлютую сэрца міц-рымцаў, і яны пагоняцца за вамі. I я пакажу ім сваю славу!»

«I вось боскі вястун, які ішоў перад станам богазмагальнікаў, адступіў назад і стаў за ім, а хмарны слуп застаўся яшчэ далей ззаду. Ён быў воблакам і змрокам для міц-рымцаў і асьвятляў ноч для богазмагальнікаў, і таму не зблізіліся яны адзін із адным на шляху».

«Збаўца працягнуў сваю руку да мора, і вось, моцны ўсходні вецер усю ноч гнаў мора, і яно зрабілася сушай. Сыны богазмагальніка пайшлі па ім, і вада стаяла сьцяною па правы і па левы іхны бок, а міц-рымцы гналіся за імі. Але Грамабой паглядзеў падчас ранішняй варты са свайго палымянага і хмарнага слупа (над Вязувіем) на стан міц-рымцаў і адняў колы ў іхных калясніц, так што яны зрабіліся цяжкімі (загрузлі).

– «Пабяжым назад ад богазмагальнікаў, – сказалі міц-рымцы, пабачыўшы гэта. – Сам Грамабой змагаецца за іх насупраць нас!»

«Але Збаўца зноў працягнуў сваю руку да мора, і вярнуўшаяся назад вада накрыла раніцай калясніцы і вершнікаў усяго войска Валадара, якое ішло за імі па дну мора. Не засталося ніводнага з іх... I спалохаўся народ Грамабоя і паверыў Збаўцу, яго служцы. (15. 31)».

«А прававесніца Марыя, сястра Арона (якая, нагадаем, у арабскім Каране называецца маці хрысьціянскага Езуса), узяла тымпан і заспявала з усімі кабетамі, выйшаўшымі за ёю таксама з тымпанамі і ў карагодах:

– «Сьпявайце гімн Грамабою, высока ўзнёсся ён і скінуў у мора Каня і вершніка (15. 20-21)».

Тэолагі пераконваюць нас, што ўсе гэтыя падзеі мелі рэальнае месца на беразе Трысняговага мора, і лічаць гэтае мора за сучаснае Чырвонае[67], але ж з яшчэ большым правам яго можна лічыць за Неапалітанскі заліў, бо толькі там згадваемы ў лягендзе ўсходні вецер можа сагнаць куды-небудзь ваду; а ў Чырвоным моры каля Сіная ён, наадварот, ні на што не нагоніць ваду. I, акрамя таго, там існуе Суэцкі перасмык, па якому ўцекачы выдатна маглі б сысьці із Ягіпта і без нейкага падзелу вады. Згадванне пра ўсходні вецер, як пра адганяючы ваду, не магло нават і ўзнікнуць у той мясцовасьці.

Але я ўсё ж лічу гэты міф толькі першапачаткова складзеным грунтуючыся на ўспамінах пра землятрус у наваколлі Вязувія, спачатку прагнаўшым на захад, а потым вярнуўшым назад на ўсход, ваду Неапалітанскага заліва, а напалоханых жыхароў да поўначы, але ва ўсіх дробязных дэталях гэтая падзея апісана чыста астральным спосабам грунтуючыся на сыходжанні планет у Авене ў 352 годзе нашай эры.

Немагчыма не бачыць у велікодным пераходзе богазмагальнікамі Канцавога мора «велікоднага пераходу сонца з чатырма планетамі праз сузор'е, у якім зараз плаваюць Рыбы, тым больш, што гэтае месца Задыяка і мае назву Вадзяная Вобласць.

Тут працякае каля сузор'я Цяляці, як марское рукаво, і Млечны Шлях, праз які планеты праходзяць пры кожным сваім абарачэнні. Адсюль жа яны ідуць у напрамку да Ясляў Езуса ў сузор'і Рака. Тут за першакрыніцай пагоні за імі міц-рымскага ўладара хутчэй можна палічыць гонячагася за імі Марса ці кідаючаеся на іх з апушчанымі рагамі Цяля. Думаць жа, што за імі сапраўды гналася войска, пасьля ўсіх пазначаных цудаў, было б проста смешна. А вялікодныя злучэнні

[67] ים־סוף (ІМ-СУФ) – мора знішчэння ці заканчэння; можна таксама перакласьці мора трыснягу, але ў такім разе гэта можна дапасаваць толькі хіба да італійскіх марэмаў ці да папірусных азёраў Ягіпта.

Сатурна і Юпітэра ў Цяляці былі пад час жыдоўскага вялікадня толькі ў 234, 293, 352, 411, 470 і 529 гадах нашай эры і выбар даводзіцца рабіць толькі паміж імі.

А яго няцяжка зрабіць грунтуючыся на становішчы Марса.

Пад час усіх такіх злучэнняў сваіх дзвух старэйшых братоў: ён на вялікдзень быў далёка ад іх і толькі ў 352 годзе, ў часы Васіля Вялікага, гнаўся за імі, як міц-рымскі валадар, па прыморскім сузор'і Рыбаў, але не мог іх дагнаць.

Арыгінальную выяву ўяўляла ў гэты час зорнае неба. Пад час пасьляраўнадзённага маладзіка 17 красавіка 352 года Сонца, Месяц, Меркурый і Венера былі ў Авене, Сатурн і Юпітар наперадзе іх у Цяляці, а Марс яшчэ ў Рыбах (мал. 92).

ТАБЛІЦА VII.

Знаходжанне ўсіх планет у Цяляці пры знаходжанні Марса ў Рыбах і Сонца ў Авене паміж імі.

| У Цяляці вясной | | | | Рэшткі абарачэнняў Марса адносна яго шляху праз Рыб, існаваўшага ў 1853 годзе(прыдатны толькі рэшткі больш 0,9 і менш 0,1) |
|---|---|---|---|---|
| | | Сатурн | Юпітар | |
| | | 28.13 | 20.09 | |
| | | 57.59 | 55.68 | |
| | | 87.04 | 91.26 | |
| | | 116.50 | 114.99 | |
| | | 145.96 | 150.57 | |
| | | 175.41 | 174.30 | Для красавіка 174 г. ... 0,6894 (у Цяляці). |
| | | 204.87 | 209.88 | |
| Першая серыя | * | 234.33 | 233.61 | Для красавіка 233 г. ... 0,3203 (у Скарпіёне) |
| | | 263.79 | 969.19 | |
| | * | 293.24 | 292.92 | Для красавіка 292 г.... 0,952 (у Рыбах, але Юпітар быў яшчэ ў Авене). |
| | | 322.70 | 328.50 | |
| | * | 352.17 | 352.23 | Для красавіка 233 г. ... 0,0505 (амаль як у 1853 годзе) у Рыбах. Мяркурый і Венера пасярэдзіне Цяляці. Падыходзіць. |
| | | 381.61 | 387.81 | |
| | | 411.07 | 411.54 | Для красавіка 233 г. ... 0,6814 (у Цяляці). |
| | | 440.54 | 447.12 | |
| | * | 469.99 | 470.85 | Для красавіка 233 г. ... 0,3123 (у Скарпіёне). |
| | | 499.44 | 494.57 | У гэтай серыі па ўсіх трох планетах дапасуе толькі 352 г. Ён жа выдатна дапасуе і бяручы да ўвагі Венеру і Меркурый |
| | | 528.90 | 530.15 | |
| | | 558.36 | 553.88 | |
| | | 587.81 | 589.46 | |
| | | 617.27 | 613.19 | |
| | | 646.73 | 648.77 | |
| | | 676.18 | 672.50 | |
| | | 705.64 | 708.88 | |
| | | 735.10 | 731.84 | |
| | | 764.56 | 743.67 | |
| | | 587.81 | 589.46 | Не было злучэнняў да 1147 года. |
| | | 617.27 | 613.19 | |
| | | 646.73 | 648.77 | |
| | | 676.18 | 672.50 | |
| | | 705.64 | 708.88 | |
| | | 735.10 | 731.84 | |

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| | | 764.56 | 743.67 | |
| | | 794.01 | 791.12 | |
| | | 823.47 | 826.70 | |
| | | 852.04 | 850.43 | |
| | | 88-2.38 | 886.01 | |
| | | 911.84 | 909.74 | |
| | | 941.31 | 945.32 | |
| | | 970.76 | 969.05 | |
| | | 1000.21 | 1004.64 | |
| | | 1029.67 | 1028.36 | |
| | | 1059.13 | 1063.95 | |
| | | 1088.58 | 1087.67 | |
| | | 1118.04 | 1111.40 | |
| | * | 1147.50 | 1146.98 | Для красавіка 233 г. ... 0,302 (у Скарпіёне). |
| | | 1176.95 | 1170.71 | |
| | * | 1206.41 | 1206.29 | Для красавіка 233 г. ... 0,934 (у Рыбах). Падыходзіць. |
| | | 1235.87 | 1230.02 | |
| | * | 1265.33 | 1265.60 | Для красавіка 233 г. ... 0,564 (у Стральцу). |
| | | 1294 78 | 1301.19 | |
| | * | 1324.24 | 1324.91 | |

Потым да наступнага маладзіка 17 траўня ўсе пяць свяцілаў, сышліся ў Цяляці, і Авене, сімвал будучага бога, адлучыў іх, як і сказана, ад «валадара» (Марса), яшчэ не выйшаўшага із Мора Рыб. Пярэднія планеты, адлюстроўваўшыя богазмагальнікаў, былі заліты сьвятлом, а Марс застаўся ў змроку ночы.




УСЛОВНЫЕ ОБОЗНАЧЕНИЯ

I — 21 марта 352 г.
II — 17 апреля " " "
III — 17 мая " " "

○ — СОЛНЦЕ
— МЕРКУРИЙ
— ВЕНЕРА
☽ — ЛУНА (ВЫНЕСЕНА ВНИЗ ДЛЯ ЯСНОСТИ РИСУНКА)
— МАРС
— ЮПИТЕР
— САТУРН

Мал. 92.

*Збяганне ўсіх планет ад Марса паміж 21 сакавіка і 12 траўня 352 года. Усе збягаюць ад яго налева, а Марс гоніцца за імі справа і тоне ў прамянях світання ў сузор'і Рыб.*

Мы бачым, што рэальная сейсмічная катастрофа тут замянілася (ці дапоўнілася) напалову астралагічнай. Замест выразнай гісторыі вялікага зямнога бедства атрымалася мудрагелістая сумесь перасоўвання нябесных сьвяціл з перамяшчэннямі людзей, уцякаўшых ад жахлівага землятрусу, суправаджаўшагася яшчэ больш жахлівым вывяржэннем вулкана. І толькі адначасовае веданне астраноміі і дынамічнай геалогіі дазваляе раз'яднаць тыя і іншыя дэталі, і, выключыўшы астралістыку, атрымаць добры матэрыял для чыста гістарычнай апрацоўкі.

«Богазмагальнікі, – працягвае легенда, – пачалі наракаць на Збаўцу і на Асьветніка, кажучы:

– «Лепш бы нам памерці ад рукі Грамабоя ў Міц-Рыме, калі мы сядзелі каля мясных катлоў і елі досыць хлеба. А вы абодва вывелі нас у стэп, каб замарыць усіх голадам».

«Але слава Грамабоя (ранішні сьвітанак) з'явілася ім у воблаку і бацька богаў прамовіў Збаўцу:

– «Я чуў незадавальненне дзяцей богазмагальніка. Паведамі ж ім: «да вечара вы будзеце есьці мяса, а раніцай насыцыцеся хлебам і даведаецеся, што я, Грамабой, ваш бог».

«І вось пападалі вечарам зверху перапёлкі і пакрылі ўвесь стан, а раніцай лягла раса каля стана і калі яна паднялася, усе пабачылі на зямлі штосьці дробнае, крупа-падобнае, як шэрань.

– «Што гэта?» – запыталі яны.

– «Гэта хлеб, які даў вам для ежы Грамабой», – адказаў Прысвечаны.

«І дзеці богазмагальніка збіралі, хто шмат, хто мала. Але ў таго, хто сабраў шмат, не было лішняга, а ў таго, хто сабраў мала, не было нястачы. Збіралі раніцамі кожны хто колькі мог з'есьці, а калі прыгравала сонца – усё знікала. Толькі ў пятніцу сабралі на два дні», – дадае аўтар, каб не засмучаць ушаноўваючых суботу (Сыход. 16)».

«Калі яны размясьціліся станам каля Рапідаў[68], не знайшлося вады для піцця народу. Але збаўца стукнуў сваім кіем па скале, і із яе пацякла вада».

Я пакажу далей, што перапёлкі ў дадзеным выпадку былі сапраўднымі пералётнымі птушкамі, патрапіўшымі ў падняўшыя ўгару атрутныя газы выяржэння Вязувія і падаўшымі мёртвымі ў наваколлі, пакажу, што ў манну тут ператварылася насенне растучай у гэтых месцах расьліны coriandrum sativum, і што вада, выліваючаяся із растрэсканай скалы падчас землятрусаў, бывае і без удару па ёй жазлом. А зараз я толькі дадам, як да гэтых рэальных зямных з'яваў зараз жа зноў далучылася і астралістыка.

«Сюды прыйшоў Паланяльнік народа (сузор'е Ільва[69], – працягвае легенда, – і Езус пачаў ваяваць із ім, а Збаўца, Асьветнік і Празарлівец (ХУР) падняліся на вяршыню ўзгорка. Калі Збаўца ўздымаў рукі да неба, перамагаў Езус, а калі ён апускаў іх – перамагаў Паланяльнік народа. Але рукі Збаўцы пацяжэлі, і таму Асьветнік і Празарлівец пасадзілі яго на камень і падтрымвалі яго паднятыя рукі да заходу сонца. І перамог Езус Паланяльніка народа і яго сборышча лязом мяча».

Гэтае змаганне з паднятымі да неба рукамі, вядома, не рэчаіснае, але і ў астральным сэнсе я не бачу для яго іншага тлумачэння, як частковае зацьменне Сонца ў сузор'і Ільва, дзе падтрымка рук тлумачыцца тым што задыякальны звер не змог праглынуць Сонца-Езуса, таму што прарок з маленнем узнімаў рукі да неба.

Потым апісваецца, ужо выкладзенае вышэй, атрыманне Збаўцам, Асьветнікам і Езусам дзесяці запаведзяў на агнядыхаючай гары.

«Увесь народ, – кажа аўтар, – назіраў грымоты і полымя, і трубны гук на дымячай гары. Ён адступіўся ў жаху і стаў на аддаленні (Сыход. гл. 20)»

Рэальную выяву ўсяго гэтага я даю на малюнку 50, а фантастычную бяру із старажытнай лацінскай Бібліі (мал. 94).

«Збаўца сышоў і пераказаў народу словы Грамабоя і яго законы, і ўвесь народ у адзін голас адказаў:

– «Мы зробім усё, што загадаў Грамабой».

Іхны прарок падняўся раннім ранкам і пабудаваў пад гарой ахвярнік із нячэсаных камянёў і вакол яго дванаццаць слупоў адпаведна лічбе дванаццаці народаў богазмагальнікаў (і 12 знакаў задыяка). Ён выправіў юнакоў прынесьці свечкі для ўсеспалення, закалоў цялят і прынёс ахвяры заспакаення. Ён узяў кроў ахвяр і пабрызкаў ёю народ, прамаўляючы:

«Вось кроў дамовы, якую склаў з вамі Грамабой!»

Ён узяў Асьветніка і яго дзяцей «Руплівага» і «Бацьку будучага бога» і семдзесят багазмагальніцкіх старцаў (апосталаў) прывёў іх да паловы гары, і

---

[68] רפידים (РПІДІМ) – Рапіды ці Рафады ад РФД – падпіраць падмацоўваць: магчыма, што гэтае найменне лацінскага кораня.

[69] עם־לק (ЭШ-ЛК) – сборышча, паланяльнік.

яны пабачылі (здалёк) свайго бога. Пад нагамі яго было нешта на падобе пабудовы із сапфіру і, як само неба, чыстае, і ён не працягнуў сваю рукі каб уразіць іх (Сыход. 24. 11)».



Мал. 94.
*Збаўца (Майсей) адзін паднімаецца на вяршыню вогнедыхаючай гары. (Малюнак із Biblia Sacra 1556 год.)*

## IV.
## Агульныя высновы із усяго папярэдняга.

Я ўжо не буду разважаць тут пра параўнанне неба з сапфірам, якое належыць Яну Антыяхійскаму ў Апакаліпсісе, а спынюся на асноўным фізічным фоне гэтай легенды.

Я зноў скажу: не будзем ставіцца да ўжо прыведзенага намі раней апісання вогнедыхаючай гары ў біблейскай кнізе Сыход, як дзеці, якія чытаюць чароўную казку без якога б то ні было параўнання яе з рэчаіснасьцю і не аддаючыя сабе справаздачы ў тым, што яны чытаюць. Тут жа, – паўтараю зноў – пышнае апісанне вывяржэння вогнедыхаючай гары і прытым чалавекам, нага якога хадзіла па гэтай гары ў той перыяд, калі ўсё яе нутро яшчэ булькатала і скаланалася ад вылучаўшыхся ў яе глыбіні газаў, калі «пініепадобнае» воблака, характарызуючае вывяржэнне Вязувія, паднімалася днём як хмарны, а ўначы як вогненны слуп на 12 кіламетраў у вышыню да самога стратасферычнага пласта нашай атмасферы і там пашыралася ва ўсе бакі, як вяршыня гіганцкай пініі».

Ні старажытны, ні сучасны аўтар не маглі б узяць нешта падобнае із адной сваёй галавы.

Я ўжо выказваўся раней, што наша фантазія можа толькі мудрагеліста камбінаваць рэальна набытыя ўражанні, але няздольна стварыць нешта новае, чаму ў мове нават не існуе назвы. Вось некалі Ўладзімір Салаўёў напісаў пародыю на бязладныя камбінацыі ўяўленняў дэкадэнтаў канца XIX стагоддзя: пачаўшы яе куплетам:

Прывід крыгі вогнедыхаючай
У гучным змроку згас,
Дзе стаіць мяне не чуючы

Гіяцынтавы Пегас.

Ён лічыў гэта за верх вершаванай недарэчнасьці. Але што ж насамрэч ён тут напісаў? Нават і ў пародыі ён толькі адмыслова скамбінаваў ужо вядомыя ўсім нам уяўленні пра халодную крыгу, пра вогнедыхаючую гару, пра міфічнага крылатага каня-Пегаса, на якім гумарысты жартам вымушаюць лётаць паэтаў, і пра гіяцынтавую кветку. І нават гэтая кветка, хаця яна і своеасаблівая ў такой камбінацыі, з'яўляецца рэальна існуючай кветкай, а не нейкай, ніколі нікім нябачанай, таму што такая была б для чытача простым спалучэннем гукаў без сэнсу, нават зусім і не кветка, дакладна гэтак жа як і Пегас быў бы не зразумелым для нас, калі б мы раней не бачылі звычайных коней і звычайных крылаў у птушак.

Апісанне абставін, пры якіх, згодна з легендай, дадзены дзесяць запаветаў, таму і вырабляе на нас моцнае ўражанне, што ў ім намі адчуваецца ўжо подых рэчаіснасьці, вядомай нам хаця б па малюнках, ці ў сувязі з апісаннямі сведак. Мы адчуваем, што гэта пісаў сведка, а не філосаф із аддаленай старажытнай Сірыі, Месапатаміі ці Ягіпта, які ніколі не бачыў вогнедыхаючай гары. Горы Джэбель-Сербал, Джэбель-Катэрын і Джэбель-Муза вышынёй больш за два кіламетры на ўсход ад Суэцкага канала ніколі не былі вогнедыхаючымі, а таму і лічыць, што на апошняй із іх (Джэбель-Муза) адбывалася тое, што апісана ў Бібліі, можа толькі дзіцёнак.

Але калі абставіны праўдзіва спісаны з натуры, то чаму ж, – паўтару я і тут, – не прызнаць, што з'яўляецца праўдзівым і яе асноўны змест, г. азн. узнікненне тут дзесяці запаветаў? З этна-псіхалагічнага боку гледжання уяўляецца ў вышэйшай ступені праўдападобным, што ў перыяд моцнай вулканічнай дзейнасьці Вязувія, ужо пасьля таго, як ён загубіў «Садом» і «Гамору», паваліўшы землятрусам і пабіўшы дашчэнту каменныя статуі ўсіх паганскіх богаў, вестка пра гэта пранеслася пры пасярэдніцтве берагавых мараходаў па ўсім старажытным сьвеце, выклікаўшы ўяўленне пра адзінага, грознага і раўнівага бога багоў, перад якім выглядаюць нямоглымі ўсе астатнія, і якому пагэтаму варта маліцца аднаму і дагадзіць якому найлепшым чынам можна скасаваўшы астатніх багоў. Гара Вязувій несумненна была прадметам сьвятога жаху з часоў сваіх першых вывяржэнняў аж да ўзнікнення навуковай дынамічнай геалогіі, і ніхто не адважваўся паднімацца на яе падчас вывяржэнняў. Легенда злучае яе першае вывяржэнне з 79 годам пасьля нараджэння хрыстова. Але перанёсшы гэтае нараджэнне, грунтуючыся на астранамічных меркаваннях, на пачатак чацьвёртага стагоддзя нашай эры, мы павінны і катастрофу перанесьці ў тую ж эпоху, г. азн. аб'яднаць яе з пачаткам узнікнення хрысьціянства і месіянскага юдаізму.

Але пры гэтым вынікае, што разбурэнне Пампеі было ўжо пры другім вывяржэнні Вязувія каля 472 года нашай эры, а першае жахлівае вывяржэнне, загубіўшае Садом і Гамору, было яшчэ пры дзяцінстве Езуса (г. азн. Васіля Вялікага), а магчыма і да яго нараджэння, на прыканцы III стагоддзя. Міжвольна ўяўляецца, што адзін із маладых навукоўцаў-энтузіястаў таго часу, прыцягнуты ў наваколлі Неапаля, магчыма, із далёкай краіны, і натхняемы пачуццём непераадольнай дапытлівасьці, паступова ўздымаўся, адзін, дзень за днём, усё вышэй і вышэй на гэтую гару, выклікаючы сваёй адвагай здзіўленне і жах атачаючага насельніцтва, як адукаванага, так і невукаў, як жрацоў і арыстакратаў, так і іхных рабоў. Нарэшце, ён дастаўся да самога вогненнага слупа, і пачаў туды хадзіць, – як выказваліся, вядома, у асяроддзі публікі, бачыўшай яго высока на

схілах, – размаўляць з самім богам Грамабоем, апускаўшымся сюды ў хмарна-вогненным слупе.

І вось, канчаткова вызваліўшыся пасьля сваіх шматлікіх узняццяў ад першапатковага перапалоху, ён там, у парыве натхнення, перад тварам магутнай стыхійнай прыроды, напісаў ад імя прысутнічаючага тут бога першыя натхнёныя словы сваіх запаветаў:

«Я, Грамабой, твой адзіны бог, і ды не будзе табе бога іншага, акрамя мяне!»

Ён мог лёгка пазней дадаць і астатнія другарадныя запаветы і, спусьціўшыся, паведаміць іх людзям, як напісаны ім там на каменных дошчачках запавет самога бога, а яны з глыбокай павагай пачалі яго захоўваць у асобным каўчэгу. Флегрэйскія ці Выпаленыя палі сталі першым месцам рэлігійнага паломніцтва.

Так пад уплывам магутных вулканічных з’яваў, устрасаючых зямлю, у вогнішчы і полымі магутнага вывяржэння Вязувія, узнікла ідэя адзінабожжа. Не Майсей даў людзям гэтыя запаветы, а Вязувій.

Але да якой жа філасофскай школы мог належаць гэты пасьвечаны ў таямніцы чараўнік, які пачуў у гудзе вывяржэння дзесяць запаветаў? Як яе вызначыць?

Мне з дзяцінства закраліся ў памяць два радкі із верша Баратынскага «Мадона». Стомлены мастак, падарожнічаючы па Італіі, спыняецца ў правінцыйнай хатцы адпачыць і раптам, зірнуўшы на сьцяну, усклікае здзіўлены, пабачыўшы вісеўшую там выяву:

Боская выява! Чый пэндзаль гэта, чый?
О, як мне даведацца! Карэджы, твой!

І вось, пасьля таго, як я пазнаёміўся з першай часткай Апакаліпсіса, дзе апісваецца, як яго аўтар, Ян Антыяхійскі, чуе ў грукаце валаў расхадзіўшагася мора магутны голас, гучаўшы як труба: «Я – альфа і амега, пачатак і канец», і перачытаўшы толькі што апісаныя ўмовы ўзнікнення дзесяці запаветаў, я таксама усклікнуў:

– «Тут не можа быць сумневаў! Гэта адна і тая ж эпоха! Адна і тая ж школа! Яшчэ раней таго, як Ян патрапіў на Патмас, ён, без сумневаў, ездзіў у Італію каб на ўласныя вочы пабачыць адбываючыяся там грозныя з'явы, і ў такім жа захопленым настроі стаяў перад полымем і дымам Вязувія, як і перад валамі Міжземнага мора на пустэльным беразе Патмаса».

І калі вы, чытач, хоць на момант засвоіце мой пункт погляду, на гэтую легенду пра Збаўцу-Майсея, Асьветніка-Арона і Ратавальніка-Езуса, якога аднаго, амаль дзіцёнкам, браў з сабой Майсей на вогнедыхаючую гару, то вы пабачыце тут толькі адмысловы варыянт легенды пра трох першапачатковых заснавальнікаў адзінабожжа: пра Дыяклетыяна, Арыя і Васіля Вялікага, перарobленых у Біблії ў Майсея, Арона і Езуса, а ў евангеллях трансфармаваных у Сымона-Пятра, Яна-Хрысьціцеля і ў Езуса, маючага мянушку Хрыстос. Нават імя Сымон-Пятро я больш схільны выводзіць ад грэцкага слова «семейон патрас (σημεῖον πατρός?)», што азначае «знак бога-бацькі», дадзенага яму за пдарожжа на Вязувій, чым ад сумесі жыдоўскага слова ШМЭУН (слухаючы) і грэцкага πέτρα (петра) – камень. Я думаю, што і тут, як у шмат якіх іншых месцах, жыдоўскія найменні запазычаны із лацінскай і грэцкай моваў, а не наадварот.

Такім чынам, у біблейскай і евангельскай легендах пра першых прадвеснікаў адзінабожжа мы бачым у двух варыянтах тыя ж самыя тры асобы. Толькі

падрабязнасьці іх дзейнасьці і ўзаемныя дачыненні скамбінаваны ў кожнай легендзе інакш, і дададзены дэталі із наступных часоў. Тое, што згодна з візантыйскімі крыніцамі рабіў Ян Антыяхійскі, збольшага тут прыпісана першасьвятару Арону, а евангельскі Езус, ператварыўшыся ў біблейскага Езуса Рыбу (Навіна), стаў не настаўнікам, а вучнем Сымона-Пятра (ці патара), якім ён разам з Янам і павінен бы быў быць у рэчаіснасьці згодна са сваім векам, але ўзнесенаму высока над імі дзякуючы свайму дзіўнаму ажыванню пасьля слупавання ў нейкім із буйных культурных цэнтраў тагачаснага сьвету за вальнадумства. Гэты буйны культурны цэнтр у евангеллях мае назву Ерусалім, і тлумачальнікі кажуць, што ён не што іншае, як Эль-Кудс у Палестыне, у пустэльных наваколлях Мёртвага возера. Але пра гэта смешна і падумаць: усе вялікія ідэі нараджаліся не ў пустынях, а ў галоўных культурных цэнтрах свайго часу, ды і слова Ерусалім азначае горад сьвятога замірэння. Першая частка яго грэцкая (ϊερον) а другая жыдоўская (ШЛМ).

І вось мы ўпершыню прыходзім да нечаканай высновы: «Горад сьвятога замірэння», г. азн. біблейскі Ерусалім быў каля падножжа Вязувія і заснаваны пасьля яго заспакаення, г. азн. замірэння з Грамабоем, які перастаў абсыпаць попелам і заліваць лавай саграшыўшую зямлю.

Але што б вы ні думалі пра гэтае маё атаясамленне, несумненна адно: месцам узнікнення легенды пра дзесяць запаветаў Майсея, а таксама і месцам узнікнення легенды пра Садом і Гамору не магла быць у старажытнасьці ніякая іншая геаграфічная мясцовасць, акрамя наваколля Вязувія-Флегрэйскіх палёў. З гэтым «не магла быць» мы павінны лічыцца, як з асноўным фактам і падмуркам усіх далейшых нашых меркаванняў, каб не ператвараць сваё ўяўленне пра жыццё старажытнага сьвету ў чароўную феерыю, не маючую нічога агульнага ні з сучаснай, ні з мінулай рэчаіснасьцю.

Да гэтай жа высновы прыводзіць нас і далейшае даследаванне легенды пра Збаўцу-Майсея, Асьветніка-Арона і Ратавальніка-Езуса.



Мал. 95.
*Адно із вывяржэнняў Вязувія з грымотамі і маланкамі.*

«Збаўца» – працягвае кніга Сыход, – сказаў суправаджалым яго на палове гары сямідзесяці адукаваным старцам:

– «Заставайцеся, пакуль я не вярнуся да вас!»

Ён падняўся на гару разам са сваім маладым вучнем Езусам. Воблака засланіла іх і гару (мал. 95) і «выгляд славы Грамабоя быў над імі, як полымя, палаючае на вяршыні гары (24.16)».

Аднак, – працягвае легенда, – пакуль Грамабой паказваў Майсею і Езусу ў вогненным слупе шматлікія дэталі пышнага рытуалу, якім павінна будзе ў будучым быць абстаўлена царкоўнае служэнне, прайшло сарок дзён (відавочна без піцця і ежы!) і пакінуты ўнізе натоўп страціў цярпенне. Народ выняў залатыя завушніцы са сваіх вушэй і прынёс іх Асьветніку, – якога мы павінны паставіць у паралель з Арыям, – кажучы яму:

– «Зрабі нам багоў, якія ішлі б перад намі, таму што мы не ведаем, што зрабілася з гэтым чалавекам (Майсеем)».

Арон зрабіў Цяля із залатых завушніц (верагодна ў адзнаку сузор'я Цяляці із зорак, таму што быў астролагам), аздобіў яго разцом (г. азн. надаў абрысы), паставіў яму ахвярнік і прамовіў:

– «Вось твой бог, о, богазмагальнік, які вывеў цябе із міц-рымскай зямлі!»

Падняўшыся рана раніцай, народ прынёс Цяляці (узыходзячаму на досвітку пад час велікодных дзён) свечкі для ўсеспалення і мірныя ахвяры, а потым пачаў скокі.

А тым часам Збаўца з Езусам (прыхільнікам сузор'я Рыб), спускаліся з гары, і ў руцэ Збаўцы былі дзве каменныя табліцы «прыгатаваныя самім богам і з пісьмёнамі на тым і на другім баку...» «З абодвух бакоў было напісана (32.15-16)» – падкрэслівае аўтар гэту акалічнасць словамі Апакаліпсіса, дзе гаворыцца так пра фігуры сузор'яў, напісаных на нябесным скляпенні.

«Езус першым пачуў крыкі народа і сказаў Збаўцу;

– «Гэта бойка ў стане! – Але Збаўца адказаў:

– «Не! Я чую гудзенне песень».

«А калі яны пабачылі ўшанаванне Цяльца і скокі, тады Збаўца ў гневе кінуў на зямлю каменныя табліцы і пабіў іх каля падножжа гары. Ён спаліў Цяля на вогнішчы (ранішняга світанння, куды тое апускалася), расьцёр яго выяву ў пыл, рассыпаў па вадзе і напаіў ёю дзяцей Богазмагальніка» (32. 20), г. азн. аспрэчыў становішча вясновага раўнадзенства ў Цяляці і абгрунтаваў яго ў сузор'і Езуса – Рыбах.

«Ён вярнуўся на гару да Грамабоя і паведаміў яму:

– «О! Божа! Гэты народ зрабіў вялікі грэх! Прабач іх, а калі не – выкрасьлі мяне із кнігі, якую ты напісаў».

– «Я выкрасьлю із маёй кнігі таго, хто зграшыў перада мной, – адказаў яму Грамабой таксама словамі із Апакаліпсіса, – а ты вядзі народ, куды я табе паказаў. Мой вястун пойдзе перад табой, і ў дзень майго прыходу я пакараю іх (32. 34)».

«Збаўца паставіў сабе шацёр у жарала вогнедыхаючай гары, па-за станам пілігрымаў, і ўвесь народ бачыў хмарны слуп каля яго шатра. З ім там размаўляў Грамабой тварам да твару, як кожны размаўляе са сваім сябрам, і юнак Езус не адлучаўся ад яго» (33. 11).

Ці не нагадвае вам гэты эпізод з Цяльцом сварку Мікалая Цудатворцу з Арыем на Нікейскім саборы і меўшую наступствам гвалтоўнае выдаленне Мікалая з паседжанняў?

Да гэтага часу мы яшчэ не бачылі ніякіх лагічных супярэчнасьцей у развіцці гэтай легенды, але вось у наступных жа радках мы сустракаемся і з выпраўленнем яе апошняга месца, меўшага нагодай пазнейшае евангельскае уяўленнем пра тое, што быццам бы «бога Грамабоя ніхто і нідзе не бачыў».

Якім чынам было магчымым для тэолагаў пераадолець такую супярэчнасць? Як маглі Майсей і Езус размаўляць з богам як са сваім сябрам, твар да твару,

пасьля высновы пазнейшых тэолагаў пра яго нябачнасць? Для сярэднявечнага схаласта, вядома, не цяжка было пераадолець падобную супярэчнасць:

– «Бога, – адказваў ён, – вядома, немагчыма бачыць, але толькі ўсяго, а яго частку – магчыма».

І вось пазнейшы рэдактар дадае да гэтага тлумачэння такія словы бога Збаўцу:

«Не можа чалавек бачыць майго твару і застацца жывым, – але я пастаўлю цябе ў расколіне скалы і накрыю цябе маёй рукой, пакуль буду праходзіць побач. А калі я адніму руку, ты пабачыш «маю заднюю», а твар май табе не будзе бачным (33. 23)».

І бог, – кажа наіўны аўтар, – сапраўды прайшоў так.

А пасьля таго, як Майсей пабачыў «заднюю боскую» (згодна з выказваннем славянскага перакладу), з ім здарылася тое ж, што і з евангельскім Езусам падчас яго пераўтварэння на гары. Ён спусьціўся пасьля гэтага з вогнедыхаючай вяршыні з дзвума новымі скрыжалямі запавету ў руках, прыгатаванымі (згодна з гэтай кнігай) зноў самім богам грунтуючыся на ўзоры пабітых. І вось «Арон і ўсе сыны богазмагальніка пабачылі, што твар яго ззяе прамянямі. Яны баяліся падысьці да яго, так што Майсей быў вымушаны пакласьці покрыва на сваю галаву (34. 29-33)».

Такімі з’яўляюцца нашы першыя паведамленні пра фасфарэсцэнцыю!

Уся астатняя частка кнігі Сыход, паведамляючая пра чараўніка Збаўцу (Майсея), напоўнена, як мы ўжо бачылі, рытуальнымі пастановамі, пышнасць якіх, відаць, спісана шмат у чым са старажытна-рымскага набажэнства. Самі табліцы закона могуць быць, як я ўжо казаў, толькі зародкам знакамітага «Рымскага права» ў Італіі, дзе тады жывёлагадоўля яшчэ пераважала над земляробствам. Дзякуючы гэтаму і далейшае заканадаўства Збаўцы, як яно выкладзена ў кнізе пра яго, носіць адценне пастушынай эпохі і было папярэднікам пазнейшага Рымскага права, набыўшага ўжо грамадзянскі характар, замест клерыкальнага. Яно, вядома, апакрыфавана аўтару дзесяці запаветаў і ўзята, магчыма, із практыкі шмат якіх краін і стагоддзяў.

Не паглыбляючыся ў разгляданне юрыдычнай часткі, я адзначу толькі адну із другарадных пастаноў.

«У першы дзень сёмага месяца (г. азн. калі і сонца і месяц увайшлі ў сузор'е Панны) ды будзе ў вас заспакаенне, сьвята труб, сьвяты сход. Не рабіце тады ніякай працы і прынясіце свечку Грамабою, а на дзясяты дзень таго ж месяца (калі месяц увойдзе ў Казярога?) ды будзе ў вас дзень ачышчэння, сьвяты сход; уціхамірце тады вашы душы і зноў прынясіце свечкі Грамабою; на пятнаццаты дзень таго ж месяца (калі Сонца ў Панне, а Месяц у Авене), ды будзе ў вас сьвята намётаў запавету, сем дзён (пакуль Месяц не дойдзе да сузор'я Рака). Вазьміце сабе пальмавыя галіны, галіны рачных вербаў і яблынь і вяселіцеся ўсе сем дзён, жывучы ў намётах (23. 40)».

Усе гэтыя святы, як бачыць сам чытач, носяць астранамічны характар і патрабуюць ужо ведання сонечнага года. Яны былі дадзены, згодна з легендай, таксама быццам бы із вяршыні вогнедыхаючай гары, дзе спадарожнікі Збаўцы заставаліся – згодна са словамі легенды, – поўны год, але каля 20 красавіка воблака над ёй і над стаяўшым на ім намётам запавету паднялося і накіравалася (гнанае

ветрам) да Пармскай раўніны[70], а за ім туды пайшлі і дзеці Богазмагальніка. Яно папярэднічала ім на шляху і заставалася над імі пры іхных начоўках. І Збаўца выступаючы ў шлях штораз прамаўляў:

– «Паўстань Грамабой, ды рассыплюцца твае ворагі і пабягуць ненавідзячыя цябе ад твайго твару!».

А ставячы на месца намёт запавету, ён прамаўляў:

– «Вярніся, Грамабой, да процьмаў тысяч дзяцей Богазмагальніка (10. 36)».

Але вось, стан пілігрымаў, якія прыйшлі адусюль глядзець на дзіва, але не адважваўшыяся падняцца на Вязувій, куды хадзілі толькі трое адважных навукоўцаў, напалохаўся ўзмацніўшайся да красавіка яго вулканічнай дзейнасьці, калі сонца пераходзіла із Авена ў сузор'е Цяляці, якому яны быццам бы прыносілі ахвяры. Глеба раптам завагалася пад іхнымі нагамі, новыя гіганцкія клубы палымя, чорнага дыму і белых выпарэнняў узляцелі ў паднябессе, і сам Збаўца не адважыўся больш паднімацца на гару. Па накірунку дыму да раўніны[71], г. азн. да паўночнага захаду ад Вязувія яны ішлі тры дні (кн. Лчбы 10.33) разам са скрыжалямі запавету, і ў такім разе павінны былі дайсьці да сучаснага горада Рыма.

* * *

Акінем жа яшчэ раз рэтраспектыўным паглядам усё толькі што сказанае.

Што такое ўяўляе сабой апавяданне пра Збаўцу-«Майсея»?

Літаратурна і навукова-адукаваны чытач сам бачыць, што ўся гэта гісторыя з’яўляецца легендай. А із нашага даследавання бачна, што месца ўзнікнення гэтай легенды – паўднёвая Італія, і час – заканчэнне III ці пачатак IV стагоддзя. Хаця арабы і называюць сучасны Ягіпет словам Мазр, аддалена сугучным з Міц-Рымам, але на гэтай адной падставе мы не можам лакалізаваць дзеянне легенды ў адной толькі даліне Нілу. Гэтая ж даліна складала ў IV стагоддзі нашай эры частку Рымскай імперыі, а таму арабы натуральна звалі яе Міц-Рым, і гэтая назва так і засталася за ёю пасьля заваёвы халіфамі. Сапраўдныя ягіпцяне (копты) заўсёды звалі сябе кемі, туркі завуць Ягіпет – Гіпт (Копт) адкуль і яго наша еўрапейская назва. А аўтары біблейскіх кніг штораз, калі выказваюцца пра Ягіпет не ў сувязі з легендай пра Майсея і з сыходам богазмагальнікаў пад яго правадырствам із духоўнага рабства, завуць Ягіпет «Зямля Хама», згодна з яго мясцовай назвай.

Калі ж мы будзем лічыць слова Міц-Рым, як гэта робяць тэолагі, множным лікам ад слова МЦУР[72], то яно будзе азначаць: «прыгнёт, уцісканне», і ў такім разе тут цалкам незразумела мала ўжымемы для гэтага разумення множны лік, які адзін толькі і існуе ў адпаведным напісанні Бібліі. Акрамя таго, у Бібліі існуе імя Абрам, што азначае бацька-Рым. Гэта азначае і імя Міц-Рым не можа быць найменнем дапасаваным да аднаго Ягіпта, а толькі да ўсёй Лаціна-Эліна-Сірыйска-Ягіпецкай імперыі і ўсіх федэраваўшыхся з ёю ўзбярэжжаў Міжземнага мора. Тая акалічнасць, што не толькі сучасныя рабіны, але і рабіны эпохі Адраджэнні лічылі біблейскі Міц-Рым за адзін Ягіпет дагістарычных часоў, яшчэ нічога не даводзіць, бо геаграфічнымі блытанінамі і памылкамі перапоўнены ўсе сярэднестагоддзевыя легенды. Тады ж не існавала правільных геаграфічных здымкаў.

---

[70] פארן (ПАРН ці ФАРН) – сугучна з ПАРУН – чырвань. Лічбы 10. 12. Быццё 21. 21; Другаз. 33.2. Пры пераносе месца падзей ў Італію гэтае напісанне даводзіцца лічыць за ламбардскую Парму.

[71] מדבר (МДБР) – азначае: выган для жывёлы, стэпавая паша і наогул стэп, а не пустыня, як тэндэнцыйна перакладаюць тэолагі.

[72] מצור (МЦУР) – прыгнёт.

Такім чынам, Міц-Рым (ці Міц-Раім) эпохі Адраджэння – гэта зборная краіна, нападобе апакаліптычнага звера з ільвінай галавой, тулавам барса і нагамі мядзведзя, пад якім Ян Залатавусны меў на ўвазе таксама Рымскую імперыю. Чалавечая фантазія, ствараючы на працягу сярэдніх стагоддзяў легенды пра яе, грэбавала геаграфічнымі адлегласьцямі, ў адно імгненне пераскоквала праз моры і горы за тысячы вёрстаў, надаючы падзеям, працягваючым папярэднія, цалкам іншую мясцовасць, і раптам пераносячы рэальнае месца нейкай аддаленай краіны ў іншае, цалкам не прыдатнае да яе згодна з геафізічнымі ўмовамі.

Навукова даследуючы нейкую казку, навукова-літаратурны крытык ці псіхолаг можа заняцца толькі пошукам таго, із якіх папярэдніх жыццёвых уражанняў яе аўтара (ці будуць гэта рэальныя ўражанні ці із прачытаных ім раманаў і нянькавых казак) маглі з’явіцца ў яго фантазіі тыя ці іншыя выявы, малюнкі і разуменні, якім ён надаў толькі арыгінальную камбінацыю. Так і ў даследаванні складанага міфа пра Майсея і яго заканадаўства мы павінны шукаць карані кожнай асобнай падзеі ці ў рэчаісных з'явах прыроды таго часу, ці ў жыцці папярэднічаўшых яму рэальных людзей, ці ў «астральнай сімвалістыцы» і ў склаўшыхся да яго такім жа шляхам уяўленнях яго папярэднікаў, перададзеных яму найвялікшай прыладай нашай думкі: вуснай і пісьмовай мовай.

Дапасуючы гэта да легендаў пра Майсея, Арона і Езуса, мы не можам не бачыць, што іхныя першакрыніцы былі тымі ж, як і для евангелляў і Апакаліпсіса і што легенда пра евангельскага Езуса і двух вялікіх амбасадараў бога Грамабоя Пятра і Яна развівалася адначасна і паралельна з гэтай біблейскай легендай. Нават легенда пра Ілію і Елісея, а таксама і пра прарока Ёну, навучаўшаму насупраць Нінэвіі, з’яўляюцца толькі маленькімі бакавымі атажылкамі, паўстаўшымі із таго ж самага асноўнага кораня.

А корань усіх гэтых паданняў быў перадусім у ажыўленні сейсмічнай і вулканічнай дзейнасьці на пярэдадні сярэдніх вякоў у драмаўшых да таго часу ўзбярэжжах Міжземнага мора, потым у сонечных і месяцовых зацьменнях, у з'яўленнях камет, у галасах вакол сонца і месяца і ў іншых вылучных нябесных з'явах, якія выклікалі ўяўленні пра падземны і надземны сьвет.

У іншы перыяд часу катастрофы з Геркуланумам, Пампеяй і Стабіяй не мелі б сусьветнага значэння, але тут яны адбыліся ў той момант, калі ўжо дастаткова развітае гандлёвае мараплаўства зблізіла паміж сабой аддаленыя мясцовасьці гэтага басейну, прызначанага самай прыродай быць калыскай духоўнай культуры чалавецтва. Уявіце толькі сабе гіганцкія выкіды падземнага полымя, дыму і попелу із вяршыні скаланаючайся вялізнай гары, падняўшыяся гіганцкім палаючым слупом да самага неба ў той час, як палаючыя рэкі і струмені бруду паліліся да яе падножжа, спальваючы і затапляючы ўсё; уявіце сабе мора, якое раптам набегла на нічога не чакаючыя і размешчаныя на беразе квітнеючыя гарады. Уявіце сабе раптам заварушыўшуюся пад вашымі нагамі зямлю і раптам узляцелую ўгару і дашчэнту рассыпаўшуюся вяршыню гары, упаўшую пазней на наваколле каменным дажджом, – уявіце сабе ўсё гэта, і вы зразумееце, як такія падзеі павінны былі ўразіць чалавечае ўяўленне. Такая катастрофа няўхільна павінна была выклікаць, побач са звычайнымі гандлёвымі вандраваннямі, шэраг вандраванняў чыста рэлігійнага і навуковага характару, пілігрымства шматлікіх рэлігійных і дапытлівых людзей із заможнай і адукавай згодна з тым часам часткі насельніцтва, карыстаўшайся дапамогай гандлёвых ці дзяржаўных флатылій. Усё гэта павінна было пазней моцна паўплываць на развіццё рэлігійных уяўленняў і павесьці да

ўтварэння адзінабожжа Грамабоя, які зрынуў каля сябе храмы і статуі ўсіх іншых багоў і які ператварыў іх, ва ўяўленні сучаснікаў, із яго дзяцей у дэманаў, якія паўсталі на яго.

Пры такіх умовах пачалася культура і навуковая літаратура квітнеючых берагоў Міжземнага мора, а разам з ёй, як толькі было вынайдзена мастацтва вырабу паперы, атрымалі развіццё матэматыка, алхімія, астралогія, тэхніка і медыцына, злучаныя яшчэ з магіяй і дэманалогіяй, і з'явіліся вялікія магістры акультных навук, аточаныя ва ўяўленні астатняй, неадукаванай масы насельніцтва арэоламі ўсёмагутнасьці і непасрэдных стасункаў з таемнымі, звышнатуральнымі магутнасцямі, кіруючымі жыццём усіх сусьветаў. Разам з легендамі пра дзівы заморскай краіны з'явіліся легенды і пра гэтых вялікіх людзей, і із усіх гэтых легендаў напачатку сярэдніх стагоддзяў набылі найбольшую вядомасць легенды пра вялікага чараўніка і лекара, укрыжаванага згодна з адной версіяй на крыжы, але ажыўшага із памёршых, а згодна з іншымі легендамі (пра Ілію і Енаха) – проста ўзятага на неба.

Ці быў крыніцай усіх гэтых шануемых легендаў толькі адзін рэальны чалавек» заснавальнік хрысціянскай літургіі, якога мы клічам Вялікім Царом (Васілём) IV стагоддзя?

Вядома, не. Не толькі ён адзін, але і пeражыўшы яго малодшы таварыш Ян і настаўнік іх абодвух, астролаг і вандрўнік – «сьцяганосец бога-бацькі (Сымон Патрыс)» зрабіліся трыма фокусамі, каля якіх пачалі разрастацца і камбінавацца на працягу сярэдніх стагоддзяў хрысьціянскія легенды, часта блытаючы іхны ўзрост і рэальныя ўзаемадачыненні адзін да аднаго, у залежнасьці ад таго басейна разумовай эвалюцыі, у якім развіваліся ўяўленні пра гэтых дзеячаў.

І кожная краіна, валодаючая сваёй адмтнай літаратурнай мовай і адмежаванай культурай, з'яўлялася тады такім асобным басейнам разумовай творчасьці.

Падобна таму, як першапатковыя віды жывёл і расьлін падзяляліся на шматлікія варыяцыі згодна з колькасьцю геаграфічных абласьцей, аддзеленых адна ад другой марамі, пустынямі і непераадольнымі для іх горнымі хрыбтамі, так і міфы пра тыя ж самыя з'явы прыроды і пра вялікіх навукоўцаў старажытнасьці, развіваючыся, распадаліся ад пакалення да пакалення на шматлікія варыяцыі ў залежнасьці ад прыняўшых іх у сваё ўлонне старажытных культурных моваў. А пазней, калі з'явіліся перакладчыкі, з імі адбылося тое ж самае, што і з відамі жывёл і расьлін, калі паміж марамі з'яўляўся перасмык, а пустыня ці горны ланцуг рабілася пераадольваемай: яны змешваліся адзін з адным, і, калі не вельмі дыферэнцыявалі, то давалі пачатак яшчэ большай колькасьці новых варыяцый.

Арабскі каран VII стагоддзя меў рацыю, лічачы хрысьціянскага Езуса родным пляменікам біблейскіх Майсея і Арона, як асоб, што належалі толькі да папярэднічаўшага пакалення, а не жыўшых за некалькі стагоддзяў да яго, і лічачы самога Езуса не вельмі даўнім папярэднікам Магамета, гэтага «апошняга із пракокаў....»

лейскіх пералікаў дванаццаці сыноў Багаборцы.
Жыдоўскі альфабэт

# ГЛАВА VIII.

## Атрутныя газы падземнага сьвету.

Мы ўжо чыталі ў кнізе псеўда-Другазаконне апавяданне пра тое, як «Збаўца» прывёў свой народ ад Вязувія да ўтокі ракі По, у краіну ўмбраў. Паглядзім жа, наколькі пагадняецца з гэтым апавяданне пра тую ж падзею і ў кнізе Лічбаў.



Мал.96.
*Воблака попелу і дыму над Вязувіем днём*



Мал.97.
*Зарыва над Вязувіем ноччу*

«Ў той час, калі быў уладкаваны пераносны храм Грамабою каля падэшвы СІНЫ (Sinus, г. азн. Вязувія), воблака (ад гары) пакрывала яго днём (мал. 96), а з вечарамі над ёю было бачна зарава да самай раніцы (мал. 97) і так было заўсёды. Куды перасоўвалася воблака (па волі ветру,) туды і выпраўляліся дзеці Богазмагальнікі (9.17)».

Відавочна, што накірунак пініепадобнага воблака Вязувія, «лічылася» Збаўцам за ўказанне шляху, якога патрэбна было трымацца, каб не загінуць, як гэта бачна із наступных радкоў.

«На другі год 20 дня другога месяца (у красавіку) воблака паднялося яшчэ вышэй і накіравалася да раўніны Парн[73] (г. азн. да Пармы). Богазмагальнікі накіраваліся за ім ад гары Грамабоя (ад Вязувія на тры дні шляху прыблізна да месца, дзе стаіць зараз Рым), і воблака Грамабоя (выпарэнні Вязувія) было над імі кожны дзень. Кожны раз, калі паднімалі каўчэг запавету і выпраўляліся ў шлях. Збаўца прамаўляў (як ужо было расказана і раней):

– «Паўстань бог-бацька, і ды знікнуць твае ворагі і ды бягуць ад твайго твару ўсе ненавідзячыя цябе!».

«А ставячы каўчэг на месца, прамаўляў:

– «Вярніся бог-бацька да тысяч тысяч Богазмагальнікаў (10. 36)».

«Але вось народ пачаў наракаць. – дадае легенда, – і за гэта ўзгарэўся на яго гнеў Грамабоя. Полымя пачало падаць на іх (у выглядзе гарачага попелу новага вывяржэння) і пажыраць частку станавішча. Але Збаўца заклікаў да бога-бацькі, і полымя Грамабою спынілася. Гэтае месца назвалі ТБЭРЕ (Тыбр, што Гэта азначае пажар)».

«Горшыя пачалі наракаць, кажучы:

– «Мы памятаем рыбу, якую елі ў Міц-Рыме, і агуркі, і дыні, і рэпчатую цыбулю, і часнык (усё гэта плады паўднёвай Яўропы), і зараз знемагае наша душа. Тут (у Пантыйскіх балотах) толькі «дармавое» (па-біблейску МН, адкуль паходзіць манна ў перакладчыкаў). А гэтае дармавое было ў выглядзе каліяндравага насення (11,7) (Coriandrum sativum – аднагадовая расьліна із парасонавых, дзікарастучая ў паўднёвай Італіі і ва ўсёй Еўропе; разводзіцца ў агародах, каб ужываць яго насенне, як прыправу).

«Народ разыходзіўся па палях, збіраў гэтае (каліяндравае) насенне, малоў на жаронах, тоўк у ступе, варыў у катлах і рабіў з іх аладкі, а смак аладак быў хлебна-алеісты.

«Збаўца прамовіў Грамабою чуючы агульны гоман:

– «Не магу я адзін несьці на сабе цяжар гэтага народа, лепш забі мяне».

– «Збяры мне семдзесят мужоў са старэйшын Богазмагальніка, – адказаў яму Грамабой. – Я вазьму ад духу (РУХ), які на табе і накладу на іх, каб яны неслі з табою (саборна) цяжар (11. 17)».

«Збаўца сабраў 70 мужоў і паставіў іх каля шатра (АЕЛ). Грамабой сышоў у воблаку і загаварыў із ім. Ён узяў ад натхнення, якое было на ім і даў тым 70 мужам, і калі яно пачыла на іх, яны пачалі прарочыць. І вось, калі яны закончылі, два чалавекі на імя Алдад (АЛ-ДД – боскія сасцы) і Мідад (МІ-ДД – сасцы вады), якія былі із запрошаных, але не выходзілі да сходу, таксама пачалі прарочыць у стане.

– «Забарані ім, спадар мой!» – сказаў Езус Збаўцу, але той адказаў:

---

[73] ПАРН – па-біблейску не мае сэнсу.

– «Ці не раўнуеш ты да мяне? О, калі б увесь народ бога Грамабоя ператварыўся ў пракокаў! О, калі б Грамабой надаў свай дух на ўсіх! (12. 29)».

У чым сэнс гэтай легенды? Чытач сам ужо заўважае яе падабенства з сыходжаннем «сьвятога духу» на сабор 70 апосталаў пры евангельскім Езусе, калі яны загаварылі на розных мовах. Калі ж апавяданне аднесьці да ранейшага часу, то яно будзе – легендай пра Нікейскі сабор.

Непараўнальна лягчэй – як мы бачылі – патлумачыць апавяданне пра перапёлак, якія прыляцелі ў стан Богазмагальнікаў пасьля гэтай прыгоды.

«Калі народ пачаў наракаць на ежу, – паведамляе і гэтая легенда (11. 31), – падняўся вецер і прынёс ад мора шмат перапёлак[74]. Ён накідаў іх каля стана на дзень шляху туды і на дзень шляху сюды, амаль на два локці ад зямлі. Народ падняўся і збіраў іх увесь той дзень і ўвесь наступны дзень (мал. 98). Нават і той, хто мала збіраў, набраў дзесяць куч, і ўсё гэта было назапашана для сябе вакол стана (11. 32)».



Мал. 98.
*Пералётныя птушкі, патрапіўшыя ўгары ў бруі атрутных газаў Вязувія. (з Biblia Sacra 1556 год)*

Вось выява яскравая і на дзіва рэалістычная! Тут, як і ў апісанні атрымання 10 запаветаў на Вязувіі, няма нічога непраўдападобнага, акрамя хіба дамешку містыкі ў тлумачэннях, ды невялага перабольшвання колькасьці перапёлак, цалкам зразумелага і непазбежнага ў перадавані сярэднявечнага аўтара. Падумайце самі! Жахлівае вывяржэнне Вязувія спустошыла квітнеўшыя наваколлі Неапалітанскага заліва, увесь гэты развеяны па ветру, як мякіна РЫМ – усходняя назва аднарога, захаваўшаяся па-жыдоўску ў патройнай транскрыпцыі РАМ (Roma), РЫМ (Rem) і РАІМ – аднарог.

---

74 שלו (СЛЮ) згадваецца тут (11. 31) і ў кнізе Сыход (16. 13) і лічыцца за перапёлку (coturnix communis) пашыраную па ўсёй Еўропе.

Тут мы бачым тое ж, што і ў ранейшых апісаннях.

Паганскі Міц-Рым узрушаны і напалоханы дымам, полымем, струменямі лавы і ліўнем із бруду, які ўтвараецца ўгары ад загусьцення вулканічных выпарэнняў і попелу. Статуі паганскіх багоў валяцца ад землятрусу, і насельніцтва ў жаху бяжыць туды, куды паказвае яму яго богапрызначаны правадыр, прынёсшы з гэтай самай гары сваё заканадаўства. Ён робіць намёт для сваіх дзесяці запаветаў і водзіць сваіх пасьлядоўнікаў узад і наперад па наваколлі, куды дыктуе яго ўяўленню накіранак пініепадобнага воблака, і ўсе ідуць за ім з забабоннай павагай.

Але чым жа сілкавацца ўсяму гэтаму збегламу насельніцтву? Прыпасаў у навакольных жыхароў не хапае для іх, і вось уся лавіна страціўшых маёмасць насельнікаў Кампаны фатальна і няўхільна вымушана ісьці ўсё далей і далей ад сьвятой гары, далучаючы да сябе на шляху і тых, у каго яна забрала ўсю ежу.

І струмень Богазмагальнікаў, сапраўды, ідзе ўсё далей і далей туды, дзе яшчэ ёсць ежа, да паўночнага ўсходу, зрынаючы на сваім шляху старых багоў, не здолеўшых абараніць людзей ад бога Грамабоя і ўстрасальніка зямлі, адзінага, якога патрэбна баяцца і слухацца. І як талісман і абарону ад яго гневу, ён пераносіць з сабой яго запаветы і «выкрывае» яго ворагаў-паганцаў, апраўдваючы гэтым і сваё цалкам зразумелае рабаванне іх. Згадваючы, як Грамабой зрынуў усе статуі багоў жахлівым землятрусам, уцекачы паніжаюць іх усіх да годнасьці дэманаў, паўстаўшых супраць бога-бацькі і, каб дагадзіць яму і выратавацца самім, разбіваюць іх загадзя і асабіста ўсюды, куды ні прыйдуць.

Вось лавіна падыходзіць да Пантыйскіх балот, дзе спачатку сілкуецца, галоўным чынам, насеннем вялізных зараснікаў дзіка растучай тут парасонавай расьліны – каліяндры, пра якую мы, паўночныя жыхары, можам скласьці сабе уяўленне дзякуючы нашаму баршчэўніку. Гэтае годнае для спажывання насенне з голаду здаецца людзям маннай, паваліўшайся для іх з неба. Але гэтая ежа ўсё ж мала іх задавальняе, яны наракаюць на бога і на свайго правадыра, і вось як бы ў адказ на гэта, вялізная чарада пералётных птушак пачынае трапляць у нябачнае воблака атрутных газаў вулкана, якое адносіцца ветрам угары ў іхным накірунку.

Адбываецца тое самае, што я ўжо апісваў вышэй, характарызуючы вывяржэнні вулканаў. Гэта магла быць хутчэй за ўсё бруя цыяну ці цыяністага вадароду ад раскладання карбідаў ці старажытных арганічных рэштак у ніжніх напластаваннях той мясцовасьці, якая належыць да мелавой сістэмы. Такія газы спачатку не ўздзейнічаюць на ніжнія вобласьці атмасферы, бо выкідваюцца вельмі высока і пры тым моцна нагрэтымі, але кожная высока ляцячая, як пры пералётах, птушка павінна, патрапіўшы ў іх, імгненна валіцца мёртвай на зямлю. А галодны народ, разам са сваім правадыром, лёгка тлумачыць гэта як адмысловы падарунак кіруючага імі бога – устрасальніка зямлі.

Уцекачы пачалі збіраць з глыбокай павагай усіх падаючых птушак у кучы і есьці іх, але ці атрутныя рэчывы, атруціўшыя птушак і застаўшыяся ў іхных тушках, падзейнічалі на празмерна еўшых гэтую дасланую богам ежу, ці самі газы пачалі ўслед за гэтым даходзіць да зямлі, захопліваемыя сыходзячымі плынямі паветра, гэта не мае значэння: паміж народам пачаўся раптам моцны мор.

«Мяса яшчэ было ў іхных зубах, яшчэ не былі з'едзены птушкі, – заканчвае сваё апавяданне легенда, – як узгарэўся на іх гнеў Грамабоя і ўразіў ён іх вялікім морам. Яны назвалі гэтае месца могілкамі захаплення, таму што тут пахавалі нябожчыкаў (12. 34)».

Ці не праўда як я казаў, што тут усё дыхае рэчаіснасьцю? Не толькі пад час сярэдніх стагоддзяў, але нават і зараз ніхто, сур'ёзна не вывучыўшы з'яваў

першага ўздыму евангельскага вучэння нехта паважна аддаваў сябе нападаючаму ці забіваючаму інакш як у момант рэлігійнага ап'янення? Евангельскае выказванне «не пярэч крыўдзіцелю» заўсёды заставалася пустым гукам сярод хрысьціянаў дзякуючы сваёй абсалютнай непрыдатнасьці для практычнага жыцця, як заставалася без шырокага ўжывання і ўсхваленне аскаплення ад імя Езуса: «не ўсе змяшчаюць словы гэтыя, – кажа евангеліст Мацвей, – але толькі тыя, каму дадзена: магучы змясьціць (аскапленне) ды змесьціць».

А месьцілі толькі вылюдкі, ды тыя, каго аскаплялі прымусова.

У толькі што прыведзеных пастановах кнігі «Дыяканы» мы бачым толькі пераход да пазнейшага грамадзянска-хрысьціянскага заканадаўства, згодна з якім і да гэтага часу забойства караецца сьмерцю, а замест «вока за вока» ўсталяваўся і больш суровы эквівалент: у злодзея, напрыклад, хрысьціянскія ўлады адсякалі руку і не дарэмна: патрэбна было адвучыць першабытнага чалавека ад звычкі да крадзяжу.

У разглядаемай намі біблейскай кнізе мы чытаем, акрамя таго:

«Калі прыхадзень ці тубылец пачне ганіць імя Грамабоя, то яго павінна пабіць камянямі ўсім грамадствам».

Дзе мог быць напісаны такі закон? Шукайце месца яго ўзнікнення таксама паблізу Вязувія! Там падчас выняржэнняў вылятае шмат камяння, якое італійцы называюць «ляпіллі», і падаюць ў наваколлі на галовы багахульнікаў. Вось адкуль бярэ пачатак гэты спосаб пакарання за блюзнерства! Ён мог узнікнуць і ўжывацца практычна толькі тут жа, ды яшчэ на тых берагах мора, дзе замест пясчанага берага насыпаны кучы камянёў-валуноў, якія пад час бурану качаюць туды сюды хвалі прыбою. На раўнінах Ягіпта, Сірыі і Месапатаміі, якія да гэтага часу лічацца месцам узнікнення гэтага заканадаўства, вы можаце часам некалькі сутак шукаць нават адзін прыдатны камень і ўсё ж не знайсьці яго, як на раўнінах Расіі.

У нас часта здзіўляюцца, чаму вуліцы рускіх правінцыйных гарадоў ці нашы прасёлкавыя дарогі не брукаваны як за мяжой. Адказ просты: няма паблізу камянёў! Дакладна гэтак жа і ў Месапатаміі і нават у яшчэ большай ступені, таму што туды не запаўзалі камяні ледавіковага перыяду. Ды і у Заходняй Еўропе спосаб збіцця грэшнікаў камянямі згодна са спосабам Вязувія выявіўся практычна не выконваемым. Пакуль жадаючыя бегалі па ўсяму наваколлю, шукаючы каменне, стамленне рабіла сваю справу: іхны запал астываў і яны супакойваліся. Вось чаму непрактычнае збіццё камянямі і было пераўтворана інквізіцыяй ва ўсеспаленне на вогнішчы.

Зараз пяройдзем і да некаторых, не цалкам зразумелых для мяне, выказванняў разбіраемай кнігі.

«Кожны із дзяцей Богазмагальніка і із прыхадняў, жывучых паміж імі, які аддае каго-небудзь са сваіх дзяцей іярэю, павінен быць пабіты камянямі[81].

– «Калі народ гэтай зямлі не паверне сваіх вачэй на чалавека, які дае сваіх дзяцей «цару» і не заб'е яго, то я, – кажа Грамабой, – павярну мой твар на гэтага чалавека і на яго род, і вынішчу яго і ўсіх заблудна ходзячых па яго слядах із асяроддзя іхнага народа. І калі нейкая душа звернецца да

---

[81] מלך (МЛК) – цар, і больш нічога. Толькі сярэднявечныя тлумачальнікі зрабілі пад гэтым жыдоўскім напісаннем дзве розныя пунктуацыі, каб дрозніць «цара-малаха» са звычайны царом, найменне якога пачалі прамаўляць: мелех. А першапатковае напісанне было без пунктуацыі, аднолькавае ў абодвух выпадках. Гэта тое ж самае, што мы знаходзім і ў царкоўна-славянскай мове, дзе часам ужываліся транскрыпцыі, як у Бібліі, і без галосных. Напрыклад напісанне АГЛ чыталася там анёл, калі гаворка ішла пра вестуна бога і аггел, калі меўся на ўвазе вястун сатаны.

выклікаючых памёршых і да чарадзеяў, каб заблудна хадзіць па іхных слядах, то я павярну мой твар на гэтую душу і вынішчу яе із асяроддзя яе народа (20. 6)».

Які такі тут «цар»? Грэцкія перакладчыкі, а следам за імі і ўсе сучасныя, чамусьці не пераклалі гэтае слова (МЛК ці мелех, г. азн. цар і па-жыдоўску і па-армянску), а толькі злёгку пераіначылі яго вымаўленне ў Малоха, сцвярджаючы, быццам бы гэта быў нейкі «жудасны вавілонскі ідал». Але ж напісанне МЛК яны ж самі ўсюды перакладаюць ў іншых месцах словам цар у самым паважаемым сэнсе! Такое найменне маюць у Бібліі і Давыд, і Саламон, і нават «Кнігі цароў ізраільскіх і юдэйскіх» маюць па-жыдоўску найменне Мелехі (МЛК-ІМ), а не Молахі!

Зразумела, што гэтае месца мае на ўвазе зусім не «вавілонскага ідала», а нейкі «культ цара», існаваўшы ў той час у наваколлі Вязувія, калі із яго жарала яшчэ ляцелі ляпіллі. Ці не быў гэта звычай кідаць дзяцей у яго жарало, каб улагодзіць грознага «цара», які жыў там? Такая здагадка цалкам пагадняецца са старажытнай псіхікай і старажытнымі забабонамі. І я ўжо паказваў у геалагічнай частцы гэтай маёй кнігі, што ў жаролы вулканаў сапраўды кідалі людзей.

«Усе гэтыя запаветы, – заканчвае сваё апавяданне кніга «Служкі бога» (ЛУІ), як бы падцверджваючы маю думку, – даў Грамабой Збаўцу на гары «СІНІ» (у якой мы ўжо прызналі не Сінай, а Вязувій – Mons Sinus – гара нетраў).

* * *

Я не магу скончыць агляд гэтай біблейскай кнігі, не выказаўшы сваёй думкі пра яе, як пра самы старажытны кодэкс «Рымскага права».

Пачаўшыся на Вязувіі дзесяццю запаветамі і законам пра збіенне ляпіллямі за блюзнерства і за таемныя грахі; пісьмовае заканадаўства не магло, вядома, быць цалкам закончана на гэтай жа гары і толькі адным чалавекам. Яно было справай творчасці шматлікіх асоб і некалькіх пакаленняў.

Як бы нам даведацца, якія із яго пастаноў былі абвешчаны раней і якія пазьней?

У праваслаўнай тэалогіі існуе думка, быццам старыя законы былі жорсткімі, а Езус іх памякчыў. Мая ж думка тая, што старых законаў зусім ніякіх не было, а існавала толькі права асабістай помсты злодзею і крыўдзіцелю з боку абкрадзенага і пакрыўджанага і права помсты забойцы з боку сваякоў забітага. Пазней у італійскіх краінах судовыя функцыі прысвоіла сабе папская тэакратыя, а ў іншых краінах і свецкая ўлада.

З вяршыні Вязувія ўпершыню з'явіліся 10 пісаных законаў-запаветаў, але ў іх яшчэ не было прызначана зямных пакаранняў. Гэтыя пакаранні, як і ў евангельскіх павучаннях, аддаваліся Грамабою, а людзям толькі раілася:

«Шануйце адзін аднаго! Дзяліцеся адзін з адным усім, што ў вас ёсць».

Аднак гэты запавет зараз жа набыў і неспадзяваны для яго аўтараў падвойны сэнс. У вушах заможных ён гучаў: «Пашкадуйце немаёмасных, падзяліцеся з імі!».

А ў вушах немаёмасных, наадварот, набыў сэнс:

«Заможныя абавязаны падзяліцца з намі згодна з загадам самога бога. Возьмем жа ў іх усё надмернае, параўнальна з намі, калі яны самі не аддаюць яго нам!».

І вось у разчыненыя дзьверы сядзібаў ідэалістаў уварваліся ў старажытнасьці вельмі практычныя людзі і перавярнулі іхны запавет дагары нагамі. Ідэалістам няўхільна давялося пачысьціць свае шэрагі ад такіх памагатых і, замест нядзейнічаючых пагроз пакарання Грамабоем, выпрацаваць пастановы:

«Вока за вока, зуб за зуб».

А потым, калі і гэтага выявілася мала пры разгуляўшыхся драпежніцкіх інстынктах пераходнага перыяду, заканадаўства пайшло і далей у сваёй суровасьці:

«Галаву за рабаванне, руку за крадзёж».

Хрысьціянская рэлігія канчаткова разышлася з рэчаісным жыццём і жыццё зноў вярнулася ў сваё рэчышча. Але замест першабытнага права асабістай помсты, з'явілася тэакратычнае права адплаты, а пазней свецкая ўлада прысвоіла гэтае права сабе.

Іншага выйсьця не было: спачатку літаральна пачалі выколваць вока за вока, адсякалі руку за руку. А пазней, з нагоды назапашвання дзякуючы такому спосабу вялізнай колькасьці бязногіх, бязрукіх і іншых інвалідаў, якіх даводзілася карміць, усе калечачыя кары былі заменены менш стратнымі для грамадства.

Пісьмовы грамадзянскі закон развіваўся спачатку не ад жорсткасьці да мяккасьці, а наадварот, і з гэтага боку гледжання больш жорсткія пакаранні Пяцікніжжа я лічу ўжо больш пазнімі, а не раннімі.

# ГЛАВА XII.

## Заваёва Езусам краіны запаветнай.

Мы скончылі зараз разгляданне чатырох біблейскіх кніг, распавядаючых пра Майсея і Арон, кніг: Сыход, Лявіт, Лічбы і «Збор законаў» (тэндэнцыйна званая Другазаконнем), выбраўшы із іх усё маючае дачыненне да тагачаснага жыцця і маглі пераканацца, што ўсё гэта дакументы ўзнікшыя не раней пятага стагоддзя нашай эры і маючыя дачыненне да найвялікшых рэлігійных дзеячаў таго часу: Арыя і яго супрацоўнікаў.

Мы бачылі тут і зямлю Запаветную, бягучую малаком і мёдам у выглядзе рэчаіснай італьянскай Ламбардыі і ў сімвале самай ярка-зорнай вобласьці начнога неба, дзе ззяе Вартаўнічы Сабака – Сірыус – самая сьветлая зорка нашага неба – ён жа «выведнік» Езуса, і куды прабіваецца, прайшоўшы праз Эрыдан, раку сыходзячых у падземнае царства, сам «Езус ад Рыб», у знаку сузор'я Арыёна (мал. 101).




Мал. 101.

*Сузор'е Арыёна (у якім знаходзіцца полымямёт арыянід) б’ецца з арыянскім цяльцом, пераходзячы праз нябесны Ярдан, а Вартаўнічы сабака (Халеў) глядзіць на яго з другога боку Млечнага Шляху (ракі цякучай малаком і мёдам). Згодна з Фламарыёнам.*

Складальнікі сучасных «сьвятых гісторый», гунтуючыся на апакрыфічных творах Ёсіфа Флавія, аскублі гэтую Запаветную зямлю ад усіх яе чароўных пёр’яў і размясьцілі ў Сірыі на пустынных берагах Мёртвага возера, зрабіўшы яе сталіцай безнадзейнае ў культурным дачыненні, як у мінулым, так і ў будучым, турэцкае мястэчка Эль-Кудс, даўшы яму найменне Ерусалім.

Але мы павінны пазбавіцца ад гэтага гіпнатычнага надання. Эль-Кудс быў, магчыма, толькі радзімай Езуса, а яго дзейнасць, як знакамітага лекара, чараўніка, філосафа і архітэктара таго часу, працякала ў культурных цэнтрах і больш усяго ў Італіі. Яго магіла і ўсе месцы яго дзейнасьці і пакуты былі адміністрацыйна сасланы ў Эль-Кудс, толькі з мэтай пазбавіць сталіцу культурнага сьвету ад вечнага абвінавачання ў бязбожным учынку. Пазней там з’явіліся і падробкі «труны госпада» і ўсяго іншага, не выключаючы найменняў некаторых узгоркаў і мястэчак, як таварная прапанова, выкліканая ўзмоцненым попытам. Нават падчас крыжовых паходаў і заснавання «Ерусалімскага каралеўства» напачатку XII стагоддзя, не ўсе лічылі Палестыну за Запаветную зямлю, радзіму дванаццаці пакаленняў богазмагальніка, а адносілі яе у фантастычныя краіны.

Не будзем жа вечна хадзіць у вобласць старажытнай гісторыі на чужым павадку! Адкінем кампілятыўныя творы XII і XIII стагоддзяў, адкінем і самога Флавія, які змяшчае ў сваіх творах нават рабінскія пастановы Вармскага сабора 1030 года[82] і таму таксама пісаўшага іх не раней крыжовых паходаў, а хутчэй за ўсё каля 1566 года, калі гэтыя творы былі «знойдзены», г. азн. прапанаваны іхным аўтарам для друкавання, як старажытныя.

Разгледзім арыгінальны юдэйскі твор «Кніга Элдада-Ганані», «знойдзены» раней Ёсіфа Флавія, у IX стагоддзі, а таму і з'яўляючыся для нас лепшай першакрыніцай.

На прыканцы IX стагоддзя, – паведамляюць нам яго каментатары эпохі Адраджэння, – гэты юдэйскі падарожнік усхваляваў розумы сваіх сучаснікаў апавяданнямі, быццам бы ва Ўсходняй Афрыцы ў краіне Хавіла ці Куш, і да гэтага часу жывуць чатыры калены Богазмагальніка: Дан, Нафтлі, Гад і Асір, як самастойныя дзяржавы, і валодаюць Бібліяй і Талмудам на чыстай жыдоўскай мове.

За вобласьцю гэтых чатырох кален, за ракой Самбатыён (г. азн. старажытным Ярданам, ракой сыходных) знаходзіцца шчаслівая зямля лявітаў, завучых сябе бэн-Машэ – сыны Майсея.

«Яны жывуць – задаволеныя і шчаслівыя – у выдатных сядзібах з садамі і палямі, вывучаючы закон Збаўцы і дажываючы да самых састарэлых гадоў. Іхная краіна недасягальная для звычайных людзей, таму што рака Самбатыён жахліва хвалюецца шэсць дзён на тыдзень, выкідваючы са сваёй глыбіні полымя, камяні і пясок і адпачывае толькі па суботах. Суседнія з ёй жыхары із чатырох кален перамаўляюцца з лявітамі па суботах, прыходзячы на бераг ракі падчас яе адпачынку і абменьваюцца з імі лістамі з дапамогай галубінай пошты».

---

[82] Гл. разбор гэтага твора ў маёй кнізе «Прарокі», Аддзел X, гл. I. 1914 год.

У аддаленых краінах Азіі той жа Элдад-Ганапі назіраў і астатнія калены Богазмагальнікаў. З іх Рувім, Яфрэм і палова Манашы вядуць качавое жыццё, а другая палова Манашы з Ішакарам, Завулоном і Шымонам жывуць асела і мірна...

Усюды на прыканцы сярэдніх стагоддзяў гэтую кнігу чыталі з поўным даверам. А калі нехта са скептыкаў выказваў сумневы, то яму адказвалі, што знакамітыя кайрукскія навукоўцы ўжо рабілі запыт рэктару Сурскай акадэміі Цемаху ў 890 годзе: ці варта давяраць гэтай кнізе, і рэктар адказаў, што яе аўтару «можна верыць».

Для нас тут не мае ніякага значэння навуковы аўтарытэт рэктара Сурскай акадэміі, хоць бы ён і жыў яшчэ ў IX стагоддзі, а важна тое, што ў той час на берагах Яўфрата Палестыну не лічылі ні зямлёй запаветнай, ні месцам існавання 12 каленяў богазмагальнікаў, а размяшчалі там хіба толькі адну Юдэю. Таму і ўсе сучасныя геаграфічныя мапы, дадаючыяся да падручнікаў сьвятой гісторыі старога запавету, з'яўляюцца чыстай фантазіяй апакрыфістаў эпохі Адраджэння, і мы маем права цалкам з імі не лічыцца. Пераканаўшыся, грунтуючыся на сучаснай геаграфіі і геалогіі, што ні каля «ракі Самбатыён» і нідзе ў іншым месцы на зямным шары, нават і ў Ламбардыі, ніякай «запаветнай зямлі» няма і не было нават і пад час сярэдніх стагоддзяў, мы маем поўнае права, як ужо рабілі і вышэй, перанесьці падмосткі падзей на неба. І мы сапраўды знаходзім там, – як я ўжо згадваў, – «Запаветную зямлю», перадусім, каля нябеснага Ярдана, нябеснай Ракі сыходзячы ў падземнае царства, праз якую пераходзіць вялікі зорны віцязь Арыён .

Гэтая запаветная зямля богазмагальнікаў, адкінуўшых ўсіх іншых багоў, акрамя аднаго нябеснага, была, згодна са славамі біблейскай кнігі маючай назву «Езус» (ён жа евангельскі Хрыстос) заваявана гэтым віцязем, вучнем Майсея і Арона, шляхам вялікіх змаганняў і бітваў, відавочна, ужо пасьля падняцця яго на неба, хаця кампілятары легенды, прамаўчаўшы пра гэта, і прымусілі пазней крыжакоў, а за імі і сучасных тэолагаў, шукаць гэту чароўную краіну паблізу пустыннага Асфальтавага возера, дзе яна не мае і ніколі не мела шанцаў для самастойнага культурнага развіцця, дзякуючы глухому геаграфічнаму становішчу. Яна і да гэтага часу існуе ў Палестыне толькі дзякуючы прынашэнням шматлікіх паломнікаў ды тым, што гандлюе падробкамі разнастайных уяўных хрысьціянскіх сьвятыняў, накшталт «слёз найсьвятой багародзіцы».

Але дзе ж на небе маглі б быць гэтыя выдатныя змаганні і бітвы, у якіх ад трубных гукаў і крыкаў ваяроў богазмагальнікаў, відавочна, таксама пайшоўшых пасьля сваёй сьмерці на неба да Езуса і зараз зіхацячых у выглядзе зорак, упалі сьцены Ерыхона, г. азн. па-руску – Месяца? Дзе і як мог Езус спыніць сонца?

Выйдзіце ясным вечарам 10 жніўня (н. з.) гадзін каля дзевяці на якое заўгодна прасторнае месца ці ўзлезце на дах сваёй сядзібы і зірніце на ўсход, на тое месца зорнага неба, дзе ў гэты час паднімаецца сузор'е Андрамеды, наперадзе ўжо ўзышоўшага Пярсея (мал. 102) і вы адразу пабачыце там рэшткі аднаго із такіх старажытных нябесных змаганняў, у выглядзе вогненных дзідаў ляцячых ад Пярсея ва ўсіх накірунках неба (мал. 103). Аж да раніцы нейкія жыхары неба бароняць там Андрамеду, гэтую старажытную Прывязаную Панну задыякальнага шляху планет, ад нейкага нападу ці ж змагаюцца з некім паблізу ад яе.



Мал. 102
*Унізе Пярсей з полымямётам пярсеідаў перамог вядзьмарку Мядузу. Над ім прыкутая Анромеда і Царская царква (Касіяпея) на пасадзе бога. Направа ўнізе контур Авена. Згодна з Фламіянам.*



Мал. 103.
*Вогненныя дзіды на небе, падчас полымямётаў знічак, ляцячых із аднаго цэнтра.*

Гэтае «змаганне пад Андрамедай» здараецца зараз штогод і мы завём яго дажджом метэарытаў Пярсеідаў. Іхныя вогненныя лятучыя дзіды ў вачах сучаснай навукі – толькі шматкі збольшага рассыпаўшайся ад сонечнага жару, пры яе праходжанні праз перыгелій, трэццяй (III) каметы 1862 года, перыяд абарачэння якой блізкі да 121 года. Усе шматкі, адарваўшыся, паляцелі па шляху сваёй маці-каметы, паступова размяркоўваючыяся па яе арбіце і сустракаючыся з нашай зямлёй пры штогадовых пралётах праз гэтае скрыжаванне дзвюх нябесных шляхоў. Распадзенне каметы 1862 года адбылося вельмі даўно, бо інакш шматкі знаходзіліся б каля яе у выглядзе увесь падоўжваючагася яе хваста, і дождж метырыятаўназіраўся б толькі праз 121 год пры праходжанні Зямлі праз гэтую ж кропку арбіты, а не штогадова, як зараз. Узяўшы дзесяць праходжанняў пазначанай каметы праз перыгелій і адняўшы іх ад 1862 года, калі яе назіралі ў апошні раз, мы атрымаем 652 год, а за ім 531 год, пад канец якога (і напачатку 532 г.) кітайскія астраномы назіралі «хвастатую зорку». Потым мы атрымліваем 410 г. і, нарэшце, 289 г., каля якога ў 287 годзе кітайцы адзначаюць камету ў сузор'і Стральца, а праз год пасьля яе другую, у «коле вечнай бачнасьці». Вельмі верагодна, што ў той перыяд часу – каля 410 і 531 года, яшчэ не было поўнага рассейвання шматкоў каметы па яе арбіце, а таму і відавішча «нябесных змаганняў пад Андрамедай» можна было назіраць толькі каля гэтых гадоў, і мела грандыёзны выгляд[83], нападобе, напрыклад, сучаснага змагання ў сузор'і Ільва, якое кідае ад сябе

[83] Мяркуючы па даўжыні арбіты гэтай каметы, усеянай запар метэарытамі, яна была адной із найвялікшых.

вогненныя стрэлы і дзіды праз кожныя 33 гады ад поўначы да раніцы 13 лістапада (н. ст.) пад час бачнасці Ільва над гарызонтам (мал. 104).



Мал. 104.
*Полымямёт Леанід 12 лістапада 1899 г. (із падручніка касмаграфіі К. Д. Пакроўскага.)*

У перыяд найвялікшай часьціні леаніды ляцяць ва ўсім накірунках у розных частках неба, але заўсёды згодна з радыусамі, выходзячымі ад Іільва і перамяшчаюцца адпаведна яго перамяшчэнням. Згодна са сведчаннем астранома Альмстэда, назіраўшага іх у Бостане ў 1883 г., пад час найвялікшай часьціні яны ляцелі толькі ў некалькі разоў радзей, чым сняжынкі падчас звычайнай завеі. А потым, калі феномен значна саслабеў, Альмстэд налічыў да 650 стрэл ідучых ад Іільва ж па працягу кожнай чвэрці гадзіны, так што агульная колькасць іх за 7 гадзін яго назірання, ва ўсякім разе, перавышала паўтараста тысяч.

На працягу наступных гадоў падобная з'ява не назіралася, але калі згадалі, што ў гэты ж самы дзень 13 лістапада Гумбальт апісаў дакладна такі ж дождж зорак (ці, згодна са старажытнымі ўяўленнямі, нябеснае змаганне ў вобласьці Ільва) у 1799 годзе ў Венесуэле ў Паўднёвай Амерыцы, калі «зорачкі, часам больш яркія, чым Венера, ў незлічонай колькасьці перасякалі ўвесь купал неба», то зраблі выснову, што гэта той жа рой і што ён абарачаецца вакол сонца за 33 гады, і яго новае з'яўленне прадказалі ноччу 13 лістапада 1866 года, што і падцвердзілася, як я ўжо меў нагоду паведаміць у першым томе маёй кнігі пры даследаванні легенды пра Самсона і Далілу.

У 902 годзе «змаганне Ільва» было такім моцным, што патрапіла нават у адзін летапіс, як я ўжо паведамляў у першай кнізе «Хрыста»:

У гэтую (лістападаўскую) ноч, – сведчыць гэты летапіс, – была бачнай бясконцая колькасць зорак, якія імчаліся падобна дажджу, як быццам дзіды, направа і налева і таму 902 год быў названы годам зорак».

Хаця тут радыянт, г. азн. сузор'е, ад якога ляцелі дзіды, і не названы, але датаванне іх лістападам не пакідае ў астранома ні найменшага сумневу, што гэта

той жа самы зорны дождж, які назіраў Гумбальт і Альмстэд, тым больш, што і час абарачэння вызначаецца, грунтуючыся на гэтых дадзеных, роўным 33,18 гадоў, што адпавядае сучасных вылічэнням. Аднімаючы ад 902 года дзесяць такіх абарачэнняў, мы атрымваем верагоднасць «змагання Ільва» для даследуемай намі эпохі ў 570 годзе і потым пасьлядоўна ў 537, 504, 471, 437, 404, 370, 337, 304, 270 і 237 гадах нашай эры, з верагоднай памылкай на год ці на два наперад ці назад.

Трэцցяе выбітное нябеснае змаганне, адбываючаяся і да «гэтага часу, – гэта змаганне пад сузор'ем Ліры і Геркулеса з радыянтам вогненныг дзідаў, ляцячых ад галавы Змеятрымальніка – сімвала месіі. І не выклікае сумневаў, што на пачатку сярэдніх стагоддзяў яго адзначылі "б як змаганне Езуса на небе з яго ворагамі". Яно таксама патрапіла ў саксонскую хроніку пад датай 4 красавіка 905 года, і яго абарачэнне вызначаецца зараз роўным 415 гадам, так што яно асабліва было моцным у 490 годзе з магчымасьцю штогадовага паўтарэння за некалькі дзясяткаў гадоў да і пасьля гэтай даты амаль з той жа магутнасьцю (г. азн. напрыклад ад 460 па 520 гады, у тым выпадку калі ў той час дадзены струмень ужо размеркаваўся па арбіце на значную даўжыню).

Я не буду тут апісваць некалькі іншых змаганняў нябесных ваярстваў, існуючых і зараз толькі з іншымі радыянтамі, чым ранейшыя. Для нашай мэты дастатковa і іх, і я пазначу толькі наступную акалічнасць гістарычнага характару.

Чытаючы сярэднявечную «хроніку дзіваў і адзнакаў» Лікасфена і іншыя аналагічныя творы, нават напісаныя пад час эпохі Адраджэнні, мы ўсюды бачым, што падобныя з'явы выклікалі асабліва забабонны перапалох і лічыліся змаганнямі анёлаў з дэманамі, намагаючыхся завалодаць небам.

Пагэтаму было б нават дзіўным, калі б аўтары гісторыі заваёвы Езусам «краіны запаветнай», дзе цячэ Млечная рака, за ракой сыходзячых у магілы – Эрыданам, нічога не паведамілі б пра тыя жорсткія змаганні, якія яму патрэбна было выпрабаваць пры гэтым. А ў такім выпадку старажытныя назіральнікі не маглі б не звярнуць увагу, сярод ужо апісаных намі змаганняў пад Андрамедай (струмень персіядаў), адбываўшыхся ў старажытнасьці, хутчэй за ўсё, асобнымі серыямі, якія мелі месца пад час разглядаеай намі эпохі каля 21 ліпеня 652, 531 і 289 гадоў пры Сонцы ў сузор'і Ільва. Не маглі старажытныя не звярнуць увагу і на змаганне сузор'я Ільва, якое паўтаралася тады, як і зараз, праз трыццаць тры гады, але толькі не 13 лістапада, а каля 18 лістапада пры Сонца ў сузор'і Змеятрымальніка і Скарпіёна. Не маглі яны не заўважыць і змагання Змеятрымальніка каля 1 красавіка, паблізу дня вялікадня, калі Сонца знаходзілася ў сузор'і Авена, пераходзячы туды із Рыб.

І, сапраўды, усе гэтыя баі мы і бачым у біблейскай кнізе «Езус» (г. азн. «Ратавальнік»), апісваючай не рэальныя зямныя падзеі, а бітвы евангельскага Хрыста, які ўжо ўзнёсся на неба пасьля свайго зямнога жыцця. Перададзім жа, стаўшы на такі бок погляду, і гэтыя біблейскія легенды пра Езуса.

«Падніміся, – сказаў Грамабой свайму астральнаму двайніку, Езусу (у сімвале Сонца), – перайдзі праз Раку сыходзячых (Эрыдан) з усім народам (планетамі) у краіну, якую я даю дзецям Богазмагальніка... Будзь цьвёрды і мужны, не бойся і не палохайся, таму што з табою бог (АЛ), куды б ты ні пайшоў» (Езус, гл. I).

«Езус выправіў двух выведнікаў (Меркурыя і Венеру) агледзець Месяц[84], і яны спыніліся начаваць у прыдарожнай кабеты (Андрамеды, мал. 107) на імя Расьцягнутая[85], якая (пачуўшы, што яе землякі заўважылі выведнікаў Езуса-Сонца) прытуліла іх на дзень у сябе ў сядзібе (пад заслонай блакіту), а ноччу спусьціла па вяроўцы (экліптыцы) праз вакно (каардынат), бо яе сядзіба была ў гарадзкой сьцяне (на скляпенні неба), просячы іх перадаць Езусу (у асобе Сонца), каб злітаваўся над ёю і яе роднымі, калі прыйдзе заваёўнікам» (2.15). «Яны паабяцалі ёй гэта і, вярнуўшыся, паведамілі ўсё Езусу. Ён выступіў рана раніцай із месца Размеркавання (сузор'е Рыб з яго дробнымі зорачкамі), і ўсе яго спадарожнікі (планеты) прыйшлі да Эрыдана і начавалі там, яшчэ не пераходзячы праз яго.

«І вось, калі нёсшыя納 сховішча запавету Грамабоя (у сімвале ранішняга світання) зайшлі ў раку Сыходзячых, то яе вада, што цячэ зверху, спынілася сьцяной на вялікай адлегласьці ад мужа захавальніка (Арыёна)[86], які быў у Пашчы Кіта[87]. А вада (Эрыдана), бягучая ў Салёнае мора раўніны (г. азн. у Міжземнае, калі глядзець на неба з еўрапейскага ўзбярэжжа), пайшла і вычарпалася, і ўвесь натоўп перайшоў раку насупраць Месяца (хнаходзячагася ў Панне).

– «Вазьмі сабе дванаццаць мужоў (сузор'яў Задыяка) па аднаму із кожнага калена, – загадаў Езусу Грамабой, – і хай яны возьмуць адсюль 12 камянёў і пакладуць, дзе вы будзеце начаваць сёння. А калі запытаюць: «навошта ў вас камяні?» – адкажыце: «у адзнаку таго, што вада Ракі Сыходзячых падзялілася перад сховішчам запавету Грамабоя».

«Так і зрабілі сыны Богазмагальніка і паклалі дванаццаць камянёў вакол Эрыдана, дзе перайшлі яго. І засталіся гэтыя камяні там да гэтага дня (4.9) (нагадваючы пра 12 апосталаў Езуса Хрыста і пра 12 знакаў Задыяка). Гэта было на дзесяты дзень першага месяца (сакавіка, калі Сонца ідзе над Эрыданам, заходзячы ў Авена).

Цалкам відавочна, што тут апісаны пераход Сонца разам з планетамі над Эрыданам праз нябесны экватар пад Андрамедай. А далей апісана і частковае зацьменне Сонца перад вялікаднем.

«Сыны богазмагальніка размясьціліся потым на коле Сферы (экліптыцы)[88] на ўсход ад Месяца.

– «Абрэж сыноў Богазмагальніка ў другі раз» – загадаў Езусу Грамабой.

---

[84] רחב (ІРХУ) ад ירח (ІРХ) – месяц.

[85] רחב (РХБ) – расьцягнуты, шырокі.

[86] אדמ ה־עיר (АДМЕ-ЭІР) – Муж Захавальнік.

[87] צר־תן (ЦР-ТН замест צרתנין (ЦР-ТНІН) – цясьніна кіта, пашча кіта, ці акулы.

[88] גל־גל (ГЛ-ГЛ) – акружнасць кола.



Мал. 105.
*«Аблога Месяцы (Ерыхона па біблейску)», і хваляванне афрызаканцаў з гэтай нагоды.*

«І калі гэта было здзейснена (г. азн. адбылося абрэзанае зацьменне Сонца) сыны Богазмагальніка ўсе разам сталі станам на коле Сферы і наладзілі на 14 дзень месяца падчас поўні вечарам сьвята праходжання праз нябесны экватар (вялікдзень). Езус (у выглядзе Сонца) зірнуў, і вось перад яго вачамі хтосьці стаіць з аголеным мячом у руцэ (сузор'е Пярсея).

– «Я правадыр ваярства Грамабоя і прыйшоў табе паведаміць: «здымі абутак з тваіх ног, таму што месца, на якім ты стаіш, сьвятое» (5.15).

Калі мы згадаем, што тут знаходзіцца сьвятое сузор'е Авена і перад ім кропка вясновага раўнадзенства, то не здзівімся гэтым славам.

Потым адбылася наступная дзіўная падзея.

«Месяц (ІРІХУ) замкнуўся, – паведамляе легенда, – і ніхто не заходзіў у яго агароджу і не выходзіў із яе.

– «Нясіце сховішча запавета, – загадаў Езус, – і хай сем сьвятароў нясуць перад ім сем труб (проста із Апакаліпсіса!).

«І вось, калі на сёмы дзень (тыдня, у суботу?) яны падняліся рана раніцай пры пачатку світання, абыйшоўшы вакол горада сем разоў (сем суткавых абарачэннязў сьвяцілаў), Езус паведаміў сваім спадарожнікам:

– «Крычыце!»

«Усе яны закрычалі гучным голасам, а сьвятары затрубілі ў трубы (як робяць на Ўсходзе і да гэтага часу пры месяцовых зацьменнях, мал. 105) і вось разламаліся сьцены Месяца (скончылася зацьменне) – і народ (метэарыты) зайшоў у яго агароджу і вынішчыў там мячом усё: мужчын і кабет, маладых і старых, цялят і авечак, і аслоў (водгалас мечападобнай каметы, што прайшла па Авену і Цяляці, накшталт прыведзенай тут каметы 1664-1665 гадоў (мал, 106).

«Але спадарожнікі Езуса вывелі са змагання Расьцягнутую (Андрамеду) і ўсіх, хто быў у яе. Яны паставілі яе па-за змаганнем богазмагальнікаў (па-за ўдарамі падаючых зорачак), і яна засталася сярод іх і да гэтага дня, за тое, што прытуліла выведнікаў (неба), выпраўленых Езусам (мал. 107). Горад (г. азн. скляпенне неба) і ўсё, што было ў ім гаручага, яны спалілі полымем (світанку), а срэбра і золата, і медзь, і жалезныя пасудзіны (ранішнія шматкаляровыя аблокі)

аддалі ў скарбніцу рода Грамабоя. І слава яго (ззянне дня) пашырылася па ўсёй зямлі» (6.27).

Скажы сам, чытач, што, на вашу думку, уяўляюць сабой гэтыя тры легенды? Ці гэта проста, як я сцвярджаю, апавяданні пра пераход Сонца і планет праз сузор'е Эрыдана, і пра нябеснае змаганне каля Андрамеды, і пра месяцовае зацьменне, якое было сустрэта трубнымі гукамі і крыкамі апасаючагася за Месяц натоўпу, як гэта робіцца ва ўсіх напалову дзікіх народаў і да гэтага часу (мал. 105)? Ці ж гэта, на вашу думку, была сапраўдная аблога нейкага забытага зараз зямнога горада Месяца, да якога нейкі Езус перайшоў праз нейкую зямную раку, падзяліўшай перад ім свае воды, і сьцены якога развалілася ад крыкаў і трубных гукаў яго ваяроў?

Калі вы адукаваны чалавек, то вы, вядома, пагадзіцеся, што апошні варыянт цалкам немагчымы.

А калі так, то застаецца толькі мой варыянт.

Захавальніца запаветаў Грамабоя – гэта ранішняя зорка, вынішчэнне ўсіх жыхароў – засланенне зорак і Месяца аблокамі, а знішчэнне ўсяго горада ў полымі – гэта знікненне ўсіх зорак, пры з'яўленні пунсовага ранішняга світанку.




Мал. 106.

*Меч-Камета, выйшаўшы із сузор'я Рыб, пасьлядоўна "уражвае" Авена, Цяля (із пашчы кіта), Арыён, Вялікага Сабаку, Гідру з Чаркай, Крумкача і знікае каля ног Панны (Lubienietski, 1681 г.)*



Мал. 107.

*Андрамеда, «застаўшаяся і да гэтага дня» на небе нягледзячы на змаганні персіяд каля яе.*

ТАБЛІЦА IX.

Злучэнні планет у сузор'і Рыб (над Эрыданам і пад Андрамедай).

(Да пераходу «Езуса» праз Ярдан)

<table>
<tr><td colspan="2">Над Эрыданам.</td><td></td></tr>
<tr><td>Сатурн</td><td>Юпітар</td><td rowspan="11">Спалучэнне 27 кастрычніка – 6г. Сонца 238° даўжыні (каард. 1900 г.) паміж Шалямі і Скарпіёнам. Юпітар над Сатурнам на адлегласьці 1° па шыраце (Юп – 1°6; Сат. – 2°6) у Рыбах пад 12° даўготы (корд. 1900 г.). Марс у Стральцы пад 289°8 даўжыні – 1°7 шыроты. Поўня без зацьмення 27 кастрычніка – 6 года.<br><br>Спалучэнне пад час маладзіка 19 сакавіка – 5 года. Юпітар (каля 28°) ужо ў Авене, Сатурн (каля 25°) на пераходзе із Рыб у Авена; Марс (каля 35°) у Авене; Венера пераходзіла із Вадаліва ў Рыбы. Меркурый (каля 350°) у Рыбах. Праз месяц 18 красавіка – 5 года ўсе планеты былі ў Авене і ў гэты ж дзень было сонечнае зацьменне, бачнае ў поўным выглядзе ў Скандынавіі, а ў частковым па ўсёй сярэдняй Яўропе</td></tr>
<tr><td>– 6.24</td><td>−5.57</td></tr>
<tr><td>23.22</td><td>30.01</td></tr>
<tr><td>52.68</td><td>53.74</td></tr>
<tr><td>82.13</td><td>89.32</td></tr>
<tr><td>111.59</td><td>113.05</td></tr>
<tr><td>141.05</td><td>148.63</td></tr>
<tr><td>170 50</td><td>172.36</td></tr>
<tr><td>199.96</td><td>196.08</td></tr>
<tr><td>229,42</td><td>231.67</td></tr>
<tr><td>258.88</td><td>255.39</td></tr>
<tr><td>288.33</td><td>290.98</td><td></td></tr>
<tr><td>317.79</td><td>314.70</td><td></td></tr>
<tr><td>347 25</td><td>350 29</td><td></td></tr>
<tr><td>376.70</td><td>375.01</td><td></td></tr>
<tr><td>406,16</td><td>409.60</td><td></td></tr>
<tr><td>435.62</td><td>433 32</td><td></td></tr>
</table>

| | | |
|---|---|---|
| 465.08 | 468.91 | |
| 494.53 | 492.63 | |
| 524.00 | 528.21 | |
| 553.45 | 551.94 | |
| 582.90 | 587.52 | |
| 612.36 | 611.25 | |
| 641.82 | 646.83 | |
| 671.27 | 670.56 | Спалучэнне пад час маладзіка 26 сакавіка 670 г. Марс у Рыбах (каля 17° даўготы) (корд. 1900 г.), Венера каля 20° і Меркурый каля 4°. Усе планеты сабраліся ў Рыбах. Праз 3 месяцы, 23 чэрвеня 670 г. было бачным ў абрэзанай форме сонечнае зацьменне ў Месапатаміі і Сірыі на ўзыходзе, а 22 лістапада таго ж года было няпоўнае месяцовае зацьменне (5"), каля 5 гадзін ад грынвіцкай поўначы і ў тую ж ноч (22 лістапада) быў максімум агнямёту гемінід, прыпадаючы зараз на 27 юліянскае лістапада (10 снежня нов. стылю). Усё падыходзіць. |
| 700.73 | 706.14 | |
| 730.19 | 729.87 | 729 г. Марс вясной у Цяляці. |
| 759.65 | 753.59 | |
| 789.10 | 789.18 | 789 г. Марс вясной у Авене і Цяляці. |
| 818.56 | 812.76 | |
| 848.02 | 848.49 | 848 г. Марс весной каля Скарпіёна |
| 877.47 | 872.21 | |
| 906.93 | 907.80 | 907 г. Пад час маладзіка 13-14 сакавіка Марс у Рыбах. Венера ў Авене (каля 38° даўгаты). |
| 936.39 | 931.52 | |
| 965.84 | 967.11 | |
| 995.30 | 990.83 | |
| 1024.76 | 1026.42 | |
| 1054.22 | 1050.15 | |
| 1083.67 | 1085.73 | |
| 1113.13 | 1109.46 | |
| 1142.59 | 1145.04 | |
| 1172.04 | 1180.63 | |
| 1201.50 | 1204.35 | |
| 1230.96 | 1239.94 | |
| 1260.41 | 1263.66 | |
| 1289.87 | 1287.39 | |
| 1319.33 | 1311.11 | |
| 1348.79 | 1346.70 | |
| 1378.24 | 1370.42 | |
| 1407.70 | 1406.01 | |
| 1437.16 | 1429.73 | |
| 1466.61 | 1465.32 | |
| 1496.07 | 1500.90 | |
| 1525.53 | 1524.62 | Маладзік 4 сакавіка 1524 года, Марс каля 6° даўгаты (згодна з 1900 г.), Венера каля 7°, Меркурый каля 11°. Усе планеты ў Рыбах, але падыходзячых зацьменняў няма. |
| 1525.53 | 1524.62 | |
| 1584.44 | 1583.93 | 1583 год. Марс вясной каля Рака. |
| 1613.90 | 1619.52 | |
| 1643.36 | 1643.26 | 1643 год. Марс вясной каля Цяляці. |
| 1672.81 | 1678.83 | |
| 1702.27 | 1702.55 | 1702 год. Марс вясной каля Стральца. |
| 1731.73 | 1738.14 | |
| 1761.19 | 1761.82 | 1761 год. Пад час маладзіка 6 сакавіка Марс быў у Рыбах (каля 8°), Венера ў другой палове Авена (каля 44°. Не падыходзіць па Вянеры. |
| 1790.64 | 1797.45 | |
| 1820.10 | 1821.17 | |

Паказаныя тут умовы – час юдэйскага вялікадня пры сыходжанні большасьці планет над Эрыданам – прыводзяць да пошуку гэтай падзеі ў сакавіку, раней раўнадзенства і пры наяўнасьці дадзенай канстэляцыі. Але адзіныя гады, калі Марс, Юпітар і Сатурн зыходзіліся над Эрыданам, былі на працягу нашай эры пад час сакавіцкага маладзіка толькі ў 670 і 1524 гадах, а да іх толькі ў мінус 5-м годзе (табл. VIII). Аднак, у апошнім выпадку Венера пад час маладзіка 19 сакавіка была яшчэ ў сярэдзіне Вадаліва (каля 333° даўготы згодна з каардынатамі 1900 г.). Лічачы пры тым жа 1524 год вельмі позьнім, мы прыходзім да высновы, што падобная астральная выява спісана з нябесных з'яваў вясной 670 года; тым больш, што следам за гэтым, 27 чэрвеня было бачна ў абрэзаным выглядзе ў Двайнятах сонечнае зацьменне ў Месапатаміі і Сірыі пры ўзыходзе, і ў гэты ж час нашчадкі Магамета ўсталёўвалі тут звычай абразання. А потым 22 лістапада таго ж года было і частковае месяцовае зацьменне ў Цяляці, бачнае ў Яўропе, Афрыцы і заходняй палове Азіі з максімальнай фазай 5"5 і ў суправаджэнні полымямёта Гемінід, прыпадаўшага тады якраз на 22 лістапада 670 года ў сваім максімальным выглядзе.

Не спыняючыся больш на гэтым эпізодзе із заваёвы Езусам-Сонцам зямлі Запаветнай, пяройдзем да наступнага за ім апавядання, таксама ўсюды пераклаўшы значэнні ўжытых у ім уласных найменняў, пакінутых без перакладу тэолагамі, і пазначыўшы іх астральнае значэнне.

«Езус-Сонца выправіў выведнікаў (планеты) ад Месяца да Купкі (купкі зорачак у сузор'і Валасоў Веранікі)[89], што пры сядзібе Сонца (сузор'і Ільва) з усходняга боку Сядзібы бога (Ясляў у Раку) і загадаў ім:

– «Пайдзіце і агледзьце гэту краіну».

«Яны вярнуліся і паведамілі:

– «Не патрэбна туды ісьці ўсім, там мала народу».

«Але калі частка богазмагальнікаў (частка планет) прыйшла туды, жыхары Купкі выйшлі супраць іх з вогненнымі дзідамі (падаючымі зорачкамі-леанідамі із сузор'я Ільва) і забілі 36 чалавек із выпраўленых на іх трох тысяч. Богазмагальнікі (планеты) адступілі (адваротным рухам), перасьледуемыя (вогненнымі дзідамі) ад варот (перакрыжавання эклiптыкі з экватарам) да месца Адплат (сузор'я Ільва) на схіле ўзвышэння (экліптыкі).

«Ратавальнік разарваў свае адзенні (аблокі) і ўпаў тварам на зямлю (на гарызонт) перад сховішчам запавету Грамабоя (ранішнім світанкам) і ляжаў так да вечара, а старэйшыны богазмагальніка (24- гадзіны сутак) пасыпалі попелам (аблокамі) свае галовы.

– «Грамабой! – прамовіў Езус-Сонца. – Для чаго ты перавёў увесь гэты народ цераз раку Сыходзячых (Эрыдан), каб загубіць іх? О, калі б мы засталіся за ракой!»

– «Не жадаю я быць з вамі, – адказаў яму Грамабой, – пакуль вы не вынішчыце са свайго асяроддзя ўзяўшага забароненае».

«Езус падняўся раніцай і загадаў дванаццаці каленам богазмагальніка (сузор'ям Задыяка) праходзіць перад ім аднаму за другім» і вось было яму паказана калена Юды (сузор'е Ільва). Езус загадаў падысьці да сябе пачаргова яго плямёнам, і паказана было яму племя Зіхацячага; ён загадаў праходзіць яго сямействам, і паказана было яму сямейства Долі. Ён загадаў падыходзіць да

[89] עי (ЭЙ ці ОЙ) – куча, грудка.

сябе ўсім яго людзям і паказаны быў яму Падбухторшчык, сын вінаградара (каля зоркі Вінаградарніцы ў сузор'і Панны).

– «Праўда, я саграшыў перад Грамабоем, – прызнаўся Падбухторшчык. – Я пабачыў паміж здабычаю адно выдатнае персідскае адзенне, злітак золата і дзьвесьці сікляў срэбра і схаваў гэта ў зямлі пад маім шатром».

«Езус вывеў яго з усім гэтым дабром у даліну Абурэння, і дзеці Богазмагальніка спалілі іх там полымем (сьвітання) і накідалі на іх вялікую кучу камянёў (абсыпалі метэарытамі). Гэтае месца мае назву даліна Абурэння і да гэтага часу» (7. 1-26).

– «Зараз, прамовіў Грамабой Езусу, – падніміся, ідзі паходам на Купку (зорачкі Веранікі) і зрабі з ёй тое, што ты зрабіў з Месяцам, але здабытае не аддавай мне, а хай твае людзі бяруць н сваю карысць.

«Езус пакінуў засаду ззаду гэтага ўмацавання паміж ім і сядзібай бога (сузор'ем Рака), з заходняга боку Купкі (8. 12), і прайшоў у тую ноч пасярод даліны. Жыхары Купкі выйшлі на бітву супраць богазмагальнікаў. А яны, быццам уражаныя жахам, адыходзілі перад імі (планеты пачалі адваротны рух перад полымямётам леанідаў у Раку, як бывае ў лістападзе падчас гэтай з'явы, калі Сонца ў Змеятрымальніку). Жыхары Купкі пакінулі свой горад адчыненым і ўсе пагналіся за богазмагальнікамі. Езус жа накіраваў сваю дзіду (метэарыт) у накірунку да Купкі. Сядзеўшыя ў засадзе адразу зайшлі ў яго і запалілі гэты горад полымем.



Мал. 108.

*Сучасны «цар метэарытаў, забіты богам і павешаны на небе, пасьля полымямёта» Малюнак з натуры.*



Мал. 109.
*Метэарыт, упаўшы паблізу Грашыны.*

«Пераследаваўшыя богазмагальнікаў апынуліся ў сярэдзіне паміж двума іхнымі атрадамі, той і другі атрад забіваў іх (метэарытамі) так, што не засталося ні ацалелага, ні збеглага. На працягу шасьці дзён тады загінула дванаццаць тысяч. Езус узяў Купку. Яе цара павесілі на Дрэве (колюре восеньскага раўнадзенства, мал. 108), а потым кінулі яго (метэарыта) каля гарадзкіх варот і накідалі на яго яшчэ кучу камянёў, існуючую і да гэтага часу.

«У гэтыя дні Езус пабудаваў ахвярнік богу богазмагальнікаў із няцесаных камянёў на гары Куча Юпітэра[90], насупраць гары Адлучаных[91]. Ён наладзіў на ім ахвяры ўсеспалення і мірныя ахвяры і намаляваў на гэтых камянях копію закона збаўцы Майсея» (8. 1-32).

Гэтая легенда служыць працягам папярэдняй пра падзенне сьцен Месяца і таму таксама павінна мець не сацыяльнае, а астральнае паходжанне, хаця яно і не высьветлена мной у дэталях. Мне здаецца, што ўсё яно цалкам заснавана на рэальным падзенні ў той час у мясцовасьцях апавядальніка значнай колькасьці метэарытаў і на дажджы падаючых зорачак леанідаў – над Гідрай; у той час калі Месяц і тры вонкавыя планеты Марс, Юпітар і Сатурн былі ззаду купкі дробных зорачак Веранікі і спыняліся тут, каб пачаць адваротны рух, каля 13 лістапада, калі Сонца разам з Меркурыем і Венерай знаходзілася паблізу Змеятрымальніка. Гэтая з'ява магла быць добра бачнай ад 2 гадзін ночы да ўзыходу сонца.

Цар гэтай Купкі, якую ў царкоўным тэксце завуць яе біблейскай назвай Гой, магчыма вялікі метэарыт, праляцеўшы адсюль да колюру восеньскага раўнадзенства і там напалову згарэўшы, пакінуў пасьля сябе не некаторы час вісячае воблака.

А яго рэштка разам з адломкамі магла, сапраўды, зваліцца каля гарадзкіх варот, як гэта і бывае (мал. 109).

Што ж да таго, што буйныя воненныя метэарыты лічыліся цмокам, скінутых з неба ці пралятаўшых па яму, то гэта ўсім вядомы факт у летапісах астраноміі. Варта толькі прачытаць «Хроніку адзнак і дзіваў» Лікасфена, каб знайсьці там цэлы шэраг амаль такіх жа апавяданняў пра нябесныя з'явы.

Такім чынам, аўтар кнігі пра Езуса, які пісаў ужо праз шмат дзесяцігоддзяў пасьля яго «ўзнясення» на неба, прадоўжыў там яго зямное жыццё ў змаганні з варожымі магутнасьцямі ў справе заваявання запаветнай зямлі. Назіраючы там не толькі з'яўленні мячоў, на падобе камет, але і адбываючыяся там змаганні вгненнымі дзідамі, ён пазначаў і скідаемых адтуль цмокаў. Хіба мы не маем ў Мецы, у Каабе, метэарыт, палічаны за камень кінуты самім богам і адшліфаваны з тых часоў пацалункамі вернікаў?

Легенда пра штурм Езусам горада Купкі – гэта легенда пра лістападаўскі дождж леанідаў, рэшткі якога мы бачым і зараз. Езус прыйшоў туды, – кажа легенда. – із кола сферы, разам з усімі ваярамі (10. 7), і пачалася вялікая бітва на Вышыні скланення (г. азн. на вышэйшай кропцы паўночнага скланення экліптыкі[92] у Двайнятах).

Гэта і ёсць тая выдатная бітва, дзе біблейскі Езус спыніў Сонца і Месяц. Разгледзім жа яе бліжэй.

Ён без бою заняў вышыню Нахілення (г. азн. найвышэйшы пункт экліптыкі ў сузор'і Двайнят) і з ёю сузор'е Ільва[93], Гідры[94] і ўмацаванне Мядовыя Соты[95] (згуртаванне зорачак Веранікі, 9. 17). Пры гэтым качэўнікі (хмары) ашукалі яго (9.

[90] עי־בל (ЭІ-БЛ) – куча Віла (Юпітар).

[91] גרזים (ГРЫМ) – адхіленыя, адлучаныя.

[92] גבעון (ГБЭУН) ад גבה (ГБЕ) – вышыня і עון (ЭУН) – нахіленне. Гэта не горад Гаваон, як тлумачаць гісторыкі, а чыста астранамічны тэрмін існуючы і да гэтага часу. Нахіленнем завецца кутняе адхіленне дадзенай кропкі неба ад нябеснага экватара, а прамым узыходжаннем – кутняя адлегласць гэтага пункта ад мерыдыяна вясновага раўнадзенства.

[93] בפיר (КПІР) – леў.

[94] בארות (БАРУТ) – множны лік ад БАР – прорва, яма, згуба. Астралагічнае значэнне сузор'я Гідры.

[95] קרית יערים (КРІТ ІЕРІМ) – умацаванне мядовых сот ад יער = יערה (ІЕРЕ ці ІЕР) – мядовыя соты.

7), паведаміўшы, што яны жывуць удалечыні ад Запаветнай зямлі (г. азн, ніжэй неба). Езус даў іхным амбасадарам абяцанне пашкадаваць іх і потым, даведаўшыся пра падман, ужо не мог парушыць сваё слова, а толькі зрабіў іх навекі служкамі богазмагальнікаў, ваданосамі і дрэваломамі.

«Жыхары той краіны пабеглі да Езуса-Сонца прасіць пра дапамогу, і Грамабой сказаў яму:

– «Не бойся ісьці: ніхто не выстаіць перад тваім тварам».

«Усю ноч ішоў Езус із кола сферы, прыйшоў на вышыню (сонечнага) Нахілу (у сузор'е Двайнят) і ўразіў каля яе сваіх ворагаў моцнай паразай. Ён пераследаваў іх (агнявымі стрэламі) па ўсёй дарозе да вышынь Сядзібы Пячоры[96] (цясніны Млечнаю Шляхі ў сузор'і Скарпіёна) да моцных сьцен (Млечнага Шляхі[97]), да месца глыбокай пашаны (сузор'яў Змеятрымальніка і Ахвярніка[98]).

«Калі яго ворагі (збягаючыя хмары, супаўшыя з дажджом метэарытаў-леанідаў у лістападзе, пры Сонцы знаходзічымся ў Скарпіёне) былі на схіле Пячорнай гары (расколіны Млечнаю Шляхі каля Змеятрымальніка), Грамабой кідаў на іх із нябёс вялікія камяні, (мал. 109), і было ў іх больш загінуўшых ад каменнага граду, чым ад мячоў сыноў богазмагальніка.

– «Спыніся Сонца на Вышыні скланення і Месяц над далінай (нябеснага) карніза (тропіка Раку»[99]), – сказаў Езус (ужо адасоблены аўтарам ад Сонца).

«І спыніліся Сонца і Месяц, пакуль народ-богазмагальнік помсьціў сваім ворагам, – вось! Усё гэта запісана ў кнізе справядлівага! – І не было такога дня ні раней, ні пасьля гэтага» (10. 13).

Тут мы дайшлі (але ўжо з тлумачэннямі) да такога месца легенды пра ўзнёсшагася Езуса, якое моцна бянтэжыла нават і тэолагаў пасьля Каперніка.

– Як мог Езус спыніць Сонца, калі яно і без таго стаіць, а верціцца сама Зямля? – пыталі іх астраномы. – Калі б жа ён спыніў вярчэнне зямлі, то ўсё яго ваярства (лічымае на ёй жа) паляцела б па інэрцыі ў атачаючую прастору з усім, што ёсць на паверхні зямлі, з хуткасьцю амаль палову вярсты ў секунду, г. азн. з хуткасьцю большай чым хуткасць пашырэння гуку ў атмасферы.

Але мы лёгка адкажам зараз і на гэта пытанне.

«Вяршыня нахілення», дзе адбываўся нябесны бой Езуса, гэта месца «летняга сонцастаяння, ці летняга спынення Сонца, назва, якую яна мае ў астраноміі і да гэтага часу! Тут Сонца спыняецца штогод у сваім руху на поўнач і паварочвае на поўдзень! І ў той жа час гэта самы доўгі дзень на нашым паўночным паўшар'і, дзень «якога не бывае ні раней, ні пазней» на працягу цэлага года, як і сказана ў тэксце!

Гэта азначае, апісанае тут «змаганне» адбывалася ў ноч з 21 на 22 дзень грыгарыянскага чэрвеня і ўяўляе сабой астральнае апісанне таго, як рэальны Езус, нягледзячы на бязлітаснае супраціўленне руцінёраў, вызначыў месца і велічыню сонечнага нахілу і паказаў, што ў гэты дзень Сонца спыняецца, у сваім руху на поўнач. Тут апісана не рэальная, а сімвалічная бітва, дзе ўсе планеты і сузор'і дапамагалі Езусу змагацца з руцінёрамі, і ён перамог іх.

---

[96] חורן בית (БІТ-ХУРН) – сядзіба пячоры.

[97] עוקה (ЭЗКЕ) – моцныя сьцены, два адгалінаванні Млечнага Шляху.

[98] מקרה (МКДЕ) – глыбокая пашана, пакланенне.

[99] אילון (АІЛУ ад АІЛ) – як архітэктурны тэрмін азначае перадавы выступ каля дзвярэй, карніз.

Як мастацкі фон, сюды дададзены і хмары, якія падчас летняга сонцастаяння быццам бы абложвалі і засланялі да заходу Сонца вызначаную ім найвышэйшую кропку экліптыкі, і дождж каменных метэарытаў, пасыпаўшыся на галовы супернікаў яго астранамічных вылічэнняў.

Гэтая легенда пра спыненне Сонца служыць, згодна з маім глыбокім перакананнем выведзеным грунтуючыся на супастаўлення шматлікіх фактаў, важным указаннем на вялізную астранамічную заслугу Васіля Вялікага яшчэ пры яго зямным жыцці.

Шмат якія месцы біблейскіх і евангельскіх легендаў прыводзяць да высновы, што ён нездарма атрымаў у Бібліі назву Езус бэн-Навін, г. азн. рыбак, як і евангельскі Езус, і што нездарма эмблемай першых хрысьціян былі Рыбы, а паплечнікі Езуса мелі назву рыбакі. Магчыма, што менавіта ён і перанёс у сузор'е Рыб кропку раўнадзенства, якая да таго часу лічылася ў Цяляці, чым магчыма таксама тлумачыцца і легенда пра знішчэнне Майсеем – біблейскім дублікатам апостала Пятра – зорнага залатога Цяляці, якога ўшаноўвалі богазмагальнікі пры яго адсутнасьці, лічачы, (і прытым са свайго боку гледжання слушна), за момант раўнадзенства пачатак вечаровых апусканняў Цяляці ў полымі дагараючай вечаровай зарніцы. Перамясьціць кропку раўнадзенства на цэлае сузор'е назад, згодна з ўяўленнямі таго часу, калі не сонца лічылася ідучым па сузор'ях, а яны даганяючымі яго, азначала таксама падоўжыць нейкі дзень на дзве гадзіны. Аднак, я не настойваю на гэтай апошняй здагадцы, бо і простага адкрыцця сонцастаянняў дастаткова для тлумачэння легенды пра спыненне Езусам Сонца.

Я не буду тут пераказваць таго, як пазней была падзелена Запаветная зямля паміж дванаццаццю каленамі Богазмагальніка, каб не ўсыпіць чытача дробнымі падрабязнасьцямі, а перайду непасрэдна да аднаго цікавага эпізоду гэтага падзелу.

«Сыны богаслоўя падышлі ў Коле сферы да Езуса-Сонца і Вартаўнічы Сабака (у асобе Сірыуса) сказаў яму:

– «Я быў сарака гадоў, калі чалавек Грамабоя, Збаўца (Майсей) выпраўляў мяне са сьвятога горада агледзець Запаветную зямлю і кляўся ён мне ў той дзень: «зямля, па якой хадзіла твая нага, будзе навекі тваёй доляй і доляй тваіх дзецей». Сорак пяць гадоў прайшло з таго часу, і мне зараз ужо 85 гадоў, але я такі ж моцны, як і тады. Дай жа мне тую гару, пра якую казалі, што там жывуць волаты, дзеці Энка і стаяць вялікія ўмацаваныя гарады».

«І даў Езус яму вобласць Таварышаў (Двайнят), якая раней мела назву Ўмацаванне Засады (таму што адтуль Сонца ідзе ўніз). І супакоілася краіна ад вайны» (14. 15).

«І даў Вартаўнічы Сабака (Сірыус) сваёй дачцэ ў якасьці пасага крыніцы верхнія і крыніцы ніжнія».

«Усім каленам богазмагальніка даў Езус месцы ў Запаветнай зямлі, якая цячэ малаком і мёдам (г. азн. сімвалізаваў у сузор'ях). Ён даў народу-богазмагальніку статуты і закон, ён узяў вялікі камень і паставіў яго пад дубам побач са свяцілішчам і паведаміў:

– «Гэты камень чуў усе словы бога Грамабоя і хай будзе сведкам на вас, калі вы адыйдзеце ад вашага бога».

«Езус памёр ва ўзросьце ста дзесяці гадоў і пахавалі яго ў межах яго долі ў паўднёвым нахіленні на гары АФ-Рым, на поўнач ад гары Абурэння».

Такое заканчэнне мае біблейская кніга Езус. Ён памёр, згодна з яе сведчаннем, ужо ў запаветнай зямлі, г. азн. на небе, як гэта ні здаецца дзіўным з першага позірку.

# ГЛАВА XIII.

## Першая чалавечая статыстыка і першыя шляхавыя маршруты.

Кожная грамадзкая статыстыка па сваёй сутнасьці з’яўляецца толькі замацаваннем вызначанага, імгненнага стану нейкага складанага дынамічнага працэса, адбываўшагася ці адбываючагася ў дадзеным грамадстве, а таму ў ёй абавязкова павінен прысутнічаць фактар часу. Без вызначанасьці часу яна губляе які б там ні было сэнс, як гэга здарылася і са статыстычнымі дадзенымі адносна колькасьці насельніцтва розных богазмагальніцкіх краін, прыведзенымі ў біблейскай кнізе «Лічбы», пасьля таго як згубіўся час гэтых пералікаў і нават былі забытыя месцазнаходжанні пералічаных у ёй народаў.

Зараз мы вызначылі іх сапраўдныя месцазнаходжанні на зямной паверхні і маем магчымасць аднавіць астранамічным шляхам і іхны час, а таму набываюць цікавасць і тыя лікавыя дадзеныя, якія мы знаходзім у кнізе «Лічбаў».

Для вызначэння яе часу, я ўжо скарыстаўся вышэй[100] гараскопам, які змешчаны ў 22-й яе частцы, астральны сэнс якой не пакідае ніякага сумневу. Гэта вядомая легенда пра прарока Валаама і яго асліху, загаварыўшую чалавечым голасам.

Мы бачылі тады, што Валак, імя якога азначае разбуральнік, касец, – знак планеты Сатурн, – выпраўляе пасланнікаў – хмаркі да Валаама (БЛ-ЭШ), імя якога азначае Юпітар-народа, просячы яго прыйсьці на месца сваёй стаянкі па найменню Ерыхон, г. азн., горад Месяца, сузор'е Рака[101] для таго, каб праклясьці ідучых на яго пасьлядоўнікаў Збаўцы.

Юпітар-Валаам намерыўся ехаць да яго на сузор'і Двайнят, але да яго прыйшоў бацька багоў (АЛЕІМ), відавочна ў выглядзе Эліяса-Сонца і спачатку забараніў яму ісьці, а потым, пасьля другога запрашэння (гадавога колазвароту Сонца), дазволіў зрабіць гэта, г. азн. Юпітар, што даганяў у Двайнятах Сатурна, зрабіў спачатку адваротны рух (калі Сатурн пайшоў да яго із Рака праз такі ж адваротны рух), а потым пачаў свой прамы рух і пачаў даганяць Сатурна ў Раку, як гэта і бывае заўсёды перад іх злучэннем у якім-небудзь сузор'і. Але на яго шляху да Валака-Сатурна вястун бога Грамабоя (г. азн. камета) з аголеным мячом у руцэ стаў на яго шляху.

Асліха, на якой ехаў Юпітар-Валаам, г. азн. зорачка Асліха ў сузор'і Рака, пабачыла камету і не дазволіла Юпітэру ехаць далей, г. азн. ён зноў зрабіў адваротны рух над гэтай зорачкай, што магло быць толькі ў лістападзе. Потым камета сышла із экліптыкі, што было патлумачана, як дазвол анёла з мячом працягваць шлях, і Юпітар зноў пайшоў да Сатурна прамым шляхам і дагнаў яго ў сузор'і Рака.

Там яны абодва зноў пачалі хадзіць прамым і адваротным рухам, сустрэўшыся тры разы, як гэта бывае пры іх студзеньскіх – цэнтральных сустрэчах

[100] «Хрыстос», I кніга: «Легенда пра Валаама і яго асліху».

[101] ירחו (ІРХУ) ад ירח (ІРХ) – Месяц, а таксама сядзіба Месяца – сузор'е Рака, 12-я доля года. У трох месцах Бібліі (Друг. 34, 3; Езус 2, 1 і I [III] Цар. 16, 34) ён мае назву горад Пальмаў.

у Раку. Гэта ў легендзе і было патлумачана тым, што Сатурн-Валак вадзіў Юпітэра ў тры розныя месцы праклінаць прыхільнікаў «Збаўцы», але ён замест праклінання ўсюды іх добраслаўляў і пасьля трэццяга разу пайшоў сваім шляхам, г. азн. перагнаў Сатурна-Валака і больш із ім не сыхадзіўся ў Раку, некалькі соцень гадоў, як гэта заўсёды бывае пры падобных выпадках.

Такой з’яўляецца зразумелая астральная падстава легенды пра Валаама і яго размаўляючую асліху, ужо дастаткова разабраная мной у першай кнізе «Хрыста». І мы бачылі, што адзінае рашэнне, якое даецца астраноміяй для падобнай легенды – гэта 710 год нашай эры, час Піпіна Герыстральскага, маярдома ўсёй Франкскай імперыі (687-714 г.), калі ў Італіі панавалі лангабарды, моцна ўціскаўшыя рымскіх папаў, якія звярнуліся, нарэшце, за дапамогай да франкскіх каралей.

Ці магчыма дапусьціць існаванне такой позняй ўстаўкі ў біблейскую кнігу Лічбаў?

З астранамічнага боку гледжання нам не застаецца іншага выбару, тым больш, што і астатнія нябесныя з'явы ўскосна падцверджваюць гэта. Вазьміце, напрыклад, Марс: ён у 710 годзе знаходзіўся якраз у адмыслова месіянскім сузор'і – Авене, і апісваў у ім амаль такую ж пятлю, як і пры ўзнікненні Апакаліпсіса ў 395 годзе (грунтуючыся на графіку 1847-1848 г.г.), а потым хутка пайшоў у Рака, даганяць Юпітэр і Сатурн.

Але калі аўтар пісаў гэта ўжо пасьля 710 года, то ён мог такім жа шляхам «аднавіць» і іншыя дэталі кнігі Лічбаў. У такім выпадку яна перастае быць для нас першакрыніцай для вывучэння падзей IV стагоддзя і з'яўляецца толькі характарыстыкай поглядаў, існаваўшых у VIII стагоддзі ці нават пазней.

Вось якімі былі гэтыя погляды ў момант узнікнення заканадаўства на Вязувіі.

Пры Збаўцы (Майсею) і яго брату Асьветніку (Арону), – сведчыць аўтар у І Главе, – было налічана 603 550 чалавек богазмагальнікаў мужчынскай статі старэй дваццаці гадоў, прыдатных для вайны. А пры другім попісе, пазначаным у Главе 26, і маючым дачыненне да часу таго ж «Збаўцы», але праведзенаў ўжо пры сыне Асьветніка «Боская дапамога» (Елеазары) такіх богазмагальнікаў было толькі 601 730, як гэта дэталёва паказана ў табліцы 10. Дапусчаючы, што столькі ж было і кабет, мы прыходзім да высновы, што ў часы Збаўцы (Майсея) г. азн. згодна з нашым храналагічным атаясамленнем, Дыяклетыяна, ці ж Кастуся Вялікага, у першай палове IV стагоддзя было да паўтары мільёна дарослых арыян ды столькі ж непаўналетніх, г. азн. больш трох мільёнаў. Для малюсенькай Палестыны гэта вельмі шмат для таго часу, а для Лаціна-Эліна-Сірыйска-Ягіпецкай імперыі пачатку IV стагоддзя цалкам дастаткова, асабліва калі прыняць у разлік, што больш паловы насельніцтва павінна было неяк пазбегнуць попісу праз баязнь патрапіць пад паборы ці падаткі.

А другая наша «першакрыніца» паведамляе, што першы попіс зрабіў Умілаваны цар (Давыд) праз «Боскага Бацьку», што зноў паказвае на час юнацтва «вялікага цара (г. азн. Езуса-Васіля)». Гэта, вядома, той жа самы попіс, але толькі ў кнізе Самуіла (21. 24, 9) гаворыцца, што ўсіх мужчын, моцных і здольных да вайны, выявілася гэтым разам 1 300 000 чалавек, а ў «Згубленай кнізе» (І Параліпаменан 21. 5) паведамляецца пра тое ж, што ўсіх богазмагальнікаў было налічана мільён, із якіх 100 000 агалялі меч, ды богаслаўцаў, агаляючых меч, 470 000 чалавек.

## ТАБЛІЦА X.

*Колькасць ваяроў-богазмагальнікаў*

| Пры Вязувіі (Глава I) | | Пад Ерыхонам (Глава 26) | |
|---|---|---|---|
| Сыноў: | | Сыноў: | |
| Раувіна | 46 000 | Раувіна | 43 730 [3]) |
| Шмеона | 59 300 | Шмеона | 22 200 |
| Гада | 45 650 | Гада | 40 500 |
| Юды | 74 600 | Юды | 76 500 |
| Ішакара | 54 300 | Ішакара | 64 300 |
| Завулона | 57 400 | Завулона | 60 500 |
| Аф-Рыма | 45 500 | Аф-Рыма | 32 500 |
| Манашы | 32 200 | Манашы | 52 700 |
| Бен-Іміна | 35 400 | Бен-Іміна | 45 600 |
| Дана | 62 700 | Дана | 64 400 |
| Ашура | 41 500 | Ашура | 53 400 |
| Нафтлі | 53 400 | Нафтлі | 75 400 |
| Усяго 603 550 | | Усяго 601 730 | |
| А асоб сьвятарскага звання (луі) было налічана 22273, разам з хлопчыкамі больш месяца (**3.** 28). | | А лявітаў, разам з хлопчыкамі старэй 2 месяцаў, выяілася 23000. | |

У першай кнізе «Хрыста» я ўжо паказваў на дыяграме, што Ўмілаваны цар Давыд храналагічна налягае на «богопрызванага цара Дыяклетыяна», якога мы лічым памёршым згодна з гістарычнай традыцыяй у 313 годзе. Ён быў празваны Jovis, г. азн. Еговін ці Зеўсаў, падзяліў імперыю на 4 галоўныя часткі і на 12 дыяцэзаў згодна з колькасьцю сузор'яў Задыяка, а потым адышоў ад улады. Яго радзімай лічаць Далмацыю, г. азн. вузкую паласу ўздоўж берагоў Адрыятычнага мора да поўдня, ад паўвострава Істрыя. Вось чаму мімаволі хочацца атаясаміць і чараўніка-збаўцу (Майсея) не з Кастусём, а хутчэй з Дыяклетыянам, г. азн. з умілаваным царом Давыдам, таксама паэтам, хоць і не цудадзеем. Што ж да Арона-Арыя, яго сьвятара і паплечніка, то яго давядзецца атаясаміць таксама і з прарокам Самуілам, памазаўшым на царства спачатку Саула (Сам. 10.1). а потым, яшчэ пры яго жыцці, і юнака Ўмілаванага (Давыда, I, Сам. 16. 13).

Другі попіс арыян-богазмагальнікаў, паказаны ў табліцы 10 і датаваны гадам праз 40 гадоў пасьля першага, дапасуецца, ва ўсякім разе, ужо да часоў евангельскага Езуса, і ў такім выпадку эпізод пра Валаама і асліху, даючы гораскапічна 710 год, даводзіцца прызнаць за пазнейшую ўстаўку, ды і сапраўды, усе тры частачкі пра іх не маюць ніякай сувязі з астатнім зместам кнігі Лічбаў і могуць быць проста выкінуты із яе без парушэння складнасьці астатніх частак.

З далейшага зместу Лікаў (гл. 2) бачна, што гэта быў поўны склад рымскага войска, бо там непасрэдна паказана размяшчэнне 12 кален народа богазмагальніка пры Езусе:

У накірунку на ўсход: сьцяг стану Юды і каля яго сьцягі станаў Ішакара і Завулона. Гэтыя сцягі, – кажа аўтар, – першымі выпраўляюцца на вайну ў колькасьці 187 400.

Але на ўсходзе імперыі Дыяклетыяна, дзе на самай справе толькі і маглі быць сур'ёзныя войны з не падпарадкоўваўшыміся персамі і іншымі моцнымі азіятамі, былі: Сірыя, Малая Азія і Грэцыя, адкуль атрымліваецца, як і далей будзе паказана: станам Юды з’яўляецца Сірыя з Месапатаміяй, стан Ішакара – Малая Азія з Арменіяй, і стан Завулона – Элада, г. азн. Іянічным архіпелагам і часткай Балканскай паўвыспы і Малаазійскага ўзбярэжжа.

У накірунку поўдня: сьцяг стану Раувіна і каля яго сьцягі станаў Шмеона і Гада. Яны павінны былі выпраўляцца другімі, у колькасьці 151 450, а нашчадкі Левія прапушчаны.

Але на поўдні былі: Аравія, Ягіпет і Лівія з Маўрытаніяй, да якой далучалася і Гішпанія, пад час панавання там маўраў. Адсюль выходзіць: стан Раувіна – Ягіпет, стан Шмона – Аравія, стан Левія – Лівія, стан Гада – Маўрытанія.

У накірунку захаду: сьцяг стану АФ-Рыма і каля яго сьцяг стану Манашэ і сьцяг стану Бэн-Іміна. Яны павінны былі выпраўляцца трэццімі ў колькасьці 108 000.

Але Заходнюю імперыю складалі: Ламбардыя, Рымская Італія і Сіцылія: адсюль выходзіць: стан АФ-Рыма – Рымская вобласць, стан Манашэ – Ламбардыя і стан Бэн-Іміна – Сіцылія.

У накірунку поўначы: сьцяг стану Дана і каля яго Ашура і Нафтлі. Яны павінны былі выпраўляцца апошнімі ў колькасьці 157 600.

Але на поўначы былі непаўнавартыя данайцы ці задунайскія славянскія народы, германцы (готы) і франкі (галы). Адсюль выходзіць: стан Дана – дунайскія славянскія землі, стан Ашура – Германія, стан Нафтлі – Францыя. Усе тры выяўляюцца станамі дзяцей Богазмагальніка, народжаных ад прыслужніц.

Усяго 603 550.

«Служкі царквы (ЛУІ) не ўключаліся ў войска, але калі выступаў намёт сходу, тады стан лявітаў павінен быў ісьці пасярод астатніх станаў» (2. 17). Гэта азначае, што лівійцаў – лявітаў не бралі ў войска. Адсюль і вынікае, што 12 кален Ізраіля-богазмагальніка былі 12 нацыянальнымі войскамі Рымскай імперыі IV стагоддзя, патронамі якіх былі 12 сузор'яў Задыяка, а разам з тым мы зараз знайшлі і згубленыя гісторыкамі без следу 12 кален Ізраіля: мы–рускія – калена Данава, немцы – калена Асірава, французы – Неўфалімава і г.д.

Але слушнасць усяго гэтага я яшчэ давяду ў асобнай частцы.

Характар рэлігійных пастаноў, якіх шмат мае кніга Лічбаў, часта выяўляе іхны сярэднявечны змест. Відаць, гэта складанне вельмі розначасовых паданняў, злучаных у адну кнігу толькі пад канец сярэдніх стагоддзяў.

Вось, напрыклад, спосаб пераканацца, ці верная жонка свайму чалавеку:

«Калі ў чалавека ўзнікне дух рэўнасьці, то хай ён прывядзе сваю жонку да сьвятара і паставіць перад тварам бога Грамабоя. Сьвятар возьме сьвятой вады (!) у гліняную пасудзіну і зямлі з падлогі храму і пакладзе ў ваду. Ён паставіць жонку перад тварам Грамабоя, агаліць яе галаву, дасць ёй у рукі мучное прынашэнне яе члавека, а ў руцэ святара будзе горкая вада наводзячая праклён. Ён закляне жонку і прамовіць:

– «Калі ты нічога не зрабіла супраць свайго чалавека, то не зведаеш шкоды ад гэтай горкай вады наводзячай праклён, а калі нехта ляжаў з табой акрамя чалавека, ды аддасць цябе бог праклёну ў асяроддзі твайго народа і зробіць твае грудзі апалымі, а жывот надзьмутым».

«Жонка ж павінна адказаць:

– «Амэн! Амэн!»

«Сьвятар напіша закляцце на скрутку папіруса і змые яго ў горкую ваду. Ён возьме із рук жонкі мучное прынашэнне, патрасе яго перад богам-бацькам і аднясе да ахвярніка, дзе спаліць на ахвярніку адну жменю з яго, а астатняе дасць жонцы выпіць. І ўспухне яе жывот і ападуць грудзі, калі яна парушыла вернасць свайму чалавеку, і будзе яна насіць праклён у сваім народзе, а калі была чыстая, тое застанецца цэлай» (5. 25}.

Ці не нагадаеш, чытач, калі былі ў цэрквах такія выпрабаванні і такія забабоны? Толькі пад час сярэдніх стагоддзяў! Ды і наогул, ніякае сьвятарства, акрамя сярэднявечнага і хрысьціянскага, не вынаходзіла нічога падобнага.

Тут і «сьвятая вада», тут і слова «амэн», ды і сам бог-Грамабой – хрысціянскі «бог-бацька, стваральнік неба і Зямлі, усяго бачнага і нябачнага». Чаго яшчэ больш трэба?

У нашых перакладах Бібліі ўвесь яе змест, агульнавядомы пад час сярэдніх стагоддзяў, моцна зацемнены неперакладзенымі біблейскімі найменнямі. Вось, напрыклад, хаця б, паўсюдна згадваемая ў гэтай кнізе назва храма "скінія". Адкуль яна ўзята? У арыгінале Біблііі замест яе ўсюды стаіць М-ШКН, і гэтае напісанне азначае «жытло» і больш нічога.

Дакладна гэтак жа і для пазначэння духоўнага стану мы ўсюды чытаем у нашых перакладах: лявіт, а ў Біблііі стаіць ЛУІ і гэтае напісанне азначае «памочнік сьвятара», па-грэцку «дыякан». А тым часам і ў грэцкім тэксце слова лявіт пакінута неперакладзеным, адмыслова для таго, каб чытач адразу ж не здагадаўся, што гаворка ідзе пра дыяканаў, як першую ступень прысьвячэння ў духоўны стан. Бо ў нас жа сьвятарства – было адметным станам, які асобна лічыўся пры попісах, як і ў вышэй прыведзеным.

Калі мы маем жаданне правільна арыентавацца ў ідэйных з'явах старажытнага сьвету і разумець іхную тоеснасць у асяроддзі ўсіх тагачасных культурных народаў, то нам патрэбна раз і назаўсёды вызваліцца ад нашага рабства ў дачыненні да замежных словаў і імкнуцца не толькі запамінаць іхнае гучанне, але і разумець сэнс, і, акрамя таго, высьвятліць для сябе псіхалагічную і эканамічную магчымасць кожнай з'явы, пра якую нам паведамляюць старажытныя крыніцы.

Вось, напрыклад, хоць тут. Мы толькі што бачылі (табл. X), што пры ўсеагульным попісе, пасьля атрымання «дзесяці запаветаў Збаўцы» на вяршыні вогнедыхаючай гары, было налічана 22 273 лявітаў. Дададзім да гэтага столькі ж іхных жонак, удавіц і дзяцей і мы атрымаем 100000 асоб духоўнага звання.

Але ж гэта насельніцтва цэлага губернскага горада! Ці маглі яны ўсе служыць у адным і тым жа храме, хаця б ён і быў размешчаны не ў вартым жалю Эль-Кудсе (ілжэ-Ерусаліме) каля Мёртвага возера ў Палестыне, а выявіўся самай базылікай св. Пятра ў Рыме?

Можна быць упэўненым, што нават і агульная колькасць жыхароў італійскага Рыма не дасягала такой колькасьці пад час першых стагоддзяў нашай эры, бо вясковае, большай часткай жывёлагадоўчае насельніцтва, жыўшае ў намётах, не магло быць шчыльным, ды і ніхто із італьянскіх правінцыялаў не пажадаў бы падвозіць туды харчовыя прыпасы для пракармлення такой процьмы без пастаянна прымусу за сваёй сьпінай. А падзелу народнай вытворчасьці на вясковую сыравінную і на гарадзкі вытворцы патэнцыял, патрабуючага для сваёй дзейнасьці значных гарадоў, тады яшчэ не магло існаваць пры адсутнасьці зручных шляхоў стасункаў і, асабліва, тэхнічнай часткі, што рабіла нявыгаднымі буйныя гарадзкія прамысловыя гаспадаркі. Такіх мы і сапраўды не сустракаем ні ў Пампеі, ні ў Геркулануме ні ў нейкіх іншых сапраўдных парэштках старажытнага жыцця.

Усе старажытныя гарады былі толькі адміністрацыйнымі, вайсковымі і гандлёвымі цэнтрамі, за выключэннем нешматлікіх цэнтраў рэлігійнага пілігрымства, якімі без сумневу былі гарады Флегрэйскіх палёў. Гэтыя цэнтры прыцягвалі да сябе, вядома, найбольш культурную частку ўжо ўзнікшага ў Італіі

землеўладальніцкага насельніцтва, праводзіўшага там частку года, даручаючы нагляд за сваёй гаспадаркай управіцелям ці асобам са свайго сямейства. Яны будавалі тут сабе раскошныя (але толькі згодна з тым, а не нашым часам!) будынкі, а харчаванне для ўтрымання сваёй чэлядзі атрымлівалі гужам із вёскі, але такіх магнатаў не магло быць больш некалькіх сот сямействаў. Якім жа чынам змагло б знайсьці сабе харчаванне без самастойных гаспадарак 22 тысячы сямействаў сьвятарскага звання, не менш за 100 000 чалавек, лічачы іхных жонак, удоў і дзяцей? І няўжо ўсе яны богаслужылі толькі пры адной невялікай «скініі запавету», памеры якой згодна з біблейскімі апісаннямі не перавышалі сучаснай вясковай царквы на сотню або дзве молячыхся? Калі б жа кожны із іх служыў пры ёй толькі адзін раз на год, то і тады каля яе штодня сбіраўся б натоўп не менш чым 60 чалавек богослужбоўцаў са свяцільнямі і кадзіламі. А дзе б яны штодня здабывалі столькі ладану і ялею?

Усё гэта так недарэчна пры рэальным уяўленні спаваў (асабліва ў Палестыне!), што нейкія тлумачэнні залішнія.

Гэта азначае: ці патрэбна прызнаць, што ўвесь вышэйпрыведзены попіс – недарэчная фантазія сярэдніх вякоў, ці што пад час апісваемага кнігай «Лічбаў» перыяду, ужо існаваў не толькі адзін пераносны храм каля падэшвы Вязувія (ці, калі жадаеце, недзе ў Палестыне) а цэлы шэраг адзінабожных біскупаў у розных гарадах Лаціна-Эліна-Сірыйска-Ягіпецкай імперыі. А нічога падобнага не магло быць раней валадарання Дыяклетыяна, г. азн. пачатку IV стагоддзя нашай эры.

Так скасоўваюцца дзіцячыя фантазіі напаловуабудзіўшыхся розумаў сярэднявечча перад першым дакрананнем да іх сучаснай назіральніцкай і вальнадумнай навукі.

Адной із цікавых асаблівасьцей тагачаснага культу было сталае ці часовае прысьвячэнне сябе богу (Ёвісу-Юпітару), меўшае назву па-біблейску назарэйства, у гонар нейкага вялікага назарэя, якім быў, перадусім, евангельскі Езус-назарэй.

«Калі мужчына ці жанчына, – паведамляе 6-я частка, – вырашыць даць зарок назарэйства, то ён павінен устрымлівацца (да яго сканчэння) ад віна і воцату і не павінен есьці ні свежых, ні сушаных вінаградных ягад і ўсяго, што робіцца із іх: ні зерняў іх, ні скуры. Брытва (якая, азначае, ужо была тады ва ўжытку ў асяроддзі культурных станаў) не павінна дакранацца да яго галовы ва ўсе дні яго назарейства: яго валасы сьвятыя. Ён не павінен падыходзіць да мёртвага цела (у памяць ажывання Езуса), ні да бацькі, ні да маці, ні да брата, ні да сястры, калі яны памруць».

«Калі ж нехта раптоўна, нечакана, памрэ пры ім, і гэтым апаганіць яго сьвятую галаву, то ён павінен абстрыгчы яе на сёмы дзень, а на восьмы прынесьці ў ахвяру дзвюх туркавак сьвятару да ўваходу ў царкву[102]. Адну з іх сьвятар прынясе ў ахвяру за яго грэх, другую ва ўсеспаленне. Ён ачысціць у той дзень яго галаву, ад сьмяротнага граху і асьвеціць, і ён зноў можа прысьвяціць сябе Грамабою і прынесьці ў ахвяру за грэх аднагадовую авечку. Папярэднія ж дні яго прападаюць.

«Калі скончацца дні яго назарэйства, яго патрэбна прывесьці да ўваходу ў царкву, ён прынясе ў ахвяру богу Грамабою аднагадовае ягня без заганаў для ўзнімання, такую ж аднагадовую авечку ў ахвяру за грэх і яшчэ авечку ў ахвяру замірэння, кошык прэсных хлябоў із лепшай мукі, здобных пірагоў і

[102] АЕЛ-МУЭР – сядзіба царквы, пры чым МУЭР азначае сход вернікаў, тое ж што па-грэцку «эклезія»; ЕР-МУЭР – гара сходу богаў мяркуемая на краю сьвету (Ісайя 14. 13); у грэкаў гэта быў Алімп, у персаў Альбордш, у індусаў Меру, сугучна з МУЭР Бібліі, і таму несумнеўна запазычана індусамі із Бібліі.

бліноў з маслам і падліўкай. Ён абстрыжэ каля ўваходу ў царкву сваю асьвечаную галаву, і пакладзе свае валасы ў полымя, знаходзячаяся пад ахвярай замірэння. Сьвятар патрасе перад богам Грамабоем адзін пірог, адну аладку і адно зваранае плячо авечкі із прынесенага і пакладзе іх на рукі назарэю. Пасьля гэтага назарэй можа піць віно» (6. 20).

Такое заканчэнне мае часовае прысвячэнне сябе богу і дэталі рытуалу паказваюць, што такі звычай хутчэй за ўсё мог узнікнуць, як успамін пра евангельскага хрыста.

На прыканцы кнігі Лічбаў відавочна пачалі дадавацца легенды і чужога паходжання. Апавядаецца, напрыклад, як бог пасылаў час ад часу на богазмагальнікаў лётаючых палаючых Цмокаў (серафаў), найменне якіх азначае пякучы[103] і лёгка можа быць патлумачана метэарытамі, дзеля абароны ад якіх Збаўца зрабіў медзянага змея на слупе (мал. 110) пры чым «кожны ўджалены такім цмокам здаравеў, як толькі накіроўваў на яго позірк» (21, 6). Вельмі вялікую цікавасць з гісторыка-геаграфічнага боку гледжання ўяўляе тут «спіс прыпынкаў», якія, згодна са словамі аўтара 33 главы кнігі «Лічбаў», быццам бы рабілі богазмагальнікі, здзяйсяючы свае падарожжа із Міц-Рыма. Тут упершыню мы даведваемся, быццам бы яны спачатку выйшлі із Грукацяцага Каня[104] і прайшлі «сярод мора» ў Сінскі (Вязувійскі) стэп, а потым праз 31 прыпынак дайшлі да «гары»[105] каля межаў Адумскай (Рымскай) зямлі, дзе памёр Арон.

---

[103] שרת (СРФ) – цмок, а таксама серафім.

[104] רעמ־סס (РЭМ-СС) – Грукацячы Конь. Астральна гэта эпітэт сузор'я Пягаса, пад якім у сузор'і Рыб бывае Сонца ў сакавіку, а гістарычна – сугучна із найменнем Ра-Месу.

[105] הר (ЕР)  – гара.



Мал. 110.
*Медзяны змей Майсея (Сузор'е Цмока), вісячы на восі Экліптыкі (дрэва Ведання дабра і зла) і засьцерагаючы людзей, згодна з Бібліяй, ад уражання палаючымі цмокамі (метэарытамі). Знізу вяршыня Дрэва Жыцця, прыносячага свае плады 12 разоў на год, «на кожны месяц свой адменны плод». Малюнак із Фламарыёна.*

Потым распавядаецца, як яны зрабілі яшчэ сем прыпынкаў, пакуль не размясьціліся каля Эрыдана, насупраць Месяца (ІРХУ), на раўнінах Му-Аб.

Што гэта такое? Ніякіх такіх прыпынкаў няма паміж Нілам і Мёртвым морам. Вядома, гэта не рэчаісны шлях богазмагальнікаў, а астральная сімвалістыка ці ж гэта маршрутны напамінак нейкага важнага караваннага шляху сярэдніх вякоў.

Магчыма, што тут мы маем апошняе.

Уявіце, што ваш прадзед пажадаў бы здзейсніць пілігрымства із Ноўгарада ў Кіеў, не маючы ніякага разумення пра геаграфічную мапу. Ніхто із прамежкавых жыхароў, яшчэ далёкіх ад Кіева, таксама не быў бы ў стане паказаць яму ў які бок ісьці, таму што жыхары гэтай мясцовасьці таксама ніколі там не бывалі, і ваш прадзед быў вб вымушаны ярнуцца да хаты, прызнаўшы сваю немач знайсьці Кіеў.

Але вось у яго рукі патрапіў маршрут такога шляху, паступова складзены прамежкавымі гандлярамі, дзе пазначаны ўсе бліжэйшыя адзін да аднаго прыпынкі, із якіх кожны наступны быў вядомы жыхарам папярэдняга. Вядома, ён бы з яго дапамогай лёгка знайшоў бы шлях, якім бы доўгім ён ні быў.

Такія напамінкі (табл. XI і XII ) павінны былі паступова назапасіцца ў значнай колькасьці пры развіцці караваннага гандлю. І зразумела, што, выпадкова атрымаўшы падобны лісток, змяшчаючы, напрыклад, прыпынкі на шляху паміж Ягіптам і Яфай ці па нейкаму іншаму караваннаму шляху, сярэднявечны гісторык лёгка мог прыйсьці да высновы (на падставе сваіх уласных варажбаванняў пра месца выхаду Збаўцы і пра месца яго канчатковага прыходу), што «ні па якому іншаму шляху акрамя гэтага ён не мог ісьці», і такім чынам калектар мог папоўніць такім «напаміннікам» кнігу Лічбаў.

Усё яе заканчэнне пасьля апавядання пра Валаама і яго асліху, складзенага, як мы бачылі, пасьля 710 гады нашай эры, мае характар такіх выпадковых папаўненняў грунтуючыся на ўласных меркаваннях пазнейшых кампілятараў.

ТАБЛІЦА XI.
Маршрутныя напамінкі ад Грукотнага Каня (Рам-сеса) да «Гары» (Кн. Лічбаў 34)

| | |
|---|---|
| 1. РЭМСС (Грукочучы Конь). | 18. РСЕ (раса?). |
| 2. СКТ (Унемлючы). | 19. КЕЛТЕ (павучанне). |
| 3. АТМ (пры слон). | 20. Гора ШФР (гара Трубная). |

| | |
|---|---|
| 4. МГДЛ (вежа). | 21. ХРДЕ (трывога). |
| 5. МГЕ (гарачыня) паблізу пустыні. | 22. МКЕЛТ (галіны). |
| 6. АІЛМ (умацаванні). | 23. ТХТ (апраметная). |
| 7. ІМ-СУФ (Краявое мора). | 24. ТРХ (выглядванне). |
| 8. СІН (недры). | 25. МГК'Е (асалода). |
| 9. ДФКЕ (пагоня). | 26. ХШМНЕ (сіяцельны). |
| 10. АЛУШ (боскі[106].) | 27. МСРУТ (хаўрус). |
| 11. РФІДЗІШЧ (падмацаванні). | 28. БНІ І-ЭКН (сыны прыгнёту). |
| 12. СІНІ (Вязувій). | 29. ХР Е-ГД-ГД (нара счастья Юпітара). |
| 13. КБРТЕ-ТАУЕ (труны прымхі). | 30. І-ТБТЕ (боскае апускане). |
| 14. ХЦРТ (агароджы). | 31. ЭБРНЕ (перавоз). |
| 15. РТМЕ (дрок). | 32. ЭЦІН-ГРБ (бярвенні перавозу). |
| 16. РМУН-ПРЦ (гранатавае дрэва). | 33. К'ДШ (свклш). |
| 17. ЛБНЕ (белая таполя). | 34. «Гора» на мжы Рыма (А-ДУМ). Место сьмерці Арона. |

ТАБЛІЦА XII.

Маршрут от «Горы» до Месца прадказання (Кн. «Лічбы» 35).

1 «Гора» на мяжы Рыма (АДУМ).
2. ЦЛМНЕ (тень сьмерті).
3. ФУНН (выведнік[107]).
4. АБТ (пагадненне).
5. ЭЙН Е-ЭБР (пераходзячае вока).
6. ДІ-БН ГД (мера свайго шчасьця108).
7. ЭУЛМН-ДБ-Л-ТІМЕ – сакрамэнт ахвяры цнатллівасьці.
8. НБУ – месца прадказання, на гарах пераходу (ЭБРІМ).
9. ІРДН-ІРХУ спуск суда (Ярдан) каля Месяцовага горада.

Такімі ж геаграфічнымі таямніцамі дыхае і апісанне межаў Запаветнай зямлі ў 34-й главе (дадзена без перакладання імёнаў).

Мяжа на захадзе: Вялікае мора.

На поўначы: ад Вялікага мора да «Гары» (ЁР, пры чым ЕР азначае проста гара); ад яе да Хемата, ад яго да Цэдада, ад яе да Зафраны, ад яе да ўмацавання Эйі (ХЦР-ЭЙНН).

На ўсходзе: ад умацавання Эйна па лініі да Шэфамі, ад яе да Рыўле на ўсходзе пры Айн, потым да берага мора Кнерт (КНРТ – Месца хвалявання), потым да Эрыдана і да Салёнага мора,

На поўдні: Ад заканчэння Салёнага мора да ўзвышша Экраб (ЭКРБ), і потым праз пустыню Цін (ЦН каля межаўа АДУМ'а) з выступам на поўдзень у Кадэш у Арпі; потым да Хацар Ададу і да Эцмоне, потым паварочвае да міцрымскага струменя і выступае да мора Вялікага.

Цалкам магчыма, што гэта сапраўды геаграфічна абмяжоўвае ўжо не Вялікую імперыю, а межы «Ерусалімскага каралеўства» Болдуіна, на пачатку XII стагоддзя нашай эры, дзяржавы вартай жалю, якая ніколі не цякла малаком і мёдам і ніколі не мела «мноства вялікіх і ўмацаваных гарадоў», якія апісаны ў Бібліі.

Магчыма, што толькі тады, ад крыжакоў, розныя мясцовасьці і мястэчкі Палестыны і атрымалі сучасныя біблейскія назвы.

---

[106] Сугучна з אלישא (АЛІША), якую габраісты лічаць за Пелапанес. Іез. (27, 7) і Быццё (10. 4).

[107] Згодна з Cruden'у.

[108] А згодна з Cruden'у דיבן (ДІБН) – даведванне і גד (ГД) – шчасьце.

Падобная ж тэндэнцыйная наменклатура існуе не ў адной геаграфіі Палестыны. Вазьміце, хаця б батаніку. Там вы знойдзеце, напрыклад расьліну, маючую назву Tamariscus mannifera, г. азн. тамарыкс, маннаносны, растучую ў Аравіі. Чаму яна так названа? – Таму, што нейкаму батаніку было вельмі пажадана знайсьці там расьліну, якая дала нагоду да біблейскай легенды пра манну і не маючы нічога лепшага, ён і назваў так мясцовы тамарыкс, хаця яго «маннай» не накорміш і вераб'я.

Такім жа чынам на паўднёвым усходзе Палестыны на адлегласьці некалькіх дзясятках кіламетраў ад паўднёвага ўскрайку Мёртвага возера, мясцовыя арабы і да гэтага часу паказваюць жадаючым Джэбель нявi Гарун, г. азн. гару прарока Арона, дзе быў таксама і горад Петра, складаўшыся із пячор, высечаных у скале. Але гэта найменне нічога не даказвае, бо попыт заўсёды выклікае прапанову, а попыт на біблейскія месцы ў Палестыне і на Сінаі заўсёды быў велікім пад час сярэдневечча, асабліва пад час крыжовых паходаў і на працягу эпохі Адраджэння. Ды і ўсходнія манахі, якія ўвесь час шукалі сабе пустынніцтва, прыпісвалі пажаданаму месцу пажаданае мінулае. У на самай справе ж тут можна сказаць толькі адно: калі б Арон з Майсеем падарожнічалі 40 гадоў па аравійскіх пустынях, сілкуючыся адной смалой тамарыксу манна-радзючага і памёрлі б – адзін у пячорным горадзе, а другі на Загубленай гары, – то яны "ніколі б не набылі ўсеагульнай вядомасьці ў якасьці рэлігійных рэфарматаў і сусьветных заканадаўцаў і не былі б аточаны ніякімі міфамі. Легендарная творчасць знайшла б для свайго ўжывання нашмат больш разумных дзеячоў.

# ЧАСТКА II

## Геафізічная лакалізацыя біблейскіх народаў і гарадоў



Мал. 111.
*Зямное кола згодна з ўяўленнямі географаў (нават!) XII стагоддзя. Із рукапісу, які захоўваецца ў Турынскай бібліятэцы. Міжземнае мора пазначана простым каналам, ідучым (у нас!) гарызантальна. Чорнае мора такім жа, ідучым угару. Левы верхні адрэзак – Яўропа; ніжні – Афрыка. Правы бок – Азія. Глядач глядзіць з левага боку малюнка на ўсход, дзе яшчэ стаяць Адам і Ева.*

# ГЛАВА I.
## Горад Умілаванага. (ЭЙР ДУД па-біблейску.)

Пры навуковым аднаўленні падзей старажытнага жыцця ў той перыяд разумовага дзяцінства людзей, калі іхныя штодзённыя стасункі з рэальнымі асобамі ідуць яшчэ на роўных правах з гульнёю ў лялькі, калі праўдзівае ў вусных ці пісьмовых паведамленнях перамешваецца ў іх з казачным, і ўспаміны мяжуюць са снамі, – мы ніколі не павінны забывацца, што ў дайшоўшых да нас сярэднявечных запісах старажытных паданняў мы маем справу большай часткай не з дакладнымі фатаграфічнымі здымкамі падзей, а з іхнымі шматразовымі суб'ектыўнымі вокамернымі перамалёўкамі, перамяняемымі згодна з жаданнем асобы пры кожным новым перадаванні спарахнеўшага дакумента.

У старажытнасьці яшчэ не існвала кніжнага рынку і прафесійных перапісчыкаў. Такія дакументы звычайна перапісваў сам навуковец для сваіх уласных патрэб, а такім чынам і дадаваў ад сябе тлумачэнні і дадаткі, выкідваючы ўсё што лічыў непатрэбным і выпраўляючы ўсё што лічыў памылковым. А калі ён і аддаваў перапісчыку (ці нават дыктаваў адразу некалькім для пашырэння), то таксама з дадаваннем у тэкст паправак і дапаўненняў, якія ён рабіў згодна са сваім уласным крайнім, але яшчэ несаспеўшым, разуменнем, а чытачы не мелі магчымасьці параўнаць свой тэкст з іншымі, бо пры адсутнасьці зацверджаных аўтарам узораў, як бывае пры друкаванні пад яго кіраўніцтвам, ніхто не мог сказаць, якая копія сапраўдная і якая не. Так, із першапатковых некалькіх геаметрычных тэарэм, існаваўшых у IV стагоддзі нашай эры вырасла сярэднявечная геаметрыя і стварылася легенда пра тое, што гэты твор напісаны нейкім Эўклідам, які быццам бы жыў у Александрыі пры Пталямею-Ратавальніку (Сотэры па-грэцку). Так із першапатковых казак і паданняў склалася пад час сярэдніх стагоддзяў і Біблія, а да яе была прыстасавана і ўся псеўда-старажытная гісторыя міжземнаморскіх краін, у творах Пабожнага Усялюбца (Яўсевія Памфіла), Адукаванага Ратавальніка ўлады (Сакрата схаластыка), Ёсіфа Флавія, і ўсіх астатніх.

Мы ніколі не павінны забывацца, што маем тут справу не са зборамі безстаронніх летапісных паведамленняў, а са сведчаннямі бакоў у заблытаных судовых працэсах, у якіх спрачаліся адзін з адным шмат асоб, бралі ўдзел шмат ілжэсведак і наўмысна знішчаліся зацікаўленымі следчымі шмат дакументаў. Пры чытанні біблейскіх кніг мы ніколі не павінны забывацца, што іхныя першапатковыя дакументы зведалі шматлікія рэдакцыйныя праўкі і ўзгадненні як адзін з адным так і з новымі ўяўленнямі, выпрацоўваўшыміся на працяу стагоддзяў як у рабінаў, так і ў хрысціянскіх біскупаў. Змены ўводзіліся ў тэксты Біблій на так званых «сусьветных саборах» ці нават непасрэдна ўласнай уладай вярхоўных клерыкальных манархаў у Рыме, аж да падзелу цэркваў на ўсходнюю і заходнюю.

Да хрысьціянскіх выпраўленняў прыглядаліся нават і рабіны, а да жыдоўскіх хрысьціяне, хаця, вядома, тыя і другія адмаўлялі гэта. Інакш за паўтары тысячы гадоў, прайшоўшыя ад пачатку Біблії да пачатку друкарства, якое замацавала адзін із гэтых тэкстаў, адбыліся б ужо такія змены ў змесьце Біблії ў асяроддзі двух незалежных культур, што грэка-лацінскія варыянты не мелі б у сваіх дэталях, і нават у змесьце саміх дакументаў, амаль нічога агульнага з юдэйскімі. Узаемадачыненні гэтых абодвух культурных адгалінаванняў праглядаюца нават і на сучасных перакладах біблейскіх кніг із жыдоўскай мовы: на кнізе напісана: «пераклад з жыдоўскай» (і нават пераклад выкананы адукаваны юдэем), а, прачытаўшы яго, вы бачыце, што ў ім паўтораны амаль усе памылкі і недакладнасьці грэцкага ці лацінскага тэксту. Выяўляецца, што перакладчык увесь час глядзеў адным вокам у «Вульгату» ці ў «Септуагінту» і на самай справе перакладаў з іх, а не із жыдоўскай мовы. Ды і у жыдоўскіх тэкстах мы бачым не мала элінізмаў і латынізмаў.

Такім чынам, пры даследаванні розных паданняў Біблії патрэбна кіравацца не дадзенымі ў тым ці іншым месцы гэтай кнігі тлумачальнымі наданнямі і не пунктуацыяй літар пры вызначэнні сэнсу дадзенага слова (гэта ўжо бясспрэчна дадаванні нейкага сярэднявечнага талмудыста!), а першапачатковым напісаннем літар без пунктуацыі і агульным характарам дадзенага падання.

Возьмем хоць бы біблейскія паведамленні пра «горад Умілаванага» (ЕЙР-ДУД), у перакладах «горад Давыда». Выяўляецца, што гэтай назвы няма ні ў адной із біблейскіх кнігах, акрамя «Самуіла» ды «Цароў» і акрамя таго, у тым што перапісана із іх у «Закінутай Кнізе» (Параліпаменан па-грэцку). У першай із гэтых кніг мы адразу ж знаходзім міжрадковае, а таму і мала заўважаемае для чытача, але ўздзейнічаючае на яго наданне:

«Давыд захапіў, – паведамляе аўтар, – Слупяное ўмацаванне (Сіён). Гэта і ёсць горад Давыда» (II Сам. 5, 9).

Разгледзім жа ўсе месцы, дзе згадваецца пра «горад Умілаванага» (Давыда), і параўнаем іх паміж сабой. Яны ўсе дадзены ў табліцы I, і што ж мы ў бачым?

ТАБЛІЦ А, XIII.

Усе месцы, дзе згадваецца ў Біблії пра горад Умілаванага.

| Згодна з біблейскай кнігай “Цары” (МЛКІМ) | Згодна з кнігай “Параліпменон” (ДБРІ-Е-ІМІМ) |
|---|---|
| Савул пахаваны ў Івісе (ІВІШ). 2 Самуіл 2, 4. | Савул пахаваны ў Івісе (ІВІШ). Параліп. 10, 13 |
| Давыд (Дыяклетыян) у горадзе Ўмілаванага (I Ц. 2, 10). | Давыд. Не пазначана (!!). |
| Саламон *(Канстанцый Хлор)* у горадзе Ўмілаванага (I Ц. 11, 43). | Саламон у горадзе Ўмілаванага (II, 9, 31). |
| Раваам *(Ліцыній)* у горадзе Ўмілаванага (I Ц. 14, 31). | Раваам у горадзе Ўмілаванага (II. 12, 17). |
| Аб-Іе у горадзе Ўмілаванага (I Ц. 15, 8). | Аб-Іе у горадзе Ўмілаванага (II,15, 8). 13, 23). |
| Аса (Езус) у горадзе Ўмілаванага (I Ц. 15, 24). | Аса у горадзе Ўмілаванага (II,16, 14). |
| Іасафат у горадзе Ўмілаванага (I Ц 22, 51). | Іасафат у горадзе Ўмілаванага (II, 21, 1). |
| Іарам у горадзе Ўмілаванага *(*II Ц. 8. 24). | Іарам у горадзе Ўмілаванага, але не ў царскіх магілнях (II, 21, 20). |
| Ахазія ў горадзе Ўмілаванага (II Ц. 9. 27). | Ахазія не пазначана (II, 22, 8). |
| Іаас у горадзе Ўмілаванага (II Ц. 13, 22). | Іаас у горадзе Ўмілаванага ал не ў царскіх магільнях (II, 24, 25). |
| Амасія ў горадзе Ўмілаванага (II Ц. 14, 20). | Амасія ў горадзе Богаслаўя (II, 25, 28). |
| Азарыя ў горадзе Ўмілаванага (II Ц. 18, 7). | Озія на полі цароў, таму што был праажонны (II, 26, 21). |

| | |
|---|---|
| Іатам ў горадзе Ўмілаванага (ІІ Ц. 15. 38). | Іатам ў горадзе Ўмілаванага (ІІ, 27, 9). |
| Ахаз ў горадзе Ўмілаванага (ІІ Ц. 16. 20). | Ахаз у Ерусаліме, таму што яго не далучылі да магільняў богазмагальніцкіх цароў (ІІ, 28, 27). |
| Езекія – не пазначана (ІІ Ц. 20, 21]. | Езекія ў вышэйшай із магільняў нашчадкаў Умілаванага (ІІ, 31, 33). |
| Манасія ў садзе Ўзы (ІІ Ц. 21, 18). | Манасія ў яго сядзібе (ІІ, 33, 20). |
| Амон у садзе Ўзы (ІІ Ц. 21, 26). | Амон не пазначана (ІІ. 33, 35). |
| Іосія ў Ерусаліме (І Ц. 23, 30). | Іосія ў Ерусаліме ў магільні яго продкаў (ІІ, 35, 24). |
| Іаахаз у Міц-Рыме (ІІ Ц. 23, 34). | Іаахаз не пазначана (ІІ, 36, 3). |
| Еліакім-Іаакім «са сваімі продкамі» (ІІ Ц. 24, 6). | Еліакім-Іаакім адвезены Нева-Кадна-Царом у «Браму Гасподню» (ІІ, 36, 4). |
| Іехонія ў «Браме Гасподняй» (БАБ-ІЛУ). (ІІ Ц. 24-16). | Іехонія адвезены ў «Браму Гасподнюю» (ІІ, 36, 10). |
| Матанія-Седзекія ў «Браме Гасподняй» (ІІ Ц. 25–23). | Седзекія знікае із апавядання (ІІ, 36, 11). |
| Гадолія-астролаг, намесьнік Нева-Кадна-цара, быў пераможаны ізмаэлітамі (ІШМЕ-АЛ), і богаслўцы ўсе пайшлі са сваёй роднай краіны ў Міц-Рым (ІІ Ц. 25, 26). | Пра Гадолію ў кнізе «Параліпаменон» не згадваецца і апавяданне заканчваецца згадваннем пра вяртанне богаслаўных у Ерусалім прі цару Куршэ (Кіру). |

Гэта нейкі выключна пахавальны горад богаслаўных цароў, заканчваючы Ахазам. Гэта не жылы горад, а проста некропаль, горад памёршых, царскія магілкі. Мы бачым, акрамя таго, што першым быў пахаваны на гэтых могілках сам Умілаваны (Давыд), якога мы ўжо атаясамілі ў папярэднічаўшай кнізе нашага даследавання з Дыяклетыянам (284-305 г.), а апошнім – цар Езекія, у «вышэйшай (г. азн. апошняй) із магільняў нашчадкаў Умілаванага».

Чаму наступныя цары – Манасія і Амон – хаваюцца ўжо ў садзе Вузы (г. азн. магутнага), а астатнія ў «Браме Гасподняй» ці ў Міц-Рыме?

Адзначым, што Езекія атаясамляецца ў нас з Анастасам, памёршым, як кажуць, у 518 годзе, а пасьля яго пачалася ўжо новая ілірыйская (г. азн. албанская) дынастыя Юстына І, якая, вядома, і выбрала сабе новыя могілкі. Уся гэтая дынастыя «трох Юстынаў» пазначана ў біблейскім выкладанні адным даўгавечным Манасіяй, імя якога азначае – забыццё.

З гэтага боку гледжання на царскіх могілках, пад назвай «Горад Умілаванага», былі згодна з кнігай «Цары» пахаваны: 1) Давыд-Дыяклетыян (пам. 305 г.), 2) Саламон-Канстанцый-Хлор (пам. 396 г.), 3) Раваам-Ліцыній (пам. каля 324 г.); 4) АБ-ІЕ – бацька Езуса (пам. каля 333 г.), 5) Аса-Езус, ён жа Васіль Вялікі (пам. 379 г.}, 6) Іасафат-Хвядос Вялікі (пам. 395 г.), 7) Ярам-Аркадзь (пам. 408 г.), але, згодна з Параліпаменонам, пахаваны не на царскіх магілках, 8) Ахозія-Кастусь ІІІ (пам. каля 423 г.) згодна з кнігай Цары, але без згадвання ў Параліпаменане, 9) Іаас-Валентыніян ІІІ (пам. 455 г.), 10) Амазія-Рэцімер (пам. 472 г.), а згодна з «Параліпаменонам» ў горадзе Богаслоўя; 11) Азарыя-Озія-Хвядос ІІ (пам. 450 г.), а згодна з «Параліпаменонам» пахаваны на «пале цароў», бо быў пракажоны, 12) Іатам-Леў І (пам. 474 г.), 13) Ахазт-Зянон (пам. 491 г.), а згодна з «Параліпаменонам» пахаваны ў Ерусаліме (таму што яго не далучылі да магільняў багазмагальніцкіх цароў) і, нарэшце, 14) Езекія-Анастас (пам. 518 г.), месца пахавання якога ў кнізе Цары не пазначана, а ў Параліпаменоне ён пахаваны «ў самай высокай із магільняў нашчадкаў Умілаванага»

У выніку мы бачым, што поўную тоеснасць ў абедзвюх нашых першакрыніцах мы маем толькі для: Канстанцыя Хлора і з некаторым сумневам, Ліцынія, бацькі Езуса, Езуса і Хвядоса Вялікага, які забараніў згодна з царкоўнай

традыцыяй паганскі культ у сваёй імперыі. З часу сьмерці гэтага апошняга, г. азн. з 395 года, калі прагрымеў Апакаліпсіс, пагражаючы згубай усім зямным царам, пасьлядоўнае пагадненне нашых першакрыніц спыняецца: Аркадзь, памёршы ў 408 годзе, ужо не змяшчаецца Параліпаменонам за нейкі ўчынак на царскія магілкі горада Ўмілаванага, і толькі Валентыніян III (пам. 455 г.), ды Леў I (пам. 474 г.), перавозяцца ў гэты некропаль пасьля сваёй сьмерці.

Гэта азначае што гэты некропаль функцыянаваў толькі да Апакаліпсіса (у 395 г.) ці да жахлівага вывяржэння Вязувія ў 472 годзе, г. азн. да падзення Заходняй Рымскай імперыі.

Ці можна із гэтага зрабіць выснову, што ён быў у Італіі, у адной із мясцовасьцей пахаваных вывяржэннем Вязувія каля 472 г., пасьля чаго ў Заходняй імперыі тры гады была анархія і ўлада перайшла да готаў?

На перадгор'і Пампеі існуе Вуліца Магільняў (мал. 112). Ці не яна горад Умілаванага?



Мал. 112.
*Вуліца магільняў у Пампеі ў 1854 годзе*

Гэтая ідэя, вядома, не выключаецца, але грунтуючыся на сукупнасьці фактаў усё ж можна зрабіць выснову, што назву «горад Умілаванага» хутчэй за ўсё мела поле пірамід паблізу ад Мемфіса. Якая б то ні было ідэя пра тое, што ён быў на невялікім узгорку ў межах сьцен палестынскага Эль-Кудса, маючага назву ў хрысціян Ерусалім, павінна быць выключана, бо там не існуе нават і слядоў такіх царскіх магільняў, акрамя падробленай магільні Езуса, у якой пры тым жа, згодна са сведчаннямі саміх тэолагаў, яго цела ляжала толькі тры дня, пасьля чаго паляцела на неба.

Каб канчаткова скончыць з гэтым пытаннем, я прывяду і астатнія месцы Бібліі, дзе згадваецца «горад Умілаванага».

У другой кнізе Параліпаменон ёсць фраза:

«Саламон сабраў усіх богазмагальніцкіх старэйшын у Ерусалім, каб перанесьці туды ахвярнік запавету Грамабоя із горада Ўмілаванага, г. азн. із Слупяной горы» (II Праліп. 5.2).

Тут мы зноў бачым тлумачальнае «г. азн.» выяўляючае, што аўтар чамусьці лічыў патрэбным зрабіць гэта наданне. Але чаму ж такіх «г. азн.» мы не знаходзім пры назвах іншых гарадоў? Відавочна таму, што там аўтар не асьцерагаўся

магчымасьці таго, што чытач палічыць пазначаемы горад за іншы, а тут ён гэтага чакаў і не раз паказвае жаданне папярэдзіць непажаданую для яго лакалізацыю месца.

Потым яшчэ:

«Умілаваны пабудаваў сабе будынак у горадзе Ўмілаванага, прыгатаваў месца для Ахвярніка багоў і раскінуў для яго намёт (I Параліп. 15. 1). Лявіты перанеслі Ахвярнік, а Ўмілаваны засьпяваў пры гэтым такі гімн:

Слаўце Грамабоя! Спявайце яму, бразгайце яму,
Апавядайце пра ўсе справы яго...

– «Не дакранайцеся да маіх месіяў, – кажа ён усім, – «І не рабіце зла маім прарокам».

Дабраслаўце ж кожны дзень яго Ратавальніка,
Абвяшчайце народам яго славу!
Ён жахлівейшы звыш усіх багоў.....
Ды шуміць мора і ўсё, што напаўняе яго,
Ды цешыцца поле і ўсё, што расьце на ім,
Ды ўзрадуюцца ўсе дрэвы перад тварам Грамабоя,
Калі ён пойдзе судзіць зямлю!

І Ўмілаваны паставіў «сабор» (АСФЕ) перад ахвярнікам запавету, каб у ім вечна служылі богу Грамабою (I Параліп. 16.37).

А потым вось і яшчэ пахаванні ў тым жа «горадзе Ўмілаванага».

«Першасьвятара Іадая, – сведчыць кніга Параліпаменон, – пахавалі ў горадзе Ўмілаванага з царамі» (II Параліп. 24, 16).

І больш пра гэты горад у Бібліі нічога няма. Гэта азначае у ім ніколі нічога і не было, акрамя царскіх магільняў і пахаванняў, ды яшчэ храма для набажэнстваў. А патлумачваючы дадатак ў кнізе Самуіла «гэта і ёсць горад Умілаванага» і яго рэха ў Параліпаменоне, быццам ён тое ж самае, што і Слупяны горад, з‘яўляецца наўмысным наданнем.

Гэта азначае і сапраўды хутчэй за ўсё даводзіцца выказаць здагадку, што гэта Гізехскае поле ў Ягіпце, куды да заваёвы Ягіпта магаметанамі везлі, набальзамаваўшы, памёршых цароў Лаціна-Эллiна-Сірыйска-Ягіпецкай імперыі, як на іх радавыя могілкі.

Ці ж гэта – вуліца магільняў у Пампеі (мал. 112).




Мал. 113.

*Поле пірамід. із кнігі Бругша: «Гісторыя Фараонаў».*

# ГЛАВА II.

## Горад Святога Замірэння. (Ерусалім Бібліі.)

Слова Ерусалім па-біблейску азначае: «Тут пабачу замірэнне»[109], і ўжо адно такое яго значэнне дастаткова паказвае, што ён – найменне намінальнае. Гэта – горад, дзе богазмагальнікі спадзяюцца знайсьці замірэнне з некім пераследуючым іх. Дзякуючы сугучнсьці з грэцкім Ἰερός-Σαλήμ такое найменне імпрэсійна гучыць як горад сьвятога замірэння з угневаным за нешта богам Грамабоем і ўстрасальнікам зямлі, і ў такім сэнсе яно не раз згадваецца ў хрысьціянскіх рэлігійных паданнях і гімнах.

«Я пабачыў новае неба і новую зямлю, – кажа аўтар Апакаліпсіса. – таму што ранейшыя мінулі, і мара ўжо няма. Я пабачыў святы горад Новы Ерусалім, апускаючыся з неба на зямлю ад бога, як маладая ўпрыгожаная для свайго нарачонага» (21.1-2).

Гэта азначае найменне Ерусалім мы павінны тут разумець як намінальнае, падобна таму, як разумеецца стольны горад у рускіх летапісах. Гэтым апошнім найменнем мог пазначацца пачаргова і Кіеў, і Масква, і стары Пецярбург. Дакладна гэтак жа, і Горад Святога Замірэння быў горадам качуючым, пераносімым із аднаго месца зямной паверхні на другую, калі ў першым ці ў апошнім выпадках ён выяўляўся не апраўдваючым свайго наймення і адпавядаючых яму чаканняў – замірэння із богам. Гэтага мы ніколі не павінны выпускаць із-пад увагі, чытаючы біблейскія кнігі.

У папярэднім выкладанні мы ўжо прыйшлі да высновы, што першы біблейскі «Горад Святога Замірэння» (Іерас-Салім) быў «трубны» на-лаціне і «прэцэсійны» ці «трыўмфальны» па-грэцку – горад Пампея[110] і таму цікавадацца было б даведацца, ці не захавалася ў біблейскіх кнігах і іншых указанняў, якія б маглі прывесьці нас да падобнай высновы, акрамя ўжо выкладзенага навядзення.

Сапраўды, такія намёкі існуюць, калі мы будзем лічыць усе «спраўдзіўшыяся біблейскія прадказанні» за тое, чым яны на самай справе і з'яўляюцца: за апісанне ў прароцкай форме таго, што на самай справе ўжо здзейснілася.

Разгледзім перш за ўсё месцы ў евангеллях.

Вось у Мацвея ў 24 главе:

«Ратавальнік ішоў ад ерусалімскага храма, і вучні пачалі паказваць яму гарадзкія будынкі.

– «Бачыце вы ўсё гэта? – адказаў ён ім. – Скажу вам праўду: не застанецца тут каменя на камені, усё будзе разбурана (24.2)... Спачатку вы пачуеце пра войны, але не жахайцеся: гэта яшчэ не канец. Потым будуць голад, мор і землятрусы. Пачнуцца хваробы, і вы будзеце ненавіснымі ўсім народам праз мяне (24.9). А калі пабачыце брыдоту запусьцення, прадказаную прарокам «Боскім судом» (па-біблейску Дані-Ілам) на сьвятым месцы (чытаючы ды зразумее! – дадае рэдактар), – тады знаходзячыяся ў «стане багаслоўя» ды бягуць у горы і хто на даху, той хай не спускаецца ўнутр сядзібы ўзяць што

---

[109] ירו־שלם (ІРУ-ШЛМ) – Пабачу сьвет, але на грэка-жыдоўскай мове жыхароў усходу можна вымавіць і Іерас-Садзім, г. азн. святое замірэнне.

[110] Πομπεία (Помпейа) – па-грэцку азначае: працэсія, трыўмфальнае шэсьце, а на-лаціне pompa (помпа) азначае: труба, пышнасць

небудзь, і хто ў полі, хай не бяжыць назад (мал. 114) захапіць сваё адзенне (зразумела, што так бывае толькі пры землятрусах і вывяржэннях вулканаў). Гора ў тыя дні цяжарным жанчынам і кармячым малаком (24.19). Тады будзе смутак, якога яшчэ не было ад пачатку сьвету і не будзе, і калі б не скараціліся тыя дні, то не выратавалася б ніякая душа, але гэтыя дні скароцяцца для абраных. З'явяцца лжэ-месіі і лжэ-прарокі, каб завабіць і абраных. І калі хто вам скажа тады: вось тут прысвечаны ці там, – не верце (24.23)! Таму што, як маланка выходзіць ад усходу і бывае бачнай да самага захаду, такім будзе гэтае прышэсьце «чалавечага сына». І пасьля смутку тых дзён раптам пацямнее Сонца і Месяц не дасць святла і (падаючыя) зоркі пасыплюцца з неба, і завагаюцца яго падмуркі, і пабачаць «чалавечага сына – ідучага на нябесных аблоках з вялікай мгутнасьцю і славай, а перад ім ідуць яго вестуны з грамавой трубой (24.30). Праўду кажу вам: не пройдзе гэтае пакаленне, як спраўдзяцца мае словы» (24.33).

Усё гэта даслоўна ёсць і ў Марка, із якога спісаў прыведзеную мной прамову Мацвей (Марк 13.14).



Мал. 114.

*«Княгіні майго народа былі бялейшымі за снег» (Плач Ераміі). Знікненне Пампеі. Карціна XIX стагоддзя.*

Тэолагі кажуць нам, што тут змяшчаецца апісанне разбурэння палестынскага мястэчка Эль-Кудса войскам цара «Шаноўнага» (па-грэцку Ціта, на-лаціне Ганорыя) праз 70 гадоў пасьля нараджэння евангельскага Ратавальніка, г. азн. амаль у той жа самы час, калі землятрусам была разбурана і Пампея, якая згодна з тымі ж аўтарамі пахавана праз 78 гадоў пасьля з'яўлення на сьвет «Вялікага цара». А за некалькі гадоў да гэтага яна яшчэ была амаль цалкам разбурана жахлівым землятрусам.

Але скажы сам, чытач: калі нават і дапусьціць, што ў той жа самы час, калі загінула Пампея, у наваколлі Мёртвага мора сапраўды быў разбураны «рымлянамі» гарадок Эль-Кудс, перайменаваны тэолагамі ў Ерусалім, і што рымскія жаўнеры сапраўды сваімі рукамі расьцягнулі і некуды схавалі (!) яго камяні (гэта ім было непасільна), то да якой із гэтых дзвюх падзей павінна быць дапасавана толькі што прыведзенае апісанне? Мне зноў навязваецца камічная ідэя прывесьці гэтае апавяданне слова ў слова, выдаўшы яго за апісанне адным із жыхароў Масквы

захопу яго горада войскам Напалеона I. Выходзіць не менш камічна, чым і плач Ераміі, у маёй трансплантацыі дапасаваны да гэтага часу.

Але я зараз устрымаюся ад пародый на гэтае прароцтва, каб не паўтарацца, і адзначу толькі, што такая апакрыфічная прамова евангельскага чараўніка і лекара, хаця яна і напісана ад яго імя праз сотні гадоў пасьля яго сьмерці, усё ж занадта выразна апісвае разбурэнне «Горада сьвятога замірэння», ні ад чаго іншага, як ад вулканізму і землятрусу, накшталт разбурэння Пампеі. Пастаўце толькі тут дзеясловы у мінулым часе замест будучага, і атрымаецца наступнае:

Спачатку, – кажа аўтар, – «будуць», г. азн. былі, чуткі пра войны, але гэта яшчэ не быў канец Ерусаліма. Былі голад, мор, землятрусы, хваробы... Хрысьціяне былі ўсімі ненавідзімы, але і гэта яшчэ не быў яго канец. Але вось раптам з'явілася брыдота запусьцення на сьвятым месцы (г. азн. на схіле Вулкана, дзе стаяў ахвярнік Грамабою) і ўсе рзмяшчаўшыяся ў гэтай краіне пабеглі ў горы. Хто быў у полі, не паспеў, захапіць знятай кашулі, хто сядзеў на даху сядзібы, саскочыў з яго і пабег, не зазірнуўшы да сваіх блізкіх, якія знаходзіліся ўнізе. Гора было цяжарным кабетам і маткам грудных дзяцей! Быў смутак, якога не было ад пачатку сьвету і не будзе, і калі б не былі кароткімі тыя дні, то не выратавалася б ніводная душа. З'явіліся ілжэ-месіі і ілжэ-прарокі, якія бянтэжылі звар'яцелую народную масу, і ўсе бедствы адбыліся імгненна, як маланка. Потым былі зацьменні Сонца і Месяца, быў дождж падаючых зорачак і бачылі (уласнымі, вачамі!!) евангельскага «сына чалавечага» ідучага на аблоках, г. азн. на пініепадобным слупе Вязувія пры трубных гуках вулканічнага вывяржэння».

Такім быў канец «Ерусаліма» згодна з евангеллем. Так! Гэта – як вы хочаце, – не алегарычнае апісанне захопу Напалеонам I Масквы восенню 1812 года, і не апісанне паходу рымлянаў у Сірыю пры «шаноўным падарунку». Гэта тое ж самае, што ўжо было і ў «плачы Ераміі»: апісанне разбурэння вялікага горада каля падножжа вулкана, складзенае некалі вельмі дакладна грунтуючыся на паведамленнях сведак, але якое евангеліст Мацвей (верагодна Хвядор Студыт, як я ўжо давёў у першай кнізе) уклаў у вусны свайго «Ратавальніка», перамяніўшы толькі мінулы час усіх дзеясловаў на будучы.

Пампея і першапачатковы Горад Сьвятога Замірэння (г. азн. Ерусалім), – атаясамляюцца тут не толькі грунтуючыся на адной сейсмалогіі, але і на адначасовасьці разбурэння абодвух гарадоў згодна з існуючымі гістарычнымі паданнямі.

Але кім жа быў «шануемы цар» (па-грэцку Ціт, на-лаціне Ганорый), пры якім не яго ўласнае, а падземнае ваярства Грамабоя зрабіла ўсё гэта? Яго атаясамляюць з імператарам Цітам, якога, у сваю чаргу, згодна з маёй храналогіяй, даводзіцца атаясаміць з імператарам Ганорыем. І сапраўды ў Апакаліпсісе, напісаным, як я ўжо даўно вылічыў, у 395 годзе, аўтар згадвае як пра нешта нядаўняе, пра жахлівы землятрус, пры якім загінулі гарады народаў (πόλεις των ΄έθνων – палейс тон этнон, Апакап. 16. 14), г. азн. сугучна з гарадамі Этны, так як найменне гэтага вулкана і азначае проста «народная гара», і этнейцамі (έθνοι) спачатку маглі звацца толькі італійскія тубыльцы, а пазней гэтая назва па-грэцку стала агульнай для ўсіх замежнікаў.

Да якога вывяржэння Вязувія магло б усё гэта мець дачыненне? Евангельскае сведчанне, што пасьля гэтага пацямнела Сонца і зацямніўся Месяц, ды і згадванне гісторыкаў пра Ганорыя-Ціта вымушае зрабіць выснову, што падзея адбылася ў кастрычніку ці лістападзе 393 года, бо 20 лістапада 393 года сапраўды

было сонечнае зацьменне – поўнае ў Адрыятычным моры, Македоніі і Дарданэлах і ў вельмі моцнай фазе – у Рыме і Канстантынопалі.

Магчыма, што пры гэтым землятрусе Пампея была толькі разбурана, а засыпана попелам пазней пры адным із новых жахлівых выяржэнняў Вязувія, напрыклад, у 472 годзе, меўшым наступствам анархію ў Заходняй Рымскай імперыі і пераход там улады да готаў.

Справа ў тым, што ў творах, прыпісваемых Сьветонію і Дыёну Касію, відаць, што імператар Ціт аднавіў пацярпелую ад землятрусу Пампею, і яна існавала пры Адрыяну (г. азн. згодна з нашымі меркаваннямі Ганорыю) і Антаніне (Валентыніяну). Яна нават пазначана на «Пейтынгеравым пергаментным скрутку» (Tabula Peutingeriana), складзеным са злепленых разам кавалкаў пергаменту і маючым у шырыню 1 фут, а ў даўжыню больш 3 сажаняў, і выдадзеным у Венецыі ў 1591 годзе. Гэты скрутак быў знойдзены ў Шпееры Конрадам Цэльтнерам каля 1490 года, і на ім пазначаны ламбардзкімі літарамі назвы мораў, выспаў і гарадоў у рымскіх землях пачатку V стагоддзя. Гэта своеасаблівая доўгая «мапа сьвету» на якой пазначана і Пампея, як яшчэ існуючы горад.

Разгледзім зараз і далейшыя месцы ў Бібліі пра Ерусалім, каб пераканацца, ці падцверджаюць яны нашу гіпотэзу пра тое, што спачатку біблейскі Горад Святога Замірэння быў тоесным з Пампеяй.

У Лукі вышэйпрыведзенае месца Мацвея шмат у чым спісана літаральна, але ў некаторых радках пераіначана (гл. 21) і дададзена белетрыстычная адсябеціна, намагаючыся паказаць, што тут існуе магчымасць прыходу і сапраўднага чалавечага войска. «Будуць, – кажа ён, – вялікія землятрусы па месцах, голад і мор, і жудасныя з'явы, і вялікія адзнакі з неба (21.11). Будзе гнеў на гэтых людзей, і ўпадуць яны ад ляза мяча і павядуць ў палон ва ўсе народы».

Але мы ўжо ведаем, што Лука быў майстрам дадаваць, як факты, свае ўласныя здагадкі, да ўсяго перапісваемага ім у евангеліста Марка. Так жа ён зрабіў і тут.

А больш у Новым запавеце мы не знаходзім нічога пра разбурэнне цэнтральнага горада старажытных прыхільнікаў Грамабоя, лічыўшых, што яго можна было ўшаноўваць толькі на Вязувіі.

У кнігах: Сыход, Лявіт, Лічбы і Другазаконне слова Ерусалім, як я ўжо пазначаў, не ўжываецца ніводнага разу.

У кнізе Быццё існуе толькі проста Горад Замірэння (Салім-ШЛМ) у краіне Лота (Лаціняніна). Каля яго (Быццё 15. 8) жылі цары: Садомскі (СДМ), Гаморскі (ЭМРЕ-Ўмбрскі), Рымскі (АДМЕ), Сабінскі (ЦБІ) і Валэскі (БЛЕ), пра якога нас зноў пераконваюць: «г. азн. Цэр (ЦЭР-Цэзар?)». Іх перамаглі цары Эйлскі (ЭІЛ), Гальскі (ГУД), Шнэрскі і Алсарскі і захапілі сабе ўсю Лацінію (ЛУТ).

А Бацька-Рым (Аб-рам), які жыў тады каля дубровы Умбрыйскіх Марэм (МРА Е-АМРІ) у сваю чаргу зрабіў напад на пераможцаў і вызваліў Лацінію (14. 13). «Калі ён вярнуўся пасьля перамогі ў даліну Шуе, яго ўрачыста сустрэлі там цар Садомскі і цар Салімскі, які насіў званне «сьвяты цар (МЛКІ-ЦДК)», першасьвятар ўсявышняга бога (АЛ-ЭЛІОН) і блаславіў яго».

Адсюль мы бачым, што Горад Сьвятога Замірэння згодна з кнігай Быццё лакалізаваны ў Лацініі (Лацыуме) разам з Садомам і Рымам, бо напісанне АДМ (муж, ваяр) часта замяняла ў рабінаў слова Рым (Ідумея).

У кнізе «Езус» гаворыцца (18. 28), што горад Ёвіс (горад Грамабоя), пераназваны ў Ерусалім, г. азн. у Горад Сьвятога Замірэння, быў адным із 14

гарадоў вобласьці Веніяміна (сына праўды), першапачаткова меўшы найменне Бэноні, г. азн. сын магутнасьці. А потым яшчэ паведамляецца (15. 63), што «першапатковыя жыхары «Ерусаліма» былі прыхільнікі Івіса (Юпітэра Грамабоя) а таму зваліся іёвісіанцы (ІВУСІ)».

«Яны засталіся ў Ерусаліме разам з багаслоўнымі, – кажа аўтар, – нават і да сёння» (Езус 15. 63). Ды і сам Горад Святога Замірэння ў гэтай кнізе мае назву Ёвіс, г. азн. горад Грамабоя (Езус 19. 29).

Тут мы зноў бачым указанне на тое, што першапчатковы Ерусалім быў у сярэдняй Італіі.

У кнізе Суддзі (19. 10) таксама паведамляецца, што горад Ёвіс (горад Грамабоя), пераназваны пазней у Ерусалім (Горад Святога Замірэння) «размешчаны каля гары Пеплаў (АФРІМ), дзе жылі прыхільнікі Грамабоя (Ёвіса) і каля яго былі гарады ТБЭЕ і РОМА (Рым)». А тлумачальнікі дадаюць, што пасьля «распадзення царства» жыхары гэтай вобласьці робяцца цэнтрам 10 багазмагальніцкіх народаў.

І тут паўтараецца (1.21), што «прыхільнікаў Грамабоя (Ёвіса) не выгналі нашчадкі Сына праўды (Веніяміна) і жывуць яны з імі ў Горадзе Святога Замірэння да гэтага дня».

Больш нічога няма пра Ерусалім у кнізе «Суддзі».

У І кнізе Самуіл (17. 54) гаворыцца толькі, што Ўмілаваны (Давыд) перамог гіганта (Гальафа[111]) із готаў[112], качэўнікаў, каля дубравы і потым аднёс яго галаву ў Горад Святога Замірэння. Больш нічога не згадваецца пра гэты горад у І кнізе Самуіла.

У ІІ кнізе Самуіла (15.5) паведамляецца, што Ўмілаваны цар (Давыд) быў памазаны на царства спачатку ў Хеброне (ХБ-РУНЕ – схованка Роны), які раней меў назву горад Арвы (АРВЕ, Быццё 23.2). Цару было тады каля 30 гадоў ад нараджэння. Там ён валадарыў над богаслаўнымі 7 гадоў і 6 месяцаў, а ў «Ерусаліме» ён валадарыў 33 гады, як над багаслоўнымі, так і над богазмагальнікамі, пасьля таго, як забраў у ёвісіанцаў (прыхільнікаў Юпітэра) Слупяное ўмацаванне, і потым (8.7) «перамог горад Красу дапамогі[113] і прынёс у Ерусалім яе залатыя шчыты і шмат медзі».

А далей паведмляецца нешта вельмі незразумелае (21.1-13):

«Быў голад запар тры гады, і Грамабой паведаміў Давыду, што гэта адбылося за грахі яго папярэдніка Савула, які забіў холмцаў (ТБЭНІМ), і вось, каб спыніць голад Давыд аддаў холмцам на «слупаванне» перад Грамабоем семярых дзяцей Савула. І яны былі слупаваны (кінуты ў жарало Вязувія?).

Потым (15.29) паведамляецца, як (пры Давыду) боскі каўчэг перанеслі ў новы Горад Сьвятога Замірэння, потым (19.19) Умілаваны (Давыд) пераправіўся на пароме праз Ярдан (такую назву мела рака По ў Ламбардыі) каля Галгала, каб прыйсьці ў гэты горад, і тут рэзка і нечакана другая кніга «Самуіл» заканчваецца.

У І кнізе Цароў паведаляецца (3.1) як Саламон (г. азн. Юлій Цэзар – Канстанцый Хлор) адружыўся з дачкой «адпускаючага грахі»[114] міц-рымскага ўладара яшчэ да пабудовы храма Грамабою і да закладання сьцяны вакол

[111] גלית (Глёт) – Галет.

[112] גת (ГТ) – Гот.

[113] גת (ЕДР) – пышнасць, краса і עזר (ЭЗР) – дапамога.

[114] פרעה (ФРЭЕ), перакладаемае як Фараон, гэта азначае, між іншым, і адпускальнік грахоў, напрыклад, у прароцстве Іезекі-Іл. ו־לא־אחום לא־אפרע (ЛА АФРЭ Ў ЛА АХ УМ) – не скасую (павіну) і не пашкадую.

«Ерусаліма». «Народ яшчэ прыносіў тады ахвяры на ўзвышэннях (фумаролах?), а галоўны ахвярнік быў на Ўзгорку (на Соме), дзе прынёс ахвяру і Саламон, і там яму з'явіўся ў сне Грамабой, у якога ён прасіў мудрасьці і ён даў яму «ўсё». «Царыца Савойская (ШВА) прыехала да Саламона ў Ерусалім (10.2) з падарункамі, каб пераканацца ў яго мудрасьці, а карабель Хірама прывозіў яму золата Афрыкі (АФІР)». І, нарэшце (15.3), пасьля смерці Бацькі божага (АВ-ІЕ, праемніка Равама-Ліцынія), «Грамабой даў яму сына (АСУ-Езуса) – свяцільня ў Горадзе Сьвятога Замірэння, і зацвердзіў гэты горад».

Потым ідзе доўгае апавяданне пра паўстанне Грамабоя (Іевы, па-славянску: Іуя) і пра скасаванне дынастый у абедзвюх частках імперыі.

У ІІ кнізе Цароў (19. 20-31) прарок Ісая дае загад паведаміць багаслоўнаму цару Езекіі (верагодна Анастасу, 471-518):

– «Ад (загінуўшага) Ерусаліма ўтворыцца парастак і застанецца выратаванае ад Слупяной гары (Вязувія)».

Гэта азначае што перад гэтым ўжо адбылася нейкая «катастрофа». А пасьля гэтага (21.10) Грамабой паведамляе (Манасіі) праз пракрокаў:

– «За тое, што ты рабіў брыдоты горшыя чым омры (умбры, гаморцы), я навяду такое бедства на Горад Сьвятога Замірэння, ад якога зазвініць у абодвух вушах слухаючага, і вытру яго так, як выціраюць чарку (crater): вытруць і перакуляць яе».

Відавочна, што пад формай прадказання тут зноў паведамляецца пра ўжо здзейсніўшыся факт разбурэння гэтага горада землятрусам, ці ж, пасьля разбурэння Пампеі быў абраны для «святога замірэння» іншы больш годны горад у мясцовасьці менш схільнай да вулканічных выяржэнняў, як бачна із далейшага паведамлення пра тое, што хоць наступны яго цар Ёсія ўсім сэрцам быў адданы Грамабою, але той усё ж не адмяніў лютасьці свайго гневу на багаслаўных за грахі Манасіі, яго бацькі.

– «Я адкіну багаслаўных, – сказаў ён, – ад майго твару, адкіну Горад Сьвятога Замірэння (Ерусалім), мой абраны горад, і храм, пра які я паведаміў, што там будзе маё імя» (23. 27).

І гэта было прэлюдыяй да таго (24.11), «што магутны цар-прарок», «цар брамы гасподняй», аблажыў гэты горад, паланіў яго цара Іехонію, вывез усе скарбы із храма Грамабоя і нічога не пакінуў у «Горадзе Святога Замірэння», акрамя земляробаў. Ён прызначыў цараваць над імі Седекію (г. азн. бога-сьвятога). Але быў гнеў Грамабоя над Ерусалімам і над багаслоўнымі, і цар-прарок (Няво) адвёз, нарэшце, «бога-сьвятога» ў Рыву (Рыўеру?), асляпіў яго і разбурыў сьцяны і сядзібы Ерусаліма, пакінуўшы ў ім толькі некалькі беднякоў.

«Увесь народ перасяліўся із Горада Святога Замірэння ў Міц-Рым, таму што баяўся прадказанняў астролагаў (КШДІМ, 25. 26)».

Так згодна з кнігай «Цары» непрымірыма заканчвае сваё існаванне першы Горад Святога Замірэння з Грамабоем каля падножжа Вязувія.

Ці былі цары Іехонія, Седэкія ўжо ўсходнімі царамі, як можна зрабіць выснову грунтуючыся на маёй дыяграме ў першай кнізе? Мы бачылі, што гэтая дыяграма пры сваім заканчэнні пакідае жадаць лепшай адпаведнасьці, і таму я не адважваюся тут настойваць на ёй, як гатовы настойваць на сваіх астатніх параўнаннях.

У дзвюх кнігах Параліпаменана паўтараюцца ўсе папярэднія апавяданні з дробнымі папаўненнямі.

«Выправіў бог свайго вестуна (слуп дыму над Вязувіем), каб знішчыць Горад Сьвятога Замірэння, – паведамляе «першая кніга», – але Ўмілаваны (Давыд) упрасіў яго адмяніць свой намер» (1 Пар. 21. 15).

І больш нічога.

У II кнізе Параліпаменона паўтараецца паведамленне кнігі «Цары» пра тое, што Саламон пабудаваў у Ерусаліме храм Грамабою і паставіў у ім каўчэг запавету (6.10), а потым (12.7) дадаецца, што Падарунак Вуліцы (ШІ-ШУК), міц-рымскі цар, пайшоў на Горад Сьвятога Замірэння з 1 200 калясніцамі і 60 000 вершнікамі, і забраў залатыя шчыты із храма Грамабоя яшчэ пры Равааму (Ліцынію). Раваам зрабіў замест іх медзяныя і валадарыў у Ерусаліме 17 гадоў. Потым (Параліп. 11, 20, 22) пры Ясафату Грамабой наладзіў засаду супраць сыноў Амона (ЭМУН) і Муаба (МУАБ) і супраць гары Сеір (ШЭІР), паўстаўшых на богаслаўных і яны былі забіты (атрутнымі газамі вулкана). Іасафат забраў маёмасць загінуўшых і вярнуўся ў Горад Сьвятога Замірэння. Ён 20 гадоў валадарыў спакойна, дзякуючы тау што ўсе царствы зямлі напалохаліся, калі пачулі, што сам Грамабой ваюе з ворагамі богазмагальнікаў».

А тым часам Ясафат не быў царом богазмагальнікаў, а толькі богаслаўцаў згодна з той жа самай Біблiяй (20.31)....

Потым (24.18-28) пасьля сьмерці першасьвятара Ядая, Ёас (Валентыніян III, 444-455 гг.) і яго князі пачалі ўшаноўваць выявы, і загарэўся праз гэта гнеў Грамабоя на краіну богаслаўя і на Ерусалім. Прарок Захарыя пачаў іх павучаць, але яго пабілі за гэта камянямі на двары храма Грамабоя. За гэта на Горад Сьвятога Замірэння зрабіла напад войска вышыні (Хіл-Арм), вынішчыла ўсіх яго князёў, а Ёас быў забіты змоўшчыкамі. Уся здабыча была даслана да цара Спадкаемчага Валадараня (ДР-МШК), г. азн. Буда-Пешт. (Такую назву мае ў кнізе Параліпаменон тое, што ў кнігах Цароў і ў прарокаў называецца Крывавы Мяшок[115] і лічыцца Дамаскам.)

У кнізе «Цары», як я ўжо даводзіў у першым томе «Хрыста», робіцца нечаканы пераскок ад Ярама да Озіі (АХЗІЕ), а ад яго, як быццам да візантыйскага Іатама (Ільва 1. 457-474 г.г.), які, як і ўсе яго наступнікі, змяшчаліся аднак, згодна са славамі апавяданніка, таксама ў Горадзе Сьвятога Замірэння, тым часам як, згодна са сведчням візантыйскіх гісторыкаў, яны ўжо жылі ў Канстантынопалі. Немагчыма не бачыць, паўтараю, што наша дыяграматычнае супастаўленне мае тут некалькі дэфектаў, паказваючых, што аўтар дрэнна ведаў візантыйскую гісторыю, а таму не дзіўна, што ён і лічыць Канстантынопаль за той жа Горад Сьвятога Замірэння. Ён паведамляе, што «цар Ахаз (г. азн. усходні імператар Зянон (474-491 г.г. згодна з нашым параўнаннем) абрабаваў храм Грамабоя, і царскі палац і князёў і аддаў усё цару-правадыру (АШУР, 28.21), г. азн. выправіў у Германію. Ён прыносіў ахвяры багам «спадчыннага ўладара ДР-МШК)», які перамог яго і наладіў ахвярнікі на кожным куце Горада Сьвятога Замірэння» (28.24).

А згодна з паведамленнямі візантыйскіх гісторыкаў Зянон вядомы сваім указам Генатыкон, выдадзеным у 482 годзе і загадваўшым усім богаслоўным не пачынаць спрэчак ці сварак з якавітамі, г. азн. з ізраільцянамі.

Потым (32, 19) Цёрн-спусташальнік[116], цар правадыр (АШУР), выправіў сваіх рабоў у Горад Сьвятога Замірэння пры Езекіі (Анастасу, 491-518 г.г., які

---

[115] דמ־שק (ДМ-ШК) азначае крывавы сак. а דר־משק (ДР-МШК') – спадчыннае валоданне, ад ДР – род і МШК' – кіраванне.

[116] СНХРІБ = СНЕ-ХРБ – Цёрн гары Хорыва.

заступаўся за монафізітаў), ганячы Грамабоя і патрабуючы, каб цар падпарадкаваўся. Але прарок Ісая памаліўся Грамабою, і той выправіў свайго вястуна (атрутныя газы Вязувія), які вынішчыў усіх адважных у войску Цёрна-спусташальніка, і той вярнуўся ў сваю зямлю. Пасьля гэтага Ёсія (Геракліў 610-641 г.г.), быццам бы валадарыўшы ў Горадзе Сьвятога Замірэння 31 год, «разбурыў ахвярнікі бэлаў, і статуі Сонца, і прысьвечаныя дрэвы, і слупы». Але гэта, аднак, не дапамагло яму.

«Была знойдзена «Кніга закона Грамабоя» (34,14), пісаная рукой Майсея, дзе Гораду Сьвятога Замірэння было прызначана разбурэнне», якое, быццам бы, і здзейснілася праз некалькі гадоў пасьля смерці Ёсіі.

Тут канчаткова абрываюцца паведамленні пра першы Горад Сьвятога Замірэння, разам з «гістарычнымі кнігамі Бібліі». А потым, у кнігах Ездры, гэты горад аднаўляецца ўжо ў Палестыне такім чынам:

«У 1 год валадарання Кюруса (Карласа), парнскага (ПРС) цара, ён выправіў жыўшых у Парысе багаслоўцаў будаваць храм іхнаму богу ў «Ерусаліме» пад кіраўніцтвам Чужога Брамы Госпада (Зора-Бабеля) і Ратавальніка (Езуса), і яны пачалі справу. Потым на сёмы год цара Арташата[117] пайшлі некаторыя із богазмагальнікаў зноў у «Ерусалім» (7.7) пад кіраўніцтвам Ездры, «каб адправіць срэбра і золата, якое цар і яго дарадцы ахвяравалі богу богазмагальнікаў, маючаму жыллё ў «Ерусаліме» (7.15), і паведамляецца спіс прыйшэлых туды з Ездрай.

Увесь змест кнігі паказвае, што тут пад Ерусалімам маецца на ўвазе ўжо Эль-Кудс у наваколлі Мёртвага мора.

Гэта і была першая пабудова Горада Сьвятога Замірэння, дзякуючы непаразуменню, ў Палестыне, а ніяк не аднаўленне некалі існаваўшай тут старажытнай сталіцы.

Неямія пачынае так жа, як і Ездра.

«Да мяне прыйшоў адзін із маіх братоў із «Юдэі», – распавядае ён, – і паведаміў, што сьцяна Ерусаліма разбурылася, вароты згарэлі і жыхары ў вялікай нястачы. Я служыў тады падчашым у цара Арташата, і ён, даведаўшыся ад мяне пра гэта, пусьціў мяне з паплечнікамі па веры аднаўляць горад. Я праехаў праз Далінную браму ноччу да крыніцы Цмока і да Гнойнай брамы. Сьцены Ерусаліма (г. азн. ранейшага рымскага ўмацавання ў Палестыне, якое мела назву Aelia Capitolina) былі разбураны, брама спалена (2.14), але мы іх аднавілі за 52 дні» (6. 15).

Потым ідзе пералік прыйшоўшых із Парыса і тлумачыцца парадак пабудовы. Тут таксама амаль няма сумневаў, што гаворка ідзе, як і ў папярэднічаўшай кнізе пра пабудову ўмацавання ў Эль-Кудсе, які памылкова быў палічаны за разбураны Ерусалім, а такім чынам і гэтая кніга таксама вельмі позняя. Яна і размяшчаецца ў юдэйскай Бібліі ўслед за Ездрай у ліку трох самых апошніх. Я лічу яе напісанай ужо ў часы Карла Вялікага (742-814) і Гарун Аль-Рашыда (786-809).

Нам застаецца толькі даследаваць, як выказваюцца «псалмы» пра Горад Сьвятога Замірэння.

Вось 79 псалом «збіральніка» (асафа па-біблейску).

---

[117] דאר־תחש־סתא (АР-ТХШ-СТА). Яго падзяляюць на АР – святло, ТХШ – сьвятое пакрывала ахвярніка і ШАТ (שאת) – веліч. Лічыцца пярсідзкім Ардашырам. Але не патрэбна забывацца, што і ў армянаў быў цар Аракс, які заснаваў горад Ардашар ці Артаксат, спустошаны быццам бы персамі ў 370 годзе нашай эры, пасьля чаго сталіца перайшла за 25 вёрстаў на паўночны захад, у Эрывань. Акрамя таго Ардашыр дывергентна сугучны з Аль-Рашыдам.

«Багі»! Паганцы прыйшлі ў тваю спадчыну. Яны апаганілі твой сьвяты храм,ператварылі Горад Сьвятога Замірэння ў разваліны. Яны аддалі трупы тваіх служак на з’яданне нябесным птушкам, целы тваіх сьвятых – зямным звярам. Мы зрабіліся пасмешышчам у нашых суседзяў, прадметам зневажання і ганьбавання атачаючых нас. Да якой пары, бог Грамабой, ты будзеш гневацца? Да якой пары бесперастанку будзе гарэць, як полымя, твая лютасць? Выллі лепш твой гнеў на паганцаў, якія цябе не ведаюць, і на царствы, якія не прызнаюць тваё імя... Дапамажы нам наш бог Езус (па-жыдоўску ІШЕ–Іесус)!»

Не цяжка бачыць, што гэты псалом напісаны пад уражаннем чытання «Плачу Ераміі», із якога ў ім цэлыя фразы, але аўтар, відаць, ужо не ведаў, што той апісваў не Эль-Кудс, а Пампею. Гэта азначае гэты псалом таксама напісаны ў часы Гарун аль-Рашыда ці нават напярэдадні крыжовых паходаў.

Асабліва ж ідэалізаваны і ўжо вельмі цьмяна ўяўляемы Горад Сьвятога Замірэння ў пятнаццаці псалмах (120-134) якія маюць назву Песьні ўзыходжання, г. азн. спяваліся пры ўзыходзе сонца.

«Нашы ногі стаялі, – кажа 122-і псалом, – каля тваіх брамаў, Ерусалім. Ерусалім, узведзены як горад, зліўшыся ў адно цэлае!

Там праходзілі плямёны Грамабоя (зоркі), там стаялі пасады суда. Прасіце замірэння, гораду міра! Ды хай жывуць у дастатку ўсе ўшаноўваючыя яго».

Тут Горад Сьвятога Замірэння астралізаваны. Гэта не Пампея і не Эль-Кудс, гэта апакаліптычны Новы Ерусалім – зорнае неба.

Дакладна тое ж і ва ўсіх іншых псалмах гэтага згуртавання, як напрыклад, у 147-м:

«Хваліце Грамабоя», – кажа ён, – таму што прыемна бразгаць яму. Ён стварае Горад Сьвятога Замірэння і збірае ў яго выгнаннікаў Богазмагальніка. Ён суцяшае ўражаных сэрцам, і лякуе іхныя хваробы».

Чытач бачыць сам, што бог Ёвіс тут нават не Грамабой, а Будучы бог, – сінонім грэцкага Вечна-жывучага (Зеўса-Дыяса).

«Шчасьлівы кожны, хто баіцца Будучага бога, – кажа псалом 128, – шчаслівы ходзячы яго шляхамі. Ён добраславіць яго са свайго слупа, і ты пабачыш дастатак Гарада Сьвятога Замірэння».

Тут нават і «Слуп» ужо не пінеяпадобны, хмарны выдых із жарала Вязувія, паднімаючыся да нябёсаў, а, хутчэй, знак хрысьціянскага стаўраса – слупа, ператворанага ў перакладах у крыж.

Евангельская самарыцянка, г. азн. жыхарка Рымскай вобласьці, сустрэўшы каля студні Езуса, сказала яму, згодна з евангеллем Яна (4.20):

– «Нашы продкі ўшаноўвалі (Грамабоя) на гэтым (рымскім) узгорку, а вы кажаце, што месца, дзе яго патрэбна ўшаноўваць, знаходзіцца ў Горадзе Сьвятога Замірэння (г. азн. у Пампеі каля падножжа Вязувія)».

– «Настае час, – адказаў ёй Езус, – калі будуць ушаноўваць бога-бацьку і не ў Ерусаліме, і не на гэтым узгорку, а ўсюды ў духу і праўдзе».

Гэтыя словы паказваюць нам, што, сапраўды, нават у часы евангельскага Хрыста адзінымі месцамі глыбокага ўшанавання бога-Грамабоя лічыліся: «Ерусалім» на схіле Вязувія ў богаслаўных, і Рым (Самарыя) у богазмагальнікаў, і толькі пазней, пасьля разбурэння гэтага Ерусаліма і яго пахавання пад попелам богаслоўныя пачалі ўшаноўваць Грамабоя ўсюды, куды залятаюць навальнічныя хмары і куды загнаў іх лёс.

Адна гэтая выключнасць месца першапачатковага глыбокага ўшанавання бога-Грамабоя (Іеве) паказвае на выключнасць яго геафізічнай прыроды, г. азн. зноў на наваколлі Вязувія.

На гэтым я і скончу сваё даследаванне Горада Сьвятога Замірэння, якім ён выяўляецца ў Бібліі і ў евангеллях. Гэта, паўтараю, быў пераносны горад, назва якога прынамсі, двойчы пераходзіла з месца на месца, пакуль не паднялася, нарэшце, на нябёсы, кінуўшы на зямлю, падобна праpоку Іллі, толькі свой плашч у выглядзе палестынскага Эль-Кудса, старажытнай Эліі Кадзеша, г. азн. гарада св. Іллі, маючага зараз назву хрысціянскі Ерусалім.

# ГЛАВА III.

## Эль-Кудс – псеўда Ерусалім хрысьціянскіх аўтараў.

Паглядзім зараз, што паведамляюць пра Горад «Сьвятога Замірэння» хрысьціянскія апокрыфы, бо ніякіх сапраўдных хрысьціянскіх дакументаў першых стагоддзяў нашай эры не існуе.

Усе яны ўжо перанеслі яго ў Палестыну.

Пачнём з лацінскай кнігі «Пра шалі і меры», прыпісваемай Епіфану Кіпрскаму[118].

[118] Яго творы падабраны толькі ў XVII стагоддзі нашай эры, перад тым як і былі надрукаваны ў Парыжы пад назвай: S. Epiphanii Opera. 1622 г.

Мал. 115.
*Медалі Лаціна-Эліна-Сірыйска-Ягіпецкіх імператараў, атрыманыя вандроўнікамі па Палестыне ў XIX стагоддзі ад арабаў. Згодна з Madden'у: «The Coins of the Jews».*

Мал. 116.
*Медалі атрыманыя вандроўнікамі па Палестыне ў XIX стагоддзі ад арабаў (Згодна з Madden'у)*

*1 ברת ציון (КРТ ЦІВУН) – абразанне Сіёна.*
*2. T(itus) CAES. IMP. VESP(asian) PON. TR. POT.*
*4. (Domi) TIAN. AVC.*
*5. Бронзавы медаль Веспасіяна ў памяць пабудовы ім храма ў Эль-Кудсе.*
*6. Другі яго ж.*
*(Усе дахі ў храма еўрапейскага сярэднявечнага стылю з дзвюма суцэльнымі пакатасьцямі для дажджу!!)*

У гэтай (апакрыфічнай, мяркуючы па яе позніх уяўленнях пра хрысціянства) кнізе, ён кажа:

«Імператар Адрыян прыйшоў у Антыёхію, перасек Келеспрыю і Фінікію і дасягнуў Палестынскай краіны, якая завецца таксама Юдэяй, у 47 годзе пасьля разбурэння Ерусаліма. Ён дайшоў да гэтага славутага і гераічнага горада, разбуранага Цітам, сынам Веспасіяна, на другім годзе яго валадарання. Ён пабачыў, што ўвесь горад зраўнаны з зямлёй, і сядзіба госпада топчацца нагамі. Ацалела толькі некалькі сядзіб і царква боская – маленькі будынак, пастаўлены на тым самым месцы, дзе пасьля ўсшэсьця Ратавальніка вярнуўшыяся із Аліўкавай Гары вучні сабраліся ў верхнім пакоі. Яна стаяла ў той частцы Сіёна, якая пазбегла разбурэння, гэтак жа як і некалькі будынкаў вакол яе і сем сінагог, раскіданых у Сіёне як хутары. Толькі адна із іх ацалела да часоў біскупа Максіма і імператара Кастуся, як халупа сярод агуркоў, згодна са славамі пісання. Адрыян надумаў аднавіць горад, але не храм. Ён прызначыў Аквілу назіраць за працамі па пабудове горада».

«Так як сам ён меў імя Элій Адрыян, то і горад быў названы Эліа (гл. XIV)».

Гэта імя мы і знаходзім на шмат якіх медалях, знойдзеных у Сірыі (мал. 115 і 116).

«Аквіла пасяліўся ў Ерусаліме і знайшоў там пасьлядоўнікаў, былых вучняў апосталаў, поўных веры і ствараючых вялікія цуды лекаваннем і іншымі спосабамі. Яны ў гэты час вярнуліся ў Ерусалім (г. азн. у Элію) із Пеллы і вучылі там, таму што перад тым як горад быў узяты рымлянамі, усе вучні былі папярэджаны анёлам пра тое, што ім патрэбна пакінуць яго. Яны пакінулі свае сядзібы і пасяліліся ў вышэйзгаданым горадзе Пела за Ярданам, які лічыўся адным із гарадоў Дэкаполіса. Пасьля аднаўлення Ерусаліма яны вярнуліся і праявілі сябе ўхвальнымі справамі».

Із гэтай кнігі мы бачым, што Адрыян не разбураў ніякага Ерусаліма ў Палестыне, а, наадварот, пабудаваў тат на месцы маленькага мястэчка (з сінагогай «стаяўшай у IV стагоддзі, пры Кастусю, як халупа сярод агуркоў» і з маленькай хрысьціянскай царкоўкай) умацаванае мястэчка Элію Капіталіну ці Элію Кадзіш, зараз Эль-Кудс, і што гэтую Элію (г. азн. горад Іліі) хрысьціяне пазней пачалі называць Ерусалімам.

Тое ж самае нам паведамляе і кніга «Цеафанія» (IV, 20):

«Мы лёгка можам бачыць на нашы ўласныя вочы наколькі юдэі раскіданы сярод усіх іншых народаў і наколькі жыхары таго, што было (?) раней Ерусалімам, а зараз мае назву Элія ў гонар Элія Адрыяна, з'яўляюцца чужакамі і нашчадкамі іншай расы... Ім забаронены доступ менавіта толькі ў іхны ўласны горад і на месца іх ранейшых набажэнстваў... І зараз, калі іхнае месца занята чужакамі, нашчадкамі іншага народа, ім не дазволена нават ступаць туды нагой, бо і здалёку яны не адважваюцца зірнуць на краіну сваіх продкаў. Так выканалася ўсё прадказанае прароцтвам» (IV.20).

Гэта ж неіснаванне Ерусаліма ў Палестыне да Адрыяна падцверджваюць нам і апакрыфічныя «Каментары на прароцтва Іезекііла», прыпісваемыя шчасьліваму Ераніму, які памёр, згодна са словамі тэолагаў, у 419 годзе[119].

«Горад быў узяты і храм рзбураны ў часы Ціта і Веспасіяна. Праз 50 гадоў, у часы Адрыяна, горад быў такім зруйнаваным і ператвораным у попел, што страціў нават сваю ранейшую назву (гэта за 50-та гадоў!)».

І яшчэ знаходзім ад яго ж імя ў Каментарыі на Ісайю:

«Дзе быў аднойчы храм і сьвяцілася імя Бога, там зараз стаіць статуя Адрыяна і выява Юпітэра (г. азн. таго ж Еговы-Бацькі) (II.9).

«Госпадзі – сказаў я – як доўга чакаць?» І бог адказаў: «Народ не будзе бачыць і не будзе чуць, і сэрцы іх будуць зачынены, пакуль Веспасіян і Ціт будуць ваяваць супраць гарадоў Юдэі. Гэтыя гарады будуць разбураны дашчэнту, так што нават іхныя найменні будуць забыты, у ацалелых сядзібах не застанецца жыхароў, уся краіна будзе сапраўднай пустыняй, і жыдоўскі народ будзе раскіданы па ўсяму сьвету, у бадзяннях ці ў палоне... А калі краіна стане пустынай... тады і ў другі раз яе парэшткі будуць аддадзены разбурэнню: амаль праз 50 гадоў прыйдзе Адрыян і канчаткова знішчыць краіну юдэйскую, якая будзе як голае дрэва, як дуб, страціўшы свае сукі. Нават самыя правы народа будуць знішчаны, і юдэям будзе забаронена ступаць на тую зямлю, із якой яны былі прагнаны» (VI.11).

[119] Яго творы падабраны толькі ў XVIII стагоддзі нашый эры і надрукаваны ў Вероне ў 1734-1742 гг.

Тут Элій Адрыян із заснавальніка горада Эль-Кудс ператварыўся ўжо ў канчатковага яго разбуральніка. А форма прадказання з'яўляецца толькі адметным родам апавядання пра тое, што, згодна з паведамленнямі аўтара, ужо здзейснілася.

Потым мы бачым тут і першы падыход да стварэння легенды пра ранейшае разбурэнне гэтага не існаваўшага тут раней горада.

У «Святой Гісторыі», прыпісваемай Сульпіцыю Северу, быцца бы памёршаму ў 429 годзе[120], гаворыцца, што «сабраўшы раду, імператар Ціт быццам бы, разважаў, ці знішчыць яму Ерусалімскі храм, такі выдатны будынак? Адны выказваліся, што сьвяты будынак, які пераўзыходзіць ўсё да гэтага часу створанае чалавечымі рукамі, не павінен быць разбураны, таму што захаваны, ён будзе служыць доказам рымскай разважлівасьці, а разбураны будзе вечным доказам рымскай жорсткасьці. З другога боку, Ціт, а з ім і іншыя, лічылі, што храм абавязкова павінен быць разбураны, каб такім чынам была скасавана рэлігія юдэяў і хрысьціян, бо хаця абедзьве гэтыя рэлігіі і варожыя адна другой, але ўсё ж яны паходзяць ад тых жа самых стваральнікаў; хрысьціянства ўзнікла ў асяроддзі юдэяў і таму, калі корань будзе выдраны, то і яго парасткі хутка загінуць» (II.30).

Чым скончылася гэтая «нарада злых» мне не вядома, але разбурыць «Ерусалім» у Палестыне ўсё ж аўтару было неабходна, таму што ў адваротным выпадку Адрыян не мог бы там заснаваць сваю «Элію» (AELIA CAPITOLINA, гл. медалі мал. 115 і 116).

«Адрыян – працягвае аўтар – маючы намер знішчыць хрысьціянскую рэлігію тым, што апаганіць сьвятыя месцы, паставіў у храме, на тым самым месцы, дзе пакутаваў Ратавальнік, выявы дэманаў(!). А так як хрысьціяне, згодна з агульным меркаваннем, пераважна складаліся із жыдоў, то ён загадаў кагорце жаўнераў нязменна стаяць на варце, каб перашкодзіць жыдам наблізіцца да Ерусаліма...У гэты час сярод элінаў Марк быў першым біскупам Ерусаліма» (II, 31).

У Аглядзе «гісторый», прыпісваемых Рыгору Кедрэнусу[121], мы знаходзім гэтае ж самае ілжэсведчанне пра разбурэнне ў Палестыне «Ранейшага Ерусаліма», распрацаваным яшчэ больш:

«Падчас Адрыяна – паведамляе ён – юдэі выявіліся дзейнымі і імкнуліся аднавіць Ерусалімскі храм, але ён (Адрыян) быў да іх вельмі жорсткі і пайшоў на іх вайной, у якой забіў іх 58 мірыяд (!) у адзін дзень. Ён разбурыў таксама старажытныя парэшткі горада і храма і заснаваў новы Ерусалім. (Migne: Patrologia Graeca CXXI, col. 477).

Аналагічную хлусню паведамляе і «Гісторыя», прыпісваемая Арозію[122].

«У апошняй бітве Адрыян пабіў юдэяў, якія, раздзіраемыя згрызотамі сумлення пра здзейсненыя імі злачынствы, пакінулі тое, што некалі было іхнай роднай ерусалімскай зямлёй. Ён так адпомсьціў за хрысьціянаў, якіх юдэі, пад правадырствам Кахебы катавалі за тое, што яны не пажадалі далучыцца да іхнага паўстання супраць рымлян. Ён выдаў таксама дэкрэт, згодна з якім ніводны юдэй не мог прыйсьці ў Ерусалім, бо гэты горад быў аддадзены толькі хрысьціянам. Ён прывёў яго таксама ў цудоўны выгляд, аднавіўшы сьцены і загадаў назваць яго згодна са сваім імем Эліяй» (VII. 13).

---

120 Яго ўяўныя творы творы падабраны толькі ў 1668 годзе выдадзены Vorst'ом.

121 Кедрэнус памёр на пачатку XII стагоддзя і напісаў Сінопсіс гісторыі (Συ΄νοψις ἱστοριν) ад стварэння сусьвету да 1057 года.

122 Лічыцца памёршым у V стагоддзі. Яго маркуемыя творы падабраны і выдадзены толькі ў 1471 годзе ў Аўгсбургу.

Усё гэта, вядома, з'яўляецца толькі наіўнымі спробамі патлумачыць той факт, што ў «Ерусаліме» да крыжовых паходаў не выявілася не толькі ніякіх слядоў былой велічы і былых будынкаў, але нават і юдэяў.

Зразумела, што з гэтай жа нагоды следам за хрысьціянамі ідзе і так званы «Ерусалімскі Талмуд»[123].

«9-га дня месяца Аба быў захоплены Батар (!), і па зямлі, дзе стаяла сталіца, прайшоў плуг» (Тааніт IV.5/6).

А Майманід у выданні Джуліа Барталочы[124] падцверджае гэта:

«Бязбожны тыран Руф із староў Ідумейскіх (г. азн. рымскіх) узараў плугам тое месца, дзе быў храм, і яго наваколлі, каб спраўдзілася (!) прадказанне Ераміі» (XXVI, 18).

Яшчэ больш апакрыфічна распрацоўвае гэтую легенду Велікодная[125] хроніка пад 119 годам:

«У часы гэтых консулаў – паведамляе яна – юдэі паднялі паўстанне, і Адрыян прыйшоў у Ерусалім. Ён паланіў юдэяў, прыйшоў да месца маючага найменне Цярэбінт і наладзіў народны кірмаш. Ён прадаваў іх як рабоў, коштам каня за чалавека. Застаўшыхся ад продажу ён павёў у Газу, наладзіў і там кірмаш, і прадаў. Гэты кірмаш да гэтага дня мае назву «Адрыянавы кірмаш». Ён разбурыў юдэйскі храм у Ерусаліме і пабудаваў дзьве дэмосіі, тэатр, трыкамерон, тетрапімфон, додэкапілон, раней меўшы назву Анабатма («прыступкі») і Кодру і падзяліў горад на сем кварталаў, прызначыўшы кіраўніка для кожнага квартала. І да гэтага дня кожны із гэтых кварталаў мае назву згодна з імем свайго кіраўніка. Ён назваў таксама горад сваім уласным імем Эліяй, бо ён меў імя Элій Адрыян. (Migne: Patrologia Graeca XCII, col. 613-616.)

У выніку ўсіх гэтых сведчанняў, як чытач бачыць сам, не разбярэш: што ж зрабіў Адрыян? Ці разбурыў Эль-Кудс ці аднавіў яго, ужо разбураны?

І толькі калі мы будзем кіравацца нашым метадам геафізічных умоў дадзенай мясцовасьці, мы можам з упэўненасьцю вырашыць гэтае пытанне: Адрыян пабудаваў на гэтым месцы рымскае ўмацаванне, і раней на ім, акрамя вёсачкі, больш нічога не было.

А пазней апакрыфічная «Гісторыя Рыма», прыпісваемая Дыёну Касію[126] апісвае і ўяўныя жудасныя наступствы гэтай пабудовы Адрыяна:

«Заснаванне асады ў Ерусаліме на месцы знішчанага горада, названай Адрыянам Эліяй Капіталінай, а таксама пабудова новага храма Ёвіса-Патара (Юпітэра) на месцы храма Іеве (а гэта адно і тое ж найменне на двух розных вымаўленнях) паслужылі нагодай да доўгай і жудаснай вайны. Юдэі, раздражнёныя тым, што чужынцы жывуць у іхным горадзе і здзяйсняюць ахвяраванні, адрозныя ад іхных, заставаліся спакойнымі толькі пакуль Адрыян знаходзіўся ў Ягіпце і пасьля таго, як ён вярнуўся ў Сірыю... Але як толькі

---

[123] Агады (г. азн. апавяданні) Ерусалімскага Талмуда ўпершыню былі сабраны і забяспечаны нататкамі Самуілам бэн Ісакам Яфе Ашкеназі ў яго מראה יפה (ІФЕ МРАЕ) – Выдатнае відовішча, і выдадзены ў Венецыі ў 1589 годзе. Старажытных рукапісаў не існуе.

124 Bibliotheca Rabbinica (III, p. 697). 1675 г.

[125] Chronicon Paschale, уяўляе спіс падзей ад Адама да 629 года нашай эры. Хрысьціянскае летазлічэнне пачынаецца ад раўнадзенства 21 сакавіка 5507 года, (як пад час нараджэння Васіля Вялікага), тым часам як ужо на пачатку нашай эры веснавае раўнадзенства – пачатак старажытнага года – прыпадала на 23 сакавіка, а ў – 5508 годзе на 7 красавіка юліянскага злічэння!

[126] Ρωμαϊκὴ ἱστορία (Рымская гісторыя). Даведзена да Аляксандра Сявера і напісана падобна таму ж белетрыстычнаму ўзору, як і «Гісторыя» Фукідыда. Дыён Касій лічыцца памёршым у 325 годзе.

імператар пакінуў гэтую краіну, яна падняла адкрытае паўстанне. Яны не адважваліся змагацца з рымлянамі ў адкрытым полі, але захоплівалі зручныя пазіцыі і ўмацоўвалі іх сьценамі і падземнымі хадамі (XVI, 7).

«Але яны не перамаглі рымлянаў. Пяцьдзясят іхных умацаванняў і 955 іхных гарадоў і паселішчаў былі разбураны. 180 000 (!) людзей было забіта. Загінуўшых ад голаду і полымя была незлічоная колькасьць, так што амаль уся Юдэя ператварылася ў пустыню, як было прадказана перад вайной. Помнік Саламону, быўшы ў вялікім шанаванні ў юдэяў, сам сабой зваліўся і пабіўся. Вялікая колькасць ваўкоў і гіен бадзялася з выццём па гораду» (XIX.14).

Такім чынам Адрыян ужо не заснавальнік горада свайго імя, а яго разбуральнік... Адсюль відавочна, што была патрэбна канчаткова стварыць і тое, што выявілася разбураным.

І вось за гэта ўзяўся аўтар «Царкоўнай Гісторыі», зваўшы сябе Яўсевіем Памфілам (пабожны усешанавальнік):



Мал. 117

*Рэшткі сярэднявечнай Эліі Капіталіны. Паўночна-заходні куток Нагат'а, які лічыцца за прэторыум (аднавіўшыся із памёршых пасьля разбурэння яго Адрыянам!)*



Мал. 118.

*Рэшткі ад сярэднявечнай Эліі Капіталіны. Лічыцца апакрыфічна аркай, дзе Пілат вымавіў пра Езуса «Ессе Номо (вось чалавек)» хаця самі ж гісторыкі сцвярджаюць, што нават пры Кастусю І, г. азн. у IV стагоддзі, на месцы горада тут была толькі «халупа сярод агуркоў».*

«Згодна з Егезіпам – сведчыць ён – пасьля пакутніцкай сьмерці Якава Справядлівага, зведанай ім з той жа нагоды праз якую зведаў сьмерць і Гасподзь, Сімяён, сын Клапа, дзядзькі Ратавальніка, быў прызначаны на назіральніцства. Яму прапанавалі быць наступным біскупам, таму што ён быў стрыечным братам Ратавальніка» (IV, 22).

«Калі Даміцыян загадаў забіць усіх нашчадкаў Давыда, то – як сведчыць старажытнае паданне – некаторыя із паганцаў прынеслі яму данос і нашчадкаў Юды – які, як сцвярджаюць, быў родным братам па крыві Езуса – кажучы, што яны паходзілі із роду Давыда і былі сваякамі Хрыста» (III.19).

«Із роду Хрыста тады яшчэ заставаліся жывымі толькі ўнукі Юды і згодна з дазнаннямі яны, сапраўды, выявіліся належачымі да роду Давыда. Яны былі прыведзены да імператара Даміцыяна Евакатa, які, як і раней перад ім Ірад, асьцерагаўся прышэсьця Хрыста». Але даведаўшыся, што яны былі беднымі людзьмі, жыўшымі на маленькім лапіку зямлі, які яны апрацоўвалі ўласнымі рукамі, Даміцыян іх вызваліў, і яны кіравалі цэрквамі, таму што былі сведкамі жыцця і сваякамі Ратавальніка. І калі надышоў мір, яны дажылі да часу Адрыяна» (III.20).

А Эгезіп дадае, што і самі іхныя абвінаваўцы, калі былі пашукі нашчадкаў Давыда, былі захоплены, як належаўшыя да гэтага роду... Той жа самы гісторык сведчыць, што існавалі і іншыя нашчадкі Юды, аднаго із так званых братоў «Ратавальніка», якія былі прыведзены да Даміцыяна, як вызнаючыя Хрыста, і жылі падчас яго валадарання.

«Яны прыйшлі і ўзялі на сябе кіраванне кожнай із суполак, як сведкі і сваякі Ратавальніка. І калі ў кожнай суполцы надышоў працяглы час замірэння, яны засталіся ў іх да ўцаравання імператара Траяна, калі быў дадзены загад, каб ён (Сямён, дзядзька Езуса) быў укрыжаваны» (III.20).

«Я нідзе не знайшоў – дадае Яўсевій – пісьмовых сведчанняў пра храналагічную пасьлядоўнасць біскупаў у Ерусаліме. Як паведамляе паданне, усе яны жылі нядоўга. Але я даведаўся, што да аблогі юдэяў у часы Адрыяна было пасьлядоўна 15 біскупаў, і, як кажуць, усе яны былі жыдоўскага паходжання..... таму што тады ўся царква складалася із вернікаў жыдоў, ад апостальскіх дзён і да аблогі, што была ў гэты час. Пры аблозе жыды, якія паўсталі супраць рымлян, былі пераможаны «пасьля жорсткіх змаганняў» (IV.5) Усяму народу ад гэтага часу загадамі Адрыяна было навекі забаронена вяртацца ў наваколлі Ерусаліма. Імператар выдаў загад, што забараняе ім нават здалёку бачыць краіну сваіх бацькаў... І такім чынам, калі горад быў вычышчаны ад жыдоўскага насельніцтва і канчаткова страціў сваіх ранейшых насельнікаў, ён быў заселены іншым народам... А так як хрысціянская суполка зараз складалася із элінаў, то першым, хто прыняў на сябе кіраванне ёю пасьля абрэзаных біскупаў, быў Марк.

«Гісторыя Рыма», прыпісваемая Апіяну, распрацоўвае легенду пра Ерусалім у Палестыне яшчэ далей у глыб стагоддзяў, да Пампея і Пталямея, і акрамя таго аўтар выстаўляе сябе нават сучаснікам гэтых падзей[127].

«Пампей магутнасьцю задушыў паўстаўшы жыдоўскі народ, выправіў яго цара Добрага-дарадцу (Арыстабула) у Рым і разбурыў вялікі і сьвяты горад Ерусалім, які ўжо быў заваяваны Пталямеем І царом Ягіпта. Пасьля свайго аднаўлення ён быў зноў разбураны Веспасіянам і, нарэшце, у наш уласны час(!) Адрыянам. З гэтай нагоды падаткі, плацімыя жыдамі з чалавека значна большыя у параўнанні з падаткамі суседніх народаў, як-то сірыйцы і кілікійцы, якія плацяць штогадова з чалавека сотую долю із абкладаемай маёмасьці (Сірыя, гл. І).

А «Гісторыя Рыма», прыпісваемая Дыёну Касію, паведамляе і больш дакладныя сведчанні (XVI.7):

«З часоў разбурэння Ерусаліма Цітам кожны юдэй, вызнаючы законы сваіх продкаў, павінен быў плаціць штогадова дзьве драхмы Капіталійскаму Юпітару (τῳ Καπιτωλίῳ Διΐ г. азн. свайму ж Егове-Бацьку!).

А ў паганскіх пісьменнікаў, ні ў іерогліфах, ні ў клінапісных тэкстах, ні ў грэкаў і лацінянаў няма і згадак пра Ерусалім.

Такімі з'яўляюцца нашы бедныя і супярэчлівыя першакрыніцы па гісторыі Эль-Кудса, г. азн. палестынскага Ерусаліму падчас узнікнення хрысьціянства (ў IV стагоддзі нашай эры). Нават і ў часы Кастуся І там была толькі вёсачка з маленькай сінагогай, стаяўшай «як халупа сярод агуркоў», а потым да яе далучылася і хрысьціянская цэркаўка з некалькімі сядзібкамі..,

Відавочна, што раней тут не было нічога.

[127] Апіян лічыцца памёршым у Александрыі пры Антаніне Пію, а прыпісваемыя яму складанні падабраны і выдадзены толькі ў 1551–1557 гадах у Парыжы.

Непараўнальна паўней і нашмат аднагалосней і грунтоўней, нашы першакрыніцы ілжыва сведчаць (нават як пабачым, відавочна) пра размешчаную каля гэтага мястэчка Галгофу, на якой, згодна з іхнымі запэўніваннямі, быў «укрыжаваны» Езус (мал. 119).



Мал. 119.
*Эль-Эдемійен (El Edhemiyen). Узвышша, выдаваемае за Галгофу, і (налева) пячора, выдаваемая за грот прарока Ераміі.*

Калі мы ўважліва прачытаем сведчанні старажытных пісьменнікаў адносна гэтага месца, то знойдзем, што ўсё яны згодны ў тым, што пад Галгофай быў, ці нават ляжыць і зараз, чэрап Адама. Вось што паведамляюць некаторыя із іх.

1) У каментарах да св. Мацвея, якія прыпісваюцца Арыгену[128], гаворыцца:

«Згодна з традыцыяй цела Адама было пахавана на тым месцы, дзе пазней быў укрыжаваны Хрыстос, так як у Адаме мы ўсе паміраем, а ў Хрысьце адраджаемся. У месцы Чэрапа (Галгофе) ці ў месцы Мёртвай Галавы – Пачынальнік чалавечага роду (Адам) аднавіўся зноў у ажыванні нашага Бога і Ратавальніка. (Захавалася толькі ў лацінскім тэксце, Migne: Patrologia Graeca, XIII, col. 1, 777.)

2) У разважанні «Пра жарсьці і пра хросную сьмерць Бога», прыпісваемым Апанасу Вялікаму[129], мы знаходзім:

«Дзе б ён ні пакутаваў, ён не вісеў на слупе ў нейкім іншым месцы, акрамя маючага назву Чэрап (Галгофа), якое згодна са сведчаннямі юдэйскіх настаўнікаў было месцам пахавання Адама, пасьля яго праклёну». А калі гэта так, то і не магло быць лепшага выбару для ўкрыжавання, бо патрэбна, каб Хрыстос, які адрадзіў старога Адама, зведаў пакуты у тым жа самым месцы і сьцёр гэтым яго грэх, вызваліўшы ад яго і ўсё чалавецтва. Ужо ў той час, калі Бог гаварыў Адаму: «пыл ты ёсць і ў пыл ператварышся», ён (Бог) прыйшоў да высновы, што магчыма потым знайсьці Адама менавіта ў гэтым месцы, вызваліць яго ад свайго праклёну і сказаць яму:

– «Прачніся спячы, паўстань із памёршых, Хрыстос дае табе сьвятло!»

---

[128] Арыген лічыцца памёршым у Александрыі ў 254 годзе нашай эры ў легендарным горадзе Ціры, а творы, прыпісваемыя яму, упершыню пачаў збіраць Аўранскі біскуп Huet у XVII стагоддзі.

[129] Апанас Александрыйскі лічыцца памёршым у 373 годзе, а прыпісваемыя яму творы былі знойдзены толькі Манфаконам, выдаўшых іх у Парыжы ў 1698 годзе.

«І сапраўды, было патрэбна, каб, пасьля ажывання Ратавальніка, то з ім ажыў бы і Адам і ўсё насенне Адамава. (Migne: Patrologia Graeca, XXVIII, col. 208.)»

У кнізе «Супраць Ерасей», прыпісваемай Епіфану Кіпрскаму, маем падобнае ж месца:

«Кожны разумеючы чалавек ніколькі не здзівіцца, што, як нас вучыць Пісанне, бог наш Езус Хрыстос быў укрыжаваны на Чэрапе (Галгофе) менавіта ў тым месцы, дзе быў пахаваны Адам. Таму што Адам, калі быў прагнаны із раю, жыў яшчэ доўгі час па суседству. Потым, праз шмат часу, ён перасяліўся ў Ерусалім (які, як атрымліваецца, існаваў яшчэ пры Адаму!) і пасьля таго, як памёр, быў пахаваны на Галгофе, чаму гэтае месца і атрымала сваю назву, бо ў перакладзе яно азначае Чэрап, хаця згодна з выглядам яно нічым не нагадвае сваю мянушку (мал. 119). Яно не размешчана на ўзгорку, што магло б адпавядаць верхняй частцы чалавечага тулава, маючай назву чэрап. Яно не мае выгляду назіральнай вежы, бо цалкам не ўзвышаецца над атачаючай яго месцовасьцю. Непасрэдна насупраць яго размяшчаецца Аліўкавая Гара, якая вышэй яго, а самай высокай з'яўляецца гара Гібеон, якая знаходзіцца ад яго на адлегласьці 8 міляў. Нават тое ўзвышша, якое знаходзілася на схаванай зараз (г. азн. не існаваўшай тут) гары Сіён, было вышэй, чым Галгофа. Чаму ж тады яно атрымала назву Чэрап? Без сумневаў таму, што там быў знойдзены чэрап першага чалавека і выкапаны яго парэшткі. На гэтым жа месцы быў укрыжаваны на крыжы Бог наш Езус Хрыстос, і вада і кроў, якія паліліся з яго працятага боку, паслужылі знакам нашага выратавання» (lib. 1, tom III, XLVI, 5).

У кнізе «Супраць Маркіёна» (II. 4), прыпісваемай Тэртуліяну[130], гэта распавядаецца нават у вершах.

«Існуе месца, зараз Галгофа, раней Кальварыя,
Названае старажытнымі месцам чэрапа.
Тут цэнтр сьвету, здабыццё перамогі,
Тут, згодна са сведчаннем старажытных, знойдзена магутная галава.
Тут, як мы чулі, быў пахаваны першы чалавек,
Тут пакутаваў Хрыстос, яго кроў абрасіла зямлю,
Так што пыл старога Адама, змяшаўшыся з крывёй Хрыста,
Мог узняцца выратавальным парывам».

У «Epistola Paulae et Eustachii ad Marcellam», прыводзімых у творах шчасьлівага Еранімa[131], знаходзім тое ж самае:

«Згадваючы пра цалкам іншае пытанне, дазволь нам вярнуцца да самых старажытных часоў. Кажуць, што ў гэтай мясцовасьці ў тым самым месцы (дзе быў укрыжаваны Хрыстос) жыў і памёр Адам. Некалі яно мела назву Кальварыя, таму што там быў закапаны чэрап першага чалавека, для таго, каб другі Адам, г. азн. Хрыстос, праліўшы кроў з крыжа, мог памачыць грахі Адама, лежачага там – і для таго, каб спраўдзіліся словы, апостала:

«– Прачніся спячы, паўстань із памёршых і Хрыстос дась табе сьвятло!» (Ліст 46-47), дарэмна дапасуемы да 386 года).

У «Летапісе», прыпісваемым Яўціхію, знаходзім пра гэта, нават цэлы раман:

«Адам, адчуўшы набліжэнне сьмерці, паклікаў да сябе свайго сына Сіфа, і Енаха, сына Сіфа, і Кінана, сына Енаха, і Махалалеля, сына Кінана, і навучыў іх, як ім дзейнічаць, кажучы:

[130] Тэртуліян Картагенскі, як кажуць, памёр пры Каракале, а творы, прыпісваемыя яму, пачалі знаходзіць толькі праз тысячу з гакам гадоў і, вядома, попыт нарадзіў прапанову, іх выдалі ў Парыжы ў 1616 годзе.

[131] Еранім памёр, як кажуць, у Мілане ў 419 годзе, а прыпісваемыя яму творы «знойдзены» толькі ў XVII-XVIII стагоддзях і выдадзены ў 1734 годзе.

«– Хай гэта будзе законам для ўсіх вашых дзяцей. Калі я памру, набальзамуйце маё цела мірам, алоем і касіям і пакладзіце яго ў пячору. Той із вашых сыноў, які будзе жыць, калі вы вырашыце пакінуць райскае наваколле, хай возьме маё цела і пахавае яго ў цэнтры зямлі, бо адтуль прыйдзе маё адкупленне і выратаванне ўсіх маіх дзяцей...

«І вось, калі Адам памёр, сын яго Сіф, згодна з воляй бацькі набальзамаваў яго цела, аднёс на вяршыню Гары і пахаваў у пячоры El-Kanuz» (p. 19).

А Ной (захапіўшы пры патопе у каўчэг і косткі Адама) пры набліжэнні сваёй сьмерці так навучаў Сіма:

«– Глядзі ж, вымі цела Адама із каўчэга, нябачны нікім, а потым, узяўшы запасы хлеба і віна, выпраўся ў шлях разам з Мелхісэдэкам (!), сынам Пелега, і пакладзі цела ў тым месцы, якое пакажа табе анёл госпада... Анёл госпада пойдзе перад табой да таго месца, дзе ты павінен пахаваць Адама, і ведай, што гэтае месца будзе цэнтрам зямлі» (p. 44).

«Сім зрабіў усё, як загадаў яму бацька. Ён зайшоў ноччу ў каўчэг і вынес адтуль цела Адама, не кажучы ніводнаму чалавеку пра тое, што ён робіць... Калі ж Сім з Мелхісэдэкам, нясучы з сабой парэшткі Адама, выправіліся ў шлях, ім сустрэўся анёл госпада і не пакідаў іх ніразу пакуль не давёў іх да цэнтра зямлі і не паказаў ім месца. Калі цела Адама было пакладзена на яго, зямля сама сабой расчынілася, а калі цела апынулася ўсярэдзіне яе, яна зноў зачынілася. Гэтае месца мае завву Эль-ял-яла» (p. 48, Migne: Patrologia Graeca, CXI, col. 911, 917, 918).

У «Sermones Supposititii», прыпісваемым шчасьліваму Аўгустыну[132], мы знаходзім таксама:

«Даведайся пра новую таямніцу! Св. Еранім, кіраўнік царквы, спасылаўся на тое, што ён чуў, як праўду, ад старажытнейшых юдэйскіх пісьменнікаў, як Ісак быў прынесены ў ахвяру на тым месцы, дзе пазней быў укрыжаваны бог наш Езус Хрыстос... Старажытная традыцыя перадала таксама, што першы чалавек Адам быў пахаваны на тым жа самым месцы, дзе быў узведзены крыж, і гэтае месца было названа Кальварыяй, таму што там быў закапаны пачынальнік чалавечага роду. На маю думку, браты, гэта з'яўляецца разумным, бо лекі з'явіліся на тым месцы, дзе ляжаў хворы. І таксама справядліва тое, што боская літасць схілілася на тым месцы, дзе ўпаў чалавечы гонар для таго, каб мы верылі, што ў той час, калі каштоўная кроў упала на парэшткі старажытнага і грэшнага чалавека, гэта мела наступствам яго адкупленне» (том V, павучанне VI (LXXI)§ 5).

Дакладна тое ж і ў юдэйскіх пісьменнікаў.

Вось, напрыклад, у кнізе: «Пра рай», якая прыпісваецца Майсею Бар-Сефа:

«Страціўшы рай, Адам спачатку жыў у Юдэі, але пасьля таго як павандраваў па шматлікіх краінах і пажыў у шмат якіх месцах, ён перад заканчэннем сваіх дзён дайшоў да гары Іевус і быў там пахаваны. Безумоўна Іевус не што іншае як Ерусалім... Калі пры наступленні патопу Ной са сваімі сынамі зайшлі ў каўчэг, то ён узяў з сабой і косткі Адама, а калі пасьля патопу ён пакінуў каўчэг, ён падзяліў гэтыя косткі паміж сваімі сынамі. Ён таксама падзяліў паміж імі зямлю, прызначыўшы кожнаму для жыцця яго месца. Так ён аддаў чэрап Адама свайму старэйшаму сыну Сіму і прызначыў яму Юдэйскую зямлю. Калі ж Сім прыйшоў у Юдэю, атрыманую ім у спадчыну, то ён зноў закапаў чэрап Адама на месцы яго ранейшага пахавання... А калі гэта так, то праўда, што чэрап Адама быў закапаны ў Іевусе, г. азн. Ерусаліме, і што над ім

[132] Аўгустын лічыцца памёршым у 430 годзе, а прыпісваемыя яму творы былі знойдзены толькі ў XVII стагоддзі і выдадзены ў Парыжы ў 1689-1700 гадах.

быў узведзены крыж Хрыста. Таксама правільна і тое, што Ной панёс із сабой косткі Адама і аддаў галаву свайму першынцу Сіму, які, прыйдучы ў сваю спадчынную зямлю Іевус, пахаваў яе» (І. гл. 14).

А Майманід[133] у «Beit Abachria» піша:

«Ахвярнік быў пастаўлены, дзе варта, і месца яго ніколі не змянялася. Згодна з пісаннем, «тут было месца ўсеспалення ў Ізраіля». На месцы Свяцілішча быў звязаны бацька наш Ісак, згодна з загадам: «выпраўся ў краіну Морыа». Сказана таксама, што Саламон пабудаваў сядзібу боскую тамсама на гары (І Царстваў. VI. 14).

[133] Майсей-бэн-Маймон памёр у Каіры ў 1204 годзе.




Мал. 120.
*Шкілет Адама ў вярсту даўжынёй, схаваны пад Ерусалімам; галава пад Галгофай, таз пад «Храмам Саламона» (г. азн. мячэццю Амара) і ступні пад Сілаамскай хрысцільняй. (Адноўлена згодна з апісаннем старажытных пісьменнікаў брытанскім генерал-маёрам К. Г. Горданам і прыведзена ў кнізе «Golgotha and the holy sepulchre by the late Mayor-General, sir S. W. Wilson, R. E., K. C. M. G., FRS., DLC., LLD.» Выд. Лонданскага Палестынскага Камітэта 1906 г.)*

Старажытнае паданне паведамляе, што месца, на якім Давыд і Саламон пабудавалі стаянкі каўчэга, было тое самае, на якім Аўраам наладзіў ахвярнік і прывязаў да яго Ісака. Гэта было тое ж месца, на якім Ной паставіў ахвярнік пасьля таго, як выйшаў із каўчэга. І гэта быў той жа ахвярнік, на якім Каін, Авель і Адам пасьля свайго стварэння прынесьлі сваю першую ахвяру, і із пылу гэтага месца быў створаны Адам. Таму і кажуць мудрыя, што Адам быў створаны на месцы свайго адкуплення (із кнігі Фабрыцыуса: Codex Pseudepigraphus Vet. Feston 2 ed. V. I. cap. 29, p.73).

Я не паказваю тут яшчэ тузіны дзва цалкам падобных паведамленняў іншых «старажытных пісьменнікаў».

Пры такой колькасьці «аднагалосных і незалежных адзін ад аднаго» верагодных грэцкіх, лацінскіх і юдэйскіх сведак, нічога дзіўнага, што нават і найноўшыя «навуковыя дасьледнікі» ў вобласьці старажытнай гісторыі не змаглі пайсьці па майму шляху скептыцызму і былі вымушаны пагадзіцца, што Адам пахаваны менавіта тут. Грунтуючыся на вялікай колькасьці такіх жа праўдзівых першакрыніц яны прыйшлі да высновы, што яго органы аднаўлення чалавечага роду размясьціліся пры пахаванні якраз пад храмам Саламона, а ногі пад Сілаамскай хрысцільняй...

І вось мы маем ангельскую манаграфію нядаўняга часу[134], із якой я змяшчаю фатаграфічны здымак, сам гаворачы за сябе (мал. 120). Я прысвячаю яго маім крытыкам.

# ГЛАВА IV.

## Вартаўнічы горад. (Самарыя-Рым.)

Богазмагальніцкі цар Амврый ці Умбрый, імя якога гучыць як гаморац ці умбрыец[135] і якога мы атаясамілі з Валентыніянам I (363-375), валадаром Заходняй імперыі, вызваліўшым Галію (Галілею) ад ворагаў, спачатку валадарыў, згодна са сведчаннямі Бібліі, у Турцы ці Тэрцы (ТРЦЕ).

«Праз 6 гадоў ён купіў – паведамляе нам кніга «Цары» – у аднаго вартаўніка (ШМР) Вартаўнічую гару за два таленты срэбра» (I Ц. 16.24).

Пабудаваўшы на ёй для сябе новую сталіцу, ён назваў яе Вартаўнічай (ШМРУН), а грэкі пераіначылі гэтае найменне ў Самарыю. Ён там і памёр і пахаваны.

З падобнага боку гледжання выходзіць, што Вартаўнічым горадам быў Рым, а Цірца[136] ці Турца была Фірэнца (Фларэнцыя) ці Канстантынопаль, сляды ранейшай назвы якога маглі захавацца ў слове Турцыя.

Пасьля Умбрыя-Валентыніяна ў Вартаўнічым горадзе валадарыў 22 гады Ахаб (г. азн. цар Дзядзька, I Ц. 16.2), якога мы атаясамілі ў першай кнізе «Хрыста» з арыянінам Валентам (363–378), а арыян  мы ужо і раней атаясамлялі з прыхільнікамі закона Арона, г. азн. з ізраільцянамі.

«Да яго прыйшоў – кажуць нам – Усемагутны Грамабой (АЛ-ІЕУ, у нашых перакладах маючы скарочанае імя Ілля), калі ў Вартаўнічым горадзе быў моцны голад» (II Ц. 18.2).

Згодна з нашымі атаясамленнямі гэта быў сам евангельскі Хрыстос, ён жа «Васіль Вялікі» згода з Жыціямі Сьвятых. Гэта азначае, што падзея адбывалася ў сярэдзіне IV стагоддзя. Аднак, апавяданне пра яго жыццё ў гэтай нашай першакрыніцы (біблейскай кнізе «Цары») такое, што пры літаральным разуменні, як зараз пабачыць сам чытач, прыдатна толькі для малалетніх дзяцей.

«Пабачыўшы Грамабоя Ўсемагутнага (Іллю) – паведамляе гэтая кніга – цар Дзядзька (г. азн. Валет) сказаў:

«– Ці ты гэта, губіцель богазмагальнікаў?

«– Не я гублю богазмагальнікаў – адказаў яму «Ўсемагутны Грамабой» – а ты і твае продкі, якія занядбалі наказы Грамабоя і пачалі ўшаноўваць «валадароў (БЭЛІМ)». Хай 450 прарокаў твайго «Ўладара» і 400 дубраўных прарокаў, сілкуючыяся ад стала тваёй жонкі Ізабелы, збяруцца на Кармінавай

[134] Golgotha and the holy sepulchre by the late Mayor-General, sir C. W. W. Wilson, K. C. B., etc. etc. etc. 1906.

[135] עמרי (ЭМРІ) па-грэцку цар Амбрый, а עמרה (ЭМРЕ) па-грэцку Гамора. Гэта тое ж самае слова, пры чым літара ע можа вымаўляцца не толькі як Э, але і як У.

[136] Магчыма, зрэшты, што найменне Цірца паходзіць ад Цірса (thyrsus), г. азн. кедравага кія вакханак, абвітага плюшчом і вінаградным лісьцем.

(чырвонай) гары[137] і хай наладзяць ахвярнік, але не падкладваюць полымя. І я зраблю тое ж самае. На чый ахвярнік сыдзе агонь, той і праўдзівы.

«Яны наладзілі ахвярнік і пачалі заклікаць свайго «Ўладара», але не было ад яго ні голасу, ні адзнакі. Тады «Ўсёмагутны Грамабой» ўзяў 12 камянёў, па ліку сыноў Якава-богазмагальніка, абліў вадой ахвярнік і пакладзенага на яго Цяльца і на вечаровай зорцы пачаў маліцца Грамабою. І вось полымя сышло ад Грамабоя і пажрала і дровы, і камяні, і зямлю, і ваду, якая знаходзілася ў калдобінах.

«Усе прысутныя ўпалі на свае твары, усклікаючы:

«– Боскі Грамабой! Боскі Грамабой![138]

Пасьля гэтага дзіва «Ўсёмагутны Грамабой» загадаў адвесьці ўсіх святароў «Уладара» да струменя Замацавання [139] і «рассек іх там» (І Ц. 18.40).

«І вось пайшоў дождж, а «Ўсёмагутны Грамабой», аперазаўшыся вяроўкай, бег перад калясьніцай цара Дзядзькі да самога Боскага валадарання (ІЗРЕАЛ)».

Што азначае гэтае, згодна са сваім сэнсам, не маючае ніякага сэнсу недарэчнае апавяданне? Палічыць яго за рэчаісную падзею можа толькі напаловуадукаваны чалавек, які верыць у кожную фантастычную казку. Хутчэй тут астралістыка. Словы пра Цяля, заколатае на вечаровай зараніцы, паказваюць на становішча Сонца ў Авене, г. азн. на пару года адразу пасьля веснавога раўнадзенства. Кармінавая гара ў такім выпадку будзе вечаровай зараніцай; 12 камянёў па колькасьці дзяцей богазмагальнікі – 12 знакамі Задыяка, а Ўсёмагутны Грамабой – Авен, знак евангельскага «Ратавальніка». Але хто ж такі «ўладар (БЭЛ)», называемы ў перакладах Ваал? Нас пераконваюць, што гэта быў культ апладняючай магутнасьці (Фалуса) і што імператар Геліагабал (218-222 гг. нашай эры) заснаваў яго ў Рыме каля 220 года. Але хутчэй гэта быў бог Сонца, а Кармінавая гара магла тут быць не толькі вечаровай зораніцай, але і Вязувіем. Вартавы ж горад, якога тут ужо ніяк немагчыма атаясаміць з Пампеяй, быў Рым.

«Цар горцаў[140], – працягвае аўтар – сын абурэння (БН-ЕДД) з 32 царамі, з коньмі і калясніцамі, аблажыў Вартаўнічы горад (І Ц. 20.1), але быў пабіты царом Дзядзькай і ўзяты ў палон, але не забіты». За гэта Грамабой угневаўся на «Дзядзьку» і абяцаў яму адпомсьціць. Спалоханы цар Дзядзька пакаяўся, і расчулены гэтым Грамабой перанёс абяцаную помсту на яго (нявіннага) сына» (І Ц. 24.29).

Аднак жа і самаму «Дзядзьку» не паздаровілася. «Ён пайшоў разам з багаслоўным царом Ясафатам (Феадосіям І) ваяваць насупраць горцаў (АРМ), але быў сьмяротна паранены выпадковай стралой, прайшоўшай праз швы яго лат, і адвезены для пахавання ў Вартаўнічы горад (І Ц. 22.37). Пасьля гэтага Ясафат (Феадосій І) стаў да заканчэння свайго жыцця адзінаўладным царом у імперыі (як гэта і, было на самай справе). У заходняй яе частцы (у АДУМЕ-Рыме) быў толькі яго намесьнік (І Ц. 22.48). Ён пабудаваў флатылію вялізных караблёў, каб хадзіць у Афрыку (АУФІРЕ) за золатам, але яго флатылія была знішчана бурай».

ТАБЛІЦА XIV.

---

[137] כרמל (КРЛМ) ці כרמיל (КРМЛ) – кармін, чырвоная фарба. Я думаю, што гэта быў эпітэт Вязувія, і слова КРМІЛ толькі скарочана да КРМЛ – сад. Цікава, што ў «Песьні песень» із гэтай гарой параўноўваюцца пышныя кучары ўмілаванай.

[138] אלהים הוא יהוה (ІЕУЮ ЕУА АЛЕІМ) – Грамабой ёсць «багі».

[139] קישון (КІШУН) ад קוש (КУШ) – сцягваць, зводзіць канцы.

[140] ארם (АРМ) – высокі бок. Яе дарма атаясамляюць з Сірыяй. Гэта хутчэй Альпы і Тыроль.

Месцы пахавання багазмагальніцкіх цароў.

| | | |
|---|---|---|
| Іераваам | (Кастусь І, 305-337 гг.) пахаваны са сваімі продкамі | (І Ц 14, 20) |
| Надаў | (Кастусь ІІ, 337-339 гг.) забіты пры аблозе аднаго горада | (І Ц 15, 27) |
| Васа | (Кастусь ІІ, 339-361 гг.) пахаваны ў Цірцы | (І Ц 16, 6) |
| Але (Іла) | (Юльян, 361-363 гг.) забіты ў Цірцы | (І Ц 16, 9) |
| Замрый | (Іавіян, 363 г.) спаліў сябе ў Цірцы | (І Ц 16, 8) |
| Амбрый | (Валентыніян, І, 363-375 гг.) пахаваны ў Вартаўнічым горадзе | (І Ц 16, 28) |
| Ахаб | (Валент, 363-378 гг.) пахаваны ў Вартаўнічым горадзе | (І Ц 22, 37) |
| Ахазія | (Грацыян, 378-383 гг.) месца пахавання не пазначана | (ІІ Ц 1, 17) |
| Іарам Богазмаальніцкі | (Валентыніян ІІ, 375-392 гг.) забіты Іевай палізу Ізрэала (Семені бога) | (ІІ Ц 9, 24) |
| Іева | пахаваны ў Вартаўнічым горадзе | (ІІ Ц 10, 35) |
| Іахаз | (Феадосій Вялікі, 378-395 гг.) пахаваны ў Вартаўнічым горадзе | (ІІ Ц 13, 9) |
| Ёас | (Аркадзь, 395-408 гг.) пахаваны ў Вартаўнічым горадзе | (ІІ Ц 13, 13) |
| Іераваам ІІ | (Ганорый, 395-423 гг.) пахаваны са сваімі продкамі | (ІІ Ц 24, 29) |
| Захарыя | (Кастусь ІІІ, 423 г.) забіты ў Вартаўнічым горадзе | (ІІ Ц 15, 10) |
| Шалом | (Ян, 423 г.) забіты ў Вартаўнічым горадзе | (ІІ Ц 15, 14) |
| Манаім | (Валентыніян ІІІ, до 455 г.) пахаваны са сваімі продкамі | (ІІ Ц 15, 22) |
| Факх-Іе | (Пятроній, 455 г.) забіты ў Вартаўнічым горадзе | (ІІ Ц 15, 25) |
| Факх | (Рэцымер, 456-472) забіты ў Вартаўнічым горадзе Осіяй пры нападзе Чудзішча Перасяленца (Ціглат-Паласра), забраўшага Галілею (Галію) і краіну калена Нафтлі (Францію) для краіны Павадыра (АШУР), г. азн. Германій І | (ІІ Ц 15, 30) |
| Осія (ІЕУШЕ) | (Ромул Аўгустул, 475 г.) паланёны ў Вартаўнічым горадзе царом краіны Правадыра (АШУР), пагнаўшага богазмагальнікаў на раку Хабур (Эбро?), у гарады Мадз'яр (МДІ) і в Халхе (Калхіду?) | (ІІ Ц 18, 1) |

Пасьля сьмерці Ясафата (Феадосія І) імперыя зноў падзялілася: над багаслоўнымі (ўсходам) запанаваў Ёрам (Аркадзь 395-408 г.г.), а над богазмагальнікамі (на захадзе) у Вартаўнічым горадзе (згодна з ІІ кнігай «Цароў») усталяваўся, быццам бы (замест цара Ераваама ІІ) Ахазія (г. азн. «Захоплены Грамабоем», адпаведна землятрусу 420 года). Гэтага цара, дарэчы, няма ні ў радаводзе Езуса ў евангеліста Лукі, ні ў Абідоскім спісе, так што ўсё месца, складаючае пачатак другой кнігі «Цары» да 9-й главы (ІІ Ц. 14.23) можна лічыць за другі варыянт таго ж самага апавядання, дзе зноў выплываюць тыя ж Ёрам-Аркадзь і, замест Ганорыя, яго сукіраўнік Ахозія, а Бэн-Адада замяняе Іева (г. азн. Грамабой), пададзены вельмі грозным і пабожным. Усё гэтае месца ўяўляе згодна са сваім зместам чысты міф з вялікімі цудамі двух пракокаў: ужо згаданага «Грамабоя Ўсёмагутнага» (Іліі) і Выратавальніка Ўсемагутнага (Елісея.)

Адпаведнасць з грэцкімі дакументамі пачынаецца толькі з апавядання пра Іераваама ІІ, які валадарыў у Вартаўнічым горадзе 41 год і аднавіў першапатковыя межы і парадак у Заходняй імперыі. Мы яго ўжо атаясамілі з заходнім сукіраўнікам Аркадзя Ганорыем, які памёр у Равене ў 423 годзе, чаму ў Біблії і не пазначана

(табл. XIV), што ён быў пахаваны ў Вартаўнічым горадзе (II Ц. 14.29), а толькі сказана: «са сваімі продкамі».

Дакладна так жа не паведамляецца, дзе пахаваны і яго забіты змоўцамі наступнік Захарыя (II. 15.8), які валадарыў у Вартаўнічым горадзе толькі 6 месяцаў і адпавядаючы, грунтуючыся на гэтым часе, Кастусю III. Не паведамляецца, дзе набыў заспакаенне і яго наступнік Мірны (ШЛМ), забіўшы папярэдняга і адпавядаючы Яну (423). Абодва яны праходзяць у Бібліі як здані, ды і пра забіўшага і замяніўшага Яна – Манаіма, атаясамляемага з Валентыніянам III з яго апекунамі Аэцыем і Плацыдэяй (423-455), сказана толькі, што ён адкупіўся ад нападаўшага на яго «боба» па-жыдоўску фула (у якім можна бачыць камету Галея, напалохаўшую ў гэты час, у 451 годзе, усе народы).

У тым жа Вартаўнічым горадзе валадарыў і Факія, адпавядаючы рымскаму імператару Пятронію-Максіму (455 г.), і Факх, адпавядаючы Рецымеру (Рэціну Бібліі[141]), пасьля чаго адбылося новае жахлівае вывяржэнне Вязувія (472 г.), канчаткова знішчыўшае ў Італіі ўяўленне пра боскія здольнасьці яе кіруючых асоб». Дзякуючы гэтаму ўлада натуральна перайшла да еўрапейцаў, праз Забраўшага Мір (біблейскага Салманасара), атаясамляемага намі з Адаакрам (475 г.).

«І адвярнуўся Грамабой ад усіх нашчадкаў Богазмагальніка – сумна заканчвае сваё апавяданне кніга «Цары» (II Ц. 17.20) – я «ўціхамірыў іх», і «былі прагнаны богазмагальнікі са сваёй зямлі ў краіну «настаўніка» (АШУР = АШР = ББЛ), г. азн. рымскага папы, і жывуць там да цяперашняга часу» (II Ц. 17.23).

Адсюль мы бачым, што пад найменнем АШУР ці АШР патрэбна разумець не Месапатамію, а апакаліптычнае хрысьціянства Заходняй Еўропы[142], і пад найменнем АРМ не Сірыю і нават не Арменію, а Тыроль.

Цікава, што і назва Азорскіх выспаў у Атлантычным акіяне за Гішпаніяй паходзіць ад таго ж кораня АШУР.

«Народы (настаўніка) – паведамляюць апошнія радкі 17 главы «Цароў» – паважалі Грамабоя, але ўшаноўвалі і выявы. Ды і іхныя дзеці, і дзеці іхных дзяцей рабілі так жа, як і іхныя бацькі, аж да гэтага дня. Гэтак жа пачалі рабіць і дзеці Богазмагальніка, жыўшыя сярод іх».

Адсюль мы бачым, што Самарыя ці Вартаўнічае ўмацаванне ужо не чыста могілкі, як «горад Умілаванага», а сапраўды папскі Рым.

Паглядзім зараз, што паведамляюць пра яе і іншыя біблейскія кнігі.

У евангеллі пад Вартаўнічай краінай (Самарыяй) маецца на ўвазе мясцовасць да поўдзень ад Галілеі, г. азн. Галіі, па якой падарожнічаў Езус. Яна лічылася не адзінавернай з богаслаўнымі, а ўшаноўваючай Грамабоя, як бацьку іншых багоў. Цікава, што Францыя па-грэцку мае назву Галія (Γαλλία) нават і ў наш час. У сучаснай Грэцыі для яе не існуе іншага наймення.

У біблейскіх пракрокаў «Вартаўнічай краінай» звалася ўсё богазмагальніцкае царства ў адрозненне ад царства богаслаўнага, падобна на тое, як і Рымам зваўся

---

[141] Тое, што Рэцімер лацінскіх аўтараў і Рэцін Бібліі адна і тая ж асоба, можна бачыць із 16 Главы II кнігі Цары, дзе паведамляецца: «Рэцін, цар горнай краіны (АПМ), і Факх, богазмагальніцкі цар, пайшлі супраць Горада Сьвятога Замірэння, але не змаглі адолець». Такім чынам, Рэцімер лічыцца ў Бібліі сукіраўнікoм і хаўруснікам Факха, які згодна з нашымі высновамі і ёсць сам Рэцімер... Падобныя раздваенні незлічоныя ў старажытнасьці.

[142] АШР ці АШУР азначае – ісьці прамым шляхам, а ў сэнсе назоўніка: справядлівы правадыр, настаўнік, шчасьлівы.

тады не адзін горад Рым: гэтае найменне пасьля падзелу імперыі мела ўся заходняя палова ў адрозненне ад усходняй – Візантыйскай.

Возьмем, напрыклад, месца ў прароцтве «Міхей» (г. азн. падобны Грамабою), час якога пазначаны валадараннем Іатама і Езекіі (г. азн. Ільва і Анастаса 457-515 г.г.).

«Вось выходзіць Грамабой са свайго месца (на Вязувіі,) і топча зямныя вышыні. Перад ім растаюць горы і распадаюцца, даліны, як воск ад полымя, як вада, падаючая з вышыні, і ўсё гэта за бязбожжа нашчадкаў Богазмагальніка. Хто вінаваты ў бязбожнасьці якавітаў? Ці не Вартаўнічая краіна (Рымская вобласць)? – «За гэта я ператвару яе ў кучу парэшткаў у полі – кажа Грамабой – месцам для вырошчвання вінаграду: разкідаю па даліне камяні яе будынкаў і агалю яе падмурак; усе статуі яе будуць пабіты і ўсе яе распусныя ахвяраванні будуць спалены полымем» (Міхей 1.6).

Зразумела, што пад выглядам прадказання і тут паведамляецца пра ўжо здзейсніўшыся факт знікнення Заходняй імперыі дзякуючы разбурэнню яе былой сталіцы жахлівым землятрусам. Гэтую анахранічнасць выдае нам і сам аўтар у наступных жа радках.

«Я галашу і смуткую, выю як шакал, плачу як стравус, таму што хваравітае знішчэнне Вартаўнічай краіны дайшло да краіны богаслаўных, дасягнула нават да брамы майго народа (да Горада Сьвятога Замірэння, Ерусаліма) – дадае пазнейшы рэдактар. – Не паведамляйце гэтага готу (ГТ), але валяйцеся ў попеле ў Горадзе Попелу (г. азн. у Пампеі (1, 10)! Перасяляйцеся ў рабства, жыхаркі Красуні[143], агаліўшы свае, стацевыя органы! Не ўцячэ жыхарка Выйсьця[144], і плач у паселішчы Ўскраіны не дазволіць нікому спыніцца ў ім» (1.11).

А вось і ў прадказанні «Выратаванне Грамабоем» (Іса-ія):

«Пасьля 65 гадоў аф-рымляне, г. азн. жыхары Рымскага мыса[145], перастануць быць народам: валадаром яго будзе Вартаўнічы горад, а валадаром Вартаўнічага горада – Ромул Грамабоя (РМЛ-ІЕУ, 7.9).

«– Але ці не зраблю я з Горадам Сьвятога Замірэння і з яго статуямі – кажа Грамабой – як я зрабіў з Вартаўнічым горадам і яго ілжэбагамі?» (10.11).

«Хай аф-рымляне і жыхары Вартаўнічага горада не выказваюцца з гонарам:

«– Цэгла (нашых будынкаў) пападала, але мы пабудуем горад із цёсаных камянёў; смакаўніцы нашы паламаны, але мы заменім іх кедрамі».

«За гэтыя словы Грамабой накіруе на іх ворагаў: Рэцына (Рэцімера) і горцаў з усходу, і качэўнікаў з захаду і пажруць яны богазмагальнікаў ва ўсю сваю глотку» (9.11).

«Але богазмагальнікі, нягледзячы на ўсе свае выпрабаванні, усё ж не спяшаюцца да Грамабоя, бога нябесных ваяроў, які ўражвае іх! І за гэта ён адсячэ ў іх і галаву, і хвост, і старэйшын, і ілжэ-пракракаў, і высокія пальмы і нізкі трыснёг у адзін дзень (9.13). Рука яго (воблака над Вязувіем) яшчэ выцягнута... і паднімуцца слупы клубячагася дыму, і загарыцца зямля ад гневу Грамабоя нябесных ваяроў і народ будзе як бы ежай для полымя (мал. 96). І

143 שפיר (ШФІР) – прыгожая.

144 צאנן (ЦАНН) ад צאן (ЦАН) – выйсьце.

145 אפ־רים (АФ-РІМ) – Рымскі мыс, а калі палічыць гэта за אפרים (АФРІМ), г. азн. за множны лік ад אפר (АФР) – попел, то будзе гульня слоў на абодвух значэннях.

кожны будзе пажыраць цела сваёй рукі: Манашэ пойдзе супраць Аф-Рыма і Аф-Рым супраць Манашы, і абодва пойдуць супраць богаслаўных».

Дакладна падобнае ж мы чытаем у прадказанні Ераміі:

«Маё сэрца раздзіраецца і ўсе мае косткі скаланаюцца праз нашых прарокаў! Я стаў, як п'яны, таму што і прарокі, і сьвятары крывадушнічаюць. Прарокі Вартаўнічага горада прадказвалі імем свайго Ўладара (Бэла) і падманулі мой народ» (23.13).

«Але Грамабой зноў цябе ўладкуе, панна Богазмагальніка, і ты зноў будзеш упрыгожваць свае тымпаны і хадзіць у карагоды вяселячыхся. І зноў развядуцца вінаграднікі на ўзгорках Вартаўнічай краіны» (31.4).

Яшчэ больш цікавае месца ёсць у прадказанні Іезекі-іл:

«– Ты дачка ў сваю маці – сказаў Грамабой сваёй няслушнай жонцы (богазмагальніцкай царкве). Ты сястра ў тваіх сясцёр! Маці твая готка, а бацька Авен[146]. Твая старэйшая сястра Вартаўнічае ўмацаванне жыве налева ад цябе, а малодшая Садома направа (лічачы ад усходу). Але ты разбэсьцілася яшчэ больш іх усіх у тваіх учынках. Садома (Стабія) была вінаватая ў гонары, перасычанасьці і безтурботнасьці, і я адкінуў яе, пабачыўшы гэта. А Вартаўнічае Умацаванне (Рым) не награшыла і паловы тваіх грахоў» (16,51). «Але ўсё ж, калі я вярну ўцекачоў із Садома і Вартаўнічага Ўмацавання і із усіх падуладных яму абласьцей, то вярну з імі і тваіх выгнаннікаў».

«Былі ў мяне – кажа Грамабой – дзве жонкі, дочкі адной маці. Старэйшая звалася Намётам Запавету, а малодшая Намётам Грамабоя. Першая была Вартаўнічае умацаванне, другая ж умацаванне Сьвятога Замірэння. Але Намёт Запавету (арыянская рымская царква), быўшы маёю, захапілася «Настаўнікам» суседзяў[147], апранаючыхся ў парфіру, начальнікамі і гарадзкімі кіраўнікамі, адборнымі прыгажунамі, вершнікамі, спрытна ездзячымі на конях, і зганьбіла сябе паганымі статуямі сваіх умілаваных. За гэта я і аддаў яе ў іхныя рукі, і яны распранулі яе і рассеклі мячом.

«А сястра яе Ўмацаванне Сьвятога Замірэння (месіянская царква) бачыла ўсё гэта, але дзейнічала яшчэ горш у сваіх палюбоўных прыгодах. Яна не толькі заваблівала да сябе сыноў Правадыра (АШУР), але яшчэ павялічыла сваю распусту. Пабачыўшы выявы[148], напісаныя фарбамі на насьценных дошках[149] з першасьвятарскімі паясамі на сцёгнах і з доўгімі павязкамі (клабукоў) на галовах, з выявамі, падобнымі на начальнікаў Брамаў-Гаспадніх із краіны астролагаў, яна закахалася ў іх і выправіла за імі, і яны прыйшлі да яе на палюбоўны ложак.

«– Але хаця пазней твая душа – кажа ёй Грамабой – і адвярнулася ад іх (Іез. 23. 16), аднак, за тое, што ты хадзіла па шляху тваёй сястры, ты будзеш піць яе чарку, глыбокую і шырокую, чарку гаротнасьці і ап'янення, чарку жаху і разбурэння, чарку сястры тваёй Вартаўнічага Ўмацавання. Так, ты вып'еш яе, асушыш да дна, абліжаш яе чарапкі і раздзярэш свае грудзі, таму што гэта сказаў я, сам Адоніс-Грамабой» (23. 34).

Гэтае месца, бясспрэчна, напісана месіянскім аўтарам пасьля таго, як у Заходняй Рымскай Імперыі знікла Арыянская царква, ад якой ужо дастаткова моцна адышлі месіянцы, і ўжо панавала праваслаўная царква, якая лічылася толькі іконашануючым адгалінаваннем месіянства. Гэтае месца павінна быць вельмі

[146] אמר (АМР) – азначае і Авен і слова.

[147] אשור קרובים (АШУР-КРУБ-ІМ) – настаўнік ці валадар суседзей, а не месапатамцы, як перакладаюць тэолагі.

[148] צלמי (ЦЛМІ) – абразы, выявы сыноў чалавечых.

[149] קיר (КІР) – уласна сьцяна, але таксама і драўляная пласьцінка на сьцяне.

позняй устаўкай у юдэйскі вольны пераклад Апакаліпсіса, знаходзячыся ў грунце прароцтва «Іезекііл», якая паглядаецца там усюды пад пазнейшымі дадаткамі, як рэбры і косткі пад скурай і мускуламі чалавека.

Вось і ўсё істотнае, змяшчаючаяся ў «старым запавеце» пра Вартаўнічае Умацаванне (Рым) і пра яго вобласць.

А ў «новым запавеце» да гэтага дадаецца (у «Здзяйсненнях Апосталаў») толькі тое, што неўзабаве пасьля ажывання «Вялікага Цара» ўсе вернікі, акрамя апосталаў, разышліся із Умацавання Сьвятога Замірэння і із Вартаўнічай краіны па розных месцах Краіны богаслоўя (Юдэі па-жыдоўску) і ўсюды паведамлялі гэтую сенсацыйную вестку, пакуль Саўл-Саул (гэта адно да тое ж імя, азначаючае Пекла[150]) «раздзіраў царкву, вядучы ў вязніцы мужчын і жанчын». Але і ён, раптам, пакаяўся, пачуўшы на сваім шляху папракаўшы яго голас самога Езуса. Першым за усіх павучаў – згодна са словамі Здзяйсненняў – пра ажыванне «Вялікага Цара» нейкі Піліп (г. азн. канявод) у адным із гарадоў Вартаўнічай краіны, «пры чым шмат хто аслабелыя і кульгавыя ачунялі», ды і «нячыстыя духі» выскоквалі з вялікім лямантам із кішэчных каналаў у шмат каго (Здзяйсненні Апосталаў 8, 4). Нават Сымон Вяшчун, які перад тым здзіўляў сваімі дзівамі ўвесь Вартаўнічы народ ад малога да вялікага, паверыў гэтай падзеі і, ахрысьціўшыся, не адыходзіў ад Піліпа (Здзяйс. 8.13). Потым, у якасьці доказу ўсемагутнасьці сваёй веры, паведамляюць нам тыя ж Здзяйсненні – саскочыў перад усім народам з нейкай вежы ў Вартаўнічым горадзе і забіўся на сьмерць, «таму што жадаў за грошы атрымаць сьвятога духа» і таму не быў падтрыманы ў паветры анёламі.

У гэты ж час – працягваюць Здзяйснені – былі выпраўлены із Умацавання Сьвятога Замірэння (у дадзеным выпадку яшчэ із існаваўшай тады Пампеі) у Вартаўнічы горад, для далейшага зацверджання новай рэлігіі, апосталы Сымон, Пятро і Ян, што зноў адпавядае Ватыканскай традыцыі пра тое, што заснавальнікам хрысціянства ў Рыме быў Пятро.

Усё гэта прыводзіць нас да няўхільнай высновы, што каталіцкае хрысьціянства, узнікшае ўслед за адзінабожжам у Пампеі каля падножжа Слупяной Горы (Сіёна па-жыдоўску), было хутка ўспрынята ў Рыме, да якога даходзілі водгаласы землятрусаў Флегрэйскіх палёў і дым вывяржэнняў Вязувія. Адсюль яно пашырылася на ўсход, у Ягіпет, на Балканскую паўвыспу і ў Заходнюю Азію, куды пасьля канчатковага разбурэня Пампеі, адбыўшайся, магчыма, толькі пры жахлівым вывяржэнні Вязувія ў 472 г., быў перанесены, для заспакаення веруючых і сам горад Сьвятога Замірэння – Пампея, лічыўшаяся да гэтага адзіным, сусьветным ахвярнікам новай рэлігіі. Да яго, вядома, ужо немагчыма было штогадова сбірацца для глыбокага ўшанавання Грамабоя, пасьля таго як ён сам ўласнаручна засыпаў яго кучамі камянёў і попелу.

# ГЛАВА V.

## Лагічныя высновы.

Зробім жа некаторыя лагічныя высновы із папярэдняга. Найменне Вязувій, як мне ўяўляецца, азначае Цвік Жаху[151], таму што характэрыстычнае пініепадобнае

[150] Saul у заходне-еўрапейскіх перакладах שאול (ШАУЛ) па-біблейску азначае таксама: запазычаны.

[151] וו (ВУ) – цвік, і זועה (ЗУЭЕ) – жах, трапятанне. Адкуль ВУ-ЗУЭЙ (Вязувій) – цвік жаху.

воблака над ім, сапраўды, мае выгляд гіганцкага цвіка, забітага із нябёсаў у вяршыню гэтай гары. Яшчэ ў той час, калі ён быў даўно патухшым вулканам, і ў жарале яго рос шыкаўны лес, яго наваколлі каля Неапалітанскага заліва абуджалі забабонныя пачуцці не толькі ў асяроддзі мясцовага насельніцтва, але і ва ўсіх краінах меўшых з імі марскія ці сухапутныя паведамленні. Дзякуючы сваім фумаролам, якія вылучалі задушваючыя газы, сабачым пячорам і далінам, праз якія праходзілі без шкоды дарослыя людзі, але імгненна пamiралі маленькія дзеці, сабакі і ўсе дробныя жывёлы, яны павінны былі здавацца краем цудаў. Нават і дарослыя часам зведвалі тую ж долю, як паведамляецца ў самой бібліі пра ворагаў, аблажыўшых Горад Сьвятога Замірэння і начаваўшых у адной із суседніх з ім далін.

Наяўнасць Этны і Стромбалі на шляхах у гэтую вобласць, толькі павялічвала яе містычны прэстыж, і таму не выклікае здзіўлення тая абставіна, што ў гэтую мясцовасць імкнуліся пабываць хоць раз у жыцці ўсе дапытлівыя людзі, меўшыя сродкі на дарогу, гэтак жа як і зараз штогадова вернікі падарожнічаюць ў Рым, паглядзець на яго «сьвятыні». Яны пакідалі там значную колькасьць сваіх зберажэнняў, г. азн. сабраных са свайго насельніцтва дадатковых каштоўнасьцей, і гэта забяспечвала росквіт узнікшых тут мястэчак, і, як заўсёды бывала ў падобных выпадках, вызваленне часткі насельніцтва ад неабходнасьці чыста фізічнай працы для падтрымання свайго існавання мела перадусім вынікам развіццё вытанчаных мастацтваў: фантастычнага малярства, разьбярства, архітэктуры, а пазней і літаратуры, і разнастайных першабытных навук, як толькі пашырылася пісьменнасць у асяроддзі заможнай часткі насельніцтва.

Гэтая культурная перавага яшчэ больш павялічвала прывабнасць сярэдняй часткі Італіі для пілігрымаў, і так працягвалася да заканчэння III стагоддзя, калі першы жахлівы землятрус, які скончыўся выбухам вяршыні Вязувія, разбурыў частку гэтых гарадоў, г. азн. біблейскія Садом і Гамору, і скінуў статуі паганскіх багоў. Ураджанне гэтай катастрофы на першабытнае і цалкам забабоннае насельніцтва ўзбярэжжаў Міжземнага мора, было, вядома, аглушаючым: нейкі грозны, але доўгацерпялівы бог страціў, нарэшце, сваё цярпенне і пачаў дзейнічаць.

– Хто ён? Чаго ён хоча? За што так жорстка карае?"

– Ён – адказвалі яго жрацы – не жадае каб у гэтай мясцовасьці ўшаноўвалі нейкіх чужым багоў. Менавіта таму ён і разбурыў усе іхныя статуі. Ён – Грамабой і ўстрасальнік зямлі, мацнейшы із усіх багоў. Гэта – сам стваральнік сьвету, які адзін можа яго і разбурыць. Хаця ён і лётае паўсюдна на навальнічных хмарах, але ён не жадае нідзе бачыць сваіх ахвярнікаў, акрамя як на гэтым месцы. Сюды і павінен прыходзіць кожны, жадаючы яму служыць, ці проста прынесьці ахвяру.

Водгалас гэтага мы і бачым ў евангеллі Яна. Там жыхарка Вартаўнічай вобласьці, дзе была «крыніца Якава-Богазмагальніка», скардзіцца Езусу, што яе бацькі выказвалі ўшанаванне менавіта на гэтым месцы, а багаслоўныя кажуць, што адзінае месца, дзе патрэбна ўшаноўваць, знаходзіцца ў горадзе Сьвятога Замірэння (г. азн. у Пампеі-Ерусаліме). Езус жа – згодна са словамі Яна – адказаў (і, вядома, апакрыфічна):

– «Надыдзе час, калі сапраўдныя прыхільнікі будуць ушаноўваць бога Бацьку (не на адных гэтых месцах), а ўсюды ў духу і праўдзе» (Ян. 4, 24).

Такія словы, вядома, маглі быць вымаўлены толькі пасьля новага землятрусу, пахіснуўшага тут арыянскую рэлігію, і землятрус сапраўды здарыўся

неўзабаве пасьля слупавання на Вязувіі «Вялікага Цара». Гісторыкі адносяць яго, як і патрэбна згодна з нашай храналогіяй, да часоў Васіля Вялікага. Ён разбурыў, згодна з іхнымі славамі, Пераможны горад (Нікею па-грэцку).

Але дзе ж быў гэты Пераможны горад?

Сярэднявечныя гісторыкі кажуць нам, што гэта быў гарадок Існік, у сучасным турэцкім вілаеце Хадавен-Кіар-Кастамуні. Аднак, мы можам і не паверыць ім. Цяжка дапусьціць, каб пры скліканні «Першага сусьветнага сабору», які ўсталяваў дзяржаўнае адзінабожжа, пры неабходнасьці зручнага размяшчэння соцень тэолагаў і навукоўцаў і іх хуткага прыбыцця з усяго ўзбярэжжа Міжземнага мора, Кастусь I выбраў бы не найбольш прыдатнае месца, якім было ўзбярэжжа Неапалітанскага заліва, ці, нарэшце, сам Канстантынопаль, дзе адбыліся два наступныя саборы, а загнаў усіх тэолагаў у хадавенкіарскі Існік, прыдатны тады хіба толькі для іхнай спасылкі[152]. Паверыўшы гэтай тэалагічнай лакалізацыі Хведар Ласкарыс у XIII стагоддзі нават спрабаваў з дапамогай крыжакоў утварыць тут маленькую Нікейскую імперыю (1206-1261 г.), але із яе, не гледзячы на разнастайную дапамогу еўрапейскіх хрысьціянаў, нічога годнага, вядома, не атрымалася з нагоды глухаманнага размяшчэння, і з 1330 года гэтая мясцовасць знаходзілася ў культурным заняпадзе і ў поўным турэцкім валоданні.

З вялікім неразуменнем і са здзіўленнем усклікаем: «а чаму ж не ў Канстантынопалі? Можна было б аднесьці сюды нейкі сабор для адной усходняй царквы, а адносна сусьветнага сабору пра гэта дзіўна нават і падумаць. Можна сьмела сцвярджаць, што ў старажытнасьці «Пераможным горадам» (Нікеяй) хадавенкіярскі Існік ніколі не мог звацца. Там не было нават ніякіх перамог, і немагчыма было знайсьці для паседжанняў з'ехаўшыхся тэолагаў прыдатнага памяшкання: ужо лепш ім было сабрацца проста ў Канстантынопалі. Для першага сусветнага сабора не было месца лепшага чым Пампеі, каля падэшвы пасада самога бога Грамабоя. Вось чаму я і думаю, што «Нікеяй» IV і V стагоддзяў зваўся па-грэцку той жа самы горад, які жыды звалі тады Горадам Сьвятога Замірэння (Ерусалімам), а лаціняне Трубным, Прэцэсійным горадам – Пампеяй. Гэта, як мне здаецца, былі толькі тры разнамоўныя назвы таго ж самага ўмацаванага сьцяной паселішча, якое было разбурана землятрусам, як і паведамляецца ў жыцці «Васіля Вялікага» каля 370 года. Гэта быў другі землятрус у Кампаны, які суправаджаўся моцным вывяржэннем Вязувія, пастаўлены у сувязь са слупаваннем заснавальніка праваслаўнага набажэнства, г. азн. царкоўнага рытуалу, які развіўся пад час сярэдніх стагоддзяў у сучасную «літургію Васіля Вялікага». Але арыянства, прызнаваўшае толькі культ «бога Грамабоя і ўстрасальніка зямлі» яшчэ не жадала на захадзе адразу перайсьці да культа бога-сына, які ўчалавечыўся ў Вялікім Цару. Горад Сьвятога Замірэння яшчэ не цалкам быў разбураны, што азначала і зграшыў не сьмяротна, і яго пачалі адбудоўваць, нягледзячы на словы прарока: «Вы адбудуеце, а я зноў разбуру». Прадказваючых падобнае пачалі пераследаваць. Іх кідалі ў вязніцы, патрабуючы адрачэння ад іхных злавесных прадказанняў і частка іх, да якой належаў і аўтар Апакаліпсіса збеглі на ўсход, прыносячы туды разам з містыкай і астралогіяй і першыя сейсмалагічныя ідэі, якія тлумачылі вулканічныя з'явы гневам бога-Грамабоя на жыхароў дадзенай вобласьці.

І як шмат павінна было прайсьці часу для таго, каб перайсьці ад іхнай містыкі да сучаснай нашай сейсмалогіі!

---

[152] Я вельмі сумняваюся, каб нават і другі Нікейскі сабор 787 года супраць іканазмагальнікаў адбыўся ў гэтым Існіку.

Зразумела, што ў сувязі з гэтым, а магчыма і з новымі, хаця і слабейшымі праявамі вулканічнай і сейсмічнай дзейнасьці на ўзбярэжжах Міжземнага мора, уплыў Апакаліпсіса сярод чытаючай часткі насельніцтва, а праз яе і ў асяроддзі непісьменнай большасьці, быў велізным.

Яніцкі богаслаўны ўсход аддзяліўся нават і палітычна ад арыянскага богазмагальніцкага захаду, і для месца памазання богаслаўных цароў, г. азн. для новага горада Сьвятога Замірэння пачалі шукаць іншае месца на зямным шары і, калі верыць звычайнай тапаграфіі, знайшлі яго ў Палестынскім Эль-Кудсе. Сам Апакаліпсіс у тым сваім месцы, дзе ён выказваецца пра новы Ерусалім, «сыходзячы ад бога на зямлю, як маладая ўпрыгожаная для свайго маладога» пры неразуменні яго нябеснага сэнсу мог даць нагоду да тапаграфічнага перанясення. Але ці праўда, што яго адразу ж перанеслі ў пустыню Мёртвага мора, хаця гэтая мясцовасць магчыма і была радзімай «Вялікага Цара»?

Тая акалічнасць, што цары Ўсходняй Імперыі, пачынаючы з Аркадзя і Еўдакіі (395 г.) жылі, відаць, у Канстантынопалі, дае падставу думаць, што права на званне Гарада Сьвятога Замірэння было перададзена, пачынаючы з 395 года, яму. Супраць яго стратэгічнага месцазнаходжання на мяжы Еўрапейскай і Азіяцкай частак Ўсходняй Імперыі нічога немагчыма, вядома, запярэчыць, акрамя таго, што замацоўваючы ўладу над Балканскай паўвыспай і Малой Азіяй, яно паслабляла ўладу над Ягіптам і Сірыяй і павінна было, нягледзячы на мяркуемы перавоз на Гізехскае поле каля Мемфіса набальзамаваных парэштакаў усходніх цароў, прывесьці да адпадзення Ягіпта, бо парэшткі і тады дапамагалі мала, а забабонны жах насельніцтва перад «богам Грамабоем і ўстрасальнікам зямлі» паціху знік. Хаця гэты бог і лётаў па-ранейшаму ўсюды на навальнічных хмарах і ўражваў вогненнымі стрэламі таго ці іншага, але пасьля з'яўлення Апакаліпсіса, пагражаўшага грымотнымі стрэламі самім зямным царам, шмат хто із іхных падданых перасталі верыць, што ён зараз жа прыляціць і ўразіць іх за першую ж непаслухмяна-падданніцкую думку, асабліва пасьля таго як новы землятрус і вывяржэнне Вязувія каля 420 года, апісаныя ў прароцтве Моцны (Амос па-біблейску) і «уразіўшае вялікія будымкі расколінамі (мал. 122), а малыя трэшчынамі» (6, 11), як бы выканала да некаторай ступені прадказанне Апакаліпсіса і нагнала новую хвалю жаху на арыянскі захад. Апошні ж дзень Пампеі і навакольных гарадоў наступіў, відаць, толькі ў 472 годзе, калі яна была не столькі разбурана землятрусам, колькі пахавана пад вялізнай колькасьцю выкінутага попелу. Гэта верагодна і былі апошнія дні дзяржаўнага арыянства.


Мал.122

*Расколіны вялікага будынку пасьля землятрусу.*

Той жа самы Вязувій, які сваім першым вывяржэннем каля 300 г. выклікаў узнікненне культу адзінага бога Грамабоя, скасаваў гэтага бога сваімі новымі вывяржэннямі, пахаваўшымі значную частку яго прыхільнікаў і жрацоў. Раскіданае арыянства Заходняй імперыіператварылася ў месіянства сярэднявечных рабінаў, і культ бога-сына ў асобе «Вялікага Цара» перакінуўшагася пры Тэадорыху Вялікім, завалодаўшым паўночнай Італіяй, таксама і ў Заходнюю Яўропу.

Такім уяўляецца з прыродазнаўча-навуковага і рэалістычнага погляду развіццё сярэднявечнага адзінабожнага, а потым і трохбожнага хрысьціянства.

Падземныя магутнасьці Флегрэйскіх палёў Італіі мелі тут, як я ужо і раней паказваў, асноўную ролю і не дарма ж цэнтрам каталіцкага хрысціянства і да гэтага часу з'яўляецца Рым, як найбольш блізкі да іх буйны горад, да якога не распаўсюдзілася катастрофа і які перш чым нейкі іншы можна было б, пасьля знікнення Пампеі, назваць умацаваннем Сьвятога Замірэння.

Жалеза і сталь багемскіх рудняў, даваўшыя грэцкім ваярам мячы, кальчугі, шлемы і латы, не змаглі зрабіць і паловы таго, што рабіла на працягу ста гадоў адно маральнае ўздзеянне гэтых падземных магутнасьцей, згуртаваўшае ўсе прыбярэжныя краіны басейна Міжземнага мора ў адно культурнае і адміністрацыйнае цэлае.

# ГЛАВА VI.

## Дармешак ці Дамаск?

Існуе акруговы магаметанскі горад на імя Дымішк на ўсход ад Бейрута на рэчцы Барадэ за «Антыліванскім» хрыбтом, на шляху да пустыні. У сярэдзіне XIX стагоддзя ў ім было да 150.000 жыхароў і каля 250 мячэцей, паказваючых на яго рэлігійнае значэнне ў магаметан. Гэта цэнтр вытворчасьці знакамітых на ўсім усходзе шаўковых і скураных вырабаў, парчовых тканін, а пад час сярэднявечча таксама і шабельных клінкоў.

Ён – пераконваюць нас сярэднявечныя гісторыкі – быў заваяваны Пампеем (г. азн. Дыяклетыянам) за 65 гадоў да нараджэння Вялікага Цара, г. азн. згодна з нашай храналогіяй на прыканцы III стагоддзя нашай эры, і пазней быў часткай Вялікай міжземнаморскай імперыі IV стагоддзя, а потым Усходняй імперыі,

ўключаўшай Ягіпет, пярэднюю Азію і Балканскую паўвыспу. Халіф Амар захапіў яго ў 635 годзе і – запэўніваюць нас – зрабіў рэзідэнцыяй халіфаў.

Але ён мог быць цэнтрам моцнай дзяржавы толькі хіба дзякуючы рэлігійнаму фанатызму першых магаметанаў. Без гэтага чыста псіхалагічнага фактару ніякая свецкая сталіца не змагла б існаваць у такім стратэгічна нязручным месцы. А ён – запэўніваюць нас – быў ёю ад 635 да 753 гг. Потым мы знаходзім яго тым, чым яму згодна з тапаграфічнымі ўмовамі яго наваколля і належала быць – простым месцам вырабу шаўковых тканін і іншых прадметаў раскошы, для якіх тамтэйшая прырода давала добрую сыравіну.

Ці пра яго гаворыцца ў некалькіх месцах Бібліі пад найменнем, часьцей за ўсё, Дамаск (ДМШК), што азначае па-біблейску Мяшок крыві[153], а ў кнізе Параліпаменон пад найменнем ДАР-МЕШК, што азначае «Спадчыннасць Кіравання»[154]?

Я думаю, што «Спадчыннае, дынастычнае Кіраванне» было першапатковым найменнем гэтага біблейскага горада, хаця кніга «Забытыя Падзеі» (Параліпаменон) і скапіявана ў асноўным із некаторых главаў кнігі «Цары», дзе ён зараз мае наву «Мяшок Крыві».

Атаясаміць жа Дар-мешк з азіяцкім Дымішкам было цалкам натуральна пры дапасаванні ўсіх падзей да Палестыны, а пераіначваць усім вядомы ў пярэдняй Азіі Дыміншк у Дармешк у той жа краіне не было ніякіх падставаў.

Паглядзім жа, што паведамляецца пра яго ў Бібліі.

Вось, перадусім, месца, у якім гэтае найменне, відаць даводзіцца перакладаць як «Мяшок Крыві», і тады астральна атрымаецца наступнае:

«Калі прыйшлі горцы (каметы?) із Мяшка Крыві (Галавы Мядузы) на дапамогу «Красе дапамогі» (Пярсею[155]) Цару Апалчэння (метэарытаў персіядаў[156]) – кажа кніга «Знак Бога», – тады Ўмілаваны (Арыён ) уразіў із іх 22.000 чалавек і размясьціў у «Мяшку Крыві» ахоўнае войска». (II Самуіл 8, 5).

Гэтае месца можна зразумець астральна, як змаганне падаючых, зорачак персіяд (ці, дакладней, медузіяд) з Арыёнам, таму што сузор'е Галовы Мядузы магло ўяўляцца спачатку як мяшок, із якога выліваюцца пырскі крыві, а Пярсей, абараняючы Андрамеду мог таксама мець назву і «Цар Узбраення»[157] і «Краса Дапамогі», як мы гэта ўжо бачылі пры, разгляданні псалома 22[158]. Тады Ўмілаваны будзе Авенам, а пастаўленае ім «ахоўнае войска – полымямётам арыянід.

Але мы бачым, што ў еўрапейскіх аўтараў, як мы ўжо згадвалі вышэй, гаворыцца, што быццам бы і зямны Дымішк быў заваяваны Пампеем, г. азн. тым жа Давыдам-Дыяклетыянам. Тут сведчанні абодвух бакоў супадаюць, калі мы спусьцім астралізаваны біблейскі Дамаск у азіяцкі Дымішк.

А вось і іншыя ўрыўкі із кніг Цары і ў Параліпаменон, большая частка якіх не супярэчыць ні зямной, ні нябеснай лакалізацыі.

* * *

**Быццё (15.2).**

---

153 (Ад דם (ДМ) – кроў і שק (СК) – сак, мяшок (згодна з Cruden'у). Але можна перакласьці і крывавая ляшка (ШК)

154 דר (ДР) – род, дынастыя, спадчыннасць і валоданне.

155 ארם (АРМ) – узвышша, горная краіна.

156 הדר־עור (ЕДР-ЭЗР) – веліч дапамогі.

157 צובה (ЦУБЕ) ад צבה (ЦБЕ) – узбройвацца.

158 Хрыстос, 1-я кніга.

«Адоніс-Грамабой! – сказаў Бацька Рым (Аб-рам) – што ты можаш даць мне ў спадчыну? Я ж не маю дзяцей, і гэты Бога-памагаты (АЛІ-ЭЗР) із «Дамаска» з'яўляецца будучым уладальнікам майго народа». (Магчыма, што пад імем Алі-Эзра тут маецца на ўвазе халіф Алі, памёршы каля 656 года нашай эры, і тады гэта месца Кнігі «Быццё» напісана не раней заканчэння VII стагоддзі, і гаворка ідзе пра Сірыйскі Дымішк, а яшчэ больш верагодна, што тут спачатку было напісана Дар-Маск, г. азн. дынастычнае кіраванне, і гаворка ідзе пра Буда-Пешт, як сталіцу гунаў.)

**I Цароў (11. 24).**

«Уладар (РЗН), сын Богазорцы (Алі-дэ) зрабіўся начальнікам атрада пры Ўмілаваным (Давыду) і стаў валадаром «Дамаска». Ён быў супернікам богазмагальнікаў на працягу ўсяго часу валадарання Саламона» (Канстанцыя Хлора). А далей (19. 45) мы бачым, як Грамабой загадвае прароку Іллі (якога мы ўжо атаясамілі з Васілём Вялікім, г. азн. з евангельскім Хрыстом, а астральна з Сонцам (ηλιος):

– «Ідзі зноў праз стэп у «Дамаск» і памаж там Празарліўца Бога (ХЗ-АЛ) у цары над горцамі; Громабойнага (ІЕУА) памаж у цары над богазмагальнікамі, а Богаратуючага (Елісея) у прарокі пасьля сябе. І хто выратуецца ад мяча Празарліўца Боскага, таго заб'е Громабойнічаючы, а хто выратуецца ад мяча Громабойнічага, таго заб'е Богаратуючы» (і тут біблейскі Дамаск, відаць, адпавядае Буда-Пешту, заснаванаму, згодна з паданнем, Будай, братам Атылы).

Калі ж лічыць яго астральна за «Галаву Мядузы», то пад «Празарліўцам Бога» можна мець на ўвазе Авена, пад Громабойнічаючым Цяля і пад Богаратуючым Рака з Яслямі Хрыста.

Пасьля гэтага яшчэ паведамляецца (20. 26), што той жа «Сын Заклікання» (БН-ЕДД) наладзіў агляд горцам і пайшоў у атаку на богазмагальнікаў, але яго войска было пабіта паваленай сьцяной горада і ён схаваўся ў самым аддаленым пакоі. Адтуль ён выправіў амбасадараў да цара богазмагальнікаў (гістарычна да Ахава-Валента) са словамі:

– «Пакінь жывой маю душу!»

Ахаў заключыў з ім мірную дамову і за гэта быў праклятым адным із прарокаў (20. 42).

**II Цароў (5, 12).**

– «Ці не лепш «дамаскія» рэкі Авена і Фарфар[159] чым богазмагальніцкія рэкі? – сказаў царадворац Нэйман, якому прарок Богаратуючых (АЛІШЕ) параіў сем разоў акунуцца ў Эрыдане (у рацэ Па, у Ламбардыі), каб акрыяць ад праказы.

Але каля сірыйскага Дымішка і нават ва ўсёй Сірыі няма ніводнай із гэтых рэк. Тэолагі лічаць за Фарфар маленькую рэчку паблізу сучаснага Дымішка па найменню Авадж, але з такім жа правам можна палічыць за яе і Няву. А Нэйман – нямецкае імя (Neuman).

**II Цароў (8. 1).**

«Прарок Богаратуючы (Алішэ па-біблейску, Елісей па-грэцку, а гістарычна Ян Залатавуст) прыйшоў у «Дамаск», калі «Сын Славы» (Бэн Адад) быў хворы. Сын Славы выправіў да яго за парадай свайго царадворца Богазорца (ХЗЕ-АЛ), але Богаратуючы адказаў яму:

– «Ты сам будзеш царом горцаў».

«І той, вернучыся, забіў «Сына Славы» і запанаваў замест яго».

---

[159] אבנה (АВНЕ) сугучна з אבן (АВН) – гіра, кацімы камень, адвес, абарона; פר־פר (ФР-ФР) – бык быка.

**ІІ Цароў (14. 28).**

«Эраваам (Кастусь І) вярнуў богазмагальнікам Дамаск і Хемат, якія належалі раней багаслоўным».

**ІІ Цароў (16, 9).**

Ахаз (храналагічна адпавядаючы Зянону (474-491), цар богаслаўных выправіў да Пачвары Перасяленца (Ціглат-Паластру) з прашэннем абараніць яго ад горцаў, хаўруснікаў богазмагальнікаў, і той захапіў «Дамаск» і перасяліў яго жыхароў у Кіру[160]. Ахаз паехаў да яго ў госьці ў «Дамаск» пабачыў там ахвярнік і, зрабіўшы з яго малюнак, паслаў у «Горад Сьвятога Замірэння» да сьвятара «Сьвятло Грамабоя» (АУР-ІЕ), каб ён наладзіў і там такі ж, а ранейшы медзяны паставіў бы збоку. Так і зрабіў Сьвятло Грамабоя і з таго часу пачалі прыносіць ахвяры толькі на новым ахвярніку.

«Пачвара Перасяленец» завецца тут царом Народа Правадыра, г. азн. готаў, такім чынам гаворка зноў ідзе пра Буда-Пешт.

**Параліпаменон (24. 22).**

Супраць цара Іааша (згодна з нашымі атаясамленнямі Валентыніяна ІІІ, 423-455 г.г.) у краіну богаслоўя прыйшло войска горцаў (АРМ) і вынішчыла ўсіх князёў краіны, а здабычу выправіла да Дар-Мешскага цара.

І яшчэ (28. 5): «Грамабой аддаў Ахаза (Зянона, 474-491) у рукі горцаў (АРМ). Яны ўзялі ў яго шмат палонных і адвезлі іх у Дар-Мешк (ДРМШК).

* * *

Такімі з’яўляюцца ўсе месцы пра «Крывавы Мяшок» ці пра «Дінастычнасць Кіравання» (Дамаск, ці Дар-Мяшк), у «гістарычных кнігах» Бібліі.

Із гэтага пераліку мы бачым, што супраць яго лакалізацыі ў некаторых выпадках на небе, а ў некаторых на зямлі ў тым месцы, дзе зараз размешчаны Буда-Пешт, няма сур'ёзных пярэчанняў, пакуль мы лічым гэты горад цэнтральным месцам моцнай самастойнай дзяржавы. Для сталіцы такой дзяржавы правінцыйнае і ізаляванае размяшчэнне сірыйскага Дымішка цалкам не прыдатнае. Якая б то ні было цэнтральная ўлада, абраўшы для сябе такі базіс, байкатавала б сама сябе, і больш людныя і культурныя мясцовасьці пачалі б над ёю толькі насьміхацца.

З іншых, біблейскіх кніг мы знаходзім згадванне пра Дамаск у «Песьні Песень» у такой высокапастаўленай кампаніі.

«Азірніся, азірніся, жыхарка Шулама (на гары Арбіты[161]). Азірніся, каб мы паглядзелі на цябе! Якія прыгожы твае ногі, высакародная дзеўка ў сандалях! Закругленні тваіх сьцёгнаў як каралі, вырабленыя рукамі мастака; жывот (ШРР) твой як круглая чарка, із якой не знікае духмянае віно; уваход у яго[162] як куча пшаніцы, абстаўленая лілеямі; два твае сасцы як два казляняці, як двайнікі серны; твая шыя як вежа са сланоВай косткі, вочы як азярцы прыдумкі[163] каля брамы Дачкі вышынь[164]. Твой нос як вяршыня Белай гары (па-французску Манблан), якая стаіць тварам да Дынастычнага Кіравання (Дар-Маску –

---

[160] קיר (КІР) – агароджа, лічыцца ракой Куру ў Закаўказзі.

[161] Шулам (שולם) сугучна з Салім (שלם), г. азн. Еру-салім, але лічыцца гебраістамі адпавядаючым Сунаму (סונם) каля падэшвы Гары кола, ці Арбіты (ГЛГЛ = (גלגל).

[162] בפן (БѲН) – дзьверы ўлоння маці. Такое ж значэнне відавочна ў Ёвы 3, 10; у Ісаі 48, 8, у Псалмах 22, 10 і ў Міхея 6, 7, але ў перакладах усюды стаіць: улонне маці ці дзверы ўлоння маці.

[163] חשבון (ХШБУН) – выдумка. Лічыцца тэолагамі за горад, ці, дакладней, за парэшткі на ўсход ад Ярдана на паўночным канцы Мёртвага возера. Але там няма і не было ніякіх азярцаў выдумкі.

[164] בת (БТ) – дачка і רבה (РБЕ) – вышыня, веліч. Горад רבה (РБЕ) ці (РВЕ) – сугучны з Равенай і не раз згадваецца ў Бібліі (Рава).

Аўстры). Галава твая як сад[165] і прадкі валас на ёй як парфіра[166]. Цар палонены тваімі косачкамі» (7, 6).

Тут перадусім мы бачым, што жыхарка Шулама была рудая, чаго ніколі не бывае ў тубылак ні ў Малой Азіі, ні ў Ягіпце, ні нават у Канстантынопалі, а толькі хіба – у італійскай Венецыі. А калі Песьня Песьней была створана ў Паўночнай Італіі, то і Белую Гору (Ліван па-біблейску) хутчэй можна атаясаміць з аднайменным з ёю Манбланам, а горад «Дынастычнага Кіравання (Дамаск)» з адным із гістарычных гарадоў каля Швейцарыі накшталт Вены ці Буда-Пешта. Іншай высновы немагчыма зрабіць са знакамітай «Песні Песьней Саламона», калі будзем надаваць ёй толькі звычайнае значэнне.

Але як бы мы не прызвычаіліся да кваяцістасьці ўсходняга складу выказванняў, а ўсё ж здаецца, што аўтар тут хапіў ужо праз край ва ўхвалах сваёй пыгажуні, калі разумець гэта вульгарна. «Твой нос, як вяршыня Манблана», «твая шыя як вежа са слановай косткі»... Ці не занадта ўжо велічная дзеўка для звычайных чалавечых дачок? Ці не апісваецца і тут простае сузор'е Панны? Калі ж Цар-Прыроды – Сонца набліжаецца ў жніўні да косачак яе галавы, як бы заваблены імі, яна пасьля яго заходу заходзіць галавой у парфіру вечаровага зарыва, як бы збягаючы ад гледача, жадаючага яе спыніць. Каля ўваходу ў яе жывот сапраўды малявалі на мапах сноп пшаніцы і тут жа была зорачка Вінаградарніца, із якой не вычэрпваецца віно. Але ў такім разе і горад Дынастычнага Кіравання (Дар-Маск) будзе тут сімвалізаваны нябесным экватарам...

Паглядзім зараз, што пра гэты горад паведамляюць нам і прарокі.

У сёмай частцы прадказання Іса-Ія, мы знаходзім застаткова няскладнае выказванне.

«Кіраўнік Нагорнай Краіны» (АРМ) «Дынастычнае Кіраванне» (Дар-Маск), а кіраўнік яго самога Пранізальнік (Рэтын) і пасьля 65 гадоў Аф-Рым перастане быць народам (7. 8). А перш чым дзіцё навучыцца вымаўляць мама і тата (АМІ і АБІ), багацці Дынастычнага Кіравання і здабычу Нагорнай Краіны панясуць Цару Правадыру» (МЛК-АШУР, 8, 9).

Але хто ж гэты Цар-Правадыр? Па-жыдоўску правадыр мае назву АШУР. На небе гэта Сірыус, а на зямлі – запэўніваюць нас тэолагі – ніхто іншы, як жыхар Месапатаміі, якую яны завуць Асірыяй. Аднак ці правільна апошняе атаясамленне правадыра? Вось у гэтай жа самай частцы Біблііі мы бачым месца паказваючае, што і тут справа не абыйшлася без астралістыкі:

– «Прасі сабе адзнаку ў глыбіні апраметнай ці на вышыні нябёсаў – сказаў Грамабой цару Валадару (Ахазу) – у пацверджанне будучай пагібелі Аф-Рыма.

– «Не жадаю спакушаць Грамабоя – адказаў Цар Валадар.

– «Ну, дык я сам даю адзнаку: вось Панна (Сузор'е) народзіць сына (прайшоўшае праз яе Сонца) і дадуць яму імя: «З намі бог» (Эману-Іл). Ён будзе сілкавацца маслам і мёдам (пройдзе пад Мядовымі сотамі», зараз сузор'ем Валасы Веранікі), пакуль не набудзе здольнасць адкідаць злое і абіраць добрае (г. азн. пакуль не ўвойдзе ў сузор'е Шаляў). Але раней, чым гэта здарыцца, будзе пакінута зямля Пранізальніка (Рэтына), Правадыра (АШУРА) і Назіральніка (ФАКХА), цара богазмагальнікаў».

---

165 כרמל (КРМЛ) – сад і кармін.

166 ארגון (АРГУН) – парфіра. Гэтае слова параўноўваюць з санскрыцкім ragavan – вельмі чырвоны.

Адзначу, што Факх-Назіральнік тэрытарыяльна атаясамляецца ў нас з заходне-рымскім імператарам Рэцымерам (455-472 г.г.) пры якім (у 472 годзе) адбылося новае жахлівае вывяржэнне Вязувія і тры гады анархіі і перасялення народаў, пасьля чаго ўлада перайшла да готаў. У гэтым выпадку Рэтын з’яўляецца Адаакрам, калі імёны абодвух вышэйназваных цароў памяняліся месцамі.

А вось і ў дзясятай частцы Ісаі асабліва характарыстычнае месца:

«Гора Правадыру (Ашуру адпавядаючаму Тэадорыху Гоцкаму ці яго папе ў Рыме), палцы майго гневу, таму што ён выказваецца (10.5):

– «Ці не ўсе цары з'яўляюцца толькі падуладнымі мне князямі? Завяршэнне[167] ці не тое для мяне, што і сьвятарская царква[168]? Вартаўнічы горад (Самарыя), ці не тое, што горад Спадчыннага кіравання (Дар-Мешак)? Бо мая рука ўжо завалодала паганскімі краінамі, то ці не зраблю я тое ж і з богаслаўнымі (10,11)?»

«Але ці магчыма сякера фанабэрыцца перад тым, хто ёю сячэ? Ці можа піла ганарыцца перад тым, хто ёю пілуе? Ці можа палка біць таго, хто сам махае ёю? За такое самаўзвелічэнне Адоніс, Грамабой нябесных ваярстваў, нашле сухотку на гладкіх служак Правадыра і загарыцца полымя (вулканічнага) вогнішча над яго славай (10.16)».

Тут мы не бачым указання на месцазнаходжанне Дар-Мешка, а толькі на тое, што тут пад біблейскім Асурам-правадыром патрэбна разумець ці Тэадорыха Вялікага (493-526), ці рымскага папу, як цара над царамі таго часу.

А ў Ісаі ўжо існуе і прадказанне пра будучую згубу Дар-Мешка.

«Горад Дынастычнага кіравання, не будзе больш сталіцай, а толькі кучай парэшткаў – выказваецца ён вельмі недарэчна, калі гаворка ідзе пра Сірыйскі Дымішак, бо ён цэлы да гэтага часу. – Будуць пакінуты гарады Сталіцы сталіц[169]. На іхным месцы будуць адпачываць статкі і ніхто іх не прагоніць. Знішчана будзе цьвярдыня Аф-Рыма і царства Дынастычнага Кіравання, і рэшта Горнай краіны знікне, як слава дзяцей богазмагальніка».

У прароцтве Іезекііл сказана пра Дар-Маск толькі тое, што ён прадаваў Цару-гораду[170] разнастайныя тавары: «віно із Хелбуна і поўсць бліскучай бялізны» (27.18), а пра шаўкаводства – не згадваецца ні слова.

У прароцтве «Моцны» (Амос) існуе такое месца:

«Я пашкадую горад Дынастычнага кіравання (Дармаск) за тры яго злачынствы, але не за чацьвёртае: не пашкадую яго за тое, што ён малаціў Узгорак Свяціцельства жалезнымі бічамі. Я знішчу яго засоўкі і вынішчу жыхароў даліны сонца[171] і трымаючага скіпетр із Сядзібы раскошы[172] і пераселены будзе народ Вышыні на схіл[173], – так кажа Грамабой (1.5).

Тут горад Дынастычнага Кіравання, відаць, патрэбна разумець астральна ў сэнсе нябеснага экватара, а пад жалезнымі бічамі адзін із полымямётаў на яго працягу, таму што ў іншым месцы дадаецца:

«Але як Валапас вывяргае із пашчы Ільва дзве галёнкі ці частку вуха, так выратаваны будуць дзеці Богазмагальніка (г. азн. зоркі), седзячыя ў

[167] כל־ני (КЛ-НІ) – наша завяршэнне.

[168] КРК-МІШ дзе КРК (ці Цырк) – царква, а МІШ дакладней усяго сапсаванае МШЕ – Майсей і блізка да МШХ – памазанец, сьвятар.

[169] ערו־ער (ЭРУ-ЭР) замест עיר־עיר (ЭІР-ЭІР) – сталіцы сталіц. Можна, вядома, перакласьці і словам – пень.

[170] Ціру (ЦР) – Цар.

[171] אין (АУН-ОН) – магутнасць, гвалт, а таксама Сонца і хлусня.

[172] עדן (ЭДН) – час, год, а таксама: раскоша, асалода. Цяжка выбраць, несумнеўнае значэнне.

[173] קיר (КІР) – схіл, нахіл, абрыў, агароджа, умацаванне.

Вартаўнічым горадзе (Авене?) на куце ложка і ў горадзе Дынастычнага Кіравання на ўсім ложку (3.12).

І нарэшце яшчэ:

«Дзеці Богазмагальніка (зоркі)! Вы прынялі царкву вашага цара[174] і выявы бога Сатурна, і за гэта я перасялю вас далёка за горад Дынастычнага кіравання (Ам.5.26)».

У Новым Запавеце слова Дамаск ужываецца ўпершыню ў «Здзяйсненнях Апосталаў».

«Савул (інакш: Саўл) – гаворыцца ў дзевятай частцы – дыхаючы забойствам на пасьлядоўнікаў Езуса, выпрасіў у першасьвятара ліст для «Дамаскіх» сінагог, каб прыводзіць тамтэйшых хрысціянаў у Горад Сьвятога Замірэння ў вязніцу, але калі ўжо набліжаўся да «Дамаска», раптам асьляпіла яго сьвятло з неба (відаць маланка), так што ён зваліўся на зямлю (ад індукцыі) і пачуў голас:

– «Савул, Савул! За што ты мяне гоніш?»

– «Хто ты, валадар? – запытаў ён.

– «Я Езус. Цяжка табе ісьці супраць ражна»

«Савул падняўся з зямлі з расплюшчанымі вачамі, але нікога не пабачыў, і прабыў так у «Дамаску» тры дні, не прынімаючы ні ежы, ні пітва.

«Тады Грамабой загадаў свайму вучню Боскай Мілоце (Ананіі):

– «Ідзі на дарогу, маючую назву «Прамая дарога» і запытай у богаслоўным доме Саўла із Тарса. Ён абраная мной пасудзіна, каб паведаміць маё імя народам і царам, і сынам Богазмагальніка».

«Боская Мілота» пайшоў, паклаў на Саўла рукі, і адразу як бы лустачка ўпала з яго вачэй. Ён падняўся і ахрысьціўся і адразу пачаў павучаць у сінагогах, што Езус з'яўляецца сынам бога-Грамабоя. Богаслоўныя дамовіліся забіць яго за гэта і пільнавалі каля брамы дзень і ноч. Але вучні Езуса ноччу спусьцілі яго са сьцяны ў кашы. Ён прыбыў у Горад Сьвятога Замірэння і адважна павучаў там, спаборнічаючы з эліністамі, якія таксама пажадалі забіць яго, але «брація» выправіла яго ў Цэзарэю і адтуль у Тарс (на паўднёвым усходзе Малой Азіі)».

Гэтае ж апавяданне паўтараецца чатыры разы, але ужо не ад імя Саўла, а Паўла (што азначае Пакорлівы), як падзею, здарыўшуюся з ім, а не з Саўлам[175]. Першы раз гэты «малы апостал» паўтарае ўсю гісторыю на лесвіцы ва ўмацаванне Горада Сьвятога Замірэння, пад абаронай «рымскіх жаўнераў», падняўшамуся супраць яго народу (Здзяйсненні 22). Другі раз ён паведамляе тое ж самае ў Кесарыі цару Агрыпе з такімі джэнтэльменскімі ўступнымі словамі:

– «Лічу сябе шчаслівым, што сёння маю магчымасць апраўдвацца перад табой ва ўсім, у чым мяне вінавацяць богаслаўныя» (Здзяйсненні. 26. 2).

У трэцці раз ён згадвае пра тое ж спусканне на вяроўцы ў другім лісьце да карынфянаў (11. 32) коратка і з варыянтам (12. 32) у чацьвёрты раз толькі намякае на такое сваё спусканне па Дар-маскай сьцяне ў лісьце да галаў (1, 17) з дадаткам:

– «Ёй богу, не хлушу!» (1, 20).

Я ўжо паказваў у першай кнізе гэтага даследавання, што Савул і Павел, відаць, былі дзьве розныя асобы, злучаныя разам, і можна выказаць здагадку, што Савул ператварыўся із праследніка хрысьціянаў у іхнага абаронцу дзякуючы таму, што на яго шляхі ў Буда-Пешт для ўціхамірвання хрысьціянаў, выдаліўшыхся туды із Рыма, яго сапраўды аглушыла маланка, і ён палічыў гэта перасьцярогай ад

---

[174] (МЛК-КМ) – ваш цар.

[175] Імя Саўл тое ж, што і Саул і азначае – падземнае царства (Аід ці пекла, а таксама: запазычаны), а імя Павел азначае: малы.

самога свайго бога-Грамабоя. Падменены ж Паўлам (г. азн. малым) ён быў ці таму, што заканчэнне яго дзейнасьці было занадта анахранічным пасьля перанясення Езуса із IV у I стагоддзе нашай эры, ці (што больш верагодна, таму што ў IV стагоддзі ад яго не засталося ніякіх слядоў) з такой жа нагоды, згодна з якой і апостал Сымон быў падменены Пятром. І ён, у якасьці доказу праўдзівасьці сваёй веры, мог дзякуючы падбухторванню апанентаў, саскочыць перад народам з нейкай высокай вежы і разбіцца на сьмерць, а пра гэта, вядома, патрэбна было змоўчыць, каб не бянтэжыліся вернікі.

На заканчэнні свайго маленькага агляду, я паўтару яшчэ раз: слова Дамаск ужываецца ў Бібліі не аднойчы ў астральным сэнсе, тэрытарыяльна ж ён больш усяго дапасуе да Буда-Пешта пры нашай новай лакалізацыі Сіёна. Але і супраць атаясамлення яго ў некаторых месцах з сучасным азіяцкім Дымішкам нічога немагчыма запярэчыць, акрамя таго, што яго становішча не падыходзіць для сталіцы моцнай самастойнай дзяржавы. Але сірыйскі Дымішк, з нагоды сваёй аддаленасьці, быў вельмі зручным для часовага адступлення грэкаў ці сірыйцаў, паўстаўшых супраць рымскай улады.

# ГЛАВА VII.
# Што пазначаюць сабой 12 сыноў богазмагальніка?

## I.
## Адкуль слова Сяміты.

У Кнізе «Быццё» паведамляецца, што ў Ноевага сына «Шляхетнага» (Сіма па-жыдоўску) пасьля таго, як ён выплыў з бацькам із сусьветнага патопу, было пяць сыноў-сямітаў (10. 22).

Адзін сын меў імя Эйлам[176], што азначае Вечны, але гебраісты лічаць яго за Сузіяну Страбона і Пталямея, вобласць на ўсход ад ніжняй плыні Тыгра з галоўным горадам Суза. Аднак, гэтая краіна не толькі зараз, але нават і ў Бібліі мае назву Персія (ПРС). Із народаў жа гэта больш за ўсё сугучна з элінам, які мог ператварыцца ў Элама шляхам асіміляцыі, падобна таму, як Стакгольм ператварыўся ў рускіх летапісах у «Сцякольны». Аднак у той жа Бібліі (гл. 10) нам пазначаюць грэка найменнем іяніец (ЙУН), сын «Вытанчанага чалавека», малодшы брат «Шляхетнага». Але ці адрозніваюцца абедзьве гэтыя назвы адна ад другой больш, чым элін ад грэка?

Другі сын меў назву АРП-КШІД, г. азн. лекар-астролаг. Ранейшыя гебраісты раскладалі гэтае слова на АРП (па-арабску – вобласць) і КШІД (астролаг), г. азн. зямля астролагаў. Іншыя ж параўноўвалі гэтае найменне з санскрыцкім выразам ariapakshata (побач Арыя ляжачы), і мясцовасць пакідалі не лакалізаванай. Згодна з Бібліяй (гл. 10) ён быў дзедам «перасяленца (ЭБР)», ад якога ўзьніклі Бацька-Рым (АБ-РАМ) і латынянін (ЛОТ). Але той жа самы Рым фігуруе пад найменнем «Развеяны Рым» (Міц-Рым), як сын «Халопа» (Хама) брата «Вытанчанага чалавека» і «Шляхетнага чалавека». І ён жа фігуруе пазней як Ганарлівы Рым (Аф-Рым ці Яфрэм, сын Ёсіфа Прыгожага). Магчыма і яны не больш адрозніваюцца адзін ад аднаго, чым італьянцы і лаціны ад рымлянаў?

Трэцім сынам Сіма быў Люд (ЛЮД), імя якога вельмі падобна са славянскае «людзі». Але ён атаясамляецца гебраістамі са старажытнай Людняй на захадзе Малой Азіі, жыхары якой лічыліся сярэднявечнымі гісторыкамі «вынаходнікамі

---

[176] עילם (ЕІЛМ) = עולם (ЭУЛМ) = עילום (ЭЙЛУМ) – вечнасць, вечны.

плаўлення руды і афарбоўкі поўсьці», хаця хуьчэй за ўсё гэта магло быць вынайдзена на Балканах, дзе і жылі «людзі». Галоўным іхным горадам завуць Сарды (Сарты?), быццам бы зруйнаваныя – кажуць нам – Тымурам у XIV стагоддзі.

У прадказанні Ісая гэтыя «людзі» маюць назву «стралкі із лука» (66,19). У прароцтве «Ерамія» яны ж згадваюцца, як «паляўнічыя, трымаючыя і нацягваючыя лук» (46,9), а ў Іезекііла паведамляецца, што гэтыя ж «людзі» (ЛЮДІМ) служылі наймітамі ў войску Цара-горада (ЦР) і «падтрымвалі яго веліч» (27.10). Усё гэта вельмі збліжае іх са славянамі.

І вось гэтых жа самых людзей мы знаходзім у той жа самай 10-й главе кнігі Быццё і як дзяцей Развеянага Рыма (Міц-Рым) і ўнукаў «Халопскага чалавека», (ХАМА) сына Ноя, выйшаўшага із вады патопу. І ў паралель да гэтых людзей мы знаходзім яшчэ і мужыкоў (МШК) як сыноў «Вытанчанага чалавека» (Яфета). Ці не з’яўляюцца гэтыя «людзі» і «мужыкі» зноў адным і тым жа і ў дадатак зусім не міфічным народам?

Чацьвёрты сын Арм, г. азн. Горац[177], лічыцца насельнікам сучаснай Сірыі, але адрозніваецца гебраістамі ад армяніна, бо, на іхную думку, Арменія ў БіБліі мае назву Арарат[178], хаця яе галоўная гара зараз і мае найменне Агры-даг, а ў персаў Кухі-Нух, г. азн. гара Ноя[179]. Я буду называць гэтага сына проста Горац, не лакалізуючы пакуль яго краіну, падобную на Швейцарыю з Тыролем.

Пятым, а згодна з біблейскім злічэннем другім, сынам Ноя быў Ашур (АШУР), імя якога азначае «Правадыр-Настаўнік»[180]. Гебраісты лічаць яго ў адных месцах Біблii за жыхара вобласьці на ўсход ад верхняй плыні Тыгра, каля сучаснага Масула, а ў іншых – за вобласць на поўдзень ад Мёртвага Возера. Гэтае імя тое ж самае, што і Ашурі (АШУРІ) у другой кнізе Самуіла (2. 9), але яно перароблена Вульгатай у Гшуры. У Таргуме Ёнатана мы сустркаем імя Ашрі (АШРІ), якое як мясцовае пераіначванне папярэдняга, лічыцца за назву нашчадкаў Асіра, сына Богазмагальніка[181].

Але АШУР і АШРІ гэта толькі два розныя вымаўленні першапачатковага слова АШР, што азначае: хадзіць проста, кіраваць іншымі, навучаць іншых. Аддзеяслоўны назоўнік гэтага кораня М-АШР, азначае па-жыдоўску «той, хто кіруе і навучае», страціў тут сваю прыстаўку М, ператварыўшыся ў радавое імя, як і ў заходне-еўрапейскіх мовах губляецца частка першапатковых найменняў, калі яны пераходзяць у радавыя імёны. Вось чаму, калі мы бачым, што ў адных месцах Біблii сустракаецца арфаграфія АШР, у іншых АШУР і ў трэцціх АШРІ, то мы ніяк не павінны абавязкова лічыць, быццам бы тут розныя імёны, хаця транскрыпцыя

---

177 ארם (АПМ) – узвышша, нагорра.

178 אררמ (АРРТ) – сугучна з אר־רממ (АР-РТТ) – святло, трапятанне, зарава.

179 У гэтага «горца» былі чатыры сына: ЭУЦ (עוץ), ХУЛ (חול)–гал, ГРТ (גתר) –гот (?) і МШ ці МШК (муж ці мужык) (Б. 10. 23).

180 אשור (АШУР) уласна азначае маральны шлях, крок, шэсьце. Халдэйскі тэкст Біблii (Таргум Ёнатана) называе אשור (АШУРІ) – вобласць калена Асіра, якое тэолагі ўшчыльняюць у Палестыне. Корнем слова Ашур з’яўляецца АШР (אשר) – кіраўнік, настаўнік, а таксама – добры, шчасьлівы, адсюль жа і багіня Ашэра, г. азн. Настаўніца ці Шчасьлівая, тое ж самае, што Астарта (אשתרת), ці Венера ці панна Марыя.

181 Усе гэтыя народы лічацца семітычнага, г. азн. у перакладзе: слаўнага паходжання (падобна таму як завуць сябе і славяне. Найменне славяне дарэмна заўсёды выводзяць ад кораня «слова». Ва ўсіх замежных мовах, у тым ліку і ў старажытных пішацца: slaves, sclaves і г. д. Таго ж кораня і Славонія, частка Харватыі. А ад «слова» паходзіць толькі найменне «славакі» ў паўночнай Вугоршчыне, ды і то ў процівагу найменню «немцы» ў суседніх з імі абласьцях).

АШР і прыстасавана да значэння шчасьлівы, а АШУР – да значэння ходзячы прамымі шляхамі. Гэта тое ж самае, як і ў рускай мове, мы можам вымаўляць як Мар'я так і Марыя, як Восіп так і Ёсіф, і калі ў некага ў гасьцях мы пачуем апавяданне пра Мар'ю і Восіпа, то можам лёгка патрапіць у смешнае становішча, калі адразу ж не здагадацца, што гаворка ідзе пра Марыю і Ёсіфа, якіх мы добра ведаем. А ў дачыненні да біблейскіх імёнаў патрэбна быць яшчэ больш асьцярожнымі, бо Біблія была дзясяткі разоў тэндэнцыйна адрэгавана пад час сярэдневечча, і дробныя змяненні арфаграфіі ўласных імёнаў лёгка маглі быць зробленымі знарок для таго, каб тоеснасць імёнаў не выклікала ў чытача атаясамлення і адпавядаючых ім прадметаў, якія згодна з ўласнымі маральнымі ці набожнымі меркаваннямі аўтараў і капіістаў не маглі, ці не павінны былі быць аднымі і тымі ж прадметамі.

## II.

## Дванаццаць сыноў Богазмагальніка як дванаццаць монатэістычных народаў сярэднявечча.

Наша сейсмічная тэорыя ўзнікнення адзінабожжа на берагах Міжземнага мора перанесла падмосткі падзей «богазмагальніцкага царства» Бібліі ў наваколлі Вязувія, у Італію, і разам з тым прымусіла нас інакш лакалізаваць і мясцовасьці, з якімі гэтае царства больш-менш блізка спалучалася. Вось чаму тут нам перадусім патрэбна разабрацца ў тым, што ўяўляюць сабой дванаццаць сыноў Якава-Богазмагальніка, так нагадваючыя, з аднаго боку, 12 знакаў Задыяка, а з другога – 12 апосталаў евангельскага Хрыста і, з трэццяга боку, 12 правінцый Рымскай Імперыі IV стагоддзя.

Разглядаючы пытанне спачатку з апошняга боку гледжання, як найбольш блізкага да вульгарных гістарычных уяўленняў тэолагаў, і ведаючы ўжо із папярэдняга, што пад найменнем «народа боскага» ў Бібліі маюцца на ўвазе грамадзяне вялікай лаціна-эліна-сірыйска-ягіпецкай імперыі Дыяклетыяна-богапрызванага (ён жа біблейскі Давыд), мы па агульных прыкметах лёгка знаходзім тыя атаясамленні, якія ўжо паказаны ў адной із папярэдніх главаў пры разбіранні кнігі «Лічбы».

Шэсць яго дзяцей ад жонкі Ліі[182], г. азн. ад венчанай царквы былі: Раувін, Шмеун (Сымон), Лявіт, Юдэй, Ішакар і Звулон. Із іх: першынец-Раувін, аднайменны з Равінскай вобласьцю ўсходняй Італіі паміж Апенінамі і Адрыятычным морам. Гэта яе старажытная сталіца.

Аднак жа хутчэй сама Равена (па-біблейску – Рава (רבה) паходзіць ад слова Раувін, а не наадварот. Адзначу, што слова Раувін замяняе ў Бібліі слова рабін, настаўнік[183] і згодна з гэтым мы і павінны разумець яго менавіта ў такім сэнсе і атаясамляць яго краіну з ніжнім Ягіптам, а, у прыватнасьці, з горадам Бібласам, адкуль выйшла Біблія, хаця месцазнаходжанне яго нашчадкаў і паказана не за Эрыданам (г. азн. не за ракой Па, калі да яе ісьці з боку Вязувія).

Другі сын – Сымон, па-жыдоўску ШМЭ-ОН, г. азн. пачуты богам-Сонцам, падобны згодна з сэнсам свайго імя з І-Шмэ-АЛАМ (Ізмаілам), г. азн. з тым, «які

[182] Нагадаю, што ЛАЕ азначае: завяўшая, а ЛІЕ – венчаная. Але завяўшай яна магла быць названа толькі тады, калі ўжо завяла, і таму я думаю, што першапачатковым яе імем, да завядання, была ЛІЯ, а не ЛАЯ, як пішацца ў сучасных юдэйскіх тэкстах, але вымаўляецца: Лія.

[183] Настаўнік у Бібліі пішацца מורה (МУРЕ), навуковец למורה (ЛМУД) і שכל (ШКЛ) – праніклівы, адкуль слова школа.

будзе пачуты богам Эліясам (Сонцам)». Гэта прыводзіць нас да ізмаэлітаў, г. азн. у Аравію і атаясамлівае Шме-Она з Шме-Алам (ізмаілітам па-руску).

Трэцці сын – Левій (ЛВІ) прыводзіць нас у Лівію, г. азн. у паўночна-ўсходні кут Афрыкі, да якога патрэбна аднесьці і Верхні Ягіпет. Гэты сын быў пераважна служкай культу бога Сонца родапачынальнік сьвятарства, якім і быў Верхні Ягіпет, пачынаючы ад Мемфіса.

Чацьвёрты сын – Юда прыводзіць нас у «Юдэю», якая разумеецца не ў малюсенькім сучасным сэнсе, а ў сэнсе ўсёй Сірыі ад Анаталійскай паўвыспы (Малой Азіі) да Ягіпта, а ў глыбіню да даліны Тыгра і Еўфрата. Яе найменне азначае «краіна багаслоўя».

Пятым і шостым сынамі былі: Ішакар, г. азн. Ратавальная Ўзнагарода, і Звулон, г. азн. «згуртаванне адзінаверцаў», ці проста: «Аточаны (морам)».

Краіна Звулона лёгка вызначаецца як Грэцыя, бо ў дабраславенні Богазмагальніка гаворыцца, што гэты сын «будзе жыць каля берагоў мора (ХУФ-ІМІМ) каля «Прыстані караблёў» і што мяжа яго будзе каля Месца Рыбнай Лоўлі (ЦІДУН) (Быццё 44. 13)».

Што ж гэта за «Прыстань караблёў»? Калі мы возьмем слова афіны ('Αθηναι), то пабачым, што для грэцкай мовы гэта найменне замежнае, не маючае зразумелага сэнсу. Адкуль жа яно ўзята? Няцяжка бачыць, што з той жа мовы, як і слова Рым, і слова Сіцылія не маючае сэнсу на італійскай мове. Але па-жыдоўску Рым азначае Насарог, Сіцылія паходзіць ад жыдоўскага слова сікель – прывабная, а Афіны азначаюць месца «Прыходу карабля» (АТЕ-АНІ)[184], на-лаціне Athaenae, пры гэтым дзьве галосныя Е і А скарачаюцца ў адну. Гэта адзінства назваў цалкам адпавядае і гістарычнай ролі Афінаў: яны былі адмыслова горадам мараходаў, дзякуючы свайму прамежкаваму марскому становішчу з вылучнымі па велічыні і якасьці гаванямі: Пірэем, Муніхіяй і Фалерам з усходу, каля самога горада, і Карынфскім залівам з захаду, на выпадак сховішча ад буры ў Адрыятычным моры. А мяжа гэтай краіны «да Месца Рыбнай Лоўлі» паказвае ці на старажытную Трою каля Дарданэльскага праліва ці на Венецыю.

Адпаведна з гэтым і Ішакар (Ісахар па-руску) вызначаецца, як Анаталійская (Малаазійская) паўвыспа. Дабраславенне Богазмагальніка называе гэтага сына «моцным аслом, ляжачым паміж загонамі», г. азн. паміж двума марамі (Быццё 49. 14). Цікава, што па-армянску слова ішак (корань наймення Ішакар) і азначае асла. Гэтаму суседняму становішчу абодвух, названых разам, братоў адпавядае і супольнае дабраславенне іх Майсеем: «весяліся Звулон (грэк) пры тваім выйсьці (у мора) і Ішакар (турак) у сваіх шатрах. Адзін із вас сілкуецца багаццем мора а другі скарбамі, утоенымі ў глебе» (Другазаконне 33. 19).

Такія шэсць законных сыноў венчанай, г. азн. дзяржаўнай царквы (Ліі) і мы бачым, што яны ахопліваюць усю Ўсходнюю частку лаціна-эліна-сірыйска-ягіпецкай імперыі IV і V стагоддзяў.

Але ў Богазмагальніка была яшчэ другая малодшая жонка (г. азн. царква) на імя Авечка (культ Авена), ад якой былі два сына:

Першы – Кратар Грамабоя (Ёсіф), быў кіраўнікам Міц-Рыма (г. азн. вымалачанага Вязувіем Рыма), калі там панаваў «адпускаючы грахі» (ПАРЭЕ – Padre, фара-он), г. азн. папа.

Гэта адразу вызначае краіну Ёсіфа-Кратара-Грамабоя – Італію.

---

[184] אתה (АТЕ) – прыходзіць і אני (АНІ) – карабель.

Але ён замяніўся двума сваімі сынамі Аф-Рымам, г. азн. Рогам Рыма, і Мані, г. азн. Ссунутым з месца (ад землятрусу). Вобласць гэтага «Ссунутага» вызначыць лёгка. Яна пазначана ў самай Бібліі па абодва бакі Эрыдана, як звалася ў старажытнасці рака По; што азначае гэта была сучасная Ламбардыя. Што ж да Рога-Рыма (Аф-Рыма) замяніўшага Вымалачаны (камянямі Вязувія) Міц-Рым, то здаецца, што няма для яго лепшай мясцовасьці, як Рымская вобласць. Аднак, ён паказаны ужо за Эрыданам, г. азн. за ракой По, і гэта прыводзіць нас да месцазнаходжання Святой Рымскай імперыі IX стагоддзя. Ці можна думаць, што ён вынесены туды шляхам пазнеўшай устаўкі ў біблейскі тэкст, ці нагодай паслужыла Румынія, старажытнае найменне якой (Romania) таксама азначаючае Рымская вобласць? Грунтуючыся на некаторых месцах Бібліі можна думаць, што гэтая адміністрацыйнае высыланне адбылося адначасна з такім жа высыланнем Бэн-Оні, другога сына Ёсіфа, перайменаванага пры гэтым у Веніяміна (Бэн-Імін=Бэн-Імім – сын мора). Яго першая мянушка Бэн-Оні, азн. Сын выпрабавання, ад якога загінула яго маці (царква), як гэта тлумачыцца ў кнізе Быццё, і яго братэрства з Ёсіфам па маці прыводзіць нас зноў у Італію, паблізу Вязувія і Этны, г. азн. у Сіцылію. А тым часам і ён пераселены тэолагамі на берагі Мёртвага Возера, і ў ім размешчаны сучасны хрысьціянскі псеўда-Ерусалім.

Мы бачым, што тут справа ужо мела дачыненне да знакамітага перасялення народаў у V стагоддзі нашай эры, пры якім, як мне здаецца, мела месца больш перасяленне назваў, чым рэальнае перасяленне цэлых народных мас, якое згодна з эканамічнымі меркаваннямі не магло адбывацца нават у асяроддзі качавых народаў інакш, як вельмі павольнымі і мала заўважаемымі стагадовымі перамяшчэннямі, інакш бала б непазбежнай няўхільная эканамічная катастрофа і для саміх перасяляючыхся.

А першапаткова Аф-Рым і Бэн-Імін былі паўднёвая Італія і Сіцылія.

Такімі былі законныя сыны Богазмагальніка. Пяройдзем зараз да незаконных.

Прыслужніца Бэла (БЛЭЕ) нарадзіла для Венчанай двух сыноў: Дана (Данайца), г. азн. Суддзю, і Нафтлі (Змагара).

Дан, адпаведна падвойнаму значэнню свайго імя, атрымаў – кажуць нам – дзьве вобласьці. У якасьці суддзі адну па гэты бок Эрыдана (г. азн. у Італіі), а ў якасьці данайца другую – вялікую – за Эрыданам. Яго вялікая вобласць вызначаецца лёгка: гэта Дунайская вобласць (Danau), але Дан, відаць, з'явіўся тут ўжо таксама шляхам «перасялення народаў», а спачатку быў толькі горадам у Італіі і ў ім адбываліся суды і абмеркаванні.

Змагар (Нафтлі) хутчэй за ўсё нагадвае Галію, калі і Брытанія была асадай. Згодна з добраславеннем Майсея ён «валодае морам і поўднем» (Друг. 33, 23).

Із дзяцей Зелфы, народжаных для Авечкі, правадыр (Ашур) за Эрыданам адпавядае вобласьці готаў, г. азн. Швейцарыі і Германіі, а Гад, г. азн. Шчасьлівая краіна – Гішпаніі, калі ў ёй панавалі маўры.

Пра гэтага Гада Майсей сведчыць, што ён выбраў сабе «цаліну (РАШІТ)», таму што «там прызначана яму вобласць ад заканадаўцы, і гэтая «цаліна» паказана не за Эрыданам (ракой По). Гэта азначае яна размешчана ў Заходняй Еўропе, у якую шлях із Італіі ідзе без пераходу гэтай ракі, і «там ён спачывае як Леў, выконваючы праўду Грамабоя» (Другаз. 33, 21).

Пра правадыра (Асіра), г. азн. пра гоцкія краіны Богазмагальнік выказваецца толькі вельмі невызначана: «багаты хлеб Асіра і ён будзе дастаўляць асалоду

цару». А Майсей, наадварот, выказваецца пра яго хутчэй як быццам бы пра самога рымскага папу:

«Дабраслаўёны Правадыр паміж сынамі. Ды будзе ён шануемы сваімі братамі і ды памочыць ў драўлянае масла[185] сваю нагу. Жалеза і медзь яго засовы і супакой ва ўсе дні. Няма падобнага богу гэтага праведніка; памагаты яго жывучы на нябёсах і ходзячы ў сваёй славе на хмарах. Над ім бог старажытны і пад ім падтрымка – вечныя мязы. Бог прагнаў ворагаў ад яго твару і сказаў: «выкараняй іх!» І жыве народ богазмагальнік адзін бяспечна (пад яго абаронай). Яго крыніца – зямля хлябы і віны, і нябёсы яго крапаюць расу» (Другаз. 33, 28).

Такія найвялікшыя ўхвалы і наданне найменя праведнік здаюцца перабольшанымі нават і ў дачыненні да Тэадорыха Вялікага, прыйшоўшага ў Італію, знясіленую землятрусамі, каб паўсюдна ўсталяваць апакаліптычнае хрысьціянства і пасяліўшагася ў Равене, хаця яго дзейнасць, здабыўшая яму мянушка Богададзенага цара (Тэадор-рэйх) і магла б даць нагоду да такога ўхвалення яго месіянцамі.

Адзначу яшчэ, што слова Асір вельмі сугучна са словам Хазар і са словам гусар. Як назва кавалерыйскага войска гусары ўпершыню з'явіліся, відаць, у Вугоршчыне, якая размешчана блізка да нашай лакалізацыі, а хазары, згодна з паданнямі юдэйскіх пісьменнікаў VIII стагоддзя, былі ўладарамі ўсяго поўдня Расіі ад Кіева да Астрахані ўлучна[186].

Я не магу не падзяліцца тут з чытачамі наступным эпілогам да гэтай маёй лакалізацыі дванаццаці дзяцей Богазмагальніка.

Калі яна была ўжо даўно закончана, я, раптам, прачнуўшыся ноччу, згадаў, што ў біблейскай кнізе «Лічбы» змяшчаецца размеркаванне іхных станаў, г. азн. месцаў жыхарства па чатырох напрамках сьвету.

Наколькі яно супадае з маімі атаясамленнямі, якія я зрабіў збольшага грунтуючыся на сейсмалагічных меркаваннях, збольшага па лінгвістычных (назвы Аф-Рым, Дан і Левій) і збольшага на гістарычных?

Калі надышла раніца, я знайшоў гэтае месца ў кнізе «Лічбы» (гл. 2, пачатак), і што ж там пабачыў?

«На ўсходзе. – паведамляецца там – станы Юды, Ісахара і Звулона».

І на ўсходзе ж размешчаны тыя краіны з якімі я атаясаміў іх у папярэднім выкладанні, г. азн. Сірыя, Анаталійская паўвыспа (Малая Азія) і Грэцыя ад заходняга ўзбярэжжа Малой Азіі да Адрыятычнага мора. Усе яны знаходзяцца на ўсход ад галоўнага басейна Міжземнага мора і складалі тады Ўсходнюю імперыю.

«На захадзе – паведамляецца там – станы: Аф–Рыма (Рога Рыма), Манаце і Бэн-Іміны».

І, сапраўды, на захад ад галоўнага басейна Міжземнага мора знаходзяцца ўсе тры краіны, з якімі я іх ужо атаясаміў, г. азн. Італійская паўвыспа, Ламбардыя і Сіцылія з прылеглымі выспамі. Яны і складалі падмурак Заходняй імперыі IV і V стагоддзяў.

«На поўначы – паведамляецца там – станы Дана (ад прыслужніцы Бэлы), Асіра (ад прыслужніцы Сільвы) і Нафтлі (ад прыслужніцы Бэлы)».

І, сапраўды, на поўначы знаходзяцца краіны, у якіх я ўжо лакалізаваў іх: Дунайская вобласць (славяне), Германія і Галія (зараз Францыя). Яны і знаходзяцца

---

185 שמן (ШМН) ці זות שמן (ШМН ЗУТ) – аліўкавае масла, ўжываецца ў царкоўных сьвяцільнях праваслаўных.

186 Гаркаві. Паданне юдэйскіх пісьменнікаў пра хазараў.

за паўночным берагам Міжземнага мора і ўсе паходзяць ад прыслужніц, г. азн. асад.

«На поўдні – паведамляецца там – станы Раувіна, Сымона і Гада».

І на поўдні ж размешчаны Ягіпет і Аравія, у якія я змясьціў грунтуючыся на іншых меркаваннях дзвух першых із гэтых сыноў Богазмагальніка. Але тут жа выявілася і тэндэнцыйная змена, трохі парушыўшая правільнасць першапатковага размеркавання: замест Лівіі – краіны Лявіта, за нешта выключанага із гэтага чатырохкутніка, прыцягнута ў яго за вушы на поўдзень Маўрытанская Гішпанія, краіна Гада ад прыслужніцы Сільвы...

Усё, за выключэннем гэтай падмены Гада замест Лявіта (Гішпаніі замест Лівіі), выявілася на тых месцах, якія я і вызначыў для дзецей Богазмагальніка грунтуючыся на іншых меркаваннях, ды і замена Гішпаніі замест Лівіі зразумелая згодна з гістарычнымі меркаваннях: маўры ж із Афрыкі і завалодалі з поўдня Гішпаніяй і такім чынам лявіт із Лівіі перасяліўся туды і ператварыўся ў французскіх каралёў Луі (перайменаваных згодна з рускай асіміляцыяй са словам людзі, у Людовікаў), і ў рымскіх папаў Ільвоў.

А яго лакалізацыя ў Лівіі, на поўдні, так і засталася перажыткам мінулага, нягледзячы на ператварэнне лявіта ў шчасьлівага (у Гада па-жыдоўску).

Акрамя таго, робіцца зразумелым і тое, чаму народы Аўстрыі, Няметчыны, Францыі і Гішпаніі выведзены не ад законных жонак Богазмагальніка, а ад іхных прыслужніц: яны і лічыліся доўга непаўнавартымі.

Такімі з'яўляюцца сапраўдныя ўзаемадачыненні паміж 12 народамі Богазмагальніка, паходзячымі згодна з Бібліяй ад яго дванаццаці сыноў. Гэта былі вялікія народы, засяляўшыя ўвесь міжземнаморскі культурны басейн, а не дванаццаць пігмейчыкаў, якія сядзелі, праз недахоп месца, на каленях адзін у аднаго на малюсенькім і дзікім лапіку зямлі вакол турэцкага мястэчка Эль-Кудс, па справядлівасьці атрымаўшага назву Горад Сьвятога Заспакаення ад нашых тэолагаў, бо ў ім знайшлі заспакаенне яны самі.

І ў такой жа пасьлядоўнасьці, як на геаграфічнай мапе, і пад тымі ж найменнямі гэтыя народы пералічаны ў кнізе «Лічбы» яшчэ два разы. Адзін раз згодна з парадкам іхнага шэсьця па пустыні (Лічбы 10. 26) і другі раз пры ўсталяванні парадку ахвяраванняў (гл. слупкі II, III і IV на прыкладзенай табліцы XV). Гэта азначае, што гэтае ўпарадкаванне не выпадковае.

– Але з якой жа нагоды – запытае мяне чытач – старажытныя аўтары давалі дванаццаці знакам Задыяка ці дванаццаці народам Лаціна-Эліна-Сірыйска-Ягіпецкай імперыі не іхныя звычайныя найменні, а адмыслова прыдуманыя мянушкі?

Таму што гэта было ў поўнай згодзе з імкненнем старажытных і сярэднявечных навукоўцаў усе веды абмяжаваць сваім цесным колам, зрабіўшы іх недаступнымі для «неазнаёмленых». З гэтай мэтай яны прыдумлялі разнастайныя хітрыкі: металы называлі імёнамі планет, салетру – каралём і г. д.

Тое ж самае мы назіраем і ў разглядаемай зараз намі біблейскай тэрміналогіі. Гэта ўсё акультныя назвы акультнай тэалагічнай навукі, і вынік яе атрымаўся нямоглым для саміх акультыстаў. Імкнучыся збіць з панталыку непасвечаных умоўнымі найменнямі краін і народаў, яны з цягам пакаленняў збілі з панталыку і саміх сябе да такой ступені, што із Італіі і Рыма – залезлі, нарэшце, у Палестыну, у якой і загрузлі канчаткова.

Вядома, я не чакаю, што кожны тэолаг ці ветэран старажытнай гісторыі, прачытаўшы гэтае месца ці нават усю маю кнігу, зараз жа пагадзіцца са мной. Не! Старая гвардыя не здаецца. Арганічна зросшаяся з даўгачасовай верай у праўдзівасць сваёй справы, яна памрэ на сваіх пасадах, хаця б для безстаронняга назіральніка і стала б ўжо выразна відавочным, што яе пазіцыі немагчыма абараніць.

Але акрамя ветэранаў старажытнай гісторыі існуюць яшчэ дасведчаныя спецыялісты і па сярэднявечнай. Няўжо і яны не бачаць, які вялізны і новы матэрыял дае ім маё перанясенне біблейскіх першакрыніц у сярэднія стагоддзі? А за ім жа ў наступных тамах гэтай маёй працы будзе выкладзена такое ж сістэматычнае перасяленне ў сярэднія стагоддзі і класічных, і ягіпецкіх, і месапатамскіх помнікаў старажытнасьці на падставе астранамічных вылічэнняў іхнага часу і пераканаўчых геафізічных, культурна-гістарычных і нават этна-псіхалагічных меркаванняў.

У вышэйпрыведзеным выкладанні я даў лакалізацыю нашчадкаў Богазмагальніка, лічачы іх за дванаццаць сапраўдных народнасьцей, якія ўваходзілі згодна з паданнямі ў склад Лаціна-Эліна-Сірыйска-Ягіпецкай імперыі IV стагоддзя нашай эры, і ахарактэрызаваных так, як тут апісана, ужо пасьля Тэадорыха Вялікага, г. азн. не раней VI стагоддзя нашай эры.

Але акрамя такога боку гледжання магчымы яшчэ і іншы – астральны, бо ў Бібліі ўсюды заўважаецца тэндэнцыя пераносіць зямное на нябёсы.

Разбяром жа справу і з гэтага боку гледжання, каб шмат якія месцы Бібліі, дзе замест дзяцей Богазмагальніка падстаўлены іхныя нябесныя адзнакі, не здаліся нам не маючымі сэнсу.

## III.

## Спробы астралізацыі дванаццаці монатэістычных народаў пачатку сярэдніх стагоддзяў.

У прадказанні Здужае бог (Іезекііл гл. 48), аўтар абяцае нам зрабіць такое новае размеркаванне зямель для 12 каленяў Богазмагальніка (плюс 13-е калена Лявітаў), размясьціўшы іх «на шляхі «Спавівальнай стужкі» (Задыякальнага пояса[187] ідучага да «Курдзюка» (ўрны Вадаліва[188] у горадзе «Крыніцы»[189] каля заканчэння «Пераемнага Кіравання» (гадзіннікавага кола[190], пачынаючы ад «Курдзюка».

Я паказваю ўсё гэта для зразумеласьці паралельна з парадкам сучасных задыякальных сузор'яў і паўтараючы ранейшыя пераклады іхных найменняў (48.1-28).

* * *

Мяжа паўночнай часткі: Урна Вадаліва – Курдзюк.

Першымі ідуць:

Рыбы – Дан (суддзя, бо тут раўнавага дня і ночы).

За імі:

Авен – Ашур (правадыр, таму што вядзе знакі Задыяка),

Цяля – Нафтлі (змагар, таму што напае).

---

[187] דרך־התלון (ДРК ХТ'ЛУН) — шлях Спавівальнай стужкі

[188] חמת (ХТМ) – Курдзюк.

[189] חצר־עינן (ХЦР-ЭЙНН) – прыгарад крыніцы.

[190] דמ־שק (ДМШК) = דר־משק (ДР-МШК) – кола кіравання. У кнізе Параліпаменон гэтае найменне заўсёды пішацца דרמשק (ДРМШК).

Двайняты { Манашэ (ссунуты з месца),
Аф-Рым (рог Рыма, таму што вышэй усіх),
Рак – Раувін (празарлівец сына, таму што ў ім «Ясьлі Хрыста»),
Леў – Юдэй (вартавы богаслоўя),
Панна – Прыстанак сьвятароў і нейкага Праўдзівага (Цадэка), замяніўшага адпаўшых «Лявітаў» (Святая пляцоўка, 48,8-22.)
Шалі – Бэн-Імін (сын праўдзівасьці, раўнавагі),
Змеятрымальнік – Шымон (пачуты),
Стралец – Ішакар (ратуючая ўзнагарода),
Казярог – Звулон (прыстанак, зімовае сонцастаянне),
Вадаліў – Гад (шчасьце, вясна).

Мяжа паўднёвай часткі: Прысьвечаны (КДШ) уздоўж струменя (Эрыдана) да Вялікага мора.

* * *

Калі мы будзем тут прымерваць да Задыяка проста: лівійца, ягіпцяніна, грэка, дунайца і г. д., то, вядома, не атрымаем нічога асэнсаванага, таму што іхныя першапатковыя найменні, застаўшыяся неперакладзенымі на нашу мову, ператварыліся для нас у так званыя ўласныя імёны, г. азн. у нешта накшталт нумару на сьпіне без якога б то ні было асэнсавання. Але калі я ўзяў акультны сэнс гэтых назваў, якім ён з'яўляецца на іхнай роднай мове, то, як вы бачыце, атрымаў шэраг супадзенняў: Авен – правадыр (Задыяка), Цяля – змагар (таму што кідаецца на некага), Рак – Пустынік, рабін і г. д.

Мы тут выразна назіраем таемную задумку старажытнага астролага: усталяваць уяўляемую ім сувязь паміж месіянскімі народамі і задыякальнымі сузор'ямі.

У гэтай жа частцы кнігі «Іезекііл», аўтар прадказвае (48, 31), што ў сярэдзіне гэтага кола дзяцей Богазмагальніка будзе наладжана яшчэ сталіца (Е-ЕЙР), па 45 соценны мерак (г. азн. двуградусных велічынь) на кожным із чатырох бакоў, і найменне ёй будзе: «Тут Грамабой». У яе будзе 12 брамаў па тры на кожным баку ў такім парадку:

* * *

На поўначы брамы: Раувіна, Юдэя і Лявіта (Цяля, Двайняты, Рак).

На захадзе брамы: Ёсіфа, Веніяміна, Дана (Леў, Панна, Шалі).

На поўдні брамы: Сымона, Ісахара, Завулона (Скарпіён, Стралец, Казярог).

На захадзе брамы: Гада, Асіра, Нафтлі (Вадаліў, Рыбы, Авен}.

І найменне ўсяму гораду: «Тут Грамабой».

Гэтае размяшчэнне «Сталіцы Грамабоя» у выглядзе чатырохкутніка, як я ўжо казаў, вельмі нагадвае асноўныя правілы гараскапічных малюнкаў (мал. 123) сярэднявечча, каб можна было ўсумніцца ў яго астралагічным сэнсе.

ТАБЛІЦА XV, А.

1-е супастаўленне дзвюх астральных лакалізацый месіянскіх народаў

| Упарадкаванне брамаў сталіцы «Тут Грамабой», у Іезекііла (48, 30-34): | | | Упарадкаванне сузор'яў | Упарадкаванне новага размяркавання каленаў у Іезекііла (48, 1-23): | |
|---|---|---|---|---|---|
| Поўнач | Раувін | (Правідзец сына). | Цяля | Нафтлі | (Змагальнік). |
| | Юдэй | (Богаслаўны). | Двайняты | Аф-Рым | (Вышыня Рыма). |
| | | | | Манашэ | (Ссунуты). |
| | Лявіт | (Дыякан). | Рак | Раувін | (Правідзец сына). |
| Усход | Ёсіф | (Кратэр Грамабоя). | Леў | Юдэй | (Богаславец). |

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| | Бен-Імін | (Сын праўдзівасьці). | Панна | Лявіт | (Дыякан). |
| | Дан | (Суддзя). | Шалі | Бен-Імін | (Сын праўдзівасьці). |
| Поўдзень | Шымон | (Пачуты). | Змеятрымальнік на Скарпіёне | Шымон | (Пачуты). |
| | *Ішакар* | (Ратуючая ўзнагарода). | Стралок | *Ішакар* | (Ратуючая ўзнагарода). |
| | *Звулон* | (Мясьціна). | Казярог | *Звулон* | (Мясьціна). |
| Захад | *Гад* | (Шчасьце). | Вадаліў | *Гад* | (Шчасьце). |
| | Ашур | (Правадыр). | Рыбы *(раўнадзенства)* | Дан | (Судзя). |
| | Нафтлі | (Змагальнік). | Авен | Ашур | (Правадыр). |

Параўноўваючы гэтыя нябесныя брамы з колавым размяшчэннм дзяцей Богазмагальніка ў таго ж Іезекііла, мы бачым, што ўжо і тут былі зроблены рэдакцыйныя выпраўленні, каб прывесьці гэтыя імёны ў лепшыя, на думку рэдактара, суадносіны са знакамі Задыяка. Для выразнасьці я параўноўваю абодва гэтыя пералікі на асобнай табліцы (табл. XIV).

Пакінуты на тых жа месцах толькі Сымон, Ісахар, Звулон і Гад. Раувін – «Празарлівец сына», пераведзены ў сузор'е Рака на месца яго ранейшага насельніка Лявіта, бо там, у «Яслях», нарадзіўся сын боскі Хрыстос, а выгнаны Лявіт перамясьціўся ў Панну, выціснуўшы адтуль у Шалі ранейшага яе насельніка Бэн-Іміна. У сузор'е Двайнят на месца Богаслаўнага Юдэя перабраліся два сына Ёсіфа – Аф-Рым і Манашэ, а сам Ёсіф цалкам выдаліўся із сузор'яў, замяніўшыся выбыўшым із Двайнят Юдэем.

ТАБЛІЦА XV, Б.

2-е супастаўленне дзвюх астральных лакалізацый месіянскіх народаў.

| *Размяшчэнне брамаў у горадзе «Тут Грамабой».* | | Сузор’і | *Размяшчэнне станаўв кален Богазмагальніка.* | |
|---|---|---|---|---|
| | *Брамы:* | | *Станы:* | |
| Поўнач | Раувін | Цяля | Раувіна | Поўнач |
| | Юдэй | Двайняты | Шмеуна | |
| | Лявіт | Рак | Гада | |
| Усход | Ёсіф | Леў | АФ-Рыма | Усход |
| | Бен-Імін | Панна | Лявіта | |
| | Дан | Шалі | Бен-Іміна | |
| Поўдзень | Шымон | Змеятрымальнік на Скарпіёне | Дана | Поўдзень |
| | Ішакар | Стралок | Ашура | |
| | Звулон | Казярог | Нафтлі | |
| Захад | Гад | Вадаліў | Юдэя | Захад |
| | Ашур | Рыбы (раўнадзенства) | Ішакара | |
| | Нафтлі | Авен | Звулона | |

Якое із гэтых двух месцазнаходжанняў лепш згодна з акультным сэнсам? У геаграфічным дачыненні абодва нікуды не прыдатныя, а ў астральным лепш другое. Хаця Суддзя (Дан) і патрапіў у ім астральна ў сузор'е Рыб, але не будзем забывацца, што тут знаходзіцца веснавая раўнавага дня і ночы, і яно служыць пярэдаднем прыходу Сонца ў Авена, падобна жахліваму суду апошніх дзён сьвету.

Дакладна таксама, параўноўваючы (табл. XV) гэтае ж упарадкаванне брамаў у горадзе «Тут Грамабой» з ужо прыведзеным вышэй размеркаваннем багазмагальніцкіх краін вакол Міжземнага мора (у кнізе Лічбы) мы бачым – што поўдзень тут павёрнуты на поўнач, усход на захад і амаль усе акультныя найменні, акрамя Раувіна, згодна з якім мы супаставілі абодва пералікі, размешчаны інакш. Але само сабой зразумела, што ніякіх тапаграфічных высноваў із гэтых двух

пералікаў зрабіць немагчыма, бо на працягу сутак кожнае сузор'е Задыяка бывае і на поўначы і на поўдні, і на захадзе і на ўсходзе.

З першага позірку тут можа здацца, што злічэнне Цяляці, Двайнят, Рака, Ільва і г. д. з поўдня на захад і г. д. (як у апошнім слупку) супярэчыць натуральнай пасьлядоўнасьці гэтых сузор'яў на небе. Але калі вы возьмеце мапу неба і замест таго, каб уяўляць яе над сваёй галавой, будзеце разглядаць яе ў сябе на стале (мал.124), то пабачыце, што пры такім яе размяшчэнні захад неба ў вас, сапраўды, накладзецца на зямны ўсход і ўпарадкаванне сапраўды выявіцца такім, якое і дадзена нам у Бібліі. Гэта азначае, аўтар гэтых пералікаў рабіў іх не гледзячы на рэальнае неба, а на яго мапу, зрабіўшы тую ж памылку, якую ўвесь час робяць дылетанты пры сваім арыянтаванні нябесных прадметаў. Пакажыце, напрыклад, ноччу Месяц не астраному і запытайце: дзе ў яго ўсход? Ён абавязкова пакажа на яго левы бок, г. азн. у тым жа накірунку, як і зямны ўсход. А на самай справе там яго захад. Чаму так? Ды таму ж, чаму пакуль вы стаіце за спінай вашага знаёмага, то яго правая рука будзе перад вашай правай, а левая перад вашай левай, а як толькі ён павернецца да вас тварам, падобна месяцу, то яго правая рука выявіцца насупраць вашай левай, а левая насупраць вашай правай. Мы малюем на мапах зямной паверхні захад па накірунку нашай левай рукі, а ўсход па накірунку правай, таму што разглядаем зямлю зверху ўніз (як бы лежачы на жываце ўніз тварам, галавой да поўначы і адкінуўшы левую руку да захаду, а правую да ўсходу. А калі мы пажадаем паглядзець на неба, нам патрэбна перавярнуцца на спіну, перакінуўшы правую руку на месца левай і левую на месца правай. Із гэтага зразумела, чаму і заходні бок нябесных мапаў мы ставім не з левага, а з правага боку, а ўсходні не з правага, а з левага. Выходзіць нешта накшталт люстэркавага адвображвання.




Мал. 123.
*Узор гараскапічнага распланавання задыякальных сузор'яў згодна з чатырма бакамі сьвету.*




Мал.124.
*Размяшчэнне сузор'яў згодна з чатырма бакамі сьвету калі вы глядзіце на зорную мапу зверху ўніз.*

Старажытным розумам было цяжка пераварыць гэта, а таму яны і зорнае неба малявалі праекцыйна, на нябесных глобусах, а калі замалёўвалі асобныя часткі неба, то гледзячы на свае малюнкі не знізу ўгару, як на неба, а зверху ўніз, пры чым правы бок малюнка няўхільна паварочваўся для іх на месца левага, блыталі на іх усход з захадам, а захад з усходам[191], як у маім прыкладзе дылетант блытае гэтыя бакі на Месяцы.

* * *

Пры пералічэнні дзяцей Богазмагальніка згодна з часам іхнага народжэння ў кнізе Быццё (гл. 30) іхная пасьлядоўнасць зноў дадзена інакш (табл. XIII, слупок IV) і, акрамя таго, там у лік дзяцей уведзена, а потым і выкінута, як зганьбаваная, яшчэ дачка Дына (што азначае – Судовая), найбольш адпавядаючая сузор'ю Андрамеды, адціснутай пазней да поўначы пашырыўшымся сузор'ем Рыб.

Мы бачым із гэтага, што кожны апрацоўшчык-акультыст прызначаў кожнаму із задыякальных сузор'яў таго ці іншага сына Богазмагальніка грунтуючыся на сваім асабістым гусьце, не саромеючыся прэцэдэнтамі. Можна думаць, што сузор'і Задыяка ўвесь час прымушалі тагачасных астролагаў шукаць у атачаючай рэчаіснасьці розныя з'явы, якія маглі б быць пастаўлены з імі ў сувязь.

Услед за народамі, вядома, былі перанесены на неба і іхныя тагачасныя нацыянальныя рэлігіі, захаваўшыя найменні іхных багоў ці заснавальнікаў, і кожная рэлігія атаясамлялася з тым задыякальным сузор'ем, якое грунтуючыся на ўласных сімпатыях, ці антыпатыям аўтара найбольш адпавядала яму згодна са сваімі асаблівасьцямі, а застаўшыяся вольнымі сузор'і прыводзіліся ўжо адваротным шляхам у сувязь з тымі ці іншымі, нават і з выпадковымі з'явамі жыцця, і, вядома, іхныя тлумачэнні былі разнастайнымі і лакалізацыі не маючымі сэнсу. Дакладна ж патрапіць у патрэбнае месца можна толькі страляючы па адным накірунку, а не патрапіць можна па шматлікіх. Так атрымалася і тут.

Усё гэта робіць немагчымым аднастайнае разуменне дванаццаці сыноў богазмагальніка ці, лепш сказаць, іхных найменняў пры чытанні Бібліі. У адных месцах аўтар відавочна мае на ўвазе тое ці іншае сузор'е, а ў іншых ён спускаецца з неба і паведамляе пра адпавядаючы яму (згодна з яго думкай) зямны прадмет, ды і сам зямны прадмет у Бібліі падобны згодна са сваімі якасьцямі на міфічнага хамелеона, які перамяняе свой выгляд перад вачамі кожнага новага аўтара, уключанага у яе, бо гэтая кніга мазаічная, у склад якой былі ўключаны сотні цалкам незалежных паданняў, і акрамя таго яна не раз тэндэнцыйна рэдагавалася тэолагамі ва ўсім сваім аб'ёме.

Я ўжо прыводзіў некаторыя ўрыўкі із «дабраславенняў» Якава і Майсея, лічачы, што яны маюць дачыненне да зямных народаў. Але так як грунтуючыся на значэнні яго асабістага імя Якаў, г. азн. Кульгавы[192], ён нагадвае самага вялікага із

---

[191] Адваротнае размяшчэнне сузор'яў на старажытных мапах неба можна прыпісаць нават і таму, што першыя гравёры клалі на камень дадзеныя ім малюнкі тварам уверх, а не да каменя, з нагоды чаго на адбітках ад каменя яны і атрымліваліся ў адваротным выглядзе. Прыклады такіх непаразуменняў з малюнкамі нярэдкія ў старажытных выданнях. Нават і памылкі друку часам замацоўваліся з цягам часу. Так, напрыклад, у батаніцы расьліна «сэрца», кветка якой складаецца із дзвух складзеных у выглядзе сэрца ружовых фортак, была названа з гэтай нагоды dielytra spectabilis (двустворка прыгожая), а наборшчык, палічыўшы е за с, набраў diclytra spectabilis і ў такім выглядзе гэтую назву пачалі друкаваць усе наступныя батанікі.

[192] Імя Якава (י־עקב) азначае: Грамабоева запінка, а наступная легенда пра тое, што Грамабой пашкодзіў яму нагу ў змаганні, магла быць заснавана на сапраўдным траўмаванні каменем Вязувія занадта адважнага назіральніка яго вывяржэнняў, з нагоды чаго ён і застаўся кульгавым на ўсё жыццё.

астраномаў старажытнасьці, таксама Кульгавага (Клаўдыя на-лаціне) Пталямея, то я яшчэ раз параўнаю гэтае яго дабраславенне з аналагічным дабраславеннем Майсея (Другазаконне, гл. 33), каб паглядзець, наколькі абодва яны прыдатны ў астралагічным сэнсе (табл. XIII, слупок I).

**I.** – «Раувін (г. азн. астральна Цяля ці Празарлівец сына – Авен, а тэрытарыяльна Ягіпет) – паведамляе «Кульгавы» ў 49 главе Быцця – мой першынец і пачатак маёй магутнасьці (г. азн. з яго пачынаўся як Задыяк, так і зямная імперыя). Але яго вярхоўная веліч і вярхоўная магутнасць працяклі, як вада (пачатак Задыяка і вясны, дзякуючы прэцэсіі, перайшоў праз Авена ў Рыбы, а першынство Ягіпта перайшло да Рыма, а потым да готаў). Ён ужо не будзе першым за тое, што лёг на ложак свайго бацькі і апаганіў яго» (Быццё 49, 4).

І калі вы зірнеце на астралагічную мапу то пабачыце, што зад Цяляці сапраўды ляжыць на ложку Авена, сімвала біблейскага месіі.

А Майсей яшчэ не ведае гэтага і таму ў сваім дабраславенні выказваецца:

«Не памрэ Раувін і будуць шматлікімі яго дзеці» (Другаз. 33,6).

Цяля, знак Раувіна, уяўляе першую монатэістычную рэлігію, культ Грамабоя, бацькі ўсіх іншых багоў, пад выглядам равучага быка. Гэта ягіпецкі Апіс, сімвалізуючы чорную навальнічную хмару, якая з ровам імчыцца наперад, апусьціўшы пярэдні край, як нападаючы бык сваю галаву. Із папярэдняга мы ведаем, што пад найменнем рэлігіі Раувіна[193], г. азн. рабіна, меўся на ўвазе спачатку ягіпецкі культ нябеснага быка, але потым ён ператварыўся ў месіянства, а разам з тым было зроблена перамяшчэнне Раувіна і па Задыяку. У «Новым размеркаванні» Іезекііла на яго месца пастаўлены ў сузор'е Цяляці – Змагар (Нафтлі, табл. XIII стаўбец XII), г. азн. гал-француз, а Рабін, які адмовіўся ад ушанавання быка, перанесены ў Яслі Хрыста ў сузор'і пустынніка Рака.

**II** і **III**. – «Шмеон і Лявіт (Двайняты і Рак, а тэрытарыяльна аравіец і лівіец) браты адзін аднаму. – сведчыць Богазмагальнік – Іхныя задумы – прылады жорсткасьці[194]. Ды не далучыцца да іхных судоў[195] мая душа і ды не далучыцца мая слава да іхных сабораў. Яны забілі ў сваім гневе Існага[196] і грунтуючыся на сваёй прымсе падразалі хрыбет Цяляці, (сузор'е Цяляці, сапраўды, засталося без задняй часткі, пасьля таго як лягло на ложак свайго бацькі, а на месца адрэзанага Двайнятамі цяляцінага зада сеў Авен). Пракляты гнеў іх, таму што моцны, праклятая іхная лютасць, таму што жорсткая. Падзялю іх у якавіцкай і размяркую ў богазмагальніцкай зямлі».

Астральна гэта, вядома, Двайняты і Рак сярэднявечных астролагаў – самыя высокія сузор'і паўночнага неба. Па-жыдоўску тут напісана ШМЕУН У ЛУІ АХІМ – Сымон і Лявіт браты. Але вельмі магчыма, што тут зроблена «папраўка», і

---

[193] ראו־בן (РАУ-БН) – Празарлівец сына. Згодна з вымаўленнем сугучна з רב־וני (РБ-УНІ) – наш настаўнік. Скарачэнне ўсяго гэтага ў сучасным напісанні рабіна да РБ, належыць да падобных жа скарачэнняў, як і скарачэнне доктара ў д-р, як і французскага Monsieour ці ангельскага Mister у M-r, ці ў славянскім скарачэнні слова ГАСПОДЗЬ у ГДЬ. Толькі дзякуючы значнай старажытнасьці, сувязь Раувіна з рабінам паціху згубілася.

[194] Тут стаіць ШМЭУН У ЛУІ АХІМ, г. азн. Пачуты і Прычценны браты, а згодна з астральным сэнсам Двайняты і Рак). Патрэбна было б пераставіць словы так АХІМ ШМЭУН У ЛУІ, г. азн. Браты Слухання і Прычцення.

[195] Тут стаіць סד־ם (СД-М) – г. азн. іхныя катаванні ад סד (СД) – калодкі на нагі вязня. Але можна лічыць, гэта імя і за множны лік ад סיד (СУД), г. азн. нарада (Быццё 49, 6) у звычайным для біблейскай мовы скарочаным напісанні. Тады назва: Садом будзе азначаць – Дарадчае месца. Даўнішняя міжнароднасць гэтага слова сведчыць на карысць майго тлумачэння. Словы: суд і паседжанне паходзяць ад кораня (СД), дакладна так жа, як санскрыцкае sad, лацінскае, італьянскае sedere, рускае і славянскае сядзець, ангельскае sit, нямецкае sitzen і г. д. Адгалінаванні таго ж кораня.

[196] איש (АЙШ) замест אישי (АІШІ) – Існы, па-грэцку – Зеўс, Грамабой.

спачатку было проста АХІМ ШМЕУН У ЛУІ, г. азн. Браты Слухання і Лявіт. Тады стала б зразумелай і пагроза падзелу ўсходняй і заходняй царквы ў богазмагальніцкай зямлі на два розныя веравызнанні. І гэта тым больш дазволена, што ў палове пералікаў (табл. XIII) Лявіта зусім няма: ён выкінуты вон із кола дванаццаці і замешчаны Гадам (шчасьлівым). У Апакаліпсісе ён размешчаны ў Змеятрымальніку, а ў Рака змешчаны Правадыр (АШУР).

Майсей жа ў сваім дабраславенні, наадварот, цалкам прапускае Сымона (Шмеона, Шмона), як быццам бы забыўся пра яго існаванне (табл. XIII, слупок II), а пра Лявіта выказваецца:

«Адкрыццё і праўда твайму Святому, які быў спакушаны ў выпрабаванні (МАС), і з якім ты спрачаўся каля Крыніцы Звадаў, бо ён кажа пра бацьку і маці: «Я іх не бачыў», і не ведае ні братоў, ні дзяцей. Блаславі, Грамабой, яго магутнасць, спрыяй яго справам, і ўразь сьцёгны паўстаўшыя на яго і ненавідзячых яго» (Другаз. 33).

Такім чынам Якаў пракляў Лявіта, а Майсей дабраславіў звыш меры... Каму ж верыць? Акрамя таго, Майсей размясьціў яго па сугучнасьці лацінскіх (!) імёнаў у Ільва замест Юды, а Юду ў Рака замест Лявіта (табл. XIII, кол. II). Відавочна, што тут была вялікая блытаніна, тлумачымая эвалюцыяй тагачасных рэлігій і іхнымі звадамі.

**IV**. – «Багаслаўнага (астральна: сузор'е Ільва, а тэрытарыяльна: жыхара Юдэі) – працягвае Богазмагальнік – уздымуць яго браты і схіляцца перад ім. Ён падняўся як Леў са здабычай і схіліўся (зайшоў пад небасхіл), як Леў і Ільвяня, і хто яго падніме? (біблейскае найменне Ільва – АРЫЕ – нагадвае тут першасьвятара Арыя і папаў Ільвоў). Не адыдзе скіпетр ад яго і кій ад яго ног, пакуль не прыйдзе Заспакаіцель (ШІЛЕ). Яму скарацца народы. Ён прывязвае сваё Асляня (такую назву і да гэтага часу мае адна зорачка ў сузор'і Ясляў ці Рака), сына сваёй Аслiхі (іншая зорачка ў сузор'і Рака), і мые сваё адзенне ў крыві вінаградных гронак (некалькіх зорачак у сузор'і Панны)».

А Майсей у сваім дабраславенні кажа пра яго:

«Пачуй, Грамабой, голас Багаслоўнага, і прывядзі яго да яго народа. Ён будзе бараніць цябе сваімі рукамі і ты будзеш памагатым яму» (Другаз. 33, 7).

Гэтага богаслоўца іншыя аўтары змяшчалі акрамя Ільва: тры разы ў ясьлі Рака, тры разы ў Вадаліва, раз у Авена, раз у Двайняты. На зямлі ж гэта быў сімвал арыянства, якое ператварыўшыся ў адзінабожнае месіянства (юдэйства), збегла ў Сірыю і дало ёй імя Юдэя г. азн. краіна богаслоўя.

**V**. – «Звулон (гурт адзінаверцаў, а тэрытарыяльна: грэк) – кажа Богазмагальнік, змяшчаючы яго ў Панну – будзе жыць на марскім беразе і каля прыстані караблёў да горада Рыбнага лову (ЦІДНЕ)».

Мясьціна бога – сузор'е Панны сапраўды размяшчаецца над Марской Змяёй, хаця да карабля Арго ад яе даволі далёка.

А Майсей, змяшчаючы Звулона ў Змеятрымальніку, г. азн. у сузор'і, самым блізкім да мора, калі глядзіш із Італіі на поўдзень – кажа пра яго, як мы ўжо згадвалі: «Весяліся пры тваім узыходзе». А іншыя прымірыцелі да Задыяка аточанай марамі Грэцыі імкнуліся і на небе перавесьці яе сузор'е як мага бліжэй да вады, і вось, на нашай сінаптычнай табліцы мы бачым гэты «Марскі бераг» тройчы ў Казярогу, раз у Вадаліве – ахрышчальніку зорак – і тры разы ў Авене, г. азн. у так званай воднай частцы Задыяка.

Імя Звулон паходзіць ад слова ЗБУЛ – кола, на-лаціне circus (цырк), адкуль паходзіць і рускае слова «царква» і нямецкая кірха ў тым жа значэнні. Яго тлумачаць як згуртаванне аднаверцаў, напэўна, таму, што старажытныя храмы былі канічнымі намётамі ці круглымі шатрамі, і перад імі (на захад) рабіліся ўзвышэнні (біблейскае БМЕ), якія былі папярэднікамі нашых званніц.

Вось чаму я і перакладаю гэтае слова «згуртаване аднаверцаў (царква)».

**VI.** – «Ішакар (Ратуючая Ўзнагарода) – кажа Богазмагальнік, змяшчаючы малаазійскія краіны астральна ў Шалі – гэта асёл, які ляжыць паміж дзвюма загародкамі. А Майсей, адносячы яго ў сузор'е Стральца, пры Звулоне ў Змеятрымальніку, выказваецца: «Ты і Звулон склікаеце народы на гару, закалоць ахвяры праўды». (Другаз. 33, 19).

Першая характарыстыка, як мы бачылі ўжо раней, больш падобна на апісанне малаазійскага турка, а другая нагадвае сузор'е Стральца і Змеятрымальніка, якія, сапраўды, заклікаюць планеты падняцца вышэй па Задыяку.

У Шалях ён змешчаны адзін раз. Некаторыя аўтары адносяць гэтую «ўзнагароду» як і «Майсей» у Стральца (табл. XIII). Адзін раз ён патрапіў у Казярога, раз у Панну[197] і тры разы ў Рыбы, відавочна, большай часткай на месцы, застаўшыяся вольнымі ад размяўчэння больш тыповых дзяцей Богазмагальніка.

**VII.** – «Дан-Суддзя – кажа Богазмагальнік, змяшчаючы дунайскіх славянаў у сузор'е Змеятрымальніка – будзе судзіць свой народ. Ён будзе змеям на дарозе, аспідам на шляху, жалячым пяту каня, так што вершнік зваліцца ніц. Захавай мяне, божа!» А Майсей, змяшчаючы яго ў Вадаліва, кажа: «Дан – малады леў, які выскоквае із Васана». У першым дабраславенні ўсе прыкметы Змеятрымальніка на Скарпіёне, і ў ім ён змешчаны яшчэ тры разы. Два разы ён дапасаваны да Казярога і раз да Панны, (табл. XIII), дзе знаходзіцца і зараз восеньскае раўнадзенства (раўнавага дня і ночы лічылася прыкметай нябеснага правасуддзя).

**VIII.** – «Гад-Асалода – кажа Богазмагальнік, змяшчаючы гішпанскага маўра ў Стральца – будзе ўціскаемы натоўпам ворагаў, але адцісне іх па пятках». А Майсей, змяшчаючы яго ў Казярога, выказваецца пра яго: «Гад спачывае як леў і абраў сабе «цаліну», прызначаную яму ў долю ад заканадаўцы. Ён прыйшоў з кіраўнікамі народа выканаць праўду Грамабоя і яго суд над богазмагальнікамі» (Другаз. 33.20).

Усё гэта вельмі падыходзіць да Стральца і да Казярога, з якога пачынаецца ўзыход Сонца ў нашых краях. Але ён жа чатыры разы змяшчаецца і ў ясьлях Рака.

**IX.** – «Для Ашура-Правадыра – выказваецца, як мы ўжо бачылі раней, Богазмагальнік, адносячы гота-германца ў сузор'е Казярога. – тлусты хлеб. «Ён будзе дастаўляць царскія ласункі». Калі мы будзем уяўляць сабе Казярога сімвалам граху, як рабілі сярэднявечныя хрысьціяне, то гэтая характарыстыка не здасца нам астральнай. Але старажытныя лічылі яго толькі за самую моцную з усіх жывёл, ад наймення якой РАМ і РЫМ бярэ пачатак назва Рымскай імперыі і ён быў таксама «правадыр», бо з яго выхадам із-за Сонца ў лютым пачынаўся новы год.

А Майсей, адносячы Ашура-Правадыра ў Авена, дае яму, як мы таксама ўжо бачылі, і характарыстыку Авена:

– «Ён будзе дабраславёны паміж сваімі братамі» – кажа ён.

---

[197] Тут חמר (ГМР) пеністае віно, верагодна замест כרם חמר (КРМ ГМР) (г. азн. вінаграднік), што адзіна дапасуе да сузор'я Вінаградніка, зараз Панна. Ад ранейшай назвы тут засталася зорачка Вінаградніца (Vindemiatrix). Тэолагі перакладаюць гэтае слова асёл, але асёл у мужчынскім родзе па-жыдоўску חמור (ХМУР), а гэта больш падобна на скарачэнне слова асліха: חמרה (ХМРЕ).

Пад Пегаса ў Рыбы Правадыр змяшчаецца два разы, у Яслі – раз, у Стральца чатыры разы (табл. XIII).

**X.** – «Нафтлі-Змагар – сказаў Богазмагальнік, адносячы гала-француза ў сузор'е Вадаліва[198], – «легкадумная серна, выказваючая ўхвалы». А Майсей, змяшчаючы яго ў Рыбы, паведамляе нам, што ён «поўны дабраславення Грамабоя і хай валодае морам і поўднем».

Гэта падыходзіць і да Вадаліва, і да Рыбаў – сузор'яў вясны, спяваючай прыемныя песьні. Але гэты ж Змагар іншымі аўтарамі тры разы дапасаваны да Казярога, тры разы да Авена, раз да Шаляў, раз да Ільва і раз да Цяляці (табл. XIII), што больш падыходзіць да яго найменя «змагар», чым да характару дабраславенняў.

**XI.** – Ёсіф (г. азн. «Дадатковы» ці Кратар Грамабоя) – адпавядаючы, згодна з упарадкаваннем дабраславення Богазмагальніка, Пегасу – пладаносячая галіна над крыніцай (Рыб). «Яго крыўдзілі – кажа ён – у яго (Пягаса) стралялі ўладальнікі стрэлаў (персіяды), але цьвёрдым заставаўся яго ўласны лук і рухомымі мязы яго рук, рук богазмагальніцкага волата. (Тут – пастыр, цьвярдыня богазмагальніка – вяснавое раўнадзенства). Ды будуць на галаве абранейшага паміж братамі добраславенні твайго бацькі пераўзыходзячыя дабраславенні яго продкаў да межаў вечных узгоркаў. Ды добраславіць цябе бог, твой бацька, дабраславеннямі неба наверсе, дабраславеннямі бездані знізу, дабраславеннямі сасцоў і чэрава, і ды дапаможа табе ўсемагутны».

Падобна ж выказваецца пра яго і Майсей, змяшчаючы яго ўжо ў Шалі.

– «Яго краіна (восень) дабраславёна пажаданымі дарункамі неба, расой бездані, лежачай знізу, дарункамі Сонца і месяцаў, самымі лепшымі творамі старажытных гор і вечных узгоркаў, і ўсяго, што напаўняе зямлю. Ды прыйдзе дабраславенне з'явіўшамуся ў падпаленым і незгараючым цярновым кусьце (Сомы Вязувія) на галаву абранага паміж сваімі братамі. Яго краса, як у першароднага Цяляці, яго рогі як у буйвала: ён забадае імі народы да межаў зямлі: гэта цьмы Аф-Рыма, гэта тысячы Ссунутага (Манашэ, Другаз. 33, 13).

Апакаліпсіс змяшчае «Кратар Грамабоя» ў Ўрну Вадаліва», а пры іншых пералічэннях (табл. XIII) ён адзін раз трапляе ў Ільва і раз у Стральца, а потым, у далейшых пераліках, знікае са злічэння, замяшчаючыся сваім сынам Манашэ, пра якога мы яшчэ будзем разважаць далей і які большай часткай трапляе ў Панну, а другі яго сын, Аф-Рым, большай часткай трапляе ў Ільва.

**XII.** – Асабліва ж супярэчлівыя ў Майсея і ў Богазмагальніка выказванні пра апошняга із 12 сыноў, Бэн-Іміна, адпаведна таму, як яго першапатковае імя Бэн-Оні – сын гвалту, будучы нагодай смерці нарадзіўшай яго маці (царквы) было пазней перароблена ў Бэн-Іміна, г. азн. сына праўдзівасьці (ці сына мораў) (БН-ІМІМ).

Богазмагальнік, адносячы яго да Авена ў сваім дабраславенні, выказваецца пра яго, як мы ўжо бачылі вышэй, цалкам не адпавядаючае яму:

«Бэн-Оні – драпежны воўк, які вечарам будзе дзяліць здабычу, а раніцай есьці яе».

Гэта больш падыходзіць да кіта, які знаходзіцца якраз пад Авенам і які некалі праглынуў прарока Ёну. А Майсей, змяшчаючы яго ў Панну, паведамляе нам:

«Умілаваны Грамабоя будзе бяспечна жыць у яго, ён будзе абараняць яго кожны дзень і спачываць паміж яго каленяў»: (Другаз. 33, 12). Іншыя аўтары

[198] Тут ужываецца жаночы род АЛЛЕ ШЛХЕ.

адсылаюць яго пяць разоў у Шалі, (табл. XIII), раз у Казярога, раз у Вадаліва, раз у Стральца і раз у Рыбы.

Такім чынам, 12 сыноў кульгавага-Якава, на-лаціне Клаўдыя, незалежна ад таго, ці спісаны ён сам са знакамітага астранома Клаўдыя Пталямея ці Клаўдый Пталямей спісаны із яго, не ўяўляюць сабой нешта аднастайнае пры сваім падніманні на нябёсы. Калі б яны былі толькі асобнымі акультнымі найменнямі задыякальных сузор'яў ці адпавядаючых ім месяцаў года, то было б цалкам немагчыма патлумачыць, чаму яны пералічваюцца ў трохі іншым упарадкаванні, у кожнай новай біблейскай кнізе, акрамя трох аднолькавых выпадкаў у кнізе «Лічбы» (10, 12; 2, 3; 7, 12-78).

Каму прыйшла б у галаву недарэчная ідэя пры пераліку месяцаў года называць то студзень пасьля лютага, то сакавік пасьля чэрвеня і г. д.? А месяцы ж года тое ж самае, што і задыякальныя сузор'і. Парадак іхнага нараджэння, г. азн. выхаду із-за Сонца раніцай, той жа самы, што і парадак іхнага ахвяравання, г. азн. заходу ў полымя вечаровай зараніцы... Такое ж упарадкаванне і іхнага «выведвання Зямлі запаветнай», г. азн. узыход на неба із-за ўсходняй часткі небасхілу; такое ж і ўпарадкаванне іхнага шэсьця «па сінайскаму стэпу» г. азн. купалу нябеснага скляпення, і ўпарадкаванне іхных уваходных брамаў у сьвяты горад, імя якому: «Тут Бог-грамабой», такім з’яўляецца і ўпарадкаванне дабраславення іх Кульгавым Богазмагальнікам (вечна ходзячым і зараз па небе ў сімвале няпоўнага месяца) і парадак дабраславення Збаўцам-Майсеем, г. азн. Сонцам, па чарзе заходзячым у гэтыя сузор'і і г. д. Усе гэтыя астральныя падзеі ідуць у аднолькавай пасьлядоўнасці па 12-ці сузор'ях Задыяка. Чаму ж у кожным новым іхным пераліку ў Бібліі, акрамя трох згаданых вышэй, мы знаходзім некалькі пераскокаў і зменаў упарадкавання, як быццам, акрамя агульнага руху, сузор'і Задыяка яшчэ гуляюцца ў нейкую гульню, пры чым, то адно з іх, то іншае пераскоквае праз галаву ідучага наперадзе (табл. XIII)? Відавочна, што гэта не самі задыякальныя сузор'і, а штучна аб’ яднаныя з імі зямныя буйныя фактары жыцця, значэнне якіх было розным для розных аўтараў, асабліва для належачых да розных нацыянальнасцей. Акрамя таго відавочна, што гэта былі фактары жыцця, якія самі эвалюцыянавалі разам з жыццём на зямлі.

# ГЛАВА VIII.

## Легенды пра ўнукаў Богазмагальніка.

Мы ўжо бачылі грунтуючыся на размеркаванні месцазнаходжання дванаццаці дзяцей Богазмагальніка ў дачыненні да чатырох бакоў сьвету, прымаючы ў разлік старажытныя мапы Зямлі, з Міжземным морам пасярэдзіне, што тры паўднёвыя вобласьці: «Лявіта, Раувіна і Шымона (Сымона) – адпавядаюць Лівіі, Ягіпту і Аравіі: што тры ўсходнія вобласьці: Юды, Ішакара і Звулопа – адпавядаюць Юдэі, Анатоліі і Грэцыі, што тры паўночныя вобласьці: Дана, Ашура і Нафтлі адпавядаюць: дунайскім (славянскім) землям, Германіі і Францыі, і тры заходнія вобласьці: Гада, Ёсіфа і Бэн-Іміна адпавядаюць Гішпаніі, Італіі і Сіцыліі. У адпаведнасьці з гэтай першапачатковай лакалізацыяй знаходзіцца і іхнае паходжанне. Дзеці венчанай жонкі Богазмагальніка – Левій, Раувін, Шымон, Юда, Ішахар і Звулон уяўляюць усходнюю Элінскую імперыю. Дзеці Авечкі, яго каханай жонкі, Ёсіф і Веніямін, уяўляюць аснову заходняй Лацінскай імперыі –

Італію і Сіцылію. Дзеці прыслужніцы Зельфы (ці Сільвы, г. азн. Лясной) – Гад і Асір – уяўляюць гішпанцаў і германцаў, а дзеці прыслужніцы Бэлы – Дан і Нафтлі – славян і галаў-франкаў.

Але гэтая першапачатковая этнаграфія зведала значную эвалюцыю нават і ў самай Бібліі.

## I.
## Дзеці Левія.

Нашчадкі Левіна (Луі), як я ўжо згадваў вышэй, ператварыліся із лівійцаў – у адзін із духоўных станаў таго часу, падобна таму, як у нас швейцарцы ператварыліся ў швейцараў. Згодна з іхнай біблейскай характарыстыкай гэта было пустынніцкае ордэнскае сьвятарства, деградаваўшае пазней у дыяканаў і дыяканіс. Адсюль французскае імя Луі (Louis) і дзеяслоў louer – хваліць, вымаўляемыя цалкам так жа, як і жыдоўскае напісанне імя Лявіта – Луі. Яго нябесным сімвалам з'яўляецца згодна з кнігай Быццё (гл. 30 і 48) таксама пустынік: сузор'е Рака, ці дакладней Краба, хаваючагася пад камянямі і ў норах. У Другазаконні Лявіт адпавядае сузор'ю Ільва (Leo) згодна з сугучнасьцю імёнаў, а ў Іезекііле патрапіў у Двайнят і ў Панну (табл. XIII).

У Лявіта было тры адгалінаванні: выгнанне, пакорнасць і горкая доля[199]. У выгнання былі дзеці: белы сьвятар і паслушнік[200], у пакоры – чатыры: узнёслы народ, ялей, братэрства і боская магутнасць[201], а ў горкай долі – хвароба і смерць[202].

Само сабой зразумела, што ўсё гэта алегарычна, а не рэчаісна. Тут не рэчаісныя дзеці, а ўяўляемыя маральныя якасьці.

## II.
## Дзеці Сымона.

Нашчадкі Сымона (па-грэцку: знак бога, а па-жыдоўску: пачутае) уяўляюць сабой, як я ўжо пазначаў, толькі другое вымаўленне імя Ізмаіл.

Яно трансфармавалася із аравійскага народа ў яго ізмаіліцкае святарства, бо «Шмеон» аб'вяшчаецца адмысловым братам лявітаў, склікаючым рэлігійныя сходы, «на якіх не жадае прысутнічаць душа Богазмагальніка, таму што яго задумы жорсткія».

І мы бачылі, што гэтаму «Бога-пачутаму» Майсеем не дадзена добраславлення, якім узнагароджаны астатнія браты. Нагодай яго наймення «Пачуты», я думаю, было падзенне з неба ў галоўны горад Аравіі, Меку, з дымам і грукатам знакамітага Каабскага метэарыта, пры нейкіх выключных умовах мясцовага жыцця, напрыклад, пры аблозе горада бедуінамі, калі ўсё насельніцтва маліла бацьку багоў пра дапамогу, і Грамабой «пачуў іхныя малітвы» і з громам і полымем кінуў на ворагаў камень з неба, прымусіўшы гэтым іх збегчы... Інакш, чым вы патлумачыце тую акалічнасць, што і да гэтага часу усё аравійскае насельніцтва спяшаецца ў Меку, каб кожны прававерны хаця б раз на працягу жыцця пацалаваў гэты камень?

---

[199] Тут גרשון (ГРШУН) – выгнанне, адчуджанасць, а згодна з Cruden'у – новае пілігрымства, קרת (К'РТ') – чаканне, спадзяванне, а згодна з Cruden'у – кангрэгацыя ці паслухмянства, і מררי (МРРІ) – горкая доля (Сыход 6,16).

[200] לבני (ЛБНІ) – белы і שמעי (ШМЕЙ) – паслухмяны.

[201] עמ־רם (ЭШ-РМ = ЭМ-РМЕ) – народ узнёслы; יצהר (ІЦЕР) – ялей, царкоўнае масла; חברון (ХБРУН) – братэрства; עזי־אל (ЭЗІ-Ал) – боская магутнасць.

[202] מחלי (МХЛІ) – хвароба: מושי (МУШІ) – адыход.

У Бога-пачутага было пяцёра дзяцей (Лічбы 26, 12): Завяршэнне Боскае, Праўдзівасць, Заступніцства, Сьвятлоноснасць І Запытанасць[203]. Із іх толькі Праўдзівасць (па-жыдоўску ІМІН; аднайменная з Іменню ў Аравіі, а астатнія – толькі якасныя характарыстыкі гэтага народа.

Із гарадоў Бога-пачутага асабліва часта згадваецца Студня сямі[204], куды здзяйсняліся пілігрымствы.

– «Жыве шлях да студні сямі! – усклікаюць, у прадказанні, Амос – «прыгожыя дзяўчыны і юнакі» (8, 14).

А Грамабой адказвае ім:

– «Не звяртайцеся ў боскую сядзібу, не хадзіце наўкруга кружэння і не вандруйце да студні сямі, таму што кола кружэння пойдзе ў палон, і боская сядзіба ператворыцца ў нішто».

Сюды да «студні сямі» прыйшла і Агар – маці Ізмаіла і сюды ж прыходзілі пажыць Бацька-Рым (Аб-рам) і кульгавы богазмагальнік (Якаў).

Тут цяжка адрозніць астральную Студню сямі планет, г. азн. Урну Вадаліва, ад нейкага месца ў Сірыі ці на Аравійскай паўвыспе...

III.

Дзеці Юдэя.

Нашчадкі Юдэя (богаслаўнага) эвалюцыянавалі із насельнікаў Сірыі і Палестыны ў прыхільнікаў юдэйскага веравызнання, незалежна ад месца іхнага жыхарства. Супастаўленне з Ільвом у кнізе Быццё ставіць іх у сувязь з сузор'ем Ільва і з арыянамі[205], а супастаўленне з Авенам у Апакаліпсісе і з Вадалівам хрышчэльнікам у Кнізе «Лічбы – з месіянскімі хрысьціянамі. Дзеці Богаслаўнага былі вельмі незвычайнымі для гэтага імя: яго першынец «Пілнуючы (ЭР)» быў за штосьці забіты Грамабоем; другі «Ашуканец (ОНОН)» узяў яго жонку «Пальму» сабе, але пачаў займацца з ёю ананізмам, і за гэта таксама быў забіты Грамабоем. Трэццім быў «Прымірыцель», якому Богаславец не даў у жонкі «Пальму», а сам пайшоў да яе, палічыўшы прадажнай жанчынай, і яна нарадзіла ад яго двайнят: «перадхрам'е» і «боскі гнеў».

Ад «передхрам'я» і нарадзіўся ўмілаваны (па-жыдоўску: Давыд), а потым, на завяршэнне, і сам евангельскі «Хрыстос».

З нагоды такіх іхных блізкіх дачыненняў з «сынам боскім», я прывяду гэтую кароткую легенду цалкам у літаратурным перакладзе.

«Адзін час Богаславец (Юда) – сведчыць 38 глава кнігі Быццё – адышоў ад сваіх паплечнікаў і пасяліўся паблізу аднаго «сведкі быцця» на імя Жарала[206] (г. азн. паблізу гары Вязувія як асаднік). Там ён пабачыў дачку аднаго вольнага чалавека з даліны[207] і ўзяў яе сабе».

---

[203] Тут נמו־אל (НМУ-Ал) – Завяршэнне боскае; ימין (ІМІН – Праўдзівасць і Іемень у Аравіі); יכין (ІКІН) – праўдзівасць; צחר = זרה (ЗРХ = ЦХР) сьветлы; שאול (ШАУЛ = Саўл) – запытаны.

[204] באר־שבע (БАР-ШБЭ) – яма, цверджанне сьвятарства, студня сямі.

[205] Імя Арый па-жыдоўску азначае: леў.

[206] חירה עדלמי (ЭДЛМІ-ХІРЕ), пры гэтым ХІРЕ роднасна з חור (ХУР) – дзірка ў зямлі, яма, пячора, а прыметнік חור (ХУР) азначае белы, сьветлы. Першае слова ЭД-Л-МІ ёсць варыяцыя (ЭД) – сведка, і ל־אמי (Л-АМІ замест ל־מו (Л-МУ) – да Быцця. Магчыма, што замест חר (ГР) тут было הר (ЕР) – гара.

[207] כנעני ת שוע (ШУЭ-Е-КНЭНІ) – вольны чалавек з нізіны.

«Яна нарадзіла ад яго першага сына, і ён даў яму імя – «Пілнуючы»[208]. Яна нарадзіла другога і назвала «Ашуканцам (Анон ці Ананіст)». Потым нарадзіла трэццяга і назвала «Прымірыцелем».

«Пілнуючы адружыўся з «Пальмай» (г. азн. абраў культам пальмападобны слуп дыму над Вязувіем), але не дагадзіў тамтэйшаму богу, Грамабою, і той забіў яго. З «Пальмай» адружыўся яго брат «Ашуканец (Анон)», але пачаў займацца з ёю ананізмам, каб не было нашчадкаў носячых імя яго брата. Аднак, гэты ўчынак быў злом у вачах Грамабоя, і ён забіў і яго».

– «Жыві зараз заўдавелаю – сказаў Багаславец (юдэй) «Пальме» – пакуль не падрасьце мой трэці сын «Прымірыцель», які возьме цябе сабе».

«Але «Прымірыцель» падрос, а Богаславец не аддаў яго «Пальме», каб і з ім не здарылася таго ж, што з яго братамі».

«Тым часам памёрла і ўласная жонка Богаслаўца, дачка вольнага чалавека із даліны, і ён, суцешыўшыся па ёй, пайшоў на поўдзень, дзе стрыглі яго авечак, за сваім сябрам «Сведкам быцця».

«Пальма», даведаўшыся пра гэта, зняла з сябе адзенне ўдаўства, накрылася пасьцілкай і села каля брамы «Вока», што на шляху да поўдня».

«Богаславец палічыў яе за прыдарожную (вулічную) жанчыну і сказаў ёй:

– «Пойдзем да цябе!»

– «А што ты мне дасі за гэта? – запытала яго «Пальма».

– «Дашлю казляня са статка».

– "Дай заклад» – адказала яна.

– «Які заклад?»

– «Тваю пячатку, шнурок і кій».

«Ён даў іх ёй і пайшоў з ёю. Прыйшоўшы пасьля гэтага да статка, ён паслаў ёй казляня праз «сведку быцця», але той ужо не знайшоў яе і вярнуў яму казляня».

«Калі прайшло каля трох месяцаў, раптам Багаслоўнаму паведамілі, што «Пальма» цяжарная невядома ад каго, і ён загадаў яе спаліць. Даведаўшыся пра гэта, яна паслала яму яго заклады са славамі:

– «Я цяжарная ад таго, чые гэтыя рэчы».

– «Яна праўдзівей мяне – сказаў Багаслоўны і адмяніў спаленне, але ўсё ж не хадзіў да яе больш сам і не аддаў яе свайму трэццяму сыну».

«Калі надышлі народзіны, спавівальная бабка пабачыла, што павінны быць двайняты. Калі з’явілася рука аднаго із двайнят, яна, павязала яе чырвонай ніткай, кажучы:

– «Гэта першынец».

[208] Першы ער (ЭР) – падступны падпільноўваючы вораг; другі און (АУНН) – ашуканец, а таксама і бог Он, і ананіст; трэцці שלה (ШЛЕ) ад שלו (ШЛЮ) – бестурботнасць, легкадумнасць, а таксама спакой, дабрабыт. З гэтым падобна שילה (ШІЛЕ) – першая назва горада Саліма (Сілома) (Быццё 49,10) у краіне Аф-Рым, на поўнач ад Палаца боскага (БІТ-АН), а раней яго звалі Луз.




Мал. 125.
*Чырвоная нітка сонечнай хромасферы на руцэ аднаго із Двайнят, Сонечнае зацьменне 29 чэрвеня, 312 г. і 20 чэрвеня 540 года.*



Замест мал. 126.
*Тая ж «чырвоная нітка» ў павялічаным выглядзе.*

«Але ён забраў назад сваю руку і замест яго выйшаў яго брат».

– «Як ты скасаваў сабе перашкоду? – сказала яна, і таму ён атрымаў імя: Скасаваўшы Перашкоду (ПРЦ), а другому, які хацеў выйсьці першым, але не змог, было дадзена імя: Адвеяны»[209]

Такой з’яўляецца легенда пра пяць сынах Богаслаўца (Юды) і я думаю, што пасьля такіх інтымных падрабязнасьцей кожны пасаромеецца шукаць іх на геаграфічнай мапе. Пілнуючы і Ашуканец тут вельмі нагадваюць Садом і Гамору, а трэцці сын Прымірыцель нават і згодна з меркаваннямі гебраістаў знаходзіцца ў непасрэднай сувязі з горадам Сьвятога Замірэння (Ерусалімам).

А што ж такое чырвоная нітка, якой спавівальная бабка абвязала руку аднаго із Двайнят? – Я пакажу далей, што гэта была чырвоная нітка сонечнай храмасферы падчас выбітнога сонечнага зацьмення ў сузор'і Двайнят (мал. 125 і 126), і нават вызначу яго час прыпадаючы на 29 чэрвеня 512 ці на 20 чэрвеня 540 года, а зараз, каб не аддаляцца ад прадмета гэтай часткі, зноў вяртаюся да сыноў Юды.

Цікава, што ў «Закінутай Кнізе» (Параліпаменон 4, I) замест «Падпілноўваючага (ЭР)», як сына Богаслаўца стаіць яго сябар «Жарало (ХУР)», замест Анона значыцца бязбожнік (ШУБЛ), а замест трэццяга сына – «Прымірыцеля – мы знаходзім Вінаграднік Грамабоя (КРМ-І). Гэта азначае, усё гэта былі культы, ды і два апошнія двайняты ад выпадковага гасьцявання Богаслаўнага ў Пальмы, г. азн. у пальмападобнага слупа дыму над Вязувіем, занадта нагадвае з’яўленне на сьвет Ісава і Якава (астральна: культа Сонца і культа Месяца), каб не зрабіць параўнання паміж імі.

Ці можна думаць, што гэтая легенда складзена чалавекам «юдэйскага» веравызнання? Наўрад ці. Ён не паказаў бы заснавальніка Богаслаўнага царства ў такім непрывабным выглядзе, і таму я думаю, што яе пісаў адзін із аўтараў богазмагальніцкага (ізраільскага) царства, і што радзіма яе Італія.

---

209 זרח (ЗРХ) замест זרה (ЗРЕ) – адвейваць.

Юдаізм узнік, як мы бачылі, у наваколлі Вязувія, але яго пасьлядоўнікі эміўгравалі ў IV-V стагоддзях нашай эры ў аддаленую Сірыю і далі ёй тэалагічнае найменне Юдэя.

## IV.
## Дзецi Раувіна.

Усё гэта прымушае думаць, што і дзеці богазмагальніцкага першынца Раувіна, імя якога азначае «настаўнік» і «Празарлівец сына» (боскага), ператварыліся із жыхароў Ягіпта ў прадстаўнікоў рабінскага (г. азн. навуковага) стану[210].

Раувін – як мы бачылі – быў пазбаўлены права на першынство, таму што апаганіў ложак свайго бацькі, але, можна думаць, не адным тым, што заняў сваім задам ложак Авена на астранамічнай мапе, а тым, што займаўся ерэтычнымі навукамі. І само сабой зразумела, што легенду пра скасаванне яго першынства стварыў не рабін, а яго супернік.

У Раувіна – паведамляе нам Біблія – было чатыры сыны: Асьвечаны (Хрыстос), Цудадзей, Агароджаны[211] і Боскі Вінаграднік, але дзвух апошніх мы ўжо бачылі ў Богаслаўца (Юды). Само сабой зразумела, што для такіх нашчадкаў нам таксама няма ніякай патрэбы шукаць адмысловыя тэрыторыі на зямной паверхні, ці думаць, што кожнае із гэтых найменняў азначае асобны горад ці народ.

Зусім іншае мы назіраем пры разгляданні астатніх дзяцей Богазмагальніка з боку гледжання лакалізацыі іхных сыноў і дочак.

## V.
## Дзеці Ёсіфа Аф-Рым і Манатэ.

Вось ідзе Ёсіф (ІУСФ), імя якога азначае згодна з афіцыйным перакладам «павелічэнне», а на самай справе гэта падвойнае слова ІУ-СФ, што азначае чарка Грамабоя, ці кратар Грамабоя[212]. Ён лічыцца распаўшымся на два народы, на Аф-Рымлянаў, імя якіх азначае таксама «попелы» (г. азн. людзі, пасыпаныя попелам вулкана), і на «Ссунутых (вулканам жа) з месца» (па-біблейску М-НШЕ па-грэцку Манасія). У Апакаліпсісе, як мы бачым на табліцы XIII, Ёсіф уяўляецца сузор'ем Вадалiва; у Быцці гэта – сузор'е Рыб, а ў Другазаконні – Шалі.

На зямлі ж ён, без сумневу, сімвалізуе ўсю Італію, частка якой Аф-Рым, г. азн. Рог Рыма (ці проста «попелы») засталася на месцы, а іншая Манашэ была Ламбардыя, куды ўцекачы былі выгнаны землятрусам. Апісанне яе пышнасьці і магутнасьці ў пятым пункце дабраславення Збаўцы (Майсея) цалкам адпавядае такому ўяўленню.

Пра Кратар Грамабоя (Ёсіфа), як пра асобу, нам паведамляюць, што ён быў міц-рымскім валадаром пры «адпускаючым грахі». Мы завём гэтага ўладара па-

---

[210] Рабін па жыдоўску רבוני (РВУНІ) што азначае – мой гаспадар (у грэцкім вымаўленні Равуні), гэтак жа як французскае monsieur азначае мой сіньёр і madame – мая дама. Зараз юдэі адкідваюць дадатак ני (НІ) – мой і пішуць רב (РАВ) – гаспадар. Магчыма, што «мой гаспадар (равуні)» і было першапачатковым найменнем «ініцыятараў богазмагальніцства», пераіначаным пазней дзякуючы сугучнасьці імя ў Раувінаў [בן-ראו] - празарліўцаў сына. Сярэднявечныя кабалісты адмыслова рабілі такія перайначванні імёнаў грунтуючыся на выпадковым сугуччы, і таму мы не павінны рабскі падпарадкоўвацца сучаснай біблейскай арфаграфіі, створанай сярэднявечнымі тэолагамі грунтуючыся на іхных легкадумным меркаваннях, а разважаць грунтуючыся на ўласных лагічных і гістарычных назіраннях, кіруючыся параўнальнай лінгвістыкай, а не адной вузкай сучаснай юдаістыкай.

[211] חנוך (ХНУК)) – асьвечаны, хрыстос; פלוא (ФЛУА) ад פלא (фла) – цуд і г. д.

[212] סף-יו (ІУ-СФ), дзе ІУ азначае Грамабой, а СФ – чарка, кратэр.

руску фараонам, а па-біблейску ён пішацца ПРЭЕ[213]. Гэта, напэўна, пераіначанае італьянскае слова padre – бацька. У мове старажытных ягіпцянаў такога слова цалкам няма: іхныя ўладары маюць назву ў іерогліфах ці сутанамі, адкуль слова султан, ці шэфамі, адкуль словы шэйх, шах і наша шэф. А так як краіну Міц-Рым, г. азн. Вымалачаны (Вязувіем) Рым[214], ці, згодна з тэалагічным тлумачэннем, «цяснoты», мы ўжо лакалізавалі ў Італіі, то ў Італіі ж даводзіцца лакалізаваць і замяшчаючы Ёсіфа Высокі Рым, г. азн. Аф-Рым (па-руску Яфрэм), і яго брата «Ссунутага са свайго месца» (Манашу).

Абодва яны былі, згодна з Бібліяй, дзецьмі Чаркі (Кратара) Грамабоя (Ёсіфа) ад «Пашкоджанай веры», дачкі «Адданага Сонцу»[215], пантыфіка-цара[216], сьвятара «Моцнага бога».

* * *

Пра Ссунутага (Манашэ) у Бібліі гаворыцца мала. Ён быў першынец, і імя яго згодна з Кнігай Быцця (41, 51) паходзіць ад таго, што ён адвёў усе няшчасьці ад сядзібы Богазмагальніка. Аднак, Богазмагальнік у сваім дабраславенні, прароцкі, паставіў яго ніжэй Аф-Рыма (Быццё, 49, 22). У ім пры Езусу было налічана 32.200 мужчын, прыдатных для вайны. Палова іх пасялілася па аддзін і палова – па другі бок Эрыдана (ракі По, у Ламбардыі). У пераможнай песьні «пчалы» (па-жыдоўску Дэборы) гаворыцца, што ад «гандляра» (венецыянца), сына «Ссунутага з месца» (Манашэ), паходзяць кіраўнікі (Суд. 5, 14).

Ды яшчэ ў прадказанні «Ісая» змяшчаецца такое месца:

«Ад гневу Грамабоя, бога нябесных ваярстваў, загарыцца зямля. «Ссунуты з месца» пойдзе супраць Вышыні Рыма і Вышыня Рыма супраць «Ссунутага з месца» і абодва разам супраць Багаслаўнага (Зыход. 9, 20). Тут абодва сына разглядаюцца ўжо, відаць, як дзьве паловы хрысьціянскай царквы, а не ў сэнсе Сярэдняй Італіі і Ламбардыі.

* * *

Характэрным адрозненнем аф-рымлянаў было, згодна са сведчаннем Бібліі, тое, што яны не ўмелі прамаўляць гук Ш. Вось як пра гэта распавядаецца ў кнізе «Суддзі»:

«Жыхары Галатыі (ГЛЭД[217], г. азн. кельты ці галічане), пабілі аф-рымцаў пад правадырствам Адчыняючага Ўваход, (на неба). Яны перахапілі ў іх пераправу праз Эрыдан (раку По), і калі хто-небудзь адмаўляў сваю прыналежнасць да аф-рымлянаў, то яму загадвалі:

– «Скажы: шыбалет (г. азн. колас)!»

«І калі ён адказваў: «сібалет», то яго забівалі».

---

[213] פרעה (ПРЭЕ) выводзяць звычайна ад слова פרע (ФРЭ) – распушчаныя валасы, кучэры. Хаця ўсходняе сьвятарства да гэтага часу носіць доўгія валасы, а заходняе толькі пад час сярэдневечча пачало галіць ўсю галаву, але гэтая акалічнасць яшчэ недастатковая для таго, каб атаясаміць фараонаў з патрыярхамі старажытнай «сусьветнй царквы». Верагодна гэта былі іхныя папярэднікі.

[214] מצ-רים (МЦ-РІМ), дзе МЦ (або МУЦ) азначае збіты цэпам, вывеяны; аднаго кораня з מוצא (МУЦА) – сыход. Выводзіць гэтае слова ад מצר (МЦР) – патрэба, цесната, як робяць тэолагі, не адпавядае рэчаіснасьці: гэта была заможная краіна.

[215] אסנת (АСНТ) ад אסון (АСУН) – пашкоджаны, пашкоджаная.

[216] פוטי פרע (ПУТІ-ФРЕ) – Pontifix rex. Адзначым, што на копцкай мове фіт – азначае лук стральца, а פרע (ФРЭ) па-біблейску – адрошчаныя, доўгія валасы, так што гэта імя можна б перакласьці: луканосец доўгавалосага. У іерогліфах слова пеце-фрэ перакладаюць: адданы Сонцу.

[217] גלעד (ГЛЭД) тэрытарыяльна: галат, а астральна גלעד (ГЛ-ЭД), дзе ГЛ – сфера, а ЕД – вечнае рух наперад.

Але мы ведаем, што сярод усіх народаў Міжземнаморскога басейна гук Ш адсутнічае толькі ў лацінскай ды ў грэцкай мовах, а таму і гэтую асаблівасць вымаўлення патрэбна прыпісаць ці грэкам ці грэцкім асаднікам Італіі, ад якіх паўсталі лаціны, бо ў звычайных італьянцаў, жыдоў, арабаў і ягіпцян гук Ш не толькі існуе, але нават сустракаецца ў большай адсоткавай колькасьці, чым шмат якія іншыя гукі іхных моваў.

Вазьміце Біблію на грэцкай мове. Там слова – шыбалет, служыўшае прыкметай прыналежнасьці да аф-рымлянаў і азначаючае – колас, круцельскі заменена словам сінема (συνθήμα), азначаючым: умоўнае выказванне, таму што перакладчык нават і ўявіць сабе не мог, як напісаць па-грэцку слова шыбалет без таго, каб і самому не выявіцца аф-рымлянінам.

А ў лацінскім тэксце вы чытаеце замест яго scibboleth.

Такім чынам самі гэтыя тэксты ўласнаручна распісаліся ў сваёй прыналежнасьці да аф-рымлянаў. Гэта азначае, і параўнальнае мовазнаўства падцверджвае мае этнаграфічныя атаясамленні.

Гэтае месца пра Аф-Рым ўжо, ва ўсякім разе, чыста этнаграфічнага, а не астральнага характару. Што ж да астатняга ў згаданай легендзе, то там, відаць, сумесь усяго. Легенда адносіць час падзей да таго перыяду, калі ў богазмагальнікаў яшчэ (ці, дакладней, ужо) не было цароў, і імі кіравалі суддзі (сенатары). Адзін із гэтых суддзяў на імя «Адчыняючы Ўваход»[218] «быў сынам публічнай жанчыны ад аднаго галата. Але ў таго ж галата былі дзеці і ад законнай жонкі».

«Калі яны памужнелі, яны сказалі «Адчыняючаму Ўваход»:

– «Ты не спадкаемца ў родзе нашага бацькі, таму што сын чужой жанчыны».

«Адчыняючы Ўваход» уцёк ад іх у Краіну Звароту (ТУБ). Ён быў чалавек адважны і вольны. Людзі збіраліся да яго і хадзілі з ім у набегі.

«І вось паганцы» (ЭМУН) пайшлі ваяваць з галацкімі богазмагальнікамі. Старэйшыны яго былога народа прыйшлі да «Адчыняючага ўваход» і сказалі яму:

– «Прыйдзі да нас, будзь нам правадыром, і тады мы пазмагаемся з гэтым сборышчам».

– «Але вы ўзненавідзелі мяне і выгналі із сядзібы – адказаў ён. – Навошта ж вы прыйшлі зараз да мяне, калі патрапілі ў бяду?»

– «Ты будзеш зараз правадыром усёй Галатыі, – адказалі яны яму.

– «Ці праўда? – перапытаў ён.

– «Ды будзе Грамабой сведкам!» – адказалі яны.

«Ён пайшоў із імі і паўтарыў гэтыя словы ў Вежы (МЦПЕ – па-французску Tour), перад тварам Грамабоя. Потым выправіў амбасадараў да цара паганцаў запытаць яго:

– «Навошта ты прыйшоў ваяваць на маёй зямлі?»

– «Таму што калі богазмагальнікі беглі із Развеянага Рыма (Міц-Рыма), то яны забралі маю зямлю ад ракі Арно да ракі По»[219].

– «Не – адказаў яму «Адчыняючы Ўваход» – гэта «Памёт»[220], цар умбраў (ЭМРІ) не дазваляў богазмагальнікам прайсьці праз яго краіну, але быў пераможаны імі і згубіў яе. А ты маеш жаданне завалодаць нашай спадчынай!

---

[218] יפתח שפט (ШФТ ІФТХ) – суддзя, які адчыняе ўваход. Цікава, што і ў іерагліфічнай мове, падобнай з біблейскай, шэфтамі называюцца кіраўнікі «верхняга Ягіпта". Корань гэтага слова шэф да гэтага часу ва ўжыванні ў еўрапейскіх мовах.

[219] Арно (АРНОН = ארנון) у Італіі, і Эрыдан (ІРДН) – рака По ў Ламбардыі.

[220] סיחון (СІХУН) ад кораня סחי (СХІ) – памёт.

Хіба ты лепш Валака? Ці ваяваў ён з богазмагальнікамі? Ужо трыста гадоў прайшло з тых часоў, як богазмагальнікі пасяліліся ў гарадах паблізу Арно. Чаму ж вы да гэтага часу не забіралі іх?»

(Атаясамляючы Майсея з Дыяклетыянам і Арона з Арыем, жыўшымі на мяжы III і IV стагоддзяў, мы тут прыходзім да высновы, што гэтая дата вызначае час каля 700 года нашай эры, г. азн. той жа самы, які мы вылічылі і для легенды пра Валаама і Валака[221].)

«Але цар паганцаў не паслухаў яго слоў. «Адчыняючы Ўваход» пайшоў на яго вайной і даў зарок Грамабою прынесьці ў ахвяру ўсеспалення таго, хто першым выйдзе із яго сядзібы насустрач пасьля пераможнага вяртання.

«Ён перамог паганцаў» вялікай паразай ад Сухога дрэва да Долі і да заліўной сенажаці вінаградараў, але калі вярнуўся да сядзібы ў Вежу (па-французску Тур), то пабачыў, што яму насустрач выходзіць яго адзіная дачка з тымпанамі і карагодамі.

– «На жаль, мая дачка! – усклікнуў ён, разадраўшы сваё адзенне. – Я абяцаў прынесьці цябе ў ахвяру ўсеспалення перад тварам Грамабоя і не магу ўзяць назад сваіх слоў».

– «Рабі са мной тое, што абяцаў – адказала яна – але толькі адпусьці мяне на два месяцы ў горы аплакаць з сяброўкамі маё дзявоцтва».

– «Ідзі на два месяцы» – сказаў ён.

«І яна пайшла ў горы.

«Калі прайшоў тэрмін, яна вярнулася да яго, і ён здзейсніў над ёю сваё абяцанне

«І штогадова – дадае апавядальнік – богазмагальніцкія дзяўчаты хадзілі чатыры дні на год апяваць дачку «Адчыняючага Ўваход».

Такой з’яўляецца біблейская легенда (Суддзі, гл. 11), пры чытанні якой плакалі ўсе манашкі. Чаго ў ёй больш? Астралогіі ці рэчаіснасьці? Мне здаецца тут сумесь усяго гэтага. Перамога «Адчыняючага ўваход» над аф-рымлянамі, не ўмеўшымі вымаўляць гук Ш (г. азн. над жыхарамі Сярэдняй Італіі), лакалізуе месца яго жыхарства на поўнач ад іх, г. азн. у Галіі (ГЛЭД). Час яго жыцця, як мы бачылі, быў каля 700 года н. э. Апакаліптычнае хрысьціянства, у якім яшчэ не было антысемітызму (ўзнікшага толькі пасьля пашырэння евангелляў у IX стагоддзі нашый эры), ужо прагрымела тады ў аб’яднанні з месіянствам у Заходняй Еўропе, хаця верагодна і без абавязковага абразання мужчын, і якраз пачаліся паходы франкаў-хрысьціянаў на яшчэ маўрытанскую Італію.

У 714 годзе Карл Молат (Мартэл) быў абраны аўстразійскімі (г. азн. германскімі) франкамі герцагам, а потым у 720 годзе і маярдомам усіх франкскіх уладанняў. У 732 годзе ён перамог маўраў (арыян ) Гішпаніі і Італіі спачатку каля Вежы (г. азн. каля горада Тур па-французску, і каля МЦПЕ – па-біблейску), як гэта мы маем у вышэйпрыведзенай легендзе, а потым у 737 годзе ён перамог іх яшчэ другі раз каля Нарбоны, у Паўднёвай Францыі (Gallia Naarbonensis), паблізу Міжземнага мора ў дэпартаменце Aode (Од), так што і саму назву гэтай мясцовасьці Галаад (ГЛ-ЭД) можна падзяліць на Гал (ГЛ) і Од (ЭД), г. азн. Гальскі Од.

Як быццам тут больш зямнога, чым нябеснага, і біблейская кніга «Суддзі», відаць, скампанованая пасьля кнігі «Цары»... І ўсё ж недарэчнае апавяданне пра спаленне Карлам Молатам сваёй дачкі вымушае меркаваць, што бітва пры Нарбоне ў 737 годзе была прыведзена тут у сувязь з суправаджаўшымі яе зорнымі з'явамі і ў

[221] Хрыстос, I кн., Ч. II, гл. 10.

рамантычных падрабязнасьцях спісана не з рэчаіснасьці, а са свайго гараскопа. Як толькі прыйшла мне ў галаву гэтая здагадка, я адразу ж вылічыў становішча планет на лета 737 года, і што ж выявілася?

Вось гараскоп Нарбонскай бітвы:

* * *

Злавесны Сатурн уражвае Двайнят, г. азн. Раувіна і Сымона.

Справядлівы Юпітар узважвае зямныя справы на нябесных Шалях.

Крывавы Марс усё лета ад сакавіка да верасня ўключна апісвае S-падобную пятлю ў Шалях жа, як бы аддаляючыся спачатку ад Скарпіёна – сімвала сьмерці – а потым хутка ідзе ў яго ў верасні.

* * *

Калі Нарбонская бітва адбылася ў жніўні, то ў гэты час ішлі насустрач Сонцу спачатку Леў, пад знакам якога і лічылася бітва, а потым першай сустрэла яго Панна, якая пры гэтым і згарэла ў полымі вечаровай зараніцы, як ахвяра ўсеспалення.

Пад «Адчыняючым Ўваход» давядзецца з падобнага астральнага боку гледжання разумець ці Змеятрымальніка, які настолькі выціснуты із сузор'яў Задыяка, што ў іх засталася адна яго пята і ён стаіць ў расколіне Млечнага Шляху, як ў адчыняючыхся дзьвярах, ці ж гэта само Сонца, адчыняючае ўваход дню. Але хто ж тады «публічная жанчына», яго маці? Ці не Андрамеда, з якой пачынаўся старажытны год? Паганцамі з гэтага боку гледжання былі метэарыты-персіяды, полымямёт якіх 10 жніўня, пры Сонцы ў Ільве, бачны нават пры іхным становішчы ў ніжнім мерыдыяне, ідучым знізу уверх, у накірунку да Нябеснага Пасада (сучаснай Касіяпеі).

Такім чынам, мы маем тут падзею гістарычную, але моцна астралізаваную, як і шмат іншыя ў Біблії.

– Што на небе прадказвала дэталі гэтай важнай бітвы, ратуючай месіянства? – запытваў пасьля яе сярэднявечны аўтар-астролаг, гледзячы на неба.

І ён далучыў нябесныя дэталі да свайго рэалістычнага апавядання.

Гэтая легенда трохі завяла нас у бок ад галоўнага прадмета гэтай часткі апавядання – разглядання ўсіх месцаў у Біблії, дзе згадваецца пра Аф-Рым, але і яна важная, каб правільна лакалізаваць яго ў прасторы і часе. Мы бачым, што яна вызначае вельмі позні час біблейскай кнігі «Суддзі», ды і саміх «суддзяў» із папярэднікаў рымскіх імператараў пераносіць у эпоху, наступіўшую ужо пасьля іхнага скасавання, калі сапраўды і з’явіліся першыя не фантастычныя рэспублікі на зямлі.

## VI.
## Аф-Рым – Папскі Рым.

Перадусім даследуем некаторыя месцы пра Аф-Рым у новазапаветных кнігах.

У евангеллі Яна (11. 54) паведамляецца, што пасьля таго, як ерусалімцы (г. азн. геркуланумцы ці пампейцы) задумалі забіць Езуса, «за прадказанне хуткага разбурэння іхнага горада», ён пайшоў адтуль у мясцовасць паблізу пустыні, у горад Аф-Рым[222], г. азн. у Рым, і гэта паказвае нам, што месца дзейнасьці евангельскага настаўніка было каля Рыма, г. азн. у тагачасным горадзе Цэзараў, у Пампеі-Цэзарэі.

---

[222] Згодна з грэцкім вымаўленнем Яф-рэм. Жыдоўская назва Рыма (РМ) – насарог, зараз вымаўляецца трыма спосабамі: Рам (Roma), Рым і Раім.

У першай кнізе «Хрыста» я дапусціў (каб не закідваць чытача новымі і новымі нечаканасьцямі), што гэта было палестынскае ўзбярэжнае мястэчка Кайсарыс, але найменне Кайсарыя ўжо навейшага паходжання, а ў старажытнасьці гэтае мястэчка мела назву проста Stratonis turris. Дакладна гэтак жа і Кападакійская Кесарыя звалася спачатку проста Мазакі, а потам Яўсевія. Гэта азначае у жыццяапісанні Вялікага цара (Васіля Вялікага) мы павінны дапусціць, што ён быў вярхоўным біскупам «Сталіцы тагачаснай імперыі», а не глухога мястэчка, дзе ён не мог бы мець ніякага ўплыву[223].

У пагадненні з гэтым у кнізе «Суддзі» (2. 8) гаворыцца, што «Езус, слуга Грамабоя, сын Прарока (ці рыбака)[224], пасьля сваёй сьмерці на 110 (кабалістычным) годзе быў пахаваны ў сваёй вобласьці, Сядзібе Сонца, на гары Аф-Рым, размешчанай на поўнач ад Гары Ўзрушэння (г. азн. Вязувія)»[225].

І тут мы зноў прыходзім да Рыма і нават узнікае пытанне, ці не сам Езус той камень (Пятро – па-грэцку), на якім, згодна са паведамленнем евангелля, «узвядзецца царква, якую не адолее брама пекла»?

Каля гэтай жа гары Аф-Рым знаходзіцца і горад, служачы сховішчам ад радавой помсты пад назвай Адгор'е[226].

«У гэты горад – сведчыць Кніга Быцця – прыйшоў Богазмагальнік і паставіў там ахвярнік богу багоў (Быц. 33. 18)». «Пад дубам каля яго ён закапаў статуі паганскіх багоў і ўсе іхныя ўпрыгожванні (35. 4) калі жудаснае ўзрушэнне[227] спасьцігла атачаючыя гарады» (35. 5). «Адтуль ён пайшоў у даліну, дзе пабудаваў ахвярнік у горадзе Выслізгвання (ЛУЗ) і назваў гэтае месца «бог сядзібы боскай» (35. 6).

Лічачы, што «бог сядзібы боскай» быў у Рыме, мы прыходзім да высновы, што Адгор'ем (Сіхемам) зваўся Неапаль, тым больш, што пра гэты ж горад, але ўжо пераселены ў Палестыну, грэцкія аўтары кажуць, як пра пераназваны ў Неапаль пры Веспасіяну (г. азн. Валентынане II, 378-387 гг.) пасьля яго разбурэння пры Яне Гіркане (пры чым адзначу, што Гірканамі называліся некаторыя із Макавеяў).

Яшчэ больш умацоўвае нас у гэтай думцы легенда пра Ёсіфа ў 37 главе кнігі Быцця.

«Богазмагальнік выправіў свайго шануемага сына Кратар Грамабоя (па-жыдоўску Ёсіфа) із даліны Сходу ў Адгор'е (Неапалітанскую вобласць[228]) паглядзець, ці цэлая яго быдла. Але Ёсіф не знайшоў тут нікога.

– «Чаго ты шукаеш? – спытаў яго мінак.

– «Маіх братоў. Дзе яны пасвяць?»

– «Я чуў, як яны казалі: пойдзем у «Месца закона».

[223] Першы том «Хрыста» быў напісаны яшчэ ў 1919 годзе, калі я быў у нерашучасьці, дзе лакалізаваць «сталіцу цэзараў», і таму пакінуў яе часова там, дзе яе і да гэтага часу змяшчаюць тэолагі. Перад друкаваннем першага тома мне прыйшло ў галаву адпаведна замяніць тэкст. Аднак жа раней чым будзе даказана, што Сіён і Сінай быў Вязувіем (а гэта можна было зрабіць толькі ў другім томе), перамяшчаць Васіля Вялікага проста ў Рым азначала б толькі даць лішнюю нагоду вінаваціць мяне ў самавольным тлумачэнні старажытных дакументаў. Я падумаў... і пакінуў часова Езуса (г. азн. Васіля Вялікага) там, дзе мы яго прызвычаіліся лічыць. Перавесьці яго на належачае месца, падумаў я, будзе больш зручным пасьля сейсмалагічнай часткі.

[224] Тут בן-נון (БН-НУН) – сын рыбака, пагадняецца з евангельскай легендай, але ў «перакладзе Сямідзесяці» стаіць Navi (נביא), і гэтае слова першапачаткова тлумачылася як прарок.

[225] געש (ЭР-ГЭШ) – гара ўзрушэння.

[226] שכם (ШКМ) – хрыбет, адгор'е.

[227] חתת (ХТТ) – разбурэнне, катастрофа, жах.

[228] חברון (ХБРУН) – сход і שכם (шум) – хрыбет, адгор'е.

«Кратар Грамабоя» пайшоў туды, і браты пабачылі яго яшчэ здалёк».

– «Заб'ём яго і кінем у жарала»[229], – сказалі яны.

– «Не! Кінем яго жывым, не забіваючы» – адказаў Раувін, маючы задуму потым выцягнуць яго на вяроўцы.

«Яны знялі з «Кратара Грамабоя» прыгожае адзенне, дадзенае яму бацькам, і кінулі ў жарала, якое тады было пустым.

«Потым яны селі абедаць.

«І вось ідзе із Галатыі караван арабаў з вярблюдамі, везшымі ў Міц-Рым духмяныя курэнні, араматычныя парашкі і бальзам.

– «Прададзім яго гэтым арабам» – прапанаваў багаслоўны (Юда).

«Усе пагадзіліся з ім і, калі медынцы (МДІН) праходзілі, браты выцягнулі «Кратар Грамабоя» з ямы і прадалі яго ім за 20 срэбранікаў, а арабы перапрадалі яго ў Міц-Рым.

«Пасьля гэтага браты закалолі казляня, аблілі яго крывёй адзенне прададзенага і, вернуўшыся да сядзібы, паказалі свайму бацьку.

– «Звер з'еў яго! – усклікнуў Богазмагальнік і разадраў сваё адзенне» (Быц. 34).

Мы бачым, што падзеі і тут відавочна пераносяцца ў наваколля Вязувія. Тое ж самае мы знаходзім і ў прароцтве «Боскага правядніка» (Іатама па-жыдоўску):

– «Ды выйдзе полымя ад бацькі Малоха (АБІ-МЛК) і ды пажарэ яно жыхароў «Адгор'я» (Неапаля) і сядзібу Насыпу (МЛУА), а полымя ад іх ды папаліць бацьку-Малоха» (Суд. 9.20).

У гэтым жа горадзе быў абвешчаны царом і «Пашыральнік народа» (РХБ-ЭМ – Раваам), якога мы ўжо атаясамілі з Ліцыніем[230]. Але за ім засталася толькі Краіна богаслоўя і веніямінцаў, а ўсё астатняе адышло да Заступніка народа (ІРБ-ЭМ – Ераваам), якога мы таксама ўжо атаясамілі з Кастусём І (І Ц. 12.1).

Што ж да самай краіны Аф-Рым, то выведнікам «Зямлі Запаветнай» ад яе быў Езус, сын прарока (ці Рыбака, Лічбы 13.8). Дзеці Аф-Рыма былі: «пітво абнаўлення» «права першарадства» і «малітва»[231], але ад «пітва абнаўлення» паходзіць «вораг-пілнуючы»[232].

Што значаюць гэтыя алегорыі?

Лічачы Аф-Рым за папскі Рым, мы можам выказаць здагадку, што пад «правам першарадства» маецца на ўвазе прэтэнзія рымскіх біскупаў на першынство; пад малітвай – набажэнства, а пад «пітвом абнаўлення – існаваўшы там да падзелу цэркваў такі ж праваслаўны звычай запівання асвечанага хлеба чырвоным віном, пры якім і ў наш час спяваецца на ўсім праваслаўным усходзе:

Прыходзьце, піва піем новае,
Не ад кеменя няплоднага цудадзеемае,
Але выратавання крыніца...

Аднак, ад гэтага «пітва», дадае легенда, утварыўся «вораг-пілнуючы», г. азн. нейкае кепскае шарлатанства, ладзіўшае, відаць, ператварэнне віна ў «сапраўдную кроў Езуса», за якое аўтар Апакаліпсіса назваў тагачасную пануючую царкву «вялікай распутніцай Брама Господняя» і дадаў: «у чарцы, у якой яна разводзіла вам сваё віно (нейкай «брыдотай і брудам») развядзіце ёй самай удвая (Апакал. 17.4).

---

[229] כבור (БУР) – яма ў зямлі, магіла. Тут гаворка відавочна ідзе пра жарала Вязувія ў перыяд яго спакою.

[230] Хрыстос. Кн. І.

[231] שת-לח (ШУТ-ЛХ), дзе ЛХ-бадзёрасць, здароўе, а Шут = ШТІ – зачараваннем і ШТІЕ – піццё; בכר (ВКР)– першарадство і תחן (ТХН) маленне.

[232] ערן (ЭРН) = ער (ЭР) – вораг-пілнуючы (Ліч. 26.35).

Але гэтая алегорыя чамусьці не спадабалася аўтару «Закінутай кнігі»[233] і замест вышэйпрыведзеных чатырох нашчадкаў Аф-Рыма (г. азн. атрыбутаў Рымскай царквы) ён налічвае цэлы шэраг іншых (І Параліп. 7, 20).

«Спачатку былі – сведчыць ён – пітво абнаўлення (паўторанае ў гэтым пераліку двойчы), распаўсюджванне, пекла (паўторана двойчы), будучы бог, надзел, дапамога і бог-сведка[234]. Але іх усіх забілі правадыры готаў (АШРІ-ГТ), выхадцы той зямлі, калі яны мелі намер захапіць сабе іхныя статкі. Аднак, Аф-Рым, аплакаўшы свае забітыя стварэнні, нарадзіў замест іх: новае прышэсьце, царыцу (царква), пакланенне, спаленне палымем, павешанне, вечнасць (пакут), богаслаўны народ, богаадчуванне, рыбу (як сімвал) і Езуса-Ратавальніка[235].

Вы бачыце, што тут апісана ўся гісторыя рымскай царквы з дапамогай таго ж лаканічнага спосабу, якім пачалі пісаць і некаторыя із сучасных пісьменнікаў. Вазьміце, напрыклад, хаця б прыгоды «Хуліа Хурэпіта» Эрэнбурга.

«Хуліа – чытаеце вы – падышоў. Зірнуў. Адломкі шкла. Раскіданая цэгла. Тры бярвёны асобна. Сёў. Падумаў. Пайшоў назад».

А тут вы толькі што прачыталі: «Дзеці рымскай царквы: Другое прышэсьце. Царыца (царква). Пакланенне. Спаленне полымем. Павешанне. Вечнасць. Багаслоўны народ. Богаадчуванне. Рыба – сімвал. Езус – Ратавальнік».

Дзе лепш? Ва ўсякім разе Эрэнбург не вынайшаў новага спосабу пісаць апавяданні. Гэты метад быў ужываемы даўно да яго. Але толькі чаму ж тут сімвалам хрысьціянства абрана рыба? Ды таму ж, чаму і ў нас для пазначэння Маскоўскай Акругі Шляхоў Стаункаў абрана сабака: мопс. Праўда, што мопса не малююць на дзвярах маскоўскай установы, а аддаюць перавагу пісаць на ёй літарамі яе імя МОПС, з нагоды вялікага развіцця ў нас пісьмовасьці. А ў старажытнасьці, калі пісьменных было мала, для адрознівання хрысьціянаў ад паганцаў малявалася на іхных сядзібах рыба, імя якой па-грэцку вымаўляецца ІХТІС і із гэтых літар выходзіць: Езус Хрыстос Теу Ійос Соцёр[236], г. азн. Езус Хрыстос Боскі Сын Ратавальнік.

Мы бачым, што і наш сучасны спосаб скарочанага пісьма не ўяўляе нічога новага. Ён таксама апярэджаны ў Бібліі. Але калі ж? Згадванне пра правадыроў готаў, якія прымусілі першапачатковую рымскую Арыянскую царкву напладзіць новых каталіцкіх сыноў, проста паказвае, што гэта было напісана ўжо пасьля ўсталявання ўлады над паўночнай Італіяй Тэадорыха Гоцкага, г. азн. пасьля 526 года нашай эры.

Мы бачым, што лінгвістычныя сьляды ў старажытных найменнях выяўляюцца часам больш надзейнымі кіраўнікамі пры гістарычных даследаваннях жыцця вельмі даўніх эпох, чым пісьмовыя паведамленні, і гэта вымушае мяне яшчэ раз спыніцца на найменні Кратар Грамабоя (Ёсіф па-жыдоўску), якім названы бацька гэтага Аф-Рыма, г. азн. Хрысьціянскай Рымскай царквы. З гэтага боку

[233] דברי ה-ימם (ДБРІ-Е-ІМІМ) – словы дадзеныя або словы мораў. Інакш перакласьці нельга, а тым часам у заходне-еўрапейскіх перакладах ўсюды пішуць замест гэтай паэтычнай назвы: хроніка, а ў нас пакідаюць без перакладу грэцкую назву: Параліпаменон, што азначае згубленыя справы, згубленая кніга.

[234] שות-לח (ШУТ-ЛХ), дзе שות (ШУТ) = שתיה = שתה (ШТІЕ) – пітво Божае і לח (ЛХ) – абнаўленне, бадзёрасць. А із астатніх стварэнняў ברד (БРД) – разсяленне: תחת (ТХТ) – праметная, пекла; עדה (АЛЭ-ЭДЕ) – будучы бог; זבד (ЗБД) – надзел; עזר (ЭЗР) – дапамога.

[235] בר-יעה (БР-ІЭЕ) – новае з'яўленне; שארע (ШАРЕ, – царыца) רפח (РФХ) – ушанаванне, схіленне; רשף (РШФ) – саленне палымем; תלח (ТЛХ) – павешанне; לעדן (ЛЭДН) ад עד = לדע (ЭД-ЛЭД – вечнасць); עם-יהוד (ЭМ-ІЕУД) – народ багаслоўяія; אלי-שמה (АЛІ-ШМЕ) – богаслуханне; נון (НУН) – рыба і יהושע (ІЕУШЕ) – Езус, Збаўца.

[236] Ιησους Χρςστος Θεου Υιος Σωτηρ.

гледжання выяўяецца, што Ёсіф Выдатны і быў сам евангельскі Хрыстос, толькі ў іншай легендзе пра яго. І ён быў прададзены Юдай за 20 срэбранікаў, але слупаванне тут заменена скіданнем у жарало Слупяной горы (Вязувія). А гэта ж найстаражытнейшае, а таму і больш правільнае паданне! Ці не ад слупа дыму над Вязувіем паходзіць і грэцкае слова: стаўрозіс, г. азн. слупаванне, ужываемае ў грэцкіх арыгіналах евангелляў кожны раз, калі згадвацца пра спосаб пакарання сьмерцю Езуса? Але ў такім выпадку варыянт кнігі «Быццё» мала адрозніваецца ад грэцкага тэксту евангелляў. Згадаем, што ў евангеллях паведамляецца, што пасьля «слупавання» Езус быў пахаваны ў магільні Ёсіфа Арыматэйскага. Але гэтае выказванне ў перакладзе на рускую мову азначае: ён быў пакладзены ў «кратар Грамабоя, Рыкаючага Ільва Магілы Гаспадняй»[237].

Мы бачым, што атрымліваецца цалкам нечаканае збліжэнне паміж легендай пра слупаванне Вялікага Цара-Ратавальніка і пра Праметэя, які здабыў для людзей боскае полымя (якім і можа быць полымя вулкана) і прыкутым за гэта да вяршыні гары... Ці не з'яўляюцца абедзьве гэтыя легенды толькі двума атажылкамі ад аднаго і таго ж кораня?

Мне скажуць зноў: неасьцярожна кіравацца аднымі лінгвістычнымі слядамі, яны вельмі пераблытаныя на гістарычным полі і лёгка могуць завесьці ў балота. Але як жа быць, калі ніякага іншага кіраўнка ў нас няма, таму што дайшоўшыя да нас із глыбіні стагоддзяў чуткі яшчэ менш заслугоўваюць увагі? Памяць жа пра самыя выбітныя падзеі ў нейкай мясцовасьці цалкам знікае праз тры-чатыры пакаленні, калі яна не была ўключана ў нейкія запісы.

Вось чытач у цябе самога было абавязкова чатыры прадзеды і чатыры прабабулі. Скажы мне: як пазнаёміліся вашы чатыры прадзеды з вашымі чатырма прабабулямі і як яны адружыліся? Дзе яны жылі? Хто памёр першым і як гэта перанёс застаўшыся ў жывых? Нават толькі гэта ж адно – тэма для цэлага рамана.

Але акрамя падобнай чыста сямейнай хронікі напэўна былі ў іхным жыцці і незвычайныя падзеі, зрабіўшыя ў свой час сенсацыю, пра што шмат распавядалася ў свой час і якія былі значна больш цікавымі за тыя, пра якія вы чыталі тут, хаця б пра Юду, паабяцаўшага казляня вулічнай жанчыне. Здавалася б, што кожная сямейная падзея, перадаючыяся ад бацькі да сыноў і ад маці да дачок з самага іхнага маленства, павінна была б захаўвацца вельмі трывала на працягу шматлікіх пакаленняў, а тым часам я ўпэўнены, што вы не зможаце назваць мне нават і імёнаў усіх гэтых васьмі такіх блізкіх вам людзей. А пра 8 вашых пра-пра-дзедаў і пра 8 пра-пра-бабуляў напэўна вы не паведаміце мне нічога, калі пра іх не захавалася запісаў ад таго часу. А лінгвістычныя сьляды захоўваюцца нашмат больш трывала. Вось, напрыклад, нядаўні выпадак із маіх асабістых назіранняў.

Гады за два да таго, як я пішу гэтыя радкі, прыйшла да нас вечарам адна народная настаўніца із вёскі Капані, размешчанай на адлегласьці каля трох кіламетраў ад маёнтка Барок, дзе я зараз пішу.

– Чаму ўсе баяцца хадзіць ноччу ў адзіноце праз Паўлушкін мост? – запытала яна мяне. – І чаму ён мае назву Паўлушкін? Каго я ні пытала пра гэта, ніхто нічога не ведае, але ўсе баяцца хадзіць ноччу ў адзіноце праз яго, так што і мне стала жудасна.

Гэтым разам я мог паведаміць ёй нагоду, таму што ведаў яе ў дзяцінстве ад сваёй старой няні Таццяны. Калі я з бацькай, маці і нянькай ехаў аднойчы тут

[237] יה-מטה-אריה סף-יו (ІУ-СФ АРІЕ-МТЕ-ІЕ) – Громайцаў кратэр, Леў грабніцы господняй.

толькі месцам звалкі, у якое звальвалі кучай із Еўропы ўсё, што лічылася не прыдатным для еўрапейскіх тэалагічных уяўленняў евангельскага перыяду, а таму і Ўзгорак Багоў мы таксама павінны шукаць у Сіцыліі.

Жыхары гэтага горада, быўшага радзімай Савула (г. азн. Аўрэліяна згодна з нашымі атаясамленнямі), «згвалтавалі – згодна са сведчаннем Кнігі Суддзяў – жонку аднаго лявіта із Аф-Рымскай гары» (Суддзі 19. 25), г. азн. проста, паўсталі супраць пануючай рэлігіі.

Усе богазмагальнікі і наперадзе ўсіх богаслаўныя, узброіліся за гэта на Ўзгорак Багоў і аблажылі яго. Змаганне спачатку ішло паспяхова для абложаных: яны забілі 22 000 богазмагальнікаў пры першым жа іхным прыступе. Запытаны Грамабой загадаў богазмагальнікам, каб яны ішлі зноў на прыступ, але і на гэты раз яны толькі страцілі без карысьці 18 000 чалавек.

«Яны пачалі горка плакаць перад Грамабоем і ён адказаў ім, што ў трэцці раз неадменна перадась горад у іхныя рукі» (Суддзі 20. 28).

Але, відавочна, яны згадалі тут прыказку: «на бога спадзявайся, а сам не рабі прамахаў» і таму размясьцілі засаду каля горада і, падыйшоўшы да яго сьцяны, зараз жа прытворна пабеглі ад бэн-імінцаў, а тыя неасьцярожна пагналіся за імі. «Калі ўсе былі ўжо далёка, засада ўступіла ў горад і ўразіла мячом усіх застаўшыхся там жыхароў, і над горадам пачаў уздымацца вялізны слуп дыму (Лічбы 20.40) і паднімацца да неба». Бэн-імінскія ваяры, перасследаваўшыя збягаўшых ад іх богазмагальнікаў, так напалохаліся гэтага слупа дыму над сваім горадам, што нават не паспяшаліся вярнуцца на дапамогу сваім пакінутым жонкам і дзецям, а пабеглі яшчэ далей, і, страціўшы ў змаганні 18 000 чалавек, заселі на скале Гранатавага дрэва (РМУН), дзе і праседзелі тры месяцы (сілкуючыся невядома чым). А богазмагальнікі тым часам вынішчылі ў іх усё застаўшаяся насельніцтва і спалілі ўсе іхныя сядзібы. Ад усяго пакалення Бэн-Іміна засталіся адны толькі «ваяры на скале».

«Пабачыўшы гэта, раскаяўшыяся пераможцы прыйшлі ў сядзібу бога і пачалі горка плакаць, кажучы:

– «Для чаго, Грамабой, здарылася так, што раптам не стала аднаго із кален Богазмагальніка?»

«Яны сабраліся на ахвяраванне ў Вартаўнічую Вежу (М-ЦФЕ), і пабачыўшы, што туды не прыйшоў ніхто із Галацкай зямлі, выправілі 12 000 ваяроў, каб вынішчыць усё яе насельніцтва, акрамя неадружаных дзяўчат, якіх загадалі прывесьці на скалу(?!) і аддалі ў якасьці жонак застаўшымся бэн-імінцам. Выканаўшы загад, ваяры прывялі 400 дзяўчат, якіх і аддалі, але іх было недастаткова для 600 ваяроў.

– «Што рабіць? – зноў запыталі 11 кален богазмагальніка. – Ідучы ў бой, мы пакляліся не даваць ім у якасьці жонак нашых дочак... Дык вось хто зробім! У Сіломе, на поўнач ад сядзібы бога, бывае штогадовае сьвята Грамабою. Хай бэн-імінцы, не атрымаўшыя жонак, засядуць у вінаградніках, і калі сіломскія дзеўкі будуць скакаць у карагодах, хай усе выскачаць із засады, і кожны схопіць сабе жонку із гэтых дзяўчат».

«Так і зрабілі бэн-імінцы. Яны выскачылі із вінаградніку, схапілі па дзеўцы і, аднавіўшы свае гарады, пачалі жыць у іх зноў» (Кн. Лічбы, 21, 23).

Чытач бачыць сам, што заканчэнне гэтай легенды цалкам спісана із выкрадання сабінянак, г. азн. жыхарак паўночнага Лацыума ў Італіі рымлянамі пры Ромуле (г. азн. пры Аўрэліяну згодна з нашымі параўнаннямі). Гэта тая ж самая легенда ў двух варыянтах, а пачатак яе губляе сваю абураючую для нябёсаў

недарэчнасць, калі мы будзем лічыць, што яна мае намер патлумачыць нам разбурэнне нейкага горада паблізу Месіны пры вывяржэнні Этны.

– Навошта – запыталі сябе людзі – багі знішчылі некалькі гарадоў, так што загінулі ў іх і жанчыны, і дзеці, і выратавалася толькі 600 чалавек, пайшоўшых на вайну?

– За згвалтаванне жонкі лявіта, няйнакш – адказвалі яны на ўласнае пытанне, ці, хутчэй, такое тлумачэнне надалі ім іхныя ўласныя лявіты, як і ў іншым выпадку падобным жа грахом было патлумачана і разбурэнне Садома і Гаморы (Геркуланума і Стабіі).

У пагадненні з лакалізацыяй бэн-імінцаў у Сіцыліі і напісаннем горада МЦ-ФЕ, дзе збіраліся на багамолле богазмагальнікі, ва ўсіх старажытных перакладах чытаецца Месіфа, сугучна з Месіна.

* * *

Вышэй мы разгледзелі і па магчымасьці лакалізавалі 12 кален народа-богазмагальніка, і выявілася, што ўсё яны існуюць да нашага часу. Дзеці яго венчанай жонкі (Лаі), гэта ўсходнія народы: лівійцы (дзеці Левія), ягіпцяне (дзеці Рувіма), арабы (дзеці Сымона), сірыйцы (дзеці Юды), малазійцы-туркі (дзеці Ісахара) і грэкі (дзеці Звулона). Дзеці яго каханай жонкі Авечкі (Рахілі) выявіліся рымлянамі (дзеці Аф-Рыма) і ламбардцамі (дзеці Манашэ), замяніўшыя Ёсіфа, кратар Грамабоя. А самы малодшы сын Авечкі Бэн-Імін ці, дакладней, Бэн-Імім, сын мораў, лакалізаваны ў Сіцыліі.

Потым ідуць дзеці Богазмагальніка ад дзвюх яго наложніц, г. азн. народы, спачатку не меўшыя правоў рымскага грамадзянства. Ад першай наложніцы Бэлы (bellum? вайна?) прыслужніцы Авечкі, паходзім мы – славяне, народжаныя Бэлай «на калені каханай жонкі Богазмагальніка» і маючыя ў Бібліі назву данайцы (дзеці Дана), жывучыя за Дунаем (Danau) і Донам, і нават рымскае выслоўе пра нас: «timeo danaos et dona ferentes» (баюся дунайцаў нясучых дарункі) захавалася ў перадсьмяротных словах кульгавага богазмагальніка: «Дан будзе змеем на дарозе, аспідам на шляхі, уражваючым пяту каня, так што вершнік зваліцца ніц. На дапамогу тваю спадзяюся, Грамабой!» (Быццё 49. 18).

Другім сын Бэлы быў Нафтлі-Змагар, акультная назва гала-француза. Сынамі Зелфы (Silva?) былі: Правадыр (Ашур), акультная назва германца, і Шчасьлівы (Гад) – акультная назва маўра і гішпанца таго часу. Мы бачым, што тут пералічаны ўсе галоўныя народы сярэднявечча, прызнаваўшыя Біблію за сьвятую кнігу, і складаўшыя на пачатку сярэдніх стагоддзяў і ў іхнай сярэдзіне адно культурнае цэлае.

Само сабой зразумела, што спатрэбіцца не мала часу і намаганняў, каб лакалізаваць сотні яшчэ не перакладзеных да гэтага часу жыдоўскіх акультных найменняў, сустракаючыхся ў розных месцах Бібліі. Але толькі пагадзіўшыся з нашым бокам гледжання, і магчыма спадзявацца на поспех, а працягваць зацята шукаць усе гэтыя мястэчкі і гэтых дзеячаў на маленькім пустыным лапіку зямлі каля наваколля Мёртвага Мора цалкам безсэнсоўна, ужо згодна з адным тым меркаваннем, што тэолагі ўсяго апошняга тысячагоддзя чалавечага жыцця на зямлі, з неймавернымі высілкамі спрабавалі знайсьці там гэтыя сотні мястэчак і дзеячаў, і... не змаглі.

# ЧАСТКА ТРЭЦЦЯЯ

## Кніга Быццё ў навуковым асьвятленні



Мал. 127.
*Смутныя бачанні абуджаючагася чалавечага ўяўлення. (частка карціны Карла Тутгерца).*

# ГЛАВА I.

## На пачатку зямнога жыцця.

Біблейская кніга «На пачатку» з’яўляецца першай спробай чалавецтва высьветліць паходжанне ўсяго на сьвеце.

Гэтая кніга ў рускім перакладзе мае няўдалае найменне «Быццё». На заходне-еўрапейскіх мовах яе загаловак значна лепшы: «Генэзіс», а ў біблейскім арыгінале яна мае назву «На пачатку»[283].

Як паказвае сам гэты загаловак, яна мае на мэце вызначыць пачатак усяго на сьвеце, як на нябёсах, так і на Зямлі. Акрамя таго яна адмыслова (хаця і із чыста перспектыўнага боку гледжання берагоў Міжземнага мора) дае і кароткую гісторыю найбліжэйшых народаў, да часоў з'яўлення на сьвет яе самой, і адначасова імкнецца патлумачыць паходжанне ў жыцці дабра і зла.

Надземная частка сусьвету ў ёй часта мае назву «нябёсы» (ШМІМ), у множным ліку, а не проста неба (ШМІ).

Гэтая тэрміналогія пагадняецца і з іншымі біблейскімі кнігамі, у якіх згадваецца часам нават пра нябёсы нябёсаў.

---

[283] ב-ראשית (В-РАШІТ), пры гэтым РАШІТ азначае – пачатак.

«Грамабою, твайму богу – паведамляе, напрыклад, Другазаконне (10. 14) – належыць і неба, і нябёсы нябёсаў, і зямля, і ўсё, што на ёй».

Гэта азначае, над небам, якое накрывае зямлю, ужо мяркуецца існаванне і некалькіх нябёсаў[284], і гэта вымушае думаць, што кніга «На пачатку» падобна астатнім біблейскім кнігам была напісана ўжо пасьля Пталямея, які абвясьціў шарападобнасць зямлі і восем крышталічных сферычных нябёсаў вакол яе (мал. 128).

Але гэтая сістэма, відаць, яшчэ не была выразна засвоена аўтарамі Бібліі, таму што ў ёй згадваецца і пра падставы і слупы нябёс.

– «Здрыганулася і затрэслася зямля і завагаліся падставы нябёс» – спявае «Ўмілаваны (Давыд)» у другой кнізе Самуіла[285].




Мал. 128.

*Нябёсы нябёсаў. У цэнтры шарападобная стыхія – Зямля, дзе правая палавіна – Азія, левая – Яўропа, а ўнізе злева – Афрыка, кожная па 1/4 кола. А на чацвёртай чвэртачцы намаляваны Індыйскі акіян, на дне якога для сіметрыі меркавалася, магчыма, патануўшая Атлантыда. Вакол зямлі, відаць, другая стыхія – вада, у якой плаваюць тры рыбы. Вакол вады трэцяя стыхія – паветра, а вакол паветра чацьвёртая стыхія – полымя (зараз светаносны эфір). Потым ідзе неба Месяца, неба Меркурыя, неба Венеры, неба Сонца, неба Юпітэра, неба Сатурна. А вышэй усіх – неба 12 сузор'яў Задыяка, із якіх кожнае пазначана сваім астралагічным сімвалам. Па кутах – чатыры анёлы вятроў (чатыры Эолы). Із кнігі Сакрабуста (Sacrobusto:Sphaera Materialis) 1516 г. Кнігасховішча Пулкаўскай абсерваторыі.*

– «Слупы нябёс дрыжаць і сутрасаюцца ад яго гневу» – кажа Ёў (36. II ).

«На 600-м годзе жыцця Нэха (Ноя) у 17 дзень 2-га месяца (каля красавіка) расчыніліся ўсе крыніцы вялікай бездані, адчыніліся нябесныя вокны» – паведамляе нам кніга «Генезіс» пра пачатак усеагульнага патопу – «і быў дождж на зямлі 40 дзён і 40 начэй».

[284] ה־שמים ח־שמים ו־שמי (Е-ШМІМ Е-ШМІ У-ШМІ) – нябёсы нябёсаў і неба (Другазаконне 10, 14).

[285] Самуіл II. 228. У рускім перакладзе гэта – другая кніга «Цары».

А на вяршыні самага высокага із усіх нябёс Біблія бачыць яшчэ нешта падобнае на кілімка пад пасадам бога багоў:

«Майсей і Арон, Надаў і Аб-Іе і 70 старэйшын Богазмагальніка ўзышлі на вогнедыхаючую гару (г. азн. на Вязувій) і бачылі адтуль богазмагальніцкага Аллаха (АЛЕХІ), пад нагамі якога было нешта падобнае на выраб із бліскучага сапфіру і чыстае як самі нябёсы».

Тут звяртае на сябе ўвагу не толькі параўнанне нябёсаў з сапфірам, выказанае тымі ж самымі словамі, як і ў Апакаліпсісе, маючым цалкам арыгінальны, а не пераймальны характар, але і тое, што здзіўляе на першы пагляд больш за ўсё, а менавіта, што да Майсея і Арона аўтар дадаў яшчэ і двух цароў: Надава і Аб-Ію[286], якіх звычайная тэалагічная храналогія адносіць да прыяду роўна на 500 гадоў пазьней сьмерці Майсея і Арона. Што гэтыя Надаў і Аб-Іе не выпадковыя аднаімёнцы двух такіх жа цароў-суваладароў, бачна із таго, што яны пастаўлены каля Майсея і Арона і вышэй сямідзесяці багазмагальніцкіх старэйшын (на-лаціне сеньёраў). Але мы ўжо ведаем, што Надавам быў Кастусь II, пераемнік Кастуся Вялікага, а Аб-Іу быў, відаць, бацькам евангельскага Езуса. Усё гэта мімаволі наводзіць на думку, што і паказанае тут уяўленне пра некалькі нябёсаў над зямлёй мае дачыненне не раней як да часу Нікейскага сабора, які із Віфініі, дзе яго звычайна размяшчаюць, я вельмі схільны перанесьці да падножжа Вязувія (ці ў Ніцу) грунтуючыся на мекаваннях, пра якія яшчэ буду разважаць.

Дакладна гэтак жа ў першай частцы біблейскай кнігі «На пачатку», звяртае на сябе сур'ёзную ўвагу і яшчэ адна акалічнасць: «стваральнік сусьвету» заўсёды ў ёй мае назву не Йёве (лацінскае Йёвіс, грэцкае Зеўс), як у прарокаў, а арабскае найменне АЛ, сугучнае з грэцкім найменнем Сонца – Эліяс. Але на здзіўленне слова АЛ (бог) ужываецца тут не ў адзіночным ліку, як па-арабску, а заўсёды ў множным (АЛЕІМ), г. азн. багі, у чым яшчэ і раней мяне бачылі ўказанне на існаваўшае ў той час шматбожжа. У гэтым, вядома, і немагчыма сумнявацца, бо ў кнізе «Быццё» ўвесь час забараняецца ўшаноўваць чужых багоў, што несумяшчальна з адмаўленнем іхнга існавання.

Вось чаму, імкнучыся перадаць у сваім выкладанні сапраўдныя ўяўленні аўтараў розных біблейскіх кніг (інакш мае пераклады былі б такой ж адсябецінай, як і сучасныя тэалагічныя), я слова АЛЕІМ перакладаю: «багі». А ў тых выпадках, калі далейшы сэнс фразы паказвае, што ўвесь гэты «боскі пантэон – АЛЕІМ – уяўляецца ўжо як адна асоба, я перакладаю яго ці бацька багоў ці бог-Бацька, адпаведна значэнню яго лацінскага імя Юпітар (г. азн. Ю-Патар – Егова-Бацька).

У першай главе біблейскай кнігі «На пачатку», мы не маем іншага імя для стваральніка сусьвету, акрамя «багі». Таму і перакладаць тут гэта слова даводзіцца ў множным ліку, тым больш, што гэтыя «багі» і кажуць пра сябе мы, а не я, як у першым запавеце Майсея.

З такімі патрэбнымі папярэднімі тлумачэннямі я і прыступаю зараз да перакладання пасьлядоўных главаў кнігі «На пачатку», перамяжоўваючы з маімі тлумачальнымі заўвагамі ці разважаннямі, без якіх шмат што ў іх здаецца цалкам недарэчным.

## I.
## Стварэнне Сусьвету.

[286] נדב (НДБ) – шчодрадавальнік і אב־יהו־א (АБ-ІУЕ-А) бацька Зеўса-Іеговы, па-грэцку ж стаіць Аб-Іуд бацька юдаізму.

«На пачатку багі стварылі нябёсы і паднябессе, але паднябессе было пустым і не маючым формы. Непраглядаемы змрок ляжаў над яго безданню і толькі боскі вецер насіўся над паверхняй яго вады»[287].

– «Ды будзе сьвятло – прамовілі «багі», і стала сьветла.

«Багі пабачылі, што атрымалася добра. Яны аддзялілі празрыстае сьветлае паветра ад непразрыстага змроку і назвалі першае паветра дзённым, а другое – начным. І прайшло змярканне (і ноч) і прайшоў світанак першых сутак сьветастварэння».

Мы бачым тут, што ўяўленне пра паходжанне світання дзякуючы рэфракцыі ў нашай атмасферы праменяў яшчэ не ўзыйшоўшага Сонца цалкам адсутнічала падчас стварэння гэтай легенды. Заўважаючы, што наваколле робіцца празрыстым для позірку за некаторы час да ўзыходу Сонца і застаецца такім жа некаторы час і пасьля яго заходу, стваральнікі гэтай легенды лічылі Сонца больш за простае ўпрыгожванне дня, чым яго першапачатковай падставай, хаця, вядома, і не адкідвалі існаванне прамянёў ні ў яго, ні ў начных сьвяціл. Акрамя таго, як мы бачым, суткі тут заканчваюцца не вечарам, як у сучасных рабіністаў, і не апоўдні, як у сучасных астраномаў, і нават не апоўначы, як у большасьці сучасных культурных людзей у грамадзянскім жыцці, а пасьля заканчэння світання, у момант, калі над гарызонтам узыходзіла Сонца.

«Багі сказалі: «ды будзе цьвёрдая перашкода пасярод сусьветнай вады» і стала так – працягвае легенда. – Багі аддзялілі яе ніжнюю (наземную і падземную) ваду ад верхняй (хмаравай) над ёю. Яны назвалі цьвёрдую перашкоду нябёсамі. І вось надышло змярканне (і ноч) і прайшоў світанак другіх сутак сьветаўтварэння».

Так патлумачыў сабе першабытны розум блакітную заслону дзённага неба: гэта верхняя вада бачна праз крышталічнае цьвёрдае скляпенне неба. Калі адчыніць яе заслонкі, то яна пальецца дажджом із ніжняга із нябёсаў, па якому ходзяць аблокі. Тут, як мы бачым, яшчэ засталіся рэшткі першапачатковых уяўленняў пра адзінкавае крыштальнае неба.

«Багі сказалі: ды збярэцца вада пад нябёсамі ў адно месца (у басейн Міжземнага мора і ў акіян навокал) і ды з'явіцца суша – і стала так. Яны назвалі сушу зямлёй, а месца збірання вады морам, і пабачылі, што атрымалася добра». «Ды выгадуе зямля расьліны: травы, сеючыя сваё насенне, дрэвы, прыносячыя плады з насеннем у іх, кожнае згодна са сваім родам – дадалі яны – і стала так. Яны пабачылі, што выйшла добра, і вось прайшло змярканне (і ноч) і прайшоў світанак трэцціх сутак сьветастварэння».

«Багі сказалі: ды будуць сьвяцілы ў цвердзі нябёсаў для аддзялення дня ад ночы, і ды будуць яны служыць для знаменняў і пазначэння тэрмінаў (МУЭРІМ), і дней, і гадоў і ды будуць яны сьвяцільнікамі ў цьвёрдай абалонцы неба, каб сьвяціць на зямлю. І стала так. Багі стварылі два вялікія сьвяцілы: большае для кіравання днём, і меншае для кіравання ноччу і стварылі зоркі. Яны пабачылі, што атрымалася добра і вось прайшлі змярканне (і ноч) і прайшоў світанак чацьвёртых сутак сьветастварэння».

«Багі сказалі: ды створыць вада жывыя душы рыб і поўзаючых, жывёлаў і ды паляцяць птушкі над зямлёю перад тварам цьвердзі нябёсаў. І стала так. Багі пабачылі, што атрымалася добра, блаславілі іх і сказалі: пладзіцеся і памнажайцеся і напаўняйце марскую ваду і зямлю. І вось прайшло змярканне (і ноч) і прайшоў світанак пятых сутак сьветастварэння».

---

[287] מים (МІМ) – вада.

«Багі сказалі: ды створыць зямля жывыя душы, кожную свайго роду: траваядных жывёл, земнаводных і зьвяроў. І стала так. Багі пабачылі, што выйшла добра і сказалі: Створым зараз чалавека (АДМ) згодна з нашым ўласным выглядам і падабенствам, і хай ён пануе і над марскімі рыбамі, і над нябеснымі птушкамі, і над траваяднымі жывёламі, і над паўзунамі, і над усёй зямлёй. І стварылі яны чалавека, мужчыну і жанчыну, блаславілі іх і сказалі: пладзіцеся і памнажайцеся, напаўняйце зямлю і валодайце ёю. Мы далі вам у ежу кожную насенную траўку, якая ёсць на паверхні Зямлі, і кожнае дрэва, прыносячае плады. І пабачылі багі, што добрым было ўсё, што яны стварылі. Вельмі добрым! І вось прайшло змяркание (і ноч) і прайшоў світанак шостых сутак сьветастварэння».

«Так былі створаны нябёсы і зямля і ўсё іхнае ўладкаванне – заканчвае сваё апавяданне гэтая першая тэорыя ўзнікнення сусьвету – і адпачывалі багі на сёмы дзень. Закончыўшы да яго ўсе свае справы, яны дабраславілі і пасьвяцілі яго».

Радок пра сёмы дзень знарок перанесены ў другую частку грунтуючыся на кабалістычных меркаваннях. Справа ў тым, што на біблаcкай гаворцы арабскай мовы, на якой напісаны большасць біблейскіх кніг, слова «На пачатку» пішацца ВРАШЫТ і яго можна падзяліць на два: ВРА – ствараць і ШЫТ – шэсць. Гэта азначае на гэтым шостым пункце і патэбна было закончыць пачатковую частку.

Гэты ж кабалістычны падзел слова «врашыт» (на пачатку) дае нам магчымасць аднавіць і ход думак аўтара, які ўпершыню стварыў разгледжаную намі легенду пра стварэнне сусьвету. У старажытнасьці, дзяуючы вузкасьці разумення першабытнага навукоўцы, не ведаўшага замежных моваў ці ведаўшага іх дрэнна, усе словы яго роднай мовы здаваліся яму як бы ценямі пазначаемых імі рэчаў, і ён думаў, што магчыма аднаўляць і ўласьцівасьці, і паходжанне разнастайных прадметаў грунтуючыся на сугучнасьці іхных назваў з назвамі іншых рэчаў.

Гэта, вядома, было часта вельмі проста:

– Што азначае світанак? – запытаў бы сябе першапачатковы розум старажытнага рускага мудрагеля.

– Вядома: раз і сьвятло – адказаў бы ён.

– Што азначае: сьветастварэнне?

– Вядома: сьвет і стварэнне.

Дакладна гэтак жа, калі б кабаліст размаўляў па-руску і яго запыталі б: «што было на пачатку»? – то ён, з некаторай нацяжкай, якая заўсёды ўжывалася сярэднявечнымі месіянскімі кабалістамі, адказаў бы:

– На «пачатку» былі, відавочна, ночы пунсовыя.

А біблейскі кабаліст, у якога слова «На пачатку (ВРА-ШЫТ) сугучна раскладалася на «стварыць (ВРА) і шэсць», натуральна прыйшоў «да адкрыцця», што ўсё на Сьвеце стварылася на працягу шасьці дзён, а сёмы дзень быў прысвечаны адпачынку багоў. Гэта, вядома, магло быць пазней прыведзена ў сувязь з сям’ю планетамі, із якіх адно сонца мае святочны выгляд, і з сям’ю металамі, із якіх выключную каштоўнасць мае адно золата, але падстава была чыста кабалістычная, і гэта раскладанне належыць нават і не мне, а ўзята мной із самай кабалістыкі і толькі патлумачана рускімі ўзорамі для лепшага разумення яе дзіцячага метаду.

Пасьля падобнага папярэдняга абгрунтавання, заставалася толькі прыдумаць, у які із шасьці дзён было створана тое ці іншае із існуючага на сьвеце, і тут, вядома, дзейнічалі перадусім чыста суб'ектыўныя мяркаванні, дзякуючы чаму і

было не мала спрэчак паміж старажытнымі мудрацамі, перш чым яны прыйшлі да высновы, што на першыя суткі патрэбна аднесьці стварэнне саміх сутак, г. азн. аддзяленне «празрыстага» паветра ад «непразрыстага», што на другія суткі павінна аднесьці аддзяленне нябеснага сьвету ад зямнога, на трэцція – аддзяленне ў зямным сьвеце сушы ад мора, ды і стварэнне расьлін давялося аднесьці сюды ж нехаця, каб не пакідаць занадта шмат на пяты і шосты дні тварэння. Таму і атрымалася, што расьліны, якія жывуць на кошт прамяністай энергіі Сонца, выявіліся створанымі яшчэ да Сонца і да нябесных сьвяцілаў, якія былі створаны толькі на наступны чацьвёрты дзень.

Усе гэтыя неадпаведнасьці не былі заўважаемымі для першабытнага чалавечага розуму, яшчэ і не падазраваўшага пра існаванне вечнагаператварэння фізічнай энергіі із адных яе відаў у іншыя і пра стварэнне клетачак расьлін з дапамогай прамяністай энергіі Сонца.

## II.
## Біблейскі рай.

Ужо даўно было заўжана, што змест другой часткі біблейскай кнігі «На пачатку» (пасьля яе пятага радка) не адпавядае зместу першай часткі. А калі да гэтай першай дадаць і першыя чатыры радкі другой, то губляецца не толькі лагічная, але нават і лінгвістычная сувязь першай часткі з яе астатнімі главамі.

Адносна лінгвістычнай сувязі даводзіцца заўважыць, што ў першай частцы той, хто быццам бы стварыў сьвет на працягу шасьці дзён і лёг спачываць на сёмы, суботні, мае назву алеім (АЛЕІМ), г. азн. багі, таму што па-біблейску канчатак ІМ з‘яўляецца пазначэннем множнага ліку да слова АЛЕ – бог (па-арабску АЛА), і на гэтую акалічнасць ужо паказвалі, як на перажытак першапатковага стварэння гэтай легенды пры існаванні шматбожжа і сонцашанавання ў выглядзе фанетычнага падабенства слова АЛЕ з грэцкай назвай сонца Эліяс.

А ў другой частцы фігуруе ўжо імя ІЕВЕ АЛЕІМ, перакладзенае на ўсе мовы із няправільнага грэцкага перакладу выразам: пан Бог, хаця граматычна на біблейскай мове гэта можа азначаць толькі Існы із багоў ці Будучы із багоў. Калі ж лічыць, што не лацінскае Іеве-Патэр (скарочанае потым у Юпітар) паходзіць ад біблейскага Іеве, а наадварот, то патрэбна перакладаць імя бога ва ўсёй Бібліі не пан Бог, як робяць тэолагі, а Юпітар, ці Бацька багоў.



*Паднябесныя галінкі на вяршынях дзвюх пальмаў, паднімаючыхся із зямнога раю. Экліптыкальныя і геапалярныя мерыдыяны.*

Мал.129.



Мал.130.
*Знізу вяршыня Пальмы зямнога жыцця, угары вяршыня Пальмы спазнання, на якой сядзіць Змей Спакуснік (сузор'е Цмока, із Фламарыёна).*

Толькі ў такім выпадку і атрымліваецца пагадненне біблейскай тэалогіі з класічным пантэонам. Інакш паміж старажытнымі еўрапейскімі багамі і біблейскімі (із якіх некалькі дакладна тоесны з класічнымі) мы паставім штучную перашкоду. Так, у Бібліі бог час ад часу мае назву Адона, і відавочна зразумела, што пад гэтым найменнем у яе патрапіў грэцкі Адоніс, ці ж сам грэцкі Адоніс быў перанесены ў Эладу із Бібліі, і, ва ўсякім разе, падзяляць іх на двух асобных багоў азначае тэндэнцыйна пераіначваць былую рэчаіснасць.

Чытач ужо ведае із прадмовы да першага тома гэтай кнігі, што жадаючы неяк выбрацца із хаосу наданых нам, неадпавядаючых рэчаіснасьці, уяўленняў пра старажытных багоў, я вырашыў замест Зеўса, Ёвіса і Іеве ўжываць іх агульны атрыбут – Грамабой, што я буду рабіць і далей.

Зараз вернемся да лагічнай неадпаведнасьці першай часткі Бібліі з другой.

У першай паведамляецца, што на трэцці дзень «багі» (АЛЕІМ) сказалі: «ды выгадуе зямля зеляніну, траву сеючую насенне і дрэвы, якія прыносяць плады, і стала так» ( I. 11). А на шосты дзень «стварылі багі чалавека згодна з уласным выглядам і падабенствам», стварылі яны яго ў выглядзе мужчыны і жанчыны ( I. 27).

Із гэтага зразумела, што ў першай частцы і мужчына, і жанчына былі створаны самастойна «згодна са славамі багоў» і ужо на трэцці дзень пасьля расьлін.

Цалкам іншае ў главе два, дзе жанчына ствараецца ўжо пазней із рабра першага чалавека знаходзячагася «ў раю».

Гэты «рай» арыгінальны. У ім пад найменнем Дрэва Жыцця без сумневаў апісваецца ўяўляемая парасонавая пальма, быццам бы растучая да неба на паўночным полюсе зямлі, з вяршыняй каля палярнай зоркі і служачая воссю вярчэння нябеснага скляпення, па якому яна раскінула ў выглядзе парасона свае пёрыстыя галіны – 12 галоўных мерыдыянаў узятых разам з прылягаючымі да кожнага із іх пёрыстымі атажылкамі паралеляў (мал. 129). А пад выглядам Дрэва Спазнання Праўды і Памылак (дабра і зла) апісана другая такая ж парасонавая пальма, паднімаючаяся таксама із цэнтра зеляніны, але вяршыня якой, быццам бы

калышачуяся нябесным віхуром, штосутачна апісвае кола каля першай і служыць для кругазвароту Сонца, Месяца і планет. Грунтуючыся на іхных рухах паміж пёрыстымі галінамі гэтай другой таямнічай пальмы (на вяршыні якой сядзіць і да гэтага часу, у выглядзе сузор'я Цмока, Змей Спакуснік (мал. 130), паказваючы няправільнасць таго, што бачыць наша вока), старажытныя меркавалі спазнаваць будучыя падзеі, як добрыя, так і дрэнныя, і таму зразумела, што яна атрымала назву Дрэва Спазнання, ад пладоў якога чалавеку было забаронена частавацца, каб людзі не набылі ўсёведання, як багі. Але «жанчына» спакусіла мужчыну паспрабаваць ад пладоў гэтага дрэва прапанаваных сузор'ем Цмока... Якая ж гэта жанчына?

Зірніце на дададзеную зорную мапу (мал. 131) і вы пабачыце самі.

Пальмападобныя галіны, ідучыя з вяршыні Дрэва Жыцця і Дрэва Спазнання, сходзяцца паміж сабой ў сузор'і Панны. Тут першапатковая кропка (і пад час першых стагоддзяў нават каля самога Коласа Панны) для пераходу ад геацэнтрычных каардынат да экліптыкальных, ад Дрэва Жыцця да Дрэва Спазнання, і вызначэнне тут кропкі перакрыжавання абодвух дрэваў дало поўную магчымасць узнікнення нябеснай механікі. І за гэтую дзёрзкасць, нададзеную змеем Спакушальнікам, Адам і яго жонка Ева (ці па-жыдоўску Хая, што азначае Жыццё) былі прагнаны із рая першастворанных дзяцей прыроды...

Дарэчы, мы можам паглядзець тут на справу і з іншага боку. Вядома, што маючыяся на нашых зорных астранамічных атласах міфічныя фігуры былі ўпершыню намаляваны Альбрэхтам Дзюрэрам у Нюрэмбергу каля 1500 года нашай эры, грунтуючыся толькі па вусных паведамленнях сучасных яму астраномаў.

*М.Конь*

*Арол Дэльфін Пегас*

*Ліра Лебедзь Андрамеда Авен*

*Змеятрымальнік Геркулес Цмок Цэфей Касіяпея Пярсей Цялец*



*Зьмей Паў.Вянок Мал.Мядзведзіца Пярсей Арыён*
*Валапас Вял.Мядзведзіца Двайняты*
*Валасы Веранікі Рак Мал.Сабака*
*Панна Леў Галава Гідры*

Мал.131

*Біблейскі Рай (із рукапісаў Грінбешэра 1609 г., захоўваючыхся ў бібліятэцы Пулкаўскай абсерваторыі. Люстэркавая выява глобуса.*

Ці правільна яны былі намаляваны? Бяспрэчна, толькі набліжана і гэта станавіцца зразумелым грунтуючыся ўжо толькі на адным тым, што ў задыякальных сузор'ях не захавана раўнамернасць у 30°, а потым каля кропкі вясновага раўнадзенства атрымліваецца і проста недарэчнасць. Пегас ляціць па небу ўгару нагамі, чаго не мог бы нават і ўявіць сабе ніводзін старажытны астролаг: гэта яму было б проста сьмешным. Відавочна, што старажытныя навукоўцы паднімалі галаву Пегаса да Лебедзя, а ногі апускалі ў Сузор'е Рыб, да зямлі. Дакладна так жа і Андрамеда вісіць, прыкутая да Млечнага Шляху каля галавы Цэфея бокам, як сьцяг із тканіны, развяваючыся па ветру. Зразумела, што і гэта прыдумка Дзюрэра, які ўяўляў сабе неба толькі грунтуючыся на звычайных мапах з палярнымі каардынатамі.

Папраўкі да яго мапаў патрэбна рабіць, нават і грунтуючыся на старажытных дакументах. Так, у Апакаліпсісе Пегас названы побач з Цяльцом, Ільвом і Стральцом, як кардынальнае сузор'е неба, а пра Андрамеду, да якой на сваім шляху «заходзіла начаваць Сонца», паведамляеццца ў легендзе пра Самсона, якога яна і абстрыгла ад яго праменяў (зацямніла), і названая там «павіснуўшая» (па-жыдоўску Даліла). Перанёсшы яе ногі із гарызантальнага становішча ў вертыкальнае, каб

уявіць яе вісячай на яе ланцугах, мы і апусьцім хаця б адну із іх на экліптыку каля Дэльты ці Іпсілона Рыб, як маем ужо выпадак са Змеятрымальнікам на Скарпіёне. Дакладна тое ж адбудзецца і з Пегасам, якому не будзе патрэбы ў такім выпадку абразаць зад, як зрабіў Дзюрэр, каб размясьціць на яго месцы галаву Андрамеды (пазбавіўшы гэтым усё сузор'е яго чацьвёртай зоркі Дэльты), кіруючыся верагодна тым, што такое абразанне ўжо зрабілі старажытныя астролагі з Цялём, калі з'явілася патрэба размясьціць туды Авена (як яны ж зрабілі з клюшнямі Скарпіёна, для размяшчэння сузор'я Шаляў, якое спачатку малявалася ў руцэ Панны). Тады і Андрамеда можа быць палічана за Еву спакусіўшую Адама (Цэфея) паспрабаваць пладоў ад Дрэва Спазнання.

Прачытаем жа з гэтага новага боку гледжання ўсю біблейскую легенду пра першапачатковы рай (Быццё 2,5-25,3), зрабіўшы яе літаратурны пераклад з жыдоўскага тэксту.

«Ніякага хмызняку не было яшчэ на зямлі і ніякая трава не расла на яе паверхні, таму што Грамабой яшчэ не пасылаў дажджу на зямлю і толькі выпарэнні падымаліся ад зямлі і рабілі вільготнай яе паверхню (Гэта азначае да стварэння чалавека расьліны яшчэ не былі створаны, як гаварылася ў папярэдняй частцы!). І вось бацька багоў выляпіў чалавека із зямнога пылу, задуў у яго ноздры дыханне жыцця (мал. 132), і стаў чалавек – жывой душой. Бог памясьціў яго ў садзе Эдэма на ўсходзе і ўтварыў із глебы разнастайныя расьліны, выдатныя на выгляд і прыдатныя для жыцця і паміж імі (пальмападобнае) Дрэва Жыцця пасярод саду (цэнтральная вось геацэнтрычнага вярчэння нябеснага скяпення) і Дрэва Спазнання (пальмападобная вось экліптыкі з парасонам яе пёрыстых галін-мерыдыянаў на вяршыні)».



Мал. 132.

*Бацька багоў удувае дыханне жыцця ў ноздры вылепленага ім із гліны чалавека (із Biblia Sacra, выд. 1558 гада).*

«Із Эдэма цячэ Рака (Млечны шлях) для абваднення саду і падзяляецца на дзьве, а потым робіцца чатырма рэкамі (ужо на Зямлі[288]).

[288] Пра гэтыя рэкі я ўжо згадваў вышэй.

«Бацька Багоў сказаў чалавеку:

– «Ты можаш есьці плады кожнай расьліны, але не бяры ад Дрэва Спазнання (не пераходзь думкай ад зямной восі да восі экліптыкі), таму што пасьля гэтага ты адчуеш сябе смяротным».

«Ён выляпіў із зямлі разнастайных палявых жывёл (якія згодна з першай часткай былі створаны яшчэ да чалавека) і ўсіх паднябесных птушак і прывёў іх да чалавека, каб ён даў ім назвы.

«Але для чалавека не знайшлося сярод іх прыдатнага памагатага. І вось Бацька багоў навёў на яго моцны сон, дастаў із яго адну рэбрыну і заляпіў гэтае месца целам. Ён зрабіў жанчыну із яго рабрыны і прывёў яе да абуджанага чалавека, які пабачыўшы яе, прамовіў:

– «У ёй костка маіх костак і цела майго цела, яна будзе мець найменне мая жонка, таму што ўзята ад свайго чалавека, і таму пакіне чалавек сваіх бацьку і маці і прылепіцца да сваёй жонкі, і будуць абодва адным».

«Яны былі голыя, але не саромеліся».

«І вось Змей (Цмок на вяршыні пальмападобнай восі экліптыкі) (мал. 130), які быў самым мудрым із зямных звяроў, сказаў жанчыне:

– «Вы не памрэце, калі паспрабуеце пладоў із дрэва Спазнання, а толькі расплюшчацца вашы вочы, і вы будзеце як багі, якія адрозніваюць праўду ад няпраўды».

«Жанчына пабачыла, што дрэва прыгожае на выгляд, яна паспрабавала яго плады і спакусіла свайго чалавека зрабіць тое ж. Іхныя вочы расплюшчыліся, яны пабачылі перадусім, што голыя, і зрабілі сабе фартухі із лісьця смакаўніцы.

«Пачуўшы голас бацькі багоў, выйшаўшага пагуляць па садзе пры наступленні вечаровай прахалоды, яны схаваліся ад яго паміж дрэвамі саду.

– «Дзе ты»? – паклікаў бацька багоў чалавека.

– «Я чуў у садзе твой голас – адказаў той – але схаваўся, таму што голы.

– «Хто сказаў табе, што ты голы? Ты з'еў плады із таго дрэва, ад якога я забараніў табе есьці?

– «Мне прапанавала іх жанчына, якую ты мне даў».

– «Навошта ты гэта зрабіла»? – запытаў яе бацька багоў.

– «Змей (сузор'е Цмока) спакусіў мяне» – адказала яна.

– «За тое, што ты зрабіў гэта – сказаў бог Змею – твае нашчадкі будуць праклятыя сярод усіх жывёл. Ты будзеш поўзаць на сваім жываце і глытаць зямлю кожны дзень усё сваё жыццё (сузор'е Цмока штодня апускаецца галавой пад зямлю, а хвост тырчыць зверху ў паўночным умераным поясе). Я пакладу варожасць паміж тваім нашчадкам і нашчадкам жанчыны: ён будзе ўражваць цябе ў галаву, а ты будзеш кусаць яго за пяту».

А жанчыне паведаміў:

– «Я павялічу пакуты тваёй цяжарнасьці і вызвалення ад яе. Ты будзеш імкнуцца да мужчыны, і ён будзе панаваць над табой».

А яе чалавеку сказаў:

– «За тое, што ты паслухаўся сваю жонку і паспрабаваў ад Дрэва Спазнання, ты ў поце твару будзеш здабываць свой хлеб, пакуль не вернешся ў зямлю, ад якой узяты».

«Ён прыгатаваў для іх скураное адзенне і, каб чалавек не паспрабаваў пладоў Дрэва жыцця і не стаў зноў жыць вечна, выслаў абодвух із Едэмскага саду (неба), і паставіў Калясніцы[289] хадзіць ад усходу Эдэмскага саду да захаду і

---

[289] כרבים (КРБІМ) множны лік ад (КРУБ), утварыўшыся шляхам перастановы ад РКУБ – калясніца. Я лічу, што гэта планеты, але тэолагі грунтуючыся на Апакаліпсісе лічаць іх за чатырох жывёлаў Цяля, Ільва, Стральца і Пегаса (праз непаразуменне пераўтворанага ў сузор'е Арла). У еўрапейскіх перакладах Бібліі гэтыя КРБІМЫ

верцяшыся (вакол нябеснага скляпення) Меч (у сузор'і Пярсея), каб ахоўваць шлях да Дрэва Жыцця.

«Імя жонкі чалавека было – Жыццё» (Ева)[290].

Такой з'яўляецца легенда, складаючая другую і трэццюю главы Біблейскай кнігі «На пачатку» (Быццё). Як бачыць сам чытач, яна цалкам незалежная ад першай часткі і не мае ўнутранай сувязі з наступнымі. Гэта вынік самастойнай творчасьці падобна асобнаму вершу ў літаратурным зборніку, у якім асобныя п'есы размешчаны ў некаторым вызначаным храналагічным упарадкаванні грунтуючыся на іхным, хаця б і фантастычным, змесьце. Астральнае тут перамешана з алегарычным, і алегарычнымі ж з'яўляюцца і паданні наступных главаў.

## III.
## Легенда пра Працу і Адпачынак.

«Жонка чалавека Жыццё нарадзіла яму – паведамляе трэцяя частка «Быцця – Працу (па-біблейску Каін[291]), сказаўшы:

– «Папрацавала я над змагаром для бацькі багоў».

Потым яна нарадзіла Працы брата на імі Адпачынак (Авель).

---

ператварыліся ў найменне херувімы, і мастакі эпохі Адраджэння ўпершыню надалі ім выгляд крылатых дзіцячых галовак.

[290] Згодна з грэцкім вымаўленнем, а па-жыдоўску חוה (ХОЕ або Хая) – жыццё.

[291] Слова קין (КІН) вымаўляемае сучаснымі тэолагамі як Каін, азначае Праца і Дзіда, а падобнае з ім КНІТІ (Каніті) азначае набыць, і гэтае слова я пераклаў папрацавала, каб захаваць сугучча, інакш каламбур арыгінала губляецца ў перакладзе.

Мал. 133.
*Сузор'і паміж полюсам экліптыкі (у сузор'і Цмока зверху) і нябесным Ахвярнікам (знізу). Над Ахвярнікам Скарпіён у адгалінаванні Млечнага шляху, над ім Змеятрымальнік трымае Змея, раскрываючага пастку на нябесны Вянок, а вышэй Геркулес, збіваючы дубінай змеяў і топчучы Цмока.*

«Праца стаў земляробам, а Адпачынак пастухом. Праца прынёс ў ахвяру Бацьку багоў земляробчыя прадукты, а Адпачынак авечак і лоевыя свечкі. Бог бацька міласьціва прыняў падарункі Адпачынку, але адкінуў падарункі Працы (дым яго ахвярніка не паляцеў у неба, а пачаў сьцяліцца па зямлі).

«Праца моцна засмуціўся і апусьціў да зямлі свой твар (зірніце на мапе неба на сузор'е «Працы» – зараз Геркулес з дубінай – апусьціўшы твар да зямлі, і на сузор'е Адпачынку – зараз Змеятрымальнік – які глядзіць над Ахвярнікам на неба і вы зразумееце астральнасць гэтай сімвалістыкі, мал. 133).

– «Злачынства (сузор'е Змея) ляжыць каля твайго парога – папярэдзіў яго Грамабой – яно імкнецца да цябе, але ты маеш магчымасць супрацівіцца яму».

«Аднак, Праца ўсё ж паўстаў на Адпачынак і забіў яго (дубінай сузор'я Геркулеса, мал. 133),

– «Дзе брат твой Адпачынак»? – запытаў, прыйшоўшы да яго, бацька багоў.

– «Не ведаю – адказаў Праца – я не вартаўнік майму брату».

– «Голас яго крыві далятае да мяне ад зямлі – сказаў яму Бацька багоў. – Яна не будзе больш берагчы свае здальнасьці для тваёй раллі, і ты будзеш на ёй качэўнікам. І кожнаму, хто знішчыць на зямлі працу, адпомсьціцца ў сем разоў».

Ён наклаў знак вечнасьці на твар Працы і Праца пайшоў ад пазірка бога і пасяліўся ў краіне жалобы, перад тварам раю. Ён пабудаваў там горад Літасць (Ханок) згодна з імем свайго сына, і там ад яго ўтварыўся Рамеснік, жонкамі якога былі: Адзенне і Дах. Ад першай жонкі ў яго нарадзіліся дзеці Дастатак з яго статкамі і Сьвята (ІУБЛ, Юбілей), вынаходнік жалейкі і гусляў. А ад другой

жонкі нарадзілася ў яго дачка Краса і сын Вулкан (Балкан), вынаходнік і кавач усіх прылад із жалеза і медзі[292].

І Рамеснік сказаў сваім жонкам:

«Адзенне і Дах! Паслухайце майго голасу, усвядомце мае словы, жонкі Рамесніка! Я згубіў сваю мужнасць на гора мне і юнацства на рану мне! Калі за знішчэнне працы адпомсьціцца ў сем разоў, то за знішчэнне рамяства ў семдзесят сем разоў!»

## IV.
## Легенда пра ўсеагульны патоп.

«Калі чалавечы род размножыўся на зямлі – паведамляе шостая глава Быцця – і дзеці бога-бацькі пабачылі, што дочкі людзей прыгожыя, яны бралі іх сабе ў жонкі, якую хто пажадаў. Ад гэтага ў старажытнасьці нарадзіліся волаты, людзі моцныя і слаўныя. Бацька багоў пабачыў, што ўсе іхныя думкі былі толькі на благое, і пашкадаваў, што стварыў чалавека. Сум запоўніў яго сэрца, і ён сказаў:

– «Вынішчу ўсё з твару зямлі – ад чалавека да звяроў і паўзуноў і да паднябесных птушак. Я шкадую, што стварыў іх».

«Толькі Праўдадыр»[293] (па-біблейску НЭХ, падобна з іерагліфічным напісаннем ягіпецкага цара Нехао, ці абісінскага Негуса, пераіначанага грэцкімі перакладчыкамі, з аднаго боку ў Нехао, а з другога ў Ноя) знайшоў павагу перад вачамі бога-бацькі і ён сказаў яму:

– «Зрабі сабе карабель із моцнага дрэва[294] у 300 локцяў даўжыні, 50 шырыні і 30 вышыні, з трыма ярусамі і абсмалі яго знадворку і ўсярэдзіне. Зайдзі на яго з сямействам і вазьмі із усіх чыстых зямных жывёл па сямі (планетах) сем, мужчынскай і жаночай стаці, а із нячыстых па пары, і із нябесных птушак па сямі (планета) сем[295], каб захаваць іхныя роды на зямлі, таму што праз сем дзён я пачну выліваць дождж на зямлю на працягу сарака дзён і сарака начэй, і вынішчу з твару зямлі ўсё, што я стварыў».

«Праўдадыр зрабіў тое, што загадаў яму Грамабой, і праз сем дзён вада патопу прыйшла на зямлю».

«На шостым годзе існавання Праўдадыра, 17 красавіка[296] (у той час, калі сузор'е Кіта, Рыб і Вадаліва з'явіліся із полымя ранішняга світанку на ўсходзе, і на заходзячае сузор'е Карабля сядалі сем планет, сабраўшыхся над Арыёнам, выходзячым із вады (мал. 134) расчыніліся ўсе крыніцы Вялікай марской бездані[297] адчыніліся ўсе нябесныя вокны, і ліўся дождж на зямлю сарок дзён і сарок начэй (г. азн. да 13 чэрвеня, калі Сонца знаходзіцца ў Двайнятах).

---

[292] Чытаючы Біблію на жыдоўскім тэксце, я часта здзіўляюся, чаму не маглі заўважыць ранейшыя перакладчыкі, што ўсе яе найменні алегарычныя. Так, напрыклад, тут слова ЛМК перакладаюць Лемех, а між іншым яно азначае дзейнічаючы ўдарнай або рэжучай прыладай (МКЕ), г. азн. рамеснік, так жа і ўсе астатнія імёны алегарычныя. Так Энах (חנוך = ХНУК) азначае ласка; Ламэх (מכה-ל = ЛМК), скарочанае (Л-МКЕ) – ремеснік; ЭЛЕ – адзенне, ЦЛЕ – дах, ІБЛ – дастатак, ЮБЛ – юбілей, і г. д.

[293] נח (ТХ) – па-руску Ной, ад дзеяслова נחה (НХЕ) – кіраваць, вясьці. Тэолагі памылкова тлумачаць гэтае слова як утворанае ад נחם (НХМ) – спагада, спачуванне.

[294] גפר (ГФР) – трывалы, моцны, адсюль магчыма і кіпарыс (cupressus).

[295] שבעה שבעה (ШБЭЭ ШБЭЭ) – сем па сямі, так як тут без злучаючага ו (У).

[296] Я перакладаю біблейскія месяцы першы, другі і г. д., для зразумеласьці, з іхнымі сучаснымі найменнямі, хаця і не адмаўляю, што яны могуць быць толькі прыблізнымі па значэннях тэмпературы і па становішчах Сонца сярод сузор'яў Задыяка.

[297] Ахопліваючы цэлую чвэрць сваёй паралелі сузор'е Карабля толькі ў наш час цалкам бачна на моры, у Паўднёвай Яўропе. Нагадаем, што і ягіпецкаму Нехаю прыпісваецца сярэднявечнымі аўтарамі пабудова вялізнага карабля для аб'езду навокал Афрыкі.




Мал. 134.

*Мапа задыякальных сузор'яў разам з прылягаючымі да іх. Сярэдняя шахматная лінія – экліптыкальны пояс, па якому рухаюцца планеты. На 240° бачна фігура Чалавека (Змеятрымальніка, знак Хрыста), які топча нагой Скарпіёна (знак сьмерці) над Ахвярнікам. Направа ад яго (за Паннай) Леў, налева Пілнуючы (Стралец з лукам), над якім Арол. Чатыры планеты мяркуюцца ідучымі ў Цясьніну Млечнага Шляху паміж Шалямі і Стральцом (не пазначаны на мапе).*

«У той самы дзень «Правадыр» узышоў на Карабель са сваёй жонкай і дзецьмі: Шляхетным (Сімам), Халопам (Хамам) і Вытанчаным (Яфетам) і іхнымі жонкамі. І зайшлі на яго па пары (у сімвале Двайнят) ад кожнага стварэння (мал. 135), у якім існуе дух жыцця мужчынскай і жаночай стаці (зірніце на мапу неба і вы пабачыце над Ноевым Караблём сузор'і: Вялікага Сабакі, Рака, Ільва, Змяі, Цэнтаўра, Мядзведзіцы і самага Неха (Ноя) у сузор'і Арыёна, выходзячага із нябеснай ракі Эрыдан).



Мал. 135.

*Правадыр (па-жыдоўску Нех ці Неха, па-руску Ной) бярэ звяроў на пабудаваны ім вялізны карабель, каб выратаваць іх ад патопу (Із Biblia Sacra, выд. 1558 годзе).*

«Грамабой зачыніў (аблокамі) дзьверы (сузор'е) Карабля, падняўшагася над зямлёй і вадой (відавочна ужо ў ліпені).

«На пятнаццаць локцяў паднялася вада (у Ягіпце?), узгоркі пакрыліся ёю, і загінула ўсё, што мела дыханне жыцця ў сваіх ноздрах на сушы. Засталіся толькі тыя, якія былі з Нехам на караблі» (Быццё, 7).

Такой з'яўляецца першая частка легенды пра сусьветны патоп, відавочна навеяная нябеснымі сузор'ямі. Само найменне Нэх (перарабленае перакладчыкам у Ноя) сугучна са словам НУЕ, азначаючым Прыстанак Качэўнікаў, г. азн. першае месца аселага жыцця, якім і быў Ягіпет.

Тут пакуль усё добра, але вось нейкі наступны апавядальнік забываецца пра 40 дзён і 40 начэй патопу і працягвае:

«Вада паднімалася на зямлі сто пяцьдзясят дзён, але багі (АЛЕІМ) згадалі пра Правадыра і пра ўсіх жывёл, якія былі з ім у каўчэгу. Моцны вецер спыніў валы, зачыніліся крыніцы марской бездані і нябесныя вокны; вада пачала памяншацца, і карабель спыніўся 17 верасня на Арарацкай гары (г. азн. Карабель Арго з'явіўся над палосай ранішняга світанку на ўсходзе пасьля свайго летняга знікнення за Сонцам). У першы дзень дзесятага месяца (снежня) паказаліся вяршыні гор (дадае сюды нейкі новы рэдактар, ужо не ведаючы пра спыненне карабля на Арараце).

«Пасьля заканчэння ж сарака дзён (г. азн. каля 10 студзеня) Правадыр выпускаў крумкача із расчыненага ім вакна, і крумкач адлятаў і прылятаў (у выглядзе сузор'я Крумкача), пакуль не высахла зямля. Правадыр выпусьціў яшчэ голуба (сузор'е), але ён (паляцеўшы на світанні) не знайшоў апірышча для сваіх ног (не мог спусьціцца на зямлю дзякуючы наступаючаму за ім узыходу Сонца і вярнуўся да Правадыра). Тот зноў выпусьціў яго праз сем дзён (каля 17 студзеня), і вось, вярнуўся да яго Голуб з аліўкавай галінкай у дзюбе ў вечаровы час

(сузор'е Голуб спускаецца на зямлю вечарамі ў сакавіку таксама з аліўкавай галінкай у дзюбе).

«Правадыр пачакаў яшчэ сем дзён, і выпушчаны голуб больш не вярнуўся да яго (знік у праменях вечаровага зарыва). Гэта было на 1 дзень першага месяца (сакавіка), а на 27 дзень другога месяца (красавіка) зямля цалкам высахла. І выйшаў Правадыр з яго жонкай і трыма сынамі з іхнымі жонкамі, і зьвяры, і гады, і птушкі, і ўсё рухомае на зямлі згодна са сваімі пародамі. І пабудаваў «Правадыр» Ахвярнік (сузор'е перад Караблём) і прынёс на ім свечкі ўсеспалення ад усіх чыстых жывёл».

Грамабой нюхаў прыемны водар і прамовіў у сваім сэрцы:

– «Не буду больш караць зямлю за чалавека, таму што яго думкі злыя ад самога яго юнацства. Не буду больш караць за яго ўсё жывучае, як зрабіў я зараз. Хай наперад не перапыняюцца на зямлі лета і зіма, холад і спёка, пасеў і жніво, дзень і ноч, навекі».

«Ён блаславіў Правадыра і яго дзяцей і сказаў ім:

– «Пладзіцеся, размнажайцеся і напаўняйце зямлю, і ды баяцца вас усе зямныя звяры, усе паднябесныя птушкі і ўсе марскія рыбы, і ўсё астатняе, што рухаецца на зямлі. Я даю вам у якасьці ежы ўсё якое жыве і ўсё якое расьце. Не ешце толькі цела, у якім яшчэ ёсць дыханне і кроў. Я спаганю за вашу кроў з кожнага звера і чалавека, і калі хто пралле чалавечую кроў, то і яго кроў будзе праліта. І калі я навяду хмару на зямлю, то будзе з'яўляцца на ёй вясёлка, і я згадаю сваё абяцанне, дадзенае вам і кожнай жывой душы ў целе, што вада не зробіцца больш патопам для вынішчэння кожнага цела».

«Шляхетны, Чорны і Вытанчаны чалавек (родапачынальнікі шляхты, халопаў і выхаваных людзей[298] былі сынамі Правадыра і ад іх засялілася ўся зямля».

Такое заканчэнне мае легенда пра ўсеагульную катастрафічную паводку пад канец лета, пасьля чаго «стары сьвет» згодна з некаторымі (відаць, дададзенымі пазней) радкамі гэтай легенды высах толькі праз год. Гэтая легенда існуе і ў Месапатаміі, але узнікла яна спачатку, відаць, у дэльце Ніла, у Бібласе, на яго ўсходняй, раней самай шматводнай пратоцы, дзе ўпершыню быў вынайдзены спосаб вырабніцтва папірусу і былі напісаны першапатковыя кнігі Бібліі, праз што яна і атрымала сваю назву. Калі вы вызначыце тут перыяды павышэння і паніжэння вады, то пабачыце, што яны дастаткова дакладна адпавядаюць штогадовым узвышэнням і паніжэнням вады ў Ніле, але толькі тут апісаны вылучны па велічыні паводкі год. Акрамя таго, мы зараз бачылі, што гэтая легенда моцна астралізавана: у ёй сімвалічна бяруць удзел амаль усе сузор'і веснавой часткі года, але гэтым адным ніяк немагчыма патлумачыць яе паходжанне.

Першакрыніцай яе павінна была служыць нейкая сапраўды адбыўшаяся незвычайна моцная паводка Ніла, у сувязі з незвычайна працяглай бурай спачатку з поўдня, а потам з поўначы, не толькі перашкодзіўшай ужо наплыўшай вадзе Ніла збегчы ў мора, але нагнаўшай у яго ўтокі сустрэчную марскую ваду. Расчыняючыяся «нябесныя вокны» і працягваючыяся два-тры месяцы бесперапынныя жахлівыя ліўні і да гэтага часу адбываюцца ва ўсёй вобласьці вярхоўяў Ніла, затапляючы ўвесь басейн яго верхніх пратокаў за Хартумам з пачаткам ягіпецкага лета, і выклікаючы гэтым сталае ўзняцце вады і ў ніжняй плыні Ніла разам са штогадовымі затапленнямі пад канец ліпеня ўсёй гэтай краіны (мал. 136 і 137).

[298] שם (ШМ) – шляхетны; חם (ХМ) – чорны, чэрнь; יפת (ІФТ) – ад פתה (ФТЕ) – быць вызваленым або ад יפה (ІФЕ) – прыстойны, добрага выхавання, хупавы.



Мал. 136.
*Пачатак «усеагульнага патопу» ў Ягіпце. Штогадовае ліпеньска-жнівеньскае разводдзе Нілу*



Мал. 137.
*Пачатак «усеагульнага патопу» ў Ягіпце. Вада разліўшагася Нілу затапляе падножжы тамтэйшых «коласаў».*

Але ўжо сама звычнасць такой з'явы перашкодзіла б стварэнню а грунце толькі яе адной легенды пра сусьветную паводку.

Вось чаму, адкуль бы ні былі ўзяты дэталі гэтага міфа, але сам ён мог паўстаць толькі як перабольшаны ўспамін пра нейкі сапраўдны незвычайны рэчаісны патоп, які мог адбыцца згодна з геаграфічнымі ўмовамі толькі ў дэльце Нілу, ці ў Італіі пры адным із яе вялікіх землятрусаў накшталт Лісабонскага, а ніяк не ў Месапатаміі, у чым дарэмна спрабуюць пераканаць геафізікаў некаторыя навукоўцы тэолагі, дзякуючы сваёй нададзенай думцы, што карані юдэйскага тэксту Бібліі паходзяць адтуль, а не із ягіпецкага Біблаcа.

Акрамя таго і час стварэння гэтай легенды не можа далёка заходзіць за тую эпоху, калі ў гэтым самым Біблаcе ўпершыню пачаў вырабляцца ў вялікай колькасьці папірус із вялізных яго зараснікаў у навакольных багністых азёрах. Незапісаныя падзеі, нават самыя катастрафічныя для дадзенай мясцовасьці, цалкам знікаюць із памяці ўжо ў чацьвёртым пакаленні. Паспрабуйце толькі распытаць рускіх сялян хаця б у Барадзіне пра Барадзінскую бітву, ці ў жыхароў Кулікова поля ў Тульскай губерні пра адбыўшаяся тут Мамаева пабоішча і вы пераканаецеся, што яны нічога не змогуць вам паведаміць пра гэта, ды і пра сам факт такіх жахлівых катастроф у жыцці сваіх продкаў яны зараз ведаюць ужо не дзякуючы традыцыі пераздавання ведаў ад пакалення да пакалення, а дзякуючы апавяданням інтэлігенцыі, набыўшым свае веды таксама не на грунце вусных паданняў, а із прачытаных імі кніжак.



Мал. 134.
*Фрагмент*

як правадыра войска, нападобе Аўрэліяна ці Дыяклетыяна, а падносячы яму падарункі Бацькаў Цар (Абі-Мелех) вельмі нагадвае папу старога часу, акрамя таго згадванне пра Садом і Гамору ў Апакаліпсісе (калі яно не дададзена туды пазней) вымушае дапусьціць, што гэтыя гарады загінулі раней 395 года, калі быў напісаны Апакаліпсіс. Гэта азначае, Пампея была засыпана ўжо другім вывяржэннем, а апісанае тут было не позней 393 года, але астралагічныя дэталі далучаны да яго з часоў другога вывяржэння.

# ГЛАВА III.

## Легенда пра ўзнікненне ісмаэліцства і магаметанства.

### I.

### Біблейскае паданне.

Паглядзім перадусім, што паведамляюць пра Ісмаіла, імя якога азначае Богапачуты[312], мусульманскія паданні сярэдніх стагоддзяў.

Імя яго маці Агар[313] атаясамляецца арабамі з іхным словам hadshara – перасяленне, адкуль паходзіць і назва пачатку магаметанскай эры[314] – геджра, дапасуемы да 622 года нашай эры... Вось першае храналагічнае непаразуменне – бо як хрысьціянскія так і месіянскія тэолагі адносяць нараджэнне «геджра» богапачутага Ісмаіла ў 1910 год да пачатку н. э. ... Храналагічная розніца не малая: 1530 гадоў!..

Другое непаразуменне палягае ў тым, што сярэднявечныя арабскія пісьменнікі распавядаюць пра яго амаль тое ж, што і хрысьціянскія пра Ісака – Пашыральніка Пісьменнасьці, калі бацька меў намер прынесьці яго ў ахвяру Грамабою.

«Калі Ісмаілу мінула 13 гадоў, бог загадаў «Бацьку-Рыму» прынесьці яго ў ахвяру.

«Пачуўшы пра гэта, Сатана адразу ж з'явіўся да Геджры і запытаў яе:

– «Ці ведаеш ты, куды пайшоў «Бацька-Рым» з тваім сынам?»

– «Так. Ён пайшоў у лес насекчы дроў».

– «Не! – паведаміў ёй Сатана. – Ён пайшоў, каб зарэзаць твайго сына».

– «Як гэта магчыма? Ён жа шануе яго так жа моцна, як і я».

– «Ён робіць так згодна з загадам бога».

– «Калі так – адказала Геджра – то хай ён выканае наказ бога».

Пасьля такіх пабожных слоў Сатана, збянтэжаны, пайшоў ад яе, а бог выправіў анёла ўтрымаць руку «Бацькі-Рыма».

На гэтым самым месцы не адбыўшагася ахвяравання і быў кінуты – кажуць нам – з неба знакаміты метэарыт – Чорны камень свяцілішча Каабы каля Мекі, захаваўшыся да гэтага часу.

Каран называе Ісмаіла прарокам і цудадзеем, і ўся арабская духоўная літаратура малюе яго ўзорам прававерʼя, а таксама і выбітным паляўнічым. Пражыўшы 130 гадоў ён – кажуць нам – памёр сваёй сьмерцю і быў пахаваны паблізу Каабы.

У агадычнай (г. азн. апавядальнай) талмудысцкай літаратуры пад імем Богапачутага (Ісмаіла) разумеецца ўжо проста сярэднявечны мусульманскі народ-

---

[312] ישמע־אל (ІШМЕ-АЛ) пачуе бог.

[313] חגר (ХГР), вымаўляецца Hagar.

[314] Гіршфельд у «Jewish Encyclopedia», VI, p. 139.

заваёўнік а само яго імя «Пачуе бог» тлумачыцца ў тым сэнсе, што «бог пачуе» лямант богазмагальнікаў, калі яны будуць знаходзіцца пад мусульманскім ярмом.

Акрамя таго ў агадычнай літаратуры Талмуда паведамляецца, што ў Ісмаіла спачатку была звадлівая жонка, і ад яе чатыры сыны і адна дачка, тады як у Бібліі яму даецца 12 сыноў.

Калі «Бацька-Рым» аднойчы прыехаў да яго ў госьці і, даведаўшыся, што Ісмаіла няма дома, папрасіў у яго жонкі ежы, яна наадрэз адмовілася даць яму штонебудзь, пабіла сваіх дзяцей і вылаяла чалавека. Даведаўшыся пра гэта, Ісмаіл выправіў яе да бацькоў і адружыўся з іншай на імя Фаціма, якая пазней прыняла Бацьку-Рыма прыхільна.

Цікава, што і ў першага Халіфа Алі была кахаемая жонка Фаціма, дачка Магамета.

Ці з'яўляецца гэта выпадковым супадзеннем імёнаў?

Разгледзім жа зараз падрабязней грунтуючыся на кнізе Быццё легенду пра Ісмаіла (гл. 16).

«Чара (яшчэ не пераназваная ў Сару, г. азн. у царыцу) сказала Бацьку-Рыму»:

– «Грамабой не дае мне нарадзіць дзяцей. Зайдзі да маёй прыслужніцы, Геджры, магчыма ад яе будуць у цябе дзеці».

«Бацька-Рым паслухаўся парады Чары і пайшоў да Геджры. Яна зацяжарыла і пачала грэбаваць сваёй гаспадыняй.

– «Ты вінаваты ў яе крыўдах мне – сказала Чара Бацьку-Рыму. – Хай жа будзе Грамабой суддзёй паміж мной і табой!»

– «Гэта твая прыслужніца – адказаў Бацька-Рым – рабі з ёю ўсё што палічыш патрэбным».

– «Чара пачала прыгнятаць Геджру, і тая збегла ад яе ў пустыню (Аравійскую). Вястун Грамабоя знайшоў яе там каля крыніцы па дарозе ў Сірыю[315] і сказаў:

– «Геджра, прыслужніца Чары! Адкуль ты прыйшла і куды ідзеш»?

– «Я бягу ад Чары, маёй гаспадыні – адказала яна».

– «Вярніся да яе і скарыся: я памножу тваіх нашчадкаў да такой ступені, што і не злічыш. Вось ты цяжарная і народзіш сына і назавеш яго Богапаслухмяны (Ісмаіл). Ён будзе як дзікі асёл сярод людзей: рукі яго на ўсіх і рукі ўсіх супраць яго і будзе ён жыць на ўсход ад сваіх братоў».

«Геджра назвала размаўляўшага з ёю Грамабоя: Бог Бачання» (16. 2-12).

«Тая студня і зараз мае назву Бар-Леі-Рай паміж Кадзешам і Бардам» – дадае нейкі карэктар, відавочна, ужо не ведаўшы пра алегарычны сэнс гэтай легенды пра ўзнікненне магаметанства падчас старэння Вялікай Рымскай імперыі, пры чым збегшая ў пустыню Геджра папярэднічае збяганне Магамета, якое мусульмане адносяць да 15 ліпеня 622 года нашай эры.

Пераназванне яе ў Агар па-біблейску Хегер (ХЕГР) было непазбежным, таму што ягіпецкія арабы вымаўляюць аравійскі гук ДЖ як Г. Гэта адно і тое ж імя, толькі ў двух вымаўленнях. Так слова Георг ангельцамі прамаўляецца Джордж, ды і сама Агар малюецца тут, згодна з сэнсам слова: геджара, перасяленка.

Характарыстыка яе сына Ісмаіла паказвае, акрамя таго, што гэтае апавяданне напісана ўжо ў той час, калі магаметане ў часы халіфаў пачалі ваяваць з усімі, і ўсе ваявалі насупраць іх і калі яны памножыліся да такой ступені, «што і не злічыш».

---

[315] שור (ШУР) – агароджа, згодна з грэцкім вымаўленнем: Сура. Гебраісты лічаць яе за лапік зямлі на мяжы Аравіі і Сірыі. А згодна з нашымі атаясамленнямі гэта была сама Сірыя.

Зразумела, што гэта не магло быць напісана раней VIII ці нават IX стагоддзя нашай эры, калі ўсё гэта ўжо існавала.

«Дванаццаць плямён народзяцца ад яго, – кажа далей Грамабой Бацьку-Рыму, – бо я утвару ад яго вялікі народ» (17.20).

І няўжо гэта было спраўдзіўшаяся прадказанне, выказанае за дзьве тысячы гадоў да ўзнікнення магаметанства з яго звычаем абразання, якое запазычылі і равіністы? Вось як тут жа паведамляецца пра гэты звычай:

«Бацька-Рым узяў свайго сына Ісмаіла (Богапаслухмянага) і ўсіх народжаных у сваёй сядзібе, і ўсіх купленых за грошы – усіх мужчын сваёй сядзібы – і абрэзаў край скуры на іхных дзетародных органах у той самы дзень, калі загадаў яму Грамабой (г. азн. пад час часткова абрэзнага сонечнага зацьмення на фаласе Вадаліва). Яму ў той час было дзевяноста гадоў, а Ісмаілу трыццаць» (18. 24).

Із гэтага відаць, што гэты экстравагантны рэлігійны звычаў быў уведзены на 30-м годзе Геджры, г. азн. каля 652 года ужо пасьля сьмерці Магамета. І сапраўды ў Каране пра яго ні слова.

Але прасочым і далей гісторыю ісмаэлітства грунтуючыся на Бібліі.

«Калі ў Бацькі-Рыма нарадзіўся сын, Пашыральнік пісьмёнаў[316] Ісмаіл пачаў кпіць над ім, і таму яго маці Чара сказала Бацьку-Рыму:

«Прагані гэтую нявольніцу (Геджру) і яе сына» (г. азн. адлучы іх ад сваёй царквы).

«Гэта здалося вельмі непрыемным для Бацькі-Рыма, але багі сказалі яму:

– «Ва ўсім, што б ні сказала табе Чара, слухайся яе голас».

І вось зноў пачынаецца не алегарычная гісторыя, а далучаная да яе астралістыка, як і павінна быць, калі ў справе пачынаюць браць удзел багі.

«Бацька-Рым, – працягвае легенда, – падняўся рана раніцай, узяў хлябоў і мех з вадой, паклаў іх на плечы Геджры і выправіў яе разам з яе сынам. Яна заблудзілася ў пустыні Кладзезь Сямі (БАР-ШБЕ, гэта астральна азначае, каля крыніцы пад Урнай Вадаліва, із якой п'юць «Сем планет») (мал. 146), села на адлегласьці пералёту стралы ад яе і заплакала. Але Багі пачулі голас яе сына.




[316] ІЦ-ХК, – ад ІЦА – пашыраць і ХК – напісанне.

Ріс. 146.
*«Кладезь сямі планет». Урна Вадаліва, да якой перыядычна заходзіць кожная планета, каб напіцца (із папулярнай астраноміі Фламарыёна).*

– «Что з табой, Геджара? – запытаў ее Вястун неба. – «Не бойся! Вазьмі юнака за руку і вядзі».

«І вось богі расплюшчылі яе вочы, і яна пабачыла крыніцу. Напоўніўшы вадой мех (астральна Урну ў сузор'і Вадаліва), яна напаіла свайго сына, і багі былі з ім. Ён вырас (у сімвале Месяца, эмблемы мусульман) і стаў стралком із лука (серпападобны Месяц).

«Ён жыў на Пашы Славы, і маці адружыла яго на дзяўчыне із Міц-Рімскай Зямлі (г. азн. мусульмане захапілі пазней частку Усходне-Рымскай тэрыторыі», Быццё, 21.21).

Ці не зашыфраваны тут гараскапічна час жыцця Ісмаіла з дапамогай сыходжання сямі планет каля іхнай агульнай студні «Ўрна Вадаліва»?

Падобная падзея (Табліца І) як раз была на 40 годзе жыцця Магамета 1 лютага 610 года, за 12 гадоў да збягання Магамета ў Медыну, калі ён ужо пачаў павучаць у Мецы і яшчэ 9 лютага 373 года, як відаць із табліцы XVII.

ТАБЛІЦА XVII
Сыходжанне планет над Урнай Вадаліва.

| Сатурн у Вадаліве | Юпітэр у Вадаліве | Дробныя рэшткі ад праходжанняў Марса ў лютым праз Урну Вадаліва |
|---|---|---|
| 374.29 | 373.14 | (373... 0,9987). У Вадаліве (як у 1825 годзе). |
| 433.21 | 432.45 | (432... 0,6296). У Раку (як у 1837 годзе). |
| 492.12 | 491.76 | (491... 0,0980). У Казярогу (як у 1838 годзе). |
| 551.04 | 651.07 | (551... 0,7289). У Цяляці (як у 1818 годзе). |
| 610.00 | 610.38 | (610... 0,9907). У Вадаліве (як у в 1825 годзе). |
| Геджра з 622 года | | |
| 668.86 | 669.69 | (669... 0,6216). У Раку (як у 1837 годзе). |
| 727.78 | 728.99 | (728... 0,2525). У Стральцу (як у 1817 годзе). |

Пад час гэтых абодвух дат каля Нябеснай Студні сямі планет якраз і збіраліся ўсе п'ючыя із яе планеты: Сатурн, Юпітар, Марс, Сонца, Месяц, Меркурый і Венера.

У 610 г. маладзік у Вадаліве быў 1 лютага, і ў гэты ж час Венера толькі што выйшла са свайго верхняга злучэння з Сонцам і ледзь выходзіла із прамянёў вечаровага зарыва, дакладна гэтак жа як і Меркурый, ішоўшы да ніжняга злучэння. Абодва былі разам з астатнімі планетамі якраз на «вадапоі» Вадаліва (каля 341° экліптікальнай даўгаты).

У 373 годзе іхнае становішча было горшым: маладзік у Вадаліву быў 9 лютага і ў гэты час Меркурый і Венера ўжо перайшлі із Вадаліва ў Рыбы пасьля верхняга злучэння і былі каля 354-358° экліптікальнай даўгаты.

Згодна з першым (і адзіна цалкам дакладным) вызначэннем біблейскі Ісмаіл непасрэдна атаясамляецца з Магаметам, яго маці Геджра робіцца падобнай на Хадыджу – яго першую жонку, якая выняньчыла прарока, быўшы гадоў на 30 за яго старэй. А жонка, якую Геджра ўзяла яму із Міц-Рыма, г. азн. із ягіпецкай часткі былой Лаціна-Эліна-Сірыйска-Ягіпецкай імперыі, вельмі нагадвае адну із галоўных жонак Магамета – Марыю Ягіпецкую, ад якой у яго быў сын, Ібрагім, памёршы, дарэчы, яшчэ ў юнацстве. Калі ж мы дапусьцім, што ісмаэліцства было не магаметанствам, а аравійскім месіянствам, першай із культурных рэлігій

пранікшых у Аравію і ўплываўшая пад час маладосьці на Магамета, то, хаця гэта і горш, нам патрэбна абраць 373 год, калі яшчэ быў жывы «Вялікі Цар».

Гэтая ж Студня Сямі Планет фігуруе не раз і ў іншых месцах Біблії і заўсёды ў алегарычным сэнсе, таму што рэчаіснае ўладкаванне нейкай студні, вядома, не такая сусьветна-гістарычная падзея нават і ў самай старажытнай «сусьветнай гісторыі», каб яе пажадалі адмыслова пазначыць. Вось, напрыклад, у той жа самай частцы і пра гэтае ж сыходжанне ўсіх планет каля іхнай «студні» паведамляецца пад знакам сямі авечак у такім выглядзе (21. 22-24):

«Здарылася ў той час, што Царскі-Бацька (Абі-Мелек) з яго вайскавым правадыром «Пастка вынішчэння»[317] паведаміў Бацьку-Рыму:

– «Ва ўсім што ты ні робіш, з табою багі. Пакляніся ж мне імі, што ты не паставішся несправядліва ні да мяне, ні да маіх сыноў, ні да ўнукаў, а заўсёды добра, як і я да цябе».

– «Клянуся! – адказаў Бацька-Рым і ўпікнуў Царскага-Бацьку за студню з вадой, якую захапілі яго рабы.

– «Не ведаю, хто гэта зрабіў – сказаў Царскі-Бацька. – Я нават нічога не чуў пра гэта да гэтага часу».

Тады Бацька-Рым даў яму дробнага і буйнога быдла і асобна паставіў сем ягнят із дробных.

– «Навошта тут гэтыя сем ягнят»? – запытаў яго Царскі-Бацька.

– «Для таго, каб ты ўзяў іх з маёй рукі ў якасьці сведчання, што менавіта я выкапаў гэтую студню (а не твае слугжкі)».

– «Таму і назваў ён тое месца «Студня Сямі». Яны кляліся ім (г. азн. сыходжаннем сямі планет у Вадаліве, як нябеснага сімвала абмывання вадой) і заключылі пагадненне паміж сабой, пасьля чаго Царскі-Бацька са сваімі вайсковымі правадырамі падняўся і вярнуўся ў зямлю качэўнікаў (астральна – хмараў). Ён пасадзіў Тамарыкс пры Студні Сямі і заклікаў там імя Грамабоя, бога Вечнага. І шмат дзён жыў Бацька-Рым у зямлі качэўнікаў».

Сэнс гэтага відавочна сімвалічнага апавядання складаецца ў тым, што паміж рымскімі хрысьціянамі і нейкай із іншых рэлігійных сектаў было заключана нейкае пагадненне ў 610 годзе.

Адзначу яшчэ, што пры маладосьці Магамета праз паўночную Аравію праходзіла выключна шмат сонечных зацьменняў у поўным ці колападобным выглядзе, і із іх 26 снежня 604 года колападобнае ішло амаль праз саму Медыну якраз пры Сонцы і Месяцы ў Урне Вадаліва. Няпоўныя зацьменні спачатку лічыліся тады, відаць, за сімвал звычая абразання.

## II.

## Метэарытная тэорыя магаметанскай рэлігіі.

Ды дазволіць мне чытач, перш чым ісьці далей, зрабіць тут маленькі гісторыка-псіхалагічны нарыс.

Уявіце сабе, што ўсе гістарычныя дакументы, маючыя дачыненне да прыдворнай французскай гісторыі, зніклі, і нам даводзіцца аднаўляць яе грунтуючыся на раманах Аляксандра Дзюма-Бацькі. Я думаю, што ніхто із нашых сучаснікаў не здолеў бы адрозніць у іх сапраўднае ад прыдуманага самім аўтарам. Але ці можам мы ручацца за тое, што ў будучым глыбакадумны чалавек не выявіцца ўладальнікам дастатковага ведання законаў нашай фантастычнай творчасьці, каб зрабіць такую разборку і сказаць пасьля некаторага разважання: гэта прыдумка, а гэта ўзята із рэчаіснасьці? Мне здаецца, што мы не маем ніякага

[317] פי־כלה (Фі-КЛЕ) ад פי־כל (Фі-КЛ) – пастка вынішчэньня.

права быць упэўненымі ў такой немачы будучых мысляроў, асабліва пасьля таго, як мы самі ўжо ў шмат якіх выпадках маем магчымасць выконваць такія разборкі ў творах першабытных пісьменнікаў і нават пазначыць іхныя законы.

Першы асноўны закон, як я ўжо пазначаў і раней, той, што чалавечая фантазія не можа стварыць такія дэталі, якіх ніколі не было ў рэчаіснасьці; што яна толькі здольна мудрагеліста камбінаваць ужо бачанае ці чутае людзьмі ці ўспрынятае іншымі органамі ўнутраных ці вонкавых пачуццяў чалавека. Так яна можа далучыць да тулава быка чалавечую галаву і дадаць да гэтай неіснуючай камбінацыі яшчэ і крылы птушкі, але ўсе такія дэталі аўтар абавязкова павінен быў атрымаць із вонкавых рэчаісных ураженняў, і ён можа забяспечыць такую камбінацыю толькі тымі ўнутранымі пачуццямі, якія ўжо спазнаў у сваёй уласнай унутранай псіхічнай дзейнасьці.

Другі і не менш важны закон той, што пры перадачы паведамлення ад адной асобы да другой вар'іруюцца не толькі асобныя словы і моўныя выказванні, але і самі мазгавыя імпрэсіі слухаючых, і пасьля шэрагу пасьлядоўных вусных паведамленняў першапатковае апавяданне заўсёды будзе непазнаваемым. А калі яно, акрамя гэтага, перайшло із адной краіны ў іншую ці із адной гістарычнай эпохі таго ж народа ў іншую, то непазбежна набудзе каларыт той краіны і характар той эпохі, пад час якой яно, нарэшце, было запісана.

Але і само запісванне не гарантуе ад зменаў пры пасьлядоўных асабістых перапісваннях старажытных грамацееў. Перапісваючы для сябе ў якасьці крыніцы паведамленняў і даведак, а ніяк не дзеля захоўвання ўсіх састарэлых і ўяўляемых недарэчнымі дэталяў ці памылак арыгінал, кожны аднаўляльнік непазбежна выкідваў із яго тое, што, на яго думку, недарэчна, а астатняе выпраўляў і папаўняў тым, што сам паспеў даведацца ці прыдумаць. Менавіта такім шляхам невялікія першапатковыя рукапісы і пратварыліся ў вялізныя кнігі.

Аднавіць выкінутае із такіх дакументах, вядома, атрымліваецца рэдка, але дзякуючы таму, што першабытная фантазія была нашмат прасьцей за нашу і здаецца нам па-дзіцячы элементарнай, мы, стаячыя на больш высокай прыступцы душэўнага пранікнення, лёгка адрозніваем прыдуманыя аўтарам камбінацыі атрыманых імі рэчаісных ураженняў ад натуральных камбінацый гэтых ураженняў у тагачасным жыцці.

Асабліва часта мы заўважаем, што падзеі, у якіх брала ўдзел усё грамадства, персаніфікаваліся старажытнымі розумамі ў прадукт дзейнасьці аднаго чалавека. Я не кажу ўжо пра такія выказванні, як «Ромул пабудаваў Рым», «Мосах» (біблейскі МШК ці проста МШ) пабудаваў Маскву[318] і г. д. Тут мы адразу разумеем, што асобным людзям у такіх вялікіх пабудовах магла належыць толькі ініцыятыва, але лёгка здагадацца, што і самі гэтыя асобы толькі персаніфікацыі агульных фактараў жыцця. Так я ўжо даводзіў раней, што біблейская назва МШ ці МШК з'яўляецца толькі славянскім словам муж і мужык, пры чым *ж* непазбежна перайшло ў *ш*, бо ў біблейскай мове цалкам адсутнічае літара *ж* і яна замяняецца на *ш*.

Аналагічна гэтаму я ўжо даводзіў, што першапаткова імя Аўраам было ў выглядзе Аб-ром, г. азн. Бацька-Рыма (Roma) і што гэтае імя пертварылася ў Абрама, таму што ў біблейскім альфабэце гук *О* часта замяняюць на *А* (א).

Параўноўваючы біблейскія прыгоды гэтага «прабацькі» з тым, што мы ведаем із грэцкіх і лацінскіх аўтараў (таксама дайшоўшае да нас у напалову

318 Забелін. Гісторыя горада Масквы

пераіначаным выглядзе), мы лёгка пачынаем аднаўляць і тыя дэталі грамадзкага жыцця, якім чалавечая фантазія толькі надала форму прыгод асобнага чалавека.

Тое ж самае і ў іншых выпадках.

Возьмем, напрыклад, апавяданні пра двух сыноў Бацькі-Рыма. Адзін быў – паведамляе нам легенда – ад яго законнай жонкі, якая спачатку мела імя Шара, г. азн. змагаючаяся[319], а потым была пераназвана ў Сару, г. азн. у царуючую[320]. Імя гэтага сына, кажуць нам, было Ісак, па-біблейску Іцхак[321], г. азн. пашыральнік пісання, а так як гэтае імя сугучна з біблейскім ЦХК[322] – смех, то аўтар, як гэта пважалі рабіць кабалісты, і дадае каламбур, быццам бы «царыца Рыма», кормячы яго грудзьмі ў састарэлым веку, прамовіла:

– «Кожны, хто пачуе пра такую справу, пасмяецца (ІЦХК) нада мной» (Б. 21. 7).

Дзякуючы гэтаму каламбуру гебраісты і сцвярджаюць, што імя Ісак азначае – Пасмешышча. Але такое імя, вядома, не магло быць нададзена каму б там ні было, раней, чым ён сапраўды стаў пасмешышчам, і таму нам нічога не застаецца як прыняць мой папярэдні пераклад, і тады атрымліваецца наступнае (як я ужо даводзіў раней).

У першапатковай Рымскай дзяржавы (Аб-рама) была жонка – рэлігія, якую спачатку звалі змагаючайся, а потым царуючай, г. азн. ужо перамогшай сваіх суперніц і ў яе быў сын Пашыральнік Пісьмовага Закону, г. азн. вызначанага кодэкса. «Багі» (АЛЕІМ) загадалі Рыму прынесьці яго «ў ахвяру ўсеспалення на гары Назіраючага Грамабоя, г. азн. на Вязувіі[323], і Бацька-Рым адразу ж прывёў туды Пашыральніка Закона, але, калі ён быў ужо пакладзены на вогнішча і калі ўжо была паднята рука забіць яго, «багі» скасавалі ўсеспаленне і Бацька-Рым замяніў сына авечкай. «Вось чаму – дадае аўтар – і кажуць: на сваёй гары пабачыць Грамабой» (Б. 22. 14).

Тут мы зноў непасрэдна набліжаемся да ўплыву сейсмічных з'яваў на эвалюцыю першага тэакратычнага заканадаўства, і акрамя таго замена Пашыральніка Пісьмовага Закона (Ісака) на Авена да такой ступені набліжае яго да евангельскага Ратавальніка, сімвалам якога быў Авен, што пакідаць гэта без належнай увагі ніяк немагчыма. Калі імя Ісаак прачытаць як Іса-хак, то атрымаецца Езус-Заканадавец, і жыдоўская транскрыпцыя ІЦ-ХК замест ІС-ХК можа выявіцца толькі асіміляцыйнай, падобна таму як у рускіх летапісах горад Стакгольм ператварыўся ў Сьцякольны, і ў рускіх памораў ангельская назва sea-wash (марская карова) ператварылася ў сівуча. Гэта азначае ісаакаўцы – гэта хрысьціяне.

А вось і другая рэлігія ужо не вулканічнага, а метэарытнага паходжання.

У Бацькі-Рыма акрамя Іса-ка быў яшчэ другі сын, ад яго прыслужніцы, г. азн. ад нецаруючай царквы Егры (ЕГР), імя якой перакладаюць: іншаземка. Але бяручы да ўвагі, што літара *Г* у арабаў вымаўляецца як ангельскае *g* (блізка да дж), і што галосная **ה** вымаўляецца прыдыхаючы, мы лёгка атрымаем із гэтага імя Хэджару, як завецца магаметанская эра ад 622 г. нашай эры. Але і без гэтага навядзення апавяданне прыводзіць нас тут – як мы ўжо бачылі – у Аравію, да раптоўнай

---

319 שרי (СРІ) – змагаючаяся і чараўніца.

320 שרה (СРЕ) – княгіня, царуючая.

321 יצא (ІЦА) – сыход і חק (ХК) – статут, закон, напісанне.

322 צחק (ЦХК') – сьмех.

323 יראה יהוה חר (ХР ІЕУЕ ІРАЕ) – гара Назіраючага Грамабоя.

крыніцы вады ў Сурскай (ШУР) пустыні, куды прагнаў Геджру (інакш Агар) Бацька-Рым праз падбухторванні сваёй царыцы – царквы.

Яна памірала там ад смагі – паведамляе нам кніга Быцця (Быц. 2 1, 17), але раптам да яе звярнуўся Вястун Грамабоя з неба і яна пабачыла недалёка ад сябе студню з вадой. У перакладзе на звычайную мову гэта азначае, што зваліўся з неба такі вялікі метэарыт, што выбіў у зямлі яму, запоўніўшуюся вадой і да яго пачалося нават пілігрымства.

Сапраўды, падзенні метэарытаў звярталі на сябе ўвагу ўсіх ужо пачынаючы з самых старажытных часоў. Вось некалькі прыкладаў гэтага.

Дыяген Апаланійскі сведчыць:

«Паміж бачнымі зоркамі рухаюцца нябачныя, якім таму і не дадзена назваў. Яны нярэдка падаюць на зямлю, падобна каменнай зорцы, якая звалілася ва ўзгаранні паблізу рэчкі Эгас».

У Галатыі пачынаючы з найстаражытнейшых часоў існавала ўшанаванне маці багоў Кібелы, выявай якой быў нябесны камень, і некаторыя нават лічаць, што грэцкае слова Кібас і царкоўна-славянскае ківат – аднаго кораня з імем гэтай багіні, што азначае ахвярнік. І ў іншых месцах Грэцыі нябесныя камяні служылі яе ўвасабленнем. Такім быў камень на Крыце.

Дакладна гэтак жа мы маем паведамленні, што і ў Сірыі ўпаў боскі камень Элаібал і быў прадметам рэлігійнага ўшанавання.

Іхнае сьвячэнне часьцей за ўсё бывае чырвоным ці зялёным і часам такім моцным, што нагадвае сонечнае, памеры бывалі часам большымі за месяцовы дыск. Выбухі іх, якія маюць нагодай распаленне змяшчаючыхся ў іх газаў, нагадваюць навальнічныя ўдары.

Арага ў сваёй астраноміі пералічвае да 1847 года 268 выпадкаў падання камянёў, пра якія ёсць праўдзівыя дадзеныя ці чуткі і паданні. Але нягледзячы на такую шматлікасць сведчанняў пра паданне камянёў з неба, навукоўцы аж да першых гадоў XIX стагоддзя прынцыпова адмаўлялі магчымасць падобных з'яваў. Такое стаўленне працягвалася да заканчэння красавіка 1803 г., калі паблізка ад Лэгля, у дэпартаменце Арны, пачаўся сапраўдны каменны град, таму што ўсіх сабраных там камянёў налічвалася да трох тысяч.

Адмаўляць гэтую з'яву, адбыўшуюся на вачах шматлікіх сведак, было ўжо немагчыма, і Парыжская акадэмія, згодна з загадам міністра ўнутраных спраў, выправіла на месца здарэння аднаго са сваіх сябраў, Біё, з мэтай выведаць акалічнасьці справы. Біё хутка вярнуўся і прадставіў шмат падабраных метэарытных камянёў, пры чым зрабіў падрабязны даклад пра ўсю з'яву, спасылаючыся на сведчанні шматлікіх асабіста ім выслуханых сведак. Камяні былі раскіданы на эліпсападобнай дзялянцы, меўшай у даўжыню і шырыню каля дзясятка вёрст. Самы вялікі із іх важыў каля 9 кілаграмаў, а самы маленькі каля 2 залатнікоў. Усе гэтыя аскепкі ўтварыліся ад выбуху аднаго і таго ж зіхацячага шара, разляцеўшагася дашчэнту пасьля чатырох выбухаў, нагадваючых гарматныя стрэлы. Нягледзячы на тое, што з'ява адбылася пасярод дня, гэты балід быў бачным са шматлікіх навакольных месцаў, аддаленых адзін ад аднаго на значную адлегласць, хаця гук быў чутным толькі паблізу месца падання камянёў.

Толькі пачынаючы з гэтага часу паведамленні пра нябесныя камяні перасталі лічыцца байкамі, і навукоўцы пачалі старанна збіраць і вывучаць гэтыя прадметы, пры чым выявілася, што ўсё яны могуць быць аднесены да аднаго із чатырох галоўных класаў. Першы клас: метэарыты складаюцца выключна із жалеза; другі – – метэарыты уяўляюць амаль суцэльную жалезную масу, у якую дададзены

камяністыя зерняткі; трэці, наадварот, метэарыты складаюцца амаль цалкам із каменнай масы, у якой жалеза ўключана ў выглядзе зернятак і, нарэшце, чацьвёрты метэарыты цалкам не змяшчаюць жалеза.

Я прывяду тут некаторыя выпадкі падання нябесных камянёў і ў навейшыя часы[324], каб чытач мог лёгка пазнаваць гэтыя з'явы і ў своеасаблівых ці забабонных старажытных паданнях.

У 1865 годзе, 25 жніўня (н. з.), каля паўдня зваліўся камень у Алжыры, паблізу Ачала, увайшоўшы ў зямлю каля ног аднаго із арабаў, які не мог паверыць, што застаўся жывым. Гэты камень важыў 61 фунт, і перад яго падзеннем быў чутны моцны гук, падобны стрэлу. Непадалёку ад гэтага месца быў знойдзены другі камень такога ж складу, як і першы. Абодва яны былі раздробнены арабамі на дробныя кавалачкі і размеркаваны паміж насельніцтвам як святыня.

У 1866 годзе 9 чэрвеня паміж 4 і 5 гадзінамі вечара выпала шмат камянёў рознай велічыні каля мястэчка Княгіня ў Вугоршчыне, пры чым быў чутны моцны шум, як быццам стралялі са шматлікіх гармат. Колькасць усіх камянёў даходзіла да 2 тысяч, і самы вялікі із іх важыў 33$^1/_2$ пуды. Ён паглыбіўся ў глебу на 2 сажні, пры чым раскалоўся на дзьве амаль роўныя часткі.

9 чэрвеня 1867 г. у 10$^1/_2$ г. вечара бачны быў яркі балід у Алжыры, у правінцыі Канстанціна, пры чым быў чутны выбух, і агнявыя пырскі разляцеліся ў розныя бакі. Аскепкі знойдзены былі ў Таджэры паблізу Сэціфа і заўважана, што адзін із метэарытаў, пралятаючы каля паверхні Зямлі, зрабіў у ёй даволі глыбокую баразну на працягу амаль цэлай вярсты (як гэта бачым на Месяцы).

У 1868 г. 30 (18) студзеня выпала вельмі шмат камянёў паблізу Пултуска, у Польшчы. Іх колькасць налічваецца больш за сотню тысяч. У адным Парыжскім музеі іх ёсць каля тысячы і ўсе яны пакрыты зверху тонкай шклопадобнай карой як бы чорным лакам.

Наступны год быў надзвычай багаты па частцы нябесных камянёў. 1 студзеня 1869 г. у Стакгольме пасярод дня раптам грымнуў выбух, як быццам стрэл із гарматы, пасьля чаго пачалі падаць дробныя камяні падобна граду. Потым, 22 студзеня ў 10 г. вечара жыхары паселішча Кералруэ, у Морбігане, раптам са здзіўленнем заўважылі моцнае сьвятло на небе, так што ўсё паселішча, здавалася, было ахоплена полымем. У той жа час пачуўся працяглы свіст і як бы грымоты, ад якіх дрыжалі глеба і сядзібы. На наступную раніцу ў адной свежай яме быў знойдзены чарнаваты камень у тры пуды вагой, які сяляне раскалолі, каб паглядзець, ці не ўтрымлівае ён у сабе золата ці срэбра, якіх, аднак, не выявілася. 5 траўня таго ж года, паблізу Свейбрюкена, у Баварыі, у 6$^1/_2$ гадзін вечара, пры цалкам ясным небе раптам пачуўся выбух, за якім следам пачуўся моцны і глухі шум, а потым прагучаў новы выбух мацнейшы за першы. На небе з’явіўся вогненны шар, і на зямлю зваліўся камень, глыбока праваліўшыся ў глебу. 25 снежня таго ж года ў Афрыцы паблізу Мурзука бачылі вогненны шар «трох футаў» у папярочніку; пасьля выбуху ён разляцеўся ў выглядзе яркіх іскраў. Натоўп арабаў, суправаджаўшы свайго шэйха, палічыўшы яго за цмока, зрабіў па ім некалькі стрэлаў. Потым, 23 ліпеня 1872 г. у 5$^1/_2$ гадзін вечара бачылі балід у дэпартаменце Лаура-Шара, паблізу Лансэ (ў Францыі). Ён хутка праляцеў па небу, і пасьля гэтага зваліўся камень у 47 кілаграмаў (115 фунтаў) вагой, які паглыбіўся ў зямлю больш чым на 2 аршыны. Адбыўшыся пры гэтым выбух быў такі моцны, што яго чулі ў трох суседніх дэпартаментах. У тым жа годзе, 31 жніўня ў 5 г. 15 хв.

[324] Бяру грунтуючыся на выпісцы Е. Прэдчэчанскага з яго кнігі «Каметы і знічкі». 1896.

раніцы бачылі балід у Рыме. Вогненны шар меў велічыню месяцовага дыска і выбухнуў з такой магутнасьцю, што народу здалося, быццам бы растрэскалася усё неба, а ўслед за тым на зямлю пасыпаўся сапраўдны град нябесных камянёў.

Асабліва ж выдатны выпадак падзення нябесных камянёў назіраўся 10 траўня (н. з.) 1879 г. у Амерыцы, у мястэчку Эстэрвіле, у штаце Аёва. Каля 5 гадзін вечара тут пачуўся раптам як быццам бы моцны артылерыйскі залп, за якім следам пачуўся глухі шум, як ад падання на зямлю чагосьці цяжкага. Услед за тым прагучалі два падобныя ж гукі, якія з’яўляліся, напэўна, рэхам першых. У той жа час з'явілася на небе вогненна-чырвоная паласа, на канцы якой імгненна ўтварылася нейкае воблака, хутка рассеяўшаяся, падобна дыму пры гарматным стрэле. Пасьля таго ад зямлі падняўся густы слуп пылу, і калі сведкі падбеглі да гэтага месца, то знайшлі тут глыбокую яму, шырынёй амаль у 4 метры. У гэтай яме пад пластом вады, на глыбіні 5 метраў, знайшлі нябесны камень у 213 кілаграм вагі, засеўшым у пласьце гліны. Паверхня каменя была вельмі няроўная і пакрыта выпукласьцямі. Непадалёк ад гэтай камлыгі былі знойдзены іншыя камяні, значна меншай велічыні, але адзін із іх важыў усё ж 3 тоны.

У 1882 годзе, 3 лютага ў 3 гадзіны папаўдні з жахлівым шумам выпаў каменны град у Клаузенбургу, у Трансільваніі. Усіх камянёў пазней было сабрана да 2 тысяч, і іхная агульная вага дасягала 254 кілаграмы. Перад выбухам і выпадзеннем камянёў, на небе была заўважана маленькае, хутка рассеяўшаяся, сьветлая хмарка.

У наступным годзе, 16 лютага каля паўдня з жахлівым грукатам здарыўся выбух баліда ў Італіі, паблізу мястэчка Альфапіела, пасьля чаго вялікі камень вагой больш за 200 кілаграмаў упаў на зямлю, паглыбіўшыся ў глебу на 1,5 метра, ад чаго скаланулася ўся глеба паселішча. Мясцовыя жыхары дасталі камень із ямы і невядома чаму разбілі яго на дробныя кавалкі. Загадчык музея ў Валоўі купіў адзін із іх вагой у 10 кілаграм за 700 франкаў (280 рублёў).

У 1887 годзе, 18/6 жніўня зваліўся нябесны камень у Ахонску Пермскай губерніі, вагой у 354 кілаграмы. Ён паглыбіўся ў зямлю, на глыбіню амаль 4 метры, і яго ўзоры былі разасланы па шматлікіх музеях. У той жа мясцовасьці ўпала і яшчэ адна каменная камлыга ў 118 кілаграмаў.

У момант свайго падання кожны нябесны камень выяўляецца вельмі гарачым на сваёй паверхні, тым часам як іхае нутро надзвычай халоднае. Яны большай часткай маюць пах серы, а іхная паверхня пакрыта тонкай карой чорнага колеру, як быццам чорным лакам. Іхная форма не мае ніякай правільнасьці ці пастаянства, але іхныя выступаючыя часткі і куты звычайна бываюць загладжанымі з нагоды пачаўшагася на паверхні плаўлення. У зломах гэтыя камяні ўяўляюць крупападобнае ўладкаванне і колер больш сьветлы, чым на паверхні.

Так як жалеза ў амаль цалкам чыстым выглядзе не сустракаецца на паверхні зямлі, то ўсе жалезныя камлыгі, знаходзімыя ў розных месцах і рэзка адрозніваючыяся ад мясцовых геатэктанічных парод, прылічваюцца да метэарытаў, хаця яны магчыма ўпалі нават у дагістарычныя часы. Із такіх камянёў вядома, напрыклад, камлыга амаль чыстага жалеза ў 690 кілаграмаў вагой, знойдзеная ў Сібіры Паласам, частка якой захоўваецца ў музеі нашай Акадэміі Навук. Падобная ж камлыга ў 21 тону вагой была знойдзена на Шпіцбергене і захоўваецца зараз у Стакгольмскім музеі. Акрамя таго вядомы камяні метэарытнага жалеза, знойдзеныя ў Ла-Плаце, вагой у 15 тон; у Бразіліі, вагой адзін у 4, а другі ў 9 тон, у Кітаі, адзін вагой больш 10 тон і ў Мексіцы 20 тон. Але і гэтыя камлыгі яшчэ не самыя вялікія,

таму што ў 1870 г. Нордэншэльд знайшоў у Грэнландыі цэлых 25 камлыг несумнеўна нябеснага паходжання; тры із іх вагой у 21, у 8 і 4 тоны былі перавезены ў Швецыю. Але і астатнія велічэзныя адломкі напэўна складалі сачатку адну камлыгу.

Нябесныя камяні часам былі нагодай разнастайных няшчасных выпадкаў. Так, кітайскія гісторыкі паведамляюць, што ў 616 годзе нашай эры імі было забіта адначасна дзесяць чалавек. Адзін із італьянскіх летапісаў згадвае, што ў 1511 г. быў забіты нябесным каменем цырульнік у Крэмоне, а ў 1650 г. францысканскі манах у Мілане.

У 1647 г. два чалавекі былі забіты нябесным каменем на караблі, у адкрытым моры. У 1748 г. вогненны шар выбухнуў паблізу карабля, плыўшага ў адкрытым моры. Пяць чалавек упалі ад яго на палубу, і адзін атрымаў моцныя апёкі.

Падобныя ж выпадзенні камянёў нярэдка выклікалі пажары і розныя разбурэнні. Так, напрыклад, 7 сакавіка 1618 г. ад іх пачаўся пажар у будынку суда ў Парыжы. У 1761 г. зваліўшымся балідам была спалена сядзіба ў дэпартаменце Кадор у Францыі. У 1835 г. паблізу Лазіерскага замка ў Францыі згарэлі ад баліда гумны, стайні і карэтныя адрыны. Усе гэтыя здарэнні, а таксама і шматлікія паведамленні ў старажытных летапісах прымушаюць нас чакаць, што сьляды метэарытаў мы не раз знойдзем і ў Бібліі, асабліва схільнай да нябесных з'яваў.

Так гэта і ёсць.

Пры бітве Езуса на «Ўзгорку» супраць паганцаў – паведамляе нам кніга «Езус» – калі яны беглі ад яго, «Грамабой кідаў на іх з нябёсаў вялікія камяні (мал. 109) ад Сядзібы Нары (Бэт-Арона) да Прабоіны (азека) і больш было тых, якія загінулі ад гэтых камянёў, чым тых, якія загінулі ад мяча богазмагальнікаў» (Езус, 10. 10). А менш дакладных апісанняў такіх выпадкаў мы знойдзем у Бібліі не адно.

Да падобных падзей, без сумневаў, адносіцца і ўжо згаданы вышэй выпадак з маці Ісмаіла Геджрай, калі вястун Грамабоя звярнуўся да яе (грукатам) з неба (Быццё 21. 17) і выбіў ёй, пакутуючай ад смагі, студню з вадой, якой яна перад тым не бачыла.

Можна выказаць здагадкуа, што тут апісаны менавіта той выпадак, калі з неба перад вачамі ўсёй Мекі звалілася вялікая сьвятыня ўсяго мусульманскага сьвету – знакаміты каабскі метэарыт – Чорны камень, «прынесены анёлам з раю» згодна з аднагалоснымі запэўніваннямі ўсіх мусульманаў. Калі б такая падзея адбылася не ў цэнтральным пункце аравійскай культуры і не перад вачамі ўсяго шматлікага насельніцтва, то гэты выпадак, вядома, прайшоў бы без выключна важных наступстваў. Але тут справа, відаць, ускладнілася той акалічнасьцю, што да Аравіі ўжо дайшлі ў самым фантастычным выглядзе апавяданні маракоў пра жахлівыя вывяржэнні Вязувія, і ўяўленне было да такой ступені падрыхтавана да ўспрымання ўсяго цудоўнага, што гэты, сапраўды выбітны, метэарыт быў палічаны за адмысловы знак бога не ездзіць больш ў Італію деля глыбокага ўшанавання Грамабоя, а ладзіць яго тут, і той, на чыё поле ён зваліўся, вядома, адразу ж падтрымаў такую ідэю і зрабіўся галоўным сьвятаром Грамабоя ў Аравіі.

У поўнай згодзе з падобнымі уяўленнямі з'яўляецца і заканчэнне легенды:

– «Ты народзіш сына (г. азн. новую секту Культа Грамабоя) – паведаміў Геджары («перасяленцы») той жа вястун Грамабоя – і дасі яму імя: Богапачуты (І-ШМЕ-АЛ)».

Грэкі, не ўмеўшыя прамаўляць гук *Ш*, пераіначылі яго ў Ісмаіла, і адсюль узнікла назва да-магаметанскай царквы арабаў ісмаэлітства.

Потым (Быццё 25. 12) паведамляецца, што ад гэтага «богапачутага» нарадзілася 12 дзяцей: «прароцства, арабская культура, боскі смутак, душэўны бальзам, паслухмянасць, немаўленне, узніманне, удасканаленне пачуццяў, бязгрэшнасць, кружэнне (верагодна дэрвішаў), жыццё і першастан».

Цалкам зразумела, што тут пералічаны не рэальныя сыны, а тыя ўласцівасьці і дабрачыннасьці, якія, на думку аўтара, былі наступствамі «рэлігіі Богапачутага». Якім жа чынам, – запытаю я, – наступны рэдактар гэтага месца, відавочна, ведаўшы значэнне словаў, прыпісаў: «Гэта імёны сыноў Ісмаіла па іхных мястэчках і качэўях: дванаццаць князёў сваіх плямён»(25, 16)? І якім чынам не бачаць іх сапраўнага значэння сучасныя гебраісты, якія не перакладаюць гэтых слоў, а прыводзяць іх проста ў жыдоўскім вымаўленні: Набат, Кедр, Адбал і г. д.?

Мне адкажуць:

– Нават жа на месапатамскіх надпісах згадваюцца некаторыя із гэтых назваў. Так у вялікім надпісе Асурбанапала знаходзім імя nabaitu, тое ж што і НБІТ, якое я пераклаў тут *прароцтва*; тамсама знаходзім імя Kidru як сінонім Аравіі (што, дарэчы, не далёкае ад майго перакладу біблейскага напісання КДР – арабская культура), і г. д. Як жа можна перасяляць усё гэта ў сярэдневечча?

– Так, – адкажу я, – і мяне самога гэта турбавала шмат гадоў. Але вось, я пачаў правяраць і час клінапісаў грунтуючыся на маючыхся ў іхным змесьце астранамічных дадзеных, і што ж выявілася? Замест ранейшых вылічэнняў, даваўшых толькі груба набліжаныя высновы ці ўтрымліваючыя ў сабе вялікія нацяжкі, пачалі атрымлівацца для кожнага клінапісу вельмі дакладныя высновы, калі я пачаў вызначаць іхны час прыпадаючы на сярэднія стагоддзі нашай эры. Усё гэта і будзе паказана мной у адным із наступных тамоў.

## III.
## Псіхалагічнае разважанне.

Згодна са сваёй дэманалогіяй ісмаэлітства, відаць, было вельмі блізкім да арыянства, і роля Магамета ў ім была падобна на ролю Лютара ў каталіцызме.

Сапраўды, калі б у нас не было дакладных паведамленняў пра стан каталіцызму да яго рэфарматара, і мы толькі чыталі б партыйныя паведамленні лютаранаў, то мы прыйшлі б да непазбежнай высновы, што каталіцкая царква была ідалашанавалніцкай і што ён першы ўсталяваў у яе адзінабожжа.

У дакладна такім жа становішчы мы знаходзімся і ў дачыненні да ўзнікнення магаметанства ў Аравіі. Мы маем тут толькі магаметанскія паведамленні, натуральнай мэтай якіх было ўзвялічыць свайго прарока і зняважыць тое, што было да яго. Вось чаму і тут мы павінны правейваць маючыяся ў нас паведамленні праз сіта лагічнага сэнсу і агульных законаў эвалюцыі веравызнанняў.

Грунтоўнае цверджанне тут такое.

Прыладай узрушэння містычнага настрою ў першабытным чалавеку служыла бесперапынная падсвядомая дзейнасць паўшар'яў яго вялікага мозгу, калейдаскапічна мудрагеліста камбінуючая і ў нас ураканні, атрымліваемыя із навакольнага сьвету і із фізіялагічных і паталагічных працэсаў, адбываючыхся ўсярэдзіне нашага ўласнага цела.

Гэтую пастаянную дзейнасць мазгавых паўшар'яў, калі яна адбываецца без удзелу «рэгулюючага цэнтра», мы ці цалкам не памятаем, а такім чынам не ўсведамляем, і тады дзейнічаем, як кажуць, інстынктыўна, ці ўсведамляем толькі слаба, як гэта бывае ў сне ці ў мроях, ці, нарэшце, мы запамінаем яе працу, як быццам нешта рэальнае. Такія выпадкі мы называем галюцынацыямі зроку, слыху,

нюху, дотыку, густу ці нейкага із нашых унутраных пачуццяў, накшталт адчування жаху, болі, халаду, без рэальнай для гэтага нагоды.

Із усіх гэтых відаў галюцынацый, выключна рэдкімі ў здаровага і не спячага чалавека бываюць толькі зрокавыя, калі нам нешта ўявіцца. А астатнія (калі нешта пачуецца, ці замест нейкага аднаго слова мазгавыя паўшар'і давядуць да цэнтра нашай свядомасьці іншае слова, сугучнае з ім, ці калі яны данясуць да яго адчуванне паху, для якога няма падставы ў навакольным атачэнні) такія частыя, што мы на іх не звяртаем нават ніякай увагі і забываемся яшчэ лягчэй, чым пра сны.

Вось дзе знаходзіцца ў першабытнага чалавека першы зародак містыкі! На гэтым грунце ўзнікла ўяўленне пра замагільнае жыццё нябожчыкаў у той жа форме, у якой яны жылі, і пра магчымасць працягу стасункаў з імі у сне ці ў экзальтаваным стане, калі мазгавыя паўшар'і пачынаюць зноў даносіць да цэнтральнай вобласьці нашай свядомасьці даўно атрыманыя імі ўражанні, таму што рэгулюючы апарат саслабеў пад уплывам наркозу ці надання звонку з боку мацнейшага валявога апарата гіпнатызёра.

Дзе ж лакалізавана гэтая цэнтральная і рэгулюючая вобласць нашай свядомасьці?




Мал. 150. Разрэз чалавечай галавы.

*1. Чэрап 2 Лобная пазуха. 3 Пазуха клінападобнай косткі. 4 Міжсківічны атажылак. 5. Ніжняя сківіца 6. Паднёбны атажылак верхняй сківіцы. 7. Пад'язычная костка. 8, 9 і 10. Хрыбетны слуп. 11. Каркавая звязка 12. Цвёрдая абалонка мозгу. 13. Падзел мозгу і мазжачка. 14. Вялікі мозг. 15. Малы мозг. 16 Мазольнае цела. 17. Прадаўгаваты мозг. 18. Спінны мозг. 19. Насавая пустоціны. 20. Абаняльны нерв. 21. Адтуліна зяпы, 22. Носаглоткавая адтуліна. 23. Адтуліна гартані. 24. Надгартанны храшч 25. Дыхальнае*

*горла. 26. Шчытападобная залоза. 27. Пустоціна рота. 28. Язык. 29. Язычок. 30. Стрававод.*




Мал.151.

*Папярочны разрэз электрычнаю вугра ( gymnotus electrieus). E – пласцінкавае ўладкаванне электра-ўтвараючага органа ў папярочным разрэзе і E' збоку. Sep. – фіброзная перапонка, падзяляючая правую і левую частку электрычнага органа. Fl – ніжні плаўнік. LH – паветраная пустоціна. DM, DM' – спінныя пучкі мязаў. VM, VM' – брушныя пучкі мязаў.*

Шляхам выключэння ўсяго астатняга, маючага добра выяўленыя і вызначаныя функцыі, і асабліва, калі мы прызнаём паўшар'і вялікага мозгу за орган толькі той вялізнай і бесперапыннай падсвядомай дзейнасьці, якая не перапыняецца ў нас ні днём, ні ноччу, якая падказвае нам як суфлёр усе нашы ідэі, і праз якую павінны прайсьці ўсе рэфлектыўныя рухі нашага цела для таго, каб набыць выгляд свядомай дзейнасьці, то – пасьля ўсяго гэтага – у нас не застанецца іншага месца для лакалізацыі рэгулюючага, валявога, а такім чынам і ўсведамляючага сябе і ўсё наваколле, апарата, акрамя кары нашага малога мозгу і ўросшага ў яго «дрэва жыцця» (мал. 150). Яно вельмі добра нагадвае ўладкаваннем сваіх «лісткоў» электрычны акумулятар, каб не прывесьці вывучаючага яго фізіка да думкі пра індукцыйную прыладу, асабліва, калі гэты фізік ўжо бачыў, хаця б на малюнках, гальванічны орган, размешчаны па баках галавы ў электрычнага ската (torpedo marmorata) ці электрычнага вугра (gumnotus electricus мал. 151), у якога яны ляжаць дзвюма парамі лістападобных жа почак уздоўж хваста, ці ў электрычнага сама ( malapterurus electricus) паміж скурай і мязамі.

У наш час мазжачок лічыцца рэгулятарам камбінаваных рухаў, а я хачу дадаць, што ён жа з'яўляецца рэгулятарам і камбінаваных думак, складаючых грунт нашай сьвядомай дзейнасьці, г. азн. і самой нашай свядомасьці.

Магчымасць існавання гальванічных органаў для абароны і для захоўвання ў жывым арганізме значных электрамагнітных зарадаў аж да таго моманту, калі спатрэбіцца іхнае вылучэнне, дастаткова паказвае на магчымасць таго ж і ў «дрэве жыцця» нашага мазжачка, хаця ён і можа разражацца толькі паступова, і таму неаднаўляемае спыненне такой яго дзейнасці будзе разам з тым і неаднаўляемым спыненнем сьвядомага жыцця чалавека і кожнай вышэйшай жывёлы.

Але як бы вы ні паставіліся да маёй лакалізацыі рэгулюючага нашы думкі, г. азн. ўсведамляючагае сябе як наша «я» апарата выключна ў мозжачку, – гэта не мае значэння для маёй цяперашняй думкі, складаючайся ў тым, каб паказаць, што падставай першабытнай містыкі была не поўная адпаведнасць рэгулюючага нашы

думкі мазжачка і вялікага мозга, здольнага выклікаць іх толькі ў хаатычным выглядзе. Дзякуючы гэтаму ў сьвядомасьці першабытнага чалавека з'явілася ўяўленне пра два сьветы з двума асобнымі жыццямі, і кожнае жыццё здавалася яму рэчаісным. Звычка дзяцей звяртацца за парадай да бацькоў і маладых людзей слухацца старэйшых заставалася і пасьля сьмерці старэйшых і ўзнікла тое, што мы зараз называем малітвай, практыкаваўшайся на пачатку, вядома, толькі ў дачыненні да сваіх продкаў у цяжкіх абставінах жыцця.

Гэты містычны настрой быў перанесены і на жывёлаў, і на расьліны, таму што існаванне выразнага вымаўлення не служыла яшчэ ў першабытнага чалавека адзіным доказам мудрасьці. Культ слова, як самадастатковай боскасьці, паўстаў, відаць, толькі з часоў евангелля Яна, якое я прыпісваю Яну Дамаскіну і адношу да пачатку дзявятага стагоддзя нашай эры. У ім упершыню выказана думка, што спачатку было «слова» і што «слова было – бог».

Чалавек пачатку нашай эры яшчэ не дадумаўся да такой абстракнасьці і не быў здольны да яе. Жывёлы, расьліны і камяні не размаўлялі згодна з яго ўяўленнямі толькі таму, што не жадалі ці прынялі на сябе зарок маўчання. Але яны ўсё чулі і разумелі, а калі мелі жаданне, то і размаўлялі, як гэта зрабіла Валаамава асліха ў Бібліі. Ніякага ўяўлення пра фізіялагічную ролю органаў слыху, зроку, мозгу, нерваў, галасавых звязак і г. д. яшчэ не было, і старажытны насельнік уяўляў душэўны настрой кожнай із атачаючых яго рэчаў грунтуючыся на зменлівым настроі сваёй уласнай душы. Шмат якія расьліны і жывёлы, – на яго думку, – ведалі нават больш, чым чалавек: яны прадбачылі нават надвор'е, рыбы маглі жыць нават у вадзе, птушкі лётаць па паветры, расьліны маглі квітнець, і вось разам з культам нябожчыкаў узнік і фетышызм. Нам цяжка зараз зразумець, чаму старажытныя ўяўлялі, напрыклад, Юпітэра Грамабоя не ў выглядзе магутнага чалавека, як пазней на статуях, а ў выглядзе быка, але тады яшчэ не было антрапамарфізму, і бык лічыўся не толькі больш моцным, але і больш мудрым за чалавека. Бог грому роў, як бык, і сіня-чорная навальнічная хмара неслася, апусціўшы свой пярэдні край уніз, як раз'юшаны бык сваю галаву, і вось па грунце першай асацыяцыі ідэй чалавек натуральна склаў пра «Грамабоя» ўяўленне, як пра нябеснага быка.

Тут яшчэ не было боскай сям'і із бога-бацькі, багіні-жонкі, і із іхных дзяцей абодвух стацей. Была поўная анархія ў сьвеце багоў як і ў свеце звяроў, і толькі ужо пазней, калі ўзнікла пісьмовасць, і чалавек пачаў усведамляць сваю перавагу над зьвярамі, расьлінамі і камянямі, пачалося на культурных вяршынях старажытнага чалавецтва, на берагах Міжземнага мора, змаганне з фетышызмам і звераўшанаваннем, якія ў культурных нізінах Зямнога шара захаваліся і да гэтага часу. Але глыбокае ўшанаванне звяроў захоўвалася вельмі доўга і на берагах Міжземнага мора. Сам Арон (г. азн. па-нашаму Арый), відаць, яшчэ ўяўляў бога-Грамабоя ў выглядзе быка, як пра гэта сведчыць легенда пра тое, што без Майсея ён прыгатаваў народу для глыбокага шанавання залатога цяльца.

Але вось антрапамарфізм узяў верх у рэлігіі тых мясцовасьцей, дзе развіўшаяся мастацае малярства і скульптура навучыліся вырабляць выдатныя чалавечыя фігуры, як жывыя, а гэта мы знаходзім ужо ў Пампеі. Але і тут першабытны розум не мог яшчэ адмовіцца ад звыклай яму ідэі, што жыхары неба ўяўляюць сабой не сям'ю, а цэлы народ, і таму наступнай прыступкай рэлігійных вераванняў павінен быў з'явіцца радавы пачатак: бог бацька, багіня маці і іхныя дзеці, а астатнія багі фетышызму ператварыліся толькі ў служак і прыслужніц гэтай сям'і, калі былі паслухмянымі, і ў духаў-адшчапенцаў, калі выявіліся

непакорлівымі. І толькі пасьля пераходу праз гэтую прыступку магла з'явіцца і прыжыцца на культурных вяршынях чалавецтва ідэя пра адзінабожжа і прытым з некаторым, хаця і ніколі не поўным адступленнем ад антрапамарфізму.

Такую ідэю мы і бачым упершыню ў вучэнні Магамета (на пачатку VII стагоддзя нашай эры), і яно несумнеўна не магло ідэалагічна з'явіцца раптоўна, а толькі ў тым выпадку, калі перад тым ужо быў агульнапрызнаным сямейны пачатак у мясцовай тэалогіі. А практычна магаметанства, як і лютаранства і іншыя культы, рэзка ўварваўшыяся на падмосткі чалавечага жыцця, не магло б ажыццявіцца ў агульнанародных памерах, калі б кіраўнікі ранейшага культу ўжо не назапасілі, дзякуючы шматгадовым прынашэнням вернікаў і сваёй прыватнай дзейнасьці, вялікія багацці і не ўтварылі б адасоблены грамадзкі стан, абуджаючы зайздрасць усёй астатняй масы насельніцтва. Тады бескарыслівы і фанатычна адданы сваёй ідэі пратэстант, якім быў Магамет, непазбежна павінен быў бы зрабіцца правадыром натоўпу, але ніяк не дзякуючы толькі адным сваім гарачым павучаннем перад народам, а толькі ў тым выпадку, калі прадстаўнікі ранейшага культу і самі ўжо перасталі верыць у сваю сапраўдную праўдзівасць, і здзяйснялі свае звычаі толькі па інэрцыі і з матэрыяльнай выгадай, апраўдваючы сябе перад культурнай часткай насельніцтва патрэбнай «трымаць у падпарадкаванні некультурную масу насельніцтва, якая яшчэ не здольна засвоіць высокія навукі». Паралізаваны сваёй уласнай няўпэўненасьцю, адстаўшы ад разумовага жыцця, гэты толькі на выгляд зараз самы высокі клас не мог наладзіць энергічнага ідэйнага супраціву сваім ідэйным крытыкам і ўжываў у дачыненні да іх толькі рэпрэсіі, якія толькі падлівалі масла ў загарэўшаяся полымя і выносілі спрэчку «на вуліцу». А «вуліца», хаця і не разумела сутнасьці справы, але лёгка пераходзіла на бок апазіцыі згодна з натуральнай падазронасьцю да зведаўшых няўдачу ў сваіх малітвах, і праз інстынктыўнае прадчуванне магчымасьці разрабаваць маёмасць сваіх заможных субратоў, долю якой для сябе кожны пры падзеле, праз нямогласць падлічыць дакладна, лічыў у жахліва перабольшаным выглядзе.

Утварылася дзіўная на першы пагляд, але ў найвышэйшай ступені магутная камбінацыя. З аднаго боку, ідэйны правадыр, Магамет, і яго ідэйныя ж арганізацыйныя памагатыя, ствараючыя сваіх не ідэйных супрацоўнікаў адпаведна сасваім выглядам і падабенствам і гатовыя ўсім ахвяраваць дзеля іх, а, з другога боку, не ідэйны натоўп, не разумеючы душы сваіх правадыроў, але адчуваючы магчымасць пажывіцца, ідучы за імі, і гатовы з задавальненнем прыняць кожную іх ахвяру дзеля сябе. А супернік быў, – як я ўжо сказаў, – даўно дэмаралізаваны і быў здольны выяўляць толькі нерашучы, канвульсіўны і таму малаэфетыўны супраціў. Усё гэта мы і бачым выразна ў першакрыніцах маючых дачыненне да пачатку магаметанства, а ў апрацаваным выглядзе ў выдатнай манаграфіі Чараванскага, якую я шырока прадстаўлю ў раздзеле адмыслова прысвечаным ісламу.

Тут жа я разважаю толькі пра сутнасць культу, які быў скасаваны ў Аравіі магаметанамі, і які кніга Быцця называе «богапачутым» (ізмаільскім) і лічыць няшлюбным братам рымскага культу з богам-Грамабоем на чале.

З гэтага боку гледжанняісмаіліцтва, г. азн. богапачутае веравызнанне, было толькі метэарытным адгалінаваннем сейсмічнага культу бога-Грамабоя, як бацькі ўсіх багоў, годных такой назвы.

Бацька-Рым (Аб-Рам), замяніўшы Авенам свайго законнага сына «Пашыральніка пісьмовасьці» (Ісака), прызначанага для «ахвяры ўсеспалення» на Вязувіі, назваў гэтае месца: «Гара бачання Грамабоя». А маці Богачуючага

(Ісмаіла), пабочнага сына таго ж Бацькі-Рыма, назвала выбітую метэарытам яму, пры якой ёй з'явіўся Вястун Грамабоя (таксама абяцаўшаму памножыць яго пасьлядоўнікаў без ліку): Скарбніцай бачання бога і прамовіла: «тут я бачыла бачыўшага мяне» (Б. 16. 13).

Мы знаходзім тут цесныя ўзаемадачыненні да-магаметанскай арабскай тэалогіі з рымска-візантыйскім арыянствам IV стагоддзя.

Яшчэ больш цікавым з'яўляецца, – як я ўжо згадваў, – супадзенне імя Ісмаіл з імем Сымон.

Вядома, у нашым грэцкім вымаўленні паміж абодвума імёнамі вельмі малое падабенства, але паглядзім на іхнае сапраўднае вымаўленне і юдэйскую транскрыпцыю.

Сымон па-жыдоўску ШМЭ-УН, г. азн. Чуючы Моцнага (АУН), а Ісмаіл па-жыдоўску І-ШМЭ-АЛ, г. азн. Пачуўшы Ўсемагутнага. Гэта таўталогія: тое самае імя ў двух гаворках, і таму мы пакідаем за сабой права даследаваць у будучым выкладанні, ці не маюць абодва найменні дачынення да таго ж самага культа «Ўсемагутнага бога».

# ГЛАВА IV.

## Легенда пра «Пашыральніка Пісьмён» (Ісака) і пра яго дзяцей двайнят.

Жонка Бацькі-Рыма «Чара» ўжо пасьля таго, як яна пераназвала сябе ў Царыцу (Сару, г. азн. зрабілася дзяржаўнай царквой) нарадзіла сына, якому дала імя «Пашыраннік пісьмовых законаў» (Ісак па-грэцку)»[325].

У гэты час Бацьку-Рыму мінула сто гадоў, і ён здзейсніў над сынам звычай абразання на восьмы дзень ад нараджэння (21. 4).

Калі верыць легендзе, што такая падзея адбылася праз 14 гадоў пасьля нараджэння Ісмаіла ад арабскай Геджры, то яна была не раней VII стагоддзя нашай эры, пры Хазрою Справядлівым. А калі лічыць пачатак Бацькі-Рыма з часоў аб'яшчэння папскага хрысьціянства пануючай рэлігіяй (пачатак V стагоддзя), то паказваемы час будзе блізкім да часу валадарання Юстыніяна (527-565). І сам «Пашыральнік пісьмовых законаў» павінен атаясамляць Юстыніяна з яго кодэксам законаў, і, пашырана, адну із важных рэлігійных сектаў таго часу, развіваўшыхся на працягу далейшых стагоддзяў паралельна з ісламам-ісмаэлітствам.

Што Пашыральнік Пісьмовых Законаў (па-біблейску Ісак) быў не толькі асобай, але і персаніфікацыяй важнай рэлігійнай секты, вынікае і з відавочна астральнай легенды пра прынясенне яго ў ахвяру Грамабою.

«Пасьля заключэння міру паміж Бацькам-Рымам і Царскім Бацькам каля студні Сямі (планет), – паведамляе 22 глава кнігі Быцця, паставіўшая гэтую легенду ў сувязь з сыходжаннем планет каля Ўрны Вадаліва ў 610 годзе, – Бацька-Рым (сімвалізаваны Сонцам) пачуў кліч Бога (АЛЕ):

– «Бацька Рым!»

---

[325] יצ־חק (ІЦ-ХК), ад יצא־חק (ІЦА-ХК) – распаўсюджваючы пісьмовы закон, або распаўсюджваючы напісанне. Яго імя цалкам дарэмна выводзяць у сучасных тэкстах Бібліі ад кораня צחק (ЦХК) – рагатаць. Нічога падобнага на рагатанне ў яго гісторыі няма, а легенда пра то, што праз яго рагаталі над яго маці, вядома, прыдатная толькі для грудных дзяцей.

– «Я тут!» – адказаў ён.

– «Вазьмі адзінага твайго сына, якога ты шануеш, і прынясі яго ў ахвяру ўсеспалення на месцы Гаркаты Грамабоя[326] на гары, пра якую я табе скажу».

«Бацька-Рым падняўся рана раніцай, запрог Асла (у сімвале Асляняці ў сузор'і Рака), узяў з сабой двух Падлеткаў (у сімвале Двайнят) і пайшоў на прызначанае месца (у сузор'е Ахвярніка). Ён пабачыў гэтае месца ўдалечыні (ад сузор'я Раку) і сказаў Падлеткам Двайнятам:

– «Заставайцеся тут з Аслом!»

«Потым ён узяў у руку Нож (у сімвале Каметы) і Полымя (у сімвале ранішняга світанку) і прыйшоў з сынам (сімвалізаваным Месяцам) на месца, пра якое яму паведамілі багі (АЛЕІМ). Ён звязаў «Пашыральніка Пісьмёнаў» (у сімвале Змеятрымальніка), паклаў на Ахвярнік паверх дроў і, працягнуўшы руку, узяў Нож (камету), каб закалоць яго. Але вястун Грамабоя паклікаў яго зноў з неба:

– «Бацька-Рым! Бацька-Рым! Не паднімай рукі тваёй на юнака! Не рабі з ім нічога! Я пераканаўся зараз, што ты баішся багоў і нават не пашкадаваў для мяне адзінага твайго сына».

Бацька-Рым падняў свае вочы і пабачыў ззаду сябе Авена (АІЛ), заблытаўшагася рагамі ў гушчары (паўстаўшага на ўсходзе над лесам на фоне адлюстравання полымя вечаровага зарыва). Ён узяў яго і прынёс у ахвяру ўсеспалення замест свайго сына, і назваў гэтае месца Бачанне Грамабоя (ЕУА ІЕВЕ).

Астральная сімвалістыка гэтай легенды відавочная. Тут фігуруюць сузор'і Асёл (у Раку), Двайняты, Ахвярнік, заходзячы над дрэвамі ў полымі вечаровага зарыва, што паказвае на месяц верасень і ўзыходзячы Авен. А падняты над Пашыральнікам Пісьмовага Закона меч, відавочна, уяўляе мечападобную камету, хвост якой, ідучы ад Сонца, быў над Месяцам, праходзіўшым над Ахвярнікам неба.

Ці існавала калі-небудзь на небе падобная выява? Калі існавала нешта падобнае на ахвяраванне Ісака на небе?

Мы бачылі, што ў папярэдняй частцы распавядалася пра сыходжанне планет паблізу Ўрны Вадаліва (скарбніца сямі планет) у 610 годзе нашай эры і таму натуральна нараджаецца пытанне, ці не праходзіла каля гэтага часу якая-небудзь вялікая мечападобная камета, праз Двайнят і Рака, і потым у накірунку да сузор'я Ахвярніка і ці не дась яна нам указанняў на астатнія дэталі легенды? Так гэта і ёсць. Пад 607 годам у кітайскіх летапісах Шэ-Ке і Ма-Туань-Лін паведамляеццца, што за тры гады да гэтага сыходжання планет каля Ўрны Вадаліва з'явілася ў сакавіку вялікая камета, якая зараз атаясамляецца са знакамітай у сярэдневечных летапісах каметай Галея.

«У 607 годзе, – паведамляе Ма-Туань-Лін, – 13 сакавіка ўпершыню пабачылі камету ва ўсходняй вобласьці Двайнят.... Яна зайшла (праз Рака і яго Аслоў) у прастору паміж Ільвом і Паннай, змяла бэту Ільва і знікла праз 100 дзён» (відавочна дайшоўшы хвастом да сузор'я Змеятрымальніка над Ахвярнікам). Такім чынам, астральным сімвалам Пашыральніка Пісьмовых Законаў тут з'яўляецца Месяц, атаясамляемы з Месіяй рабіністаў і з ўзнёсшымся на неба Хрыстом сярэднявечных хрысьціянаў. А Бацьку-Рыма астральна ўяўляе Сонца.

Гэтая камета вырабіла такое моцнае ўражанне, што мы маем пра яе рэдкі выпадак другога запісу ў кітайскіх летапісах.

---

[326] מרי־יה (MPI-IE) – Гарката Грамабоя.

«У 607 годзе 4 красавіка (калі Сонца бывае ў Авене), – паведамляюць нам Шэ-Ке і Ма-Туань-Лін, – назіралі хвастатую зорку на заходнім небасхіле. Яна прайшла праз вобласць альфы, дэльты і тэты ў Андрамедзе, праз сузор'е Рыб і галаву Авена (прынесенага ў ахвяру замест Змеятрымальніка) і зайшла ў сузор'е Панны. 21 кастрычніка яна павярнулася (адхілілася ад Змеятрымальніка) і была бачнай на поўдні. На небасхіле Панны яна была чырванаватага (Крывавага) колеру. Яна змяла зоркі паміж Ільвом і Паннай і знікла на пачатку наступнага года».

Такім чынам дэталі неадбыўшагася ахвярапрынашэння Бацькам-Рымам свайго сына – Пашыральніка Пісьмовых Законаў, з заменай яго на Авена былі «ўсталяваны» астралагічным шляхам на пачатку VII стагоддзя. Праходзіўшая вялікая камета Меч абудзіла разнастайныя чуткі і, нарэшце, была патлумачана, як адмысловы загад ужо ўзнёсшамуся на нябёсы Бацьку-Рыму прынесці ў ахвяру сваё стварэнне – Візантыйскую імперыю, але гэты загад быў адменены, і пасланец бога Грамабоя затрымаў ужо занесены меч.

Адзначу што ў 607 годзе Сатурн і Юпітар карагодзіліся разам паміж Стральцом і Казярогам. Лічачы Ісмаіла за ўвасабленне ісламу, мы павінны лічыць Ісака за сімвал месіянства пачатку VII стагоддзя.

Разгледзім жа і астатнюю яго гісторыю.

Мы ведаем, што Рымскую імперыю ў Італіі замяніла царства готаў, ахапіўшае ў 526 годзе, падчас Тэадорыха Вялікага, не толькі Італію з Сіцыліяй, але і Паўднёвую Францыю, Швейцарыю, Баварыю, Тыроль і ўсю паўночна-заходнюю вобласць Балканскай паўвыспы, дзе зараз Боснія з Герцагавінай і Сербія, аж да Верхняга Дуная. І вось у кнізе Быцця і распавядаецца, што Бацька-Рым скончыў сваё жыццё ў Зямлі готаў, называемых у перакладах хетамі.

«Ста дваццаці сямі гадоў ад нараджэння памёрла Чара (калі лічыць ад Нікейскага сабора, то атрымаецца 452 год – нашэсьце Атылы з гунамі на Рымскую імперыю).

«Бацька-Рым сказаў готам (хэтам):

– «Я прыхадзень і асаднік сярод вас. Дайце мне ва ўласнасць месца для труны, каб схаваць маю жонку ад маіх вачэй».

– «Ты князь боскі сярод нас, – адказалі готы. – Пахавай тваю нябожчыцу ў лепшым із нашых пахавальных месцаў. Ніхто із нас ні ў чым не адмовіць табе» (23. 1-7).

Пасьля гэтага стала раўніна Эбра (ЭБРУН, г. азн. Іберыя, зараз Гішпанія), разам з яе пячорай і навакольнымі дрэвамі, валоданнем Бацькі-Рыма перад вачамі готаў і ўсіх уваходзячых у вароты горада. Гэта і ёсць Хеўрон (ХБРУН) у зямлі Ханан» (тэндэнцыйна тлумачыць рэдактар, Быццё, 23. 19).

Апавяданне пра адружанне «Пашыральніка пісьмёнаў», ледзь не прынесенага ў ахвяру Грамабою, астралагічна перадаецца ў 24 главе Быцця ў такім выглядзе:

«Бацька-Рым (нябесным знакам якога стала ўжо сузор'е Яна Ахрышчальніка – Вадаліў) пастарэў і сказаў старэйшаму са сваіх слуг (Месяцу), кіраваўшаму ўсёй яго сядзібай:

– «Пакладзі сваю руку пад мой фалас[327] (Месяц час ад часу праходзіць непасрэдна праз фалас Вадаліва) і кляніся Грамабоем, богам неба і зямлі, што ты

[327] מרי־יה (ІРК) – у царкоўных перакладах: сьцягно. Гэтым жа словам пазначалася і ляшка, калі верыць слоўнікам.

не возьмеш жонкай майму сыну із хананскіх дачок, сярод якіх я жыву, але пойдзеш за ёю ў маю родную зямлю» (Рымскую вобласць).

– «Ці не лепш вярнуць туды самаго твайго сына?» – адказаў слуга.

– «Асьцерагайся так рабіць! Грамабой, ўзяўшы мяне адтуль і абяцаўшы даць гэтую зямлю маім нашчадкам, вышле перад табой свайго вястуна, і ты возьмеш адтуль жонку (г. азн. рэлігію) майму сыну».

«Наглядчык паклаў сваю руку пад фалас Бацькі-Рыма, свайго гаспадара, і пакляўся яму. Потым ён падняўся і пайшоў з дзевяццю вярблюдамі і разнастайнымі каштоўнасьцямі на Ўзвышша струменяў, у горад Правадыра святла[328].

«Пад вечар ён паставіў сваіх вярблюдаў на калені паблізу горада, каля студні з вадой, і сказаў сабе:

– «Вось я стаю каля крыніцы, і дочкі жыхароў горада выходзяць чэрпаць ваду. Хай дзяўчына, якой я скажу: «нахілі твой жбан мне напіцца» і якая адкажа: «пі, я дам і тваім вярблюдам», – будзе той, якая прызначана «Пашыральніку пісьмёнаў».

ТАБЛІЦА XVIII.

Радавод Ісака і Рэвекі (Быццё 11, 24).




«Не паспеў ён закончыць, як выйшла Суцяшальніца Спрэчкі (Рэвека[329]), дачка Богаўмяшчальніка (БТУ-АЛ), сына Царыцы і «Правадыра Святла», брата Бацькі-Рыма (табл. XVIII), са жбаном на плячы. Яна была прыгожая на выгляд, падышла да крыніцы (нахор) напоўніла жбан і пайшла ўгару. Ён пабег ёй насустрач і сказаў:

– «Дай мне выпіць крыху воды са жбана».

– «Пі, спадар мой, – адказала дзеўка, – я начарпаю і для тваіх вярблюдаў. Хай нап'юцца».

«Яна выліла ў паільню ваду са жбана і зноў пабегла да студні, пакуль не начарпала для ўсіх яго вярблюдаў.

«Тады ён даў ёй залатое кола для ўвядзення ў нос, палову-сікля вагой, і два залатыя бранзалеты вагой у дзевяць сікляў, на яе руку і схіліўся перад Грамабоем.

«Паненка пабегла і паведамла маці пра гэтую справу. Яе брат Світанак[330], пабачыўшы залатое кола на яе носе (мал. 152 і 153) і бранзалеты на руках, пабег да таго чалавека, прывёў яго ў сядзібу, распрог вярблюдаў, даў ім саломы і кармоў, і прынёс вады памыць яго ногі і ногі тых, хто быў із ім, і прапанаваў ім ежы.

«Але служка сказаў:

---

[328] נהרים ארם (АРМ-НЕРІМ) – узвышанасць патокаў; נח־ור (НХ-УР), інакш נח־אור (НХ-АУР) – павадыр сьвятла.

[329] Даю значэнне згодна з Cruden'у, які выводзіць слова Рэбэка, пішучаючаяся רב־קה (РБ-КЕ) ад ריב (РІБ) – пярэчанне і קהה (К'ЕЕ) = כהה (КЕЕ) – прытупляцца, слабець.

[330] לבן (ЛБН) – ясны. Згодна з далейшым тэкстам відаць, што гаворка ідзе пра світанак, характэрызуючы Ўсход.

– «Не буду есьці, пакуль не паведамлю пра сваю справу».

«Ён паведаміў усё. Світанак і Богаўладар паклікалі «Суцяшальніцу Спрэчкі» і запыталі яе:

– «Ці пойдзеш ты з гэтым чалавекам?» «Яна адказала:

– «Пайду».

«Служка пасадзіў яе і яе прыслужніц на вярблюдаў, і яны паехалі.

«Пашыральнік Пісьмёнаў» (у знаку Змеятрымальніка) жыў у гэты час у Паўднёвай краіне каля крыніцы Сківіцы (расколіны Млечнаю Шляхі)[331].

«Пры наступленні вечара ён выйшаў у поле і, падняўшы свае вочы, пабачыў, што едуць вярблюды (аблокі). А «Суцяшальніца Спрэчкі» (Панна), пабачыўшы «Пашыральніка пісьмёнаў», спусьцілася са свайго вярблюда і закрылася пакрывалам» (Быц. 24. 62), г. азн. схавалася за небасхіл, як і заўсёды бывае пры кульмінацыі Змеятрымальніка.

«Служка паведаміў яму ўсё, што было; і «Пашыральнік пісьмёнаў» увёў яе ў шацёр сваёй маці, Царыцы, і яна стала яго жонкай. Ён пакахаў яе і суцешыўся па маці» (Быц. 24. 1-67).



Мал.152.

*Залатое кола пад носам «Суцяшальніцы спрэчкі». Колападобнае зацьменне Сонца пад носам сузор'я Панны 1 верасня 536 года нашай эры.*



Мал. 153.

*Розныя формы, якія набывала залатое кола Сонца пры колападобным зацьменні пад носам сузор'я Панны 1 верасня 536 г. еўрап. эры.*

Так здзейсніўся пераход у асяроддзі часткі насельніцтва вялікай Лаціна-Эліна-Сірыйска-Ягіпецкай імперыі ад першапачатовай хрысьціянскай рэлігіі да новай навуковай-рабінскай, якую тут увасабляе «Суцяшальніца спрэчкі» – нябесная Панна. Усё гэта тут астралізавана, але астральная алегорыя намалявана такімі яскравымі рысамі, што яе няцяжка адразу аднавіць і нават вызначыць час узнікнення гэтай легенды.

---

331 לחי־ראי (ЛХІ-РАЙ) ад ЛХІ – сківіца, шчака і РАЙ – бачанне. Адзінае такое месца на небе – у сузор'і Змеятрымальніка, у цясніне Млечнага шляху.

Пачатковым пунктам тут можа служыць Залатое Кола, уваткнутае ў нос Суцяшальніцы спрэчкі – Панны. Пры астральным тлумачэнні гэта магчыма патлумачыць толькі колападобным зацьменнем Сонца пры яго праходзе пад носам сузор'я Панны, што бывае на пачатку верасня.

Ад пачатку нашай эры падобнымі зацьменнямі былі толькі:

164 г.-IX-4, ішоўшае із Гішпаніі праз Каір, па-за іншымі культурнымі цэнтрамі.

536 г.-IX-1, выдатнае, прайшло па ўсёй Італіі праз Рым і Неапаль у Ягіпце пад носам Панны.

787 г.-IX-16, із Італіі праз Сіцылію і Каір, але ужо ў грудзях Панны.

1093 г.-IX-23, із паўночнага захаду праз Канстантынопаль, але ужо ў сярэдзіне Панны.

Із іх Сонечнае кола вісела пад носам Панны толькі пры зацьменні 1 верасня 536 года (мал. 152 і 153).

А да пачатку нашай эры, пачынаючы ад 1200 года, можна звярнуць увагу толькі на колападобнае зацьменне мінус 533 года 31 жніўня, – якое ішло із Францыі ў Каір па Міжземным моры.

Адпаведна з гэтым вымалёўваюцца і галоўныя дэталі астральнай выявы: Юпітар быў тады налева ад Панны і Скарпіёна, Сатурн – направа ад Панны ў Ільве, Венера была каля апушчанай рукі Панны, а Меркурый у прыпаднятай. Гэта і былі залатыя бранзалеты. Дакладна так жа высвятляюцца і іншыя падрабязнасці. 10 вярблюдаў, гэта 10 месяцовых месяцаў, на горб якіх садзіўся Месяц – «кіраваўшы ўсімі справамі неба», – перш чым даехаў ад сузор'я Скарпіёна да Панны.

«Калі Суцяшальніца спрэчкі – нябесная Панна – стала цяжарнай, – працягвае легенда, – у яе жываце пачалі штурхацца двое сыноў (Сонца і Месяц) і яна сказала:

– «Калі будзе так, то для чаго мне гэта?»

«Але Грамабой ёй сказаў:

– «Гэта ўтворацца два народа. Адзін будзе мацней за другі, і большы будзе служыць меншаму».

Калі надышаў час вызвалення ад цяжарнасьці, Сонца перайшло ўжо ў сузор'е Двайнят і таму, вядома, нарадзіліся Двайняты.

«Першае немаўля, – паведамляе легенда, – з’явілася румяным і доўгавалосым (Сонца – знак праваслаўнага святарства-назарэйства) і яна яго назвала Эсу[332] (лацінскае Iesus), г. азн. хрысьціянін, ці ессей. Потым з’явіўся другі, трымаючыся рукамі за яго пяту, і яна яго назвала Богаследчым (Якаў[333]).

Такой з’яўляецца легенда пра ўзнікненне есеяў-хрысьціянаў і якавітаў. Родапачынальнікам апошніх лічыцца Якаў Барадэй, памёршы ў 578 годзе нашай эры ў Сірыі, заснаваўшы ў ёй (у 541 годзе) монафізіцкую царкву са сваім найменнем.

Якавіты прызнавалі ў Месіі толькі адну ўвасобленую боскую прыроду, а не сумесь чалавека з богам, як хрысьціяне. Яны пашыраны ў Ягіпце, Сірыі і Месапатаміі, дзе да гэтага часу маюць назву якавіты. Ад іх узніклі цэрквы армянская, абісінская і копцкая, а таму зразумела, што іхнаму родапачынальніку Якаву Барадэю нададзена такое важнае месца і ў Бібліі.

Яго смерць адбылася праз 42 гады пасьля часу вылічанага намі сонечнага кола пад носам сузор'я Панны. Гэта азначае, паказанае намі колападобнае зацьменне Сонца здарылася ў перыяд яго маладосьці, а выраз, што «Якаў выйшаў

[332] עשו (ЭСУ) – стваральні, касматы, Сонца.

[333] עקב-י (I-ЭКБ) = עקב-יה (II-ЭКБ) – богашукальнік, ад ЭКБ лаўлю за пяту, пераследую каго-небудзь.

із улоння маці, трымаючыся за пяту Езуса», патрэбна разумець алегарычна. Легенда хоча сказаць, што першапачатковае хрысьціянства падзялілася каля 540 года нашай эры на «езуітаў», г. азн. Езусаўцаў (хрысьціян) і якавітаў. Першыя сімвалізаваліся Сонцам, так як лічылі час сонечнымі гадамі, другія, – Месяцам, бо карысталія месяцовым каляндаром. Месяц, згодна з толькі што прыведзенай легендай, выйшаў, трымаючыся за пяту Сонца, бо і, сапраўды, калі мы будзем лічыць сутачны рух Сонца, як ён ёсць, ад усходу да захаду, то яго зацьменне заканчваецца, калі Месяц перастае трымацца за яго пяту, г. азн. за заднюю частку. Пры Якаву Барадэі такое зацьменне ў Панне было, як я ўжо паказаў, бачна ў Рыме 3 лістапада 536 гады, а праз чатыры гады, 20 чэрвеня 540 года, у тым жа Рыме было бачна і толькі што апісанае выдатнае сонечнае зацьменне ў Двайнятах. Гэта азначае, што разглядаемая легенда ўзнікла ў Рыме на прыканцы V стагоддзя.

Што ж да ясеяў, то іхную манаскую ці напаловуманаскую камуністычную секту лічаць узнікшай яшчэ раней хрысьціянства і цалкам знікшай падчас жыцця Васіля Вялікага, заснавальніка хрысьціянскага набажэнства. Але ці сапраўды тут няма храналагічнай блытаніны і ці не было ясейства толькі адным із найменняў хрысьціянства, рознай у розных народаў? Вымаўляюць жа і ў наш час імя Езуса то як Езус, то як Жэзю, то як Джызес і г. д. Чаму б і не вымаўляць яго як Эсу, і як Есей?

Адзначу перадусім, што ў талмудысцкай літаратуры мы нічога не знаходзім пра ясеяў і ведаем пра іх толькі із апакрыфічных грэцкіх і лацінскіх аўтараў: Філана, Ёсіфа Флавія, Плінія Старэйшага, ад якіх быццам бы запазычылі свае звесткі і хрысьціянскія пісьменнікі Іпаліт, Парфірый, Яўсевій, Селінус і Епіфан.

Але хаця я і лічу гэтых апошніх таксама апакрыфічнымі і належачымі заканчэнню сярэдніх стагоддзяў, аднак думаю, на падставе шматлікіх меркаванняў, што Філан, Ёсіф Флавій і Пліній Старэйшы былі яшчэ больш пазняга паходжання чым яны, і запазычалі свае звесткі ў гэтых ці ў іншых хрысьціянскіх пісьменнікаў. Грэцкія аўтары пішуць гэтае слова εσσαιοι (эсайоі), як усюды ўжывае і Пліній. А Флавій ужо блытае гэтую назву. Із 20 выпадкаў ён 6 разоў піша правільна, а астатнія 14 разоў ужывае: ἐσσηνοί (эсэной). Гэтак жа дваяка піша і Філан, і звыш таго яшчэ выводзіць гэтае найменне ад ὅσϊος (асіас) – сьвяты, падобна з жыдоўскім ХСІ – набожны, а таксама і з сірыйскім словам אסא (АСА) – лекар, таму што згодна з некаторымі сведчанямі есеі практыкавалі і лекаване.

Калі мы паглядзім на іх па сутнасьці, то пабачым, што найбольшае падабенства яны маюць з хрысьціянамі і з манаскім хрысьціянствам першага перыяду яго развіцця. Вучні «Яна Хрысьціцеля» ва ўсіх першакрыніцах лічацца ясеямі, ды і сам Езус-Назарэй быў ясей, таму што не быў адружаны, як гэта патрабавалі самыя высокія прыступкі ясейства. Пра непарыўную сувязь паміж назарэйствам і ясействам сведчаць і паведамленні арабскіх пісьменнікаў Абулфараджа і Макрызда, а таксама і Епіфанія.

Асабліва цікавым для нас з'яўляецца тут паведамленне Епіфанія[334], што яны маліліся на Сонца і так яго шанавалі, што не дазвалялі сабе нават адпраўляць свае натуральныя патрэбы на сонечным святле перад тварам свайго бога, а спяшаліся для гэтага выдаліцца ў цёмнае месца. Такім чынам, цалкам натуральна, што ў Бібліі Ессей (Эсу-Ісаў) сімвалізуецца прамяністым, г. азн. касматым Сонцам, тады як яго малодшы брат якавіт (Якаў) сімвалізуецца гладкагаловым Месяцам, у якога няма

[334] Haereses XX, 2.

прамянёў, але які і без іх асвятляе начны змрок. Як і хрысьціяне, яны прызнавалі неўміручасць душы і глядзелі на цела, толькі як на яе часовы прытулак.

«Дзіўнай з'яўляецца ў іх, – сведчыць Ёсіф Флавій[335], – агульнасць маёмасьці. Няма таго, каб адзін меў больш чым другі, бо кожны хто далучаўся да гэтай рэлігійнай секты аддаваў ёй усю сваю маёмасць, і дзякуючы гэтаму ні ў каго з іх няма ні лішку, ні нястачы, але ўсе яны, як браты, валодаюць маёмасьцю агулам».

То ж самае паведамляе і Яўсевій ад імя Філана.

«Не толькі ежа ў іх агульная, але нават і адзенне. Для зімы існуе цёплае адзенне, для лета лёгкае, так што кожны мае магчымасць рабіць, як яму здаецца лепшым, таму што ўсё, што нехта із іх мае, лічыцца набыткам усіх».

Аднак, манаскае, а таму і камунальнае жыццё выконвалася згодна з Флавіем не ўсімі ясеямі[336], а толькі адасобленым адгалінаваннем (як і ў старажытных хрысьціянаў).

«Яны (як і хрысьціяне) адмаўлялі крывавыя ахвяраванні і таму не хадзілі ў ерусалімскі храм».

Чаму ж пасьля гэтага дзівіцца, што як Яўсевій Кесарыйскі так і Еранім Шчасьлівы сцвярджаюць, што адгалінаванне ясейства (ягіпецкія тэрапеўты), было ні чым іншым як першымі александрыйскімі хрысьціянамі, «далучанымі апосталам Маркам-лекарам» і што захоўваемыя імі ў таямніцы «лісты старажытных мужоў» былі першымі хрысьціянскімі кнігамі? Да гэтай жа высновы прыводзіць і згрупаванне іхнай кіруючай часткі ў выглядзе манаскіх ордэнаў, і да гэтага часу захаваўшаяся ў каталіцкай царкве.

Такія галоўныя нагоды, прымушаючыя і мяне лічыць легенду пра ЭСУ (Ісава па-руску) за асобны варыянт легендаў пра Езуса, складзены із нехрысьціянскага боку гледжання, і сімвалізуючую ў выглядзе Эсу ўсё хрысьціянства.

«Калі дзеці (Эсу і Якаў) выраслі (г. азн. развілося ясейскае хрысьціянства і якавіцтва), тады хрысьціянін стаў чалавекам майстэрскім у звералоўстве, – паведамляе нам кніга Быцця. – ён стаў чалавекам палёў, а якавіт пачаў жыць у сядзібах».

«Іхны бацька, «Пашыральнік пісьмёнаў», больш шанаваў хрысьціяніна, а яго жонка – Суцяшальніца спрэчкі (Рэвека), – больш шанавала якавіта. Аднойчы якавіт-Месяц зварыў сёрбаўку, а хрысьціянін-Сонца прыйшоў стомлены з поля.

– «Накармі мяне гэтым чырвоным-чырвоным! – папрасіў ён. – Я вельмі стаміўся».

– «Прадай мне за яго сваё першарадство»! – адказаў якавіт.

– «Навошта мне першарадство, калі я паміраю» (з голаду?) – адказаў хрысьціянін.

– «Пакляніся!» – працягваў якавіт.

«Езусавец (Ісаў) пакляўся, і якавіт (Якаў) даў яму хлеба і сёрбаўкі з чачавіцы. Так хрысьціянін прадаў сваё першарадство якавіту і атрымаў найменне Чырвоны (АДУМ, г. азн. італьянец, такім з'яўляецца найменне італьянцаў ва ўсіх рабінаў сярэдніх стагоддзяў).

І тут легенда лёгка тлумачыцца астральна. Па ўсёй Італіі было бачна, як Месяц раніцай 24 лістапада 550 года прайшоў у назе Змеятрымальніка проста над Сонцам, зацямніўшы ўсю яго верхнюю частку. Пры гэтым Марс быў у Панне над

[335] Юдэйская вайна II, 8, 7.
[336] Юдэйская вайна II, 8, 12.

ранішнім зоркай, а Юпітар і Сатурн у Казярогу над вячэровай. Такім чынам права першарадства было прададзена хрысьціянінам якавіту ў 550 годзе.

* * *

Гэтым эпізодам заканчаецца 25 глава кнігі «Быццё». А ўсіх главаў у ёй пяцьдзясят.

Раней, чым перайсьці да разглядання астатніх, утрымліваючых выключна гісторыю Якава і яго дванаццаці сыноў, я крыху спынюся падрабязней на толькі што выкладзенай мной палове.

Пасьля нашых тлумачэнняў і астранамічных вызначэнняў часу мы відавочна бачым – як ужо і было сказана, – што кніга Генезіс (ці Быццё) уяўляе першую спробу чалавечага розуму прывесьці ў складны выгляд розныя легенды і паданні пра мінулае прыроды і людзей, меўшых пашырэнне ў V, VI і VII стагоддзях нашай эры. Дзякуючы панаваўшым тады астралагічным тэндэнцыям, грунтуючыся на якіх лічылася магчымым прадказваць будучыя падзеі, аўтары лічылі магчымым гэтым жа шляхам аднавіць падрабязнасьці і ў меўшыхся ў іх урыўкавых паданнях пра мінулае. Адсюль і пачалася астралізацыя Сусьветнага патопу, Зямнога раю і г. д.

Такім жа шляхам з’явіліся і астральна-алегарычныя апавяданні пра ўзнікненне народаў і рэлігій. Выгляд напалову зацемненага чырвонага Сонца, паднімаючагася ў сузор'і Двайнят ці Панны, і Месяца, яшчэ трымаючагася за яго пяту пад канец зацьмення, мог навесьці астролага на думку, што гэта знак паходжання ад Панны дзвюх рэлігій: глыбокага ўшанавання Сонца і глыбокага ўшанавання Месяца, пасьля таго, як астраномамі было выведана, што Месяц бліжэй да нас, чым Сонца, і што сонечнае зацьменне мае падставай засланенне Сонца Месяцам. І я ўжо даводзіў, што зацьменне Сонца ў Панне было каля гэтага часу ў 563 годзе, 3 лістапада, а зацьменне ў Двайнятах было праз 4 гады пасьля апісанага вышэй колападобнага пад носам Панны. Яно адбылося 20 чэрвеня 540 года амаль у самай сярэдзіне Двайнят і прайшло раніцай ад Гібралтара непасрэдна праз Рым і Балканскую паўвыспу. Яно было паўдзённым на Каўказе і скончылася каля выспы Цэлебеса ў Ціхім акіяне. Вельмі магчыма, што тут, у перамозе Месяца над Сонцам, алегарычна апісана перамога месяцовага календара ў якавітаў над сонечным у хрысьціянаў Яўропы.

Так як ніводнае із уключаных у «Быццё» першапачатковых апавяданняў не было датавана адпаведна з нейкім із храналагічных злічэнняў (ніякіх злічэнняў тады яшчэ не існавала), то ў шмат якіх выпадках пазнейшыя падзеі былі пастаўлены раней, а ранейшыя пазней, і ўсё гэта было зацэментавана, як у Евангеллях, збольшага злучальнымі фразамі накшталт: «пасьля гэтага», збольшага простым словам «потым», ці, больш падрабязна, цэлымі дадатковымі главамі, у якія ўключаліся нейкімі яшчэ не даследаванымі кабалістычнымі прыёмамі гады жыцця пасьлядоўных патрыярхаў. Так, паміж паведамленнем пра забойства Каінам Авеля і апавяданнем пра патоп, дададзена цэлая пятая частка радаводу нашчадкаў Ноя, пачынаючы ад Адама, якому на працягу ўсіх сярэдніх стагоддзяў надавалася гістарычнае значэнне, а зараз сур'ёзныя даследчыкі толькі спрабуюць вызначыць: якім чынам усё гэта магло б быць прыдумана?

Асабліва рэзка анахранізм выяўляецца ў біблейскім размяшчэнні легенд пра Ісава і Якава – пра хрысьціяніна і якавіта. У толькі што прыведзенай легендзе ў асобе Якава персаніфікавана якавіцтва Якава Барадэя, сярэдзіны VI стагоддзя. А далей, пачынаючы з 51 главы Быцця, працягам Якава Барадэя з'яўляецца Якаў Богазмагальнік, спісаны на самай справе ўжо з Арыя пачатку IV стагоддзя і

папярэднічаўшага хрысьціяніну: а Якава Барадэя замяшчае тут, відаць, Ліцыній. І ўсё гэта зроблена грунтуючыся не на нейкіх гістарычных успамінах, а адноўлена астралагічна, на падставе таго, што хрысьціянства, лічыўшае год па Сонцу, сімвалізавалася Сонцам, а якавіцтва лічыўшае год па Месяцу, сімвалізавалася Месяцам.

Так стваралася першая касмагонія і ўсеагульная гісторыя, асабліва гісторыя рэлігій, задавальняўшая чалавечую думку аж да друкаванага перыяду, калі шматлікасць кніг прывучыла чалавечы розум думаць шырэй і глыбей, і ўзнікшая доследная навука адчыніла для яго такія гарызонты, пра якія сярэднявечны мысляр не мог нават і марыць.

# ГЛАВА V.
# Легенда пра Боганазіральніка (Якава-Богазмагальніка) і пра яго валасатага брата (Ісава).

## I.
## Папярэджанне.

Біблію чытаць вельмі цяжка, – аднойчы паведаміла мне адна знаёмая курсыстка. – Я ў гімназіі шмат разоў спрабавала гэта зрабіць і ў адзіночку, і разам з сяброўкамі, але пасьля некалькіх главаў ва ўсіх нас пачыналася нейкае галавакружэнне, мы пераставалі слухаць чытаемае, таму што ніяк не маглі засяродзіць на ім сваю ўвагу.

Такое ж дакладна галаўное адчуванне пачыналася і ў мяне, калі я спрабаваў упершыню чытаць Біблію падчас майго зняволення ў Аляксееўскім равеліне Петрапаўлаўскага ўмацавання.

Інстынктыўна адчувалася, што ў ёй, як у сне, адна падзея замяняецца другой цалкам хаатычна, і рэальная асоба раптам ператвараецца ў астральную фігуру ці ў персаніфікацыю цэлага народа ці грамадзкай плыні і наадварот. Для тлумачэння гэтага сучасныя пераклады не даюць ніякай магчымасьці чалавеку не ведаючаму жыдоўскай мовы і, акрамя таго, ўвесь час адчуваецца і іншая нязручнасць.

Справа ў тым, што склад яе аўтараў з’яўляецца складам яшчэ напаловупісьменных (згодна з нашым сучасным маштабам) людзей, якія з вялікімі высілкамі думкі і ўвагі вымалёўвалі на драўнянай дошчачцы, ці на костцы лапаткі барана, ці на глінянай пласьцінцы, ці, нарэшце, на лістку каштоўнага праз сваю рэдкасць папірусу, кожную літару свайго апавядання. Іхная рука не паспявала за думкай, і ўвага не магла цалкам засяродзіцца на прадмеце. З гэтай нагоды (а таксама дзякуючы патрэбе пісаць без чарнавіка і без паправак), тыя фразы, якія адпаведна паступоваму выкладанню была патрэба паставіць раней, часта тут выяўляюцца размешчанымі пазней, і ў выніку атрымваецца такое ж уражанне, якое бывае пры вусным вымаўленні ўвесь час збіваючагася не вельмі спрытнага прамоўцы, ці пры пісанні сялянскай кабеты да сваёй сваячкі, дзе дзясяткі разоў у розных месцах перадаецца адно і тое ж ушанаванне свёкра ці свякрухі ў бязладным і заблытаным камбінаванні з іншымі ўрыўкавымі паведамленнямі і даручэннямі. Часта тут атрымліваецца нешта накшталт вядомага гімнастычнага бегу на адным і тым жа месцы.

Вось чаму і пры навучанні ў школах «закону боскаму» ў большасьці краін Біблію выкладалі грунтуючыся не на арыгінале, а па складным выкладанні, якое мела назву «Сьвятая Гісторыя Старога запавету».

Але ў гэтых падручніках, акрамя ўзаконеных недарэчнасьцей царкоўных перакладаў Бібліі, якія былі наступствам няведання перакладчыкамі старажытнай астралогіі, заўсёды мела месца яшчэ і тэндэнцыйнае падчышчэнне тых месцаў, якія, на думку складальніка, з'яўляліся неадпавядаючымі тым артадаксальным уяўленням, ці малюючых у смешным выглядзе як самога біблейскага бога, так і яго прарокаў. Вось чаму і гістарычнае значэнне такога выкладання Бібліі, якім з’яўляюцца ўсе «сьвятыя гісторыі старога і новага запаветаў», не толькі нікчэмнае, але проста адмоўнае: яно цалкам пераіначвае першапатковую сутнасць гэтай выдатнай старажытнейшай кнігі.

У сваім выкладанні нават і ў перакладанні біблейскіх найменняў на рускую мову, я ўсюды імкнуся строга прытрымліваецца арыгінала і толькі скарачаю паўторы тых жа самых выказванняў у некалькіх месцах, нярэдка на адной і той жа старонцы. Акрамя таго, калі ў нейкім месцы фраза арыгінала, якую згодна з натуральным развіццём легенды маецца патрэба паставіць раней папярэдняй, размешчанай відавочна не на сваім месцы, я раблю карэктурную перастаноўку, каб, не перамяняючы першапатковага каларыту, зрабіць апавяданне зручным для сучаснага беглага чытання, не выклікаючага ў сучаснага чытача хуткага стамлення ўвагі, як гэта назіралася ў маіх курсістак пры чытанні імі царкоўных перакладаў.

Пераходзячы тут да выкладання легенды пра Богазмагальніка з яго 12 сынамі, складаючай другую палавіну кнігі «Быццё», я павінен звярнуць перадусім увагу на тое, што яна моцна адрозніваецца ад шэрагу ранейшых кароценькіх асобных апавяданняў, непараўнальна большай складанасьцю кампазіцыі, і таму, хаця яна і згадвае пра ранейшыя падзеі, але ўяўляе сабой прадукт параўнальна больш позняй творчасьці, у якай сярод чыста легендарных і алегарычных дэталяў мы знаходзім ужо і некаторыя сляды пакінутыя рэчаіснымі, а не толькі алегарычнымі, як раней, асобамі.

Да такіх асоб належыць і першы із двух галоўных герояў гэтага апавядання – Якаў, імя якога звычайна перакладаецца «Закульгавеўшы»[337], на-лаціне – Клаўдый, нагадваючы сабой Клаўдыя Пталямея, знакамітага александрыйскага астранома, звычайна дапасуемага да II стагоддзя нашый эры, але, як пабачым далей, рэальна могучага існаваць не раней заканчэння III стагоддзя. Гэты Клаўдый-Якаў, толькі згодна з найменнем адпавядае родапачынальніку якавітаў, пра якіх мы толькі што згадвалі, і таму няправільна атаясамляемы з ім. Ён быў згодна з Бібліяй выдатным астраномам, вынайшаўшым ноччу лесвіцу на неба, па якой узыходзілі і заходзілі нябесныя вястуны-планеты; ды і самі яго 12 сыноў, сімвалізуючыя 12 народаў, застаўшыхся ад былой Лаціна-Эліна-Сірыйска-Ягіпецкай імперыі IV стагоддзя, маюць алегарычнае падабенства з 12 сузор'ямі Задыяка, як мы ўжо бачылі раней. Вось чаму і яго імя Якаў дакладней выводзіць ад ІЕ-ЭКБ і перакладаць Боганазіральнік, таму што старажытныя назіранні за рухамі нябесных сьвяцілаў, атаясамляліся з назіраннем за самімі багамі.

[337] י־עקב (аднак жа, першапачатковае значэнне слова Якаў, як я ўжо згадваў, было не цалкам такім. Імя י־עקב (І-ЭКБ) з’яўляецца скарачэннем יה־עקב (ІЕ-ЭКВ), г. азн. боганазіраючы, богашукальнік. Дзеяслоў עקב (ЭКБ) азначае – хапаюся за чужую пяту і гэта, як пабачым далей, астральна знаходзіцца ў сувязі з месяцовым зацьменнем ў пяце Змеятрымальніка.

Зараз я толькі паўтару, што гэтая другая частка кнігі Быцця была гвалтоўна далучана да папярэднічаўшых частак шляхам далучэння Якава, з аднаго боку, да якавітаў, з другога, шляхам атаясамлення з сынам Пашыральніка Пісьмёнаў, і, з трэццяга боку,ператварэннем у пляменіка «Ісмаіліта» (магаметаніна). Пры навукова-крытычным разборы нам патрэбна цалкам адкінуць тут усе храналагічныя наданні канчатковага рэдактара кнігі «Быццё» і вывучыць кожную легенду пра міфічнага Богазмагальніка самастойна, асобна ад іншых апавяданняў.

Пры астральным жа тлумачэнні патрэбна яшчэ браць да ўвагі, што планета Марс[338] была сімвалам Лацінскай часткі Імперыі, планета Юпітар (Зеўс-Йеве), відаць, ужывалася, як сімвал элінскай часці, а Сонца – Ягіпта, і што атрыбуты бога-Бацькі, меўшага спачатку назву АЛ і сімвалізаваўшагася Эліясам-Сонцам, перанесліся пзней на планету Юпітар (Зеўс-Йеве), маючы наступствам гэтага астралагічную блытаніну Юпітэра і Сонца, адпаведна змяніўшайся тэорыі.

З гэтымі тлумачэннямі я і пачну разбор легенды пра «Боганазіральніка-Богазмагальніка».

## II.

## Падабенства Боганазіральніка з Бацькай-Рымам.

Мы ўжо бачылі, што ў Абідоскім спісе продкаў Вялікага Цара-Месіі (Ра-Мсесу-Міамуна) біблейскі патрыярх Якаў атаясамляецца з іерагліфічным Хеф-Рэ (грэцкі Хефрэн), над муміяй якога на Гізехскім полі Ягіпта паўстала другая вялікая піраміда, а далей мы пабачым із самай Бібліі, што яго мумія была перавезена сюды із Міц-Рыма (г. азн. із Італіі).

Ён завецца малодшым сынам «Пашыральніка пісьмёнаў» і ў гэтым сэнсе персаніфікуе вызначаную плынь рэлігійнай думкі. Пра яго жонку Рэвеку паведамляецца амаль літаральна тое ж самае, што ўжо дапасавалася да жонкі Абрама «Чары»[339].

«Пашыральнік Пісьмёнаў» (біблейскі Ісак), – паведамляе 26 глава Быцця, – пасяліўся на чужыне[340], і жыхары гэтага месца запыталі яго пра яго жонку Суцяшальніцу спрэчкі (Рэвеку).

– «Гэта мая сястра», – адказаў ён (як некалі Бацька-Рым пра Чару).

«Ён таксама баяўся каб яго не забілі праз яе, таму што яна была прывабнай».

«І вось, калі ён ужо доўга пражыў там, валадар пастыраў Царуючы-Бацька (Абі-Мелек), паглядзеўшы ў вакно, пабачыў, што ён абдымаецца з «Суцяшальніцай спрэчкі», як са сваёй жонкай. Ён паклікаў да сябе Пашыральніка Пісьмёнаў і сказаў яму:

– «Так. Яна ж з’яўляецца тваёй жонкай! Чамуж ты кажаш, што сястра?»

– «Я мяркаваў, як бы мне не страціць жыццё праз яе», – адказаў Пашыральнік Пісьмёнаў, як і яго бацька Абрам.

– «Што гэта ты зрабіў з намі? – сказаў яму Царскі-Бацька. – Адзін із майго народа ўжо ледзь не спакусіўся ёю. Ты завёў бы нас у грэх».

«І ён даў закон свайму народу:

– «Хто дакранецца да гэтага чалавека і да яго жонкі, той будзе пакараны сьмерцю» (Быц. 26. 6-11).

---

[338] אדם (АДМ) = אדום (АДУМ) – чырвоны; гэтая назва вельмі дапасуе да Марса, а тым часам ужываецца, як найменне Ісава (עשו — Эшу): «Эсу, ён жа Адум» (Быццё 36). А ў сярэднявечных рабінаў і тая і іншая назва ўжываецца для пазначэння Заходне-Рымскай імперыі.

[339] Параўнаеце толькі главы 21, 22 і 26 Быцця і вы самі пабачыце, што гэта адно і тое ж.

[340] גרר (ГРР-ГР) – чужы.



Мал. 154.
*Царскі-Бацьканазірае із вакна, як Пашыральнік Пісьмёнаў абдымаецца з Суцяшальніцай спрэчкі ( Biblia Sacra, 1558 год).*

Тут мы, без сумневаў, маем водгалас забароны панаваўшай хрысьціянскай ці магаметанскай царквы адружвацца з месіянцамі, але гэтае месца можна патлумачыць і астральна. Суцяшальніца Спрэчкі магло азначаць сузор'е Андрамеды, бо імя Рэвека азначае, між іншым, Прывязаная[341], якой малявалася і Андрамеда, а Царскага-Бацьку можна атаясаміць з Цэфеем, які знаходзіцца непасрэдна пад Андрамедай, ногі якой, напэўна, апускаліся, згодна з першапатковымі уяўленнямі, да самой экліптыкі, дасягаючы да месцазнаходжання сучаснай Паўночнай Рыбы.

Я ужо і раней папярэджваў чытача не забывацца, што да нас не дайшло, нават і ў копіях, ніводнай старажытнай мапы неба, ды іх, напэўна, і не было аж да заканчэння сярэдніх стагоддзяў, і ўсе жадаючыя вывучалі само неба ў арыгінале, пры чым контуры сузор'яў былі дрэнна вызначанымі. Тое, што мы маем зараз на мапах – гэта толькі розныя варыяцыі твораў знакамітага мастака XV стагоддзя Альбрэхта Дзюрэра, які ўпершыню намаляваў на зорнай мапе розныя міфалагічныя фігуры згодна з указаннямі нейкага аднаго, ці некалькіх сучасных яму выпадковых астраномаў. Але ці такімі былі гэтыя фігуры пры сваім узнікненні і на працягу тысячагоддзя, калі настаўнікі паказвалі іх сваім вучням толькі пальцам на небе? У гэтым можна моцна сумнявацца, таму што на небе няма ніякіх фігур, і для індывідуальнага ўяўлення розных астролагаў, ды і для самага Дзюрэра быў вялікі абшар. Дакладна так жа і сузор'і Задыяка ў Дзюрэра нераўнамерныя па экліптыцы, тым часам як спачатку яны ўсе лічыліся роўнымі 30 дням шляху Сонца. Гэта дае зрух, паказаны на нашым малюнку (мал. 155).

---

341 רבקה (РБК’Е) пры напісанні сугучна з רבק (РБК') – прывязваць, хаця першапачаткова, як выводзіць і Cruden, гэта было ריב (РІБ) і קהה (КЕЕ) – прытупленне цяжбы.




Мал. 155.

*Задыякальны пояс. Верхнія лічбы даюць градусы зкліптычнай даўгаты (згодна з каардынатамі 1900 года) і паміж імі паказаны сярэдзіны зкліптікальных сузор'яў, як яны ўпершыню намаляваны Альбрэхтам Дзюрэрам. Іхныя межы па экліптыцы дадзены ў трэццяй графе, а іхныя максімальныя працягласьці вышэй ці ніжэй экліптыкі дадзены ў чацвёртай графе. Калі ж мы адновім іхную першапатковую раўнамерную працягласць па экліптыцы па 30° на кожнае сузор'е, то атрымаем ідэальныя межы другога радка. Пры гэтым атрымаецца, што ў момант усталявання гэтых сузор'яў Авен з'яўляўся із праменяў ранішняга світанку каля 25 сакавіка (геліятычны ўзыход, які дарэмна змешваюць з уваходжаннем Сонца ў Авена, з'явай, недаступнай для назірання старажытнымі, і гэтым адсоўваюць эру Авена на некалькі сот гадоў у глыб часоў.*

Адносна некаторых яркіх сузор'яў, якімі, напрыклад, з’яўляюцца Калясніца і Пасад, мы можам сказаць, вядома, што іхныя месцы захаваліся, за выключэннем ледзь заўважаемых перамяшчэнняў саміх зорак. Але ж фігуры нават і ў іх уяўляліся тады ў выглядзе Калясніцы і Пасада, а не Мядзведзіцы і Касіяпеі, як намаляваў іх Дзюрэр, а зараз называем і мы.

Дакладна гэтак жа адно із найбольш старажытных сузор'яў – Ахвярнік – Дзюрэр намаляваў чамусьці ўгару нагамі і ў такім жа выглядзе ён паказаў нам крылатага каня вясны – Пегаса, што мімаволі выклікае ўсмешку, калі глядзіш на іх не на папяровай мапе, якую можна перавярнуць перад сабой, як пажадана, а, выйдучы ноччу із сядзібы, імкнешся ўявіць гэтыя фігуры на рэальным небе, як рабілі старажытныя астролагі. Цалкам не схільныя да гумару ў сваіх заахвочаных назіраннях начных сьвяцілаў, яны не дапусьцілі б нічога падобнага, а таму і мы, рэстаўруючы іхныя мапы, павінны ў гэтым месцы неба ўяўляць галаву Пегаса на месцы яго ног, а ногі на месцы галавы, ды і дым сузор'я Ахвярніка патэбна ўяўляць паднімаючымся ўгару, у выглядзе праходзіўшага над ім Млечнага шляху, а не ўніз, як у Дзюрэра. Дакладна гэтак жа і Андрамеду, якая малявалася прыкутай жанчынай, мы павінны ўявіць на небе не бокам, нападобе сьцяга прапечучага на ветры, а нагамі ўніз. Гэта размяшчае яе ногі на месца Паўночнай Рыбы, а зоркі: альфу, бэту, гаму і дэльту Андрамеды мы павінны ўяўляць, як яе раскінутыя рукі. У пагадненні з гэтым знаходзяцца і біблейскія міфалагічныя паданні пра Самсона і Далілу і да-Дзюрэраўскія малюнкі. А міф пра тое, што Даліла (яна ж Дзіна, дачка Богазмагальніка) была жанчынай, пакінутай сваім каханым, паказвае на пераход умоўнага пачатку года пасьля ўзнікненнем месіянства ад вясновага раўнадзенства, дзе была Андрамеда на восеньскага, дзе стаяла Панна – царыца нябёс. Гэта азначае і Паўночнай Рыбы цалкам не было ва ўяўленні старажытных, а экліптыкальная

Рыба пад Пегасам злучалася стужкай ці бруяй вады з Паўднёвай Рыбай, ці нават з сучасным Дюрэравым Кітом, якога аж да ўзнікнення навуковай заалогіі, упершыню выпрацаванай Лінеем, таксама лічылі за рыбу.

У пагадненні з гэтым знаходзіцца і выява сузор'я Рыб (без зорак у іх) на ягіпецкіх храмах і на некаторых із пампейскіх знаходак. Усюды абедзве рыбы намаляваны паралельная адна адной, а не папярочна, як на мапах Дзюрэра і нашых – згодна з яго ўзорам.

З гэтага боку гледжання Бацька-Рым з яго першая жонкай Чарай мог быць спачатку сімвалізаваны Пярсеем і Прыкутай жанчынай, пераназванай грэкамі ў Андрамеду, і яна паказвала наступленне рымскага паганскага новага года, пачынаўшагася з сакавіка, калі Сонца праходзіла праз яе нагу, што была проста перад Авенам. Пазней было вызначана, што кропка вясновага раўнадзенства пайшла, зразумела, із-пад яе нагі і гэта было прынята за адзнаку выгнання Андрамеды із задыякальных сузор'яў і за загад звыш перанесьці пачатак года на верасень у Панну, дзе кропка восеньскага раўнадзенства знаходзіцца і зараз.

Але вернемся да разбору легенды пра «Пашыральніка Пісьмёнаў (Ісака) і пра яго жонку, Суцяшальніцу спрэчкі» (Рэвеку).

«Яны, – паведамляе кніга «Быццё», – усё больш і больш назапашвалі багацця і ўзвялічваліся. У іх стала шмат апрацаваных палёў, із якіх «Пашыральнік пісьмёнаў» атрымліваў сторазовы пыбытак, – шмат статкаў буйной і дробнай жывёлы (авечак і цялят). Качэўнікі пачалі зайздросьціць яму і пачалі засыпаць яго студні» (зноў, як у Бацькі-Рыма) (21. 30).

Разумець гэтае засынанне студняў у літаральным сэнсе, зразумела, няма ніякай магчымасьці, а таму мімаволі даводзіцца і тут шукаць астральную сімвалістыку, пры якой мы, сапраўды, і атрымымліваем некаторы сэнс. Выходзіць так:

«Пашыральнік Пісьмёнаў (ужо не ў сімвале Змеятрымальніка, а ў сімвале прыйшоўшага туды Месяца) выдаліўся ў чужую даліну (у цясніну Млечнага Шляху, дзе знаходзіцца Змеятрымальнік) і выкапаў там зноў студні, замест тых, якія былі засыпаны нябеснымі качэўнікамі (хмарамі). У гэтай даліне ён знайшоў Студню жывой вады, якую назваў Клюшня, студню Шайтана (ШТНЕ) і яшчэ трэццюю – студню Фанабэрыстасьці (цёмныя месцы неба ў сузор'і Скарпіёна, бачныя на фоне Млечнага Шляху, простым вокам).

«Тут з'явіўся ў яму Грамабой (у знаку Змеятрымальніка) і прамовіў:

– «Я бог твайго родапачынальніка Бацькі-Рыма. Не бойся нічога, таму што я з табой!»

«Пашыральнік Пісьмёнаў наладзіў яму Ахвярнік (сузор'е) і, заклікаўшы імя Грамабоя, раскінуў тут свой шацёр, а адтуль пайшоў да «Вадапою сямі» (планет, г. азн. да Ўрны Вадаліва).

Туды ж прыйшлі да яго Царскі Бацька (Юпітар) і яго сябар Валадар (Марс) і вайсковы правадыр Пастка Вынішчэння[342] (Сатурн) і сказалі:

– «Мы бачылі, што Грамабой з табой і вырашылі паставіць закон паміж намі і табой і заключыць з табой дамову, каб ты не рабіў нам зла і мы не шкодзілі табе, а рабілі табе адно дабро. Мы адпусьцім цябе з мірам, таму што ты зараз блаславёны Грамабоем».

«Ён наладзіў ім баль, яны пілі і елі і пайшлі ад яго са мірам» (26. 12-31).

[342] פי־כלה (ФІ-КЛЕ) – пастка вынішчэньня.

Але ж гэта зноў тое ж самае, што было апісана і ў легендзе пра Бацьку-Рыма! Той жа Царскі Бацька, той жа вайсковы правадыр «Пастка Вынішчэння», якія былі і там каля «Студні Сямі»! Параўнайце гэтае апісанне з галовай 21 (ст. 22) гэтай жа кнігі Быццё, і вы пабачыце, самі! Гэта азначае і тут канва легенды ўзята не із зямных падзей, а із неба.

Планеты зышлі... Ніякае тлумачэнне гэтага месца, акрамя астральнага, не магчыма, бо смешна было б падумаць, што нейкі летапісец супраменджаў Пашыральніка Пісьмёнаў і пазначаў нейкія выкапаныя ім на шляху студні, сярод якіх адна была гаючай – студня Жывой Вады. Прыняць жа ўсё гэта за чыстую прыдумку нейкага старажытнага аўтара, азначае не разумець асноўных законаў фантазіравання: яго фантазія стварыла б нешта болш цікавае за такія студні. Зразумела, што гэта не фантазія, а алегорыя.

Калі Царскім Бацькам быў Юпітар (Jovis Pater), Валадаром – Марс, і Пасткай Вынішчэння – Сатурн, ці, усё адно, проста тры вонкавыя планеты ў Вадаліву, то такое спалучэнне з пачатку нашай эры было толькі паміж ліпенем і снежнем 551 года, г. азн. пры Юстыніяну Велікім нашай эры, калі перад увaходам Сонца ў сузор'е Скарпіёна ўсе тры вонкавыя планеты хадзілі ўзад і наперад каля Ўрны Вадаліва, а Месяц-Богазмагальнік заходзіў туды да іх разы чатыры, перш, чым яны разышліся паасобку, выдаляючыся ад свайго вадапою (XIX).

ТАБЛІЦА XIX.

Эпіцыклічныя рухі ўзад і наперад Марса, Юпітэра і Сатурна каля ўрны Вадаліва.

(Да главы пра Якава-Богазмагальніка.)

| | Сатурн пасярэдзіне Вадаліва. Юліянскае злічэнне | Юпітар пасярэдзіне Вадаліва. Юліянскае злічэнне | Дробныя рэшткі адступлення Марса ад Урны Вадаліва пры апісанні ім эпіцыклічнай зашмаргаўкі каля яе. Прыдатныя толькі дробы менш 0,02 і больш 0,98 (гэта доля яго поўнага зоркавага абарачэння) | |
|---|---|---|---|---|
| | 20.81 | 17.28 | | |
| | 50.27 | 52.87 | | |
| | 79.72 | 76.59 | | |
| | 109.18 | 112.18 | | |
| | 138.64 | 135.90 | | |
| | 168.09 | 171.49 | | |
| | 197.55 | 195.21 | | |
| | 227.10 | 230.80 | 1-я серыя. Адступленні эпіцыклічнай зашмаргаўкі Марса ад Урны Вадаліва параўнальна з яе шляхамі каля яе, вызначаемымі: | |
| | 256.47 | 254.52 | | |
| | 282.92 | 290.11 | | |
| | 315.38 | 313.83 | | |
| | 344.84 | 349.42 | Па 1845 г. | Па 1830 г. |
| 1-ая серыя спалучэнняў | +374.29 | 373.14 | 0,107....0,125 | для 373 года. У Вадаліве (як у 1825 г.) |
| | 403.75 | 408.73 | | |
| | +433.21 | 432.45 | 0,738.... 0,750 | для 433 года. |
| | 462.67 | 468.04 | | |
| | +492.12 | 491.76 | 0,368.... 0,387 | для 492 года. |
| | 521.58 | 527.34 | | |
| | +551,04 | 551.07 | 0,000.... 0,018 | для 551 года. У Вадаліве (як у 1825 г.). |
| | 580.49 | 586.65 | | |
| | +609.95 | 610.38 | 0,630.... 0,649 | для 610 года. |
| | 639.4 1 | 634.10 | | |
| | +668.86 | 669.69 | 0,261.... 0,128 | для 669 года. |
| | 698.32 | 693.41 | Тут прыдатны па Марсу, Юпітэру і Сатурну толькі 551 год. | |
| | +727.78 | 729.00 | | |

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| | 757.24 | 752.72 | | |
| | 786.69 | 788.31 | | |
| | 816.15 | 812.03 | | |
| | 845.6 1 | 847.62 | | |
| | 875.06 | 871.31 | | |
| | 904.52 | 906.93 | | |
| | 933.98 | 930.65 | | |
| | 963.44 | 966.24 | | |
| | 992.89 | 989.96 | | |
| | 1022.35 | 1025.55 | | |
| | 1051.81 | 1049.28 | | |
| | 1081.26 | 1084.86 | | |
| | 1110.72 | 1108.59 | | |
| | 1140.18 | 1144.17 | | |
| | 1169.63 | 1167.90 | | |
| | 1199.09 | 1191.62 | 2-я серыя. | |
| | 1228.55 | 1227.21 | | |
| | 1258.01 | 1262.79 | Па 1845 г. | Па 1830 г. |
| 2-ая серыя спалучэнняў | +1287.46 | 1286.52 | 0,677.... 0,702 | для 1287 года. |
| | 1316.92 | 1310.24 | | |
| | +1346.38 | 1345.83 | 0,308.... 0,333 | для 1346 года. |
| | 1375.83 | 1369.55 | | |
| | +1405.29 | 1405.14 | 0,939.... 0,964 | для 1405 года. |
| | 1434.75 | 1440.72 | | |
| | +1464.21 | 1464.45 | 0,970.... 0,595 | для 1464 года. |
| | 1493.66 | 1500.03 | | |
| | +1523.12 | 1523.72 | 0,201.... 0,226 | для 1523 года. |
| | 1552.58 | 1559.34 | | |
| | +1582.03 | 1583.06 | 0,232.... 0,856 | для 1582 года. |
| | 1611.49 | 1618.65 | Тут няма па Марсу ніводнага прыдатнага становішча. | |
| | 1640.95 | 1642.37 | | |

Калі ж мы дапусьцім, што гаворка ідзе пра сыходжанне з Месяцам у Вадаліве не толькі трох знешніх планет, але таксама і Сонца, то атрымваем, як і ў выпадку з Бацькам-Рымам два адказы: маладзік 9 лютага 373 і маладзікі 31 студзеня ці 28 лютага 610 года (якія прайшлі без зацьменняў).

## III.
## Хітрыкі Боганазіральніка.

Цяжэй патлумачыць наступнае за гэтым алегарычнае апавяданне пра тое, як хітры малодшы сын Пашыральніка Пісьмёнаў, будучы Богазмагальнік, падмануў свайго бацьку і перахапіў у свайго старэйшага брата «бацькоўскае дабраславенне, навекі непарушнае», падобна таму, як раней права першарадства. Відаць, тут алегарычна апісана змаганне першапатковай рымска-каталіцкай царквы, увасобленай у Ісаве (жыдоўскае наймене якога Эсу такое ж самае, як і каталіцкае Iesus, г. азн. Езус) з развіваючайся паралельна з ёю месіянска-рабінскай рэлігіяй, якая, магчыма, вядзе свой пачатак і не ад Якава Барадэя, а ад апостала Якава, брата Езуса.

«Калі Пашыральнік пісьмёнаў (у сімвале Змеятрымальніка) састарэў, – паведамляе легенда (Быццё, 27), – і прытупіўся яго зрок (г. азн. пацямнелі яго

вочы-зоркі ў прамянях вечаровай зарніцы), ён сказаў свайму Касматаму сыну (Сонцу з яго праменямі)[343]:

– «Касматы!»

– «Вось я!» – адказаў той.

– «Я састарэў і не ведаю таго часу, калі памру. Вазьмі твой лук і калчан, пайдзі ў поле, налаві дзічыны, прыгатуй маю любую страву і прынясі мне яе з'есьці, каб дабраславіла цябе мая душа, калі памру».

«Яго маці Суцяшальніца спрэчкі (Рэвека ў знаку Андрамеды) пачула гэта і пераказала ўсё малодшаму сыну (Месяцу).

– «Пайдзі ў статак, – дадала яна, – і вазьмі дзвюх добрых козачак (вечаровую і ранішнюю зараніцы[344]). Я згатую із іх твайму бацьку (згасаючаму Змеятрымальніку) яго любую страву, а ты прынясеш яе яму, каб ён дабраславіў цябе перад сьмерцю» (перад заходам).

– «Але я гладкі – адказаў сын (Месяц) – а брат мой (Сонца)» доўгавалосы[345].

Згадаем тут, што і прарок Ілія, сімвалізуючы евангельскага Езуса, а астральна, Сонца (ἥλιος), названы ў Бібліі «ўвесь у валасах». Ды і секта ясееў, г. азн. першабытных хрысьціян, малюецца анахарэтамі, ніколі не стрыгшымі сваіх валасоў, атаясамляючы іх з прамянямі Сонца, у якіх заключаецца яго магутнасць.

– «Як бы не атрымаць мне за падман праклён, а не дабраславенне» – адказаў будучы Богазмагальнік.

– «Хай будзе на мне гэты праклён – адказала яму маці – толькі слухайся мяне».

«Ён пайшоў і прынёс ёй двух казлянят (маляваўшыхся ў сузор'і Вазнічага), яна прыгатавала із іх любую страву яго бацькі, узяла каштоўнае адзенне (світанак) свайго старэйшага сына (Сонца), знаходзіўшаяся ў яго сядзібе, і апранула ў яго свайго малодшага сына. Яна абматала скурай казлянят яго шыю і рукі і дала яму страву і хлеб.

Малодшы брат (у сімвале Месяца) увайшоў да свайго бацькі (дня), і прамовіў:

– «Я, твой першынец (Сонца)! Я зрабіў, як ты мне загадаў. Сядзь і з'еш маёй дзічыны, каб дабраславіла мяне твая душа».

– «Што так хутка прыйшоў ты, мой сын? – запытаў яму Пашыральнік Пісьмёнаў.

– «Таму што Грамабой, твой бог, паслаў мне дзічыну насустрач».

– «Падыдзі, я абмацаю цябе – адказаў аслепшы (дзень) – каб пераканацца, ці ты мой старэйшы сын (Сонца), ці не». «Малодшы падышоў. Бацька абмацаў яго і сказаў:

– «Голас – голас малодшага, а рукі (Меркурый і Венера па баках) – рукі старэйшага».

– «Ці ты мой сын? – яшчэ раз запытаў ён яго.

– «Я – адказваў малодшы», падаючы яму хлеб і страву, і «Пашыральнік Пісьмёнаў» з'еў іх. Сын паднёс чырвонага віна і бацька выпіў (сімвал звычая прычашчэння).

---

[343] עשו (ЭСУ), ад עשה (Эше) – ствараць, тварыць вырошчваць; але набыло сэнс-валасаты.

[344] Тут стаіць: גדיי (ГДІІ) – казляняты. Адносна таго, што алегарычнае ўяўленне ранішняй і вячэрняй зараніцы ў выглядзе ўцякаючых казлянят цалкам адпавядае духу біблейскай мовы, можна пераканацца із таго, што ў псальмах зараніца называецца касуляй світання, і на Дендэрскім доўгім Задыяку намаляваная ў выглядзе казлянят.

[345] שער (СЭР) – кааматы, חלק (ХЛК) – гладкі.

– «Ідзі і пацалуй мяне» – загадаў бацька. «Малодшы із братоў двайнят падышоў і пацалаваў бацьку. Той адчуў пах яго адзення (зарніцы), добрславіў яго і сказаў:

– «Вось пах, майго сына, як водар палёў (нябеснага блакіту), добраславёнага Грамабоем. Ды дадуць табе багі (АЛЕІМ) і ад нябеснай зоркі і ад зямной сытасьці, і шмат хлеба і віна. Ды будуць служыць табе (царкоўныя службы) народы і ўшаноўваць табе плямёны. Будзь валадаром сваім братам. Праклінаючыя цябе пракляты, добраслаўляючыя цябе блаславёны».

«І вось, як толькі малодшы брат (Месяц,) зышоў ад твару Пашыральніка Пісьмёнаў, вярнуўся да яго (пасьля зацьмення ў сімвале зноў заззяўшага Сонца) старэйшы брат са стравай».

– «Хай паднімецца мой бацька – сказаў ён – і з'есць маёй дзічыны, каб дабраславіла цябе мая душа».

«Вялікім трапятаннем уздрыгануўся Пашыральнік Пісьмёнаў, калі пачуў гэтыя словы» (адбыўся землятрус).

– «Хто ж гэта прынёс мне дзічыну да твайго прыходу, якога я дабраславіў? Ён і будзе дабраславёны».

«Пачуўшы гэтыя словы, старэйшы брат падняў вялікі, вельмі гучны лямант (гул землятрусу).

– «Блаславі таксама і мяне, бацька мой! – усклікнуў ён.

«Але бацька адказаў:

– «Гэта твой малодшы брат прыходзіў з хітрасьцю і забраў тваё дабраславенне».

– «Ці не таму і дадзена яму імя Запінацель, што ён падставіў мне ўжо два разы нагу! Раней ён ужо забраў маё першарадства, а зараз і дабраславенне. Няўжо нічога не засталося ў цябе і для мяне?»

– «Я прызначыў яго гаспадаром над табой – адказваў Пашыральнік Пісьмёнаў – і ўсіх яго братоў аддаў яму ў служгі і абдарыў яго хлебам і віном. Што ж я зраблю зараз для цябе?»

«Старэйшы сын (сонца) заплакаў і закрычаў:

– «Няўжо, мой бацька, у цябе толькі адно добраславенне? Дабраславі і мяне».

«І Пашыральнік Пісьмёнаў адказаў яму:

– «Ад зямной сытасьці і ад зямной расы будзе твой прыстанак: ты будзеш жыць сваёй спякотай[346], але падпарадкоўвацца брату. А калі запрацівішся яму, то скінеш са сваёй шыі яго ярмо».

«Старэйшы зненавідзеў свайго малодшага брата і вымавіў:

– «Заб'ю яго (зацямню), як толькі наступяць дні плачу па маім бацьку» (Змеятрымальніку, г. азн. калі Сонца будзе ў пляядах-плакальшчыцах).

«Гэтыя словы былі пераказаны Суцяшальніцы спрэчкі (Рэвецы) і яна паклікала да сябе малодшага сына.

– «Бяжы да майго брата Белага (ЛБН) і схавайся ў яго на некаторы час, пакуль сьціхне гнеў твайго брата, і ён забудзецца пра тое, што ты яму зрабіў. Для чаго мне ў адзін дзень страціць вас абодвух?» (Быц. 28. 27).

Такой з'яўляецца легенда пра перахапленне Месяцам дабраславення ў свайго брата Сонца, г. азн. пра пераход ад сонечнага злічэння да юдэйскага месяцовага календара. Яна ставіцца ў сувязь з сонечным зацьменнем і ў той жа час намякае на тое, што якавіты беглі на ўсход, бо імя «Белы» (Лаван) нагадвае Лівію і Ліван.

---

[346] חרב־ך (ХРБ-К) – твая спёка, твая засуха, тваё спусташэнне.

Я і тут адштурхоўваюся ад сваёй гіпотэзы, што ўсе легенды кнігі «Быцця» маюць сваёй крыніцай ці чыстую астралогію ці ўяўляюць астральна сімвалізаваныя буйныя з'явы старажытнага зямнога жыцця, а не нейкія асобныя жарты нейкіх двух братоў двайнят, Ісака і Якава, адзін над адным, і не дурашлівасьці накшталт прапановы вашаму служку пакласьці яго левую руку пад ваш фалас і, падняўшы правую да неба, даваць абяцанне, што ён не прывядзе жонку вашаму сыну із італьянак, і таму падобныя анекдоты із жыцця нейкіх даўно забытых пастушкоў і пастушак.

Такі пастаральны пагляд на старажытную гісторыю прыдатны толькі для пяцігадовых дзяцей, хаця ён і падаецца ў «сьвятых гісторыях» да самога апошняга часу нават дзецям сярэдняга веку, выклікаючы ў іх амаль ва ўсіх кплівае стаўленне да «закона божага», як да адной із афіцыйных дзяржаўных навук старога рэжыму, дыскрэдытуючы гэтым не толькі яго рэлігію, але і ўвесь той дзяржаўны лад. Для адукаванага чалавека кніга «Быццё» з гэтага боку гледжання з'яўляецца ці неталенавітым зборнікам выпадковых анекдотаў, ці першапачатковай касмагоніяй, ахапліваючай сабой у агульных рысах і ўсё мінуўшае чалавечае жыццё і ўсё паказвае, што правільна другая здагадка.

Гэтая касмагонія, як першапачатковая, не магла ўзнікнуць без падставаў у знешняй прыродзе і, асабліва, у нябесных з'явах, лічыўшымся такімі блізкімі да месца жыцця багоў. Таму ва ўсіх легендах кнігі «Быцця», якія не могуць быць патлумачаны пабытава, я і імкнуся перадусім адшукаць астралагічную канву, як найбольш верагоднае тлумачэнне дадзенага міфа, што дае разам з тым і магчымасць вылічыць час іхнага ўзнікнення.

Як жа нам разумець перахапленне Месяцам бацькаўскага дабраславення ў Сонца, дапускаючы, што бацькам абодвух лічыцца Змеятрымальнік?




Мал. 156.

*Сузор'е Чалавека са змяём (Змеятрымальнік) пасярод двух горападобных адгор'яў Млечнага шляху Astrognosia XVI стагоддзя (кнігасховішча Пулкаўскай абсерваторыі).*

Мы павінны шукаць сонечнае зацьменне, бачнае ў долбраслаўляючым планеты Змеятрымальніку ў поўнай ці ў колападобнай фазе на берагах Міжземнага мора пры Меркурыі і Венеры пад нагой Змеятрымальніка, якая дакранаецца да экліптыкі (мал. 156).

У папярэднім выкладанні мы ўжо бачылі па Залатому Колу на носе сузор'я Панны, што «шлюб Ісака з Рэвекай» быў у 536 годзе нашай эры. Мы бачылі, потым, што змаганне Ісава і Якава (Сонца і Месяца) за права першарадства

тлумачылася зацьменнем Сонца ў Двайнятах у 546 годзе. Гэта азначае, зараз мы павінны шукаць прыдатнае сонечнае зацьменне ў Змеятрымальніку каля гэтага ж часу.

За ўсё першае тысячагоддзе нашай эры такіх зацьменняў было толькі дзевяць.

29 г. – XI – 24, на Балканах і ў Месапатаміі,

114 г. – XI – 15, у Малой Азіі пры ўзыходзячым Сонцы,

272 г. – XI – 8, узыходзячае на Корсіцы, ранішняе ў Ягіпце,

393 г. – XI – 20, поўнае паўдзённае ў Канстантынопалі (ішло із Германіі),

550 г. – XI – 24, із Ангельшчыны праз Афіны ў Месапатамію,

617 г. – XI – 4, із Ангельшчыны праз Канстантынопаль у Малую Азію,

644 г. – XI – 5, амаль такое ж,

810 г. – XI – 30, на Балканскай паўвыспе,

1044 г. – XI – 22, уздоўж Міжземнага мора.

Асабліва прыдатнымі ўяўляюцца тут толькі: зацьменне 393 года пры Яну Залатавусту, потым зацьменне 550 года ў перыяд узнікнення біблейскіх прадказанняў, нарэшце, зацьменне 4 лістапада 617 года перад узнікненнем магаметанскай Геджры.

А як разумець пагрозу Ісава-Сонца забіць Якава-Месяца пад час дзён плачу пра іхнага бацьку-Змеятрымальніка?

Справа ў тым што месяцовыя зацьменні ў Змеятрымальніку могуць быць толькі пры Сонцы ў Пляядах, г. азн. Плакальшчыцах, інакш кажучы ў дні плачу, г. азн. у траўні.

Ці былі такія зацьменні ўслед за паказанымі тэрмінамі?

Былі. Месяцовае зацьменне перарванае ўзыходжаннем Сонца было 2 траўня 394 (а пасьля 550 і 617 гадоў не было).

Да гэтага часу мы і павінны аднесьці ўзнікненне ідэі, што сонечныя зацьменні адбываліся ад «запінання Сонца Месяцам» і замену сонечнага злічэння месяцовым, што існуе і зараз у месіянцаў, равіністаў і магаметанаў. Акрамя таго, я адзначу, што выкраданне Месяцам (Якавам) першародства ў яго брата Сонца (Ісава) было ў сувязі і із узнікненнем сістэмы Клаўдыя Пталямея.

Ускосныя водгаласы перахаплення Месяцам першынства ў Сонца мы знаходзім і ў назвах дзён тыдня на заходне-еўрапейскіх мовах.

На ангельскай, нямецкай, французскай, шведзкай і іншых мовах пералік дзён тыдня са старажытных часоў вырабляецца ў такім парадку:

Нядзеля – дзень Сонца (анг. Sun-day ).

Панядзелак – дзень Месяца (анг. Mon-day ).

Аўторак – дзень Марса (франц. Mar-di ).

Серада – дзень Меркурыя (франц. Mercre-di ).

Чацьвер – дзень Юпітэра (франц. Jeu-di ).

Пятніца – дзень Венеры (франц. Vendre-di ).

Субота – дзень Сатурна (анг. Satur-day).

Із гэтага відавочна, што першапачатковы парадак пераліку дзён, тыдня пачынаўся з Сонца, і што на другім месцы стаяў Месяц. Пазней у сярэднявечных кнігах, напрыклад, «Sphera Materialis» 1516 гога, мы бачым пасьля-пталямееўскі парадак пералічэння планет згодна з іхнай лічымай аддаленасьцю ад зямлі, ўяўляемай ужо не плоскай, а шарападобнай:

Месяц, Меркурый, Венера, Сонца, Марс, Юпітар, Сатурн.

Тут Месяц ужо перахапіў першынство ў Сонца, і гэта магло быць толькі пасьля тлумачэння сонечных зацьменняў праходжаннем Месяца пад Сонцам, і вышэйпрыведзеная легенда паказвае, што ідэя пра блізкасць Месяца да Зямлі была канчаткова даказана здзяйсненнем прадказання сонечнага зацьмення, вылічанага на падставе руху Месяца на 20 лістапада 393 года нашай эры згодна з юліянскім злічэннем.

## IV.
## Лесвіца на неба.

Вяртаючыся да далейшага даследавання кнігі «Быццё», (28. 11) мы знаходзім нашага «Клаўдыя», г. азн. кульгавага богазмагальніка ўжо бегучым у нейкую горную Падну (ПДНЕ, АРМ), дзе Пашыральнік Пісьмёнаў і яго жонка «Суцяшальніца спрэчкі» раілі яму браць сабе жонку ніяк не із гоцкіх дачок, (Бы. 27. 46), а неадменна із дачок «Белага». Але па дарозе ён прайшоў праз «Скарбніцу Сямі» ў вобласць Горн (ХРНЕ), што азначае Палаючае месца, і застаўся тут начаваць, таму што зайшло Сонца.

«Ён узяў – кажа легенда – адзін із камянёў таго месца паклаў на яго галаву і, заснуўшы, пабачыў лесвіцу, якая стаячы на зямлі верхам дакраналася да неба і вястуны бога ўзыходзілі і сыходзілі па ёй. Бог стаяў на ёй і казаў:

– «Я, Грамабой, бог Бацькі-Рыма, твайго продка, і бог Пашыральніка Пісьмёнаў. Зямлю, на якой ты ляжыш, я аддаў тваім нашчадкам, яны будуць шматлікімі, як зямны пясок. Я абараню цябе ўсюды і вярну ў гэту зямлю, і не пакіну цябе, пакуль не выканаю ўсяго, што абяцаў».

«Боганазіральнік абудзіўся ад свайго сну і прамовіў:

– «Грамабой прысутнічае на гэтым месцы, а я і не ведаў. Якое жахлівае гэтае месца! Гэта сядзіба багоў (па-грэцку Пантэон). Гэта брама нябёсаў».

«Ён падняўся рана раніцай, узяў камень (па-грэцку Пятро), які служыў яму падгалоўем, і паставіў яго знакам (ЦВЕ – па-грэцку Сымон). Ён паліў на яго масла і назваў гэтае месца Боскай сядзібай, а ранейшае яго імя было Перагінанне» (ЛУЗ[347]). (Побыт 28. 10-19)

Такой з'яўляецца кароценькая легенда, звяртаўшая на сябе асаблівую ўвагу тлумачальнікаў біблейскіх кніг.

Што ж гэта за лесвіца? Ці ўсё ў ёй астральна, ці тут ёсць нешта і зямное?

Сярод вершаў В. С. Салаўёва, ёсць «Хвалы і маленні Найсвятой Панне» (із Пятраркі), і ў іх, між іншым, мы чытаем:

O! усёсьвятая, дабраславёная,
Лесвіца цудоўная, да неба вядучая!
Ты Сонца Праўды ў змроку нашай ночы
Зноў узвяла, маці, маладая і дачка,
Панна хвалебная,
Сьвета-дзяржаўная.....

Тут пад лесвіцай разумеецца панна Марыя. Але яна проста сядзіць на лесвіцы, ці сама з'яўляецца лесвіцай?...

Із навукоўцаў каментатараў Біблii, Дэлічы Дыльман бачыў у «лесвіцы Богазмагальніка» толькі паэтычны вобраз для сувязі неба з зямлёй, бога з чалавекам.

А із іншых аўтараў Рэнан сцвярджаў, што ўяўленне пра нябесную лесвіцу было злучана ў юдэяў з асобнай мясцовасьцю ў наваколлі «горада Люца», якую

[347] Згодна з Cruden'у – месца адправўкі. Відаць, гэта – сузор'е Панны з перагінаннем шляху Сонца.

народныя забабоны атачылі разнастайнымі жахамі і бачаннямі. На гэты горад – кажа ён – гляделі, як на сенцы неба, як на падножжа гіганцкай прыступкавай пірамiды (sullam), вядучай ад зямлі на неба. Багі былі на яе вяршыні, а іхныя пасланцы, увесь час спускаючыся і паднімаючыся, падтрымвалі стасункі вышэйшага сьвету з зямным»[348].

Але адкуль Рэнан даведаўся пра ўсё гэта? У Палестыне ж, куды ён адносіў усё гэта, мы не знаходзім ні парэшткаў горада «Люца», ні піраміды. Усе гэтыя чыста зямныя ўяўленні з'яўляюцца ўжо больш познімі, а раней іх існавалі астральныя ўяўленні.

Гункель звяртае ўвагу на тое, што нябесная лесвіца з’яўляецца старажытным ўсходнім ўяўленнем.

«Згодна з ягіпецкім вераваннем – кажа ён – на захадзе небасхілу стаіць лесвіца на неба, ахоўваемая багіняй Гатор (адпавядаючай Астарце і Венеры), па якой душы нябожчыкаў узбіраюцца да сядзібы багоў.

Чаму – запытаеце вы, яна лічылася знаходзіўшайся на захадзе, а не на ўсходзе? Таму – адкажу я – што Сонца, Месяц і планеты рухаюцца па Задыяку, з захаду на ўсход, супраць штосутачнага вярчэння неба. Падобная ж лесвіца, складаючаяся із васьмі брамаў, паступова ўзвышаючыміся адны над другімі, і служачая для стасункаў зямлі з васьмю нябёсамі, сустракаецца і ў пярсідзкіх містэрыях Мітры[349].

Уяўленне пра нябесную лесвіцу пранікла і ў будыйскае вучэнне, у якім захавалася паданне пра тое, што Буда спусьціўся з неба на зямлю з двума сваімі спадарожнікамі па трайной лесвіцы (нябесны экватар, нябесная экліптыка і раўнадзённы колюр неба) у гонар чаго ў будыйскіх манастырах ладзіліся тры лесвіцы. Яны і былі нядаўна знойдзены пры раскопах у кітайскім Туркестане экспедыцыяй акадэміка С. Ф. Альдэнбурга.

Старажытны пісьменнік Макробій, якога апакрыфічна адносяць да V стагоддзя нашай эры, відаць, называе лесвіцай на неба задыякальнае кола. Ён звяртае ўвагу на тое, што гэтая сьветлая паласа экліптыкі перасякае Млечны Шлях у двух месцах – каля тропіка Рака і каля тропіка Казярога, і паведамляе, што старажытныя астраномы звалі гэтыя сузор'і «брамамі». Брама Рака была брамай людзей, таму што пасьля праходу праз яе душы нябожчыкаў спускаюцца ўніз, а брама Казярога была брамай багоў, таму што пасьля праходу праз яе душы падніmаліся ў шчаслівае асяроддзе несьмяротных[350]. У ягіпецкіх дакументах гэтыя сузор'і сімвалічна зваліся брамай жалезнай і брамай слановай[351].

Вераванне ў існаванне нябесных брамаў, пра якія паведамляе Макробій, было, відаць, пашырана ў шмат якіх народаў, толькі яно не заўсёды мела дачыненне да сузор'я Рака. Брамай неба звалася таксама і сузор'е Двайнят, на што паказвае дайшоўшае да нас умоўнае пазначэнне гэтага задыякальнага знака. Спартанцы звалі Двайнят «Докана», г. азн. бэлькі. Гэта, згодна з іхнай думкай, былі

---

348 Э. Рэнан. Гісторыя Ізраільскага народа. Выд. Глаголева, т. I. стар. 91. Д. Свяцкі. Лесвіца Якава.
349 Stern: Aegyptische Kulturgeschichte, I, 72.
350 Per has portas animae de caelo in terras meare et de torris in coelum remeare credentur, ideo hominum una, altera deorum vocatur: hominum Cancer, quia per hunc in inferiora descensus est et Capricornus deorum, quia per illum animae in propriae immortalitatis sedem et in deorum numerum revertuntur (праз гэтыя дзьве душы, як думалі, спускаюцца з неба на зямлю і падымаюцца з зямлі на неба, чаму яны і мелі назву адна чалавечая, другая божая. Чалавечымі дзвярамі завецца Рак, таму, што праз яго быў спуск у апраметную, а божымі – Казярог, таму, што душы праз яго пераходзяць ва ўласны прыстанак багоў і ў лік багоў.
351 Гл. А. Нардаў. Шлях Сонца падчас сусьветнага руху. Тамбоў 1909, стар.71.

два драўляныя паралельныя брусы, злучаныя дзвюма другімі, пакладзенымі папярок. У Кітаі і Японіі сузор'е Tsing, адпавядаючае Двайнятам, таксама пазначаецца скрыжаванымі бэлькамі. Нарэшце, што для нас цікава больш усяго, у задыяку старажытных юдэйскіх кабалістаў Двайняты таксама сімвалічна пазначаліся дзвюма форткамі брамы.

Адзін цікавы апокрыф пра «Лесвіцу Якава» дайшоў да нашага часу ў старажытных славянскіх рукапісных складаннях, дапасуючыхся да XV стагоддзя, і занесены да нас, разам з іншымі падобнымі ж творамі із Візантыі. Але, на жаль, яго грэцкі тэкст да гэтай пары не знойдзены.

Із яго мы ведаем, што, акрамя біблейскіх падрабязнасцей, на гэтай лесвіцы было дванаццаць прыступак (адпаведна колькасьці знакаў Задыяка), пры чым на правым і левым баках лесвіцы на прыступках былі яшчэ пасаджаны чалавечыя асобы «ўжываючыя позірк свой», яны былі размешчаны па два на кожнай прыступцы, так што ўсіх было дваццаць чатыры асобы (згодна з кольксьцю гадзін у сутках), акрамя таго на вярху лесвіцы была бачнай яшчэ адна асоба «акі чалавечая, із полымя высечаная». Яна знаходзілася вышэй усіх астатніх і вызначалася тым, што ўяўляла сабой галаву да «раму і руку» (г. азн. да плячэй і рук), тады як астатнія былі бачнымі – «да грудзей – па іншаму гаворачы – у выглядзе бюстаў. Пры гэтым верхняя соба была «ізліха жахлівая».

Бог зацвярджаўся на гэтай лесвіцы, седзячы на херувімах, палымяным на пасадзе славы, трымаемы і насімы чацвёралікімі херувімамі і шматвокімі серафімамі.

Ён выпраўляе свайго арханёла Сарыкля – валадара сноў – патлумачыць Якаву значэнне яго сну.

– «Лесвіца, – паведаміў Сарыкль, – гэта гэты век, прыступкі – часы веку, 24 асобы – «цары народаў беззаконнага веку».

Зразумела, што гэтыя тлумачэнні напісаны ўжо хрысьціянскім пісьменнікам, бо Сарыкль далей павучае пра нараджэнне Хрыста, пра ўшанаванне яго вяшчунамі згодна з загадам зорак і пра некаторыя іншыя евангельскія вучэнні.

Даследчык славянскай апакрыфічнай літаратуры, І. Я. Парфір’еў, звяртае ўвагу, што некалькі фраз у гэтых тлумачэннях амаль аднолькавыя з падобнымі ж фразамі із іншага апокрыфа: «Паданне Афрадытыяна»[352]. Акрамя таго і ў саміх славянскіх спісах існуе шмат розных варыянтаў, і ўсё гэта паказвае на тое, што не адна рука прыклала тут сваё майстэрства да дадаткаў, зменаў і канчатковага рэдагавання легенды.

Апавяданне пра анёлаў, паднімаючыхся і сыходзячых з неба, патрапіла і ў евангелле Яна, але тут набыло ужо цалкам хрысьціянскі выгляд:

– «Праўдзіва, праўдзіва кажу вам: ад гэтага часу будзеце бачыць неба адчыненым і анёлаў боскіх, узыходзячымі і сыходзячымі да Сына Чалавечага» (Ян. 1,51).

Дзе ж знаходзіцца гэтая цікавая лесвіца?

Д. А. Свяцкі[353], які напісаў па гэтаму пытанню адмысловую брашуру, выказаў здагадку, што гэта Млечны Шлях, назва якога, хаця і не ў слове лесвіца, а

---

[352] І. Парфір’еў. – Апакрыфічныя паданні пра старазапаветныя асобы і падзеі. Казань. 1872-73 гг. Стар.284-283.

[353] Д. О. Свяцкі. Лесвіца Якава, ці сон на яву. 1911 г.

ў слове шлях захавалася ў шмат якіх народаў, ды і у нашых сялян-сектантаў ён вядомы пад найменнем «шлях Майсея», ці «шлях Багародзіцы да Хрыста ў рай»[354].

«Уявіце сабе – кажа ён – падарожніка, заспетага ноччу ў дарозе і збіраючагася пераначаваць пад голым небам, паклаўшы сабе ў падгалоўе знойдзены пры дарозе камень. Яго позірк міжвольна накіроўваецца да чароўнага, поўнага таямніц і загадак, нябеснага скляпення, ззяючага тысячамі зорак. І вось у гэты час яго ўвагу прыцягвае шырокая палоса Млечнага Шляху, якая цягнецца ад зямлі да неба, ад далёкага небасхілу да самога зяніту. Ён асабліва спыняецца на гэтай мігацячай бялёсай паласе, на якой угары ярка гарaць шэсць зорак нябеснага Пасада – сучаснае Сузор'е Касіяпеі. А так як назіранне зорнага неба ў старажытных астролагаў, якія бачылі ў фігурах сузор'яў містычны сэнс, заўсёды злучалася з тэалагічнымі разважаннямі, то сузор'е Пасада мімаволі асацыявалася ў яго з уяўленнем пра пасад бога, знаходзячагася вышэй нябёсаў. Млечны Шлях, вядучы да Пасада, быў для яго нябесным шляам, гіганцкай лесвіцай, злучаючай неба з зямлёй, бога з чалавекам».

Пераходзячы, потым, да розных анёлаў, быццам бы падымаўшыхся і сыходзіўшых па гэтай лесвіцы, Д. А. Свяцкі бачыць іх у сузор'ях на Млечным Шляху.




Мал. 157.

*Выгляд зорнага неба ў той момант кожных сутак, калі Млечны Шлях у краінах паўночнага ўмеранага пояса Зямлі ідзе амаль праз зяніт назіральніка (у гэты момант Касіяпея яшчэ не ў зеніце на нашых шыротах).*

[354] Гл. слоўнік Даля, а таксама Г. Парвіль. Астраномія ў пытаннях і адказах. СПБ. 1894 г., стар. 34.

Некаторыя факты, змяшчаемыя ў гэтай брашуры, паказваюць, што ў мала адукаваных веруючых душах і да гэтага часу існуюць там сям такія ж ўяўленні пра Млечны Шлях. Ці можна, аднак, з этна-псіхалагічнага боку гледжання дапусьціць, што назіранне кімсьці гэтай сьветлай паласы неба, якая была бачна з часоў пячорнага чалавека для ўсіх няспаўшых людзей пад час кожнай яснай ночы і не зрабіўшай пры гэтым ніякага ўплыву на развіццё старажытнай навукі, магло даць нагоду да ўзнікнення адмысловай легенды пра яе адкрыццё як чагосьці незвычайнага, выходзячага із шэрагу, ці да яе тлумачэння як лесвіцы, хаця яна ні трохі на яе не падобна, а здаецца хутчэй падобнай на разліўшыся мёд ці малако, і да запісу такога адкрыцця ў адну із найважных агульнагістарычных кніг? Вядома, не, і таму я схільны думаць, што першапачтковай нагодай да гэтага падання было адкрыццё экліптыкі, па 360 прыступках[355] якой, разбіваючыхся на 12 пасьлядоўных частак, узыходзяць і сыходзяць да гэтага часу астралагічныя вестуны неба – планеты (мал. 158).




Мал. 158.
*Лесвіца Якава: шлях планет па 360 прыступках (градусам) экліптыкі.*

Менавіта гэтае, сапраўды важнае адкрыццё, а не звычайнае штоночнае назіранне не падобнага на лесвіцу Млечнага Шляху, і захавалася ў гісторыі чалавечай думкі ў апавяданні пра сон Богазмагальніка, г. азн. чалавека, які імкнуўся здабыць таямніцу сьветапабудовы ў багоў. Першапачатковае правільнае ўяўленне стваральнікамі легенды пра лесвіцу Богазмагальніка магло забыцца ўжо ў другім пакаленні іхных вучняў і замяніцца вульгарным, паказаным Свяцкім. Інакш і не магло быць. Лесвіца планет уяўлялася стварэннем толькі чалавечай думкі, і яе нельга пабачыць на небе, а Млечны шлях бачны кожную ноч. Як жа было не дэградаваць вялікаму астранамічнаму ўяўленню пры праходзе праз няздольныя да

[355] Градус (gradus) азначае – прыступка лесвіцы ці ганку.

яго галовы пераказчыкаў, і як было не здзейсніцца пад час сярэднявечнага перыяду перастаноўцы на небе адной лесвіцы замест другой?

Я тут паказаў гэтую легенду, галоўным чынам, для таго, каб паказаць, якія наіўныя для нас апавяданні вынаходзілі нашы продкі для тлумачэння самых вялікіх навуковых адкрыццяў сваіх бацькаў і дзядоў.

Чалавечая думка заўсёды імкнулася дасягнуць неба і не магла, вядома, супакоіцца, пакуль усе шляхі да гэтага не былі выкарыстаны. Так, яна спрадвеку імкнулася пабудаваць сабе прыстасаванні для лятання і працавала над гэтым пытаннем, пакуль іх не прыдумала, а зараз будзе працаваць над вынаходніцтвам сродкаў з дапамогай якіх можна будзе лётаць за межамі нашай атмасферы і не супакоіцца, пакуль не дасягне гэтага. У старажытнасьці ж, калі неба лічылася скляпеннем сыходзіўшымся з зямлёй, спрабавалі дасягнуць да яго краю на караблях, ды і пасьля высвятлення факта пра шарападобнасть зямлі інтэлігенцыя прыморскіх народаў рыхтавала караблі для таго, каб аб'ехаць вакол усёй зямлі. Было б цалкам неверагодна, калі б абудзіўшаяся ў старажытнасьці думка чалавецтва не паспрабавала б пабудаваць і рэальную лесвіцу на неба, у выглядзе пірамідападобнага нагрувашчвання камянёў, і калі б вынік такой спробы не захаваўся больш тысячагоддзя, як захоўваюцца ягіпецкія піраміды?

Але ў легендзе пра Боганазіральніка маецца на ўвазе не такая рэчаісная лесвіца, хаця б Рэнан і назваў яе вельмі ўдала – пірамідай.

Але што ж такое ўяўляе сабой камень, які біблейскі Пталямей паставіў у гонар свайго адкрыцця зкліптыкальнай лесвіцы планет у Сядзібе бога, у мясцовасьці, раней меўшай назву Луз?

Вядома, можна шукаць яе і на зямлі, але можна думаць таксама, што гэта быў не рэальны камень із нейкіх сілікатаў, і не цэлая ягіпецкая піраміда, а тая дошчачка, якую мы бачым на ягіпецкіх скульптурах Дэндэр і Луксора, пазначаючая месца перакрыжавання экліптыкі з экватарам у сузор'і Рыб. Перадусім, тут крыжуюцца дзве лесвіцы: нябесная экліптыка і нябесны экватар і, акрамя іх, тут ідзе лесвіца ў цэнтр сузор'я Цмока да полюса арбіт нябесных сьвяціл, г. азн. першы мерыдыян, на якім адзначаюцца 90 прыступак (на-лаціне – градусаў[356]) нябеснай шыраты. Гэта асноўнае адгалінаванне экліптыкальнай восі, таго Дрэва Спазнання дабра і зла, якое зрабіла людзей падобнымі багам, прадказваючым рух нябесных сьвяціл. Прыступкі гэтага адгалінавання – 90 градусаў шыраты ад экліптыкі да яе полюса, а папярок іх, каля яе падэшвы, круцяцца 12 сузор'яў Задыяка, складаючых сабой тую Богазмагальніцкую лесвіцу з 360 прыступкамі, па якой узыходзяць і апускаюцца вестуны Бацькі Бага – планеты.

Такім чынам, паданне пра лесвіцу Якава (на лаціне: Клаўдыя, ці інакш Кульгавага) пазначае асноўнае астранамічнае вынаходніцтва, ўпершыню зрабіўшае магчымым існаванне тэарэтычнай астраноміі і падцверджаннем гэтага служыць легенда пра 12 дзяцей Боганазіральніка, без сумневаў прыстасоўваючая 12 правінцый Лаціна-Эліна-Сірыйска-Ягіпецкай імперыі Дыяклетыяна да 12 сузор'яў Задыяка.

Словы «горад, у якім было зроблена гэта адкрыццё, меў назву Перагінанне, па-біблейску Луз» як быццам бы намякаюць на знакаміты Луксор, і, ва ўсякім разе, дадатак пра горад (ЭЙР) у тым месцы, дзе раней апісвалася пустыня і дзе патрэбна было ўзяць камень пад галаву, паказвае тут пераход ад алегорыі да рэчаіснасьці.

---

[356] Gradus – прыступка лесвіцы.

Гэтая легенда далучана да кнігі Быццё наўрад ці раней VII стагоддзя і дадала сюды астранамічнае адкрыццё, якое было зроблена не пазней пачатку IV стагоддзя. Як я ўжо згадваў вышэй, у біблейскай біяграфіі Якава аб’яднаны дзьве пераемныя плыні рэлігійнай думкі: Боганазіральніцства (якавітства) г. азн. даследаванне руху нябесных сьвяціл і богазмагальніцства (ізраэлітства), калі ўсе ранейшыя багі пачалі скасоўвацца ў імя адзінага бога Грамабоя, і астралогія замянілася астраноміяй.

## V.

## Астральныя загадкі.

Я ўжо разглядаў наступную за гэтай легенду пра адружанне Боганазіральніка на чатырох жонках, нагадваючых 4 пары года і чатыры часткі сутак, і пра народжэнне яму імі 12 сыноў згодна з колькасьцю сузор'яў Задыяка, пазначаючых таксама і 12 месяцаў года, і зараз паведамлю пра наступную сустрэчу Богазмагальніка-Месяца з яго братам Ісавам-Сонцам, у 13-й частцы кнігі «Быццё». Я нават думаю, што тут, як і ў шмат якіх іншых замяшчэннях людзей свяціламі ў Бібліі, існуе не наўмысная алегорыя, а непасрэднае аб'яднанне асобы са зробленым ёю адкрыццём ці з запісаным і патлумачаным ёю назіраннем.

Няцяжка здагадацца, што калі нешта на небе і магло навесьці людзей на думку, што Месяц да нас бліжэй, чым Сонца, то гэта было колападобнае сонечнае зацьменне, бо пры ім Месяц бывае цалкам аточаны Сонцам. Успамінам пра такую падзею, даўшую пачатак месяцоваму злічэнню часу з яго 19-гадовым цыклам месяцовых зацьменняў, і служыць, мне здаецца, акрамя пазначанага вышэй колападобнага зацьмення Сонца пад носам сузор'я Панны ў 536 годзе, яшчэ і наступная легенда пра другую сустрэчу хрысьціяніна-Сонца з богазмагальнікам-Месяцам, пасьля пераходу імі Эрыдана-Ярдана ў абдымаючыхся гэтым разам Двайнятах.

Легенда пачынаецца здалёку.

«Белы патрыярх (Лаван), бацька абедзвюх законных жонак Кульгавага Богазмагальніка, Венчанай і Авечкі (па-жыдоўску Ліі і Рахілі), сказаў яму, калі ён не захацеў больш жыць у яго ў якасьці пастуха (г. азн. хадзіць па небу і пасьвіць аблокі, і зараз называемыя ўсходнімі сялянамі нябеснымі баранчыкамі):

– «Што даць табе ў якасьці ўзнагароды?»

– «Я зноў згодны пасьвіць тваіх авечак – адказаў малодшы сын Пашыральніка Пісьмёнаў – але хай кожная каза з крапінкамі і плямамі (як Месяц у поўным выглядзе) і кожная чорная (як Месяц пад час маладзіка) авечка будуць маімі, а не пазначаныя козы і не чорныя авечкі будуць тваімі».

– «Добра – адказаў «Белы». – Хай будзе згодна з тваімі словамі» (Быц. 30. 35).

«Боганазіральнік узяў свежыя тапалёвыя, міндальныя і яворавыя палкі і нарэзаў на іх кару, каб надаць ім стракаты выгляд. Ён паставіў іх каля вадапойных карытаў, калі быдла прыходзіла туды піць і разгарачалася пры гэтым. Авечкі і козы глядзелі пры зачацці на стракатыя палкі і таму іхныя дзеці нараджаліся паласатымі і плямістымі, і ён зрабіўся надзвычай заможным, а Белы збяднеў» (Быц. 30. 36-43).

Так перадае Біблія і да гэтага часу існуючае ў народзе павер'е, што бачанае маці пры зачацці мае фізічны ўплыў на яе будучае дзіцё.

«Белы» перамяніў умову на адваротную, але Богазмагальнік і тут абхітрыў яго: ён пачаў ставіць пры вадапоях аднакаляровыя палкі і жывёлы пачалі нараджацца аднакаляровымі.

– «Богашукальнік завалодаў усім, што было ў нашага бацькі» – казалі дзеці «Белага», і твар апошняга павярнуўся да чалавекаў яго дочак

Напалоханы «Боганазіральнік пасадзіў сваіх жонак на вярблюдаў (гарбатых Месяцаў), узяў з сабой усё сваё быдла і багацце і, схаваўшыся ад Белага горца, перайшоў Эрыдан (тэрытарыяльна раку По ў Ламбардыі, вяртаючыся ў Італію) і накіраваўся да Галацкай гары (ГЛЭД), пры чым яго самая шануемая жонка Авечка таемна звезла з сабой багоў свайго бацькі.

«На трэцці дзень было павядомлена пра гэта «Беламу». Ён сабраў сваіх сваякоў, пагнаўся за ўцекачамі шляхам сямідзёння (ШБЭТ-ІМІМ) і дагнаў іх на Галацкай гары, але багі прыйшлі да яго ноччу ў сне і паведамілі:

– «Сцеражыся! Не выказвай Боганазіральніку ні добрага, ні благога».

«Белы» разам са сваякамі паставіў свой шацёр на Галацкай гары (астральна: на «ўзгорку-сведку»), а ўцякач – на іншай гары.

– «Што ты зрабіў? – сказаў яму з гары «Белы». – Ты падмануў мяне і звёз маіх дачок, як захопленых у палон з дапамогай зброі. Навошта ты збег таемна, хаваючыся ад мяне? Я выправіў бы цябе з песнямі і скокамі, з тымпанамі і гуслямі, а ты не дазволіў мне нават пацалаваць маіх унукаў і дочак. Ты паступіў неразважліва. Навошта ты скраў маіх багоў?».

– «Я баяўся – адказаў Боганазіральнік з другой гары – каб ты не забраў у мяне сваіх дочак. А той із нас, у каго ты знойдзеш сваіх багоў, ды памрэ».

«Ён не ведаў, што Авечка (Рахіль) скрала іх. А яна схавала іх у вярблюжае сядло і села на яго».

– «Ды не ўгневаецца мой гаспадар – сказала яна бацьку, калі ён, прыйшоўшы, пачаў абшукваць яе – што я не магу падняцца. У мяне штомесячнае жаночае».

«Дзякуючы гэтаму «Белы» нідзе не знайшоў сваіх багоў, і Боганазіральнік раззлаваўся на яго.

– «Я служыў табе чатырнаццаць гадоў за сваіх дзвюх жонак і шэсць гадоў за тваё быдла. Ты дзесяць разоў перамяняў мне ўмовы – казаў ён. – Калі б не было са мной бога майго бацькі, бога Бацькі-Рыма, і баязні перад Пашыральнікам Пісьмёнаў, ты выправіў бы мяне ні з чым. Але бог пабачыў маё бядотнае становішча і працу маіх рук і заступіўся за мяне».

– «Твае жонкі – мае дочкі – адказаў «Белы» – заключым жа хаўрус паміж намі».

«Боганазіральнік узяў камень і паставіў яго ў якасьці помніка хаўруса. Сваякі Белага патрыярха таксама набралі камянёў, зрабілі ўзгорак і пілі і елі там. «Белы» назваў гэты насып Куча падцверджання (ІГР-ШЕДУТА), а Богазмагальнік – Узгорак Сведка.

– «Хай гэты ўзгорак будзе сведкам паміж мной і табой» сказаў «Белы» і назваў яго таксама Наглядальнікам[357], кажучы:

– «Ды наглядае адсюль Грамабой за мной і табой, калі мы схаваемся адзін ад аднаго. Гэты ўзгорак і помнік ды будуць сведкамі, што ні я, ні ты не пяройдзем, праз іх дзеля зла адзін аднаму» (Быц. гл. 32).

«Белы» падняўся рана раніцай, пацалаваў сваіх дачок і ўнукаў, дабраславіў іх і вярнуўся на сваё месца, а Боганазіральнік (у знаку Месяца) пайшоў сваім шляхам. Яго сустрэла апалчэнне боскіх вестуноў (полымямёт метэарытаў, верагодна гемінід, у сузор'і Двайнят, дзе бывае сонцастаянне) і ён даў таму месцу найменне: Станы» (Быц. 32.3).

Чаго больш у гэтым паданні? Ці чыстай астралістыкі, ненаўмысна зведзенай на зямлю праз неразуменне наступных пакаленняў, ці сімвалістыкі зямных падзей,

---

357 ) מ־צפה (М-ЦФЕ) ад слова צפה (ЦФЕ) – наглядаць, ахоўваць.

дзе цэлы народ ці цэлая плынь навуковай думкі пададзена ў выглядзе здзяйсненняў асобнага чалавека?

Тут сумесь таго і іншага, і нам застаецца толькі высьветліць, як змагла ўтварыцца падобная сумесь.

Каб зрабіць гэта, возьмем спачатку прасьцейшы прыклад, легенду пра біблейскага Езуса, маючаму па-сірыйску назву Рыбны (Навін). Гэта толькі адна са шматлікіх легендаў пра Вялікага цара (Васіля Велікага).

Ён, згодна з акультным сэнсам біблейскага падання, зрабіў важнае астранамічнае адкрыццё: паказаў, што Сонца, штогадова адыйшоўшы ад нябеснага экватара на $23^1/_2$ градусы да поўначы, робіць тут прыпынак на некалькі гадзін, грунтуючыся на папярэдніх набліжаных вылічэннях ценю слупоў ці калон, і пасьля гэтага вяртаецца назад да экватара, каб, перайшоўшы яго, зрабіць праз паўгода прыпынак на $23^1/_2$ градусы на поўдзень ад нябеснага экватара.

І вось гісторыя ганаравала гэтае вынаходніцтва легендай: «Езус загадаў Сонцу – спыніся! І яно спынілася», «і той дзень быў даўжэй чым астатнія». Так гэта і бывае ў дзень летняга сонцастаяння ў паўночным паўшар'і зямлі. Унутраны сэнс, легенды тут цалкам просты і зразумелы.

А пазнейшыя чытачы не заўважылі тут нічога астранамічнага і ператварылі навуковае адкрыццё Езуса ў недарэчны загад Сонцу не рухацца з месца пры суткавым руху ад усходу да заходу.

Гэта была натуральная дэградацыя індукцыйнага астранамічнага ўяўлення, выпрацаванага верхам чалавечай думкі, пры яго фільтрацыі праз нізы, г. азн. пры праходжанні праз мала падрыхтаваныя галовы, як гэта часта бывае і зараз пры папулярызацыі астраноміі і фізікі.

Дакладна гэтак жа дэградавалі, ці адмыслова пераіначваліся нізамі і іншыя навуковыя дасягненні.

Возьмем хаця б прадказанні кім-небудзь сонечных і месяцовых зацьменняў. Нават і ў XIX стагоддзі ў непісьменным асяроддзі яны лічыліся за зробленыя самім вешчуном, што нярэдка пагражала небяспекай для яго жыцця.

Адсюль зразумела, што першыя із такіх прадказанняў не толькі маглі, але і павінны былі патрапіць у легенды, як зробленыя самімі тагачаснымі навукоўцамі, а пазней яшчэ дэградавалі і ў «падзеі із іхнага жыцця». Выказванне «Богазмагальнік прадказаў зацьменне Сонца яго братам-Месяцам» у першай інстанцыі перайшло ў «Богазмагальнік зацямніў свайго брата-Сонца».

І вось, «Богазмагальніка ўжо замясьціў «Месяц», і далейшы шлях Месяца да «Вадапою сямі планет» ператварыўся, натуральна, у падарожжа Богазмагальніка да нейкага зямнога вадапою таго ж наймення. А як наступная ступень вульгарызацыі з'явілася і замяшчэнне Сонца нейкім зямным братам «Богазмагальніка».

Разгледзім жа з гэтага боку гледжання і легенду пра сустрэчу Сонца з Месяцам, пры якой Сонца абхапіла свайго брата Месяца (колападобным зацьменнем). Яе герой спачатку тут мае назву Боганазіральнік (Якаў), а потым Богазмагальнік (Ізраэль).

«Боганазіральнік (Месяц) – паведамляе яна – выправіў перад сабой шэраг вестуноў (дзён і начэй) да свайго брата – Ствараючага (Сонца) у зямлю Казярога (ШЭІР), на поле Чалавечага сына (Змеятрымальніка), каб папрасіць яго дазволу. Яны вярнуліся і паведамілі, што старэйшы брат ідзе яму насустрач з чатырма сотнямі ваяроў [200 дзён і 200 начэй шляху Сонца ад пачатку Задыяка (Авена) да Скарпіёна]. Боганазіральнік вельмі спалохаўся і падзяліў сваіх

людзей (дні і ночы) са сваім быдлам і вярблюдамі (г. азн. аблокамі і хмарамі) на два станы (начны і дзённы), кажучы:

– «Калі брат зробіць напад на адзін і паб'е яго, то можа выратавацца другі».

«Ён узяў із таго, што ў яго было, у падарунак брату 200 коз, 20 казлоў, 200 авечак, 20 бараноў, 30 дойных вярблюдаў з іхнымі жарабятамі, 40 кароў, 10 валоў, 20 асліх і 10 аслянят (прастадушныя дадаткі тлумачальніка) і даў у рукі сваім слугам, кожны статак (тыдзень) асобна, загадаўшы:

– «Ідзіце перада мной, пакідаючы некаторую адлегласць ад статка да статка, і калі брат мой запытае: – Чыё гэта? – адказвайце: гэта гасьцінец, пасланы табе братам, а вось і сам ён за намі».

«Тое ж загадаў ён другому і трэццяму».

– «Задобру брата – думаў ён – а потым ужо пабачу яго твар, магчыма ён тады і прыме мяне прыхільна».

«Ён падняўся ў тую ж ноч і перайшоў брод Боганазіральніка (адгалінаванне Млечнага Шляху) разам з двума жонкамі (днём і ноччу) і двума наложніцамі (раніцай і вечарам) і з адзінаццаццю сынамі (знакамі Задыяка). Потым ён застаўся адзін ноччу і да яго Нехта прыйшоў і змагаўся із ім да сьвітання. Пераканаўшыся, што не адолее яго, ён вывіхнуў сустаў яго сьцягна (няпоўнае месяцовае зацьменне ў назе Змеятрымальніка) і сказаў:

– «Адпусьці мяне, таму што надыйшло сьвітанне».

– «Не адпушчу, пакуль не добраславіш! – адказаў «Запінацель».

– «Як тваё імя? – запытаў яго Нехта.

– «Боганазіральнік» – адказаў ён.

– «З гэтага часу ты будзеш звацца Богазмагальнікам (Ізраэлем), таму што ты змагаўся пераможна і з богам і з людзьмі».

– «А тваё імя як? – запытаў яго Богазмагальнік.

– «Навошта табе пытацца пра яго? – адказаў той, і добраславіў яго.

«Богазмагальнік назваў гэта месца «Аблічча боскае» і сказаў:

– «Я бачыў тут бога тварам да твару і застаўся жывы».

«Вось чаму – дадае легенда – нашчадкі Богазмагальніка і да гэтага часу не ядуць вяртлюжнага сухажылля ў складзе сьцягна» (Быц. гл. 32).

Я ўжо раней паведамляў гэтую легенду, паказваючы яе астральнае значэнне. Зараз жа паўтараю: гэтая легенда з’яўляецца этнапсіхалагічнай дэградацыяй прадказанага «Богазмагальнікам» месяцовага зацьмення ў Скарпіёне ў самой пяце Змеятрымальніка. На гэтае месца неба проста над альфай Скарпіёна (244-218° экліптыкальнай даўготы) конусападобны цень Зямлі прыходзіць, калі Сонца бывае паміж 64-68° сучаснай экліптыкальнай даўгаты, і гэта ў V і VI стагоддзях адпавядала прамежку ад 4 да 9 траўня юліянскага злічэння; у IV стагоддзі гэта было паміж 3 і 8 траўня, у III – паміж 2 і 7, у II – паміж 1 і 6, а ў I стагоддзі паміж 30 красавіка і 5 траўня.

Разглядаючы месяцовыя зацьменні за гэтыя перыяды – з сярэдзінай зацьмення каля Грынвіцкай паўначы, бо толькі ў такім выпадку зацьменне мела б сярэдзіну каля 2 гадзін раніцы на сярэдніх і ўсходніх узбярэжжах Міжземнага мора і скончылася б з наступленнем ранішняга світанку – мы знаходзім ад пачатку нашай эры і да VII стагоддзя толькі:

I. Поўнае месяцовае зацьменне ноччу з 5 на 6 траўня 589 юліянскага года, з сярэдзінай поўнай фазы ў 1 гадзіну 16 хвілін ад Грынвіцкай поўначы. Яно было вельмі глыбокае (19"5), і Месяц пры ім мог быць некаторы час бачным як крывавая пляма каля нагі Змеятрымальніка. Яно скончылася да раніцы ў Еўропе і Афрыцы, а

ў Месапатаміі Месяц зайшоў на світанні яшчэ да заканчэння свайго зацьмення. Яно выдатна дапасуе да апісанага ў Бібліі.

II. Няпоўнае зацьменне ў ноч з 5 на 6 траўня 570 юліянскага года, з сярэдзінай у 1 гадзіну 26 хвілін ад Грынвіцкай поўначы. Уся працягласць яго бачнасьці такая ж самая, як і папярэдняга, але самае большае зацямненне дасягала менш за палавіну месяцовага дыска (5"0). Таксама цалкам прыдатнае да дадзенага выпадку богазмагання.

III. Няпоўнае месяцовае зацьменне ў ноч з 3 на 4 траўня 505 юліянскага года ў 1 гадзіну 17 хвілін ад Грынвіцкага грамадзянскага часу. Увесь ход той жа, што ў папярэдніх выпадках, але найбольшае зацямненне толькі чвэрць (3"6) месяцовага дыску (таксама прыдатнае).

IV. Поўнае месяцовае зацьменне ў ноч з 5 на 6 траўня 68 юліянскага года ў 23 гадзіны 26 хвілін ад Грынвіцкай поўначы. Яно было вельмі глыбокае (17"1), але скончылася яшчэ да світання нават у Месапатаміі, не кажучы ўжо пра Ягіпет ці Яўропу.

Такім чынам, пазначыць час вяртання якавітаў на захад і час «богазмагання» могуць толькі тры травеньскія месяцовыя зацьменні ў назе Змеятрымальніка; няпоўныя 505 і 570 і поўнае 589 гады, г.азн. усе ў VI стагоддзі, калі і ўзнікла ісмаэліцства.

Немагчыма патлумачыць інакш, чым астральна, і наступную за гэтым 32 главу пра сустрэчу богазмагальніка з яго валасатым (прамяністым) братам. Яе магчыма палічыць толькі за сімвалістыку замірэння якавітаў з хрысьціянамі, паказаную астранамічна на небе праз колападобнае сонечнае зацьменне пры ўваходзе ў сузор'е Казярога 5 студзеня 596 года, калі Сонца абхапіла Месяц вечарам у паўднёвай Гішпаніі і паўднёвай Францыі, і ён пайшоў ад яго «з мірам».

«Богазмагальнік» (Месяц) – паведамляе нам Біблія – падняў свае вочы і пабачыў: вось ідзе яго старэйшы брат (Сонца) і з ім 400 чалавек (у выглядзе пёрыстых аблокаў, пакрываўшых неба?). Ён паставіў дзвюх сваіх прыслужніц – наложніц (вечар і раніцу) наперадзе, потым Венчаную жонку (Лію – ноч) і ззаду Авечку (Рахіль – дзень), а сам пайшоў наперад і сем разоў пакланіўся свайму старэйшаму брату да зямлі (г. азн. сем разоў спускаўся да тропіка Казярога ад свайго зацьмення ў 589 годзе ў пяце Змеятрымальніка). Старэйшы брат (Ісаў-Сонца) пабег да яго насустрач, кінуўся яму на шыю, абхапіў яго (у выглядзе колападобнага зацьмення), пацалаваў і абодва заплакалі (пайшоў дождж).

– «Хто гэта ў цябе? – запытаў Эсу, пабачыўшы спадарожнікаў «Богазмагальніка» (г. азн. сузор'і Задыяка).

– «Дзеці, якіх даравалі багі (АЛЕІМ) твайму služжцы».

«Да яго падышлі абедзве прыслужніцы-наложніцы Богазмагальніка з іхнымі дзецьмі і пакланіліся. Потым падышла і пакланілася яго жонка Вянчаная з дзецьмі, потым Авечка (Рахіль) з сынам Ёсіфам.

– «Навошта ў цябе гэтае быдла (аблокі), якое я сустрэў? – запытаў старэйшы брат.

– «Для цябе, каб набыць павагу ў тваіх вачах».

– «У мяне шмат такога ж. Хай тваё застанецца ў цябе».

– «Не – адказаў малодшы брат – прымі гасьцінец ад маёй рукі, таму што я пабачыў твой твар, як калі б хто пабачыў твар бога, і ты быў добразычлівы да мяне».

І ён упрасіў яго забраць.

– «Паднімемся і пойдзем, – сказаў старэйшы брат пасьля абдымання.

«А малодшы адказаў:

– «Мае дзеці кволыя і быдла дойнае. Калі пагнаць іх, то памруць. Ідзі наперадзе, а я пайду за табой больш павольна, пакуль не прыду да цябе ў Казярога».[358]

«Старэйшы брат у той жа дзень дайшоў да Казярога (Быц. 36. 16), а малодшы накіраваўся у сузор'е Рака[359], дзе пабудаваў сабе сядзібу (Рак у астралогіі – сядзіба Месяца) і наладзіў буданы для быдла (Яслі ў Раку)».

Пазначу, што пасьля зацьменняў Сонца ў сваім сутачным руху ідзе (як тут і паказана) наперадзе Месяца.

Да гэтага апавядання (адпавядаючага колападобнаму зацьменню Сонца перад Казярогам 8 студзеня 596 года) дададзена і іншае, якое зноў немагчыма патлумачыць інакш, чым астральна.

Вось гэты міф (Быц. гл. 34).

«Дачка Венчанай і Богазмагальніка – Цяжба (Дына-Андрамеда) выйшла (на неба) паглядзець на зямных дачак. Сусед[360] завалодаў ёю, лёг з ёй спаць і згвалтаваў яе, але ён пакахаў дзяўчыну, павярнуў да яе сэрца і сказаў свайму бацьку:

– «Вазьмі яе мне ў жонкі».

Яго бацька Парфіра (ХРМ) прыйшоў дамовіцца з Богазмагальнікам, калі сыны апошняга вярнуліся з поля.

– «Мой сын прыляпіўся душой да тваёй дачкі. Аддай яе яму ў жонкі. Ды і наогул, аддавайце за нас вашых дочак, а нашых бярыце сабе. Вандруйце па ўсёй нашай краіне (небу) і набывайце ў ёй уладанні».

Сыны Богазмагальніка адказалі яму з хітрасьцю:

– «Мы не можам адружыць сваю сястру з неабрэзаным. Хай і ў вас таксама будзе абрэзаны ўвесь мужчынскі стан, і тады вы будзеце, як і мы, і ўтворыце з намі адзін народ».

Сусед і яго бацька пайшлі да брамы свайго горада і перадалі жыхарам гэтую прапанову, і ўсе выходзіўшыя паслухаліся іх. А на трэцці дзень, калі яны былі ў хваробе, Сымон і Левій узялі кожны свой меч і напалі на горад. Яны забілі ў ім усіх мужчын, паланілі жанчын і дзяцей і парабавалі ўсё, што было ў сядзібах.

– «Вы абурылі мяне» – сказаў ім Богазмагальнік, даведаўшыся пра гэта. – «Вы зрабілі мяне ненавісным для жыхароў зямлі Вазнічага[361] і Пярсея (ПРЗІ). У мяне мала людзей, і яны перамогуць і вынішчаць нас».

Сыны ж адказалі:

– «А ці добра было паставіцца да нашай сястры, як да прастытуткі?»

Такой з'яўляецца ўся 34-я частка кнігі «Быццё», якая ўяўляе цалкам самастойнае апавяданне не маючае нейкай арганічнай сувязі з папярэднімі ці наступнымі главамі.

З якой мэтай напісана і занесена ў «кнігу чалавечага Быцця» гэтае выбітное здарэнне з Дынай Якаўлеўнай? Калі гэта не глава із сусьветнай гісторыі, то што ж гэта такое? Выпадкова патрапіўшая ў яе, дзякуючы памылцы пераплётчыка, нечая дзікая фантазія?

---

[358] שעיר (ШЕІР) – козлападобны чорт, сатыр; астральна гэта магчыма сузор'е Казярога, перад якім быў зімовы прыпынак Сонца. Не будзем забывацца, што старажытныя не маглі вызначыць дзень прыходу Сонца ў нейкае сузор'е, так як яно патухла ў промнях зараніцы за некалькі дзён да гэтага і таму вызначалася яго апошняя бачнасць пад полымем вячэрняй зараніцы.

[359] מכות (СКУ1; ад סך (СК) – прыкрыццё, вартаўнічае месца, скінія.

[360] שכן (ШКН) – сусед, тут перайначана ў שכם (ШКМ) – дзялянка зямлі.

[361] כנען (КНЭН) – вандруючы гандляр. Акрамя Вазнічага тут цяжка знайсьці нешта прыдатнае.

Але фантазіі нават і ў XVIII стагоддзі нашай эры пісаліся не так рэалістычна.

Вось, напрыклад, у кнізе «Гісторыя Суворава» вы знойдзеце, як апяваў гэтага вайсковага правадыра адзін сучасны яму паэт:

Стане на горы – горы дрыжаць!
Ляжа на воды – воды кіпяць!
Ці да горада дакранецца – горад падае.
Вежы рукой за аблак кідае!

А старажытны фантазёр абавязкова прыдумаў бы нешта яшчэ больш дзіўнае, асабліва із жыцця «Богазмагальніка», якога не змог пераадолець сам бог. І, аднак жа, мы не бачым, каб у кнізе Быццё нават такія нашы вялікія прабацькі, як Абрам, Ісак і Якаў, кідалі рукою «вежы за аблак», ці хаця б ваявалі, як у казках, з сямігаловымі гідрамі і падманвалі самога сатану...

Гэта азначае, кніга «Быццё» не проста фантазёрства і, у той жа час, не рэчаісная гісторыя чалавецтва, бо нават і старажытны гісторык не стаў бы ўключаць у яе выпадковую прыгоду дзяўчыны Дыны Якаўлеўны з яе маладым суседам на гулянні і ўсеагульнае сама-абразанне яго суайчыннікаў з гэтай нагоды, каб даць суседу магчымасць адружыцца з ёю. Для сур'ёзнага навуковага даследавання няма іншага выйсьця, як шукаць тут сімвалістыку, якая злучала б фантазію аўтараў і перапісчыкаў і мела б дачыненне да пытання, якое лічылася імі годным таго каб быць далучаным да «сусьветнай гісторыі чалавецтва». Відавочна, што складальнікі апавядання пра Дыну аднекуль узялі свой сюжэт і, хутчэй за ўсё, із назіраемых імі нябесных з'яваў, якія тады ўсімі лічыліся за сімвалы адпаведных зямных падзей. Астранамічныя дэталі апісаны тут невыразна, але пад выглядам абразання і тут маецца на ўвазе, відаць, няпоўнае сонечнае ці месяцовае зацьменне. А пад выглядам змагання – полымямёт метэарытаў-персіядаў.

Дакладна так жа адчуваецца нешта астральнае ці сейсмічнае і ў пастаўленым перад гэтым апавяданні кнігі Быцця (гл. 35).

– «Падніміся, ідзі ў Сядзібу бога (г. азн. у сузор'е Змеятрымальніка) і пабудуй там «Ахвярнік» богу, які з'явіўся табе пры збяганні ад твару твайго брата – загадаў (згодна са сведчаннем аўтара) бог Богазмагальніку, а Богазмагальнік (у сімвале Месяца), перадаў гэта ўсім быўшым з ім.

– «Выдаліце чужых багоў, ачысьціцеся! – загадаў ён потым. Перамяніце ваша адзенне» (аблокі).

«Яму аддалі чужых багоў (сузор'і) і завушніцы (зоркі) у іхных вушах. Ён закапаў іх пад «Заклікаючым» (Змеятрымальнікам[362]) каля Хрыбта (Млечнага Шляху) і выправіўся ў дарогу. Жах Божы (камета) быў над гарадамі навокал, і ніхто не праследаваў сыноў Богазмагальніка. Ён прыйшоў у «Выгінанне» і ўладкаваў Ахвярнік у зямлі Гандляроў-мараплаўцаў, (г. азн. у Сядзібе Боскай), і назваў гэтае месца Бог Сядзібы Багоў, бо тут яму з'явіўся бог, калі ён бег ад твару Эсу (Сонца), свайго брата. Тут памёрла «Павучанне» (ДВРЕ), нянька Суцяшальніцы Спрэчкі (Рэвекі) і пахавана пад дрэвам, якому далі імя «Дрэва Плачу»[363].

«Тут у другі раз з'явіўся перад ім бог (АЛЕІМ), дабраславіў яго, абяцаў памножыць яго нашчадкаў, як пясок, і падняўся ўгару з месца, на якім размаўляў з Богазмагальнікам, а Богазмагальнік пабудаваў тут для напамінку каменны помнік.

---

[362] אלה (АЛЕ) – зваць, заклінаць.

[363] אלון (АЛУН) замест אילן (АЙЛУН) – дрэва, а ў архітэктуры איל (АІЛ) азначае – вонкавы выступ, карніз, а כות (КУТ) згодна з Cruden'у азначае – плач, верагодна сузор'е Пляяд-Пракальніц.

«Ён і ўся яго сям'я – працягвае легенда – выйшлі із Сядзібы бога і накіраваліся ў сядзібу Ежы (Цяля). На шляху туды памёрла пры вызваленні ад цяжарнасьці яго жонка Авечка, даўшы свайму сыну імя Бэноні, г. азн. «Сын Пыхкання», але Богазмагальнік пераназваў яго ў Сына Правасьці (Веніяміна) і пабудаваў на месцы пахавання яго маці помнік, «існуючы і да гэтага часу». Ён наладзіў свой шацёр за вежай «Статку» (Гіяд), дзе яго першынец, Празарлівец Сына (Раувін), прыйшоў на ложак свайго бацькі і праспаў на ім ноч з Бэлай, бацькавай наложніцай, за што і быў пазбаўлены права на першынство. Потым памёр яго бацька – Пашыральнік Пісьмёнаў – 180 гадоў ад роду і быў пахаваны сваімі двума сынамі» (Быц. гл. 35).

Зноў мімаволі узнікае жаданне запытаць: што гэта такое? Ці варта было запісваць у сусьветную гісторыю пра тое, што нейкі Рувім Якаўлевіч страціў у Палестыне 4 000 гадоў таму назад права лічыцца старэйшым сынам за тое, што праспаў ноч з прыслужніцай свайго бацькі Бэлай? Ці варта было паведамляць, як была пахавана пад дрэвам нейкая нянька, пра якую нічога невядома акрамя імя, і што таму дрэву далі найменне «Дрэва Плачу?» Для ўсходняй фантазіі такая прыдумка непамерна малая, а як факт для занясення ў сусьветную гісторыю чалавецтва – цалкам не прыдатная.

Што ж тут застаецца, акрамя маёй высновы, што гэта ці астральнае апісанне, зведзенае на зямлю, ці буйная зямная падзея, персаніфікаваная і астралагічна ўзнесеная на неба?

Відаць апавяданне і тут ужо мае дачыненне да часоў канчатковага распадання Рымскай імперыі на Ўсходнюю і Заходнюю. Астральна Бацька-Рыма (АБ-РАМ) мог быць уяўляемы Авенам, яго сын Пашыральнік Пісьмёнаў (Ісак) – Цялём, а яго дзеці-двайняты: Ісаў і Якаў – сузор'ем Двайнят, але гэтыя ж нашы прабацькі сімвалізуюцца і прамяністым, г. азн. касматым Сонцам і гладкім Месяцам. Рэлігійна ж гэта могуць быць дзьве секты – есеі і якавіты.

Да гэтага ж гістарычнага перыяду належыць і наступная 36 глава Быцця, маючая ўжо не астральны, а відавочна этнаграфічны характар.

«Эсу (Ісаў – хрысьціянскі Рым ад слова Iesus) званы адумеянінам (рымлянінам) узяў сабе тры жонкі (тры краіны) – паведамляе гэтая частка – Эду, Альбому і Басмату» (Быц. 36.2).

«Із іх Эда, дачка гота, нарадзіла яму сына Златабога, у якога кіраўнікі мелі назву (Быц. 36.15) атаман[364], эмір, шэф, князь, кірык, гетман і навуковы народ ад наложніцы Златобога Атаманы».

Я добра разумею, што гэтае маё новае, нечаканае для чытача, атаясамленне «жыдоўскіх» кіруючых асоб з нашымі славянскімі здольна падняць на галаве валасы дыбам ў тых, хто ўсё яшчэ мае жаданне захаваць за Бібліяй вельмі глыбокую старажытнасць, а, між іншым, яно само напрошваецца на вусны, калі вы чытаеце жыдоўскую транскрыпцыю без штучнай пунктуацыі. Вось яна па-руску з заменай літары на літару і з такім жа выкідваннем галосных, як у царкоўна-славянскай мове, дзе замест бог заўсёды пішацца БГ, замест – анёл – АГЛ замест чалавек – ЧЛК.

ТМН (תמן) або з прыстаўкай: А-ТМН – атаман.

ЭМР або ОМР (אומר) – эмір, падобна з арабскім Амар.

Ц(е)ФУ (צפו) – шэф.

---

364 Пазначым, што ў біблейскай мове з нашага слова «атаман» ці «гетман» так жа лёгка атрымліваецца «таман», як із рускага «лета» атрымваецца l'ete.

ГЭТМ (געתם) – гетман.

КНЗ (קנז) – князь.

Ды і сама назва Златабог (АЛІ-ФЗ) – занадта нагадвае звычай славянаў атачаць свае абразы залатымі рызамі. Хаця гебраіст Cruden і перакладае гэтае слова: the endeavour of God, але Златабог, як мне здаецца, больш адпавядае карэннаму значэнню гэтага слова.

Я пакідаю іншым перакласьці імёны дзяцей Эсу-Езуса (ён жа Ісаў) і ад двух астатніх яго жонак і не здзіўлюся, калі, дапасаваўшы справу да сярэдніх стагоддзяў, новыя філолагі знойдуць там і лацінскага езуіта пад пераіначаным вымаўленнем Езуса і грэцкага Кірыка, пад транскрыпцыяй КРХ (адкуль і назва нямецкай царквы кірха) і шмат чаго падобнага, цалкам незразумелага са звычайнага боку гледжання, і зноў перахожу да так званай «гістарычнай» часткі.

«Эсу (Ісаў, г. азн. хрысьціянскі захад) забраў сваіх жонак, сыноў, дачок і ўсю сваю маёмасць, якую набыў пад час жыцця ў нізіннай зямлі, і, аддзяліўшыся ад якавіта, свайго брата, пайшоў у іншую краіну, таму, што зямля іхных вандровак ужо не магла памясьціць іх абодвух. Ён пасяліўся ў Эдэме» (Італіі, Быц. 36, 1-18).

«Там жылі сыны пячорнага чалавека (сейра, ад sir – васпан, а ў Бібліі шэір – кудлаты чорт, сатыр, казёл). Імёны іх былі Латын, Шаўлі, Савена і Эна»[365].

«У Латына (36. 22) былі дзеці: Хры і Эймам і сястра Атамана (Цімна), ад наложніцтва якой са Златабогам старэйшым сынам Эсу, нарадзіўся навуковы народ»[366].

«Сыны Саваны (ЦБЭУН) былі Айа і Энэ (ЭНЕ, дэпартамент ЭН). Гэта быў той самы Энэ, які знайшоў цёплую ваду (знакамітае Вішы?) у стэпе, калі пасьвіў аслоў свайго бацькі. І ў яго быў сын (горад) Дыжон (у Бургундыі) і дачка Энэ» (ЕНЕ, сучасны горад Эн.)

Я не працягваю гэтую відавочную геаграфію лацінскага сярэднявечча, бо думаю, што і без таго шмат хто із маіх чытачоў ужо страціў цярпенне пачынаючы з першых жа радкоў, пры маім перакладзе біблейскіх напісанняў КНЗ – князь, ГЭТМ – гетман і іншых такіх жа атаясамленняў. Мы, рускія, заўсёды былі вельмі сціплымі ў дачыненні да свайго мінулага і не заводзілі свой патрыятызм далей, чым Карамзін, а тут раптам выяўляецца, што нашы продкі – паўднёва-рускія князі, украінскія гетманы і казацкія атаманы жылі яшчэ пры Аўрааме!

Усё гэта было б, вядома, вельмі смешным, калі б прабацька Абрам і яго сын Пашыральнік Пісьмёнаў (Іца-хак) былі сапраўднымі асобамі, а не ўвасабляючымі ў сабе, як я паказаў, усю Лаціна-Эліна-Сірыйска-Ягіпецкую імперыю да яе распадзення на Заходнюю і Ўсходнюю (Ісавію і Яковію) і калі б кніга «Быццё» не даводзіла апавяданне пра падзеі на ўсходзе аж да Магамета, калі Алах быў абвешчаны ў Аравіі адзіным богам, і нават яшчэ далей да VII стагоддзя нашый эры.

Паглядзіце самі яшчэ раз на гэтую 36-ю главу кнігі «Быццё» ў лацінскай, грэцкай ці ў адпавядаючай ёй славянскай і ва ўсіх еўрапейскіх версіях і падумайце: чаму там напісанне АЛУФ-АУМР[367], было перакладзена на грэцкую і лацінскую

---

[365] ה־חרי שצר (ШЕІР-Е-ХРІ) – лохматы чорт пячорнік; קטן (ЛОТН) – лоцін, латліянін; שובל (ШОВЛ) – сугучна з Шаўлі, צבעון (ЦВЕУН) – сугучна з Савены; ענה (ЭНЕ) – Эн

[366] חרי (ХРІ) – пячорны жыхар, הימם (ЕЙММ) – шумны. תמנע (ТМНЭ) = ת־מנע (Т-ІМНЭ) – правая, паўднёвая, сугучна з А-ТМНУ (התמנעה) — Атамана.

[367] אומר (АУМР) – пры гэтым או (АУ) патрэбна чытаць, як даўгае *о*, аналагічна французскаму *au*. Акрамя таго я схільны думаць, што і лацінскае au (напрыклад у gaudeamus igitur вымаўлялася таксама як доўгае *о*) ці як грэцкае ου.

мовы словам старэйшына (г. азн. па-арабску халіф) Амар (Быццё 36. 15)? Як можна патлумачыць ужыванне такога агульнага тэрміна «эмір» у прыватным значэнні Амар, калі б усё гэта пісалася да знакамітага халіфа Амара, заваяваўшага Сірыю і Ягіпет паміж 634 і 644 гадамі нашай эры? Хаця такімі лінгвістычнымі анахранізмамі поўніцца ўся юдэйская Біблія, у якой нават існуе слова «рускі мужык» (РАШ-МЕШЭК[368] у якасьці заснавальніка Русі-Мужыковіі, якая, прапусьціўшы сваё *ж* праз сіта грэцкай мовы, дзе гэты гук пераходзіць у *з*, вярнулася назад на радзіму, у выглядзе «Русі Масковіі» (Іезекііл 38. 2).

Усё гэтае словаўтварэнне, паўтараю, вядома, цалкам непрымальна для тых, хто і пасьля маіх астранамічных даследаванняў у вобласьці старажытнай гісторыі жадае зацята прытрымліваццца думкі пра незвычайную старажытнасць біблейскіх паданняў і легендаў. Але цалкам не тое, калі мы станем на новы бок погляду, і пераканаемся, што Біблія з'яўляецца творам V-VIII стагоддзяў нашай эры. Тады мы зараз жа згадаем, што ў гэты час рымскае войска складалася не толькі із лацінаў ды грэкаў, але і са шматлікіх іншаземных легіёнаў, у якія ішлі, галоўным чынам, ваяўнічыя паўднёвыя славяне. І гэтыя легіёны наймітаў, вядома, не заставаліся толькі ў сталіцах для парадаў і для вывучэння лацінскай і грэцкай моваў і літаратуры, а як толькі фармаваўся такі атрад із наймітаў (ці із палонных, якія і мелі назву славянаў, лацінскае sclavi, адкуль і ангельскае слэв (slave), г. азн. раб), так яго зараз жа разам з правадыром, набываўшым рымскае грамадзянства, напэўна, са славянскай жа адукаванай арыстакратыяй, выпраўлялі ў нейкі еўрапейскі, азіяцкі ці афрыканскі гарнізон.

Дзякуючы гэтаму, тамтэйшыя жыхары, увесь час чуючы як жаўнеры завуць свайго правадыра то князем, то гетманам, то атаманам, запомнілі гэтыя найменні, і яны патрапілі, нарэшце, у Біблію, нароўні з некаторымі іншымі словамі, ўжо пазначанымі мной: Русь (РАШ), мужык (МАШЭК) і г. д. Тут не толькі няма нічога смешнага ці дзіўнага, але інакш і не магло быць. Мы можам быць упэўнены, што ўплыў старажытных славянскіх гаворак на мовы народаў старажытнага ўсходу быў, дзякуючы гэтым іхным наймальніцкім легіёнам, нашмат большым, чым мы зараз лічым. І, наадварот: з гэтымі ж легіёнамі, а не шляхам місіянерства Кірылы і Мяфодзія, да нас прыйшоў, напэўна, і копцкі альфабэт, грунтуючыся на якім (а не на грэцкім) выраблены славянскія літары.

Я не магу тут паглыбляцца ў далейшыя лінгвістычныя даследаванні біблейскай геаграфіі і этнаграфіі. Для гэтага мне было б патрэбна веданне копцкай, бедуінскай і маўрытанскай моваў, а так як я не маю такіх ведаў, то я пакідаю далейшую распрацоўку гэтай часткі Бібліі тым, якія добра валодаюць гэтыя мовы. А я тут магу толькі дадаць, што такая праца не была б дарэмнай. Тут цалкам непачаты край ведаў, таму што ўсе ранейшыя даследчыкі знаходзіліся на ілжывым шляху і шукалі тлумачэнне феноменаў чалавечай культуры ў пустынях, і прытым у такой глыбокай старажытнасьці, ад якой ў нас няма ніякіх пісьмовых паведамленняў, а толькі каменныя сякеры, ды напаловуспарахнелыя косткі цалкам невядомых нам вандруючых дзікуноў пілтдаўнскага і неандэртальскага тыпаў, пра якіх я згадваў у пралогу да гэтага тама.

---

[368] משך ראש (РАШ МШК). Тут слова РАШ лічыцца паходзячым ад Роша, нашчадка Веніяміна, дзеці якога былі Росы (Раш), жыўшыя на поўначы, каля мяшэкаў (мужыкоў). Арабскі пісьменнік сярэдніх стагоддзяў Ібн-Фадлан дасканала апісвае гэты народ грунтуючыся на «асабістых уражаннях», на рацэ Волга (гл. французскі пераклад Frahn'a).

Гэтай этнаграфіяй народаў хрысьціянскага захаду (Эсу-Эдома) і заканчаецца чыста сімвалічная першая частка кнігі Быццё да 37 главы. Тут у апісанні падзей мы не маем рэчаісных здарэнняў із жыцця рэчаісных асоб, а толькі сімвалістычную персаніфікацыю розных з'яваў прыроды і чалавечага жыцця, як бы паказаных алегарычна на падмостках тэатра. Падбор асобных кароткіх апавяданняў не дае нам тут вызначанай пасьлядоўнасьці і яны злучаны паміж сабой, як у Адысеі ці Іліядзе, толькі вонкава, чыста стылістычнымі масткамі на падобе: «пасьля гэтага», «перад тым», «разам з тым» і г. д.

# ГЛАВА VI.

## Легенда пра Ёсіфа Прыгожага.

### 1.

### Падабенствы з Езусам.

У трынаццаці апошніх главах Быцця, змяшчаючых апавяданне пра Ёсіфа, адразу заўважаецца іншая, больш майстэрская рука: выкладанне робіцца пасьлядоўным ад пачатку да заканчэння, як у сучаснай аповесьці, у ім цяжка самавольна пераставіць адну частку пасьля другой. Калі 12 дзяцей Богазмагальніка сімвалізаваны тут у 12 сузор'ямі Задыяка, то ў гэтым праглядаецца не звядзенне нябесных падзей на зямлю, а, наадварот, імкненне падняць на неба рэчаісныя зямныя падзеі і рэчаісных асоб. Так, апавяданне пра лёс Ёсіфа Прыгожага, прададзенага братамі ў Міц-Рым і ўзвысіўшагася там да пасады царскага намесьніка, дзякуючы сваім асабістым якасьцям і адукаванасьці, відавочна мае ў сваім грунце зямныя падзеі. Гэта тое ж, што быліны пра Ўладзіміра Чырвонае Сонейка, пра рыцара Ралана, пра Аляксандра Македонскага.

Шмат якія рысы ў легендзе пра Ёсіфа амаль тоесныя з евангельскімі апавяданнямі пра Хрыста. Толькі евангельскі Хрыстос згодна з хрысьціянскай легендай лічыцца сынам Ёсіфа і ўнукам Якава, г. азн. дададзена адно пакаленне, а ў астатнім мы бачым амаль адпаведнасць.

Як евангельскі Хрыстос быў прададзены сінедрыёну за 30 срэбных манет яго вучнем Юдам, так і Ёсіф быў прададзены ў рабства таксама праз пасрэдніцтва Юды, але ужо не вучня, а брата, за 20 срэбных манет. Як евангельскі Хрыстос выйшаў із магілы для новага жыцця, так і Ёсіф быў выняты із глыбокай ямы ў зямлі і потым выйшаў са зняволення ў вязніцы. Евангельскі Юда, пакаяўшыся, пазбавіў сябе жыцця, а біблейскі Юда быў пакараны богам у яго дваіх старэйшых дзецях.

Не паглыбляючыся пакуль у далейшыя аналогіі паміж Ёсіфам Прыгожым і евангельскім Хрыстом, пагаворым тут пакуль пра Юду, яго брата ад іншай маці (царквы), і пра яго лёс пасьля продажу Ёсіфа. Гэта нам важна, таму што ад гэтага Юды бібляісты выводзяць юдэяў, а евангелісты і самога Хрыста.

Мы ўжо бачылі із главы VIII у II частцы гэтай кнігі, як ён аддаліўся пасьля прадавання Ёсіфа ад сваіх братоў і ўзяў сабе жонкай іншаземку, ад якой у яго нарадзіліся сыны: Эр (ад грэцкага Эрас), Анон (вынаходнік ананізму) і Бесклапотны (ШЛЕ). Ён узяў першаму свайму сыну Эрасу ў якасьці жонкі Пальму[369], але ён быў непажаданы Грамабою, які і забіў яго.

Юда аддаў Пальму другому сыну Анону, але ён зрабіўся ананістам і таксама быў забіты за гэта Грамабоем.

---

[369] תמר (ТРМ) – пальма.

Само сабой зразумела, што разумець гэтае апавяданне у літаральным сэнсе, як пра трох сапраўдных сыноў Юды Якаўлевіча, і пра іхную жонку, мадам Пальму, проста смешна, і таму нам застаецца тут западозрыць толькі алегорыю. Першая здагадка можа палягаць у тым, што пад імем Пальмы гаворка ідзе не пра рэальную даму, а пра пальма-падобны слуп дыму над Вязувіем, якому аддавалі боскія ўшанаванні, а другая здагадка, што гэта пальмападобнае дрэва спазнання дабра і зла, г. азн. вось экліптыкі, адкрыццё якой абуджала спрэчкі і якую юдаісты адкінулі. Я ўжо згадваў у прадмове да першага тома, што як зямную вось, так і вось экліптыкі ўяўлялі рэальна ў выглядзе дзвюх пальмаў на поўначы зямлі. А так як адкрыццё восі экліптыкі дало магчымасць прадказваць зацьменні, то набывае адмысловы сэнс і заканчэнне гэтай легенды.

Пабаяўшыся аддаць яе свайму трэццяму легкадумнаму сыну, Юда «адпусьціў яе да сваёй сядзібы», а пазней выпадкова палічыўшы яе за прадажную жанчыну, абяцаў ёй казляня за свой візіт да яе і яна зацяжарыла ад яго двайнятамі, г. азн. нарадзіла Сонца і Месяц (г. азн. сонечнае зацьменне Месяцам) у Двайнятах.

«Падчас родаў, – паведамляе легенда, – у яе ў жываце выяіліся Двайняты. Калі выйшла рука аднаго з іх, спавівальная бабка павязала на яе чырвоную нітку, сказаўшы:

– «Гэты першынец».

«Але рука яго схавалася назад, і замест яе выйшаў яго брат.

– «Як ты скасаваў перашкоду? – запытала яго спавівальная бабка, і таму яго празвалі Скідальнік (Парэс).

«Потым выйшаў і яго брат з чырвонай ніткай, і яго назвалі Пашыральнік Сьвятла[370].

З астральнага боку гледжання гэтае апошняе паведамленне вельмі цікавае. Падчас сонечных зацьменняў часта можна бачыць сонечную храмасферу ў выглядзе чырвонай ніткі вакол пацямнеўшага сонца і – што цікавей за ўсё – гэтая нітка, з'явіўшыся на ўсходнім баку дыска Сонца, хутка знікае і праз некаторы час зноў з'яўляецца, але ужо на заходнім баку Сонца перад яго ачышчэннем. Гэта так добра тут апісана, што немагчыма сумнявацца ў тым, што гаворка ідзе пра поўнае сонечнае зацьменне ў Двайнятах. А такія былі бачнымі ў басейне Міжземнага мора толькі

– 9 г.–VI – на Крыце і паўднёвым беразе Малой Азіі
+ 346 г.–VI –6 у Сьмірне пасьля ўзыходу Сонца,
+ 512 г.–VI–29 у Афінах і ў Канстантынопалі,
+ 540 г.–VI–20 у Гібралтары і Рыме,
+ 912 г.–VI –17 у Гішпаніі пры заходжанні,
+1239 г.–VI–3 у паўночнай Італіі.

Із гэтых дат асабліва дапасуюць толькі зацьменні 512 і 540 гадоў. Але як бы астральна мы ні разумелі біяграфію Юды, яна, ва ўсякім разе, не бліскучая, і таму варта толькі дзівіцца, што менавіта яго абралі ў якасьці легендарнага родапачынальніка калена Юдэйскага, абранага богам Грамабоем із усіх іншых каленаў, не лічачы Ёсіфава.

Ды і ў евангеллі Мацвея (1.3) і ў евангеллі Лукі (3.33) радавод хрысьціянскага бога такім жа незразумелым чынам выводзіцца ад

---

[370] פרץ (ПРЦ) пралом, скасаванне іга і זרח (ЗРХ) распаўсюджваючы сьвятло; падобна на זרה (ЗРЕ) – развейваць. Цікава, што гэтым жа імем (ЗРХ) называецца і цар Хуша (Ягіпта) Азархон, пераемнік Шашанка ששק (II Парад. 14,8).

вышэйпрыведзенай прыдарожнай прыгоды Юды з Пальмай, вядучы генеалогію Езуса праз яе сына Парыса, інакш Фарэса, і праз яе ўнука Хецрона (ХЦРН), які згадваецца і ў кнізе Быццё (46. 12).

Дакладна так жа цяжка зразумець грунтуючыся на вышэйпрыведзенай біяграфіі гэтага біблейскага лавеласа яе заканчэнне, дабраславенне, дадзенае яму бацькай перад сьмерцю:

– «Юда – сказаў яму паміраючы Богазмагальнік – цябе ўсхваляць твае браты».

А ў якасьці павучання астатнім яго братам, каб не падумалі, што яго патрэбна хваліць за Пальму, яшчэ дадаў:

«Юда – гэта малады леў! Са здабычы ён падняўся, прылёг, як леў, і хто падніме яго? Не адыдзе скіпетр ад Юды і жазло ад яго ног, пакуль не прыйдзе Заспакаіцель і не скорацца яму ўсе народы».

Без сумневу, што і ў гэтым бацькоўскім дабраславенні Юда ўвасабляе сузор'е Ільва, галоўная зорка якога мае назву, Рэгул, што згодна з першапатковым словаўтварэннем азначае Царэвіч, але потым, дзякуючы свайму становішчу якраз на самой экліптыцы, гэтая зорка першай велічыні стала для старажытных астраномаў рэгулятарам даўжыні года, адкуль і бярэ пачатак шляхам абагульнення міжнароднае слова рэгуляваць.

Продаж Юдай свайго брата за 20 срэбранікаў астральна магчыма патлумачыць тым, што падчас гістарычнага месяцовага зацьмення пры слупаванні евангельскага настаўніка 21 сакавіка 368 года (адбыўшагася каля 203° экліптыкальной даўгаты каля самага сьцягна сузор'я Панны) Месяц, знак Езуса, прайшоў туды з Ільва, пад рассыпанымі, як срэбныя манеткі, дробнымі зорачкамі, сучасных валасоў Веранікі, якія тады яшчэ не мелі гэтай паэтызаванай назвы. Потым праз Шалі, сімвалізаваўшыя апошні нябесны суд, ён накіраваўся да сімвала ўсеагульнага ажывання із памёршых, Змеятрымальніка, які топча сьмерць – Скарпіёна і ўзброенага Змеем – старажытным сімвалам выведвання таямніц неба, так як ім жа абвіты і таямнічы полюс экліптыкі на $23^{1}/_{2}$ градусы ад геацэнтрычнага паўночнага полюса неба па лініі калюра зімовага сонцастаяння.

Такім чынам, у Евангельскай легендзе пра здраду Юды і пра ажыванне Вялікага цара, гэтая сімволіка вельмі зразумелая. Але як жа гэты самы «Юда здраднік» – паўтараю – змог патрапіць хаця б і сімвалічна ў родапачынальнікі самаго евангельскага Хрыста і прытым такім нявартым нават і са сражытнага боку гледжання чынам: абяцаннем за гэта казляняці ўдаве ўласнага сына – ананіста, якую ён палічыў за прастытутку?

Тут, мне здаецца, мы бачым вынік старажытных супярэчнасьцей пра паходжанне хрысьціянскага бога, водгалас таго, што мы знаходзім і ў Талмудзе, дзе маці Езуса таксама паказваецца прыдарожнай жанчынай. Юда-здраднік ў Евангеллях мае назву Іскарыёт, што па-біблейску азначае Муж як леў (АЙШ-К-АРЫЕ), цалкам пагадняючыся з толькі што прыведзеным дабраславеннем Якава, яго бацькі, таксама параўноўваючага яго з Ільвом. Але тут Юда ўжо брат прададзенага ім Ёсіфа-Прыгожага, хаця і ад іншай маці, і гэтым ён прыводзіцца ў аналогію з апосталам Юдай, братам Езуса, таксама быццам бы ад іншай маці. Атрымліваецца, што ў хрысьціянскай тэалогіі апостал Юда дарэмна падзелены на двух Юдаў: на здрадніка – «Мужа як леў», і на «сьвятога Юду – брата госпада». Гэта адзін і той жа Юда, ды і тут у кнізе «Быццё» мы бачым яго ж у трэццяй легендзе...

Можна выказаць меркаванне, што гэтая блытаніна паўстала праз тое, што пасьля таго, як Езус ажыў на трэцці дзень пасьля свайго слупавання на Вязувіі, паверыўшыя ў яго збеглі із Італіі на ўсход, у Баўгарыю, Сірыю і на ўзбярэжжа Мёртвага Мора, радзіму Езуса, дзякуючы чаму таксама ўтварылася і легенда пра Езуса Рыбу (Навіна), г. азн. пра чалавека, які вызначыў кропку весновага раўнадзенства ў сузор'і Рыб, і які вывеў абраны Боскі народ із Міц-Рымскага рабства, згодна з загадам якога спынілася нават само Сонца (г. азн. ён вызначыў кропку летняга сонцастаяння, калі дзень бывае выключна доўгім). Тоеснасць біблейскага Езуса-Рыбы (Навіна па-жыдоўску) з евангельскім Езусам падцверджваецца і тым, што знакам першых хрысьціянаў была менавіта рыба, якую і малявалі на іхных магілах і анаграматычна тлумачылі яе грэцкую назву ΙΧΘΥΣ (ІХТІ'С) як Езус-Хрыстос-Тау-Ійос-Соцер, г. азн. Езус Хрыстос Боскі Сын Ратавальнік.

У першым паўстанні хрысьціян выбітную ролю набылі, вядома, браты евангельскага Езуса: Юда і Якаў. Але пасьля таго, як Езус, якога пасьля ажывання лічылі вечна-жывучым (па-грэцку Зеўсам, а па-сірыйску Іеуе) памёр, у шэрагах яго прыхільнікаў павінна было адбыцца раздваенне: брат Юда, які пахаваў яго ўласнаручна і абвясьціў пра знікненне натхняўшых усіх надзеяў, непазбежна павінен быў у вачах староннііх прыхільнікаў Езуса і, галоўным чынам, рабоў і немаёмасных, ускладаўшых на аджыўшага навукоўцу і філантропа ўсе свае спадзяванні выявіцца здраднікам.

Легенда пра Езуса-Рыбу з дадаткам сюды Арона і Майсея (спісаных з Арыя і Дыяклетыяна), уключаецца, такім чынам, у цыкл легенд пра тыя ж самыя падзеі, ўразіўшыя уяўленне старажытнага адукаванага сьвету: пра вулканічныя з'явы, астранамічныя тэорыі, абуджаўшыя нянавісць тагачасных тэолагаў, пра паўстанне сірыйскай і малаазійскай беднаты супраць рымскіх грамадзянаў пры Валенту і Феадосіі І, у якіх таксама браў удзел і Ян-Залатавуст, аўтар Апакаліпсіса, непасрэдны вучань рэчаіснага героя евангельскіх і біблейскіх паданняў пра Езуса. Лепш за ўсё гісторыя гэтых паўстанняў паведамляецца ў кнізе пра Юду Молата (Макавея) і яго братоў, якую аўтары эпохі адраджэння таксама дарэмна аднеслі ў да-хрысьціянскія часы. Гэта ўсё падзеі 70-х і 80-х гадоў таго ж чацьвёртага стагоддзя, калі ўпершыню з'явіліся рэлігійныя пачуцці з месіянскім адценнем і містычным складам думкі.

Бацька гэтых «молатаў» Дар-Грамабоя (Матафія) і ёсць сам евангельскі Хрыстос, а яго дзеці, якія працягвалі паўстанне, тыя ж самыя евангельскія вучні Езуса і браты Ёсіфа Прыгожага з кнігі «Быццё».

Але кнігу Молатаў (Макавеяў) мы яшчэ разгледзім у сваім месцы, а зараз зноў вернемся да Ёсіфа Прыгожага, увесь час не забываючы пра яго блізкае дачыненне да евангельскага Хрыста.

«Сямнаццаці гадоў ад нараджэння – паведамляе 37 глава кнігі «Быццё» – Ёсіф (Езус) хадзіў пасьвіць быдла разам з сынамі свайго бацькі і паведамляў дрэнныя чуткі пра іх Богазмагальніку, які шанаваў яго больш за усіх астатніх сваіх дзяцей і зрабіў яму шматкаляровае адзенне. Аднойчы Ёсіф пабачыў сон і паведаміў яго сваім братам:

– «Мне снілася – паведаміў ён – што мы вязалі снапы пасярод поля. Мой сноп падняўся з зямлі і стаў прама, а вашы сабраліся вакол яго і схіліліся перад ім».

– «Ці азначае гэта, што ты будзеш валадарыць над намі? – запыталі яго браты.

«І іншым разам ён паведаміў ім сон, ужо пры бацьку:

– «Я бачыў, як Сонца, Месяц і адзінаццаць зорак прыйшлі пакланіцца мне».

– «Што гэта за сон? – сказаў яму і сам Богазмагальнік. – Няўжо я і маці твая, і браты твае прыйдуць пакланіцца табе?»

«І ўзненавідзелі яго браты».

А потым паведамляецца тое, што я ўжо прыводзіў вышэй (ч. II, гл. VIII), але паўтару для складнасьці выкладання і тут:

«Аднойчы браты Ёсіфа прыйшлі ў Хрыбет (на Аф-Рымскай гары[371]) пасвіць быдла свайго бацькі.

– «Ідзі і паглядзі, ці здаровыя твае браты і ці цэлае быдла? – загадаў яму Богазмагальнік у Даліне Суполкі (ХБРУН).

«Ёсіф (Езус) пайшоў туды, але перш чым ён наблізіўся, яго браты заўважылі яго.

– «Вось ідзе наш снабачац – сказалі яны. – Заб'ём яго, кінем у правал (жарало Вязувія) і скажам бацьку: яго з'еў драпежны звер. Тады і пабачым, што атрымаецца з яго сноў».

– «Не пралівайце яго кроў – сказаў Раувін – кіньце яго ў правал[372] жывым».

«І пайшоў».

«А правал быў сухім у пустыным месцы, і Раувін меў намер пазней выцягнуць яго адтуль. Браты ўзялі падышоўшага Ёсіфа, знялі з яго шматкаляровае адзенне і кінулі туды. Потым яны селі есьці і раптам пабачылі караван ісмаэлітаў (ІШМЭ-АЛІМ), ідучы із Галатыі» (ГЛЭД).

– «Якая нам карысць ад сьмерці нашага брата? – сказаў тады Юда братам. – Лепш прададзім яго ісмаэлітам».

Ёсіфа выцягнулі з правалу і прадалі купцам медонцам (МДІНІМ) за 20 срэбранікаў (а евангельскі Юда прадаў Езуса Сінедрыёну за 30 срэбнікаў).

«Калі браты зышлі, Раувін вярнуўся да жарала, каб выняць Ёсіфа, але вось яго там няма, і ён з гора разадраў сваё адзенне».

– «Куды я пайду зараз? – паведаміў ён сваім братам – яго няма!»

«А браты ўзялі шматкаляровае адзенне Ёсіфа, намачылі крывёй заколатага казла і прынеслі Богазмагальніку, кажучы:

– «Вось што мы знайшлі».

– «Гэта адзенне майго сына – сказаў ён. – Яго з'еў драпежны звер. Так! правільна. Разадраны Ёсіф!»

«Ён паклаў рагожу на свае сцёгны і аплакваў сына шмат дзён» (Быц. гл. 37).

Скажы зноў сам чытач: хіба не нагадвае гэтае апавяданне пра продаж Ёсіфа легенду пра продаж евангельскага «боскага лекара» (па-біблейску Езуса), і пра яго пахаванне ў «Магільні Ёсіфа?» Заўваж сабе: «у магільні Ёсіфа». Колькі тут падобных імёнаў, пры чым у Евангеллі яшчэ паведамляецца, што яна належала Ёсіфу із Арымафеі (г. азн. у перакладзе: кратар Грамабоя, Леў труны госпада).

У Евангеллі «боскі лекар» сам выбраўся із труны. Прыйшоўшы туды апостал Пятро не знайшоў яго там, а тут, замест старэйшага із 12 апосталаў, прыходзіць да кратара Вязувія старэйшы із 12 сыноў Богазмагальніка – Раувін – і таксама не знаходзіць у ёй Ёсіфа...

---

[371] שכם (ШКМ) – Шыкем, згодна з тлумачэннямі гебраістам Флавія Неапаль, а па-нашаму проста Неапаль. Карэннае значэнне слова ШКМ ёсць хрыбет.

[372] ביר (ВІР) – яма, правал, магіла.

У Евангеллі знікненне Езуса тлумачыцца яго ажываннем із памёршых, пры чым паведамляецца і пра тое, што прыхільнікі Юды тлумачылі апусьценне яго труны тым, што 11 апосталаў самі выцягнулі яго адтуль:

«Гэтае слова носіцца паміж юдэямі (г. азн. юдаістамі) і да гэтага дня – дадае евангеліст Мацвей (28. 15), а тут у юдэйскай Бібліі паведамляецца, што тое ж самае браты зрабілі з Ёсіфам Прыгожым.

Факт слупавання заменены толькі прапановай яго забіць і пры тым гэта зрабілі самі яго браты, а не сінедрыён (як зваўся толькі грэцкі (а не сірыйскі) заканадаўчы сход).

Гэтым заканчваецца евангельскае апавяданне, а кніга Быцця працягвае яго далей.

«Ёсіф – паведамляе 39 глава гэтай кнігі – быў завезены ісмаэлітамі у Міц-Рым, дзе яго купіў у іх кіраўнік целаахоўнікаў тамтэйшага «Валадара».

Гэтага «валадара» ў Бібліі ўсюды пішуць ФРЭЭ[373] ці ПРЭЭ, што больш падобна на італьянскае падрэ – бацька, ці на Фра – брат і на грэцкае Патры-ярх – ці, нарэшце, на найменне ягіпецкага бога Фра, чым на іерагліфічную назву ягіпецкага цара сутэн (султан), ці шэфт (шэф, шэйх). А кіраўнік яго целаахоўнікаў меў найменне Паціфар, накшталт pontifix. Ён пакінуў усё, што меў, на руках Ёсіфа і не ведаў пры ім ніякіх клопатаў, акрамя ежы.



Мал. 160

*Жонка Паціфара – увасабленне стара-рымскай царквы – мае жаданне зацягнуць Ёсіфа – Кратар Грамабоя – да сябе на ложак. із Biblia Sacra 1558 год.*

«Але Ёсіф быў прыгожы тварам, і на яго звярнула сваю ўвагу жонка яго гаспадара і сказала яму:

– «Ляж са мной!»

«А ён адказаў ёй:

– «Спадар мой аддаў мне ў рукі ўсё, што мае, акрамя цябе, яго жонкі. Як жа зраблю я яму такое вялікае зло?»

«Але яна штодня казала яму такія словы, і калі аднойчы ён прыйшоў да яе і ў сядзібе нікога іншага не было, яна схапіла яго за адзенне, каб пакласьці з сабой, а ён, пакінуўшы сваё адзенне ў яе руках, збег» (мал. 158).

«Раззлаваўшыся, яна паклікала сваіх сямейнікаў і сказала ім:

– «Пагледзіце! Ваш гаспадар прывёў да нас гэтага жыда (тут, упершыню ў Бібліі з’яўляецца слова жыд (ЕБРІ), якое азначае эмігрант, перасяленец), і ён

---

373 פרעה (ФРЭЭ) – доўгавалосы.

пажадаў легчы са мной. Але я падняла крык, і ён збег, пакінуўшы ў мяне сваё адзенне».

«Яна пераказала гэта і свайму чалавеку. Той угневаўся на Ёсіфа і выправіў яго ў сядзібу вязняў цара (МЛК, заўважце, што тут ужо мелех, а не ПРЭЭ). Але з ім быў Грамабой і кіраўнік вязніцы прызначыў яго ў ёй даглядчыкам і аддаў у яго рукі ўсіх вязняў».

Жонка Паціфара зноў нагадвае тут евангельскую Ірадыяну... толькі замест Хрысьціцеля яна заняволіла ў вязніцу хрэсніка і персаніфікуе тагачасную пануючую царкву.

Але і ў вязніцы Ёсіф не страціў прысутнасць духу.

## II.

## Сны Міц-Рымскага валадара.

«Аднойчы хлебавыдавальнік і падчашы Міц-Рымскага цара (МЛК) правініліся перад ім, і Валадар выправіў іх пад варту. Раніцай да іх прыйшоў Ёсіф і знайшоў іх у збянтэжаным стане».

– «Чаму ў вас такія сумныя твары? – запытаў ён.

– «Нам сніліся сны – паведамілі яны – а патлумачыць іх няма каму».

– «Хіба сны не ад бога? – адказаў ён. – паведамце іх мне».

– «Мне снілася – сказаў кіраўнік падчашых – што перада мной вінаградная лаза, і на ёй тры галіны. Яна вырасла, на ёй з'явіліся кветкі і паспелі гронкі. Я набраў ягад, выціснуў іхных сок у чарку Валадара і падаў яе ў яго руку».

– «Тры галіны – адказаў Ёсіф – гэта тры дні». Валадар верне цябе пасьля іх заканчэння на тваё месца, і ты зноў будзеш у яго падчашым. Згадай пра мяне, калі будзе табе добра, і выведзі мяне із гэтай сядзібы. Я нічога такога не зрабіў, за што мяне была б патрэбна кідаць у яму».

– «А мне снілася – паведаміў яму начальнік пекараў – што ў мяне на галаве тры плеценыя кошыкі, і ў верхнім з іх living рознае печыва для Валадара, і птушкі дзяўбалі яго на маёй галаве».

– «Праз тры дні – адказаў Ёсіф – Валадар загадае адрубаць галаву, павесіць тваё цела на дрэва, і птушкі будуць дзяўбаць яго».

«Трэцці дзень прыпадаў на дзень народзінаў Валадара, і ён вярнуў кіраўніка падчашых на ранейшае месца, а начальніка пекараў павесіў. Але не згадаў тады кіраўнік падчашых пра Ёсіфа, забыўся пра яго».

«І вось, праз два гады, снілася ўжо самаму «Валадару» ў Міц-Рыме, што ён стаіць каля ракі, із якой выйшлі сем гладкіх кароў і пасвіліся ў трыснягу. А пасьля іх выйшлі із ракі сем худых кароў, сталі побач з тлустымі і з'елі іх.

«Валадар» прачнуўся, зноў заснуў і пабачыў новы сон. На адным сцябле паднялося сем каласоў вялікіх і добрых, а побач з імі – сем худых і абпаленых усходнім ветрам. Яны пажэрлі сем вялікіх і поўных».

Раніцай «Валадар» канчаткова прачнуўся ў збянтэжаным стане. Ён запрасіў усіх міц-рымскіх пісьменнікаў і ўсіх яго чараўнікоў і паведаміў свой сон, але не было нікога, хто мог бы патлумачыць яго».

«Тады кіраўнік падчашых згадаў пра Ёсіфа, і Валадар выправіў за ім у «яму». Яго вывелі адтуль, ён паспешна агаліўся (гэта азначае ужо існавалі і брытвы), перамяніў адзенне і прыйшоў».

– «Я чуў, што ты ўмееш тлумачыць сны, – сказаў яму «Валадар».

– «Гэта не ад мяне, але багі дадуць адказ табе праз мяне на выгоду».

«Валадар» паведаміў яму свой сон і дадаў, кажучы пра худых кароў:

«Я не бачыў ва ўсёй міц-рымскай зямлі такіх худых і вартых жалю на выгляд, як яны, і не было прыкметна, каб гладкія ўвайшлі ў іхнае чэрава. Яны засталіся пасьля гэтага такімі ж худымі, як і былі».

– «Абодва твае снабачанні адназначныя – адказаў Ёсіф – гэта той жа самы сон. Вось наступаюць сем гадоў вялікага багацця ва ўсёй Міц-Рымскай зямлі, а пасьля іх прыйдуць сем гадоў голаду і будзе знішчана багацце, таму што голад будзе вельмі цяжкі і знясіліць краіну. А тое, што сон паўтарыўся двойчы, азначае, што гэта канчаткова вырашана і будзе выканана богам».

– «Ці знойдзем мы іншага чалавека, у якім існуе такі боскі дух (РУХ)? – сказаў Валадар. – Няма такога ж разумнага і мудрага, як ты. Я прызначаю цябе кіраўніком над усёй Міц-Рымскай зямлёй і толькі пасадам я буду вышэй за цябе».

«Ён зняў пярсцёнак са сваёй рукі і надзел на руку Ёсіфа, апрануў яго ў празрыстае адзенне, надзеў залаты ланцуг на яго шыю, загадаў везьці яго на другой са сваіх калясніц і выкрыкваць перад ім:

– «Схіліцеся!»

«Ён даў яму імя: Лавец Фенікса (сузор'я, служыўшага ў Ягіпце для вызначэння прэцэсіі, як пабачым далей) і даў яму ў жонкі «Пашкоджаную» (царкву), дачку Прыхільніка Сонца, сьвятара пыхкаючага бога (Вязувія).

«У гэты час Ёсіфу было 30 гадоў. Ён прайшоў па ўсёй Міц-Рымскай зямлі, сабраў кожны хлеб першых сямі гадоў і назапасіў яго як марскога пяску, так што пераcталі нават лічыць, таму што не даставала лічбаў. Ён склаў у кожным горадзе хлеб атачаючых яго палёў.

«Потым наступілі сем гадоў голаду ва ўсіх землях. Ёсіф адчыніў жытніцы і пачаў прадаваць хлеб не адным міц-рімцам. З усіх краін прыходзілі купляць хлеб у яго» (Быц. гл. 41).

Перш, чым ісьці далей, спынімся крыху на патлумачаных Ёсіфам снабаннях. Без сумневу, што гэта былі не сапраўдныя два снабачанні, бачаныя ў ложку міц-рымскім Доўгавалосым валадаром, а нешта іншае, дапасаванае да наступіўшых некалькіх неўраджайных гадоў пасьля некалькіх ураджайных, як гэта і магло быць у сувязі і з 11-гадовым цыклам сонечных плямаў.

Ужо пры адным згадванні сямі каласоў на адным сьцябле, прыходзіць у галаву зорка першай велічыні Колас у сузор'і Панны і шэсць зорак другой велічыні ў гэтым жа сузор'і (β, γ, δ, ε, ζ, η), складаючыя ў суме роўна сем, так як наступныя зоркі гэтага сузор’я, ужо трэццяй велічыні і нашмат меншыя, а таму і не мелі адмысловых пазначэнняў у старажытнасьці.

Апавяданне пра тое, што гэтыя сем каласоў аднаго сцябла (сузор'я) пажэрлі сем гладкіх каласоў, і што не было бачна, як гладкія ўвайшлі ў іхнае чэрава, а толькі, што ад гэтай падзеі худыя каласы не зрабіліся больш тлустымі, паказвае на тое, што тут сышліся ўсе сем старажытных планет. Усе яны зніклі з вачэй, з нагоды таго, што сонечнае ззянне засланіла ўсю выяву, а калі Сонца адышло ад Коласа Панны, усе сем галоўных яе зорак выйшлі із праменяў ранішняга світанку (як гэта бывае ў кастрычніку) не ярчэй, чым былі раней. Дадаванне сюды сямі кароў, такіх худых і вартых жалю на выгляд, якіх не бачана на зямлі, з гэтага боку гледжання можа мець дачыненне толькі да статка дробных зорачак у сучасным сузор’і Валос Веранікі, проста над галавой Панны, каля Валапаса, якія ў старажытнасьці, відаць, лічыліся то статкам яго кароў, то пчаліным вуллём, то снапом каласоў Панны, мяркуючы па таму, як хто жадаў.

Зацікавіўшыся гэтым я прасачыў рухі планет ад -300 года да пачатку нашай эры і да дзясятага стагоддзя пасьля яе і знайшоў сыходжанні Юпітэра і Сатурна ў сузор'і Панны толькі ў 95, 154, 214, 273, 332, 392 і ў 451 гадах і потым не было супадзенняў да 1008 года (табл. XIX). Для верасня, калі Сонца засланяе Панну, Марс апынуўся тут жа толькі ў 332 годзе.

Вераснёвы маладзік 332 года быў на сёмы дзень, пры чым Меркурый быў каля 175° сучаснай даўгаты, у галаве Панны, а Венера каля 163° на прыканцы Ільва паблізу галавы Панны і «Снапа» Веранікі.

ТАБЛІЦА XIX

Першая серыя сыходжанняў.

| Сатурн у сярэдзіне Панны пад 193° даўг. | Юпітер у сярэдзіне Панны пад 193° даўг. | Зразумелыя рэшткі ад поўнай лічбы абарачэнняў Марса, лічачы згодна з яго шляхам 1848 г. у Панне. | | |
|---|---|---|---|---|
| 96,48 | 95,51 | для | 95 г.= 0,51 | 96,48 Марс у Панне, але Юпітар ужо ўсярэдзіне Шаляў в 96,62 г. |
| 155,40 | 154,82 | » | 154 г.= 0,14 | |
| 214,31 | 214,13 | » | 214 г.= 0,77 | |
| 273,23 | 273,44 | » | 273 г.= 0,40 | |
| 332,14 | 332,75 | » | 332 г.= 0,026 | як у 1848 годзе. Быў у Панне |
| 391,05 | 392,06 | » | 391 г.= 0,66 | |
| 449,96 | 451,37 | » | 450 г.= 0,29 | |

З гэтага боку гледжання Ёсіф Прыгожы налягае храналагічна ўжо не толькі на евангельскага Езуса, але і на яго бацьку, Ёсіфа ж згодна з імем.

Езусу, г. азн. Васілю Вялікаму ў гэты час, згодна з Евангеллямі, было б не больш 3-4 гадоў, і ён тады, грунтуючыся на тым жа паданні, якраз быў выведзены Ёсіфам у «Ягіпет», дзе здзіўляў усіх сваёй ранняй мудрасьцю. Згодна з Бібліяй жа яго двайнік Езус-Рыбак (Навін) памёр 110 гадоў і сам з'яўляецца сучаснікам Дыяклетыяна і Кастуся I. Згодна з Евангеллямі у Ёсіфа былі сыны Езус, Якаў, Юда і іншыя, а ў кнізе Быцця паведамляецца (41. 50-52):

«Да наступлення гадоў голаду, Пашкоджаная (царква), дачка Прыхільніка Сонца, сьвятара Пыхкаючага Бога (Вязувія), нарадзіла Ёсіфу двух сыноў: Манатэ, (што азначае Доля Авена[374]) і Аф-Рыма, (г. азн. Вышыню Рыма,) а ў яго адзінага брата па Рахілі, яго маці, Бэн-Іміна, нарадзілася ў Міц-Рыме 10 сыноў.

Мы бачым, такім чынам, што ў кожнай жонкі Якава было роўна 12 унукаў, із якіх дзесяць ад малодшага сына Веніяміна і два ад старэйшага – Ёсіфа.

Зноў мы сустракаем кабалістычную лічбу 12. Што б гэта тут азначала?

Імя старэйшага сына Ёсіфа – Манашэ – сугучна з імем выдатнага рэлігійнага рэфарматара Менэса, які нарадзіўся быццам бы, у невядомым зараз горадзе Крэзіфоне, які знаходзіўся, як кажуць, на заходнім беразе Тыгра і адзінай рэштай ад якога зараз паказваюць парэшткі замка Так-і-Керста паблізу турэцкага Эль-Мадайна. Але мы ніколечкі не здзівімся, калі замест Тыгра тут выявіцца Тыбр. Час яго сьмерці адносіцца да 276 года пасьля Н. Х., які я лічу каля 325 года нашай эры. Менэс выступіў, кажуць нам, у якасьці абяцанага Евангеллем рэфарматара, але быў пакараны сьмерцю, быццам бы, Бахрамам I.

Заснаванае ім рэлігійна-філасофскае вучэнне – маніхэйства – лічыла існуючымі ва ўсёй прыродзе два пачаткі – добры ў вобласьці сьвятла, і злы – у вобласьці змроку. Пры змаганні гэтых двух пачаткаў, некаторыя часьцінкі сьвятла былі перанесены са сьвятла неба ў змрок зямлі. Для іхнага выратавання бог-бацька выправіў на зямлю дух Сонца – Хрыста – з уяўным выглядам чалавека, вучэнне якога і завяршыў Менэс. Маніхеі складалі замкнёны хаўрус прысвечаных, якія вялі аскетычны вобраз жыцця і жылі на рахунак павучаемых імі, даваўшых ім пражытак.

[374] Ад מנ (МН) – лёс, доля і שה (ШЕ або СЕ) – Авен. У сучасных транскрыпцыях замест שה стаіць שט але гэта дзякуючы непаразуменню.

Не паглыбляючыся ў крытыку звычайнага датавання часу жыцця Менеса і яго месца я пазначу толькі, што маніхэйства пачало пашырацца ў Італіі, Ягіпце і Пярэдняй Азіі якраз пачынаючы з IV стагоддзя, для якога мы і вылічылі нараджэнне сына Манашэ ў Ёсіфа. Іх пачалі вынішчаць, кажуць нам, рымска-каталіцкія біскупы і пярсідзкія чараўнікі ужо пачынаючы з V стагоддзя, але сляды гэтай навукі заўважаюцца і пад час сярэдніх стагоддзяў.

З гэтага боку гледжання другі сын Ёсіфа Аф-Рым (г. азн. Рог Рыма) можа уяўляцца толькі ўвасабленнем рымска-каталіцкай царквы.

Цікава, што ў перадсьмяротным дабраславенні Богазмагальніка згадваецца толькі адзін Ёсіф, бацька Манашэ і Аф-Рыма, якога ён называе тым жа імем, як у прароцтвах завецца Месія.

«Імя яму (Месіі) «Адгалінаванне» – сведчыць прадказанне Заха-рыя (6.12). «Аднаўлю Давыду справядлівае Адгалінаванне» – выказваецца пра яго ж прароцтва Ерамія (23.5)... «Узнікне Адгалінаванне ад кораня Ясэя» – выказваецца прадказанне Ісая ( II, 11)... «Я вазьму Адгалінаванне з вяршыні высокага кедра і пасажу яго... на гары высокай і ўзнятай» – выказваецца Грамабой пра Месію ў прадказанні Іезекііл (17. 22). – «І пусціць яно галіны і прынясе плады».

А ў дабраславенні Якава паведамляецца тое ж (Быц. 49.22): «Ёсіф Адгалінаванне ўрадлівае над крыніцай і галіны яго распасьціраюцца над сьцяною». Адсюль – заканчвае Богазмагальнік (а не із калена Юды, як у евангельскіх радаводах) – паўстане Правадыр (РЭЕ, італьянскае re – цар) цвярдыня Богазмагальніка.

А потым, нягледзячы на такое шырокапавядомленае прадказанне Богазмагальніка, Ёсіф, імя якога азначае Чарка (ці кратар) Грамабоя, раптам знікае (разам з Лявітам) із асяроддзя 12 каленаў богазмагальніцкага народа, замяняючыся сваімі сынамі Аф-Рымам і Манашай, якія, такім чынам, і трапляюць у лік 12 знакаў Задыяка замест яго і Лявіта.

Як магла б адбыцца падобная замена? Чаму, пасьля таго, як Богазмагальнік так рашуча абяцаў пастыра, г. азн. месію, ад Ёсіфа, радавод Хрыста ў евангеллях выводзіцца не ад яго, а ад Юды, які прадаў яго за 20 сярэбранікаў, а потым прыдбанага не вельмі маральным спосабам – за казляня – ад удавы свайго сына-ананіста, родапачынальніка Хрыста-Парыса?

Чаму таксама аднача сна са знікненнем Ёсіфа знікае і яго набожны брат Лявіт, замяняючыся другім сынам Ёсіфа Доляй Авена (Манашыяй)?

Лявіты лічацца зараз, згодна з гістарычнай традыцыі, ніжэйшым станам старажытнага богазмагальніцкага сьвятарства. Іх біблейскае напісанне ЛУІ лічыцца – як я ўжо пазначаў – азначаючым каранаваны, а грунтуючыся на гукавым складанні падобна з французскім імем Луі, адкуль louer – усхваляць. Але мне ўяўляецца, што імя Лявіт хутчэй за ўсё паходзіць ад лацінскага Лео, г. азн. Леў, якое насілі, акрамя рымскіх папаў, і некалькі візантыйскіх імператараў, із якіх Леў I Вялікі цараваў паміж 457 і 474 гадамі, а Леў III Ісаўранін (717-741) быў знакаміты сваім іконазмагальніцтвам. З гэтага боку гледжання левітамі магло быць іканазмагальніцкае святарства, якое з 726 года пачало разбіваць статуі багоў і абразы сьвятых ва ўсходняй імперыі, што мела наступствам вялікія пабоішчы паміж дзвюма партыямі хрысьціянаў, і папа Рыгор II, які не дапусціў іканазмагальніцтва ў Італіі, аддаў іх анафеме.

Наступнік Ільва Іканазмагальніка Кастусь V (741-775 гг.), яшчэ больш зацята выступіў супраць іконашанавання і, склікаўшы ў 754 годзе сабор, аддаў

іконашанавальнікаў анафеме. Толькі потым, у 787 годзе, імператрыца Ірына аднавіла новым саборам іконашанаванне і аддала анафеме іконазмагальнікаў.

Потым у 815 годзе новы сабор пры Ільву V зноў аднавіў іканазмагальніцтва і, нарэшце, у 842 годзе пры імператару Тэафілу чацьвёрты сабор зноў учыніў адлучэнне іконазмагальнікаў і аднавіў іконашанаванне, у тым выглядзе, як яно існуе сярод грэкаў і да цяперашняга часу, захаваўшы ад іканазмагальніцтва толькі забарону статуй.

Усё гэта мы і бачым у дабраславенні Якава Сымону і Левію, якое з такога боку гледжання магло быць прыдумана і далучана да кнігі Быцця толькі на прыканцы VIII ці на пачатку IX стагоддзя нашай эры.

Зараз мы маем магчымасць яшчэ раз астральна атаясаміць і сястру Ёсіфа – Дыну, згвалтаваную чужаком, якому адпомсьцілі яе браты Сымон і Левій. Яе імя ДЫНА азначае Цяжба і пазначае на небе месца, пра якое ў IV стагоддзі ішлі спрэчкі з нагоды становішча веснавога раўнадзенства, г. азн. пачатку кліматычнага года.

Мы можам лёгка сімвалізаваць тут Дыну-Цяжбу сузор'ем Андрамеды, нага якой спачатку апускалася на экліптыку, як і нага Змеятрымальніка-Ёсіфа. Тады Суседа (ШКМ), сына Эміора, звёўшага яе, магчыма атаясаміць з пачварай, якой Пярсей адсёк галаву, на трэцці дзень пасьля звычая абразання, г. азн. частковага зацьмення Сонца пад Андрамедай, а збіццё Сымонам і Левіем толькі што абрэзаных суайчыннікаў Суседа можа быць патлумачана як я ўжо казаў, полымямётам гемінід ці пярсеідаў.

Гэта зноў прыводзіць нас да таго ж зацьмення 15 сакавіка 359 года, якое апісана ў легендзе пра Самсона і Далілу, адмыслова разгледжанае намі ў першай кнізе гэтага даследавання. Толькі там Даліла абстрыгла Сонца ад яго прамянёў і гэтым пазбавіла яго магутнасьці, а тут яе згвалтаваў чужак, якога браты Дыны вымусілі абрэзацца, каб зручней забіць з усімі яго супляменікамі. І калі апосталы, г. азн. пасланнікі евангельскага Езуса ператварыліся ў кнізе Быццё ў братоў яго намесьніка Ёсіфа Прыгожага, то і іхная сястра Дына павінна атаясамляць сабой евангельскую Марыю Магдаліну.

Такой з’яўляецца астральная частка легенды.

Вернемся зараз зноў да яе «гістарычнай» часткі.

## III.

## Богазмагальнікі едуць для ўшанавання Ёсіфа (Езуса) ў Рым.

У 42 главе Быцця паведамляецца, што калі наступілі прадказаныя Ёсіфам сем гадоў голаду, г. азн. анахранічна каля 329 г. нашай эры (згодна з вышэйпрыведзеным вылічэннем), тады Богазмагальнік сказаў сваім сынам:

– «Чаго вы глядзіце? Я чуў, што хлеб ёсць у Міц-Рыме. Пайдзіце туды і купіце колькі патрэбна, каб нам не памерці, а жыць».

І вось туды выправіліся дзесяць братоў, акрамя Бэн-Іміна, (Веніяміна), якога не пусьціў Богазмагальнік, каб не здарылася з ім бяды. Яны прыехалі і пакланіліся да зямлі Ёсіфу, якога не пазналі. Ёсіф жа іх пазнаў і згадаў свае ранейшыя снабачанні.

– «Вы выведнікі – сказаў ён. – Вы прыйшлі, каб выведаць неабароненыя месцы нашай зямлі».

– «Не, спадар! – адказалі яны. – Мы, твае рабы, прыйшлі толькі купіць хлеба. Мы людзі сумленныя і ніколі не былі выведнікамі. Мы ўсе сыны аднаго чалавека. Нас было 12 чалавек, малодшы застаўся зараз з бацькам, і аднаго не стала».

«Але ўсё ж Ёсіф змясьціў іх пад варту, і толькі на трэцці дзень прыйшоў і паведаміў ім:

– «Калі вы людзі сумленныя, то пайдзіце і аднясіце да сядзібы трохі хлеба, каб не пакутавала ад голаду ваша сямейства, а потым прывязіце да мяне вашага малодшага брата, каб падцвердзіліся вашы словы. І адзін із вас хай застанецца да таго часу ў месцы, у якім вы зараз заняволены».

– «Ці не казаў я вам – сказаў братам Раувін – не грашыце супраць юнака Ёсіфа, але вы не паслухаліся. Вось зараз і спаганяецца з нас яго кроў».

– «Правільна – адказалі браты – мы вінаваты перад нашым братам. Мы бачылі пакуту яго душы, калі ён маліў нас пашкадаваць яго, але не паслухалі. За гэта і спасьцігла нас зараз гора».

«Яны не ведалі, што Ёсіф разумее іхную мову, а ён адышоў у заплакаў.

«Ён узяў із іх Сымона (евангельскага Сымона Пятра), звязаў яго перад іхнымі вачамі, загадаў напоўніць хлебам іхныя мяхі і пакласьці туды ж кожнаму яго срэбра, і даў яшчэ прыпасаў на дарогу.

«Яны паклалі мяхі на аслоў, прыйшлі із Міц-Рыма да Богазмагальніка ў краіну КНЭН (Генуя) і паведамілі яму ўсё, што здарылася з імі. Калі яны спаражнялі свае мяхі, яны знайшлі ў кожным свой вузел срэбра і спалохаліся, як і іхны бацька.

– «Вы зрабілі мяне бяздзетным – сказаў ён. – Няма Ёсіфа, няма і Сымона, ды і Бен-Іміна таксама жадаеце забраць. Колькі гора на аднаго мяне! Не пойдзе з вамі мой сын! Калі здарыцца з ім няшчасьце на шляху, то звядзеце вы са смуткам маю сівізну ў магілу» (гл. 12).

«Але голад працягваў лютаваць над зямлёй, і калі яны з'елі ўвесь хлеб, Богазмагальнік зноў ім сказаў:

– «Ідзіце зноў і купіце трохі хлеба».

– «Той чалавек – адказаў яму Юда – рашуча абвясьціў нам: не паказвайцеся на мой твар, калі не будзе з вамі вашага брата. Калі ты не выправіш яго з намі, то мы не пойдзем. Пусьці хлопчыка са мной, каб мы і нашы дзеці жылі, а не памёрлі. Я адказваю за яго. З маіх рук запатрабуеш ты яго. Калі б мы не прамарудзілі праз яго, то з'ездзілі б ужо два разы».

– «Калі так, то вось што зрабіце – адказаў Богазмагальнік, іхны бацька. – вазьміце пладоў нашай зямлі ў вашы пасудзіны, трохі бальзаму, мёду, стыраксу, ладану, фісташкаў, міндальных арэхаў і ўдвая больш срэбра. А срэбра, якое было пакладзена ў вашы мяхі, вярніце назад: магчыма гэта недагляд. А калі ўжо быць мне бяздзетным, то хай буду бяздзетным».

«Яны падняліся, пайшлі ў Міц-Рым і сталі перад тварам Ёсіфа».

«Ёсіф жа, пабачыўшы паміж імі Бэн-Іміна загадаў наглядчыку за сваёй сядзібай:

– «Завядзі гэтых людзей у сядзібу, закалі што-небудь із быдла і прыгатуй. Гэтыя людзі будуць абедаць са мной».

«Браты напалохаліся выгляду прывёўшых іх у сядзібу Ёсіфа і сказалі кіраўніку пра срэбра ў сваіх мяхах, але ён ім адказаў:

– «Будзьце спакойныя. Ваша срэбра ў мена. Гэта ваш бог даў вам скарб у вашы мяхі».

«Ён вывеў да іх Сымона із вязніцы (згадайце заняволенне апостала Пятра, адкуль яго вывеў анёл), даў ім воды, каб абмылі ногі, і даў корму іхным аслам.

«Яны прыгатавалі свае падарункі да прыходу Ёсіфа апоўдні, паднеслі іх яму і зноў пакланіліся да зямлі.

– «Ці здаровыя вы? – запытаў іх Ёсіф. – Ці здаровы ваш бацька, старац, пра якога вы казалі? Ці жыўшы ён яшчэ?»

– «Здаровы, твой служка, наш бацька. Яшчэ жывы». «Ёсіф падняў свае вочы і пабачыў Бэн-Іміна, сына сваёй маці».

– «Ды будзе літасць багоў з табой, сын мой – прамовіў ён, і паспешна выдаліўся, таму што адчуў ён прыхільнасць да свайго брата, і ён быў гатовы заплакаць. Ён зайшоў ва ўнутраны пакой і плакаў там.

«Памыўшы твар, ён выйшаў і, умацаваўшыся, сказаў:

– «Падайце хлеба».

«Яму падалі асобна, а ім асобна, таму што міц-рымцы не могуць ужываць ежу з жыдамі (ЭВРІ). Гэта брыдота для міц-рымлянаў (тут зноў ужываецца слова еврі – азначаючае перасяленец і таму могучае ўзнікнуць толькі пасьля хрысьціянскіх праследаў месіянцаў-равіністаў).

«Яны селі перад ім. Старэйшы Раувін па яго першарадству, а малодшы (Бэн-Імін) па яго маладосьці. Ім пасылаліся стравы ад Ёсіфа, і доля Бен-Іміна была ў пяць разоў (!) большай. І наеліся, і напіліся яны з ім» (Быц. гл. 43).

– «Напоўні мяхі гэтых людзей хлебам – загадаў Ёсіф наглядчыку за сваёй сядзібай – і пакладзі срэбра кожнага ў яго мех, а маю сярэбраную чарку пакладзі малодшаму».

«Тот зрабіў згодна з загадам Ёсіфа. Настала раніца і браты былі адпушчаны разам з іхнымі асламі.

«Яшчэ не далёка адышлі яны, як Ёсіф загадаў наглядчыку за сваёй сядзібай:

– «Ідзі, ганіся за гэтымі людзьмі і, калі дагоніш, скажы ім: для чаго вы заплацілі злом за дабро? Із чаркі ж, якую вы скралі, п'е мой гаспадар. Ён і гадае на ёй. Кепска вы зрабілі».

«Наглядчык сядзібы дагнаў братоў і сказаў ім гэтыя словы.

– «Для чаго гаспадар наш выказвае такія словы? – адказалі браты. – Беражы нас бог зрабіць такую справу! Вось і тое срэбра, якое мы знайшлі ў нашых мяхах, мы прынеслі табе назад. Як жа нам скрадаць срэбра і золата з сядзібы твайго гаспадара? У каго знойдзецца чарка, таму смерць, а мы будзем за гэта рабамі твайму гаспадару».

– «У каго знойдзецца чарка – адказаў пасланы – той і будзе нам рабом, а вы не будзеце вінаватыя».

«Яны паспешна спусьцілі і адкрылі свае мяхі, і чарка знайшлася ў мяшку Бэн-Іміна.

«Яны разарвалі сваё адзенне і, паклаўшы мяхі на сваіх аслоў, вярнуліся ў горад.

– «Што гэта вы зрабілі? – сказаў ім Ёсіф. – Хіба вы не ведалі, што такі навучаны чалавек, як я, зараз жа празнае?»

– «Што нам сказаць нашаму гаспадару? – адказаў Юда. – Чым апраўдацца? Бог ведае грэх тваіх служак. Вось мы зараз рабы табе і мы, і той у чым мяху знайшлася чарка».

– «Захавай мяне бог зрабіць так – адказаў Ёсіф. – Толькі той, у каго знайшлася чарка, будзе маім рабом, а вы вяртайцеся з мірам да вашага бацькі».

– «Спадар мой! – сказаў Юда. – Дазволь твайму рабу сказаць слова ў твае вушы і не ўгневайся, таму што ты тое ж што Валадар. Наш бацька сказаў: «вы ведаеце, што жонка мая нарадзіла мне дваіх, але адзін пайшоў ад мяне, і я да гэтага часу не бачыў яго, дакладна ён разарваны. Калі вы і гэтага возьмеце ад майго твару і здарыцца з ім няшчасьце, то звядзеце вы з засмучэннем маю сівізну ў труну. Калі бацька пабачыць, што няма хлопчыка, ён памрэ. Прытым жа я ўзяўся адказваць за яго, хай жа я застануся рабом замест яго, а ён пойдзе са сваімі братамі, таму што, як жа я пайду да майго бацькі без яго?» (гл. 44).

«Ёсіф не мог больш утрымацца. Ён гучна заплакаў і паведаміў сваім братам:

– «Я Ёсіф, брат ваш, якога вы прадалі ў Міц-Рым. Але не смуткуйце, не шкадуйце пра гэта. Гэта бог накіраваў мяне перад вамі для захавання вашага жыцця, таму што застаецца яшчэ пяць гадоў, на працягу якіх не будуць ні араць, ні жаць. Не вы накіравалі мяне сюды, а бог, які і прызначыў мяне бацькам Валадару і гаспадаром усёй Міц-Рымскай зямлі. Ідзіце хутчэй да майго бацькі і паведамце яму: «прыходзь да мяне неадкладна, ты будзеш жыць у зямлі, паліваемай дажджом[375], каб не згалеў ты з усім сваім родам. Паведамце майму бацьку пра ўсю маю славу ў Міц-Рыме, пра ўсё, што вы бачылі і прывядзіце хутчэй яго сюды».

«Ён кінуўся на шыю Бэн-Іміну, свайму роднаму брату, і плакаў, і цалаваў усіх іншых сваіх братоў і абдымаў іх» (Быц. 45. 1-16).

Спынімся крыху і тут, перш, чым ісьці далей. Мы бачым тут першы зародак будучых сентыментальных апавяданняў у сярэднявечным месіянскім сьвеце, і мы не памылімся, калі ўявім сабе, што сотні мільёнаў нашых продкаў уміляліся да глыбіні сваіх душаў і не маглі ад слёз чытаць далей гэтае месца. Ёсіф дараваў сваім братам і пацалаваў іх, а вінаватыя браты са слязьмі прасілі ў яго прабачэння. Але ці не тое ж мы бачым, калі і ў евангеллях Езус прасіў бога пра вядучых яго на «ўкрыжаванне», кажучы: «прабач ім, бацька! Яны не ведаюць, што робяць».

І ці не так, як тут, ён выказваўся, што перасьледуючыя яго толькі выконваюць загад бога? У евангеллі толькі не згадваецца, што Езус дараваў Юду: насупраць, Юда быў пакараны сваім сумленнем і павесіўся на дрэве, а замест яго апосталам быў абраны Боскі Дар (Мацвей). А тут усёдараванне праведзена нават далей, чым у евангеллях.

Якая ж версія лепшая? Вядома ж, версія кнігі Быццё лепшая як з літаратурнага, так і з лагічнага боку гледжання, калі Юда, як сцвярджае аўтар, выконваў толькі наканаванне бога. Яна ж, мне здаецца, больш дакладная і з гістарычнага боку гледжання, калі за першакрыніцу легенды пра Юду-здрадніка мы возьмем апостала Юду, брата Езуса, якога хрысьціяне лёгка маглі выключыць із ліку яго братоў і абвясьціць здраднікам за тое, што ён паведаміў пра натуральную смерць свайго брата замест усшэсьця яго жывым на неба, калі той сапраўды памёр. Ёсіф быў, як гаворыцца пад канец гэтай легенды (50. 26), пахаваны муміфікаваным у Міц-Рыме 110 гадоў ад нараджэння, як гэта і атрымліваецца, калі мы будзем лічыць яго не асобай, а абагульненым вобразам ўсяго першага перыяду хрысьціянства. Таксама 110 гадоў ад нараджэння памёр і Езус Рыба (Ез. 24. 27). Калі ж, мы, акрамя таго, атаясамім Ёсіфа Прыгожага з багаслоўскім царом Асай (таксама Езусам згодна з іншым вымаўленнем), налягаючым грунтуючыся на маіх вылічэннях храналагічна на «Вялікага Цара» Чэцці-Міней – Васіля Вялікага па-грэцку – то прыйдзем да высновы, што ў легендзе пра «Пашыральніка Пісьмёнаў» патрэбна бачыць пераскок ад Юстыніяна шляхам храналагічнага зруху назад на 284 гадоў[376] да Дыяклетыяна; пад імем Якава-Богазмагальніка патрэбна лічыць, відаць, Арыя, а пад імем Ёсіфа, як мы толькі што паказвалі – самаго евангельскага Хрыста ў пагадненні з паданнем пра яго паходжанне із «царскага роду».

Легенда пра Ёсіфа Прыгожага з гэтага боку гледжання з'яўляецца толькі адным із адгалінаванняў легенды пра Хрыста, якая пусьціла шмат парасткаў у розных накірунках пасьля жахлівых сейсмічных з’яваў і трагічных падзей 368 года. Яго прыгоду з жонкай царадворца, ад якой ён збег, даводзіцца патлумачыць тым,

---

[375] גשם (ГШМ) – акрапленне дажджом, як захавалася ў грэцкай версіі.

[376] Розніца паміж нашай эрай і эрай Дыяклетыяна.

што ён вырваўся із абдымкаў тагачаснай афіцыйнай паганскай рэлігіі Міц-Рыма, быццам бы заняволіўшай яго ў вязніцу, із якой яго вызваліў толькі сямігадовы голад, прыпадаючы, згодна з маімі падлікамі, на прамежак паміж 333 і 346 гадамі нашай эры.

Вядома, у рэчаіснасьці ніхто не мог прадказаць наступленне голаду пасьля сыходжання планет каля Коласа Панны ў 332 годзе, але ў 346 годзе, калі голад скончыўся, кожны астролаг мог паказаць на гэтую нябесную з'яву, як на папярэджванне. А 346 год быў за 22 гады да слупавання евангельскага Хрыста ў 368 годзе. Васілю Вялікаму, з якога ён спісаны, магло быць гадоў дваццаць, калі ён, як тут паведамляецца, адружыўся з «Пашкоджанай царквой» (Анэтай), дачкой вярхоўнага жраца і атрымаў імя лаўца сузор'я Фенікса, а згодна з перакладам тэолагаў нават непасрэдна Выратавальнік, як і евангельскі Хрыстос.

Праўда, што ўсё гэта трохі не супадае з евангельскім сцвярджэннем, што ў момант укрыжавання Езуса яму не было і сарока гадоў, але гэты невялікі анахранізм не мае сур'ёзнага значэння: хіба ў Евангеллі не паведамляецца пра тое, што Езус яшчэ дзіцяткам тлумачыў навуковыя кнігі і ўражваў старцаў сваёй мудрасьцю? Так і тут, сапраўдны факт астралагічнага тлумачэння сыходжання ўсіх сямі планет у 332 годзе каля Коласа Панны, Якавам сынам Ліцынія, калі яго сын Ёсіф-Езус ледзь дасягнуў паўналецця ў Міц-Рыме, мог быць потым прыпісаны самому Езусу.

Яго ж узвышэнне магло адбыцца толькі дзякуючы яго арыстакратычнаму паходжанню і важным астранамічным даследаванням адносна велічыні штогадовага ўзняцця сузор'я Фенікс над паўднёвым гарызонтам, як з'явы, дзякуючы якой лягчэй за ўсё было вызначыць тады 26-тысячагадовае прэцэсійнае абарачэнне зямной восі вакол таямнічага полюса экліптыкі, абвітага сузор'ем Цмока. Пра гэта ў мяне будзе яшчэ адмысловая частка, а тут я толькі пакажу, што такое тлумачэнне проста навязваецца мянушкай Ёсіфа – Лавец Фенікса[377].

Пасьля гэтых неабходных тлумачэнняў я зноў вяртаюся да біблейскага тэкста, распавядаючага пра прыход бацькі Ёсіфа і яго братоў у Міц-Рым быццам бы яшчэ на пачатку голада.

«Да міц-рымскага Валадара дайшоў слых, што прыйшлі браты Ёсіфа. Гэта было прыемна яму і яго служкам, і ён сказаў Ёсіфу і яго братам:

– «Вось што зрабіце: вазьміце калясніцы, прывязіце вашага-бацьку і вашых дзяцей і не шкадуйце пакінуць там вашу маёмасць, таму што я дарую вам лепшае ў Міц-Рымскай зямлі».

«Ёсіф даў кожнаму брату па перамене адзення, а Бэн-Іміну пяць перамен і трыста срэбранікаў. Ён выправіў у якасьці падарунка свайму бацьку дзесяць аслоў, нагружаных міц-рымскім дабром і дзесяць аслоў, нагружаных хлебам і іншымі прыпасамі для падарожжа, і адпусьціў сваіх братоў, сказаўшы ім:

– «Не пасварыцеся ў дарозе».

Яны прыйшлі ў нізінную зямлю (Ламбардыю?) да свайго бацькі і паведамілі яму ўсё. Але яго сэрца збянтэжылася. Ён не паверыў ім, і яго дух ажыў толькі тады, калі ён пабачыў калясніцы, дасланыя Ёсіфам, каб везьці яго. Ён выправіўся з імі і прыйшоў да Скарбніцы Сямі (планет), дзе прынёс ахвяры

[377] פענח צפנת (ЦФНТ ФЭНХ) – па-копцкі: Ратавальнік сьвету, г. азн. непасрэдна евангельскі Ратавальнік. Аднак, нягледзячы на ўсе перавагі такога перакладу для маёй тэорыі адзінства Язэпа і Езуса, я вывожу гэтае прозвішча ад צפן (ЦФН) – аплятаць, захопліваць ў сетку (каардынатаў неба) і פענח (ФЭНХ) – Фенікс, пра што будзе асобная глава.

Алаху (АЛЛЕХІ), богу свайго бацькі Пашыральніка Пісьмёнаў, і гэты бог паведаміў яму ў начным бачанні:

– «Якаў! Якаў!»

– «Тут я! – адказаў Богазмагальнік.

– «Я бог-Алах[378] твайго бацькі. Не бойся. Ідзі ў Міц-Рым. Я выраблю там ад цябе Вялікі Народ і выведу цябе назад».

Ёсіф выехаў насустрач бацьку на калясніцы і, пабачыўшы яго, кінуўся яму на шыю і доўга плакаў на ёй.

– «Зараз памру спакойна – сказаў яму бацька – таму што пабачыў твой твар, і ты жывы».

– «Я апавяшчу пра вас «Валадара». – сказаў Ёсіф. – Калі ён запытае, які ваш занятак, скажыце: мы гавяднікі ад нашай юнацкасьці і да гэтага часу, і просім пасяліць нас у зямлі Гешэн, таму што пастухі авечак агідныя для Міц-Рымлянаў» (верагодна нагадваючы пра культ Авена, калі пачатак года яшчэ лічылі з Цяляці, ці ўжо пачалі, як наступныя хрысьціяне, з Рыбаў, выбраўшы іх сваім сімвалам у памяць Езуса-Рыбнага (Навіна).

«Ёсіф паведаміў «Валадару» Міц-Рыма пра прыезд сваіх родных і прывёў да яго пяцярых са сваіх братоў. Яны адказалі Валадару, як ён загадаў.

– «Хай жывуць гэтыя людзі блізка – сказаў Валадар Ёсіфу – і калі ты даведаешся, што сярод іх ёсць здольныя, прызнач іх назіральнікамі над маім быдлам».

«Ёсіф прывёў да яго Богазмагальніка свайго бацьку.

– «Колькі гадоў твайго жыцця? – запытаў яго «Валадар».

– «Дзён маёй вандроўкі 130 гадоў – адказаў Богазмагальнік. – Малыя і няшчасныя дні майго жыцця, і не дасягну я да гадоў вандроўкі маіх бацькаў».

«Ён добраславіў «Валадара» Міц-Рыма, і выйшаў.

«Ёсіф пасяліў свайго бацьку і яго нашчадкаў у лепшай частцы зямлі Грымячага Каня[379].

Іх было 70 чалавек» (Быц. 46. 27) згодна з колькасьцю 70 апосталаў Езуса.

## IV.

## Легенда пра ўсталяванне клерыкальнага камунізму.

«Засуха павялічвалася па ўсёй зямлі. Вобласьці нізінная (КНЭН) і міц-рымская былі цалкам знясілены ад голаду, і забраў у іх Ёсіф усё срэбра і золата за купляемы ў яго хлеб. Ён перадаў яго ў скарб «Валадара» Міц-Рыма. Калі ж хлеба зноў не хапіла, міц-рымцы прыйшлі да яго зноў і сказалі:

– «Дай нам яшчэ хлеба. Для чаго нам паміраць перад табой праз тое, што ў нас няма больш срэбра?»

– «Аддайце ваша быдла! – сказаў ім Ёсіф. – Я дам вам хлеба замест яго».

«Ён даў ім хлеба за іхных коней і за статкі дробнага і буйнога быдла. Але прайшоў і гэты год, і жыхары зноў з'явіліся, да яго.

– «У нас нічога ўжо не засталося, акрамя нашых целаў і нашых земляў – сказалі яны. – Навошта нам гінуць? Купі нас саміх і нашу зямлю за хлеб, і мы будзем рабамі «Валадара». Давай нам толькі кожны год насенне для пасеваў, каб не запусьцела зямля».

«Так купіў Ёсіф усю міц-рымскую зямлю для Валадара, а насельніцтва пераводзіў (для працы) з аднаго канца Міц-Рыма ў другі. Не купіў ён толькі землю святарства, таму што ім належала дзялянка ад «Валадара» – і яно сілкавалася ад яе (царкоўныя маёмасьці).

---

378 אלעה האל (Е-АЛ АЛЕХІ).

379 רעמ-סס (РЭМ-СС = РЭМ-СУС) – грымячы Конь.

– Я выкупіў зараз усю вашу зямлю для «Валадара» – паведаміў Ёсіф народу. – Вось вам насенне, засявайце зямлю і аддавайце пятую частку жніва».

Так перадаецца ў кнізе «Быццё» клерыкальная спроба ўсталяваць зямельны камунізм у старажытныя часы.

Калі Ёсіф тоесны з Езусам, калі яго брат Юда, сын Якава, тоесны з апосталам Юдам Якаўлевічам (ён жа Юда брат Госпада, Юда Іскарыёт і Юда Макавей), і калі брат яго Сымон тоесны з Сымонам Пятром і г. д., то гэтая спроба ажыццяўлення клерыкальнага дзяржаўнага камунізму, якая тлумачыцца тут катастрофай ад недароду хлеба, павінна быць тоеснай з апостальскай хрысьціянскай спробай, якую грунтуючыся на этна-псіхалагічных меркаванням даводзіцца аднесьці ўжо да таго часу, калі Езус, пасьля свайго абсмейвання і зневажэння, із ідэаліста ўсеагульнага братэрства ператварыўся ва ўяўленні сваіх пасьлядоўнікаў у грознага Езуса Навіна, а яго брат Юда ў Юду Молата (па-біблейску Макавея).

Але вернемся зноў да легенды.

«Праз 17 гадоў (пасьля сыходу ў Міц-Рым) прыйшоў час памерці Богазмагальніку – паведамляе кніга Быццё (48, 29). – Ён паклікаў Ёсіфа і сказаў:

– «Пакладзі тваю руку пад мой фалас (які зрабіў цябе) і пакляніся, што ты не пахаваеш мяне ў Міц-Рыме, а адвязеш у магільню маіх бацькаў».

– «Я зраблю так! – адказваў Ёсіф, выканаўшы яго загад, і пакляўся яму.

– «Два твае сыны Аф-Рым і Манашэ – сказаў Богазмагальнік – народжаныя табой у Міц-Рымскай зямлі – мае дзеці. Яны мне тое ж, што Раувін і Сымон (г. азн. маніхеі і рымска-каталікі тое ж, што равіністы і наступнікі Сымона-Пятра ў Рыме», Быц. 48. 5).

«Ёсіф падвёў іх да яго. Богазмагальнік выцягнуў правую руку і паклаў яе на галаву Аф-Рыму, хаця той быў малодшым, а левую на галаву Долі Авена (Манашэ), хаця той быў старэйшы, скрыжаваўшы для гэтага адну з другой абедзве свае рукі, таму што Ёсіф паставіў перад ім старэйшага направа, а малодшага налева і прамовіў:

– «Бог, перад якім хадзілі мае продкі, Бацька-Рым і Пашыральнік Пісьмёнаў, бог, які пасвіць мяне з тых часоў, і анёл, які аберагае мяне ад усяго злога, ды добраславяць гэтых падлеткаў, і ды будзе намалявана на іх імя Бацькі-Рыма, і Пашыральніка Пісьмёнаў і ды расплодзяцца яны ў мностве пасярод зямлі».

«Ёсіф, заўважыўшы, што бацька паклаў рукі адваротна ўзросту яго дзяцей, сказаў яму:

– «Не так, бацька мой! Перакладзі тваю правую руку на галаву старэйшаму».

«Але Богазмагальніка адказаў:

– «Ведаю, сын мой, ведаю. І ад старэйшага паўстане вялікі народ, але меншы брат (Аф-Рым) будзе большым за яго, і яго нашчадкі самымі шматлікімі паміж народамі. Так паставіў ён Аф-Рыма (Рымскую царкву) вышэй Долі Авена» (маніхейскай. Быц. 43. 20).

«Потым ён добраславіў усіх сваіх сыноў, паклаў ногі на ложак і пайшоў да свайго народа» (48. 38).

«Ёсіф упаў на твар свайго бацькі, плакаў над ім і цалаваў яго. Ён загадаў сваім лекарам муміфікаваць яго. Яго бальзамавалі 40 дзён, як гэта робіцца, і аплаквалі 70 дзён.

«Калі прайшлі дні плачу, Ёсіф выправіўся хаваць свайго бацьку, Богазмагальніка, і з ім выправіліся ўсе слугі «Валадара» і старэйшыны Міц-Рыма.

«Яны дайшлі да Афадзкага гумна, што пры Эрыдане (рака По ў Ламбардыі) і плакалі там сем дзён вялікім, моцным плачам. Фінікійцы (ламбардцы) пачулі гэта і назвалі тое месца: Плач міц-рымцаў пры Ярдане. Потым яго прывезлі ў Фінікійскую зямлю і пахавалі ў пячоры на поле Двайнят (КФЛЕ) набытага ў Пылу, гота, перад тварам гаркаты.

«Ёсіф вярнуўся ў Міц-Рым з усімі хадзіўшымі з ім. Ён супакоіў сваіх братоў і размаўляў з імі па душы.

«Ён бачыў дзяцей Аф-Рыма да трэццяга пакалення, бачыў Мкіра, сына «Долі Авена», і дзеці яго нарадзіліся яму на калені. Ён памёр 110 гадоў, яго муміфікавалі і паклалі ў каўчэг (АРУН) у Міц-Рыме».

# ГЛАВА VII.

## Найстаражытнейшая этнаграфія і храналогія.

### I.

### Спроба кабалістычнага летазлічэння.

Такое заканчэнне мае кніга Быццё, ўяўляючая сабой цалкам самастойнае і закончанае ў самым сабе цэлае, хаця і з дзвюх разнастайных палавінак.

Вялікі старажытны астролаг-мысляр, які меў назву – кажуць нам – Муса (МШЕ, г. азн. Збаўца, пераіначаны грэкамі ў Майсея) склаў быццам бы яе на падставе астралагічных меркаванняў і пашыраных у яго час легенд пра «пачатак ўсяго існуючага».

Аднак-жа, у рэчаіснасьці было зусім іншае. Гэтыя легенды дадаваліся адна да другой рознымі аўтарамі. Ужо пазней нейкі рэдактар, належаўшы хутчэй за ўсё да эпохі Крыжовых паходаў, дадаў туды, на падставе кабалістычных меркаванняў, часы жыцця кожнай са згаданых тут асоб і нават дадаў для сувязі легенд шэраг прамежкавых частак.

Такой часткай я лічу, напрыклад, пятую, якую і паказваю ў якасьці ўзору цэментуючых дадаткаў.

«Вось – паведамляе яна – радаводны спіс чалавека (АДМ). Бог стварыў яго падабным на багоў, мужчынай і жанчынай, і добраславіў і назваў: «Чалавек».

«На 130-м годзе жыцця Чалавека ў яго нарадзіўся сын, падобны на яго. Ён назваў яго Шыт (ШТ, г. азн. шэсць, лацінскае sextus Сікст) і жыў яшчэ 800 гадоў, напладзіўшы іншых сыноў і дачок (а згодна з першапатковай легендай старэйшымі сынамі чалавека былі Каін і Авель – Праца і Адпачынак). Ён памёр ва ўзросьце 930 гадоў ад нараджэння».

«На 105 годзе жыцця Шыта ў яго нарадзіўся Енас (АНУШ), пасьля чаго ён жыў яшчэ 807 гадоў, напладзіўшы іншых сыноў і дачок, і памёр ва ўзросьце 912 гадоў ад нараджэння».

«На 90-м годзе ў Енаса нарадзіўся Каінан (КІНН), пасьля чаго ён жыў яшчэ 815 гадоў, напладзіўшы іншых сыноў і дачок. Ён памёр ва ўзросьце 905 гадоў ад нараджэння».

«На 70-м годзе жыцця Каінана ў яго нарадзіўся сын Мелал (МЕЛЛ-АЛ), пасьля чаго ён жыў яшчэ 840 гадоў, напладзіўшы іншых сыноў і дачак. Ён памёр ва ўзросьце 840 гадоў ад нараджэння».

«На 65-м годзе Мелала ў яго нарадзіўся сын Ірд (ІРД), пасьля чаго ён жыў 830 гадоў, напладзіўшы іншых сыноў і дачок. Ён памёр ва ўзросьце 895 гадоў ад нараджэння».

«На 162-м годзе Ірда ў яго нарадзіўся Енах (ЕНУК), пасьля чаго ён жыў яшчэ 800 гадоў, напладзіўшы іншых сыноў і дачак. Ён памёр ва ўзросьце 962 гады ад нараджэння».

«На 65-м годзе Енаха ў яго нарадзіўся Мафусаіл (МТУШАЛХ), пасьля чаго Енах жыў яшчэ 300 гадоў і напладзіў яшчэ сыноў і дачок. Ён хадзіў перад багамі і яго раптам не стала: яго багі забралі да сябе (жывым), а ўсяго яго зямнога жыцця было 365 гадоў» (ШНЕ).

Вось першы выразна астранамічны выпадак: колькасць гадоў тут адпавядае колькасьці дзён да-юліянскага года. Гэта апісана Сонца, хадзячае перад багамі, не памёршае як іншыя, а ўзятае на неба цалкам.

«На 187-м годзе Мафусала ў яго нарадзіўся сын Ламех, пасьля чаго ён жыў 782 гады, і напладзіў іншых сыноў і дачок. Ён памёр ва ўзросьце 969 гадоў ад нараджэння».

«На 182-м годзе Ламяха (ЛМК) у яго нарадзіўся сын, Ной, пасьля чаго ён жыў яшчэ 595 гадоў, напладзіўшы іншых сыноў і дачок. Ён памёр ва ўзросьце 777 гадоў ад нараджэння».

«На 500-м годзе Ноя (НХ) у яго нарадзілася (адразу) тры сына: Сім, Хам і Яфет» (ШМ, ХМ і ІФТ).

Такое заканчэнне мае пятая глава кнігі «Быццё». Я не сумняюся ў яе познім далучэнні не толькі грунтуючыся на адрозненні ў складзе, які ўяўляе замест легенды просты статыстычны пералік, але і таму, што яна супярэчыць сярэднім радкам папярэдняй чацьвёртай главы, дзе гэтыя ж дапатопныя патрыярхі пералічаны ў іншым парадку, як бачна із прыкладзенай табліцы (Табл. XXI).

ТАБЛІЦА XXI.

Дапатопныя Патрыярхі

<table>
<tr><td colspan="4">Згодна з заканчэннем гл. 4-ай</td><td colspan="3">Згодна з главой 5-ай</td></tr>
<tr><td colspan="4">Чалавек (АДАМ)</td><td colspan="3">Чалавек (АДАМ)</td></tr>
<tr><td colspan="4">*</td><td colspan="3">Сіф (ШТ)</td></tr>
<tr><td colspan="4">Каін (КІН)</td><td colspan="3">Каінан (КІНН)</td></tr>
<tr><td colspan="4">Енах (ХНУК)</td><td colspan="3">Енас (АНУШ)</td></tr>
<tr><td colspan="4">Мегуйал (МХУЙ-АЛ)</td><td colspan="3">Малал (МЕЛЛ-АЛ)</td></tr>
<tr><td colspan="4">Ірд (ЭІРД)</td><td colspan="3">Ірд (ІРД)</td></tr>
<tr><td colspan="4">*</td><td colspan="3">Енах (ХНК)</td></tr>
<tr><td colspan="4">Мафусаіл (МТУШ-АЛ)</td><td colspan="3">Мафусаіл (МТУШ-АЛ)</td></tr>
<tr><td colspan="4">Ламех (ЛМК)</td><td colspan="3">Ламех (ЛМК)</td></tr>
<tr><td colspan="4">*</td><td colspan="3">*</td></tr>
<tr><td colspan="2">Ад жонкі Цілы</td><td colspan="2">Ад жонкі Ады</td><td colspan="3">Ной (НХ)</td></tr>
<tr><td>Дачка Нэма (НЭМЕ) г. азн. Міласць</td><td>Ту-Балкін (ТУ-БЛКІН) кавач жалеза і медзі</td><td>Явал (ІВЛ) бацька палатак</td><td>Ювал (ІУ-БЛ) выканавец на арфе і інш.</td><td>Сім, (ШМ) бацька шляхетных</td><td>Хам, (ХМ) бацька просталюдзінаў</td><td>Яфет (ІФТ) бацька вытанчаных</td></tr>
</table>

Мы бачым, што ў абодвух радаводах фігуруюць тыя ж самыя імёны, але іхнае размяшчэнне іншае. Гэта сведчыць пра тое, што ў чацьвёртай частцы была зроблена першая спроба злучыць легенду пра Каіна і Авеля (Працу і Адпачынак) з легендай пра патоп праз нашчадкаў Працы. Але адзін із сярэднявечных рэдактараў кнігі Быццё, які ўжо не разумеў алегарычнасьці імёнаў абодвух братоў, а лічыў іх за рэчаісна існаваўшых людзей, прызнаў немагчымай ідэю выводзіць увесь

чалавечы род ад братазабойцы і даў «Чалавеку» трэццяга сына замест забітага, і ад яго ўжо вывеў пазнейшы чалавечы род. Дакладна гэтак жа і ў сынах Ноя – Сіме, Хаму і Яфету, імёны якіх азначаюць: шляхетны (ШМ), вытанчаны (ІФТ) і просталюдзін (ХМ), ён не ўгледзеў увасаблення трох станаў, выйшаўшых жывымі із хваляў усеагульнага патопу, і даў ім іншых прыдуманых нашчадкаў, каб сцэментаваць легенду пра патоп з легендай пра Бацьку-Рым.

Такім чынам мы бачым тут дзьве спробы радаводу. Першую пад канец дзясятай главы, дзе яшчэ не дадзена часоў жыцця, а толькі імёны: Шляхетны (Сім), Лекар-Астролаг, Апостал, Перасяленец, і ў яго два сына: Аддзяліўшыся і Богаабрэзаны, і другую пад канец главы адзінаццатай, дзе выведзены грунтуючыся на тых жа кабалістычных разважаннях, як і папярэднія, і часы існавання кожнага.

Так алегорыя паступова ператваралася ў прывідную паслядоўнасць першапачатковай гісторыі чалавецтва. Дадаю ў якасьці ўзору і гэту адзінаццатую частку.

«На 100-м годзе Шляхетнага (Сіма, сына Ноя) у яго нарадзіўся Лекар-Астролаг (АРФ-КШД[380]), праз 2 гады пасьля патопу, пасьля чаго ён жыў яшчэ 500 гадоў, напладзіўшы сыноў і дачок, а ўсяго ён жыў 600 гадоў».

«На 35-м годзе Лекара-Астролага ў яго нарадзіўся Апостал (пасланец[381]), пасьля чаго ён жыў 403 гады, напладзіўшы сыноў і дачок, а ўсяго ён жыў 438 гадоў».

«На 30-м годзе Апостала ў яго нарадзіўся Перасяленец (юдэй[382]), пасьля чаго ён жыў яшчэ 403 гады, напладзіўшы сыноў і дачок, а ўсяго жыл 433 гады.

«На 34-м годзе Перасяленца ў яго нарадзіліся: Аддзяліўшыся (ФЛГ), бо тады адбыўся падзел царства, і яго блізнюк Богаабрэзаны.

Пасьля перасялення Аддзяліўшыся жыў яшчэ 430 гадоў, напладзіўшы сыноў і дачок, а ўсяго жыў 464 гады».

Тут на моманце падзелу тэакратыі заканчаецца пагадненне імёнаў з папярэдняй 10-й часткай, і далей пачынаецца самастойнае цэментаванне:

«На 30-м годзе Падзелу (працягвае цэментатар, штучна злучаючы гэтым «30-м годам» тое, што на самай справе даўно папярэднічала падзелу) у яго нарадзіўся сын Рэу (Цар, Абраннік, Re), пасьля чаго Аддзяліўшыся быццам бы жыў яшчэ 209 гадоў, напладзіўшы сыноў і дачок, а ўсяго жыў 239 гадоў».

Няцяжка бачыць што «казка пра белага бычка» тут зноў «пачынаецца спачатку» і вяртаецца у мінулае да моманту ўзнікнення першых цароў.

«На 32-м годзе Цара – паведамляе яна – у яго нарадзіўся сын Князь пасьля чаго Цар жыў яшчэ 207 гадоў, напладзіўшы сыноў і дачок (а ўсяго жыў 239 гадоў).

«На 30-м годзе Князя[383] у яго нарадзіўся сын Рыцар[384], пасьля чаго ён жыў яшчэ 200 гадоў, напладзіўшы сыноў і дачок, а ўсяго жыў 230 гадоў.

«На 29-м годзе Рыцара ў яго нарадзіўся сын Вольны Віцязь[385], пасьля чаго ён жыў яшчэ 219 гадоў, напладзіўшы сыноў і дачок, а ўсяго жыў 148 гадоў.

---

[380] ארף־כשד (АРФ-КШД) – лекар астролаг ад רפאה (РФАЕ) – лекі і כשדי (КШДІ) – астролаг (згодна з Cruden'y).

[381] שלח (ШЛХ) – выпраўлены, апостал.

[382] עבר (ЭБР) – пераходзіць, пераступаць. Лічыцца родапачынальнікам жыдоў.

[383] שר־וג (ШР-УГ) = שר־גוי & (ШР-ГУЙ) – кіраўнік народа – ад слова сірах.

[384] נחור (НХУР) ад נחר (НХР) – ржанне каня, як сімвал вершніка-рыцара. Відаць, пераіначанае ад נהר (НЕР) – сіяцельства.

[385] ת־רח (Т-РХ) – вецер, רוח (РУХ) – паветра. Гэта татарскае слова Тархан – дваранін.

«На 70-м годзе Вольнага Віцязя ў яго нарадзіліся адразу трое сыноў: Бацька-Рыма, Рыцар і Высокасць[386]. Але Высокасць (ЕРН) загінуў яшчэ пры жыцці свайго бацькі, Вольнага Віцязя, пакінуўшы свайго сына Лота (Латыняніна) у пляменікі Бацьку-Рыма».

Параўноўваючы гэтую генеалогію ў 11 главе Быцця, адмыслова распрацаваную некім для таго, каб храналагічна злучыць легенду пра Сусьветны Патоп з Легендай пра Бацьку-Рыма, мы бачым, што яе зрабіла тая ж самая рука, якая спрабавала злучыць такім жа чынам і легенду пра стварэнне чалавека з легендай пра Сусьветны Патоп.

А параўноўваючы з гэтым радаводам этнаграфічнае рэзюмэ дзясятай главы табліца XXII, мы бачым, што цэментатар тут карыстаўся для стварэння сваёй храналогіі існаваўшым там раней простым пералікам выдатных гістарычных падзей, якія ён ператварыў у рэчаісных людзей, а потым яшчэ і дапоўніў ад сябе, пачынаючы з «цара» ( Re ) і князя (Серуга).

Ужо і раней я паказваў (цалкам падзяляючы погляд тэолагаў на гэтае пытанне), што дзясятая глава кнігі Быцця ўяўляе спробу старажытнай этнаграфіі. Але пры яе вывучэнні заўсёды паглыбляліся ў такую спрадвечную старажытнасць, у якой не было рэальнай падставы ні для якой сур'ёзнай распрацоўкі. Акрамя таго, тут занадта шмат шукалі сістэматычнасьці і пагаднення з сучаснымі вынікамі навукі. Так, у нашчадках Шляхетнага – Сіма бачылі неадменна азіятаў, у нашчадках Прасталюдзіна Хама – афрызаканцаў, у нашчадках Вытанчанага Яфэта – еўрапейцаў, і ўсе гэтыя нашчадкі лічыліся за некалі існаваўшыя народы.

ТАБЛІЦА XXII.

*Пасьляпатопныя нашчадкі Шляхетнага чалавека (Сіма) згодна з кнігай Быццё.*

| Згодна з главой 10 | Згодна з главой 11 |
|---|---|
| Шляхетны | Шляхетны |
| Лекар-астролаг | Лекар-астролаг |
| Апостал. | Апостал. |
| Перасяленец | Перасяленец |
| Падзел | Падзел |
| | Цар (RE). |
| | Князь (Сірах). |
| | Рыцар. |
| | Віцязь. |
| | Бацька-Рыма Сьветласць Высокасць |

Але із самай назвы трох сыноў «Правадыра» (Ноя) мы бачым, што яны ніяк не могуць быць атаясомлены з трыма кантынентамі старога сьвету, а толькі з трыма станамі, а таму і выведзеныя ад іх народы могуць жыць нават і ў перамежку паміж сабой, бо іхны радавод залежыць выключна ад густу аўтара.

## II.
## Нашчадкі Джэнтльмена.

Разгледзім з гэтага боку гледжання перш за ўсё нашчадкаў Джэнтльмена (Яфэта), бо ў іх амаль няма блытаніны нават і згодна з атаясамленнямі рабінаў Эпохі Адраджэння. Яны ўсе дадзены тут мной із 10 главы кнігі «Быццё» для нагляднасьці ў выглядзе генеалагічнага дрэва (табл. XXIII).

ТАБЛІЦА XXIII

[386] אב־רם (АБ-РМ) – Бацька Рыма; נחור (НХУР) – ржанне каня, הרו (ЕРН) – Узвышаны ад הר (ЕР) – гара, а Н – дадатак асабістага імя הר־וני (ЕР-УНЬ) – наша гара.

*Дзеці «Выхаванага (вытанчанага) чалавека, джэнтэльмена», (па-біблейску ІФТ, па-грэцку Яфэт, па-ангельску Джэнтэльмен). Біблейская генеалогія еўрапейскіх народаў. (Быццё, 10)*

<table>
<tr><th colspan="11">Вытанчаны чалавек (Яфэт)</th></tr>
<tr><th colspan="3">ГМР (גמר) Кімбр</th><th rowspan="2">МДІ (מדי) Мадзярыя (Ілжэ-Мідзія).</th><th rowspan="2">МГУГ (מגוג) Скіфія.</th><th colspan="3">ІУН (יון) Грэк-Яніец.</th><th rowspan="2">ТУ-БЛ (תו־בל) Балтыйцы ТУ-БЛКІН (תו־בל־קין) Балканцы.</th><th rowspan="2">РАШ-МШК (ראש־משך) Згодна з сярэдне-вечнымі арабамі Русь-Масковія.</th><th rowspan="2">ТІРС (תירס) а ў талмудзе ТРКІ (תרקי) Турцыя.</th></tr>
<tr><td>РІФТ (רופת) Рыўера (Францыя) (Ілжэ-Урал)</td><td>ТУ-ГЕРМ (תו־גרמה) Die Germe Германія (Ілжэ-Арменія)</td><td>АШКІНАЗ (אשכינז) Нармандыя сярэдневечных равінаў (Англа-Скандыя)</td><td>АЛІШЕ (אלישה) Эллада (Пелапанэс і выспы, Іез. 27.4)</td><td>ДДН (דדן) ці ДРДН (דרדן) па Таргуму Дарданелы (яны ж у нашчадках Хама).</td><td>ТРШІШ (תרשיש) Тартэс, г. азн. Гішпанія.</td></tr>
</table>

Тут недастае толькі італьянца (старажытнага рымляніна), які абвешчаны нашчадкам не гэтага Вытанчанага (джэнтэльмена ці двараніна), а Шляхетнага чалавека (Сіма (гл. Табліцу XXV).

У першым із яго сыноў, біблейскае напісанне імя якога ёсць ГМР, мы без цяжкасьцей пазнаём Кімбра і адразу падцвярджаем гэтую здагадку яго трыма сынамі: у першым з іх – РЫФТ'у мы пазнаём рыўерца (француза), хаця ранейшыя гісторыкі і выправілі яго на Ўрал, якому менавіта дзеля яго і далі назву Рыфейскія горы. У другім ТУ-ГЕРМ'е мы пазнаём германца не толькі праз сугучнасць з першапачатковым найменнем яго краіны Die Germa, але і таму, што гук Т часта далучаецца да пачатку жыдоўскіх слоў, калі яны набываюць характар назоўнікавых імёнаў. А тым часам, ранейшыя гісторыкі выправілі гэты народ прама ў Арменію. У трэццім сыне АШКІНАЗ'е, якога самі сярэднявечныя равіны лічаць за народ германскага кораня – скандынаваў, мы без цяжкасьцей пазнаём нарманаў. Гэта англа-скандынавы.

У другім сыне «Вытанчанага чалавека», пазначаным (МДІ), мы пазнаём Мадзяра (Madiar), і бачым, што не было патрэбы выпраўляць яго ў Персію. У трэццім сыне Магогу (МГУГ) мы бачым скіфа, г. азн. кіргіза ці мангола. У чацьвёртым сыне ІУН'е самі тлумачальнікі пазнаюць пелапанескага грэка (янійца), і гэта падцвярджаецца не адным адзінствам імёнаў, а і тым, што ў яго пазначаны тры сыны: Алішэ – элладзец згодна з сярэднявечнымі рабінамі, Дадан (ДДН) ці Дардан, г. азн. дарданелец і Таршыш – тартэсец, як зваліся гішпанцы. Тут у мяне няма ніякіх супярэчнасьцей з існуючымі тлумачэннямі.

Із застаючыхся трох сыноў «Правадыра» ў Ту-Бале (Die Balte) мы пазнаём балтыйца, у Раш-Мэшаку (РШ-МШК), жывучаму на ўсходзе ад балта, мы пазнаём рускага мужыка, а ў Тырсе ці ТРКІ пазнаём Турка.

Тут няма ніводнага імя, якое абуджала б сур'ёзныя сумневы, як згодна з лінгвістычнымі, так і згодна з тапаграфічнымі меркаваннямі.

Але калі і лінгвістыка, і сучасная этнаграфічная тапаграфія, і нават рабінскія паданні падцверджваюць маё тлумачэнне дзяцей Яфэта ў тым сэнсе, як яны пададзены ў табліцы XXIII, то, з гэтага боку гледжання час канчатковага рэдагавання кнігі «Быццё» не можа быць ранейшым чым 1362 год, калі сталіца Турцыі была перанесена ў Адрыянопаль. Інакш, як бы яна патрапіла ў шэраг дзяцей Яўропы? Мне запярэчаць, што мы маем рукапісы Бібліі раней гэтага часу, а я на гэта адкажу: яны толькі гіпатэтычна лічацца такімі, а кожная гіпотэза бурыцца,

як толькі адкрываюцца новыя факты, не пагадняючыся з ёю, як гэта зроблена ў мяне для шмат якіх месцаў Бібліі.

Акрамя ж прысутнасьці Турцыі ў Яўропе, Біблія не раз згадвае, як мы бачылі, і Русь (РАШ). Гэта апошняе згадванне, вядома, не мела б яшчэ вялікага значэння, бо слова Расія магло існаваць ва Ўсходняй Яўропе са спрадвечных часоў. Але справа ў тым, што напісанне РАШ-МШК, згодна з рабінскай традыцыяй, азначае Русь Масковію (г. азн. Русь Мужыковію), ды і згодна са стара-рускімі паданнямі біблейскі Мешак (МШК) з'яўляецца «заснавальнікам Масквы», першыя паведамленні пра якую ў рускіх летапісах адносяцца толькі да 1147 года, калі князь Юры Даўгарукі ладзіў тут баль северскаму князю Святаславу Ольгавічу. Акрамя таго, у біблейскай кнізе Іезекіл (38. 2) мы знаходзім словы: «вось я іду на цябе Гог (ГУГ), валадар Русі Масковіі» (РАШ МШК, ці згодна з іншым вымаўленнем РОС МСК).

Як бы мы ні тлумачылі гэтую фразу, але мы не атрымаем із яе нічога задавальняючага, пакуль не прыйдзем да часу Мангольскага ярма на Русі, г. азн. да перыяду не раней 1227 года, калі валадаром Масквы стаў Батый. А як толькі мы станем на гэты бок гледжання, дык зноў усё станавіцца відавочным і зразумелым: Гог гэта ўраджэнец краіны Гога (згодна з мясцовым вымаўленнем Джога, адкуль і імя Джагатай, сучасны Туркестан). Гэты Гог ці Джог называецца ў Бібліі выхадніком із краіны Магог (г. азн. Манголіі) і ён жыў, згодна з армянскімі паданнямі, на поўнач ад Каўказскага хрыбта, які ў іх мае назву Гогава Ўмацаванне (Гог-Хасан), а, бяручы да ўвагі гістарычныя паданні, Батый разам з Чынгіс-Ханам быў менавіта мангольскага паходжання.

Усе гэтыя кідаючыяся ў вочы супадзенні цалкам ігнараваліся да гэтага часу даследнікамі дзякуючы зацятаму жаданню падтрымаць за Бібліяй рэпутацыю вельмі глыбокай старажытнасьці, але гэта ўжо справа веры, а не навукі. Калі нам кажуць: «веру», то якое б то ні было навуковае абмеркаванне пытання робіцца залішнім, ці ідзе гэта гаворка пра веру ў Езуса, у Магамета, у Майсея, ці пра веру ў слушнасць таго, што паведамілі нам менш знакамітыя настаўнікі Эпохі Адраджэння. Калі ж мы адкінем веру ў іх, то пераканаемся, што ўся іхная экзэгетыка і герменэўтыка – проста гульня дзяцей у лялькі, а іхная звычайная «гістарычная» крытыка старажытных дакументаў, зводзячаяся да падцверджання аднаго апокрыфа з дапамогай другога – гульня ў бірулькі.

Сабраныя тут мной факты відавочна паказваюць, што Біблія папаўнялася і выпраўлялася ў сваіх дэталях аж да 1456 года, калі адзін са шматлікіх яе варыянтаў быў назаўжды замацаваны і размножаны ў сотнях асобнікаў друкавальным станком Яна Гутэнберга. З яго тэкстам няўхільна давялося лічыцца ўсім, як латыністам і эліністам, так і гебраістам, таму што акрамя яго былі толькі адзінкавыя, разрознена-варыянтныя манускрыпты, не зведваючыя пазнейшых пераверачных карэктаванняў капіістаў ужо дзякуючы аднаму таму, што запэцканы такімі папраўкамі рукапіс ніхто б у іх не купіў, а пры набіранні гэта можна было рабіць без пакідання слядоў дзесяткі разоў.

Вось чаму я і лічу, што кожны рукапіс Бібліі, у якім паўтараюцца памылкі арфаграфіі, недакладнасьці складу і анахранізмы першых выданняў Гутэнберга, напісаны не раней заканчэння XVI стагоддзя, якім бы почыркам гэта ні было зроблена. Такое параўнанне памылак, знаходзімых у старажытных рукапісах, з памылкамі першых друкаваных выданняў на дадзенай мове зяўляецца лепшым сродак для вызначэння апокрыфа ці падробкі манускрыпта. А гэта яшчэ не было

зроблена: для гэтага патрэбна спачатку зрабіць альфабэтны спіс памылак і недакладнасьцей першага выдання Бібліі на грэцкай і жыдоўскай мовах і праверыць грунтуючыся на ім даследуемы манускрыпт, ці не перапісаны ён ужо з друкаванага асобніка.

## III.
## Нашчадкі Просталюдзіна.

Нашмат больш незразумелага ў радаводзе народаў, якіх аўтар 10 главы Быцця лічыць за нашчадкаў «Просталюдзіна» (Хама). Яны паказаны ў табліцы XXIV. Іхны родапачынальнік мае назву Хам (ХМ), лацінскае homo – чалавек, і яго непасрэдныя дзеці звычайна пазначаюцца так: КУШ – эфіоп, абісінец, МІЦ-РЫМ – ягіпцянін, ФУТ – негр, і КНЭН – фінікіец-мараход, якога ў дадатак размяшчаюць на сірыйскім беразе, які не мае прыдатных гаваней для самастойнага мараплаўства.

Але ці сапраўды гэтыя атаясамленні правільныя?

Ужо просты пагляд на нашу параўнальную табліцу паказвае, што яны не вытрымліваюць нават найменшай навуковай крытыкі. Асабліва ж бурыцца ўяўленне пра афрыканскае паходжанне так званых «хамскіх дзяцей».

ТАБЛІЦА XXIV

*Дзеці просталюдзіна (Хама) копцкае Хаме (чорны), лацінскае homo (просты чалавек), біблейскае ХМ, па-грэцку Хам. Біблейская генеалогія не еўрапейскіх народаў. (Быццё, 10)*

| | | | |
|---|---|---|---|
| 1. КУШ (כוש) Малаазійскі (Ілжэ-эфіоп). | 2. 2-і МЦРЫМ (מצרים) тэндэнцыйна размешчаны замест «ХЕМІ». | 3. ФУТ (פוט) Негр | 4. КНЭН (כנען) Прадавец тавараў |

<table>
<tr><td colspan="10">1. КУШ (כוש) Малаазійскі (Ілжэ-эфіоп).</td></tr>
<tr><td rowspan="5">СВА (סבא) Сван (Сванэція на Каўказе)</td><td rowspan="5">ХІЙЛЕ (חוילה) Хвалыні я</td><td rowspan="5">СБТА (סבתא) ці СМРАЙ (סמראי) Самара</td><td colspan="4">БАРС (НМРД) выйшаў із другой сталіцы ШН-ЭР (שנ־עיר=שנה־עיר) каля якой былі пабудовы</td><td rowspan="5">СБТК (סבתכא) ці ЗГНАЙ (זנגאי) (Цыган)</td><td colspan="2">РЭМЕ (רעמה) Румынія?</td></tr>
<tr><td>ББЛ (בבל) брама госпада</td><td>АРК (ארך)</td><td>(АДК אכד) ?</td><td>КЛНЕ (כלנה) ?</td><td rowspan="4">ШВА (שבא) ён жа ў Сіма</td><td rowspan="4">ДДН (דדן) ён жа ў Яфета Дарданелы</td></tr>
<tr><td colspan="4">Із гэтай жа 2-ой сталіцы выйшаў АШУР (אשור) (2-гі Праваднр; 1-шы ў Сіма і пабудаваў)</td></tr>
<tr><td>НІНУЕ (נינוה) Прыгажуня</td><td>РХВУТ (רחבות) Шырокі</td><td>РСН (רסן) Цугля</td><td>КЛХ (כלח) Стары</td></tr>
<tr><td colspan="4">Усё гэта пазнейшыя тэндэнцыйны дадатак да ліку нашчадкаў “просталюдзіна”</td></tr>
</table>

<table>
<tr><td colspan="7">2. 2-і МЦРЫМ (מצרים) тэндэнцыйна размешчаны замест «ХЕМІ».</td></tr>
<tr><td rowspan="2">ЛЮД (לוד) ён жа ў Сіма</td><td rowspan="2">ЭНМ (עמנ) ?</td><td rowspan="2">ЛЕЎ (להב) Лівія</td><td colspan="2">КС-ЛХ (כס־לח) Пасад свежасьці (Ліван)</td><td rowspan="2">НФТХ (נפתח) Паўночны Ягіпет</td><td rowspan="2">ПТРУС (פתרוס) Паўднёвы Ягіпет</td></tr>
<tr><td>ПЛШТІ (פלשתי) Палестына</td><td>КПТР (כפתר) Кіпр</td></tr>
</table>

| 4. КНЭН (כנען) Прадавец тавараў | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| ЦІДН (צידן) Венецыя Смірна? | ХТ (חת) Гот | ІВУС (יבוס) Віза (Візантыя) | АРМ (אמר) Імэрэтыя | ГРГШ (גרגש) Грузія (Рыгорыя) | ХОЙ (חוי) Тыбет (Хой) | ЭРКІ (ערקי) Урга (Манголія | СІНІ (סיני) Кітай | АРУДЗІ (ארודי) Іраведзі (Індакітай) | ЦМРІ (צמרי) Самарканд | ХМТ (חמת) Персія, (Хакадма) |

*Іхныя першапачатковыя межы (Быццё **20.**19) як быццам бы былі ў Кракаве да «Садома и Гаморы», але дададена, што з той пары яны «раскіданы» (10.18) і, як мы тут бачым, нават па ўсяму зямному шару.*

Толькі «Фут», імя якога па-копцку азначае луканосец (fit), можа быць прыняты за афрыканскага маўра, ды некаторыя із нашчадкаў Міц-Рыма, лічымага ў гэтым выпадку за рымскую дзяржаву ў Ягіпце (сучаснае арабскае мазр), а астатнія ўнукі і сыны «Хама» лакалізуюцца толькі ў Азіі.

Перадусім возьмем яго старэйшага сына Куша, які лічыцца ранейшымі гісторыкамі за абісінца. Паглядзіце, якія ў яго дзеці, г. азн. народы.

Мы бачым у яго перадусім каўказскага свана (сванета), хвалынца (г. азн. каспійца), самарца (СМРАЙ), цынгая (цыгана?) і Рэме ці Руме, якога мы можам палічыць за румелійца, бо яго горад ДДН сугучны з Дарданэламі (ДРДН).

Із «Другой Сталіцы» (ШН-ЭР, у грэцкім вымаўленні Сенаар) – паведамляе нам гэтая ж 10 глава – выйшаў вялікі заваёўнік на імя Барс (згодна з грэцкім вымаўленнем Німрод), пабудаваўшы горад Брама Госпада (ББЛ, па-грэцку Вавілон), потым ўзвёўшы Арку (АРК), Калону (КЛНЕ) і нешта нападобе Акадэміі (АКД). Із гэтай жа «Другой Сталіцы» выйшаў Правадыр (АШУР, магчыма той жа самы Барс пад новай назвай), пабудаваўшы гарады: Красуню (НІНУЕ), Вялікае Ўмацаванне (РХБУТ), потым Стары Горад (КЛХ), па-італьянску «Чывіта-Векіа» і, нарэшце, Узду (па-жыдоўску РСН, па-грэцку Спарта, на-лаціне Лонга).

Тут Барс-Німрод ужо відавочна не персаніфікацыя народа, а нейкі сапраўдны заснавальнік вялікай дзяржавы. Калі месца яго дзейнасьці перанясём у Азію, то, перабіраючы падобных старажытных знакамітасьцей, мы не знаходзім у ёй нікога больш прыдатнага, чым легендарны Селеўк Пераможац, быццам бы «кіраўнік вершнікаў легендарнага ж Аляксандра Вялікага», заснавальнік дынастыі Селеўкідаў, ці ж гэта сам Аляксандр Македонскі. Звычайна іх абодвух адносяць да глыбокай старажытнасьці (-311, -281), але нашы астранамічныя вылічэнні ўжо прызвычаілі нас перасоўваць такія эпохі на некалькі сот гадоў наперад. У дадзеным жа выпадку (як мы пакажам далей) Селеўка можна атаясаміць з Ардашырам (Артаксерксам) Бабегатам (226-240 г. нашай эры), заснавальнікам Нова-пярсідзкага царства і дынастыі Сасанідаў, а Аляксандра Македонскага з Аляксандрам Сяверам (222-232), ад нападу якога Ардашыр адбіўся. Гэты Селеўк-Ардашыр, ці яшчэ хутчэй сам Аляксандр Вялікі, і апісаны, відаць, у кнізе Быцця пад імем Німрод, імя якога азначае Барс, і ўяўляе сабой больш позняе найменне.

Паглядзім жа з гэтага боку і на частку табліцы пад нумарам 1, выкарыстоўваючы яе як асноўную схему для арыентавання. Нашчадкам «Барса», перадусім, паказаны ББЛ, імя якога ў грэцкай транскрыпцыі азначае Вавілон – «Брама Бога Она». Із Апакаліпсіса і іншых прароцкіх кніг мы ўжо ведаем, што гэтым найменнем пазначалася пануючая царква Лаціна-Эліна-Сарійска Ягіпецкай імперыі IV стагоддзя нашай эры.

А наступнік Барса Правадыр (АШУР) пабудаваў – кажуць нам – Ніную, г. азн. Красуню.

Згодна са сведчаннямі гісторыкаў гэта былі сапраўды дзіўныя тварэнні чалавечай дзейнасьці ў той мясцовасьці. Нінуя (Нінэвія па-грэцку) – паведамляе легенда – занімала тры дні (!!) шляху ў абводзе, г. азн. не менш за 100 вёрст, са 120 000 жыхароў, але, згодна са сведчаннямі ранейшых гісторыкаў, быццам бы была разбурана яшчэ за 606 гадоў да пачатку нашай эры. Два руплівыя ўсходнія вандроўнікі мінулага стагоддзя – Бота (1843) і Лейард (1845) – прыйшлі да думкі, што парэшткі гэтага гмаху яны знайшлі ў нікчэмных развалінах Нуніі і Наббі-Юнуса і ў вёсачцы Хар-Сабадэ, насупраць сучаснага Масула, на левым беразе Тыгра. Там арабы ахвотна паказвалі ім, між іншым, і Барсаў Узгорак (Німруд),

палічаны падарожнікамі за развaліны старажытнага горада Калаха (КЛХ – стары), брата гэтай Нінуі, згодна з нашай табліцай XXIV. Але – на жаль! – гэтыя нікчэмныя рэшткі цалкам не дапасуюць да апісанняў старажытных аўтараў! А што да Барсава ўзгорка, то імя яго, вядома, і паходзіць ад знаходжання там некалі гэтага звера, а не ад чалавека на імя Барс.

Што ж да двух астатніх братоў Нінуі – Шырокага Ўмацавання і Ўзды, па-грэцку Спарты, і на-лаціне Лонгі – то іхныя месцазнаходжанні гебраістамі не паказваюцца наогул. Усё гэта і вымусіла мяне нанова перагледзець грунтуючыся на метадах чыста прыродазнаўчых, г. азн. адкінуўшы якія б то ні было школьныя наданні свайго дзяцінства, усю гэту частку генеалогіі Быцця.

Перадусім, што азначае імя Нінэвія і дзе б мы маглі знайсьці прыкметы рэальнага існавання, хаця б і не такога неймаверна вялікага і пышнага, але ўсё ж знакамітага горада. На пачатку сярэдніх вякоў, да якіх несумнеўна адносіцца і прароцтва Ёны, (імя якога азначае Ян?) слова Нінэвія пішацца па-бібласку НІНУЕ і ў цэлым выглядзе не мае асобнага сэнсу. Яго ж канчатак НУІ мае цалкам вызначанае значэнне: прыстанак (ці заспакаенне) пілігрымаў. Гэта азначае што нам патрэбна вызначыць тут толькі значэнне яго першага склада НІ. У прамым значэнні ён азначае плач, лямант але мы не можам канчаткова спыніцца на адным такім тлумачэнні. У арабскіх мовах галосныя лёгка вар'іруюць, і таму мы павінны браць тут да ўвагі толькі галосны гук Н, дадаючы да яго якую заўгодна галосную. Пры складзе На гэта будзе іерагліфічнае напісанне найменне знакамітай сталіцы Верхняга Ягіпта – Стабрамных Фіваў, боскага горада (Diospolis) грэцкіх пісьменнікаў, адпавядаючага апісанням пышнасьці і велічыні Нінэвіі. Але – на жаль! – і ад гэтага горада не засталося дастатковых сьлядоў: ён, запэўніваюць нас, быў, быццам бы, да такой ступені разбураны паўстаннем 84 года да пачатку нашай эры, што нават камяні яго сьцен і сядзібаў схаваліся ад жаху невядома куды. Для рэальнага параўнання парэшткаў рэчаіснасьці са старажытнымі апісаннямі Нінуі нам застаецца ў Ягіпце толькі Мемфіс і Гізэхскае поле насупраць яго, ці ж нам патрэбна перанесьці свае пошукамі із Афрыкі і Азіі ў Яўропу ў часы нашчадкаў Аляксандра Севера. Ён – кажуць нам – быў сынам «Вярхоўнага жраца Непераможнага бога-Сонца – Элагабала – што намякае на ягіпецкае паходжанне, хаця яго біёграфы і не пазначаюць гэтага, кажучы нам толькі пра яго схільнасць да ўсходніх культаў, чаго ён не мог набыць па-за Ягіптам. У такім разе часцінка Ні перад месцам пілігрымства Нуа ў слове Нінуа лёгка можа выявіцца скарачэннем грэцкага *неа* – новы, і тады атрымаецца Новае Месца Пілігрымства, ці Новая Асада у пагадненні з чым з'яўляецца вельмі частае ўжыванне падобнага вытварэння найменняў ва ўсіх мовах: у грэцкай – Неапаль, Неакесарыя; у рускай – Ноўгарад, Новарасійск, у ангельскай – Нью-Ёрк, Ньюкестль і г. д. Дзякуючы таму, што гук Н з'яўляецца коранем слова новы ва ўсіх заходніх мовах (novis, νέος, new, neue, nouveau і г. д.) можна зрабіць выснову, што ён ужываўся і ў словаўтварэнні некаторых біблейскіх уласных імёнаў. Падобная сумесь грэцкага з бібласкім заўважаецца, напрыклад, і ў слове Ерусалім, дзе першай часткай наймення з'яўляецца грэцкае *іерас* (ἱερός) – сьвяты, а другой жыдоўскае *салім* (ШЛМ) – заспакаенне.

У такім выпадку біблейская Вавілонія цалкам перасяляецца ў Яўропу часоў Апакаліпсіса і прарокаў (V стагоддзе нашай храналогіі) як і само найменне Ашур, г. азн. краіна Правадыра, перанеслася ў нас туды ж, хаця тут могуць быць і частыя змешванні з аднайменнай Сірыяй. Стары горад (КЛХ табліцы III) можа быць

Мемфісам, Новае Месца Пілігрымства (Нінуа) – Рымам, Шырокае Ўмацаванне – Канстантынопалем і Ўзда (РСН) простым перакладам на біблаunion мову грэцкай Спарты ці лацінскай Белай Ўзды (Albalonga). Раз старая лакалізацыя не вытрымлівае сур'ёзнай крытыкі, то мы маем магчымасць рабіць, (не настойваючы на абсалютнай правільнасьці) розныя высновы, і чым больш іх будзе, тым лягчэй патрапіць на правільнае атаясамленне. Асабліва важным я тут лічу вызначэнне месцазнаходжання Шырокага Ўмацавання. Падобныя ж умацаванні не будуюць дзе патрапіцца, а толькі на важных стратэгічных пунктах, для абароны культурных цэнтраў краіны.

Гэта азначае, усё месца пра «Барса» (Німрада) і пра «Правадыра» (Ашура), якое я знарок памясьціў у асобную рамку ў табліцы XXIV, з'яўляецца пазнейшым дадаткам да радавода так званых «хамскіх» народаў Бібліі, зробленая карэктарам, які ўжо не разумеў першапачатковага сэнсу 10 главы кнігі Быцця. А патрыярх Куш уяўляе сабой ніяк не «эфіопа, чорнага з выгляду, і як вугельчыкі вочы», а легендарнага родапачынальніка Ўсходняй імперыі мусульманскага перыяду, ўключаўшай ужо і Дарданэлы.

Пяройдзем зараз зноў да разглядання табліцы XXIV. Там дзецьмі Міц-Рыма, паказаны дзьве мала зразумелыя краіны – ЛЮД і ЭНМ, а потым значыцца ЛЕВ, у якім пазнаём лівійца, ПТРС, у якім вызначаем Патрас, па-яліпецкі Паўднёвы, г. азн. Верхні Ягіпет. Мы бачым у ёй напісанне Н-ФТЕ, дзе прыстаўка Н тая ж самая што і вышэй у слове Нінуа, а Фте азначае бага Фта чаму Н-Фта лічыцца ягіптолагамі за Мемфіс, хаця самі ж яны, як мы бачылі, маюць на ўвазе пад НА (г. азн. неас – новы) – Фівы. З нашага ж боку гледжання гэта можа быць і Новы Фта, напрыклад, Александрыя. Пасад Свежасьці (КС-ЛХ) – хутчэй за ўсё Ліван, тым больш, што ад яго паходзіць размешчаная паблізу Лівана Палестына (ПЛШТ) і краіна КНТР, якая лічыцца за Кіпр. Вось усё, што паведамляецца пра дзяцей МЦ-РЫМ'а ў 10 главе кнігі Быццё.

Фут-негр пакінуты ў ёй без нашчадкаў. КНЭН звычайна лічаць за Фінікію, але дарэмна яе лакалізуюць на адным сірыйскім узбярэжжы. Гэта хутчэй зборнае найменне ўсіх генуэзцаў, грэкаў, венецыянцаў, александрыйцаў і маўраў, якія вялі пад час сярэдніх стагоддзяў марскі гандаль па ўсяму Міжземнаму мору і каланізавалі ўсё паўночнае ўзбярэжжа Афрыкі, Гішпанію і заходнюю (а на думку аўтара падання і астатнюю) Азію. У пагадненні з гэтым, іхнымі дзецьмі лічацца і Вялікія Рыбакі[387], відаць, венецыянцы ці порт-саідцы; і готы (ХТ); і візантыйцы[388]; і імерытыны (АМРІ); і грузіны, згодна з мясцовым найменнем рыгарыйцы (ГРГШ – чаркесы); азербайджанцы (хоі), ад горада Хоі, аднаго із прыгажэйшых у Азербайджане, у якім на пачатку XX стагоддзя было каля 30 000 жыхароў; і ургійцы, ці арэкцы (ЭРКІ); кітайцы (СІНІ); індакітайцы (АРУД ад Іравадзі); самаркандцы (ЦМР) і хамаданцы (ХМТ – ад горада Хамадан у Персіі, дзе было каля 35 000 жыхароў на пачатку XX стагоддзя).

Я не настойваю, вядома, на правільнасьці ўсіх гэтых атаясамленняў. Гэта ўсё яшчэ толькі гіпотэзы, але яны, ва ўсякім разе, як з лінгвістычнага, так і з этнаграфічнага боку гледжання, лепшыя за тыя, згодна з якімі ўсе гэтыя народы

---

387 צידן־רבה (ЦІДН-РБЕ) – Сідон вялікі, вялікі мараход. Вялікае месца рыбнай лоўлі.

388 Іе-Вус звычайна лічыцца за ранейшае найменне «Ерусаліма ў Палестыне», але мясцовым найменнем гэтага Ілжэ-Ерусаліма з'яўляецца Эль-Кудс, і ўсё рэчаіснае, што мы маем, у раскопах ці ў наяўнасьці, пра мінулае гэтага Эль-Кудса не адпавядае біблейскім апісанням велічнага саламонавага горада. Найменне ІЕ-ВУС больш адпавядае Візантыі (у грэцкім вымаўленні Вюс-антыя).

ўціскаюцца пад markdown рознымі найменямі на малюсенькім лапіку сірыйскага ўзбярэжжа, а вялікія рэчаісныя народы Еўропы, Азіі і Афрыкі лічацца невядомымі для аўтараў кнігі Быцця.

## IV.
## Нашчадкі князя.

Зараз мы прасачылі ўсе народы, пазначаныя ў 10 главе «Быцця» як нашчадкі «Вытанчанага чалавека» і як нашчадкі «Просталюдзіна». «Вытанчаныя» ці «прыгожыя» народы цалкам, як бачым, дапасаваны да Яўропы, і «просталюдзіны» напоўнілі сабой ўсю Азію і Афрыку. А найменне еўрапейцаў «прыгожымі» паказвае, што аўтары былі еўрапейцамі: прыгажосць – справа ўмоўная.

Сярод іх мы не знайшлі толькі двух народаў: рымлянаў і арабаў, і гэта, як хутка пабачым, таму што толькі яны адны і былі прызнаны нашчадкамі Шляхетнага чалавека (Сіма па-жыдоўску). Разгледзім жа і гэту біблейскую арыстакратыю.

У адрозненне ад папярэдніх «бязродных» народаў ці такіх джэнтльменаў, продкі якіх вядомы толькі да трэццяга пакалення назад, тут мы знаходзім, як і патрэбна было чакаць, вялікае радаводнае дрэва (табл. XXV).

Родапачынальнік Шляхетны (Сім) перадусім нарадзіў Вечнаіснуючага (ЭЙЛМ), потым Вярхоўнага Кіраўніка (АШУР), потым Лекара-Астролага (АРФ-КШЫД), потым «Усхваленага» (ЛЮД ад laudo ) і, нарэшце, Ухваленне (АРМ). Лекар-Астролаг нарадзіў Апостала (ШЛХ), Апостал Перасяленца (жыда), а гэты двух сыноў: Аддзяліўшагася (ПЛГ) і Богаабрэзанага (невядома, ці ў сэнсе звычая абразання ці проста як рэштка ад ранейшага адзінства арыян-юдэяў). Абрэзаны (ІКТН) нарадзіў 13 сыноў, якія лічацца знікшымі зараз арабскімі народамі (табл. XXV, жоўты колер), а Аддзяліўшыся нарадзіў Цара (РЭУ), Цар нарадзіў «Намесьніка», намеснік Найсьвятлейшага (князя), Найсьвятлейшы Двараніна (тархана), а Дваранін адразу трох сыноў Нагорнага (ЕРН), Бацьку-Рыма (Абрама) і яшчэ другога Найсьвятлейшага (НЕУР[389]).

У Нагорнага было дзьве дачкі: Памазанка і Царыца і сын Латынянін (ЛОТ), і ад гэтага апошняга ўтварыліся два народы: дзеці Этны (БНІ ЭМУН) і дзеці Вязувія (БНІ МУАБ). Ад Бацькі-Рыма ўтварыліся: Ізмаільцянін (магаметанін) і Пашыральнік пісьмёнаў (Ісак), а ад Найсвятлейшага 12 сыноў: Дарадца, Пагарджаемы, Зерне Боскае, Астролаг, Празарлівец, Палаючае полымя, Богаплачучы і Ёмішча бога, у якога была дачка Суцяшальніца Спрэчкі (Рэвека). Акрамя таго былі яшчэ чацвёра ад наложніцы: Целаахоўнік, Вывергнуты і Чулы. Чытач бачыць сам, што гэтая генеалогія моцна адрозніваецца ад дзвюх першых. Тут спрабуюць усталяваць ужо не этнаграфію, а гісторыю абранага із усіх народаў.

Разглядаючы разам усе тры таблічкі, гэтай першай спробы сістэматычнай этнаграфіі і храналогіі, мы павінны звярнуць увагу на тое, што тут няма знакамітага Ціра, г. азн. у перакладзе Цар-гарада. Гэтым адным ужо даводзіцца, што знакамітае найменне Цар-горад было найменнем аднаго із першарадных гарадоў старажытнасьці: Каіра, ці Канстантынопаля, ці Рыма, ці Александрыі, ці Венецыі.

Я прапаную чытачу самаму паспрабаваць расшыфраваць астатнія біблейскія напісанні ці выправіць мае, калі ён знойдзе лепшую лакалізацыю, пагадняючуюся з раскопамі і з існуючымі і зараз гарадамі. Я усе іхныя найменні паказаў такімі, як

[389] Я раблю згодна з выпраўленне звычайнай арфаграфіі נהור замест נחור.

яны дадзены ў жыдоўскім арыгінале, замяніўшы толькі халдэйскія літары аднагучнымі з імі рускімі, літара замест літары, як яны прыведзены ў прадмове да першага тома, па аналогіі з грэцкім альфабэтам, для таго, каб і не могучы чытаць па-жыдоўску быў здольны разважаць над іхным гукавым складам, а не толькі запамінаць чужыя неабгрунтаваныя вымаўленні і тлумачэнні.

Я зноў паўтараю, што чыста лінгвістычныя перажыткі, дзе кіруешся адным сугуччам імёнаў, падобны на перакрыжоўваючыяся адзін з адным сляды людзей на снягу ці на пясчаным узбярэжжы, і таму вельмі лёгка неспадзявана патрапіць з аднаго следу на другі, не маючы з ім нічога агульнага і збіцца з правільнага шляху. Але гэты метад усё ж больш лепшы і надзейны, чым традыцыйныя наданні ранейшых пакаленняў, прайшоўшыя праз шмат невядомых нам людзей і дайшоўшыя да нас не ў дакументах свайго часу. Да таго ж у нашых трох таблічках мы маем і спосабы для праверкі: народы тут класіфікаваны згодна з паходжаннем і мясцазнаходжаннем, і гэта дае нам, напрыклад, упэўненасць, што напісанне МДІ ў асяроддзі дзяцей Еўропы азначае менавіта мадзяр (madiar, ingar), а не легендарная Мідыя, знікшая з паверхні зямлі, як сцвярджаюць, яшчэ за паўтараста гадоў да пачатку нашый эры.

Позні час гэтай генеалогіі, далучанай да кнігі Быццё, напэўна, ужо напярэдадні крыжовых паходаў, лепш усяго і даводзіцца тым, што найменне Міц-Рым, якое ў кнігах Сыход, Лявіт, Лічбы і Другазаконне відавочна дапасуецца да Рыма, як я гэта паказаў на сейсмічнай частцы яго апісання, тут ужо саслана ў Ягіпет.

ТАБЛІЦА XXV

Дзеці «Шляхетнага Чалавека (Князя)». (Быццё, 10) (па-біблейску – шляхетны, у грэцкім вымаўленні – Сім). Біблейская генеалогія рымлянаў і арабаў.

<table>
<tr><th colspan="8">Шляхетны (Сім).</th></tr>
<tr><td rowspan="3">ЭЙЛМ (עילמ) Вечнае існаванне.</td><td rowspan="3">АШУР (אשור) Вярхоўнае кіраванне (Аднайменны існуе ў Хама).</td><td>АРФ-КШЫД (זארפ־כשידי) Лекаванне і Астралогія.</td><td rowspan="3">ЛЮД (לוד) Хвала? Laudo?((Аднайменны існуе ў Хама).</td><td colspan="4">АРМ (ארם) Ухваленне</td></tr>
<tr><td>ШЛХ (שלח) Апостал.</td><td rowspan="2">ЭУЦ (עוץ) Дарадчык.</td><td rowspan="2">ХУЛ (חול) Спадзяючыся.</td><td rowspan="2">Г-ТР (גתר גיא־תור) Зямлю (**) аглядаючы.</td><td rowspan="2">МШ=МШЕ (משה=מש) Выратавальнік.</td></tr>
<tr><td>ЭВР (עבר) Перасяленец.</td></tr>
</table>

<table>
<tr><th colspan="2">ЭВР (עבר) Перасяленец.</th></tr>
<tr><td>ПЛГ (פלג) Аддзяліўшыся.</td><td>ЙКТН (יקטן) Абрэзаны. У яго дзеці:</td></tr>
</table>

| ПЛГ (פלג) Аддзяліўшыся. |
|---|
| Анахранічны дадатак із 11 главы “Быцця” |
| Сынам Аддзяліўшагася быў РЭУ (שלף) – Re, цар |
| і яго нашчадкі ШРУГ (שרוג) – намесьнік. |

<table>
<tr><td colspan="7">1-ы НЕУР (נהור) – Найсвятлейшы</td></tr>
<tr><td colspan="7">ТРХ (תרח) – тархан, дваранін.</td></tr>
<tr><td colspan="4">ЕРН (הרן) Нагорны.</td><td colspan="2">АБ-РМ (אב־רם) (Аб-Рам) Бацька-Рыма.</td><td rowspan="3">2-і НЕУР (נהור) Найсветлейшы. Яго дзеці. Згодна з гл. 22, 23.</td></tr>
<tr><td>ІСКЕ (יסכה) Памазаная дачка.</td><td>МЛКЕ (עמלכה) Царыца дачка.</td><td colspan="2">ЛОТ (לוט) Латынянін.</td><td>ІЗМАІЛ (ישמע־אל) Магаметанін.</td><td>ІСАК (יצ־חק) Пашыральнік пісьмёнаў</td></tr>
<tr><td></td><td></td><td>БУНІ-ІМУН (בני־עמון) Дзеці Этны[390].)</td><td>БЕНН МУ-АБ (ובן־מו־אב) Дзеці першабацькі (Вязувія?)</td><td></td><td></td></tr>
</table>

<table>
<tr><td colspan="13">2-й НЕУР (נהור) Светлейший. Яго дзеці. Згодна з гл. 22, 23.</td></tr>
<tr><td colspan="9">Ад законнай жонкі «Царыцы».</td><td colspan="4"></td></tr>
<tr><td rowspan="2">ЭУЦ (עוץ) Дарадца</td><td rowspan="2">ВУЗ (בוז) Пагарджаемы</td><td rowspan="2">ЛУТ (לוט) Латынянін.</td><td rowspan="2">КМУ-АЛ (קמו־אל) Зерне божае.</td><td rowspan="2">КШД (כשד) Астролаг.</td><td rowspan="2">ХЗУ (חזו) Правідзец.</td><td rowspan="2">ФЛД-Ш (לוט) Палаючае полымя.</td><td rowspan="2">ІДЛФ (יידלף) Бога плачучы</td><td>БТУ-АЛ (בתו־אל) Ёмішча бога.</td><td rowspan="2">ТБХ (טבח) Целаахоўнік.</td><td rowspan="2">ГХМ (גחמ) Выкінуты.</td><td rowspan="2">Т-ХШ (ת־חש) Чуткі.</td><td rowspan="2">МЭКЕ (לוט) Памятая.</td></tr>
<tr><td>РЕВЕККА (לוט) Суцяшальніца Спрэчкі.</td></tr>
</table>

<table>
<tr><td colspan="7">ЙКТН (יקטן) Абрэзаны. У яго дзеці:</td></tr>
<tr><td>АЛМУДД (אל־מודד) Божая воля.</td><td>ШЛФ (שלף) ?</td><td>ХЦР-МУТ (חצר־מות) «Пярэдане сьмерці».</td><td>ИРХ (ירח) Лесяцовы.</td><td>ЭДУРМ (הדורם) ?</td><td>АУЗЛ (אוזל) ?</td><td>ДКЛЕ (דקלה) ?</td></tr>
<tr><td>ЭУБЛ (עובל)</td><td>АБІ-МДЛ (אבי־מאל) ?</td><td>ШВА (שבא) ?</td><td>АУФІР (אופיר) ?</td><td></td><td>ХУЙЛЕ (חוימה) ?</td><td>ЙУББ (יובב) ?</td></tr>
</table>

*Яны чічацца за знікшыя плямёны арабаў.*

У далейшым біблейскім развіцці толькі што прыведзеных трох сухіх таблічак, мы маем вельмі цікавы прыклад сярэднявечнага стварэння гісторыі без гістарычных дакументаў, грунтуючыся на наступным простым спосабе:

– Кім заснаваны Пецярбург?

– Пятром – адказваюць вам.

– Кім заснаваны Яраслаўль?

– Яраславам.

– Кім Кацярынаслаў?

– Кацярынай.

– Кім Масква?

– Мосахам – адказвалі нашы продкі аж да пачатку XIX стагоддзя[391] і не без падставы: так ужо звалі заснавальніка Масковіі грэкі, якія ўзялі гэта із біблейскага

---

[390] Імя другога сына Лота (латініяніна) Бені-Імун я перакладаю – сын Этны, так як абодва выказванні азначаюць адно і тое ж. Этна (ἔθνη) азначае «народная», по-жыдоўску ЭМУН. Відаць гэта первоначальное найменне Вені-Аміна.

[391] Забелін. Матэрыялы па гісторыі горада Масквы.

найменьня рускага народа Рос-Мэшэк, г. азн. Рус-Мужык і перарабіўшы літару *Ж* у *С* згодна са сваім звычаем. Адзначу, што Масква і да гэтага часу завецца па-грэцку Мосха (Μόδχα).

А тым часам першапатковая назва сталіцы старажытнай Русі была: вёска Мужыкова, і толькі адсюль з'явіўся біблейскі патрыярх Мэшэк, першы зародак легенды. А для яе далейшага развіцця патрэбна было толькі прыдумаць, як ён мог бы патрапіць у сталіцу Расіі і калі б гэта магло быць.

Аналагічным шляхам утварылася і легенда пра заснаванне горада Рыма.

– Кім заснаваны Рым (Roma)?

– Ромулам – адказвалі італьянскія мысляры, якія называлі Рым – Рома.

– Рэмам – адказвалі ягіпцяне, якія называлі яго Рэмам, ці Рымам.

І вось утварылася легенда пра двух братоў – заснавальнікаў гэтага горада. Але «Ромул забіў Рэма», таму што назва Рым выявілася адсутніючай сярод жыхароў гэтага горада.

Так ствaралася першапчатковая гісторыя без дакументаў, і выдатны ўзор яе мы знаходзім у канчатковай апрацоўцы некім кнігі Быццё.

Тая ж самая рука, якая дадала ў першапачатковы спіс «Быцця» генеалагічныя главы дапатопных і пасьля-патопных патрыярхаў, дадала гады жыцця і для астатніх народаў, ператвораных у асобных людзей і, такім чынам, выпрацавала фантастычную храналогію «Сусьветнай Гісторыі» ад стварэння сьвету да сьмерці Ёсіфа-Прыгожага.

Падобным жа чынам, з дапамогай маленькага ўступу, цалкам самастойная кніга «Сыход» прыведзена ў непраўдзівую храналагічную сувязь з кнігай «Быццё», хаця на самай справе ніякай сувязі яе зместу з папярэднім няма. Павільна кажуць праваслаўныя тэолагі, што біблейскія кнігі напісаны пад дыктоўку «сьвятога духа», г. азн. без апірышча хоць на нейкія старыя запісы ці гістарычныя дакументы. Людзі бачылі на небе спалучэнні сузор'яў і планет і «сьвятое натхненне» тлумачыла ім гэта ў якасьці нябеснага запісу пра прыгоды іхных продкаў, імёны якіх аднаўляліся кабалістычна, грунтуючыся на найменнях розных краін, гарадоў, народаў і грамадзкіх падзей, і вось, «гісторыя ўсяго на сьвеце» была падрыхтавана.

Дзе ж усё гэта было зроблена? Адзін той факт, што еўрапейскія народы ў толькі-што дасьледаваным намі старажытным спісе адны названы прыгожымі і адпавядаюць рэчаісна існуючым, тады як азіяцкія і афрыканскія моцна пераблытаны, паказвае, што спіс прыгатаваны еўрапейцам і ў Яўропе.

## V.
## Заключэнне.

Рэзюмуем жа ўсё сказанае:

1. Уся храналогія дапатопных патрыярхаў дададзена да кнігі Быццё грунтуючыся на астралагічных і кабалістычных меркаваннях; не раней заканчэння сярэдніх стагоддзяў.

Усе легенды Быцця да гісторыі Бацькі-Рыма і яго брата Ізмаіла – амаль выключна астральнага паходжання, так бы мовіць, сышлі з неба на зямлю. А з гэтага моманту, наадварот, ужо самі буйныя падзеі зямнога жыцця народаў падніміліся з зямлі на неба і набывалі астральнае асьвятленне. Бацька-Рыма быў першым рымскім папай, але мы не павінны ўяўляць сабе першапачатковае папства выключна хрысьціянскай установай. Слова *папас* ужывалася для назвы свецка-духоўнага валадара на берагах Тыбра і ў Лацыуме яшчэ задоўга да з'яўлення там хрысьціянства, калі жонка яго сьвятасьці (аўгуста на-лаціне) не была яшчэ царыцай

сусьвету Сарай, а проста чараўніцай Чарай, з яе вэрхаламі і сатурналіямі. А так як падрабязнасьцей пра яе жыццё не захавалася, то яны «аднаўляліся» грунтуючыся на тых жа астралагічных меркаваннях, утвараючы адмысловую сумесь легенд, дзе часта цяжка вызначыць, што ўзята із нябеснага, і што із зямнога.

Калі мы будзем кіравацца нашымі вылічэннямі, то падвойны сон Міц-Рымскага (г. азн. лаціна-эліна-сірыйска-ягіпецкага) валадара пра сем каласоў худых, якія пажэрлі сем каласоў тлустых і не зрабіўшыяся ад таго больш тлустымі, мае дачыненне, да сыходжання планет пад Коласам Панны ў 332 годзе нашай эры. Гэтая нябесная падзея і была прыведзена ў сувязь з наступіўшым праз сем гадоў пасьля яе сямігадовым неўраджаем. Із гэтага вынікае, што Якаў-Богазмагальнік і Ёсіф – адносяцца да першай паловы IV стагоддзя і, накладаючы іх на вядомых нам із іншых крыніц дзеячаў таго часу, мы робім выснову, што Якаў Богазмагальнік налягае ў Бібліі на сына Раваама, які носіць імя Бацька Будучага бога (АВ-ІЕ). Яго сын, якога мы зараз і павінны лічыць за «Будучага бога» носіць імя Аса. Яно з’яўляецца толькі іншым вымаўленнем імя Езус, і яго носьбіт таксама храналагічна налягае на Ёсіфа Прыгожага, прададзенага братам Юдай у рабства, але вызваліўшамуся з яго, дзякуючы сваёй вучонасьці. У Езуса было 12 спадарожнікаў (апосталаў), і ў Ёсіфа было 12 братоў, паралелізм якіх з апосталамі Езуса кідаецца ў вочы. Абодва вялікія дзеячы былі прададзены Юдамі, абодва патрапілі ў вязніцу і пад суд. Із усіх братоў Ёсіфа толькі Бэн-Імін быў маладзейшы за яго, а ўсе апосталы Езуса, акрамя Яна, былі старэйшымі за свайго настаўніка і г. д.

Само сабой зразумела, што ў такіх адасобленых паведамленнях развіваўшыхся незалежна адзін ад аднаго, магчымы і значныя зрухі храналогіі, таму што пасьлядоўнасць падзей у старажытнасьці аднаўлялася ужо пазней грунтуючыся на апавяданнях із трэцціх вуснаў, ці нават больш таго. Так, лічачы здраду Юды за алегарычнае апісанне адпадзення прыхільнікаў Юды (юдэяў) ад апакаліптычнага хрысьціянства Яна Залатавуста і ад пануючай царквы, мы прыходзім да высновы, што брат Езуса апостал Юда, які быў сведкам яго натуральнай сьмерці праз год пасьля яго слупавання, не пагадзіўся са сцвярджэннем не назіраўшага сьмерці Яна, што Езус жывы і хутка вернецца нягледзячы ні на што. Гэта і было, з боку гледжання прыхільнікаў Яна Багаслова, здрадай Езусу, толькі тут, як і ў евангеллях, яна дапасавана яшчэ да часу жыцця Езуса.

У іншых выпадках мы бачым, што падзеі із жыцця спадарожнікаў Езуса часам прыпісваюцца яму самому. Так, прыгода Ёсіфа з жонкай царадворца адпавядае хутчэй прыгодзе Яна Залатавуста з імператрыцай Еўдакіяй, якая за нешта раззлавалася на яго. А потым Ян узвысіўся незвычайна, як і ў легендзе Ёсіф пасьля зняволення.

Тут падабенства вельмі выразнае, а ў іншых выпадках, маючых дачыненне да замежных падзей, мы нярэдка сустракаем вялікія анахранізмы.

Так, у гісторыі Ізмаіла-аравіцяніна з яго маці Геджрай і «богам прывідам», які адкрыўся ёй каля студні ў пустыні, мы бачым сімвалістыку падзей, меўшых месца пры Магамету не раней 622 года, а яны атаясамляюцца тут з падобным на яго арыянствам і аднесены разам з ім да часоў Бацькі-Рыма.

Хто тут мае рацыю? Няўжо Магамет лічыцца ў Бібліі толькі прапаведнікам арыянства ў Аравіі, а не самастойным настаўнікам, ці гэта толькі анахранізм? Хутчэй – так. Але ў такім выпадку час складання кнігі Быццё быў ўжо не раней VIII стагоддзя, нашмат пазней часу складання прароцкіх кніг Бібліі, дапасуемых

намі астранамічна да V стагоддзя. Там усюды яшчэ фігуруе лацінскі бог Іеве (Iovis), маючы напісанне ў складаных словах ЙЕ, ці ЙЕУ, а адзінкава І-ЕУЕ г. азн. І-Існы (на-лаціне І-Патар ці Юпітэр). А тут, у Быцці, мы ўжо усюды бачым для бога арабскае ЕЎ, Ала і Алахі. Дакладна так жа ў пракокаў «народ боскі», г. азн. правaверны, усюды мае назву выключна богазмагальнік (Ізра-Эль), ды богаслаўны (Юда), а тут мы часта сустракаем слова юдэй, г. азн. перасяленец, і гэта прымушае думаць, што кніга Быццё закончана ўжо ў Іберыі (г. азн. краіне перасяленцаў, у Гішпаніі).

Я не буду згадаць пра іншыя анахранізмы ці блытаніну гістарычных і геаграфічных уяўленняў аўтараў кнігі Быццё: яны непазбежны пры першых спробах стварэння сусьветнай гісторыі. Непараўнальна ж больш буйныя анахранізмы і блытаніна існуе, як я тут паказаў, у нашых уласных уяўленнях пра старажытныя падзеі. Кніга Быццё – гэта толькі гістарычная казка, першая напалову-музычная кампазіцыя чалавечай думкі, задуманая і збольшага геніяльна выкананая пры акампанеменце нябесных сьвяціў.

# ЭПІЛОГ

## Чароўныя казкі



Мал. 161.

*Псеўда-Ерусалім у Эль-Кудсе, дзіўнае стварэнне значнага горада ў пустыні мільёнамі хрысьціянскіх і месіянскіх паломнікаў і мецэнатаў. Выгляд раніцай з «Елеонскай горы» (із кнігі Ферара Жіш Езуса Хрыста).*

# ГЛАВА I.

## Чароўная казка пра старажытную Фінікію з яе вялікімі гарадамі Цірам і Сідонам.

Выспа на моры ляжыць, горад на выспе стаіць,

З золатагаловымі царквамі, з церамамі і садамі,
І сядзіць там цар Гвідон – ён даслаў табе паклон.
А. Пушкін.

Ці мог нехта некалі ў рэчаіснасьці пабудаваць такі горад «сярод мораў»?

Вядома, мог, але толькі ў чароўнай казцы.

Для таго, каб падобны горад меў магчымасць рзвозіць тавары па ўсіх морах, патрэбна было не толькі ездзіць за імі ў далёкія краіны, але і нешта вырабляць у сябе дома для вывазу. А для гэтага патрэбна было аднекуль дастаўляць у яго сыравіну і харчовыя прадукты для харчавання шматлікага насельніцтва.

– Але – запярэчаць мне ўсе наіўныя летуценнікі, якія прызвычаіліся лётаць сваімі думкамі за аблокамі і не заўважаць жорсткіх умоваў рэальнага жыцця людзей – чаму б і сапраўды дзейным жыхарам якога заўгодна месца не набудаваць караблёў і не пачаць на іх перавозіць тавары із адной аддаленай ад іх краіны ў іншую, таксама аддаленую, атрымваючы прыбытак за правоз? Была ж Венецыя пасярод мораў. Хіба не так яна гандлявала?

Вядома, не так.

Уся гісторыя развіцця мараходства і тэхніка караблебудавання ішла не згодна з чалавечымі самавольнымі жаданнямі, а ў залежнасьці ад геафізічных умоваў дадзенай мясцовасьці, як і ўся эвалюцыя чалавечай культуры. Гэта паказаў яшчэ ў 1858 годзе заўчасна памёршы для навукі вялікі гісторык Томас Бокль у няскончанай ім «Гісторыі цывілізацыі». Бо караблебудаўнічая ж тэхніка ніколі не магла развіцца адразу дзякуючы ўзмаху чароўнай палачкі; першапатковае ж плаванне няўхільна павінна было пачацца на бервяне, потым на плыце з падштурхоўваннем з дапамогай шаста на неглыбокіх месцах, потым з вяслом, потам з ветразем у чоўне амаль па волі вятроў. Потым, і прытым ужо у стагоддзе жалеза і сталі, калі былі вынайдзены сталёвыя пілы для гатавання дошак і сталёвыя сверлы для гатавання дзірак, каб змацоўваць дошкі утычкамі да рэбраў каркасу, пачалі плаваць на кілявым ветразевым караблі з рулём і сістэмай ветразяў, здольнымі весьці такі караблік зігзагамі нават супраць ветру... Але і гэта (без компаса, вынайдзенага Флавіа Джайо толькі ў 1300 годзе нашый эры) магло дапамагчы толькі для прыбярэжнага плавання, якім і было ўсё старажытнае і сярэднявечнае мараходства, што бачна нават на мапах XV стагоддзя, на якіх моры паказаны такімі вузкімі, што больш падобны на рэкі (гл. мал. 162), чым на моры.



Мал. 162.

*Зямное кола згодна з ўяўленнямі самых адукаваных людзей нават у XV стагоддзі (!) Вялікая «сусьветная мапа» Борджыа, адгравіраваная згодна з яго заказам на медзянай дошцы. Глядач глядзіць з паўночнага боку на паўднёвы, а не наадварот, як зараз у нас. Сумежна з Прусіяй пазначана ў Яўропе і Расія з Татарыяй (Tartaria).*

Прыміце ўсё гэта да ўвагі, і тады з першага погляду на сучасную (а не на гэтую старажытную) мапу вы паведаміце, не вывучаючы гістарычныя кнігі, усю агульную гісторыю мараплаўства і пакажаце ўсе яго пасьлядоўныя цэнтры. Яна ўся напісана выгібамі берагавой лініі зямных мораў і выпукласьцямі іхнага дна.

Мараплаўства на ўзроўні плавання на чаўнах магло ўзнікнуць толькі на архіпелагах, дзе прыдатныя для жыцця выспы размешчаны на адлегласьці бачнасьці адна ад другой. Але адной гэтай умовы яшчэ не было дастаткова для яго далейшага развіцця.

Калі асобны архіпелаг знаходзіцца вельмі далёка ад іншых архіпелагаў ці марскіх заліваў, прыдатных для таго каб схавацца ад буранаў, то яго мараплаўства ніколі не ў зможа перайсьці на новую ступень, больш высокую, чым чоўнавае. Такім быў яго лёс у нагрувашчваннях выспаў Ціхага акіяна, ды і ў Індакітайскім нагрувашчванні было не лепш, таму што аднастайнае багацце прыроды і мяккі клімат, не патрабаваўшы адзення, не давалі там нагод для чалавечай дзейнасьці ў накірунку абмену стварэнняў сваёй краіны на чужыя. Нават і ў Японскім архіпелагу мараплаўства да прыходу еўрапейцаў заставалася на вельмі нізкім узроўні.

Толькі ў адным Грэцкім архіпелагу, дзе недалёка размяшчаліся краіны, валодаючыя разнастайнымі мінеральнымі багаццямі і разнастайнымі, прывабнымі для старажытнага насельніка, прадуктамі расьліннага сьвету, як, напрыклад,

ягіпецкія фінікі, баваўняна-папяровыя тканіны, цукровы трыснёг і іншае, геафізічныя ўмовы выявіліся прыдатнымі для хуткай эвалюцыі суднаходства. Вось чаму першы цэнтр марскога гандлю, а з ім і разумовай культуры, няўхільна павінен быў стварыцца ў Афінах, як месцы, дзе сутыкаліся і кантынент, і мора, і дзе, акрамя таго, можна было жыць у бяспецы ад рабаўнічых нападаў дзікіх качэўнікаў, распаўсюдзіўшыхся па азіяцкаму ўзбярэжжу. Толькі тут тэхніка мараплаўства змагла развіцца да наступнай за ёю больш высокай прыступкі, да больш далёкіх прыбярэжных вандровак у Смірну, Басфор і Антыёхію, дзе патрэбнасць тагачасных мясцовых качэўнікаў у ласунках і добрых тканінных вырабах павінна была даць новы імпульс развіццю грэцкай прамысловасьці і марэннага гандлю.

Але вось значна развіўшаяся мараходства грэкаў дасягнула да ўтокаў Нілу, з аднаго боку, і да ўтокаў ракі По – з другога. На ўрадлівых раўнінах іхных басейнаў ужо ўтварыліся адмысловыя культуры; выпрацавалася на падставе лішкаў матэрыяльнай вытворчасьці пачатковая мясцовая інтэлігенцыя, якая, спачатку здзівіўшыся да жаху першаму з'яўленню каля сваіх берагоў яшчэ не бачаных імі караблёў для далёкага плавання, услед за тым азнаёмілася з іхнай вытворчасьцю, пераканалася, што тут няма ніякага чараўніцтва, і хутка зразумела, што сама яна ў стане стварыць такія ж, калі не лепшыя, караблі, і паступова выканала гэта. Такой была пераемная эвалюцыя аднаго із самых важных адгалінаванняў чалавечай культуры.

Стварыліся адзін за адным два новыя цэнтра марскога гандлю – Александрыя на выспах паміж пратокамі Нілу і Венецыя на выспах пры вусьці ракі По...

Чаму на выспах, а не на беразе? Дзякуючы той жа самай нагодзе – параўнальнай бяспечнасьці ад нападаў суседніх дзікуноў, прагных на захопу чужой маёмасьці. Але гэтыя выспы былі не каля пустыных берагоў, а ва ўтоках вялікіх рэк, служыўшых для сплаву вырабаў самых багатых раўнін зямнога шару.

Пачаўся абмен мануфактурнымі прадуктамі, прылягаючых заможных раўнін на розныя рэдкія вырабы астатніх прыбярэжных краін, і берагавое мараходства абодвух гэтых цэнтраў марскога гандлю дасягнула, нарэшце, да берагоў Гібралтара, старажытных Геркулесавых слупоў, як бы пастаўленых на варце магутнага акіяна.

Не быдуючы яшчэ здольным праходзіць доўгія дыстанцыі марскіх шляхоў без частых прамежкавых портаў з прэснай вадой і харчаваннем, юнае акіянскае мараплаўства таго часу не магло адразу ж дасягнуць да ўтокі Конга і да мыса Добрай Надзеі ў Афрыцы і накіравалася на поўнач, стварыўшы па шляху цэнтры ў Лісабоне, Лондане, Амстэрдаме...

Тут мы ўсюды бачым тры неадменныя геафізічныя ўмовы для другой стадыі эвалюцыі мараплаўства: злучэнне ўрадлівай раўніны з морам і гаванню ва ўтоках вялікай ракі, дастатковую блізкасць іншых прыбярэжных портаў і месцаў сховішчаў ад буранаў, і параўнальную бяспеку ад нападу варвараў і драпежнікаў.

Ці існавала нешта падобнае калі-небудзь на Сірыйскім беразе Міжземнага мора? Ці магла сучасная вёсачка Сур, каля якой не існуе нічога нагадваючага пра існаванне гандлёвага порту нават сярэдняй велічыні, быць за тры тысячы гадоў да нас цэнтрам вялікага сусьветнага гандлю, «Вялікім Цірам», караблі якога праходзілі ўсё Міжземнае мора? Ці мог некалі сучасны глухі гарадок Сайда, з 15 000 жыхароў, быць легендарным Вялікім Сідонам?

Пагледзіце на геаграфічную мапу (мал. 169) і яна вам дасць зараз жа такі адказ:




Мал. 163.

*Наваколле Сірыйскага мястэчка Сайда, выдаваемага за парэшткі старажытнага Сідона. Паменшаны пераздымак з мапы ангельскага адмілартэйства № 2794. Поўная немагчымасць існавання тут надзейнага парта. Глыбіня мора паказана ў футах.*



Мал. 164.
*Сярэднявечная цытадэль мястэчка Сайда, што выдаваемага за знакаміты старажытны Сідон (із Тайка Сьвятая Зямля).*

– Шукайце іх дзе заўгодна, але толькі не тут.

Зірніце на ўсё гэтае ўзбярэжжа: дзе там сховішча для вялікага флота, дзе заможная ўрадлівая раўніна з вялікай ракой, зручнай для падвозу да яе ўтокі вырабаў прыдатных для шырокага гандлю? Дзе тут можа быць наладжаны док для пабудовы і рамонту караблёў?

Прыгледзімся спачатку да псеўда-Сідон.

Вось вынятка із Марской Лоцыі Джона Пардзі пра гэтае мястэчка на Сірыйскім беразе, з маімі заўвагамі да яе ў дужках[392].

* * *

«Сяідэ ці Сайда ў 19 мілях SSW$^1/_2$W (StW$^1/_2$W) ад мыса Бейрут, на шыраце 33° 23' 44''.

У 1818 годзе ў горадзе было да 1 600 жыхароў, ды ў наваколлі да 8000. Сядзібы пабудаваны трывала із каменя, шмат якія ад старасьці прыйшлі ў заняпад. Горад амаль аточаны вадой; на поўдзень ад яго невялікая бухта.

Месца, займаемае горадам, мае выгляд авала; доўгія бакі яго цягнуцца да паўночнага ўсходу і паўднёвага захаду. Два умацаванні абараняюць горад і бухту. Мол, ледзь заўважаемы ў наш час, складаў раней (невялікі) порт, зараз цалкам занесены пяском. У горадзе шэсць (толькі!) шырокіх ханаў (заездных двароў), пастаянна занятых вандраўнікамі і багамольцамі. Жыхары гандлююць бавоўнай, шоўкам і лекавымі расьлінамі, атрымліваючы рыс і каву із Ягіпта. Чума лютуе тут часам з жахлівым размахам. Навакольная даліна пакрыта садамі і аточана ўзвышшамі, за якімі ўзвышаюцца снежныя горы. Вуліцы вузкія і брудныя, але горад здаровы.

«У Сяідзе няма парэшткаў ранейшай (уяўляемай аўтарам!) велічы; замак, злучаны мастам з мацерыком – старая пабудова, але пабудаваны ужо пасьля эпохі велічы Сідона. Караблі звычайна прычальваюць у глыбіні, каля замка.

«Набліжаючыся да Сяіды, на поўначы пабачыце высокі бераг. Горы ідуць двума радамі. Бераг на поўдзень не такі высокі; каля паўднёвага ўскрайку высокага падвойнага хрыбта і знаходзіцца горад

«Перад портам размешчана мястэчка, маючае назву «Саляное». Караблі звычайна кідаюць якар да ўсходу, бяруць кабельтаў (і прымацоўваюцца канатам) за камяні на выспе, знарок высечаныя для гэтага. Даўжыня выспы ад поўначы да

[392] Лоцыя Гібралтарскага праліва і Міжземнага мора, змяшчаючая берагі Гішпаніі, Францыі і Італіі; выспы Балеарскія, Сіцылію, Корсіку, Сардзінію і Мальтыйскія; Адрыятычнае мора; узбярэжжа Карманіі, Сірыі і Афрыкі, з апісаннем маякоў і табліцамі шырот і даўгот галоўных пунктаў. Складзена Джонам Пардзі. Пераклаў з ангельскай лейтэнант І. Шастакоў. 1846. (Дастаўлена мне геолагам Г. І. Фрэдэрыксам.)

поўдня не больш за тры кабельтавыя (300 сажаняў), шырыня каля 50 (!) сажняў, узвышаецца над вадой на 15 футаў; выспа размешчана на $^3/_4$ мілі ад мацерыка і дастаткова абараняе стаячыя за ёй караблі. Зайшоўшы за выспу, не бярыце вельмі шмат да поўдня, таму што ад паўднёвага краю выдаецца рыф; а каля паўночнага краю мелка на адлегласьці 40 ці 50 сажаняў. Завярнуўшы на адзін кабельтаў (100 сажняў) за паўночны ўскраек выспы, кідайце якар за 6 ці 7 сажняў і замацуйцеся за камяні; стаянка спакойная пры ўсіх вятрах. Паміж горадам і выспай глыбіня няправільная: некалькі паўднёвей выспы – каля $8^1/_2$ сажаняў, паміж ім і замкам – $2^1/_2$ сажані; праход вузкі і грунт камяністы.

«У горадзе немагчыма налівацца вадой, таму што вялікая шлюпка не можа падыйсьці да берага. Каля $1^1/_2$ мілі на паўнач ад замка цячэ рэчка; калі хто мае намер наліцца вадой, лепш усяго стаць насупраць вусьця рэчкі, на 7 сажанях; грунт – глей.

Фрукты, мяса і гародніна вельмі танныя; жыхары міралюбныя» (стар. 543).

* * *



Мал.165.
*Саркафаг мясцовага квязька Эшму Назарэя, ягіпецкага тыпу, знойдзены ў наваколлі Сайды ў 1855 годзе (із Гейкі Сьвятая Зямля).*

Дадам ад сябе, што гэтае сучаснае сірыйскае прыморскае мястэчка Сайда, імя якога азначае «рыбак», размешчана на поўдзень ад утокі несуднаходнай рачулкі Нар-Эль-Авалі ў вузкай паласе прыморскай раўніны. Галоўны сродак яго існавання – сады, якія далёка цягнуцца да поўначы і даюць для вывазу апельсіны, лімоны, абрыкосы, бананы, міндаль.

Із яго гісторыі несумненна праўдзіва толькі тое, што ў 637 годзе яно здалося арабам без супраціўлення, як і патрэбна было чакаць згодна з яго географічным становішчам (гл. яго план, мал.163), а падчас крыжовых паходаў яно пераходзіла із рук у рукі, як умацаванае месца на шляху ў Антыёхію із Ягіпта, дзе маглі папутна адпачыць і назапасіцца вадой як гандлёвыя так і вайсковыя, не глыбока прасядаючыя караблі. На пачатку XVII стагоддзя пры эміру друзаў Фахр-Эддыну ён служыў гаванню для Дамаска і гандляваў шоўкам, пры чым яго падтрымліваў і ягіпецкі ўрад. А як самастойны цэнтр буйнога гандлю ён цалкам не быў вядомы, так (як мы і бачым згодна з яго геафізічным размяшчэннем) і не мог ім быць.

Перад сваёй здачай арабам ён быў пад кіраваннем Эліна-Ягіпецкай імперыі і служыў таксама прамежкавай гаванню і апорным пунктам для пратэктарства над Сірыяй. Ніякіх сур'ёзных доказаў на існаванне тут нечага большага, чым маленькае аўтаномнае княства, мы не маем у праўдзівай гісторыі наваколля гэтай Сайды. У 1855 годзе тут быў знойдзены базальтавы чалавекападобны саркафаг ягіпецкага

вырабніцтва, захоўваемы зараз у Луўрскім музеі (мал. 165). На ім надпіс ад імя Эшму-Назарэя, што ён тут княжыў 14 гадоў і памёр хлопчыкам, пабудаваўшы храмы Астарце (Зорнай) і Бэлу (Грамабою) Сайды, і што за старанную выплату падаткаў цар-цароў падараваў яму пышныя Саранскія хлебныя палі.

«Здзіўлены я, спадкаемца дзён герояў, сышоў у пекла, сын бога смерці, і ляжу ў гэтым саркафагу» – паведамляе там пісар ад яго імя.

Заканчэнне ж надпісу паведамляе, што той, хто абразіць яго парэшткі, не знойдзе заспакаення ў рэфаімаў (геніяў).

Але своечасовая выплата падаткаў яшчэ нічога нам не паведамляе на карысць сведчання пра былую веліч горада Сайды, у наваколлі якога і да гэтага часу не знойдзена ніякіх прыкметаў велічы. Нават парэшткі апісанага ў лоцыі мола і сьцен каля яго гавані Елка-Міна – сярэднявечнага паходжання.

Зразумела, што легенды пра яго сусьветнае значэнне маюць нагодай блытанне яго з ім нейкага іншага горада, які, сапраўды, мог быць вельмі вялікім у гісторыі.

Паглядзім зараз безстаронне і на Тыр.

Вось што паведамляе пра яго тая ж ангельская лоцыя.

* * *

«Сур ці Сір у 19 мілях ад Сайды, на шыраце 33° 17' і даўгаце 35° 14'. Ранейшы горад (г. азн. Цір) «цалкам знік» (а па-нашаму яго тут ніколі і не было). Навейшы (?) размешчаны на камяністай выспе, злучанай з матэрыком перасмыкам. Пабудовы аточаны сьцяной, жыхароў да 2 000. Галоўныя рэчывы гандлю: тытунь, вугаль, сушаныя фігі і дровы. У горадзе існуе гаршочны завод (вось і ўся культура!) і на беразе – тоні для лоўлі рыбы. Вуліцы не шырэй 8 футаў, кірмашы бедныя. Порт, дапускаючы толькі лодкі, выдаецца на 90 футаў (усяго 13 сажняў!) ад берага і цягнецца на 150 футаў (усяго 21 сажані!) уздоўж яго. З поўначы месца абаронена молам, а ад усходу і захаду – ускрайкамі, забудаванымі сядзібамі. Заможныя купцы старажытнага Ціра пертварыліся ў бедных рабоў! (наіўна дадае аўтар).

На ўсход ад горада цягнуцца пяшчаныя ўзгоркі. У таго ж боку, паблізу ад сьцен – дзьве вежы. Наваколле пакрыта пяском, задзірванелым.

«Лесвіца тырыйцаў» высечана ў стромкім уцёсе, паднімаючымся на некалькі сот футаў над паверхняй мора. Згодна са сведчаннямі вандраўнікоў, гэта – справа Аляксандра Вялікага. У трох мілях на поўдзень ад Сура і на адлегласьці 75 сажаняў ад берага – студня Саламона (вось і ўся вада!), глыбіня яе 25 сажаняў; але вада пераліваецца праз краі ў сумежны рэзервуар і з яго ў канал, на якім пабудаваны два млыны (вось і ўся культура!). Каля другой студні – другі меншы.

«Караблі заходзяць у сурскі рэйд з поўначы, асьцерагаючыся камянёў, размешчаных на захад і пакідаемых справа. Можна наблізіцца блізка да горада і спыніцца на 5, 4 і 3 сажанях. Тут караблі абаронены ад усіх вятроў, акрамя паўночных.

«У 13 мілях на SWTS (SSW) ад Ціра – мыс Бланка, высокая вапнавая скала, белая, падобна крэйдзе. Царква на вяршыні мыса і вежа каля падэшвы яго паўночнага схілу служылі раней прыкметнымі паказальнікамі мясцовасьці. На 3 мілі ад мыса мелка і грунт камяністы.

«У 5 мілях паўднёвей мыса Бланка – вёсачка Зыб ці Акаіб, якая лічыцца за біблейскую Аку (кнігі Суддзяў, 1, 31).

«З мора мыс Бланка здаецца ўмеранай вышыні і плоскім з белымі плямамі на заканчэнні. Ад WSW горад паказваецца на палове схілу мыса; у той жа час бачны горад Акра і гара Кармель» (стар. 545).

* * *

Да гэтага ад сябе мы можам дадаць, што сучаснае сірыйскае прыморскае мястэчка Сур, атаясамляемае з легендарным Вялікім Цірам (біблейскі Цор, г. азн. Цар-горад, а не Скала (Сур), як гэты), быў цудоўным у якасьці прыморскага ўмацавання на шляху берагавога плавання із Ягіпта ў Антыёхію і далей, але быў цалкам не прыдатны для самастойнага буйнага цэнтра гандлю. Пад час сярэдніх стагоддзяў ён лічыўся непрыступным з сушы, пакуль была магчымасць падвозіць да яго морам харчаванне і чыстую ваду, якой у горадзе не было. З мора ж пры дэсантаванні дастатковага атраду яго лёгка было ўзяць, што і было зроблена падчас крыжовых паходаў Балдуінам II пры дапамозе венецыянскага флоту ў 1124 годзе. Горад у гэты час гандляваў толькі шклянымі вырабамі, і тут крыжакі заснавалі франкскую епархію. Але калі энергічная падтрымка венецыянскім флотам паслабела, ён лёгка быў зноў узяты мусульманамі з боку перасмыка ў 1291 годзе і зноў прыйшоў у заняпад, нягледзячы на ўсе намаганні Фахр-Эрдына падтрымаць яго.




Мал. 166.
*Узбярэжжа Сірыі паблізу мястэчка Сур, які лічыцца за старажытны Цар-Горад (Цур, у грэцкім вымаўленні Цір). Паменшаны пераздымак з мапы Ангельскага адміралтэйства № 2903.*

Вось і ўсё праўдзівае, што мы ведаем пра ранейшую гісторыю гэтага Сура-Скалы. На падставе самых элементарных геафізічных меркаванняў даводзіцца прызнаць, што гэтае мястэчка і раней ніколі не было нічым іншым, акрамя эліна-ягіпецкага Гібралтара. Гэта была проста вайсковая застава і месца адпачынку на марскім шляху, і ім карысталіся для збірання падаткаў з праходзіўшых побач караблёў берагавога плавання. Легендарны старажытны Цір, г. азн. Цар-горад, быў толькі дзякуючы непаразуменню атаясомлены з гэтым мястэчка, не маючым з ім нічога агульнага, і таму ўсе згадванні пра яго, як, напрыклад, у папірусе Анастаса I, сведчаць толькі пра тое, што дакумент выраблены пад час сярэдніх стагоддзяў, а не пад час сапраўднай старажытнасьці.

Ні геаграфічныя ўмовы (адсутнасць ракі і прэснай вады), ні геалагічныя асаблівасьці (ўмовы размывання морам мелавых напластаванняў) не даюць ніякай магчымасьці дапусьціць, каб тут некалі быў горад большы чым той, які мы назіраем зараз.

І вось нас пераконваюць галасы памёршых із глыбіні сярэдніх стагоддзяў:

– Не верце ні лоцыям брытанскага марскога міністэрства, ні геафізічным мапам, ні сваім уласным вачам і розуму: у гэтых дзвюх, абдзеленых прыродай мястэчках, на гэтай вузкай берагавой паласе паміж Ліванскімі гарамі і Міжземным морам за тры тысячы гадоў да вас, размяшчаліся два людныя, самыя культурныя ў сьвеце дзяржавы з магутнымі і высокаадукаванымі царамі на чале, улада якіх была абмежавана сьвятарствам і дваранствам. Іхныя жыхары, якія кішэлі як мурашкі, на гэтых рыфах і скалах, хаця б і не могучых згодна з геалагічнымі падставамі служыць арэнай для культурнага насельніцтва, панавалі тысячу гадоў, аж да заснавання Александрыі Ягіпецкай (а чаму б і не пасьля яе?) над усім Міжземным морам. Яны – запэўніваюць нас – заснавалі адсюль асады ў Сіцыліі, Гішпаніі, Паўночнай Афрыцы і выйшлі нават у Атлантычны акіян, аж да Балтыйскага мора. Яны прадавалі жыхарам, культурных цэнтраў тагачаснага сьвету вырабы із чорнага дрэва і са слановай косткі (якую ім нават не было адкуль прывезьці на сваіх рыбацкіх чоўнах), гандлявалі прадметамі раскошы із бурштыну (якога там таксама нідзе няма нават у згадках), пурпурнай фарбай, шклянымі і металічным вырабамі (хаця Ліван і бедны металамі). Іхныя караблі далёкага берагавога плавання лічыліся сотнямі, калі не тысячамі (хаця паблізу няма, ды, напэўна, ніколі і не было вялікіх лясоў са страявых дрэваў, таму што і ў наш час там існуюць толькі адны кедравыя каля вяршыні Дар-Эль-Хадыба, каля 400 дрэваў на вышыні 300 метраў ад узроўню мора).

Зразумела, што ўсё гэта вельмі нагадвае толькі што цытаваную мной казку Пушкіна пра цара Салтана, і застаецца толькі дадаць да ўсяго вышэйсказанага тыя ж словы Пушкіна:

І сядзіць там цар Гвідон, ён даслаў табе паклон!

Адкуль жа магла ўзнікнуць легенда пра Фінікію і яе знакамітыя гарады Цір і Сідон?

Вядома, із той жа Бібліі. Только ў ёй мы бачым першыя згадванні пра гэтыя гарады.

Вось што паведамляе пра Цір ужо разгледжанае намі ў першай кнізе біблейскае прароцтва «Здужае Бог» (па-жыдоўску Іезекі-Іл).

Із гл. 27.

«Заспявай, сын чалавека, жалобную песьню пра Цар-горад (сімвал тыраніі) і скажы яе вялікай цьвярдыні, размясьціўшайся каля марскіх праліваў (якія цалкам адсутнічаюць на Сірыйскім беразе), гандлюючай з насельніцтвам шматлікіх, выспаў:

– «Цар-горад! Твае межы ў сэрцы мора! Із херманскіх (германскіх) кіпарысаў рабілі шырокія дошкі тваіх караблёў, і бралі кедры із Белай гары (Mont-Blane), каб наладзіць табе мачты. З васанскіх дубоў (Bassano паблізу Венецыі) рабілі твае вёслы, а лавы тваіх весляроў, упрыгожаныя слановай косткай, выраблялі із кіпрскіх букавых дрэваў. Міц-рымская ўзорыстая тканіна ўжывалася для вырабу тваіх ветразяў і сьцягоў. Яхантавымі і пурпурнымі фарбамі з грэцкіх выспаў фарбавалася твая палуба; жыхары Сідона і Арада[393] былі тваімі весьлярамі! Твае мудрыя, Цар-горад, служылі тваімі стырнікамі,

---

[393] «Стары Арад» і да гэтага часу існуе як вольны горад у Вугоршчыне, на рацэ Марошы, у 145 мілях ад Будапешта. У ім жыве шмат жыдоў са спрадвечных часоў. На прыканцы XIX стагоддзя іх было там больш 5000 чалавек; залатых спраў майстры, гарбары, кандытары, кушняры, бондары, гадзіншчыкі, кавалі, мылавары, слесары, краўцы, лекары і г. д., а ўсіх жыхароў да 40.000, але гебраісты лічаць горад Арад за Руад.

старэйшыны Гебала, майстэрскія караблебудаўнікі, латалі твае прабоіны; Парс (ПРС), славянін (ЛЮД) і негр знаходзіліся ў тваім войску; яны вешалі ў цябе свае шчыты і стваралі тваю веліч. Тартэс (у Гішпаніі) быў тваім гандлёвым хаўруснікам і даваў табе наўзамен тваіх тавараў сваё срэбра, жалеза, волава і свінец (з гішпанскіх рудняў). Жыхары Грэцыі, жыхары Балкан і Русі (Рос) гандлявалі з табой, прадаючы табе рабоў і медзяны посуд; германцы дастаўлялі табе ваярскіх коней і рысакоў (на якіх тут няма дзе ездзіць!) наўзамен тваіх тавараў, і шмат аддаленых марскіх выспаў служылі рынкам для цябе, дастаўляючы табе слановую костку і чорнае дрэва.

Сірыйцы давалі табе разнастайныя пурпуровыя, узорыстыя і расквечаныя тканіны, тонкае палатно, карбункулы і чырвоныя каралы за шматлікія твае (?) вырабы із каштоўнага камення. Сама Багаслоўная зямля і краіна Богазмагальніка гандлявалі з табой і плацілі за твае тавары пшаніцай, музычнымі прыладамі, духмяным дрэвам, мёдам, маслам і бальзамам; Дамаск прадаваў табе віно із Хелвона і поўсць бліскучай бялізны; Дан, Грэцыя і Масул давалі табе наўзамен сталёвыя вырабы, касію і духмяны трыснёг; дарданелец, гандляваў з табой пышнымі ўборамі для вярховай (!) язды; Аравія і ўсе князі бедуінаў прадавалі табе ягнят, бараноў і казлоў: купцы са Швы (ШБЕ) і Рэмы дастаўлялі табе нўзамен самыя лепшыя водары, каштоўныя камяні і золата; Харан (ЕРН), Канэ, Эдн Краіна Правадыра, Келмад давалі наўзамен табе свае апанчы, цюкі пурпуровых і шматкаляровых тканін, лепшыя шалікі, спакаваныя вяроўкамі ў кедравых скрынях...

«І ты. Цар-горад, абагаціўся і стаў надзвычай знакамітым на морах. Весляры твае вадзілі цябе па шырокіх водах, але ўсходні (?!) вецер паб'е цябе сярод мора, і сыдуць з тваіх караблёў весляры і стырнікі, і высадзяцца на бераг, і залямантуюць пра цябе гучным голосам. Пасыпаўшы попелам свае галовы і зваліўшыся на зямлю, яны будуць выкрыкваць у сваёй гаротнасьці:

– «Хто быў, хто гэты Цар-горад, які стаў зараз месцам мёртвай цішыні сярод мора»!

«І не будзе цябе больш ва-векі» (Іезекі-Іл гл. 27.).

Ці не смешна ўсё гэта, калі мы спрабуем таясаміць гэтыя ўхвалы з толькі што апісаным мястэчкам ангельскай лоцыі? А вось і яшчэ не лягчэй у таго ж Іезекііла.

Із. гл. 28.

«Сын чалавека! Паведамі галоўнаму ўладару Цара-горада:

– «Твой розум заганарыўся, ты кажаш: Я бог! Я паважна сяжу на боскім пасадзе, сярод мораў (*у Візантыі*?)». Але ты чалавек, а не бог, хаця і ставіш сваю мудрасць нароўні з розумам бога. Ты лічыш, быццам ты разумней «Навукі ўсемагутнага» (*Дні-Ал*), і няма таямніцы, невядомай табе? Але я прывяду на цябе варвараў, самых жахлівых із усіх народаў, і яны аголяць свае мячы супраць лепшых твораў твайго мастацтва, і будзе захмураны твой бляск... Так, ты памрэш сьмерцю забітых, у глыбіні мораў, і ці скажаш тады – «Я бог! – перад сваімі забойцамі?

«Заспявай жа, сын чалавека, жалобную песьню пра кіраўніка Цар-горада і паведамі яму:

– «О ты, лічачы сябе пячаткай дасканаласьцей, паўнатой мудрасьці і верхам хараства! Ты жыў у асалодзе, у садзе бога, абсыпаны рознымі каштоўнымі камянямі. Рубін, тапаз, дыямент, бурштын, берыл, яспіс, сапфір, смарагд, чырвоны карбункул і золата складалі ўпрыгожванні тваіх тымпанаў і жалеек. Падобна маёй Калясніцы (*сучаснаму сузор'ю Вялікай Мядзведзіцы*), ты быў памазаны маслам, каб заступацца за іншых. Я паставіў цябе як бы на сваёй сьвятой гары (*скляпенні неба*), і ты як бы хадзіў там, сярод маіх агністых камянёў

(скідваемых *зорак*). I ты быў дасканаласцю ў дзень твайго прызначэння, але, дзякуючы твайму шырокаму гандлярству, тваё нутро напоўнілася няпраўдамі. За гэта я скіну цябе, як апаганіўшагася, з маёй сьвятой гары і знішчу твой сімвал, Калясніцу-Апякунку, пасярод нябеснага камення, зіхацячага полымем. Ад хараства твайго заганарылася тваё сэрца, і дзякуючы ганарыстасьці ты выкарыстаў для зла твой розум. За гэта я скіну цябе на зямлю і выстаўлю на ганьбаванне перад усімі зямнымі царамі.

«А зараз, сын чалавека, павярні твой твар да Лаўца (Сідона) і скажы яму:

– «Вось я іду на цябе – кажа Грамабой – і здабуду славу сярод цябе, калі здзейсню свой суд над табой і выяўлю на табе маю справядлівасць! Я нашлю на цябе моравую язву, і ўпадуць сярод цябе ўражаныя мячом, накіраваным на цябе! Не будзеш ты надалей калючым шыпшыннікам і ўчэпістым цёрнам для палаца Богазмагальніка (*месіянства*), уражаючым яго больш за ўсіх астатніх зларадных суседзяў». (Іез. 28. 21-24.)

Мы бачым, што тут у маім перакладзе няма нічога ні пра Фінікію, ні пра яе гарады – Цір і Сідон. Але цалкам не тое, калі вы прачытаеце сярэднявечны грэцкі і лацінскі пераклады, а з імі і ўсе сучасныя нам царкоўныя. Там жыдоўскае напісанне ЦР[394], г. азн. скарочанае Цэзар ці Цар, як кіраўнік рымскай імперыі, разважлівыя перакладчыкі пакінулі без перакладу і нават літару Ц перарабілі ў Т (бо ў грэцкім альфабэце няма літары Ц, а сярэднявечныя тэолагі, не ведаўшыя жыдоўскай мовы, патлумачылі атрыманае дзякуючы гэтаму слова Цір, як жыдоўскую назву не іхнага ўласнага цар-горада, а нікчэмнай рыбацкай вёсачкі Сур (г. азн. Скалы) на сірыйскім беразе без якога б то ні было намёку на прысутнасць абароненай ад вятроў гавані і без якой бы то ні было геаграфічнай магчымасьці нейкага гандлёвага значэння ў мінулым ці будучым.

Так узнік першы варыянт чароўнай казкі пра некалі вялікі, але даўно загінуўшы, горад Цір на пустыным сірыйскім беразе, нягледзячы на тое, што вышэйпрыведзенае падрабязнае апісанне яго месцазнаходжання каля марскіх праліваў паказвае, што гаворка, хутчэй за ўсё, ідзе пра сталіцу Візантыйскай імперыі, якая ва ўсіх рускіх летапісах і мела назву Цар-горад. Не спраўдзіўшымся біблейскім прароцтвам тэолагі наладзілі штучнае выкананне, выправіўшы Цар-горад на сірыйскі бераг і абвясьціўшы, што ён там даўно загінуў і ад яго зараз засталося толькі нікчэмнае мястэчка Сур, якое і атачылася міфічнай веліччу без ніякіх на гэта падставаў.

Але тлумачальнікі пайшлі і далей.

Акрамя цар-гародзкага «Ўладара» (ён жа Цір ці тыран) у прароцтве Езікі-Іл фігуруе, як мы толькі што бачылі яшчэ адна алегарычная асоба Цыдун, згодна са сваім характарам аналагічная Цэзару, а згодна з гукавым складам свайго наймення роднасная жыдоўскаму напісанню ЗІДУН – напышлівы[395]. Гэтую назва, дапасуемую, відаць, да візантыйскага ці рымскага патрыярха, жыдоўскія перакладчыкі пакінулі таксама неперакладзенай на грэцкую мову, а грэка-лацінскія тэолагі, не ведаючы жыдоўскай мовы, патлумачылі яе, як жыдоўскую назву другога нікчэмнага мястэчка на Сірыйскім беразе – мястэчка Сайда – таксама, як

394 צר (ЦРБ) – скарочанае цэзар, набыло потым сэнс тырана, прыгнятальніка, аднаго кораня з рускім словам цар. Гэта старажытнае слова мае і іншыя адгалінаванні, як грэцкае Кесар, нямецкае Кайзер і г. д.

395 זדון (ЗІДУН) – напышлівы, заўзяты, апантаны. Тут літара ז (дзэт) замянілася роднаснай жыдоўскай зычнай צ і атрымалася צידון (ЦІДУН), што азначае лавец. Гэта, верагодна, было жыдоўскім найменнем візантыйскага патрыярха.

мы бачылі із «Лоцыі», без якой бы то ні было гандлёвай будучыні і без якой бы то ні было геаграфічнай магчымасьці мінулага сур'ёзнага значэння.

Геалагічны характар гэтага ўзбярэжжа паказвае, што такім жа яно было і пры антрапапітэках.

Вось якім было першапачатковае зерне дайшоўшай да нас чароўнай казкі пра Цір і Сідон і пра быццам бы атачаючую іх заможную краіну – Фінікію, сама назва якой – краіна фінікаў – цалкам не дапасуе да гэтай мясцовасьці, а толькі да старажытнага Ягіпта.

Вельмі цікава прасачыць, грунтуючыся на першакрыніцах, г. азн. на біблейскіх сведчаннях, развіццё гэтай легенды, заснаванай на чыста моўным непаразуменні.

Акрамя прароцтва «Здужае-Бог» (Езікі-Іл), напісанне ЦР (Цар) і ЦІДУН (напышлівы) ужываюцца і ў іншых кнігах жыдоўскай Бібліі.

У Першай кнізе «Закінутых спрааў» (І Параліпаменан, 1, 1-13) патрыярх Цідун завецца першынцам Прадаўца тавараў (КНЕН'а), хамскага сына, што паўтараецца і ў кнізе Быццё (10,15).

У сэнсе горада слова Цідун існуе і ў кнізе «Езус», дзе паведамляецца (19, 28-29), што «межы дзяцей» Правадыра, (г. азн. германскага ўладара) распасьціраліся да Вялікага Сідона і «Ўмацаванага Цара-горада (Венецыі і Канстантынопаля?).

У першай кнізе Цароў гаворыцца, што Саламон (Канстанцый Хлор) узяў да сябе із Цар-горада сына «адной удавы», бацька якога валодаў майстэрствам вырабляць розныя рэчы із медзі (1. 7).

Ездра паведамляе, што пасьля вяртання багаслаўных на сваю радзіму з дазволу «Цара-Бога» (Кіра[396]) царскія слугі пачалі выдаваць срэбра каменачосам і цеслярам, а таксама ежу, пітво і драўлянае масла «ціранам і сіданянам», каб яны (для пабудовы храма ў Ерусаліме) сплаўлялі кедравы лес па моры ў Яфу (3. 7). Тут гаворка ідзе ўжо, відавочна, пра сірыйскія мястэчкі Сур і Сайда, а не пра «вялікія і зможныя гарады» біблейскіх пракаў, ды і пад Ерусалімам тут патрэбна разумець сапраўдны Эль-Кудс сярэдніх стагоддзяў, а не цэнтр сусьветнай культуры. Толькі ён тут не аднаўляўся на месцы Старога Ерусаліма, а будаваўся нанова дзякуючы непаразуменню, і «богаслаўныя» толькі ўяўлялі, што вяртаюцца на сваю радзіму.

А Ніямія самазадаволена паведамляе яшчэ, як ён зрабіў вымову найбольш шляхетным із «богаслаўных» за тое, што ў наваколлі Ілжэ-Ерусаліма яны выціскалі па суботах із вінаграду віно, вязалі снапы, перавозілі з палёў смоквы і розныя цяжкасьці, і «ціране», жывучы там, прывозілі да іх рыбу і кожны тавар і прадавалі яго таксама па суботах (13. 15-16).

Тут уяўляе цікавасць згадванне пра «цара Бога», пад імем якога даводзіцца разумець, як мы ўжо бачылі (кн. першая), ці пярсідзкага цара Хазроя І, Справядлівага, які жыў паміж 531-579 гадамі вашай эры, ці нават знакамітага Гарун-Аль-Рашыда (пам. 809 г.). Яно паказвае, што масавае перасяленне «жыдоў» у Палестыну было не раней другой паловы VIII стагоддзя. Мястэчкі Сур і Сайда ў той час былі амаль такімі ж глухімі, як і зараз. Ды ў Ніяміі і не паведамляецца, каб яны гандлявалі «золатам, срэбрам і каштоўнымі камянямі», а толькі рыбай, што і зараз робяць мясцовыя бедныя рыбакі. Гэта служыць лепшым падцверджаннем праўдзівасьці кнігі Ездры і Ніяміі і іхнага стварэння ў VIII стагоддзі, калі Ерусалім,

[396] Кір па-грэцку – па-жыдоўску כורש (КУРШ) – Бог.

як рэчаісная ці ўяўная радзіма Езуса, выклікаў паломніцтва да сябе, і там, сапраўды, пачалі будаваць яму храм.

У караценькім біблейскім прароцтве Бог-Грамабой (па-жыдоўску ІУАЛ[397] паведамляецца:

– «Што вам да мяне Цар-горад і Ганарлівец, і ўсе качэўніцкія акругі? Ці жадаеце пакараць мяне? Але я лёгка павярну пакаранні на вашы галовы. Вы забралі маё золата і срэбра і перанеслі іх у вашы храмы, вы прадалі богаслаўцаў і богазмагальнікаў грэкам, каб выдаліць іх з родных месцаў, але вось я падыму іх з месца, куды вы іх прадалі, і звярну атрыманую за іх плату на вашы галовы» (4. 4-5).

Няпраўдзівасць гэтага месца відавочна із таго, што вёсачкі Сур і Сайда ніколі не бралі і не маглі браць із богаслаўных храмаў ні золата, ні срэбра, і не прадавалі іх «ерусалімцаў» грэкам. А позні час стварэння гэтага прароцтва бачны дзякуючы запазычванням із Апакаліпсіса і з усіх вялікіх біблейскіх прарокаў, накшталт:

«Звaніце трубамі на Пуцяводным слупе, падыміце трывогу на маёй Сьвятой гары (Вязувій, Ісая, 12. 2). Хай трапечуць жыхары зямлі! Настае дзень Грамабоя і ўжо блізкі. Дзень цемры і змроку, дзень воблака і туману! Ад пачатку ранішняга сьвятла шырыцца па вышынях шматлікае ў моцнае апалчэнне (лававых вывяржэнняў Вязувія), якога не было ад стагоддзя, ды і пасьля не будзе ў роды родаў». «Выгляд яго, як конніца, і ідзе яно, як вершнікі, скачучыя па вяршынях гор, як бы з грукатам калясніц, як бы з трэскам вогненнага полымя, пажыраючага салому, як моцнае войска, размешчанае для бітвы... Яно прабягае па гораду, лезе на сьцены, заходзіць у сядзібы, залазіць у вокны, як таці. Перад імі трасецца зямля, дрыжыць неба, Сонца і Месяц азмрочваюцца і зоркі губляюць сваё святло. Грамабой загаварыў сваім грымотным голасам перад сваім войскам. Велікі дзень Грамабоя, ён вельмі жахлівы, і хто здольны вытрымаць яго» (Іс. 2. 1-11)?

Усё гэта проста із Апакаліпсіса і із яго юдэйскай версіі – Езікі-Іла, з дамешкай Ісаі і Ераміі. Гэта азначае, яно было пісана не раней V стагоддзя нашай эры.

А ў евангеллі Марка (3.8; 7.2) распавядаецца па-грэцку, што «жыхары Цар-горада і Сідона», пачуўшы пра тое, што рабіў Езус, «ішлі да яго ў вялікай шматлікасьці (3. 8), і што сам Езус аднойчы «выдаліўся ў Цар-гарадзкія і Сідонскія межы» і ўвайшоўшы ў сядзібу не жадаў, каб хто-небудзь даведаўся пра гэта, але не змог утаіцца. Пра яго пачула там адна жанчына, прыпала да яго ног і «папрасіла выгнаць нячысьціка з яе дачкі», а Езус, быццам бы, адказаў ёй даволі няветлівымі (згодна з сучаснымі цывілізаванымі уяўленнямі) словамі:

– «Нядобра забіраць хлеб у дзяцей і кідаць сабакам».

«Яна ж сціпла адказала яму:

– «Гэта павільна, спадар, але ж і сабакі пад сталом ядзяць рэшткі ў дзяцей гаспадара».

– «Пасьля такіх (разумных) тваіх слоў – адказаў ёй быццам бы Езус – ідзі дадому: нячысьцік выйшаў із тваёй дачкі» (Марк, 7. 24). А ў Здзяйсненнях Апосталаў (12. 20) мы знаходзім яшчэ такое месца: «Ірад быў раздражнёны на цірцаў і сіданян. Яны ж, змовіўшыся і схіліўшы на свой бок царскага пасцельніка Уласта, прыйшлі да яго і прасілі міру, таму што іхная вобласць сілкавалася ад царскай (г. азн. была не такой ужо заможнай, як яе апісваюць).

[397] יו־אל (ІУАЛ) згодна з Cruden'у – азначае кіруючы, але мне здаецца, гэта скарачэнне יהו־אל (ІЕУ-АЛ) – Грамабой бог.

Ірад, апрануўшыся ў царскае адзенне, сеў на ўзвышэнні і пачаў размову з імі, а народ пры гэтым усклікаў:

– «Гэта голас бога, а не чалавека!»

«Але раптам боскі вястун уразіў Ірада за тое, што ён пры такой ліслівасьці не ўшанаваў славу бога. Яго з'елі чарвякі, і ён памёр. А слова боскае расло і шырылася». (Здзяйсненні. 12. 20-24).

Як глядзець на такія месцы з нашага натур-гістарычнага боку гледжання, дзе ўзвышэнні і знікненні вялікіх дзяржаваў і гарадоў абумаўліваюцца не самаволяй цароў ці ўласнай самастойнай воляй іхнага насельніцтва, а геаграфічнымі, геалагічнымі, метэаралагічнымі і, наогул, геафізічнымі ўмовамі атачаючай прыроды і выклікаемай імі пераемнасьцю тэхнікі ў залежнасці ад яе эвалюцыйных перамен?

Ці простыя гэта легенды пра вялікія старажытныя гарады, узнікшыя пасьля таго, як нашчадкі біблейскіх пракрокаў, магчыма ужо ў наступным жа пакаленні, перасталі разумець сваіх першанастаўнікаў? Ці гэта сапраўды пазнейшыя хібныя ўказанні на нікчэмныя мястэчкі Сур і Сайд? Я не вырашаю гэтае пытанне, але больш схільны стаць на першы із гэтых двух бакоў гледжання, бо ў саміх евангеллях ужо заўважаецца чыста легендарнае ўяўленне пра Цір і Сідон.

– «Гора табе, Месца Таямніцы, гора табе, Сядзіба Лаўца[398] – выказваецца Мацвей ад імя Езуса. – Калі б у Цар-Горадзе (Ціры) і ў Напышлівым (Сідоне) паказаны былі магутнасьці, паказаныя вам, то даўно б пакаяліся яны, апрануўшы рагожы і пасыпаўшы галовы попелам. Але кажу вам: Цару-гораду і Сідону лягчэй будзе ў дзень суда, чым вам. Гора табе, Горад асалодаў[399] да неба ўзнёсшыся, да пекла скінуты; калі б у Садоме былі паказаныя магутнасьці, паказаныя табе, то ён быў бы цэлым і да гэтага дня».( 11. 21-23)

Выходзіць, што Цар-горада, Сідона і Садома ўжо не было падчас напісання евангелля Мацвея. Ды і раней, выяўляецца, іх не было.

– «Усе сіданяне – сведчыць прароцтва Езікі-Іл – пайшлі ў апраметную, саромячыся сваёй магутнасьці, наводзіўшага жах на людзей, і нясуць яны там сваю ганьбу разам з адышоўшымі ў магілы.» (Іез. 32. 36.)

Легендарны характар Ціра і Сідона, прыраўноўваемых да Гаморы і Садома, тут настолькі відавочны, што не патрабуе далейшых тлумачэнняў. Тое ж самае і ў астатніх біблейскіх прарокаў, выказванні якіх цалкам алегарычныя і запазычаны з Езікі-Іла

Я не лічу патрэбным прыводзіць іх тут толькі таму, каб не стамляць чытача аднастайнасьцю.

Такімі з’яўляюцца нашы першакрыніцы пра два знакамітыя гарады старажытнасьці!

Сярэднявечныя аўтары вульгарызавалі гэтыя паведамленні, абскубшы папярэдне абодва гарады ад іхнага шматкаляровага міфічнага пёр’я, з нагоды чаго із двух чароўных жар-птушак атрымаліся дзьве празаічныя індычкі на сірыйскім узбярэжжы з прывіднай прэтэнзіяй на праўдападобнасць.

Што ж да Фінікіі то гэтая фантастычная краіна хутчэй за ўсё падобна на фата-марганнае адлюстраванне дэльты Нілу з яе фінікавымі дрэвамі і рэчаіснымі мараходнымі гарадамі.

---

[398] Карыстаюся перакладам евангельскіх назваў Харазін і Віфсаіда ў Cruden's «Concordance to the Bible». London, Bagster and Sons.

[399] Так перакладаю слова Капернаум згодна з тым жа Cruden'у.

Можна б нават падумаць, што і Цар-горад – Цір спісаны з Каіра, а Сідон – з Сайды на возеры Мензеле ці нават із Александрыі... Але няма неаспрэчных пярэчанняў і супраць таго, каб лічыць Цір за Канстантынопаль, а Сідон не толькі за Афіны, але нават і за Венецыю, ды і ўсю біблейскую Фінікію, г. азн. Ханаан (КНЕН) – за генуэзскіх мараплаўцаў.

# ГЛАВА II.

## Чароўная казка пра царства Богазмагальніцкае (Ізраільскае) ў Палестыне.

### I.
### Геафізічны нарыс Палестыны і Сірыйскага ўзбярэжжа.




Мал. 168.
*Геалагічны склад даліны Мёртвага Мора і рэчкі Шарыят-Эль-Кебірач (Псеўда-Ярдан), утворанай у расколіне напластавання мядовага вапняка, служачага падмуркам усёй гэтай мясцовасьці.*
*Пазначэнні знізу:*
*1 – Выступы вонкі нубійскага чырвонага пясчаніку ў абрывах расколіны.*
*2 – Пласт крэйдавага вапняку, выконваючага ролю падглебы ўсёй краіны (акрамя расколіны).*
*3 – Прарывы базальту.*
*4 – Выступы вонкі трацічных асаджэнняў, запоўніўшых зверху расколіну.*
*5 – (без штрыхоўкі) – Сучасныя асаджэнні.*
*Нідзе не заўважаецца прыкмет нейкіх сейсмічных дыслакацый, пасьля ўтварэння гэтай да-чалавечай расколіны Мёртвага мора і няма прыкмет таго, каб уся гэта краіна была калі-небудзь здольнай стаць цэнтрам самастойнай культуры.*

Зробім жа і тут так як з Цірам і Сідонам.

Характэрнай рысай геалагічнага рэльефу Палестыны з'яўляецца вялізная расколіна ў зямной кары, праходзячая з поўначы на поўдзень па магутным напластаванні мелавой сістэмы аж да Сірыйскай пустыні (мал. 168). Яна пачынаецца на паўночным усходзе каля старажытнай Антыёхіі і потым паварочвае на поўдзень, утвараючы даліну ракі Эль-Асі (Аронта еўрапейцаў), потым утварае западзіну Келесарыі паміж Джэбель-Лібнанскім (быццам бы – Ліванскім) хрыбтом і Джэбель-Эні-Шэрым (Антыліванскім хрыбтом еўрапейцаў). Гэтая расколіна ўтварае даліну Шарыят-Эль-Кебпрэ (Ярдана тэолагаў).




Мал. 169.
*Мапа Сірыйскага ўзбярэжжа згодна з сучаснымі здымкамі, з евангельскімі назвамі мястэчак і гарадоў.*

На поўдзень ад Лібнана, каля возера Хуле, занесенае дно гэтай расколіны толькі на два метры вышэй узроўню акіяна, а потым, паступова зніжаючыся, яно дасягае максімальнай глыбіні – 394 метры паблізу Мёртвага мора, і далей, ужо падымаючыся, ідзе праз Арабу да заліва Айла ў Чырвоным моры. Панаваўшую раней думку, што гэтая глыбокая даліна ў дагістарычныя часы ўяўляла сабой заліў Чырвонага мора, даводзіцца адкінуць, таму што водападзельная лінія Чырвонага і Мёртвага мораў дасягае 250 метраў вышыні над іхным узроўнем.

Такім чынам, Палестына ўяўляе сабой тры вузкія доўгія палосы: 1) паласа заходняй прыморскай раўніны параўнальна позьняга паходжання, 2) палоса заходняга ўзвышша і 3) палоса расколіны, ці рэчышча берага ракі Эль-Кебірэ. А за імі размешчана усходняе ўзвышша, якое ўжо не мае дачынення да Палестыны.

У дагістарычныя часы адкладанні існаваўшага тут мора, складаючыя верхнюю сучасную глебу заходняй прыморскай палосы, падняліся на 60-70 метраў над узроўнем Міжземнага мора. Яны належаць да найноўшага геалагічнага перыяду, бо ў іх знаходзяцца тыя ж ракавінкі conchifera, якія і зараз жывуць у вадзе Міжземнага мора. З таго ж мора пазней падняліся вапнякова-пяшчанікавыя адкладанні ранейшага дылювіяльнага мора. Яны ўтварылі амаль прамы бераг ад Сінайскага кута Міжземнага мора да Кармельскага мыса (32° з. ш.). Гэта з дагістарычных часоў – суцэльная плоская раўніна, пазбаўленая ўзвышшаў і парэзаная маленькімі папярочнымі рэчкамі, не ўтвараючымі ў сваіх утоках ніякіх гаваняў, акрамя мясцовых рыбацкіх. Уздоўж аднастайнага берага цягнецца шэраг дюнаў, за якімі нярэдка ляжыць лінія балот, і гэтыя дюны асабліва шматлікія паміж Яфай і Газай, дасягаючы тут шасьці кіламетраў шырыні.

Толькі на поўнач ад Кармельскага мыса, г. азн. на поўнач ад Палестыны, характар узбярэжжа перамяняецца, і раўніны чаргуюцца са скаламі. Адсюль нізкі бераг ідзе да Акры і прамой лініяй да Рас-эн-Накуры, дасягаючай 100 мятровай вышыні, знаходзяйшася ўсё ж на 6 кіламетраў ад берага мора.

Мелкае дно на працягу ўсяго ўзбярэжжа не дае караблям магчымасьці падыходзіць блізка да берага, і гэта акалічнасць цалкам скасоўвае нават думку пра магчымасць існавання тут у мінулым нейкага цэнтра мараходства і непазбежна злучаўшагася з ім у ранейшыя часы, хаця б і другараднага цэнтра ўплывовай,

перадавой культуры. Праўда, што скалы каля Яфы ўяўляюць сабой абарону ад хваляў, але яны ж і перашкаджаюць караблям заходзіць у гавань.

На ўсім Сірыйскім узбярэжжы толькі Хайфа з'яўляецца пасьля Бейрута найбольш зручнай гаванню; яна прыкрыта мысам Кармель ад заходніх і паўднёвых вятроў, але цалкам адкрытая для паўночных і паўночна-усходніх і таму непрыдатная для пастаяннага прыбежышча караблёў. Дакладна такая ж нязручная ў тым жа заліве і Акка, якая лічыцца за старажытную Пталемаіду і адкрытая для заходніх і паўднёвых вятроў.

Што ж да Акры і мястэчак Сура (легкадумна лічымага за Цір) і Сайды (легкадумна лічымага за Сідон), то, як мы ўжо бачылі, яны не маюць і гэтых выгод. Там нават невялікія караблі вымушаны кідаць якар у адкрытым моры і, згодна з геалагічнымі ўмовамі іхнага наваколля, у іх пачынаючы з дылювіяльнай эпохі ніколі не магло існаваць хаця б колькі-небудзь зручнай гавані для сур'ёзнага (нават у старажытным маштабе), флоту далёкага плавання.

Прыбярэжная паласа да поўдня ад Кармельскага мыса, ўяўляючая ўзгорыстую пакатую да захаду раўніну, характарызуецца таксама шматлікімі, несуднаходнымі, перасыхаючымі на лета ручаямі, маючымі накірунак на захад (мал. 169) і назву «вадзі». Із рэчак, не перасыхаючых у сваёй ніжняй плыні, можна назваць толькі Нахр-Скрэб і Нахр-Рубін.

На поўдзень ад Газы, размешчанай пасярод вялікага аазіса, гэтыя раўніны пераходзяць у пустыню, па якой працякае струмень Вадзі-Эл-Арыш. Нягледзячы на тое, што Газа не мае гавані, пра яе кажуць, што ў старажытнасьці яна была значным гандлёвым пунктам, дзякуючы свайму становішчу на шляхі із Ягіпта ў Месапатамію і згодна са сваім стратэгічным значэннем з'ўлялася ключом Сірыі. Газа і зараз вывозіць значную для маленькай краіны колькасьць ячменю, тут расьце фінікавая пальма, алівы і апельсінавыя дрэвы. Уся прыбярэжная паласа на поўдзень ад мыса Кармел добра апрацавана і заселена, але шырыня яе не вялікая, толькі ад 3 да 4 кіламетраў каля Кармэля і да 12 кіламетраў каля Яфы (Ёніі).

Такой з’яўляецца лепшая ў гаспадарчым дачыненні частка Палестыны, і чытач сам бачыць, якая яна маленькая.

Побач з ёю цягнецца Заходне-Ярданскае ўзвышша амаль прамой паласой з поўначы на поўдзень, злучаючы сабой Сінайскую паўвыспу з Джэбель-Лібнанам. Дзякуючы паступоваму пашырэнню дагістарычнай расколіны зямной кары, даўшай пачатак даліне ракі Шэрыят Эль-Кэбіра (ілжэ-Ярдана), ранейшы суцэльны мелавы пласт, пластычна запаўняючы ўтвораны ў ім і, напэўна, увесь час пашыраючыся разлом, набыў форму слаба выгнутай дугі з больш крутым схілам на ўсход да рэчышча Эль-Кебіры, чым на захад. Вясновыя струмені зрэзалі яго з тых часоў, і цэлая сістэма далін утварылася ў накірунку на захад да мора, із якіх некаторыя пашыраюцца ў невялікія ўрадлівыя раўнінкі, а некторыя, сустракаючы берагавыя дзюны, утвараюць балоты ўздоўж марскога берага.

Круты ўсходні схіл, апускаючыся ў даліну ракі Эль-Кебіра, легкадумна лічымай за біблейскі Ярдан, не спрыяў утварэнню падобных далін. Дзякуючы таму, што рэчышча гэтай ракі апускаецца ніжэй ўзроўню Міжземнага мора, тут горныя струмені выносяць з сабой у яе ўсю глебу са скал і нават захопліваюць невялікія камяні пры сваім падзенні з амаль перпендыкулярных схілаў.

Уздоўж гэтага горнага ўзвышша па лініі водападзелу і ідзе адзіны сухапутны гандлёвы транзіт (мал. 170) із Ягіпта праз усю Палестыну да Малой Азіі, бо шматлікія рэчкі, што цякуць з усходу на захад у мора, часта маючы глыбокія

рэчышчы, прашкаджаюць руху караванаў. Дзякуючы гэтаму, усе больш-менш значныя мястэчкі краіны і развіліся тут па лініі водападзелу. Тут вырас Халіл (лічымі гебраістамі за Хеўрон ці Кірыят-Арбу), Бэт-Ляхм (сугучны з Віфлеемам, але набыўшы гэтае найменне ужо ў хрысьціянскія часы), Эль-Кудс (лічымі за Ерусалім), Наблус (лічымы за Сіхем) і Себастыя (лічымая за Самарыю).

І мы бачым, што ўсе гэтыя мястэчкі развіліся не як самастойныя цэнтры буйнога мясцовага эканамічнага жыцця, а як месцы прыпынкаў для караванаў, накіроўваючыхся із заможнай даліны Нілу на поўнач у Анатолію, а із яе ў Малую Азію і Месапатамію. Ніякай адмысловай культуры ў Палестыне, такім чынам, ніколі не магло быць.



Мал. 170.
*Галоўны караванны шлях у Палестыне.*

Із прыродных дрэваў Палестыны можна звярнуць увагу, галоўным чынам, на хвою і дуб па горных схілах, але яны звычайна нізкарослыя; із прыродных жывёл водзяцца газель, алень, курапатка.

Рака Шэраат Эль-Кэбіры (Псеўда-Ярдан), пачынаючыся невялікімі ручаямі, зліваючыміся з возерам Эль-Хуле (якое лічыцца за біблейскія «Воды Марам»), праходзіць потым праз другое возера Табарыя (якое лічыцца за Тыверыядзкае возера Евангелляў, ці за возера Кінэрэт, а ў Талмудзе за Ракат) і зліваецца, нарэшце, з Салёным возерам (Бахр-Лут).

У паўночнай частцы, каля возера Хуле, прытокі Эль-Кэбіры ўтварылі раўніну ў 10 кіламетраў шырыні, абводненую шматлікімі крыніцамі і густа пакрытую балотамі, заросшыя чаротам і раслінамі падобнымі на папірус. Паміж азёрамі Хуле і Табарыя рэчышча Эль-Кэбіры цячэ ў старажытных струменях лавы, запоўніўшых дагістарычную расколіну ў мелавых пластах, і ўтварае ў шмат якіх месцах быстрыні. Адсюль да Мёртвага мора Шарыят Эль-Кэбіры мае 110 кіламетраў у даўжыню і цячэ па мяккай мергелавай і глiністай глебе, дзякуючы чаму пры хуткасьці сваёй плыні мае каламутна-жоўты колер (мал. 171). Шырыня яе даліны каля 4 кіламетраў каля Табарыйскага возера і потым то звужаецца ў цясьнінах, то пашыраецца часам да 24 кіламетраў. Шырыня самай ракі даходзіць тут толькі да 15 метраў са змяняючайся глыбінёю, і на ёй 54 броды. Яе рэзервуар – Мёртвае мора з дзікімі пустынымі берагамі мае на поўначы глыбіню да 329 метраў, а ў паўднёвай палове яна рэдка перавышае чатыры метры. Адзін із яго прытокаў Вадзі Эль-Маджыб безпадстаўна лічыцца за біблейскі Арнон.



Мал.171.

*Утока Шарыят-Эль-Кэбіра, безпадстаўна лічымы за біблейскі Ярдан (згодна з кнігай Гайкі: «Святая Зямля»).*

Усе горы Палестыны належаць да мелавой эпохі. Больш старажытныя адкладанні выяўляюцца толькі для некаторых фрактур каля ўсходняга краю Мёртвага мора. Ніякіх слядоў дзейнічаўшых пад час чалавечай эпохі вулканаў нідзе няма. Нават і пад час трацічнай эпохі іх не было. Пад пяшчанікам і даламітавым вапняком знаходзяцца кангламераты і брэкчыі, перасякаемыя жыламі парфірыту і дыярыту, часам сустракаюцца базальт і лава, але гэтыя былыя сляды дагістарычнай плутанічнай дзейнасьці больш усяго заўважаюцца не тут, а на ўсход ад даліны Шарыят-Эль-Кэбіры, г. азн. ужо не ў Палестыне. Што ж да прыбярэжнай палосы, то ўся яна пакрыта тоўстымі дылювіяльнымі адкладаннямі, на якіх уздоўж берага ідуць толькі алювіяльныя дзюны і рачныя адкладанні. Ніякіх Садома і Гаморы тут не магло існаваць.

Глеба вузкай прыморскай раўніннай палосы, складаючаяся із чырванаватага пяску і такой жа гліны, асабліва прыдатная для вырошчвання апельсінавых і лімонавых дрэваў.

У горнай паласе паміж ёю і далінай Шарыят-Эль-Кэбіры мяккая глiністая глеба ад выветрывання горных парод захавалася, дзе магчыма, у паглыбленнях скал, адкуль яе не могуць змыць зімовыя ліўні, і яе захаванне з'яўляецца галоўным клопатам жыхара. Урадлівай Палестына ніколі не была. Яе нагорра дае дзьве, нават тры жнівы на год, але краіна занадта высокая, і глеба хутка высыхае. Пры спрыяльных умовах пшаніца рэдка дае ўраджай сам-пяць на ўгноенай глебе, за выключэннем невялікай і вельмі культурнай нямецкай асады Сароны.

Мінераламі Палестына бедная, і ў ёй наўрад ці некалі здабываліся металы, хаця самыя заахвочаныя гебраісты і лічаць, што знайшлі ў гарах Аджлуна парэшткі «старажытных руднікоў», дзе здабывалася, згодна з іхнай думкай, жалеза (дзякуючы немагчымасьці дапусціць тут здабычу якой-небудзь іншай руды). Але якая «старажытнасць гэтай спробы, калі яна сапраўды была? Ці не з часоў «Ерусалімскага Каралеўства» крыжакоў? Толькі асфальт знаходзіцца ў вялікай колькасьці на берагах Салёнага возера, ды існуюць адкладанні каменнай солі, серы і фасфарыту, прыдатнага толькі для сучаснай нам тэхнікі.

У арашаючай палі вадзе адчуваецца і, вядома, заўсёды адчуваўся ў чалавечыя часы, недахоп на пацягу ўсёй узвышанай паласы. Крыніц каля падножжа гор шмат паблізу Халіла (лічымага, як я ўжо казаў, за Хеўрон), але вельмі мала ў наваколлі Эль-Кудса (які лічыцца за Ерусалім).

Парэшткі плацін у далінах і сьляды некаторых віядукаў сведчаць нам, што раней (і, вядома, не раней, чым пры крыжаках) тут былі зроблены спробы захаваць каштоўную вільгаць у штучных вадаёмах.

У кліматычным дачыненні прыморская паласа мае падтрапічны клімат, нагорра за ёю мае кантынентальным кліматам, а даліна псеўда-Ярдана амаль трапічны. На працягу чэрвеня, ліпеня, жніўня і верасня не выпадае ніякіх атмасферычных ападкаў, а пад канец кастрычніка ці ў лістападзе пачынаецца дажджлівая пара года, настае мяккая тэмпература. У снежні і студзені бываюць частыя і вялікія дажджы, распушваючыя высахлую глебу (мал. 172) і напаўняючыя цыстэрны. Часам выпадае і хутка растаючы сьнег. У сакавіку пачынаецца рост хлябоў, паспяваючых у красавіку ці на пачатку траўня, спачатку ячмень, потым пшаніца. У даліне Шарыят-Эль-Кэбірэ жніво пачынаецца на 3-4 тыдні раней.



Мал. 172.
*Сірыец богаслаўнага (юдэйскага) веравызнання, размешваючы нагамі ваду із канаўкі для арашэіня сваёй дзялянкі ў Палестыне (із кнігі Гайкі: «Святая Зямля»), узор мясцовай культуры.*

На вышынях вакол Шарыят-Эль-Кебіры знойдзена шмат крамянёвых прылад пазнейшага неалітычнага перыяду каменнай эпохі, пра якую я згадваў у «пралогу» і якая тут скончылася не раней, як на пачатку сярэдніх стагоддзяў, таму што металургія Кіпра і Багеміі, не мела яшчэ магчымасьці канчаткова замяніць тут камень металам.

Мяркуючы па знойдзеных шкілетах, людзі, якія насялялі тады Палестыну (каля Гезера), былі маленькага росту, не вышэй 1,68 метраў, і жылі ў шматлікіх пячорах Палестынгкіх гор. Іх заняткам было паляванне, яны адзін час спальвалі сваіх памёршых, і каля спаленых трупаў знойдзена шмат прымітыўных гліняных пасудзін для частавання памёршых.

Мегалітычныя помнікі – дальмены, г. азн. пакоі із 3 ці 4 неапрацаваных, прыстаўленых адзін да аднаго каменных пліт, існуюць на пласкагор'і на ўсход ад Шарыят-Эль-Кэбірэ[400], тут жа знойдзены і кромлехі, г. азн, колы камянёў, пастаўленых вузкімі заканчэннямі ўніз. Пра старажытнасць апошніх меркаваць

[400] Адзначу, што слова Хабіры – сугучна са словам гебры – перасяленцы. У Палестыне знойдзены і клінапісныя дакументы ў Лахіме, Гезеры і Таанаху.

немагчыма, бо і зараз бедуіны гэтых мясцовасьцей атачаюць магілы коламі із камянёў, хаця і меншых памераў.

Што ж мы бачым? – Тут адкапаны і дальмены і кромлехі і гліняныя жбаны першабытных людзей і каменныя сякеры неалітычнага стагоддзя, а ад вялізных, пабудоў у Ерыхоне, Сіёне і старажытным Ерусаліме – няма і сьледу! Зразумела, што іх ніколі тут і не было!

## II.
## Жыды ў Палестыне.

Што мы ведаем пра «жыдоў» у Палестыне? Будзем пераходзіць ад больш вядомага нам часу, каб разабрацца ў менш вядомым, бо гэта найлепшы шлях. Пагэтаму спачатку разгледзім новы час і сярэднія стагоддзі. Вось што паведамляецца ў жыдоўскай Энцыклапедыі Гаркаві і Кацэнельсана пад загалоўкам «Палестына»:

«Сведчанні пра юдэяў у Палестыне ад пачатку арабскага валадарання (636 г.) да Крыжовых паходаў маюць дачыненне амаль толькі да аднаго Ерусаліма (г. азн ў рэчаіснасьці, Эль-Кудса) і да таго ж вызначаюцца урыўкавасьцю, так што цяжка скласьці разуменне пра ступень засялення жыдамі Палестыны (пад час старажытнасьці) і пра іхны лёс. Толькі ў XI стагоддзі Палестына часова набыла значэнне ў духоўным і культурным жыцці (юдаізму), дзякуючы Ерусалімскай Акадэміі, кіраўнік якой меў найменне гаон. Але Палестынскі гаанат праіснаваў нядоўга. З узяццем Ерусаліма ў 1071 г. сельджукамі гаанат быў перанесены, як мяркуюць у мястэчка Сур (Цір). А калі і гэтае мястэчка падпала пад уладу Ягіпта (1089 г.), дзе тым часам адзін із нашчадакаў вавілонскіх(?) эксілархаў быў абвешчаны эксілархам (г. азн. кіраўнікам выгнаннікаў), тады апошні палестынскі гаон Абіатар вымушаны быў пакінуць акадэмію».

Чаму быў вымушаны? – запытаеце вы. – Ні пра якія ж пераследы Абіятара не паведаляецца. А з нашага боку гледжання гэта не толькі цалкам зразумела, але інакш і не магло быць. Ніякую найвышэйшую школу немагчыма было заснаваць у такой глухмені.

Кожны адукаваны чалавек там толькі спіўся б ад нуды, як у адміністрацыйнай спасылцы, ці збег бы адтуль у больш людную і заможную мясцовасць, дзе гістарычна назапасіліся акрамя матэрыяльных і нематэрыяльныя багацці, заўсёды спадарожнічуючыя ім. Вышэйшыя школы кіруючага характару ствараюцца павольна самім мясцовым жыццём, а не ўзнікаюць згодна з узмахам чароўнай палачкі нейкай асобы, дзе каму пажадана. Вось чаму з тых часоў і аж да заваёвы Ягіпта туркамі (1517 г.) палестынскія жыды былі падпарадкаваны ў духоўна-рэлігійным дачыненні, як і варта было, ягіпецкім нагідам, ды і сама Палестына да турэцкага заваявання знаходзілася пад уладай Ягіпта.



Мал. 173.

*Сірыйцы богаслаўнага (г. азн. юдэйскага) веравызнання, называемыя перасяленцамі (г. азн. жыдамі) у сучаснай Палестыне за малітвай перад узыходзячым Сонцам (мал. XIX стагоддзя).*

«Крыжакі – працягвае аўтар – змаглі заваяваць Палестыну ў 1098 годзе, але валадарства іх працягвалася (як і варта было чакаць праз аддаленасць!) толькі да 1187 г., і ўсе іхныя спробы, аж да 1291 г., зноў адваяваць Палестыну не мелі поспеху.

«Нават у дзяржавах, заснаваных крыжакамі: у княстве Антыяхійскім, у графстве Трыполіс і ў каралеўстве Ерусалімскім – жыды жылі ў параўнальна невялікай колькасьці».

«Веніямін із Тыдзелы (гішпанскі вандроўнік XII стагоддзя) паведамляе, што ў Суры (ілжэ-Ціры) была суполка із 500 жыдоў, у Аццы – 200, у Кесарыі толькі 10 чалавек і 200 самаранаў». Каля Хайфы ён знайшоў у пячорах гары Кармэл «шмат» (г. азн. сотню ці больш?) магіл, палічаных ім за жыдоўскія, але ў самым горадзе, відаць, ніводнага жыда. Па шляху ад Кесарыі да Ерусаліма (г. азн. Эль-Кудса) ён знайшоў толькі адну жыдоўскую сям'ю ў С.-Рыгору (невядомае зараз мястэчка). У Себастыі (якая лічыцца за старажытную Самарыю), дзе яму паказвалі парэшткі палаца Ахава (!), не было жыдоў, роўна як і ў Наблусе (лічыцца за старажытны Сіхем), дзе тады жыло каля 100 самаранскіх сямействаў. У Ерусаліме (Эль-Кудсе) ён знайшоў (толькі!) 200 жыдоў: яны забралі ў манапольную арэнду фарбавальнае майстэрства».

Ды і ў іншых месцах Веніямін сустракаў толькі жыдоў фарбавальшчыкаў: у Бэт-Лахма (ілжэ-Віфлееме) 42 чалавекі, у Бэт-Нудзі – дзьве сям'і, у Яфе і Ізрээлі па адным жыду. Больш шматлікія суполкі Веніямін адзначае ў Раме (300 жыдоў), у Тароне (300), у Новым Аскалоне (200), у тым ліку 40 караімаў, у Тыве-райдзе 50 і ў Альме – 50».

Калі чытач задумаецца над гэтымі нікчэмным лічбамі і зверне ўвагу на тое, што тут узята не адна Палестына, а таксама і неналежачыя да яе вобласьці Сура (псеўда-Ціра), Аккі і г. д., то пераканаецца сам, што ў XII стагоддзі пасьлядоўнкі «Аронава закона» былі ў Палестыне нікчэмнай згодна са сваёй колькасьцю

рэлігійнай сектай, сярод перавышаўшых іх сваёю колькасьцю сірыйцаў-магаметанаў.

Мне адкажуць: «яны былі разагнаны магаметанамі...» Але гэта ж відавочная няпраўда. Усюды прыхільнікі Аронава закона жылі, згодна з тым жа Веніямінам, без забароны: то фарбавальшчыкамі (нават манапалістамі!), то невялікімі рэлігійнымі сектамі. Відавочна, што яны не былі праследуемымі і высылаемымі за свае рэлігійныя звычаі. Скажуць: «гэта было аднаўленне юдэйства пасьля папярэдняга выгнання з усёй краіны». Але ж гэта можна з такім жа правам сказаць і пра Польшчу XIX стагоддзя, дзе, ва ўсякім разе, было нашмат больш рабіністаў, чым налічыў Веніямін із Тыдзелы ў Палестыне ў XII стагоддзі.




Мал. 174.

*Эль-Кудс часоў Крыжовых паходаў. Сцены крыжакоў, якія наладзілі тут умацаванне і сталіцу недаўгавечнага «Ерусалімскага каралеўства Балдуіна I», (XII стагоддзе нашай эры).*



Мал. 175.

*Сучасны Эль-Кудс – стварэнне ўсіх хрысьціянскіх і еўрапейскіх паломнікаў і ахвяравальнікаў з часоў Крыжовых паходаў і да нашага часу, усіх, бачыўшых тут свой «Ерусалім».*

А вось і план псеўда-Ерусаліма ў Палестыне (Эль-Кудса) у тым выглядзе якім ён быў падчас «Ерусалімскага каралеўства крыжакоў» (мал. 174, і ў тым выглядзе, які ён зараз. І паралельна з ім на мал. 176 я даю план біблейскага Ерусаліма із кнігі Любінецкага: Historia omnium cometarum, 1681 год. Скажыце самі: што агульнага паміж імі?



Мал. 176.
*План старажытнага «Ерусаліма» із кнігі Любінецкого: Theatrum omnium cometarum 1681 год і над ім камета, якая прадказвае яго разбурэнне – (больш падобны на план Пампеі, чым на план Эль-Кудса.*

Але будзем далей працягваць нашу выпіску.

«У XIII стагоддзі Палестына – кажуць нам – пачала наведвацца выбітнымі еўрапейскімі пісьменнікамі і дзеячамі. У 1211 г. туды прыехалі 300 рабінаў із Англіі і Паўночнай Францыі», і ў 1257 г. Нахманід заспеў усю Палестыну, (увогуле, а не толькі мясцовыя жыдоўскія суполкі) спустошанай набегам татараў (?) і ўзяўся за аднаўленне сваёй рэлігіі. Да заканчэння XIII стагоддзя з'явіліся месіянскія суполкі ў гарадах Акка і Сефеда». «Хаця суполка ў Аццы і была знішчана (?) ў 1291 годзе, калі гэты горад быў штурмам узяты ягіпецкім войскам», але сам фак заваёвы гэтага горада меў станоўчыя наступствы для далейшага лёсу жыдоў у Палестыне. Ягіпецкія валадары ахвотна дазвалялі прыезд жыдам із чужых краін для ўшанавання сьвятых месцаў. Частка гэтых паломнікаў заставалася ў Палестыне, пачынала займацца земляробствам, і неўзабаве ўзнікла пытанне пра тое, як ставіцца да (плацяжу царкоўнікам) дзясятай часткі ад пладоў зямлі і да «сёмага году адпачынку зямлі». Так як ягіпецкія ўлады не перашкаджалі пасяленню рабіністаў у Палестыне, то гэта падахвочвала жыдоў Заходняй Еўропы перасяляцца сюды, і кабалісты (рабі Хананэль ібн-Аскарыя, рабі Шэм Таб ібн-Гаан, рабі Ісак Хеле і рабі Меір Алдабі) шукалі ў Палестыне натхненне для сваіх кабалістычных разважанняў».

Здавалася б для Палестыны, дзякуючы гэтаму, павінна была пачацца бліскучая эпоха культурнага жыцця, але геафізічныя ўмовы яе глухмені ўсё ж заставаліся такімі як і раней, глушыўшымі кожную такую спробу і, адваротным шляхам, даводзілі толькі тое, што даводзіў тут і я: біблейская «зямля запаветная» ніколі не была ў Палестыне, і рабінскую школу лепш было б заснаваць у Равене, а не ў Эль-Кудсе.

«Нягледзячы на гэта – сцвярджае, як і варта было чакаць, гісторык жыдоўства Грац – што «Сьвятая Зямля» (у першай палове XIV стагоддзя) была мэтай памкненняў ўсіх нацыянальна сьвядомых жыдоў, яна не стала цэнтрам раскіданага Ізраіля. Нават і ў вобласьці талмудысцкай вучонасьці Палестына не выставіла тады (г. азн. у дакладныя часы) ніводнай выбітнай асобы».

Нават і пракарміць сябе не былі ў стане пабожныя асаднікі!

«Еўрапейскія жыдоўскія суполкі – працягвае аўтар – былі вымушаны падтрымліваць існаванне жыдоў у Ерусаліме, Хеўроне, Сафедзе і Тыверыядзе. І больш значны прыліў імігрантаў на прыканцы XV стагоддзя, у сувязі з выгнаннем жыдоў із краін Пірынейскай паўвыспы і із Сіцыліі, не перамяніў характар палестынскага жыдоўства. У той час, калі іншыя краіны, прыняўшыя выгнанцаў, набылі імпульс ў развіцці матэрыяльнай і духоўнай культуры, Палестына заставалася мёртвай».

«Новая спроба прынесьці свежую брую ў заплесневелае жыццё палестынскіх жыдоў была зроблена ў XVI стагоддзі. Гэта была спроба каланізаваць Тыверыяду і сем іншых навакольных мясцовасьцей, пачатая ў 1565 годзе вядомым еўрапейскім дзеячам Ёсіфам Насі, якому султан Селім падараваў гэтую краіну, але і яна не мела поспеху».



Мал. 177.

*Сірыец богаслаўнага (г. азн. юдэйскага) веравызнання меле сабе муку першабытным спосабам у Палестыне (узор вышыні палестынскай культуры, нават у XIX стагоддзі нашый эры).*

«Нагоды няўдачы – кажа М. Вішніцэр, аўтар усяго вышэйпададзенага – не высьветлены. С. П. Рабіновіч схільны думаць, што план не атрымаўся дзякуючы адсутнасьці спагады з боку тагачасных палестынскіх жыдоў, якія пагрузіліся ў кабалістыку і не мелі ні наймешай ахвоты ажывіць краіну і развіць у ёй земляробства і вытворчасць», а «Б. Кац сцвярджае, што Тыверыяда нават і не была даравана султанам Сялімам Ёсіфу Насі, а толькі яму быў дадзены дазвол засяліць яе жыдамі, з тым, каб яны плацілі падаткі нароўні з іншымі яго падданымі».



Мал. 178.
*Перасяленкі (г. азн. жыдоўкі) богаслаўнага (г. азн. юдэйскага) веравызнання перамешваюць сабе муку першабытным спосабам нават у XIX стагоддзі нашай эры.*

Але ўсё гэта пустыя адгаворкі... Рэальны факт той, што нягледзячы на ўсе ахвяраванні, дапамогу і звышчалавечыя каланізатарскія намаганні энтузіястаў пры вялізным спрыянні еўрапейскіх заможных патронаў Палестыны, гэтая краіна не змагла і ніколі не зможа быць паднятай на значны, параўнальна нават са сваімі ягіпецкімі ці малаазійскімі суседзямі культурны ўзровень, дзякуючы сваім геафізічным умовам. З часу алювіяльнага перыяду і нават раней яго, калі ў гэтых месцах яшчэ блукалі замест чалавека мастадонты, і толькі зрэдку заходзіў чалавек-малпа – антрапапітэк – гэтая краіна павінна была заставацца глухменню сярод іншых прыбярэжных краін Міжземнага мора.

У эканамічным дачыненні Палестына ніколі не магла канкураваць з недалёкай ад яе далінай Нілу і магла быць толькі тым, чым і была на працягу ўсяго сярэдневечча: цяжкім сухапутным шляхам для караванаў накіроўваючыхся із Ягіпта ў Месапатамію ці ў Малую Азію і назад для абмену прадуктамі абедзвюх краін, з якім да таго ж канкуравала берагавое мараплаўства. Не магла яна быць, таксама з часоў алювіяльнага перыяду і мастадонтаў, цэнтрам разумовай культуры і ініцыятывы з нагоды той жа сваёй глухменнасьці. Калі тут і нараджаўся нейкі геніяльны розум, то ён няўхільна павінен быў ці не выявіцца праз недахоп разумовай ежы, ці павінен быў атрымваць сваё далейшае развіццё толькі пад умовай перасялення ў Ягіпет ці ў Яўропу, дзе ў яго распараджэнні знаходзіліся б значныя грамадзкія кнігасховішчы, пра якія мы не маем паведамленняў у меркаваным некалі Саламонавым храме ў Эль-Кудсе. Ды і сам такі храма ніхто не мог бы тут пабудаваць без дапамогі ягіпецкіх ці еўрапейскіх мецэнатаў, дасылаўшых сюды, грунтуючыся на нейкіх меркаваннях, патрэбныя матэрыялы і працаўнікоў.

Я знарок пачаў з геаграфічнага нарысу краіны і з яе сярэднявечнай гісторыі, каб паказаць, што жыды былі тут заўсёды тым, што азначае іхнае найменне:

рэлігійнымі перасяленцамі, эмігрантамі, засяленцамі, а не нейкім мясцовым карэнным народам. Такім народам тут заўсёды былі сірыйцы, продкі сучасных насельнікаў гэтай краіны.

Ніякіх самастойных культурных царстваў «Ізраільскага» і «Юдэйскага» тут ніколі не магло існаваць. Тут маглі быць у старажытнасьці толькі караван-сараі на гандлёвым гасьцінцы, на адлегласьці дзённага шляху адзін ад аднаго. Але караван-сараі тады не маглі стаяць безабаронна ў краіне качэўнікаў, і ў выніку разам з імі павінны былі ўзнікнуць маленькія умацаванні з дастатковымі гарнізонамі для таго, каб вылучаць са свайго асяроддзя ўзброеныя атрады для суправаджэння караванаў ад аднаго пункта прыпынку да другога. Гэтыя маленькія ўмацаванні непазбежна пачалі ператварацца і ў адміністрацыйныя цэнтрыкі для наваколля, але цэнтрамі культуры параўнальнымі з вытворчымі цэнтрамі ў даліне Нілу яны, зразумела, ніколі не маглі стаць, а толькі абслугоўвалі іх. Тое ж можна сказаць і пра Сур і Сайду як месцы адпачынку для караблёў ідучых із Ягіпта ў Антыёхію. Нават падумаць пра тое, каб мястэчка Сур (г. азн. Скала) магло быць некалі тым, што мы чытаем пра знакаміты Цір, смешна для геолага. Тое ж самае патрэбна сказаць і пра мястэчка Сайду, як пра суперніка Ціра – Сідон.

Але што ж уяўляюць сабой у такім разе розныя манеты і іншыя помнікі старажытнасьці, знаходзімы ў Палестыне і Сірыі? Тое ж самае, адкажу я, што і хрысьціянскія помнікі.

Сярод палестынскіх манет мы маем шматлікія падробкі ўжо з часоў Рэнесанса. Частка із іх лёгка распазнаецца па надпісах, зробленых квадратным юдэйскім узорам, адсутнічаўшым у старажытнасьці, даты на іх няма ніякай і замест кубка стаіць курыльніца. Гэтыя падробкі крыху большыя за манеты, лічымыя правільнымі, яны адліты, а не штампаваны, і пра іх ведаў нават Мелангтоп[401] (1552 г.).

Адносна праўдзівасьці астатніх манет яшчэ нічога немагчыма сказаць: не ўсе ж падробкі абавязкова павінны быць няўмелымі. Але няма сур'ёзных пярэчанняў супраць рымскіх прыведзеных мной вышэй, у другой частцы гэтай кнігі.

# ГЛАВА III.

## Чароўная казка пра царства Богаслаўнае ў Палестыне. (сярэднявечная фантазія).

*Вось каля ног Ерусаліма богам спаленая,*
*Маўклівая, нерухомая мёртвая краіна*
*М. Лермантаў.*

Мы толькі што паведамілі рэчаісныя дадзеныя пра Палестыну, зараз паглядзім, што нам рспавядаюць пра яе нашы «гістарычныя першакрыніцы».

Але я не магу ўстрымацца ад таго, каб, прыступаючы да гэтай часткі, не працытаваць трох-чатырох апошніх старонак із кнігі Андрэя Немаеўскага «Бог Езус», у якой амаль усё было б добра, калі б толькі аўтар цалам не заблытаўся ў старой храналогіі, якая пазбавіла навуковай каштоўнасьці зробленыя ім агульныя высновы.

«Гэта – кажа ён – было пад час першых дзён снежня 1903 (г. азн. заўваж чытач, не па час пякотнага лета, а нават глыбокай восенню, амаль на пачатку зімы).

---

[401] C. Hill: «Reliquary», oct. 1902.

«Мы ехалі на конях у накірунку да Мёртвага мора, далёка пакідаючы за сабой высокую, як правільны трапецоэдр, гару Спакусы і аточаны пальмамі і кіпарысамі Ерыхон (такую назву аўтар дае сучаснай арабскай вёсачцы «Эрыха», без парэшткаў хоць нейкіх старажытных пабудоваў) як быццам бы вянок, кінуты на пясок пустыні.

«Спякота даходзіла да 27° па Рэамюру.

«Праз некаторы час мы заехалі ў вобласць драбнюсенькіх пяскоў пустыні. «З блакітнага скляпення няба сонца залівала ўсю бачную далечыню залатым дажджом свайго святла.

«За намі, на Гары Спакусы легенда размясьціла Белага Бога, змагаючагася з чорным богам. Знізу легенда разбурыла трубным гукам сем сьцен Ерыхона (так добра, што дзякуючы гэтаму ад іх зараз не засталося ніякага следу!). Высока на небе легенда адчыніла, падчас зацьмення, зорныя магільні і вывела з іх на сьвятло выявы нябожчыкаў-герояў.

«Здавалася, з гары Спакусы яшчэ чуюца два галасы, а ў паветры яшчэ дрыжаць у бляску залатых праменяў сонца водгаласы ерыхонскіх гукаў. Здавалася, што асляпляльна белае покрыва дзённага святла затуляе зорныя магільні на небе памёршых тысячы гадоў таму назад герояў. Недзе, налева, мільгае зялёная стужка Ярдана (г. азн. Шарыят-Эль-Кэбіра), аточаная прыбярэжнымі дрэвамі і кустамі.

«Тут легенда засяродзіла патройны міф пра Рыбу, Ягня і Галубку.

«Перад намі, удалечыні, падобна кучы пабялеўшых на сонцы шкілетаў, віднеюцца горы Абарым і недзе сярод іх Махеро, у якім да гэтага часу паказваюць басейн Яна Ахрысьціцеля.

«Спёка рабілася з кожнай хвілінай больш невыноснай. Вецер пераследаваў нас крок за крокам, але не дакранаўся да нас. На шчасьце мы ехалі даволі хутка.

«Там, на гэтых бачных у далечыні гарах, быццам бы памёр Майсей, не дайшоўшы да зямлі запаветнай. А яго народ ішоў наперад, разносячы пра яго міфы па зямлі Ханаанскай.

«Кроў стукае ў скронях. У вушах шуміць. Спякота забірае апошнія рэшткі энергіі. У такія хвіліны самы натхнёны вандроўнік робіцца абыякавым да ўсяго.

«Сукенка паліць цела. Усё, да чаго дакранешся – паліць. Белы пыл пакрывае капелюшы, валасы, вусы, бровы; пракрадаецца праз вусны ў рот на язык. У літаральным сэнсе адчуваецца смак пустыні.

«Вочы заплюшчваюцца, ахоплівае дрымотная слабасць. У такім стане губляецца нават усведамленне часу.

«Магчыма, усё гэта адбываецца зараз, магчыма, тры тысячы гадоў таму назад, калі «Іеве ішоў перад імі, паказваючы шлях, удзень – у хмарным, а ноччу ў вогненным слупе, і ніколі не пакідаў гэты народ хмарны слуп удзень і палаючы слуп – ноччу».

«Бастыян сказаў, што калі нехта пажадае зразумець вядомую легенду, той павінен знайсьці яе радзіму. Нечакана воз стукнуўся колам аб нейкі схаваны ў пяску камень і я нахіўся ў бок. Была патрэба схапіцца за нешта, каб не выляцець і мімаволі давялося зірнуць убок. Мне здалося, як быццам бы нешта рухаецца за павозкай, штосьці неверагодна вялікае. Я азірнуўся. За адну хвіліну знікла мая стомленасць, і ўся мая істота была ахоплена захапленнем».

«Услед за павозкай рухаўся вялізны слуп пылу. Ён быў белы і толькі ўвесь пазалочаны дажджом сонечных прамянёў. Ён уяўляўся цудоўным відовішчам на фоне блакітнага неба. Слуп рухаўся ціха, як быццам верны вартавы пустыні,

быццам бы абаронца, містычны правадыр. Галавой ён дасягаў нечуванай вышыні, а ніжняя частка яго покрыва цягнулася па пустыні. Я схапіў фатаграфічны апарат, ліхаманкава накіраваў яго, думаючы: хай пасьля заходу сонца яго верхняя частка пакрыецца барвяніцай, быццам бы таполя, намаляваная мастаком, і вось у нас будзе «вогнены слуп ноччу (!?) наперадзе народа».

– «Стой!»

«Я трымаў ужо гумавую грушу кодака, для таго, каб адкрыць імгненную засаўку, але ледзь воз спыніўся, як залаты здань пустыні абваліўся на воз, на мяне, на апарат, на вазніцу, коней. Кашляючы і адплёўваючыся, атрасаючыся ад пылу, я выскачыў з павозкі і, перш за ўсё, паспяшаўся ачысьціць апарат і ў той жа час я вырашыў неадменна прывезьці гэты слуп Майсея ў Варшаву і паказаць яго суайчыннікам.

«Калі абмялі падушкі павозкі, я ўсеўся зноў і, аглядаючыся з прыгатаваным апаратам, назад, загадаў ехаць хутка, разлічваючы на тое, што залаты пяшчаны здань зноў пойдзе за намі.

«І сапраўды, праз некаторы час, гэты слуп, як быццам бы нейкі волат ляжаўшы пластом, паднімае галаву, потым паднімаецца на калені, нарэшце спрабуе падняцца – зноў рухаецца і рухаецца за вамі. Я яшчэ чакаў, пакуль ён вырасьце да ранейшай велічыні, як раптам колы павозкі загрукаталі па камянях, слуп пачаў памяншацца, быццам бы зваліўся на калені, яшчэ некаторы час працягнуўся за павокай, згортваючыся, і, нарэшце, паваліўся пластом і цалкам зраўняўся з пяском пустыні. Так гэты помнік прыроды старажытнага Ўсходу, стваранючы легенду, мне і не атрымалася злавіць на фатаграфічны апарат і далучыць да сваіх «Доказаў». Толькі ў маёй душы засталося нейкае бачанне, легенда, жывучая ў падманлівай памяці, пераінашваючай атрыманае ўражанне.»

Я не буду тут сур'ёзна разбіраць наіўную спробу Немаеўскага патлумачыць «шляхапазначаючы слуп» богазмагальнікаў праз мімалётны, як і заўсёды бывае, віхур на іхным шляху. За гэтай з'явай не мела сэнсу ехаць у Палестыну, бо і паўсюль такія віхраслупы з'яўляюцца пад час спякотных летніх дзён на пыльных дарогах, і рускія сяляне тлумачаць іх тым, што гэта быццам бы гуляюць два сустрэўшыяся чорціка, круцячыся адзін каля другога. Я ўжо паказваў іншае тлумачэнне «пуцяводнага слупа» Майсея[402], перанёсны месца падзей на Вязувій (мал. 71). Але я хачу тут яшчэ раз спыніцца на агульнай характарыстыцы Палестыны, бо мне даводзіцца ў гэтай частцы маёй працы змагацца з забабонамі, ўешыміся ў цела і кроў сучаснага пакалення, выхаванага на хрысьціянскіх і месіянскіх памылках.

Вось якая прырода краіны, у якой – як нам кажуць – з дапамогай нейкага чараўніцтва быў пабудаваны пышны храм Саламона. Калі на пачатку зімы, спякота там дасягае 27° па Рэамюру, г. азн. каля 36° па Цэльсію, то што ж бывае і бывала там летам? Калі зімой там носяцца слупы пылу за праязджаючым экіпажам, трохі не да неба, то што ж пад час іншай пары года? Калі зараз там такія шляхі стасункаў, то што ж было 2 000 гадоў таму назад?

І вось у гэтай малалюднай пустыні без дарог – пераконваюць нас – быў некалі цэнтр разумовага жыцця, калыска дзвух рэлігій, перамогшых некалі ўсе астатнія рэлігіі высока-культурных краін! І вось у гэтай краіне – запэўніваюць нас

[402] Да майго вялікага задавальнення ў апошні час я даведаўся, што і праф. Міхайлаўскі ў сваёй публічнай лекцыі «Біблія і геалогія» прыйшоў да высновы, што гаворка ідзе пра пініепадобнае воблака нейкага вулкана... А я тут ужо паказаў, што такіх вулканаў не было ў Палестыне з часоў з'яўлення чалавека на зямлі.

– былі два магутныя царствы: Ізраільскае і Юдэйскае, не раз ладзіўшыя пераможныя паходы нават на вельмі абдараную прыродай і таму натуральна палітычна магутную даліну Нілу.

Няўжо менавіта сюды і сцякаліся на свята Вялікадня пілігрымы і з Грэцыі і з Месапатаміі, ледзь ці не з аддаленага Рыма, каб зірнуць хаця б адным вокам на зіхацеўшы золатам і каштоўнымі камянямі храм Саламона? Няўжо менавіта вось гэтую краіну сярод усіх астатніх звалі «Зямлёй запаветнай, бягучай малаком і мёдам?» Чым харчаваліся тут гэтыя пілігрымы, сабраўшыся ў вялізнай колькасьці? Няўжо, як у евангеллі, пяццю хлябамі і дзвюма рыбамі? Ці краіна за апошнія паўтары тысячы гадоў змянілася да такой ступені, што нават немагчыма і пазнаць?

Але, не! Геалагічны характар гэтай мясцовасьці, яе глеба і прырода выразна сведчаць сучаснаму прыродазнаўцу, што такой жа яна была і ў дагістарычныя часы, калі яшчэ не больш пустыннай. Падставай гэтай мясцовасьці, як я ўжо паведамляў, служаць цвёрдыя, амаль не размываючыяся вадой крышталічныя геатэктанічныя пароды, прыкрытыя вапнякамі мелавой эпохі, а на поўначы (ужо за Кармілам) не вельмі тоўстымі трацічнымі адкладаннямі. Ніякіх значных рэк тут няма і ніколі не было за ўвесь час існавання чалавечага роду, і няма ніякіх указанняў на тое, што прырода ідзе тут да пагаршэння, хутчэй наадварот.

Што ж гэта за дзівы распавядаюць нам пра яе ў нашых Святых гісторыях? Што за чароўныя казкі напісаў пра яе славуты «юдэйскі вайсковы правадыр Ёсіф Флавій» у сваіх кніжках: «Юдэйскія старажытнасьці», «Гісторыя юдэйскай вайны», і ў іншых, седзячы «ў палоне ў горадзе Рыме ў імператара Веспасіяна?» Ды там жа нават ніякай сур'ёзнай вайны і не магло быць, таму што не магло быць сабрана дастаткова вялікае войска. Там маглі быць толькі паўстанні качэўнікаў нападобе таго, якое апісваецца ў біблейскіх кнігах «Молаты» (Макавеі).

Але як жа магла ўзнікнуць падобная казка?

Вось перад вамі тут, чытач, мапа Палестыны (мал. 179), сфатаграфаваная мной із навучальнага гісторыка-геаграфічнага атласа, прынятага пры старым рэжыме для выкладання ў нашых навучальных установах (толькі без размалёўкі абласьцей у розныя колеры)

Скажыце шчыра, няўжо першы ж пагляд на яе не выклікае ў вас чагосьці нападобе аслупянеласьці, як калі б, напрыклад, з гэтага лістка раптам вырасла перад вашымі вачамі апельсінавае дрэва і, павярнуўшы да вас свае галінкі, прапанавала б паспрабаваць свае саспелыя плады?

Мімаволі ўзнікае жаданне запытаць, дзе і калі яна была ўпершыню намалявана і пры якіх абставінах.

Ці каля чыстай вады Ярдана ўсходу прамень яе лашчыў,
Ці начны віхур у гарах Лівана яе сярдіта калыхаў?

Мы ж ведаем, што першая геаграфічнае даследаванне гэтага кутка Сірыйскага ўзбярэжжа, калі больш-менш былі пазначаны тапаграфічныя падрабязнасьці, было зроблена толькі пад час эпохі Напалеона I. А тады ніводнай із пазначаных зараз на ёй старажытных межаў «кален ізраілевых» не існавала нават і ў згадках. Ні пра адну із пазначаных на ёй межаў гэтых абласьцей ніхто не мог там паведаміць складальніку. Нават сам горад «Ерусалім» са спрадвечных часоў у асяроддзі мясцовых жыхароў меў назву Эль-Кудс, найменнем не маючым нічога агульнага з Ерусалімам. Эль-Кудсам ён быў спрадвеку, Эль-Кудсам застаўся і да гэтага часу. Ён быў заснаваны, згодна са сведчаннямі грэцкіх аўтараў, як месца для размяшчэння «рымскага гарнізона» і названы Эліа Капіталіна (Aelia Capitolina) пры

імператару Адрыяне, пра што сведчаць знаходзімыя ў гэтай мясцовасці манеты, а безпадстаўным заявам невядомых асоб пра тое, што тут жа раней знаходзіўся знішчаны быццам бы без следу старажытны Ерусалім, мы маем поўнае права не верыць. Гэтая Эліа-Капіталіна пазней ператварылася ў Эліа-Кадзіш, г. азн. у горад святога Іллі, а пазней Эліа-Кадзіш скарацілася да Эль-Кудс.

*Мапа Палестыны з уяўляемымі межамі «каленаў ізраілевых».*

Якім жа чынам з'явілася гэтая мапа? Хто даў яе турэцкім мястэчкам і гарадам, якія вымаўляюцца цалкам інакш, іхныя евангельскія і біблейскія назвы? Хто ўпершыню абвясьціў, што гэтая мясцовасць менавіта і ёсць Зямля запаветная, пра якую гаворыцца ў Бібліі?

Ніхто вам не адкажа на гэтыя натуральныя пытанні. Стварэнне ўсёй гісторыі і геаграфіі Палестыны да такой ступені не абгрунтавана нічым рэчаісным, што, сапраўды, нагадвае чароўную казку.

Аднак, сучасныя, вычышчаныя ад дзіваў, апавяданні пра існаваўшыя быццам бы тут Юдэйскае і Ізраільскае царствы, гэтак жа, як і апавяданні пра старажытную Вавілонію, Фінікію, Карфаген, з'яўляюцца вельмі арыгінальнымі казкамі. Яны ўяўна падобны на сапраўдныя гісторыі іншых, рэчаісных краін і народаў, як быццам бы ў зляцеўшай на зямлю феі нехта абрэзаў за сьпінай яе празрыстыя крылы, і яна перастала адрозніваца ад звычайных чалавечых дзяўчынак.

Але ці сапраўды ў старажытных гістарычных кнігах немагчыма ўжо ніякімі намаганнямі адрозніць рэчаіснае ад прыдуманага, ці сапраўды і дададзеная мной мапа Палестыны цалкам страціла ўсе сьляды свайго чароўнага паходжання? Не! Першыя прыкметы казкі засталіся ў мініяцюрнасьці яе маштабу. Падобна на тое, як цацачна-малюсенькія дзяўчынкі ніколі не нараджаюцца ў звычайных людзей, так і цацачна-малюсенькіх, але нягледзячы на гэта незалежных, і высока культурных дзяржаў, як пазначаныя тут Юдэйскае і Ізраільскае, цалкам не магло існаваць нават і ў старажытныя часы. Каля такіх моцных суседзяў, як Ягіпет, такая дзяржава не мела магчымасьці нават і паспрабаваць узнікнуць хаця б на некалькі дзясяткаў гадоў у мясцовасьці, неабароненай ад свайго магутнага і заможнага суседа непраходнымі гарамі. Ніякай высокай культуры не магло развіцца ў краіне цалкам пазбаўленай гандлёвых портаў, магутных суднаходных рэк, ці выключных мінеральных багаццяў. Саму думку пра гэта нам даводзіцца адкінуць нават і ў тым выпадку, калі б мы не чыталі толькі-што прыведзенае апісанне Немаеўскага.

# Глава IV.

## Цацачныя гісторыі цацачных царстваў.

Для разбурэння такога доўгага і ўсеагульнага гіпнатычнага надання дазвольце мне яшчэ раз ілюстраваць яго недарэчнасць відавочным спосабам.

У адной паэме Някрасава распавядаецца, як сабралізя на сенажаці сяляне

Павета Цярпігорава, Пустапарожняй валасьці,
Із сумежных вёсак: Заплаціна, Дзіравіна,
Разутава, Зябішына, Гарэлава, Няелава,
Неўражайка тож.

Яны выпілі, пабіліся і пачалі спрачацца пра тое: «каму на Русі добра жыць?»

І вось уявіце, што ў гэту самую хвіліну да іх падышоў адмыслова прыехаўшы сюды знакаміты нямецкі гісторык Шлосер і, сумна зірнуўшы на іх, сказаў сваім асістэнтам і спадарожнікам: «іс transit gloria moundi» (так праходзіць слава сьвету!). Хто мог бы паверыць, што гэтае Заплаціна рэштка знакамітага Ціра, пакрываўшага сваімі караблямі ўсё Міжземнае мора, што гэтае Дзіравіна – рэштка Вялікай Спарты, змагаўшайся так па-геройску за гегемонію над усім сучасным ёй

культурным сьветам, што гэтая Неўражайка – рэштка найпышнейшага некалі ва ўсім свеце горада Ерусаліма?»

– Так! – дадам і я – хто мог бы паверыць гэтаму?

Але не больш можна паверыць і таму, што рэшткай магутнай Спарты Фукідыда з'яўляецца аднайменнае з ёй грэцкае Заплаціна ў Пелапанэскай цясьніне, куды цяжка нават далезьці; што рэшткай знакамітага Ціра з'яўляецца сірыйскае Дзіравіна, маючае назву Ўцёс (Сур), і што рэшткай сталіцы пышнейшего із усіх цароў, Саламона, з яго сотнямі жонак і тысячамі прыдворных, з'яўляецца палестынская Неўражайка – Эль-Кудс.

Калі мне было гадоў шэсць, я неяк пажадаў паказаць сваю магутнасць прыехаўшаму да нас са сваім бацькам такому ж як я, шасьцігадоваму хлопчыку. Выйшаўшы з ім у парк, я ўзяў яго пад пахі і падняў на паветра, а потым ён зрабіў тое ж самае са мной. Геніяльная думка прыйшла мне ў галаву.

– Паслухай-ка! – прапанаваў я яму. – Я магу падняць цябе, а ты мяне. У нас дастаткова магутнасьці. Дык паднімем жа адзін аднаго адначасова і паляцім!

Але як мы ні імкнуліся, а заўсёды выходзіла, што мы прыкладалі намаганні не адразу, а па чарзе, і ніяк не маглі зразумець нагоды гэтага, таму што яшчэ не ведалі асноўнага закону тэарэтычнай механікі – што для ўжывання магутнасьці патрэбна кропка апірышча.

У такім жа дакладна становішчы ўяўляюцца мне зараз і тыя гісторыкі старажытнага сьвету, якія яшчэ не разумеюць, што для развіцця самастойных цэнтраў культуры сярод чалавецтва, разнастайна рассеянага па паверхні зямнога шара, неабходны мясцовыя кропкі апірышча, складаючыяся із дастатковай колькасьці ўжо назапашаных тут і штогод аднаўляемых дадатковых каштоўнасцяў фізічнай працы, даючыя магчымасць у гэтых мясцовасцях хаця бы некаторай частцы насельніцтва прысьвяціць сябе выключна культурным заняткам, якімі з’яўляюцца: адміністраванне, асьвета, майстэрствы, літаратура, мастацтвы і навуковыя дасьледы.

Там, дзе геафізічныя ўмовы не давалі насельніцтву магчымасьці стварыць у сваёй краіне такі падмурак, яна не магла сама падняцца на больш высокі ўзровень, чым стан напалову дзікуна, а магла быць толькі паднята на яго насельніцтвам іншай, суседняй з ёю, мясцовасьці, назапасіўшай дастаткова дададзеных каштоўнасьцей як для сябе так і для яе.

Із майго нарыса сірыйскага ўзбярэжжа вы маглі бачыць, што ўся гэтая краіна бедная менавіта тым, што ляжыць у грунце кожнай чалавечай культуры: металамі і палівам для іх апрацоўкі, і таму яна ніколі не была ў стане самастойна выпрацаваць прылады вытворчасьці, здольныя так павялічыць у ёй прадукцыйнасць фізічнай працы, каб з'явілася магчымасць значных штогадовых зберажэнняў. Ні ў мінулым, ні зараз, ні ў будучыні яна не здольная зраўняцца ў гэтым дачыненні не толькі з Ягіптам, але нават і з Кіпрам. І мячэць Амара, што стаіць зараз быццам бы на месцы кудысьці знікшага без следу шыкоўнага храма Саламона, і ўсе сярэднявечныя будынкі, якія мы знаходзім, быццам бы, на месцы знікшых старажытных, да-хрысьціянскіх вялічэзных збудаванняў, маглі тут быць пабудаваны толькі на сродкі цэлага шэрагу заможных замежных ахвяравальнікаў і з дапамогай унёскаў шматлікіх пакаленняў заможных пілігрымаў, а не выраслі тут самі «як грыбы» (згодна з выказваннем тых, якія яшчэ не ведаюць, што нават і грыбы не растуць із нічога).

Тое ж самае можна сказаць і пра знакамітую Спарту, малалікае насельніцтва якой у сваёй невялікай Лаконскай цясьніне, на несуднаходнай горнай рачулцы Еўроце, без якіх бы то ні было мінеральных багаццяў і паліва для іх апрацоўкі, падняло само сябе, згодна з Фукідыдам, на вялікую культурную вышыню няйнакш, як схапіўшы адзін аднаго па-парна пад пахі і паляцеўшы згодна з маім дзіцячым спосабам, ваяваць за гегемонію на Міжземным моры.

Чытаючы «Гісторыю Пелапанезскай войны», я спачатку думаў, што маю справу з нейкай грандыёзнай містыфікацыяй, і толькі пазней, пасьля астранамічнага вызначэння часу чатырох пазначаных там зацьменняў мне стала зразумела, што псеўда-Фукідыд тут апісаў дастаткова рэалістычна змаганне за гегемонію лацінскага Захаду з элінскім усходам, і што пад найменнем Спарты (г. азн. па-грэцку: цуглі) у яго патрэбна мець на ўвазе Рым, а пад Афінамі – Візантыю, і што ўсю яго кнігу даводзіцца прызнаць за твор Эпохі Адраджэння ці яе пярэдадня.

Дакладна таксама і знакаміты Ганібал пры першым жа астранамічным вылічэнні атаясаміўся ў мяне з Гензерыкам, а старажытны Карфаген Цыцэрона – з вандальскім Карфагенам V стагоддзя нашай эры.

Усім гэтым і ім падобным «класічным» творам прысвечаны ў мяне, у сувязі з гісторыяй сярэднявечнага хрысьціянства, адзін із наступных тамоў, а зараз я зноў вярнуся да Палестыны.

Размалёўваць і разфарбоўваць вышэйпрыведзеную геаграфічную мапу Палестыны і прастадушна цешыцца выводзімым на ёй межам магло толькі дарослае дзіцё, і толькі дзеці могуць надаваць ім сур'ёзнае значэнне. Гэта гульня ў гістарычныя лялькі, а не сур'ёзная навука.

Але, акрамя цацачнай мапы народаў Палестыны, ёсць у нас і цацачныя летапісы быццам бы размяшчаўшыхся на гэтых лапіках зямлі «царства Юдэйскага і царства Ізраільскага», таксама ўяўна падобныя на звычайныя летапісы. Адзін із іх па-жыдоўску мае назву «ДБРІ-Е-ІМІМ», г. азн. Словы Дзенныя (ці Марскія), хаця яна так жа падобна на дзённік, як і «Гісторыя Дзяржавы Расійскай» Карамзіна, а па-грэцку за ёй пакінута назва Параліпаменан, г. азн. Згубленая Кніга, сведчачая гэтым, што яе «знайшлі» ўжо нашмат гадоў пасьля таго, як усё павядомленае ў ёй адышло ў вобласць мінулага.

Чаму змест гэтай кнігі так падобны на рэчаісную гісторыю нейкага народа маючага назву богаслаўны?

Таму што яна ўяўляе ў сваёй галоўнай частцы скарочаныя выпісы з іншай біблейскай гісторыка-алегарычнай кнігі «Кніга Цароў», аснова якой, у сваю чаргу, з'яўляецца толькі адным з варыянтаў «Рымскай гісторыі», пры чым кампілятары, імкнучыся надаць сваім выняткам із яе выгляд рэчаіснасьці, выключылі ўсё цудоўнае і неверагоднае, часта пакінуўшы толькі канву выкладаўшыхся там легендаў. Але так можна было б ператварыць у сухі летапіс і ўсе казкі із «Тысячы і адной ночы».

Вось як пачынаецца лаканічная першая глава першай часткі гэтай «згубленай кнігі» ў сучасных перакладах:

* * *

Кніга «Параліпаменон».

ГЛАВА I.

«**Адам –** Сіф, Енас, Кінан, Малелеіл, Іарэд, Енах, Мафусаіл, Ламех».

«**Ной –** Сім, Хам, Яфэт».

«**Сыны Яфэта –** Гамер, Магог, Мадай, Ян, Тубал, Моск і Тырс».

**«Сыны Хама** – Куш, Міц-Рым, Фут, Ханаан». «Куш нарадзіў таксама Німрода і ён пачаў быць моцным на зямлі.

«**Ад Міц-Рыма пайшлі** – Лудзеі, Анамеі, Легавеі, Нафтухеі, Патрусеі, Кафтарэі і Каслухеп. Адсюль жа выйшлі філістымляне (качэўнікі)».

«**Сыны Сіма –** Алім, Асур, Арфаксад, Луд, Арам, Уц, Хул, Гефер і Моск (ён жа пазначаны вышэй, Нак сын Яфэта)».

«**Ад Арфаксада нарадзіліся**: Сала, ад Салы Евер, ад Евера два: Іактан і Фалег, таму што пд час яго дзён падзялілася зямля. Фалег, Рагаф, Серуг, Нахор, Тэра, Абрам (Бацька-Рым), ён жа Аураам («бацька шматлікіх народаў»)». (І Параліпаменон 1, 1-32).

* * *

Гэта – як мы бачылі ўжо вышэй – ёсць просты канспект этнаграфіі, генеалогія народаў, якімі іх тады ўяўлялі. Але, акрамя гэтых народаў, пайшоўшых ад Адама (чалавека), тут жа прыведзены спіс і народаў, паходзячых ад Сатыра (Шэіра), казланогага чорта, не быўшага у нейкім сваяцстве з Адамам:

* * *

**«Сыны Сатыра**: Латан, Шавал, Цівеён, Ана, Дышон, Ешэр, Дэшан і дачка Цімна».

«**Сыны Латана**: Хары і Гамом».

**«Сыны Шавала**: Алаін, Манахат, Евал, Шэфі і Анон».

«**Сыны Цівеёна**: Аія і Ана».

«**Сыны Эцэра**: Білган, Заваан і Акан».

«**Сыны Дэшана**: Вуц і Аран». (Параліпаменон 1, 38-42.)

* * *

Такім чынам усе зямныя народы падзяляюцца тут на ўзнікшыя ад створанага богам, але паўшага, Чалавека, і на ўзнікшыя ад ім жа створанага, і таксама паўшага, Казланогага чорта...

За выняткам гэтай акалічнасьці, якая, дадаю, цалкам не памяншае магчымасьці гістарычнага існавання народаў, паходжанне якіх у старажытнасьці выводзілася ад чорта, абодва канспекты маюць выгляд рэальнай этнаграфіі таго часу. Задача даследніка тут палягае толькі ў тым, каб перавесьці, як гэта я і спрабаваў зрабіць вышэй (табл. XXII-XXIV), гэтыя чужыя найменні на знаёмую нам этнаграфічную мову, пры гэтым не патрэбна безвынікова зазіраць у глыбокую старажытнасць, а лепш пашукаць значэнні гэтых імёнаў на мовах сярэднявечча, блізкіх да жыдоўскай, асабліва на арабскай і цюркскай.

Вывучаючы гэтую кнігу, мы бачым вышэйпрыведзены лаканічны спіс працягнутым вельмі далёка і запаўняючым у ёй усе першыя дзевяць главаў (!).

Дзясятая глава распавядае, таксама канспектыўна, пра тое, як качэўнікі (філістымляне) забілі першага цара вышэйапісанай цацачна малюсенькай краіны – Саўла, і замест яго запанаваў Давыд, а потым скарочана перадаецца тое ж самае, што распавядаецца ў другой частцы кнігі «Сьцяг Бога» (Самуіл) і ў дзвюх частках кнігі Цары[403].

Замест выкінутых цудаў, змест гэтай «згубленай некалі кнігі» дапоўнены доўгімі спісамі вайсковых правадыроў, саноўнікаў і святароў, маючых уяўны выгляд рэчаіснасьці.

---

[403] Па-руску першая і другая частка кнігі Самуіл (Сьцяг бога) названа «І і ІІ Кніга Цароў», а першая і другая частка кнігі «Цары» названы ІІІ і IV «Кніга Цароў».

Але мы не павінны ашукваць сябе гэтым выглядам і на гэтай падставе лічыць «Згубленую Кнігу» больш годнай даверу, чым кнігі «Сьцяг Бога» і «Цары».

Вядома, легендарная творчасць мае вызначаныя законы свайго развіцця, і асноўны з іх той, што першапатковае насенне, узятае із рэчаіснасьці ці із алегорыі, пускае ад сябе парасткі і галінкі па ўсіх магчымых накірунках нескладанай фантазіі стаажытных людзей.

З гэтага боку гледжання звычайна даводзіцца лічыць больш пазняй тую варыяцыю міфа, ці легенды, якая больш складаная. Аднак, калі міф дасягнуў ужо вялікай складанасьці, і яму пачынаюць надаваць, як гэта было з біблейскімі кнігамі, сур'ёзнае значэнне, то ў вывучаючых яго наступных і больш адукаваных пакаленняў з'яўляецца адваротнае імкненне: выключыць із яго ўсё не адпавядаючае рэчаіснасьці для іхнага узроўню рзвіцця, чаму ахвотна верылі іхныя продкі. Пачынаецца выскубванне ў міфаў самых выбітных пярын і казачная Жар-птушка паступова набывае выгляд самай рэчаіснай курыцы, ці, дакладней, яе пудзіла, якое з далёку можна палічыць за сапраўдную жывую птушку, хаця яе нутро і набіта, замест костак, мязаў і нерваў – проста пакуллем.

Першую спробу такога ператварэння моцна развітога біблейскага міфа мы і бачым ў «Закінутай кнізе» (Параліпаменон), як бы заканспектаваўшую ў сабе ўсю гісторыю юдаізму, а завяршэнне гэтай рэгрэсіўнай метамарфозы знаходзім ва ўсіх сучасных старажытных гісторыях.

Каб пераканацца ў гэтым, паглядзім на якую заўгодна яе главу.

Вось я зараз адкрыў 24-ю ў другой яе частцы (не падумайце, што знарок! Не – я сапраўды зрабіў гэта выпадкова, таму што перакананы, што ўсюды знайду аналагічнае).

Тут выявілася біяграфія богаслаўнага цара Іаша, імя якога азначае «Боскае Полымя». Адшукаўшы адпаведнае месца пра яго ў апошняй кнізе іншага біблейскага псеўда-летапісу – «Цары», я параўноўваю тэксты абедзвюх, выпісваючы іх побач адзін з адным, без прапускання хаця б аднаго слова.

* * *

| | Кніга «Цары» (частка II (IV), гл. 12). | «Закінутая Кніга» (частка II, гл. 24) |
|---|---|---|
| 1 | Сямі гадоў быў «Боскае Полымя» (*Ёас*), калі запанаваў. | Сямі гадоў быў «Боскае Полымя» (*Ёас*), калі запанаваў. |
| 2 | На сёмы год «Громавывяргаючага (*Іуя па-грэцку*[404]) запанаваў ён. | *(Тут гэтага няма).* |
| 3 | І сорак гадоў валадарыў у «горадзе Сьвятога Замірэння» (*Ерусаліме*) | І сорак гадоў валадарыў у «Горадзе Сьвятога Замірэння» (*Ерусаліме*). |
| 4 | Імя ж маці яго Краса са «Скарбніцы Сямі». | Імя ж маці яго Краса, са «Скарбніцы Сямі». |
| 5 | І рабіў ён прыемнае ў вачах Грамабоя ва ўсе дні, пакуль навучаў яго сьвятар Богабачачы[405] | І рабіў ён прыемнае ў вачах Грамабоя ва ўсе дні сьвятара-Богабачучага. |
| 6 | (*Адсутнічае*). | І даў яму Багабачучы дзвюх жонак і нарадзіліся ў яго ад іх сыны і дочкі. |
| 7 | Толькі вышыні (*г. азн. каплічкі на вышынях*) не былі скасаваны: народ усё яшчэ прыносіў ахвяраванні і каджэнні на вышынях. | Пасьля гэтага прыйшло на сэрца Ёасу абнавіць боскую сядзібу. |

[404] יהוה = יהוא (IEYA=IEYE) – Будучы, існы, Йовіс-Грамабой.

[405] יהו־ידה (IEY-IДЕ)-Богавідзец.

| | | |
|---|---|---|
| | (Тут, у пункце 7-м мы бачым у быццам бы «Закінутай Кнізе» ўжо тэндэнцыйнае выпраўленне першапатковага тэксту, захаваўшагася ў кнізе «Цары».) | |
| 8 | І сказаў Ёас святарам: | Ён сабраў сьвятароў і дыяканаў (*лявітаў*) і паведаміў ім (*тут дададзены дыяканы*): |
| 9 | «Хай бяруць сьвятары сабе кожны ад свайго знаёмага, усё прысвечанае срэбра, якое прыносіцца ў сядзібу Грамабоя, і срэбра хадзячае, і срэбра ад кожнай душы згодна з ацэнкай, і ўсё срэбра, колькі каму прыходзіць на сэрца прынесьці ў сядзібу Грамабоя, і хай выпраўляюць яны пашкоджанні ў сядзібе, усюды, дзе знойдзецца пашкоджванне». | (*Тут не вельмі зразумелае выказванне Кнігі «Цары» заменена больш выразным, але цалкам у іншым сэнсе*): «Ідзіце па гарадах Краіны Богаслаўя і збірайце срэбра з усіх богазмагальнікаў (*г. азн. не з богаслаўцаў, а з богазмагальнікаў, з секты, якая трымаецца ерасі Ераваама*). |
| 10 | Але да дваццаць трэццяга года валадарання «Боскага Полымя» (*шмат жа прайшло часу*!) сьвятары не выпраўлялі пашкоджанняў у сядзібе. | (*Тут незразумела доўгі тэрмін сабатавання сьвятароў скасаваны і паведамляецца проста*): «Але не паспяшаліся дыяканы» (*тут праглядаецца намер кампілятара паменшыць правіну сьвятароў, зваліўшы яе на прызначаных у § 8 дыяканаў*). |
| 11 | Цар «Боскае Полымя» паклікаў сьвятара Баганазіральніка і іншых сьвятароў і сказаў ім: | Ён паклікаў «Баганазіральніка», іхнага кіраўніка, і сказаў яму (*слова сьвятары зноў выкінута*): |
| 12 | «Чаму вы не выпраўляеце пашкоджанняў у сядзібе?» | (*Прыведзеная ў Кнізе «Дары» пабожная заўвага тут ужо дэталёва распрацавана*:) «Чаму ты не патрабуеш ад дыяканаў (*зноў не ад сьвятароў!),* каб яны дастаўлялі ад богаслаўных і із «Горада Сьвятога Замірэння» даніну Майсея, раба Грамабоя, прызначаную сходам богазмагальнікаў для скініі Сведчання, бо бязбожная Эталія (*легендарная мачаха «Боскага Полымя», самавольна валадарыўшая 8 гадоў перад ім)* і яе сыны (*якія згодна з Кнігай «Дары» ўсе былі забіты «Грамабоем» яшчэ да яе валадавання!)* спустошылі сядзібу Боскую, і ўсё святое для сядзібы Грамабоя выкарысталі для «Валадароў». |
| 13 | «Не бярыце ж ад гэтага часу самім сабе срэбра ў сваіх знаёмых, а аддавайце яго на выпраўленне пашкоджанняў у сядзібе». | (*Гэтая заўвага, магучая навесьці на думку пра карысталюбства сьвятарства, цалакам выкінута).* |
| 14 | І пагадзіліся сьвятары не браць срэбра ў народа і не выпраўляць пашкоджанняў у сядзібе *(??).* | (*І гэтая фраза цалкам выкінута, як недарэчная.)* |
| 15 | І ўзяў сьвятар Баганазіральнік адну скрыню, зрабіў адтуліну ў яе дзьверцах і паставіў яе побач з ахвярнікам па правую руку ад уваходу ў сядзібу Грамабоя. (*У «Згубленай (быццам бы) Кнізе» гэтая пабожная справа зноў* | І загадаў цар і зрабілі адну скрыню і паставілі яе каля ўваходу ў сядзібу Грамабоя звонку *(рэдактар палічыў непрыстойным размяшчаць скрыню для збірання ў самым храме*). І абвясьціў па краіне богаслаўных і ў «Горадзе Сьвятога |

| | | |
|---|---|---|
| | *распрацавана дэталёва.)* | Замірэння», каб прыносілі даніну, прызначаную служкай бога, Збаўцам (*Майсеем*) на богазмагальнікаў (*г. азн. на ерэтычную секту з боку гледжання богаслаўных юдаістаў*) у пустыні. |
| 16 | І клалі туды сьвятары, стаячыя на варце каля парога, усё срэбра, што прыносіцца ў сядзібу Грамабоя. | І ўзрадаваліся ўсе кіраўнікі і ўвесь народ і прыносілі і клалі ў скрыню для таго, каб яна напоўнілася. |
| 17 | І калі бачылі, што срэбра ўжо шмат у скрыні, тады прыходзіў царскі пісар і першасьвятар, яны пералічвалі і завязвалі срэбра знойдзенае ў сядзібе Грамабоя. | І было ў той час, калі прыносілі скрыню ў царскую палату, праз дыяканаў (*а ужо не пісара)* і калі бачылі, што срэбра шмат, прыходзіў царскі пісар і паверaны першасьвятара, апаражнялі скрыню і адносілі яе і ставілі на сваё месца. Так рабілі яны дзень пры дні і сабралі шмат срэбра. |
| 18 | І аддавалі срэбра, палічанае, у рукі працаўнікоў, прыстаўленым да сядзібы Грамабоя. | І аддавалі яго цар і Боганазіральнік» працаўнікам, адносіўшыхся да сядзібы Грамабоя. |
| 19 | А гэтыя выдаткавалі яго на цесляроў і будаўнікоў, працаваўшых у сядзібе Грамабоя, на каменячосаў і на куплю дрэва і часаных камянёў для выпраўлення пашкоджанняў у Сядзібе Госпада. | І яны наймалі цесляроў і каменячосаў для выпраўлення сядзібы Грамабоя, а таксама на кавалёў і меднікаў для ўмацавання сядзібы. |

* * *

Я не буду працягваць далей гэтае супастаўленне абедзвюх параўноўваемых кніг.

І таго, што я тут прывёў, цалкам дастаткова, каб кожны, у каго ёсць хаця б пачатковыя разуменні пра літаратурную творчасць і пра шматлікасць чалавечых выказванняў для апісвання тых жа самых падзей, заўважыў тут увесь псіхалагічны працэс складання другой калонкі па падставе першай, г. азн. кампілявання біблейскай «Згубленай (быццам бы) кнігі» (Параліпаменон) на грунце кніг «Цары».

Не ведаю, як табе, чытач, але мне гэты працэс уяўляецца тут, як быццам маўклівая выява на імгненным фатаграфічным здымку пры блісканні магнію, які на адно імгненне асвятляе непраглядную цемру.

Вось сядзіць аўтар «Ілжэ-згубленай кнігі», верагодна грамацей-візантыец, у адзіноце сваёй сярэднявечнай келлі. Налева перад ім (як у левай калонцы майго супастаўлення) ляжыць разгорнутая на 12-й главе кніга «Цары», у якой пасьлядоўнае паведамленне пра кожнага «цара богаслаўных» (юдэйскіх) заканчваецца выказваннем: «А іншыя справы яго апісаны ў «Летапісе цароў багаслоўных» (юдэйскіх), а апавяданне пра кожнага цара Богазмагальніцкаў (ізраільскіх) заўсёды заканчваецца словамі: «А іншыя яго справы апісаны ў «Летапісах цароў ізраільскіх».

Але пазначаных летапісаў нідзе няма і ніхто пра іх не памятае, і вось ён мае намер аднавіць адну із іх, збольшага шчыры, а збольшага з дамешкай да яго славалюбівага пачуцця: напісаць такі твор, які ўсе будучыя пакаленні будуць чытаць з глыбокай павагай, як сапраўдны старажытны летапіс.

Але ён не абмяжоўваецца простым перапісваннем, а выкідае ўсе тыя радкі кнігі «Цары», якія яму не падабаюцца ці здаюцца проста непатрэбнымі, выпраўляе

склад і дадае прыходзячыя яму ў галаву тлумачэнні і мяркаванні. Не будучы ў стане трымаць у сваёй, яшчэ недастаткова звыклай з пісаннем галаве цэлую старонку, каб потым перадаць яе змест сваімі славамі, ён асобна перапрацоўвае кожнае выказванне. Пасьля кожнага выказвання, а нярэдкае і на яго палове, ён пераносіць погляд на спісваемую ім частку кнігі «Цары», паглядзець, што там напісана далей. Яго старанная праца пасоўваецца павольна наперад, не больш, як па адной ці, у крайнім выпадку, па дзьве старонкі за суткі. Больш ён яшчэ не ў стане зрабіць дзякуючы павольнасьці свайго пісання і хуткай стамляемасьці яшчэ не вельмі натраніраваных разумовых здольнасьцей, як бывае ў такіх выпадках і ў сучасных, мала чытаючых людзей.

Але вось, праз дзясятак гадоў жыцця – а магчыма нават і праз два ці тры дзясяткі – праца (якую сучасны кампілятар з сярэдняй адукацыяй зрабіў бы лёгка на працягу тыдня) скончана, і ён адважваецца вынесьці яе на адзін із сусьветных ці іншых сабораў, да якога, магчыма, адмыслова яе і рыхтаваў. Ён выдае яе за сапраўдны летапіс цароў юдэйскіх, быццам бы дастаўшыся яму ад яго продкаў – «прыдворных летапісцаў» – якія некалі пісалі яго ўласнымі рукамі «ў Ерусаліме» і перадавалі яго па спадчыне ў яго родзе адзін аднаму, ад пакалення да пакалення, ад першынца да першынца, захоўваючы гэтыя запісы ў глыбокай таямніцы ад усіх астатніх людзей.

Сябры сабора перадаюць рукапіс для разглядання і даследавання найбольш мудрым сваім-старцам, нярэдка ўжо напаловуаслепшым, і, ва ўсякім разе, не маючым ніякага ўяўлення ні пра палеаграфію (узнікшую толькі ў XIX стагоддзі), ні пра разнастайнасць чалавечага выказвання і яго выразаў, не дазваляючых чалавеку пасьлядоўна карыстацца тымі ж самыя выказваннямі пры самастойным апісанні аднай і тай жа падзеі. Яны яшчэ не ведаюць, што жыццё заўсёды ў сотні разоў больш складанае і разнастайнае чым кожнае яго апісанне, а таму і робіць цалкам немагчымым з'яўленне пра сябе дзвюх незалежных, але аднолькавых літаратурных канструкцый. Яны глядзяць на рукапіс, «паглажваючы свае барады», перачытваюць услых (без выкарыстання яшчэ адсутных знакаў прыпынку) яе старонкі і, пераканаўшыся, што ў іх няма нічога ерэтычнага, вяртаюцца на сабор, і старэйшы з іх паведамляе тонам спакойнага, не дапускаючага пярэчанняў аўтарытэта:

– «Так! Знойдзены праўдзівы летапіс цароў юдэйскіх», пра які паведамляецца ў кнізе «Цары».

Шаноўны сход шчыра радуецца важнай знаходцы; перадаўшы рукапіс набывае выключныя ўшанаванні, і калі сярод яго знаёмых, бачыўшых не раз яго пісьмовую працу, і застаецца ў глыбіні душы скептыцызм, то як яны адважацца аспрэчыць пастанову самога САБОРА, калі «яго вялікія аўтарытэты» і «глыбокія знаўцы пісьмовага майстэрства» прызналі гэтую кнігу за сапраўдны прыдворны згублены летапіс? І вось кніга «кананізуецца». Сам аўтар пачынае верыць, што ён зрабіў не плагіят, а нейкім дзівам аднавіў, слова ў слова, старажытны арыгінал. Калі ўпершыню была зроблена гэтая падробка, як мне здаецца, не па-жыдоўску, а па-грэцку, то ўяўляемая знаходка хутка пашыраецца і на юдэйскія колы, і адзін із жыдоўскіх «кніжнікаў», зрабіўшы падрадковы пераклад з параўнаннем жыдоўскага тэкста «Цароў», падобным жа чынам «знаходзіць» і жыдоўскі арыгінал.

Такім мне ўяўляецца ўзнікненне «Згубленай кнігі» пры чыста псіхалагічнай распрацоўцы зробленага тут падрадковага супастаўлення. Я, вядома, не настойваю на безумоўнай паўдзівасьці кожнай дэталі ў намаляванай мной выяве, для мяне тут

важна паказаць толькі адно: Кніга Параліпаменон ці Псеўда-летапіс цароў юдэйскіх з'яўляецца плагіятнай падробкай, зробленай па грунце біблейскай Кнігі «Цароў». Тэндэнцыйны характар шматлікіх дадаткаў і паправак відавочна сведчыць, што не «Цары» спісваліся з «Параліпаменона», а менавіта «Параліпаменон» з «Цароў», але гэта было вельмі даўно, і таму «Параліпаменон» у шмат якіх месцах замацаваў першапатковы тэкст і самай кнігі «Цары». Так, напрыклад, у ім ужыта найменне Дар-Мешк замест Дамаска.

Ніякага гістарычнага значэння, у сэнсе першакрыніцы, гэтая кніга не мае, нягледзячы на яе сухасць і знешні выгляд гістарычнасьці.

Не нашмат больш гістарычнай з'яўляецца і служыўшая для яе першакрыніцай біблейская кніга «Цары» і кніга «Самуіл», бо яны абедзьве перапоўнены неверагоднымі апавяданнямі.

Перадусім, возьмем хаця б іхную арыфметыку.

Першыя тры цары богазмагальнікаў згодна з Бібліяй – Савул, Давыд і Саламон – у перакладзе азначаюць: Пекла, Шанаванне і Замірэнне. Першы валадарыў 40 гадоў, другі таксама 40 і трэцці таксама 40. Атрымліваецца роўнабаковы геаметрычны трохкутнік, не хапае толькі ўсёбачучага вока пасярэдзіне яго.

Як можна лічыць за рэчаісную гісторыю, пабудаваную на такой фантастычнай схеме?

З такім жа правам можна і ягіпецкія піраміды лічыць не вынікам сьвядомага чалавечага майстэрства і працы, а за выпадкова нанесеныя плаваючымі крыгамі лёду кучы камянёў.

У атачаючым нас сусьвеце існуюць два роды творчасьці: творчасць згодна з вызначаным планам, характэрызуючаяся гармоніяй сваіх частак, і творчасць без вызначанага плана, характарызуючаяся дісгарманічным спалучэннем дэталей. Згодна з першым спосабам дзейнічае чалавечы розум, ствараючы свае філасофскія схемы; дзейнічаюць малекулы хімічных рэчываў, ствараючы крышталі; магутнасць прыцягнення, ствараючая сусьветы, магутнасць арганічнага жыцця, выпрацоўваючая сіметрычныя целы жывёл і расьлін. А згодна з другім родам дзейнічаюць шматстайныя ўплывы ўсяго бясконцага сусьвету, маючы з нагоды самай сваёй безлічы характар выпадковасьці і перадаючыя асобным часткам створаных імі прадуктаў псеўда-ірацыянальныя дачыненні, як у дачыненні да велічыні, так і ў дачыненні да ўзаемнага размяркавання.

Толькі што паказаны тут трохкутнік магутных багазмагальніцкіх цароў мае вельмі выразныя прыкметы сьвядомай творчасьці чалавечага розуму для таго, каб не аднесьці яго ў вобласць бясконца складаных уплываў атачаючага нас стыхійнага сьвету і шматстайных фактараў рэчаіснага чалавечага жыцця.

Гэтыя лічбы ствараў чалавек, а не прырода. Гэта не падзеі рэальнага жыцця, а толькі абрысы чароўнай казкі, абраўшай месцам свайго здзяйснення непрыдатную для яго згодна з геафізічнымі ўмовамі Палестыну, а часам – непрыдтнае для яго згодна з эвалюцыйнымі меркаваннямі другое і першае тысячагоддзі да пачатку нашай эры, калі ў Палестыне яшчэ жылі пячорныя людзі каменнага веку.

# Дадаткі

Сузор'і неба і шлях па іх камет 1664-1665 гг. Згодна з тагачаснымі ўяўленнямі.




ТАБЛІЦА XV.
Спробы астралізацыі дванаццаці месіянскіх народнасьцей. Дванаццаць біблейскіх пералікаў дванаццаці сыноў Багазмагальніка.

Першыя 11 пералікаў тут прыраўнаваны адзін да аднаго адносна «першынца» Раўвіна, сімвалам якога палічаны найбольш старажытны «першынец» Задыяка – Цяля. З яго пачынаюцца I-V, VII і VIII пералікі. Гэта, верагодна, злічэнне Арыя-Арона, які прымусіў на Бібліі ўшаноўваць Цяля. Аўтар Апакаліпсіса адступіў ад яго, пачаўшы злічэнне ад Авена і перасяліў туды Юдэя (Багаслаўнага), як бачна із IV слупка (а Лявіта выправіў у Скарпіёна, вельмі пераставіўшы згодна са сваім новым густам і астатніх дзяцей Багазмагальніка). Яшчэ больш дапасаваў іх да нашага сучаснага пачатку года аўтар 48 главы прароцтва Іезекііл, пачаўшы злічэнне з Дана (Суддзіі, якога падвёў пад сучаснае становішча раўнадзенства ў сузор'і Рыб (XII). Авена ён падвёў пад Праведыра (Ашура), Двайнят пад Аф-Рыма і Манашэ, адзіных сыноў Ёсіфа, замяніўшых яго ў гэтым пераліку. Празарліўца сына (Раувіна) памясьціў у Яслі сузор'я Рака, у якіх нарадзіўся «Хрыстос»; Юдэя памясьціў у Ільва, згодна з яго характарыстыкай у дабраславенні Багазмагальніка. А Ішакара, Завулона і Гада ён быў вымушаны памясьціць як патрапіць ў астатнія тры сузор'і, не маючы іншага выбару.

Толькі згуртаванні IX, X і XI цалкам тоесныя адо з адным і адрозніваюцца ад астатніх тым, што пачынаюць злічэнне года вывадам сузор'я Вадаліва на ранішнім світанку падчас вясновага раўнадзенства, тады як аўтар Апакаліпсіса пазначае гэты ж момант апусканнем Авена ў полымя вечаровага зарыва, а астатнія – бачнасьцю заходу Цяляці пасьля згасання вечаровага зарыва.

| | I. Згодна з упрадкаваннем дабраславення Богазмагальніка (Быццё, 40,3-27.) | II. Згодна з упрадкаваннем дабраславення Ратавальніка (Майсея) (Другазак. 32) | III. Згодна з упарадкаваннем брамаў у горадзе "Тут Грамбой". (Іезек., 49,30-34) | IV. Згодна з упарадкаваннем нараджэння на сьвет. (Быццё, 30) | V. Згодна з упарадкаваннем назірання зямлі Абетаванай (неба) (Лічбы, 13) | VI. Згодна з упарадкаваннем адлюстраваня (Апакаліпсіс гл. 5 і 7) |
|---|---|---|---|---|---|---|

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Рыбы | | | | | | |
| Авен (раней Кіт) | | | | | | 1. Іудэй (Багаслаўны |
| Цяля | 1. Раувін (Празарлівец сына). | 1. Раувін (Празарлівец сына). | 1. Раувін (Празарлівец сына). | 1. Раувін (Празарлівец сына). | 1. Раувін (Празарлівец сына). | 2. Раувін (Празарлівец сына). |
| Двайняты | 2. Ахім Шмеун (Браты Пачутага). | 2. (*Прапушчаны Шмеон*). | 2. Юдэй (Багаслаўны). | 2. Шмеун (Пачуты). | 2. Шмеун (Пачуты) | 3. Гад (Пабожны). |
| Рак ці Яслі | 3. Лявіт (Дыякан). | 3. Юдэй (Багаслаўны). | 3. Лявіт (Дыякан). | 3. Лявіт (Дыякан). | 3. Юдэй (Багаслаўны). | 4. Ашур (Вождь). |
| Леў | 4. Юда (Багаслаўны). | 4. Лявіт (Дыякан). | 4. Ёсіф (Кратар Грамабоя). | 3. Юдэй (Багаслаўны). | 4. Ішакар (Выратавальная Узнагарода). | 5. Нафтлі (Змагар). |
| Панна і Валапас | 5. Завулон (Кола аднаверцаў). | 5. Бен-Імін (Сын праўдзівасьці). | 5. Бен-Імін (Сын праўдзівасьці). | 5. Дан (Судыя. | 5. Аф-Рім (Вышыня Рыма наўзамен Лявіта). | 6. Манашэ (Ссунуты наўзамен Дана Судыі) |
| Шалі | 4. Ішакар (Выратавальная Узнагарода). | 6. Ёсіф (Кратар Грамабоя). | 6. Дан (Судыя). | 6. Нафтлі (Змагар). | 6. Бен-Імін (Сын праўдзівасьці). | 7. Шмеун (Пачуты). |
| Скарпіён і Змеятрым. | 7. Дан (Судыя). | 7. Завулон (Кола Адзінаверцаў). | 7. Шмеун (Пачуты). | 7. Гад (Пабожны). | 7. Завулон (Кола Адзінаверцаў). | 8. Лявіт (Дыякан). |
| Стралок | 8. Гад (Асалода). | 8. Ішакар (Выратавальная Узнагарода). | 8. Ішакар (Выратавальная Узнагарода). | 8. Ашур (Правадыр). | 8. Ёсіф (Кратар Грамабоя). | 9. Ішакар (Выратавальная Узнагарода). |
| Казярог | 9. Ашур (Правадыр). | 9. Гад (Пабожны). | 9. Завулон (Кола Адзінаверцаў). | 9. Ішакар (Выратавальная Узнагарода). | 9. Дан (Судыя). | 10. Завулон (Кола Адзінаверцаў). |
| Вадаліў | 10. Нафтлі (Змагар). | 10. Дан (Судыя). | 10. Гад (Пабожны). | 10. Завулон (Кола Адзінаверцаў). | 10. Ашур (Правадыр). | 11. Ёсіф (Кратар Грамабоя). |
| Пегас і Рыбы | 11. Ёсіф (Кратар Грамабоя). | 11. Нафтлі (Змагар). | 11. Ашур (Правадыр). | 11'. Дачка Дана (Судная) 11''. Ёсіф (Кратар Грамабоя). | 11. Нафтлі (Змагар). | 12. Бен-Імін (Сын праўдзівасьці). |
| Кіт і Авен | 12. Бен-Оні (Сын-Сьмерці) потым Бен-Імін (у Панне) | 12. Ашур (Правадыр). | 12. Нафтлі (Змагар). | 12. Бен-Оні ((Сын-Сьмерці) потым Бен-Імінам. | 12. Гад (Пабожны). | |
| | I. | II. | III. | IV. | V. | VI. |
| | І згуртаванне, где прысутнічае Ёсіф (Кратар Грамабоя). | | | | | |
| | | | | | Замест Лявіта ў Панне Аф-Рым. | Замест Дана ў Панне Манашэ. |

| | VII. Згодна з упрадкаваннем прызначэння падстаўнікоў пры пераліку (Лічбы, 1, 3-10) | VIII. Згодна з упрадкаваннем другога пераліку богазмагальнікаў (Лічбы, 96, 13) | IX. Згодна з упарадкаваннем шэсьця па Сінайскаму стэпу, пачынаючы ад з'яўлення Вадаліва із-за сонца (Лічбы, 10, 26) | X. Згодна з упарадкаваннем ахвяраванняў (Лічбы, 7) | XI. Згодна з упарадкаваннем станаў на зямл і на небе (Лічбы, 9.) | XII. Упарадкаванне новага размяшчэння (Іезекііл. 48, 1-23) |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Рыбы | | | | | | 1. Дан (Суддзя). |
| Авен | | | | | | 2. Ашур |

| | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| (раней Кіт) | | | | | | | (Правадыр). |
| Цяля | 1. Раувін (Празарлівец сына). | 1. Раувін (Празарлівец сына). | 4. Раувін (Празарлівец сына). | 1. Раувін (Празарлівец сына). | 1. Раувін (Празарлівец сына). | Паўднёвы бок | 3. Нафтлі (Змагар). |
| Двайняты | 2. Шмеун (Пачуты). | 2. Шмеун (Пачуты). | 5. Шмеун (Пачуты). | 5. Шмеун (Пачуты). | 5. Шмеувія (Гаджас і Іемень у Аравіі). | | 4. Аф-Рым (Вышыня Рыма). Манашэ (Ссунуты). |
| Ракі Ясьлі | 3. Юдэй (Багаслаўны). | 3. Гад (Пабожны). | 6. Гад (Пабожны). | 6. Гад (Пабожны). | 6. Гадыя (Маўрытанія). | | 5. Раўвін (Празарлівец сына). |
| Леў | 4. Ішакар (Выратавальная Узнагарода). | 4. Юдэй (Багаслаўны). | 7. Аф-Рым (Вышыня Рыма). | 7. Аф- Рым (Вышыня Рыма). | 7. Аф-Рымія (Італія). | Заходні бок | 6. Юдэй (Багаслаўны). |
| Панна і Валапас | 5. Завулон (Кола Адзінаверцаў). | 8. Манашэ (Ссунуты). | 8. Манашэ (Ссунуты). | 8. Манашэ (Ссунуты). | 8. Манашыя (Ламбардыя). | | 7. Сьвятары Цадэка (г. азн. сьвятога) замест адпаўшых лявітаў |
| Шалі | 6. Аф-Рым (Вышыня Рыма). | 6. Завулон (Кола Адзінаверцаў). | 9. Бен-Імін (Сын праўдзівасьці). | 9. Бен-Імін (Сын праўдівасьцыі). | 9. Бен-Імінія (Сіцілія). | | 8. Бен-Імін (Сын праўдзівасьці). |
| Скарпіён і Змеятрым. | 7. Манашэ (Ссунуты). | 7. Манашэ (Ссунуты). | 10. Дан (Судыя). | 10. Дан (Судыя). | 10. Даная (Дунайская Славакія). | Паўночны бок | 9. Шмеун (Пачуты). |
| Стралок | 8. Бен-Імін (Сын праўдзівасьці). | 8. Аф-Рым (Вышыня Рыма). | 11. Ашур (Правадыр). | 11. Ашур (Правадыр). | 11. Ашурыя (Германія). | | 10. Ішакар (Выратавальная Узнагарода). |
| Казярог | 9. Дан (Судыя). | 9. Бен-Оні (Сын-Сьмерці) потым Бен-Імін. (у Шалях) | 12. Нафтлі (Змагар). | 12. Нафтлі (Змагар). | 12. Нафтлія (Францыя). | | 11. Завулон (Кола Адзінаверцаў). |
| Вадаліў | 10. Ашур (Правадыр). | 10. Дан (Судыя). | 1. Юдэй (Багаслаўны). | 1. Юдэй (Багаслаўны). | 1. Юдэя (Сірыя). | Усходні бок | 12. Гад (Пабожны). |
| Пегас і Рыбы | 11. Гад (Пабожны). | 11. Ашур (Правадыр). | 2. Ішакар (Выратавальная Узнагарода). | 2. Ішакар (Выратавальная Узнагарода). | 2. Ішакарыя (Малая Азія). | | |
| Кіт і Авен | 12. Нафтлі (Змагар). | 12. Нафтлі (Змагар). | 3. Завулон (Кола Адзінаверцаў). | 3. Завулон (Кола Адзінаверцаў). | 3. Завулонія (Грэцыя). | | |
| | VII. | VIII. | IX. | X. | XI. | | XII. |
| | II згуртаванне, дзе Ёсіф заменены Манашэ, а Лявіт – Аф-Рымам. | | | | | | Лявіт у Панне заменены Сьвятаром, Ёсіф жа раздваіўся на Манашэ і Аф-Рыма ў Двайнятах. |